


**ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ
«МІЖНАРОДНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСІСТАЎ»**




**ФІЛАЛАГІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ
БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ЎНІВЕРСІТЭТА**




**ПОЛЬСКІ ІНСТЫТУТ
У МІНСКУ**

**БЕЛАРУСІКА
ALBARUTHENICA
37**

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ
## МОЎНЫЯ, ЛІТАРАТУРНЫЯ, ГІСТАРЫЧНЫЯ І КУЛЬТУРНЫЯ
# СУВЯЗІ

Зборнік артыкулаў

МІНСК, БДУ, 2016

# ПРАДМОВА

Зборнік артыкулаў, якія ўвайшлі ў чарговы, 37-ы выпуск навуковага альманаха «Беларусіка = Albaruthenika», склалі матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі», праведзенай Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў у гонар прафесара Эльжбеты Смулковай 23–24 чэрвеня 2016 г. на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Падчас канферэнцыі традыцыйна былі заслуханыя і абмеркаваныя даклады па актуальных пытаннях беларуска-польскіх узаемадачыненняў у галіне мовы, літаратуры, гісторыі і культуры, а таксама адбыўся круглы стол «Беларусістыка і дыпламатыя: чыннасць у справе збліжэння народаў», прысвечаны ўганараванню юбілею слыннага вучонага-беларусіста, аднаго з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і першага амбасадара Польшчы ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь (1991–1995) пані прафесара Эльжбеты Смулковай.

Знамянальнасць гэтай навуковай канферэнцыі была яшчэ і ў тым, што яе правядзеннем адзначалася таксама 25-годдзе з часу заснавання ў маі 1991 г. навуковага грамадскага таварыства «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў». Юбілейная канферэнцыя сталася сведчаннем развіцця плённых і выніковых навуковых стасункаў у галіне гуманітарных дысцыплін — і перадусім беларусістыкі — паміж польскімі і беларускімі даследчыкамі з розных навуковых і адукацыйных устаноў Беларусі і Польшчы, сведчаннем супрацоўніцтва, узаемнага інтарэсу, спрыяльнасці ў стварэнні прывабнага іміджу нашых краін і народаў у вачох адзін аднаго і ў міжнароднай супольнасці.

Важнай падзеяй падчас канферэнцыі стала ўрачыстая прэзентацыя дакументальнай кнігі вядомага пісьменніка і журналіста Валера Каліноўскага «Пані Эльжбета: гісторыя адной прыязьні», якая выйшла з друку акурат да юбілею шаноўнай пані прафесара. Прэзентацыя і круглы стол, на якім выступілі вядомыя навукоўцы і грамадскія дзеячы, адбылася ў філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь «Дом Ваньковічаў: Культура і мастацтва першай паловы XIX ст.» у Мінску. У сувязі з юбілейнай урачыстасцю на адкрыцці канферэнцыі выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь спадар Конрад Паўлік.

Хочацца прывесці тут красамоўную цытату з прэзентаванай на канферэнцыі кнігі В. Каліноўскага «Пані Эльжбета: Гісторыя адной прыязьні», якая найлепш сведчыць пра самаадданую дзейнасць прафесара і амбасадара Эльжбеты Смулковай дзеля развіцця беларусістыкі: «Хацела б падкрэсліць, што сярод дыпламатаў я займаю асаблівае становішча — калі перастану быць амбасадарам РП у Беларусі, буду амбасадарам беларускай праблематыкі ў Польшчы, паколькі вярнуся да сваёй навуковай спецыялізацыі беларусіста, прафесара Варшаўскага ўніверсітэта…» Так насамрэч і сталася: пані прафесар — нястомны «амбасадар беларусістыкі», яна выгадавала

некалькі пакаленняў прафесійных беларусістаў у Польшчы і нястомна будуе мост любові і ўзаемаразумення паміж нашымі народамі і краінамі, а значыць, і цяпер выконвае сваю высокую пасольскую місію. Менавіта пра гэта дакументальная кніга Валера Каліноўскага, і будзе тут дарэчы згадаць, што ў тым ліку за гэтую кнігу ён быў узнагароджаны ганаровым знакам Міністэрства замежных спраў Польшчы — «Bene merito» («Варты ўзнагароды»). Цырымонія ўзнагароджання прайшла 17 лістапада 2016 г. у Мінску, такі ж ганаровы знак заслужана атрымаў і вядомы вучоны, заснавальнік Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і яе шматгадовы першы старшыня Адам Мальдзіс. Мы віншуем з высокай узнагародай абодвух нашых сяброў і калег!

Разам са шчырымі віншаваннямі і цёплымі пажаданнямі пані прафесару, якая не змагла прысутнічаць на ўрачыстасці, але прыслала прывітальны ліст да ўдзельнікаў канферэнцыі, ёй былі перададзены Ганаровы дыплом Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, падпісаны старшынёй асацыяцыі А. А. Сушам, і віншавальны адрас ад студэнтаў і выкладчыкаў БДУ, падпісаны рэктарам універсітэта акадэмікам С. У. Абламейкам. Гэтыя знакі пашаны і ўганаравання былі ўручаныя пані прафесару праз некалькі дзён, ужо ў Польшчы, на ўрачыстым пасяджэнні ў гонар яе юбілею, якое адбылося 27 чэрвеня 2016 г. у Бальнай зале палаца Тышкевічаў–Патоцкіх у Варшаве.

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў выказвае шчырую ўдзячнасць пані прафесару Эльжбеце Смулковай за яе руплівую працу ў галіне беларусістыкі і зычыць добрага здароўя, каб шчодрыўся-святліўся ды множыўся далей плён Вашай дзейнасці!

Выказваем удзячнасць філалагічнаму факультэту БДУ, асабіста яго дэкану прафесару Івану Сямёнавічу Роўду за падтрымку і спрыянне ў дзейнасці Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, у правядзенні нашых навуковых мерапрыемстваў. Дзякуем кіраўніцтву Польскага Інстытута ў Мінску, пры дзейснай падтрымцы якога адбываюцца нашы навуковыя форумы і ажыццяўляюцца выданні. Наша ўдзячнасць таксама кіраўніцтву Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — за прадстаўленую магчымасць правесці прэзентацыю і круглы стол у філіяле музея «Дом Ваньковічаў», інтэр'ер якога і гасціннасць супрацоўнікаў спрыялі цёплай атмасферы, узнёсласці духу і шчыраму абмену думкамі.

Варта згадаць, што плённым працягам дзейнасці Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў у галіне развіцця польска-беларускіх культурных узаемадачыненняў быў праведзены сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь і Польскім Інстытутам у Мінску ў кастрычніку 2016 г. цыкл урачыстых мерапрыемстваў пад назвай «Вялікія рамантыкі Радзімы», прысвечаны ўшанаванню 220-годдзя з дня нараджэння славутых ураджэнцаў Беларусі, вядомых філаматаў Яна Чачота і Тамаша Зана. 14 кастрычніка адбылася ўрачыстая вечарына ў філіяле музея «Дом Ваньковічаў» з удзелам ансамбля салістаў «Вытокі» пад кіраўніцтвам Аляксея Фралова, пісьменнікаў і навукоўцаў; а 15 кастрычніка — літаратурна-асветніцкая вандроўка ў былое мястэчка Смаляны (цяпер гэта аграгарадок у Аршанскім р-не) да месца

пахавання Тамаша Зана. Тут, на даўнім каталіцкім могільніку каля былога велічнага дамініканскага касцёла і кляштара (цяпер амаль руіны), знаходзяцца магілы самога слыннага філамата, яго жонкі Брыгіты і двух сыноў: металічныя крыжы на надмагільных камянёх былі рупліва адноўленыя, а самі магілы адшуканыя і ўпарадкаваныя менавіта падчас пасольскай місіі пані прафесара Эльжбеты Смулковай. У знак памяці на магілы Т. Зана і яго жонкі ад Польскай амбасады ў Беларусі Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Конрадам Паўлікам быў ускладзены вянок; там жа каля магілаў за памерлых памаліўся ксёндз Аршанскага дэканата Аляксандр Жарнасек MIC; пазней у актавай зале Смалянскага аграрнага каледжа адбылася навукова-мастацкая вечарына з удзелам навукоўцаў і артыстаў з Мінска, прысвечаная памяці абодвух слынных філаматаў.

У такой дзейнасці нам бачыцца знакавая повязь часоў, выніковасць захадаў у клопаце па захаванні памяці пра супольнае мінулае беларусаў і палякаў, а таксама спадзяванне на ўзаемнасць і далейшае плённае супрацоўніцтва ў культурнай, асветніцкай, навуковай галінах дзеля дабра і годнай будучыні нашых краін і народаў.

*Ірына Багдановіч,*
*старшыня Рэспубліканскага аддзялення*
*Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў*

# «БЕЛАРУСІСТЫКА І ДЫПЛАМАТЫЯ: ЧЫННАСЦЬ У СПРАВЕ ЗБЛІЖЭННЯ НАРОДАЎ»

## КРУГЛЫ СТОЛ У ГОНАР ЮБІЛЕЮ ПАНІ ПРАФЕСАРА ЭЛЬЖБЕТЫ СМУЛКОВАЙ

### ЛІСТ ПРАФЕСАРА ЭЛЬЖБЕТЫ СМУЛКОВАЙ

Шаноўныя прысутныя на Міжнароднай канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя і гістарычна-культурныя сувязі»: шаноўны спадар рэктар БДУ, спадар Амбасадар Рэспублікі Польшчы, спадар дэкан філалагічнага факультэта, спадар дырэктар Польскага Інстытута ў Менску, спадар старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, шаноўныя арганізатары, дакладчыкі і дыскутанты гэтай канферэнцыі, а таксама дарагі аўтар кнігі «Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні», прэзентацыя якой мае адбыцца ў межах сённяшняй урачыстасці, для мяне вялікі гонар і мне ажно няёмка, што юбілейная цыклічная міжнародная канферэнцыя, у большасці



папярэдніх збораў якой я ўдзельнічала, прысвечаная майму імю. Шкадую, што гэтым разам, праз тое, што знаходжуся на пасляаперацыйнай рэабілітацыі, не магу быць разам з вамі. Таму гэтым лістом зычу ўсім вам цікавых дыскусіяў і сяброўскіх сустрэчаў, а аўтару, спадару Валеру Каліноўскаму, дзякую за цікава напісаную кнігу, якая дзякуючы ягонай пісьменніцкай упартасці і працы інфармацыйна выходзіць далёка за рамкі жанру «інтэрв'ю-партрэта», на якім яна абапіраецца. Я сама даведалася з кнігі шмат новага пра некаторыя абставіны, звязаныя з маёй уласнай біяграфіяй, да прыкладу, што ўжо расце тайга на месцы сібірскай вёскі Усць-Сільга на беразе Васюгана, куды нас з мамай і сястрой ссадзілі з баржы ў 1941 годзе.

Удзельнікам круглага стала дзякую за намаганні заглыбіцца ў праблемы, якімі я самааддана займалася і якімі пэўным чынам жыву і надалей.

Мой паклон усім прысутным і асабліва цёплае прывітанне тым з вас, з кім мы знаёмыя асабіста. Можа, у наступным годзе на канферэнцыі, якая, пэўна, будзе арганізаваная ў Польшчы, нам удасца яшчэ сустрэцца.

*Эльжбета Смулкова*

## ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА НАДЗВЫЧАЙНГА І ПАЎНАМОЦНАГА ПАСЛА РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ СПАДАРА КОНРАДА ПАЎЛІКА

Паважаны спадар рэктар, паважаныя прафесары, выкладчыкі, студэнты, шаноўныя госці!

Гэта сапраўдны гонар для мяне быць сёння з вамі на адкрыцці канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя і гісторыка-культурныя сувязі». Іх так шмат і яны такія багатыя, што на такім мерапрыемстве не можа не прысутнічаць польскі пасол.

Я рады, што гэтая форма навуковага супрацоўніцтва існуе ўжо 25 гадоў, але асабліва я рады, што сёння мы абмяркоўваем біяграфію і дасягненні прафесара Эльжбеты Смулковай, выбітнага філолага, знаўцу беларускай мовы і беларускіх пытанняў, а таксама першага амбасадара Рэспублікі Польшча ў Беларусі. Прафесар Смулкова адзначае сваё 85-годдзе, і мяне не здзіўляе, што пачынаецца гэта святкаванне ў Мінску, бо з Беларуссю звязана велізарная частка навуковай і прафесійнай кар'еры Эльжбеты Смулковай. Для мяне гонар, што пасля амаль 25 гадоў з моманту абвяшчэння незалежнасці Беларусі і ўстанаўлення польска-беларускіх дыпламатычных адносін я магу знаходзіцца ў Мінску на пасадзе, якую займала спадарыня прафесар, пракладаючы дарогу і закладваючы падмурак адносінаў паміж нашымі краінамі. Гэта не толькі гонар, але і адказнасць, бо планка паслом Эльжбетай Смулковай была пад-

нятая вельмі высока. Думаю, кожны, хто займаецца Беларуссю ў Польшчы і Польшчай у Беларусі, павінен пазнаёміцца з працамі прафесара Смулковай, каб зразумець і даведацца, што нам удалося зрабіць да гэтага часу.

Я рады таксама, што, падобна таму, як 25 гадоў назад наша супрацоўніцтва перажывала роскві́т, так і цяпер ажывае, нават пашыраецца пасля некалькіх гадоў стагнацыі. Мы ўсе гэтаму радыя — палякі і беларусы. Спадзяюся, спадарыня прафесар, назіраючы за гэтым працэсам, таксама адчувае з гэтай нагоды радасць і задавальненне. Навуковае і культурнае супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю развівалася заўсёды, нават калі ў іншых сферах было складана, аднак цяпер у вас, навукоўцаў-гуманітарыяў, адмысловае заданне: дапамагчы ўсвядоміць элітам, а таксама грамадскасці нашых краін, якія мы блізкія і як патрэбныя адзін аднаму. Спадзяюся, паслужыць гэтаму таксама сённяшняя канферэнцыя.

Яшчэ адна нагода для радасці — гэта факт, што мы прэзентуем сёння кнігу Валерыя Каліноўскага пра прафесара Смулкову. Гэта не толькі біяграфія выдатнай вучонай і дыпламата, але і аповед пра складанасці польскай гісторыі XX стагоддзя і гісторыі Беларусі. Хіба гэта не парадокс, што дзяўчынка, якая нарадзілася ў Львове, бацька якой быў забіты НКУС, а яна з сям’ёй была выслана ў Сібір, затым вяртаецца дадому і праз гады становіцца адным з лепшых, калі не лепшым, спецыялістам па беларускай мове ў Польшчы? А потым прыязджае ў Беларусь яшчэ ў складзе Савецкага Саюза, знаходзіць тут сяброў, у яе з’яўляецца шмат кантактаў, і яна ўрэшце становіцца вышэйшым прадстаўніком польскай дзяржавы ў незалежнай Беларусі? Пагадзіцеся, тут не абышлося без метафізікі.

Аднак паколькі вы людзі навукі, то спусцімся з нябёсаў на зямлю і зоймемся пасяджэннем па тэме канферэнцыі. Але спачатку дазвольце мне яшчэ раз сардэчна падзякаваць прафесару Эльжбеце Смулковай за яе навуковую і дыпламатычную працу, рэктару і адміністрацыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта за магчымасць правядзення гэтай сустрэчы, а Валерыю Каліноўскаму за выдатную, жывую і натхняльную кнігу.

Жадаю плённага пасяджэння!

# ВІНШАВАЛЬНЫ АДРАС ПРАФЕСАРУ ВАРШАЎСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА І АМБАСАДАРУ ЭЛЬЖБЕЦЕ СМУЛКОВАЙ

Паважаная пані Прафесар!

Ад імя прафесарска-выкладчыцкага складу і студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта сардэчна віншую Вас з прыгожай юбілейнай датай!

У Вашай высокадастойнай асобе мы ўшаноўваем выдатнага вучонага-славіста, даследчыка беларускай мовы і гісторыка-культурнага феномена пагранічча, плённая праца якога паспрыяла вывядзенню навуковай беларусістыкі на міжнародны ўзровень і прывабіла ў гэтую галіну ведаў шматлікую новую генерацыю даследчыкаў як у Беларусі, так і ў Польшчы. Мы ганарымся таксама тым, што Ваша навуковая дзейнасць была з 1960-х гадоў на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў шчыльна звязана з Беларускім дзяржаўным універсітэтам.

Ушаноўваем у Вашай асобе таксама тонкага палітыка, дыпламата, які паспрыяў у 1990-я гады ўмацаванню дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь, стварэнню прывабнага іміджу нашай краіны ў міжнароднай супольнасці і наладжванню паважлівых, талерантных узаемаадносін паміж Беларуссю і Польшчай, што паспрыяла далейшаму культурнаму дыялогу нашых краін.

Выказваем Вам глыбокую падзяку за такую шматгранную і выніковую дзейнасць, зычым моцнага здароўя, даўгалецця, шматлікіх удзячных вучняў і паслядоўнікаў, натхнёных Вашым прыкладам як навукоўца, грамадзяніна і чалавека.

З павагай,

*Рэктар БДУ С. У. Абламейка*

**Ксёндз-дэкан Уладзіслаў Завальнюк** *(Мінск, Беларусь)*

# ЭЛЬЖБЕТА СМУЛКОВА — ХРЫСЦІЯНКА, МОВАЗНАЎЦА, АМБАСАДАР

Калі мы гаворым «Беларускі Касцёл», то, безумоўна, маем на ўвазе Каталіцкі Касцёл на Беларусі. Слова «каталіцкі» (грэч. «Katholikos») абазначае паўсюдны — вселенский — сусветнага маштабу — распаўсюджаны паміж усімі народамі, расамі, нацыямі — для ўсіх. «Дык ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысціце іх у Імя Айца і Сына, і Духа Святога. Вучыце іх зберагаць усё, што Я вам наказаў» (Мф 28, 19–12). «Прапаведуйце Евангелле ўсялякаму стварэнню» (Мк 16, 15).

Каталіцкі Касцёл не можа быць «прыватызаваны». Няма французскага, польскага, нямецкага і г. д. Каталіцкага Касцёла. Ён Кефальны — Паўсюдны, ён адзін на ўвесь свет. З адзіным цэнтрам — Ватыканам, з адзіным Пастарам — Папам Рымскім.

У народзе чуем «каталіцкі» — гэта «польскі», «каталіцкая вера» — гэта вера, якая прыйшла з Захаду. На самай справе вера прыйшла ад Езуса Хрыста па Божай волі. Ёсць толькі розныя абрады: рымскі абрад, візантыйскі і інш., якія паводле падзелу ў 1054 годзе былі ўзначалены адзіным Пастарам.

Св. Кірыла і Св. Мяфодзій — светачы як духоўнасці, так і культуры, апосталы непадзельнай царквы, хрысціянскае вучэнне якіх прыйшло і на нашы землі. Вучэнне гэтае было адным, супольным, паўсюдным, усяленскім.

Мова ці абрад (Усходні альбо Заходні) самі па сабе яшчэ не сведчаць аб адрозненні, яны маюць адно паходжанне — Хрыстос і Яго Евангелле.

Да 1966 года мовай Каталіцкага Касцёла была лацінская. Падчас II Ватыканскага Сабору было прынята рашэнне — адпраўляць Літургію на мове краіны. У Беларусі да 1991 года, калі наша краіна стала незалежнай, маліліся і на лацінскай мове, і на польскай — па традыцыі. Пасля 1991 года сітуацыя пачала мяняцца. Беларусь стала выконваць пастанову Ватыканскага Сабору 1966 года. Паступова ў касцёлах Беларусі пачала гучаць беларуская мова — просьбы вернікаў, Евангелле, малітвы, сама Літургія. Для гэтага адкрылася каталіцкая семінарыя ў г. Гродне, якая рыхтавала святароў для Беларусі, рабіліся пераклады Імшала, малітоўнікаў, спеўнікаў, кожную нядзелю трансліравалася па радыё Святая Імша — спачатку (8 гадоў) з касцёла Св. Сымона і Св. Алены, цяпер — з Катэдры. Гэта мяняла свядомасць вернікаў, яны пачалі разумець, што яны — беларусы.

У 1991 годзе ў Мінску адкрылася амбасада Рэспублікі Польшча. Яе ўзначаліла Эльжбета Смулкова — спачатку як генеральны консул, а з 1992 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь.

Выбар кандыдатуры Э. Смулковай на гэтую пасаду не быў выпадковым. Эльжбету Смулкову добра ведала беларуская навуковая грамадскасць. Яна — вядомы польскі пісьменнік, мовазнавец. Скончыла аддзяленне польскай і славянскай філалогіі ў г. Торуні. Шмат гадоў працавала ў Варшаўскім універсітэце: загадвала кафедрай беларускай філалогіі, была прафесарам кафедры агульнага мовазнаўства. Атрымала вучоную ступень доктара філалагічных навук.

Галоўныя навуковыя накірункі Э. Смулковай звязаны Беларуссю, беларускай мовай: беларуская і параўнальная дыялекталогія, беларуская і ўсходнеславянская акцэнталогія, тэорыя і практыка моўных кантактаў на польска-беларуска-літоўскім пагранiччы, беларуская і агульная фанетыка і фаналогія.

Эльжбета Смулкова — член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Акрамя соцень навуковых артыкулаў, яна напісана некалькі манаграфій — «Беларуская земляробчая лексіка» (ч. 1–2, 1968), «Даследаванне націску ў беларускай мове» (1978). У сааўтарстве з В. М. Чэкманам апублікавана манаграфія «Фанетыка і фаналогія беларускай мовы з элементамі агульнай фанетыкі і фаналогіі» (1988) і інш.

Удзельнічала ў стварэнні канцэпцыі, зборы матэрыялаў і падрыхтоўцы «Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны», «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», «Слоўніка мікратапонімаў паўночна-ўсходняй Польшчы».

Навуковую і грамадскую дзейнасць Э. Смулкова працягвае і да сённяшняга дня. І цяпер яна часта наведвае Беларусь, часта выступае з дакладамі на навуковых канферэнцыях.

Пані Эльжбета — не толькі першы амбасадар Польшчы ў Беларусі, выбітны славіст і беларусазнаўца, прафесар, але перш за ўсё практыкуючая, глыбока веруючая хрысціянка. Часта ў нядзелю яе з мужам Віктарам можна было бачыць у касцёлах на набажэнстве не толькі ў Мінску, але і ў розных куточках Беларусі. Яна рэгулярна прымала Святое прычасце.

Як пасол, яна наведвала гарады, мястэчкі, вёскі Беларусі, цікавілася жыццём людзей — духоўным і матэрыяльным. Пры неабходнасці вырашала іх набалелыя пытанні.

Гэта быў амбасадар свой, які добра ведаў нашу краіну, нашу мову, нашу культуру, нашу веру, нашы патрэбы.

Разам з беларускімі вернікамі Э. Смулкова радасна адзначала святы Божага Нараджэння і Вялікдзень.

Заслугоўвае павагі і пашаны пані Эльжбета Смулкова і за тое, з якой вялікай хрысціянскай пашанай выкарыстоўвае яна мову, набліжаючы нашы народы праз духоўную прызму веры і любові да Бога і бліжняга. Людзі ёй давяраюць, бо адчуваюць агульначалавечае паразуменне, згоду і магчымасць чалавечага, міжнароднага суіснавання ў міры. Пані Эльжбета — сапраўдная моўная міратворца.

У кожнага чалавека ёсць свая Бацькаўшчына — зямля, родны кут, краіна, дзе жывём і працуем, мова. Мова — гэта тое адзінае, што стварае асобу і Бацькаўшчыну.

Але для ўсяго чалавецтва ёсць адна супольная і вечная Бацькаўшчына — Нябесная, ёсць Неба. Да гэтай Бацькаўшчыны адыходзіць чалавек, калі заканчваецца яго зямное жыццё.

Калі чалавек верыць у Бога, тады ён атрымае ў Нябеснай Бацькаўшчыне жыццё вечнае. Тады ніколі не будзе дысанансу, дысгармоніі паміж мовамі ва ўсім свеце. Бог разумее ўсе мовы. Важна, каб людзі звярталіся да Бога на роднай мове, каб яны разумелі, аб чым просяць Усявышняга, разумелі сэнс малітваў.

У Хрыстовай Кефальнай Царкве няма зайздрасці, якая мова лепшая, — там сэрца гаворыць і душа пяе. Усё скіравана да Бога і бліжняга. «Любіце адзін аднаго, як Я палюбіў вас», — настаўляе Збаўца.

Не трэба баяцца моўных узаемаадносін, бо агульначалавечая мова адна — гэта любоў.

Як хрысціянка, як мовазнаўца, Эльжбета Смулкова добра гэта разумее. І будучы выбітным спецыялістам у галіне мовазнаўства, яна лічыць сваім абавязкам неабходнасць ахапіць усю глыбіню і шырыню моўнага поля, каб людзі берaглі мову, не далі ёй загінуць. «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог» (Ян 1, 1).

Кожная мова — гэта Божы скарб, які трэба вывучаць, захоўваць, шанаваць, любіць, узносіць на ёй хвалу Усявышняму.

І ў гэтым нам дапамагае пані Эльжбета Смулкова: сваімі працамі, дзейнасцю, сваім жыццём.

Божага бласлаўлення ёй і ўсёй сям’і, родным, і шчыры дзякуй за прыклад любові і да роднай польскай мовы і да мовы беларускай.

**Адам Мальдзіс** *(Мінск, Беларусь)*

## ПРЫЯЦЕЛЬКА БЕЛАРУСКАЙ НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ

Атрымаўшы прапанову напісаць прадмову да кнігі, якую мяркуецца выдаць да 85-годдзя з дня нараджэння вядомай польскай даследніцы-філолага і дыпламата Эльжбеты Смулковай, я пачаў праглядаць нататкі 1990-х гадоў, калі яна асабліва актыўна ўдзельнічала ў беларусазнаўчым руху, была першым Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь (1992–1995).

Найперш натрапіў на свой «Рымскі дзённік». Ён пісаны 29 красавіка — 6 траўня 1990 года і часткова апублікаваны ў маёй кнізе «І ажываюць спадчыны старонкі: Выбранае» (Менск, 1994). Але толькі цяпер я зразумеў, як цяжка перабольшыць значэнне апісаных там падзеяў, што адбыліся на самым пярэдадні абвяшчэння беларускай незалежнасці — прыняцця 27 ліпеня 1990 года Вярхоўным Саветам БССР «Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».

Ватыканская канферэнцыя, якая потым увайшла ў гісторыю пад назвай «Рым-І», рыхтавала зразуменне згаданай Дэкларацыі ў свеце, бо яна ці не ўпершыню так грунтоўна даказвала (найперш тром суседнім краінам — Літве, Польшчы і Украіне, а потым і ўсёй Еўропе, усяму свету) наша, беларускае права мець уласную гісторыю, мову, дзяржаўнасць.

Прафесар Эльжбета Смулкова адыграла ў той нешматлюднай сустрэчы выключную, натхняльную ролю. Будучы амбасадар Польшчы ў Беларусі тады, у Рыме, уваходзіла ў склад, натуральна, польскай грамадскай дэлегацыі, а я быў у беларускай. Канферэнцыя адбывалася ў акружаным пальмамі і пініямі, абнесеным высокімі мурамі Міжнародным цэнтры імя Святога Джавані. На першым пасяджэнні кожны з нас меў магчымасць і права гаварыць тое, што сам пажадае (я казаў пра трагічнасць свежай тады чарнобыльскай катастрофы і неабходнасць еўрапейскай дапамогі яе ахвярам не толькі ва Украіне, але і ў Беларусі, а мне яшчэ не дужа верылі, бо інакш, маўляў, «чаму не б'е трывогу ваш друк?»). Далейшыя ж даклады і паведамленні былі накіраваныя на ўзаемаразуменне чатырох дзяржаваў, якія тады адраджаліся наноў на тэрыторыі колішняй Рэчы Паспалітай.

Спачатку, прызнаюся, я і мае калегі, дый прадстаўнікі беларускай дыяспары з Вялікабрытаніі ды ЗША, пабойваліся будучых выступаў польскіх дэлегатаў: зноў, маўляў, пачнуць яны згадваць належнасць беларусаў да іхных «крэсаў усходніх»… Але прафесар Ежы Клачоўскі з Любліна, тады прадстаўнік Польшчы ў ЮНЭСКА, накіроўваў дыскусію вельмі тактоўна. Прафесар Клачоўскі дыпламатычна прапанаваў прысутным напісаць гісторыі сваіх дзяржаваў паводле нацыянальнага разумення і сумлення, а пасля выдання —

садзейнічаць іх перакладу на тры іншыя мовы. З дзвюма толькі засцярогамі: не абражаць суседнія народы і не супярэчыць адзін аднаму. Да прыкладу, літоўцу не даказваць, што гэта ягоныя продкі заваявалі русінаў, продкаў сённяшніх беларусаў, бо, маўляў, таму карысталіся іх канцылярскай мовай, а беларусу — што ўсё было якраз наадварот.

Аднак пара мне перайсці да ролі галоўнай прымірыцелькі і павучальніцы «Рыма-І» спадарыні Смулковай. Яе прынцыповая пазіцыя выявілася нам (дакладна!) 1 траўня 1990 года, пасля выступу айца Аляксандра Надсана, які тады быў апостальскім візітатарам для беларусаў-каталікоў у замежжы і дырэктарам Беларускай бібліятэкі й музея імя Францішка Скарыны ў Лондане, а летась адышоў у іншы свет.

«Свой даклад пра рэлігійнае жыццё ў Беларусі, — цытую тагачасны запіс, — ён пачаў з эмацыйнага расказу пра чарнобыльскую трагедыю (і гэтым пацвердзіў мой выступ. — *А. М.*), заклікаў прысутных аказваць дапамогу яе ахвярам (на наступны дзень менчукам прывезлі першыя карабы з лекамі.— *А. М.*). Потым гаварыў пра тое, што і праваслаўная царква, і асабліва каталіцкі касцёл не дужа паварочваюцца да беларускага нацыянальнага адраджэння, прывёў таму прыклады. Бог добры, закончыў ён сваё выступленне, у яго ёсць месца для ўсіх. То чаму ж тады не знаходзіцца месца для беларусаў?!»

Крыху нечакана для нас Аляксандра Надсана падтрымалі варшаўскія вучоныя. Прафесар Смулкова сцвердзіла, што касцёл каталіцкі на Беларусі (а яна яго добра спазнала ў часе шматлікіх лінгвістычных экспедыцый. — *А. М.*) павінен паслугоўвацца не толькі польскай, але і беларускай мовай, бо інакш людзі проста адыдуць ад яго. Калі місіянеры едуць, скажам, да папуасаў, то найперш вучацца гаварыць па-папуаску. Дык чаму ж тады гэтае правіла ігнаруюць ксяндзы, якія з Польшчы скіроўваюцца цяпер у Беларусь?! Думкі прафесара Смулковай канкрэтызаваў гісторык доктар Юры Туронак.

А ўвечары ўдзельнікаў форуму запрасілі ў Ватыкан, на сустрэчу з Архіпастырам Янам Паўлам ІІ, ініцыятарам канферэнцыі, цяпер ужо кананізаваным. Нечакана дэлегаты-беларусы даручылі асноўны выступ мне, і я, уручыўшы Папу Рымскаму юбілейнае энцыклапедычнае выданне, прысвечанае Францішку Скарыну, распачаў словамі: «Ойча святы! Дрэнна дзеецца з Каталіцкім касцёлам на Белай Русі…» Потым мае думкі прадоўжылі прафесар Эльжбета Смулкова, менскі кандыдат навук Вячаслаў Вярэніч. І пасля кожнага выступу Архіпастыр, абуджаючы ў нас надзею, уздыхаў: «Nie wszystko od razu», «To przecież proces».

І працэс пайшоў. Яго паскарала дасведчаная і энергічная прафесар Эльжбета Смулкова. Летам таго ж 1990 года яна сабрала ў Польшчы вучоных-гуманістаў з розных краін, каб за прыкладам украінцаў распачаць стварэнне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, выбраць старшыню яе аргкамітэта. Дзве першыя спробы з шэрагу прычын аказаліся няўдалымі. І тады прафесар Алег Лойка, мой ранейшы апанент на абароне доктарскай дысертацыі, прапанаваў

маю кандыдатуру. Я згадзіўся пры ўмове, што галасаванне будзе таемнае… Праз якую палову гадзіны пані Смулкова пераконвала ўжо мяне, што першы кангрэс беларусістаў належыць правесці не пазней за травень наступнага года.

На травеньскі ўстаноўчы форум у 1991 годзе з'ехаліся ў Менск літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, гісторыкі, мастацтвазнаўцы з 23 краін. Дыскусіі бывалі вострымі і, як сведчыць першы зборнік «Беларусіка = Albaruthenica» (усяго іх выйшла ўжо 36!), плённымі.

Першым ганаровым сябрам асацыяцыі быў тады выбраны на кангрэсе нашчадак князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх, мецэнат і прафесар Анджэй Цеханавецкі (Брытанія). Яго, як і прафесара Смулкову, і мяне, трывожылі слоўныя канфлікты паміж літоўскімі і беларускімі гісторыкамі на «Рыме-І» і наступным «Рыме-ІІ» у Любліне (Польшча).

Таму неўзабаве варшаўская даследніца прапанавала мне: «А давайце злётаем разам у Лондан, далучым яшчэ каго з гісторыкаў. Можа, пан Цеханавецкі фінансава дапаможа нам, беларусістам, правесці канструктыўны "круглы стол" з літоўцамі». І наша плённае падарожжа разам з сябрам МАБ Генадзем Сагановічам адбылося ў лютым 1992 года. А вясной і летам таго ж года ў Менску і ў мястэчку Гервяты Астравецкага раёна, дзе жывуць этнічныя літоўцы (беларускі ксёндз там адправіў нам у касцёле імшу на літоўскай мове, а літоўскі — на беларускай) адбыліся пасяджэнні, прысвечаныя супольнай спадчыне Вялікага Княства Літоўскага.

З прыездам у Менск першага польскага амбасадара прафесара Эльжбеты Смулковай навуковыя і культурныя кантакты паміж нашымі дзвюма суседнімі краінамі прыкметна ажывіліся. Часцейшымі сталі абмен канцэртамі і спектаклямі, навуковыя канферэнцыі, выданне іх матэрыялаў. Памятаецца, мы разам ездзілі ў Астравецкі раён, на маю радзіму, для сустрэчы з мясцовай польскай дыяспарай. Прафесар Смулкова надалей удзельнічала ў беларускіх навуковых даследаваннях, і я нават не ведаю, якіх навуковых працаў у яе болей — на польскай мове ці на беларускай.

Хачу сказаць у заключэнне пра сваю польскую прыяцельку ў сувязі з Яе юбілеем: мы абое людзі этнічнага і культурнага памежжа паміж заходнім і ўсходнім славянствам, паміж Захадам і Усходам, там, дзе скрыжоўваюцца, не толькі варагуючы, але і ўзаемаўзбагачаючыся, розныя культуры. Яна нарадзілася ў галіцкім Львове, я — у Падвіленскім краі. Мы заканамерна належым некалькім культурам. І таму, віншуючы Вас, спадарыня прафесар, з юбілеем, традыцыйна ўсклікаю: «Sto lat!»

**Ніна Мячкоўская** *(Мінск, Беларусь)*

# ЭЛЬЖБЕТА СМУЛКОВА: РЫСЫ АСОБЫ Ў ТВОРАХ І ЖЫЦЦІ

Постаць прафесара і пасла Эльжбеты Смулковай перавышае звычайны маштаб людзей, якія займаюць гэтыя прадстаўнічыя і адказныя пасады. Абедзве справы моўчкі, як перадумову, вымагаюць трывалага прафесіяналізму, энергіі штодня і жыццёвай мудрасці, каб разумець і клопаты прыватнага чалавека, і абавязкі дзяржаўных установаў, і перспектывы грамадстваў.

Дыпламатычная місія прафесара Смулковй была надзвычайнай — не толькі па назве пасады*: Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь* (1992–1995), але і па гістарычнаму моманту місіі: Беларусь упершыню ў мірны час стала незалежнай дзяржавай, упершыню Беларусь абменьвалася пасольствамі з замежнымі краінамі, і першай дзяржавай, якая прызнала суверэнітэт Беларусі — 27 снежня 1991 г., то бок праз некалькі дзён пасля распаду СССР, — была Польшча, а прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Эльжбета Смулкова прыехала ў Мінск як першы польскі пасол у Беларусі.

Для дыпламатычных зносін краін-суседзяў і звычайна характэрныя асаблівая адказнасць і інтэнсіўнасць, а тым больш у тыя першыя постсавецкія абнаўленчыя гады: працавалі дзеля збліжэння эканомік, культур, народаў, дзеля больш шырокага і плённага добрасуседства. Для пасла Смулковай гэтая дыпламатычная служба была ў значнай меры дзейсным працягам яе беларусазнаўчай працы як даследчыцы беларускай мовы, прафесара-беларусіста і кіраўніка Інстытута (Zakład) беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце (1971–1975), як заснавальніка (ў 1997 г.) і кіраўніка (да 2002 г.) кафедры беларускай культуры ва ўніверсітэце ў Беластоку, закліканай памагчы беларусам усходняй Польшчы захаваць сваю этнічную тоеснасць. Знаўца дыялектных, у тым ліку фанетычных, тонкасцей беларушчыны, у Беластоку прафесар Смулкова падкрэслівала неабходнасць шырокага гуманітарнага сінтэзу розных галін беларусазнаўства — гісторыі і сучасных плыняў, этнаграфіі, мовы і фальклору, рэлігійных традыцый і змен. Разам з тым, рашуся дапусціць, на пасадзе пасла стаўся запатрабаваным адміністрацыйны вопыт прафесара Смулковай: у Варшаўскім універсітэце яна двойчы працавала пра-дэканам (розных профіляў) філалагічнага факультэта.

Шырыня ў разуменні ўзаемаадносін народаў і культур была заўсёды характэрна для прафесара Смулковай. Па яе ініцыятыве падчас працы на кафедры агульнага мовазнаўства Варшаўскага ўніверсітэта (1988–1990 гг.) было створана аддзяленне балтыйскіх моў. У наступныя гады прафесар Смулкова была звязана з арганізацыяй і дзейнасцю ў Варшаўскім ўніверсітэце міжнароднага культурна-асветніцкага цэнтра, які ва Усходняй і Цэнтраль-

най Еўропе шырока знаны як OBTA (Ośrodek Badań nad Tradycją Antyczną w Polsce i Europie Środkowowschodniej), а пазней — з Instytutem Badań Interdyscyplinarnych «Artes Liberales» (таксама ў Варшаўскім універсітэце).

Аб тым, што прафесар Эльжбета Смулкова — гэта выбітны філолаг і лінгвіст, вопытны арганізатар універсітэцкай і постуніверсітэцкай адукацыі і лінгвістычных даследаванняў, шырока вядома ў славістыцы, у нашых дзвюх краінах, Беларусі і Польшчы, якія так мудра збліжала пасол і мовазнаўца Эльжбета Смулкова. Але аўтарытэт прафесара Смулковай шырэйшы. Пра тое сведчаць не толькі яе лекцыйныя курсы па запрашэннях у Швецыі і Нямеччыне, але і геаграфічная шырыня публікацый. Лінгвісты добра ведаюць манументальныя выданні трансатлантычнага (еўрапейска-амерыканскага, пераважна нямецкага) навуковага выдавецтва «Вальтар дэ Гройтар» («Walter de Gruyter»). Яно выпускае найбольш грунтоўныя і энцыклапедычна ўсёабдымныя зводы ведаў па розных галінах гуманітарных навук. Кожны раздзел у гэтых кнігах напісаны спецыялістам № 1 у свеце (па адпаведнай дысцыпліне). Дык вось, у кнізе ад «Walter de Gruyter», прысвечанай моўным кантактам, — «Contact Linguistics» (1997) раздзел аб кантактах паміж польскай і беларускай мовамі напісаны прафесарам Смулковай. І яшчэ адзін (са шматлікіх) паказальны факт: на XV Міжнародны кангрэс славістаў (2013) у Мінск прыехалі навукоўцы з 35 краін, праграма налічвала 594 даклады, пры тым на пленарнае пасяджэнне Міжнародны камітэт вылучыў усяго тры найважнейшыя даклады, патрэбныя славістам усіх спецыяльнасцей. З іх першым быў даклад прафесара Смулковай «Мова як прадмет і фактар інтэграцыі (на матэрыяле беларуска-польска-літоўскага памежжа)», за ім ішлі даклады лонданскага літаратуразнаўца Арнольда Макміліна і лінгвіста з Акадэміі навук Беларусі Генадзя Цыхуна.

Аднак зараз я б хацела звярнуць увагу на тыя кнігі прафесара Смулковай, у якіх выразна адбіліся рысы асобы пані Эльжбеты, яе чалавечы маштаб і прыцягальная сіла. Мне ў свой час даводзілася пісаць рэцэнзіі на гэтыя і не толькі гэтыя кнігі праф. Смулковай у маскоўскім часопісе «Славяноведение» і мінскім часопісе «Веснік БДУ»[1]. У тыя гады я была, так бы мовіць,

---

[1] Мечковская Н. Б. [Рецензия на издание:] Schoferowa Maria. «Grzędowie, opowieść z Zimnego Podola». «Exodus», sztuka sceniczna / Komentarz socjologiczny i posłowie Elżbieta Smułkowa (Warszawa: Wyd. Uniwersytetu Warszawskiego, 1998) // Славяноведение. 2001. № 1. С. 98–100; Мечковская Н.Б. [Рецензия на издание:] Język a tożsamość na pograniczu kultur / pod red. Elżbiety Smułkowej i Anny Engelking. Prace Katedry Kultury Białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku [1] (Białystok, 2000) // Славяноведение. 2001. № 5. С. 118–122; Мячкоўская Н. Б. [Рэцэнзія на выданне:] Elżbieta Smułkowa. Białoruś i pogranicza: Studia o języku i społeczeństwie (Warszawa: Wyd. Uniwersytetu Warszawskiego, 2002) // Веснік БДУ. Серыя 4. 2003. № 1. С. 100–103. [Рэпрынт у кнізе: Мячкоўская Н. Б. Мовы і культура Беларусі. Нарысы. Мн.: Правы і эканоміка, 2008. (Серыя «Мовазнаўцы Беларусі»). С. 278–284].

на сувязі з пані Эльжбетай — пад час канферэнцый у Мінску і ў большай ступені ў Варшаве і Беластоку, куды я прыязджала з лекцыямі і дакладамі па запрашэннях праф. Смулковай. Некалькі разоў мы разам вячэралі ў кавярнях Варшавы і Беластока і мелі час пагаварыць пра жыццё. І я вельмі ўдзячная пані Эльжбеце за гэтыя назаўсёды памятныя для мяне гадзіны.

Першая кніга, аб якой пойдзе гаворка, пралівае святло на вытокі шырокага і мудрага погляду на свет, які ўласцівы пані Эльжбеце, на карані яе дэмакратызму і ўвагі да людзей розных сацыяльных стратаў і лёсаў. На вокладцы кнігі чытаем: «Schoferówa Maria. Grzędowie, opowieść z Zimnego Podola. Exodus, sztuka sceniczna / Komentarz socjologiczny i posłowie Elżbieta Smułkowa. Warszawa: Wydawnictwa Uniwersytetu Warszawskiego, 1998». Вось так выглядае навуковае і адначасова першае выданне двух мастацкіх твораў (аповесці 1932 г. і п’есы 1945 г.), напісаных Марыяй Шаферовай (1884–1967), якая да верасня 1939 г. мела зямлю і маёнтак пад Львовам, дзе жыла з мужам і шасцю дзецьмі, а ў 1944 г. выехала разам з сям’ёй малодшай дачкі з Львова (які стаў савецкім) на Захад Польшчы — у Торунь. Гэтая кніга — каштоўнае для гісторыі і культуры выданне, бездакорнае па сваіх эдыцыйных рашэннях, валодае адной хвалюючай асаблівасцю, рэдкай у даследніцкіх каментарыях да літаратурных помнікаў: Марыя Шаферова и Эльжбета Смулкова — гэта бабуля і ўнучка. І калі бабулі ўвосень 1939 г. прыйшлося, ратуючыся ад савецкіх рэпрэсій, у 55 гадоў, пад чужым імем пайсці ў служанкі, то ўнучка, дачка інжынера-лесавода, які быў расстраляны НКУС, разам з маці ў маі 1941 г. была сасланая ў Сібір, без права 20 гадоў пакідаць пасёлак *Усть-Сельга* (на беразе Васюгана). Аднак, па пазнейшых дамоўленасцях паміж савецкім і эміграцкім урадам Сікорскага, у 1946 г. вярнулася, на шчасце, таксама з маці, у Польшчу, але ўжо ў іншы горад — у Торунь.

Для паланістыкі і славістыкі публікацыя аповесці і п’есы Марыі Шаферовай ёсць цікавай з розных прычын: і як крыніца звестак з бурнай гісторыі разнамоўнай і рознаканфесійнай Усходняй Галіцыі — ад кануна Першай сусветнай вайны і да паваротных падзей Другой; як дакументаваныя факты з гісторыі літаратурнага жыцця ў Польшчы 1930–40-х гг.; як дыялекталагічная крыніца, што ўтрымлівае не толькі рарытэты сялянскай мовы ўкраінска-польскага памежжа, але і рэгіянальныя асаблівасці культурнай польскай мовы ў даваенным Львове. Кніга дэманструе інфармацыйнае багацце гуманітарнага «макратэксту» — шматслойнага і прадумана структураванага выдання, у якім публікацыя «дакументаў эпохі» і іх гісторыка-філалагічнае даследаванне, уключна з дыялекталагічным слоўнічкам і сямейнымі фотаздымкамі, суседзяць з пуцявымі нататкамі публікатара і інтэрв’ю.

Культурна-літаратурны і сацыяльны кантэкст апублікаваных твораў такі. Марыя Шаферова напісала «Аповесць з Зімнега Падолля» ў 1932 г. і паслала яе на літаратурны конкурс у кракаўскі «Ilustrowany Kurier Codzienny». Твор быў адзначаны журы, але застаўся не надрукаваным па матывах, хутчэй за

ўсё, палітыка-псіхалагічнай перасцярогі: у тагачасных польска-ўкраінскіх адносінах яшчэ не астыў боль ад пралітай крыві і ўзаемных абвінавачванняў. У шмат чым аповесць Марыі Шаферовай была нечаканай і насцярожваючай. Здзіўляе яна і сучаснага чытача.

Уявім, вось чытач упершыню адкрывае кнігу з назовам «“Grzędowie” і “Exodus”» і, як гэта звычайна бывае, адразу заўважае і з цікаўнасцю разглядвае сямейныя фотаздымкі: на іх заможныя і прыгожыя, добра апранутыя людзі з «даваеннага рэтра». І ў кнізе чытач чакае сустрэць сюжэты, адпаведныя «панскім» фотакарткам…

Аднак творы ў адносінах да здымкаў кантрасныя: дачка ваеннага ўрача з Львова Марыя Шаферова ў свае ўжо немаладыя гады напісала кнігу, якую сучаснікі называлі «сялянскай» і «мужыцкай» (opowieść chłopska). Яе хвалюе гісторыя, якая выходзіць за межы родных і знаёмых дамоў. Аўтарка не «свая» сярод сялян, але яна імкнецца зразумець іх мову і праўду тых, хто дабіваўся перадзелу зямлі.

Стыль Марыі Шаферовай — напорысты, суб’ектыўна-ацэначны, прагны да выразных дэталяў і рэзкага народнага слоўца, з рызыкоўным суседствам фальклорных фарбаў, лацінскіх афарызмаў (без перакладу!), публіцыстычных аўтарскіх маналогаў, этнаграфічных дэталяў, дыялектызмаў, інтэлігенцкіх і газетных клішэ…

«Аповесць» пачынаецца як сямейная хроніка сялянскага роду: вяселле заможнага гаспадара Францішка Гжэнды і 30-гадовай удавы-бяднячкі Ганны; перасуды вясковых жанчын; аўтарскія меркаванні, амаль такія ж палкія, хаця і лексічна адрозныя; замалёўкі побыту і звычаяў; заўвагі наконт адрозненняў паміж суседзямі ў тым, як ставіліся да царквы, якую мову і дзе ўжывалі… Аднак Першая сусветная вайна і за ёй не менш крывавыя «мясцовыя» войны, палітычныя ўзрушэнні, чарада акупацый (аўстрыйцы, венгры, украінцы, палякі, рускія казакі, салдаты, чаркесы, зноў палякі) — усё гэта ператварае мірныя сямейныя драмы ў трагічны хаос і жорсткія выпрабаванні для герояў аповесці: падпалы, здрада, гвалт, смерці.

Самае жудаснае аўтарка бачыць у крывавых канфліктах паміж тымі, хто пакаленнямі жыў побач, — паміж украінцамі і палякамі. Пафас аповесці заключаны ў закліку да міжэтнічнай і рэлігійнай згоды двух народаў. Голас аўтаркі звініць цалкам публіцыстычна ў застольнай прамове Караля, унука старога Гжэнды, пасля асвячэння адбудаванай дзедавай сядзібы. Побач з публіцыстыкай дадзена этнаграфічная замалёўка: «прота-экуменічная» служба перад застоллем (з двума святарамі — каталікам і ўніятам, «w asyscie» (‘у служках’) — арганіст і дзяк) і «выкурванне д’ябла» з усіх кутоў абноўленага дома.

У п’есе «Exodus» (лат. exodus — ‘зыход’), якая ў аўтарскім падзагалоўку названа працягам аповесці «Grzędowie», паказана яшчэ больш шырокая (чым

у аповесці) панарама асоб і падзей, звязаных з Другой сусветнай вайной у Заходняй Украіне (ад лета 1939 да 1943 г.). Апошні, пяты акт адкрываецца сцэнай, у якой некалькі чалавек схіліліся над нелегальным радыёпрыймачом, ловячы польскія паведамленні з Лондана). Акрамя маладога пакалення Гжэндаў, у п'есе дзейнічаюць польскія і ўкраінскія сяляне і святары, прафесар, настаўніца, дзеці, нямецкія каланісты (што жылі ў чатырох мілях ад Львова), польскія паліцэйскія, яўрэйскія гандляры, польскія, савецкія, нямецкія вайскоўцы. Насуперак драматургічнай прыродзе твора, у п'есе істотна шырэй, чым у аповесці, гучаць аўтабіяграфічныя матывы. «Exodus» — гэта гісторыя ўцёкаў — як выратавання ад гвалту і як пошукі «wyraju» — 'цёплых краёў (куды ўлятаюць птушкі)' і адначасова 'казачнай шчаслівай краіны (куды імкнуцца людзі)'.

У даследаванні да публікацыі Эльжбета Смулкова паказвае дакументальную каштоўнасць твораў — і для гісторыі ваеннага ліхалецця, і для гісторыі нацыянальна-рэлігійных узаемаадносін ва Усходняй Галіцыі, для гісторыі гаспадарскага ўкладу сялянскага жыцця. У спецыяльным раздзеле ўводзін («Лакалізацыя падзей») даследчыца раскрывае рэальныя геаграфічныя і храналагічныя адпаведнікі падзеям, што адбываюцца ў творах Шаферовай, дадаючы да аналізу карту колішняга Цярнопальскага ваяводства. У характарыстыках Польшчы 1930-х гг. каментатар улічвае як сучасныя даследаванні, так і крыніцы мінулага, у тым ліку, напрыклад, тры гадавыя камплекты «Ilustrowanego Kuriera Codziennego» (за 1934–1936 гг.). Пры ўзнаўленні мастацкіх твораў паслядоўна адрозніваюцца тлумачэнні рэгіяналізмаў, пададзеныя самой Шаферовай, і дыялекталагічныя заўвагі публікатара. Зразумела, у выданні «Grzędowie» зберагаюцца мясцовыя і іншыя асаблівасці аўтарскага маўлення, у тым ліку экспрэсіўная пунктуацыя. Эльжбета Смулкова ўстрымліваецца ад псіхалагічных характарыстык аўтарскага стылю бабулі, але чытачу дадзена адчуць своеасаблівасць і чалавечую значнасць гэтых твораў.

У канцы кнігі, акрамя слоўніка дыялектызмаў, ёсць як бы эпілог — некалькі старонак пра тое, што ўбачыла і пачула пасол Смулкова ў 1995 г. на месцы дзедавага маёнтка, даўно расцягнутага па сялянскіх дварах… Гэтыя старонкі і фотаздымкі зменьваюць жанр усёй кнігі: перад намі не толькі ўзорнае выданне дакументаў аб даваенным мінулым, але і першакрыніца па гісторыі бягучай.

* * *

І яшчэ аб адной кнізе Эльжбеты Смулковай. У 2002 г. выдавецтва Варшаўскага ўніверсітэта выпусціла ў свет прадстаўнічы зборнік прац прафесара Смулковай «Białoruś i pogranicza: Studia o języku i społeczeństwie» (‘Беларусь і пагранічча: Штудыі пра мову і грамадства’; на польскай, беларускай і рускай мовах).

Кампазіцыйна кніга будуецца як паступовае пашырэнне сацыяльнага дыяпазону выбраных тэм. Змест разгортваецца ў напрамку ад цалкам спецыяльных пытанняў (дыялектная фанетыка і акцэнталогія) да больш шырокіх тэм з арэальнай лексікалогіі і граматыкі, ад іх да праблем моўных кантактаў і моўнай палітыкі. Нарэшце, у апошнім раздзеле, з назвай «Беларусь — Польшча. Грамадска-палітычныя пытанні», сацыяльная лінгвістыка саступае месца тэмам, што закранаюць кожнага, — сучасная палітыка, узаемаадносіны паміж Польшчай і Беларуссю, будучыня Беларусі.

Спынімся на гэтым, заключным раздзеле кнігі. Па сутнасці, ён выходзіць за межы сацыялінгвістыкі. Бліжэй за ўсё ён да сацыяльнай псіхалогіі — не па тэрміналагічных прыкметах, але па сутнасці. Пра тэматыку артыкулаў-эсэ чытач можа меркаваць ужо па назвах. Вось некаторыя з іх (у перакладзе): «Нацыянальная тоеснасць і талерантнасць на Беларусі», «Аб пачуцці нацыянальнай тоеснасці ў жыхароў Беларусі», «Пра шматзначнасць паняццяў «паляк», «польскі» ў Беларусі (з вопыту даследчыка і дыпламата)», «Палонія на ўсходзе, або Пра палякаў, што жывуць на ўсход ад Польшчы», «Нататкі аб беларускай культуры […]». Два артыкулы тычацца сучаснага рэлігійнага жыцця, у тым ліку моўных аспектаў у розных канфесіях: «Пытанне аб народных мовах у рэлігійнай практыцы на беларуска-літоўска-польскім этнакультурным пагранічы» (1993) і «Развіццё каталіцкай царквы ў Рэспубліцы Беларусь: праблемы грамадска-палітычныя і моўныя» (2001).

Асобна ва ўсёй кнізе стаіць тэкст з назовам «Два этапы ў матчыным жыцці: Львоў — Сібір». Першапачаткова ён быў надрукаваны ў вялікім міжнародным выданні дакументальна-мемуарных матэрыялаў «Europa Ne prowincjonalna. Przemiany na ziemiach wschodnich dawnej Rzeczypospolitej: Białoruś, Litwa, Łotwa, Ukraina, wschodne pogranicze III Rzeczypospolitej w latach 1772–1999» (Warszawa — London, 1999). «Два этапы ў матчыным жыцці […]» фактычна ёсць сведчаннем і аб «трох этапах» у біяграфіі аўтара кнігі.

У гэтым тэксце тры часткі. Па-першае, гэта запісы самых ранніх у жыцці вобразаў і ўражанняў, што захаваліся ў памяці пані Эльжбеты. З імі, большасцю шчаслівымі і памыснымі, кантрастуе адзін успамін: раптоўна ноччу ў іх львоўскай кватэры нехта чужы ў цывільным і яшчэ чырвонаармеец, штык на ягонай вінтоўцы, забіраюць бацьку, які паспявае сказаць дзіцяці «Pamiętaj czyją jesteś córeczką» і пакінуць у яе далоньцы свой заручальны пярсцёнак… У другой частцы «Двух этапаў…» Э. Смулкова прыводзіць некалькі старо-

нак з матчынага дзённіка ад мая да Каляд 1941 г.: як у адну ноч яе з дзвюма малымі дочкамі пасадзілі ў вагон для быдла, ужо перапоўнены ўкраінскімі і польскімі кабетамі з дзецьмі, і павезлі ў Сібір, аж да пасёлка Усць-Сельга. А маці пісала ў дзённіку: ужо «półtora roku bez Kazika», не ведаючы, што ўжо ніколі не ўбачыць мужа. Напрыканцы «Двух этапаў» Эльжбета Смулкова піша пра новую вандроўку ў Сібір — праз 56 гадоў, на канферэнцыю ў Томску пад назовам «Сібірская Палонія: мінулае, сучаснасць, будучыня» (1999).

Калі са старонак кнігі паўстаюць сапраўдныя людскія лёсы, само жыццё, то дыялекталогія і сацыялінгвістыка адступаюць у цень. Жыццё паўнейшае і глыбейшае за навукі і мастацтва, і хаця ў кнізе яно паўстае «толькі з напісанага», яно падаецца мне бясконца цікавым, значным, хвалюючым. Я магла б звярнуць увагу чытача на шмат якія радкі з «Двух этапаў […]», каб яго самога пацягнула да гэтай непрыдуманай аповесці пра лёсы і характары на паграніччы часоў і культур.

У апошнім раздзеле кнігі асобную рубрыку складаюць інтэрв'ю. У асноўным гэта інтэрв'ю пасла: часопісу «Беларусь» (1992, 1995), рускамоўным беларускім газетам: «Европейское время» (1994), «Имя», «Белорусская деловая газета» і «Белорусская биржа труда» (1995). І толькі апошняе інтэрв'ю — з Сямёнам Букчыным для «Белорусской газеты» (1998) — прыйшло пасля заканчэння місіі, з Варшавы. Яго назоў палемізуе і абнадзейвае: «Нет, Беларусь у нас не забыта!». Чаму б і не спадзявацца…

Аднак варта звярнуць увагу на тое, што польскіх інтэрв'ю ні ў зборніку, ні ў агульным бібліяграфічным спісе аўтаркі няма. Бо польскіх інтэрв'ю не было. Трэба глядзець праўдзе ў вочы: гэтакі ўзровень цікавасці польскага друку да стасункаў з Беларуссю. Але ж пытанне, чаму Беларусь не надта цікавіць Польшчу, мае і працяг. Гэты працяг гучыць так: а хто больш за Польшчу звяртае ўвагу на Беларусь? Пытанне рытарычнае: ні ва Украіне, нягледзячы на максімальную блізкасць моў і гістарычных лёсаў, ні ў Літве, ні ў Расіі не робіцца столькі дзеля падтрымкі грамадскай увагі да Беларусі, да яе культуры і мовы, як у Польшчы. Для Расіі з Беларуссю звязаныя эканамічныя і палітычныя клопаты, але сапраўднай — не «стратэгічнай» і не казённай, а чалавечай і цёплай — цікавасці ў Масквы да Беларусі не было. Каб тое ўбачыць, дастаткова параўнаць блізкія нам сферы жыцця: філалогію і філалагічную адукацыю. У Маскоўскім і Санкт-Пецярбургскім універсітэтах толькі пасля распаду Саюза з'явіліся сціплыя факультатывы па беларускай мове. Між тым у Варшаўскім універсітэце кафедра (пазней Інстытут) беларускай філалогіі існуе з 1956 г., аддзел беларускай мовы ў акадэмічным Інстытуце славяназнаўства — з 1958 г. Кафедра беларускай філалогіі ёсць у Любліне; беларуская мова выкладаецца таксама ва ўніверсітэтах Беластока і Познані; у Беластоцкім універсітэце працуе кафедра беларускай культуры… Такія факты, у тым ліку з бібліяграфіі, можна доўжыць.

Але я прывяду доказ у «чалавечым вымярэнні»: адзін факт з біяграфіі Эльжбеты Смулковай, яшчэ яе студэнцкіх гадоў, — факт, якога не магло быць ні ў Маскве, ні ў Ленінградзе ні ў 54-м годзе, ні пазней. Аб гэтым аўтарка ўзгадвае ў канцы прадмовы да кнігі, аб якой гаворка. Цытую (у перакладзе): «Я часта дастаю двухмоўны руска-беларускі слоўнік, выдадзены ў Маскве ў 1953 г. пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі. Слоўнік падараваны мне, калі я яшчэ студэнткай прыступала да тэмы сваёй магістэрскай працы. Чытаю дароўныя словы, напісаныя моцным і выразным почыркам: «Pani Eli Smułkowej na nową "białoruską" drogę życia — Halina Turska, Toruń, 30 III 54». Напрыканцы ўступу, узгадваючы той беларускі слоўнік і напутныя словы, пасол і прафесар Эльжбета Смулкова дадае: «Дзякуй, пані прафесар, той шлях аказаўся цікавым і плённым. Вакол мяне людзі, якія пойдуць па гэтым шляху далей»…

Зборнік выбраных штудый прафесара Смулковай аб мове і грамадстве «Białoruś i pogranicza» (2002) зберагае і праз 15 гадоў сваю навукова-сацыяльную і чалавечую значнасць — як культурная падзея ў сучасных дачыненнях паміж Польшчай і Беларуссю і як крыніца дакументальных звестак аб ментальнасці і лёсах тых польскіх гуманітарыяў, хто абраў «беларускі шлях». Пазней пад рэдакцыяй прафесара Смулковай выйшлі ў свет два буйныя калектыўныя даследаванні па беларусазнаўству: «Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej» (Warszawa, 2007) і «Brasławszczyzna. Pamęć i współczesność» у 2-х тамах, таксама ў Варшаве: «Słownictwo dwujęzycznych mieszkańców rejonu (Słownik brasławski)» (2009) і «Historia regionu. Charakterystyka socjolingwistyczna. Świadectwo mieszkańców» (2011).

Увосень 1995 г., напрыканцы сваёй пасольскай місіі ў Беларусі, Эльжбета Смулкова ў інтэрв'ю беларускім журналістам гаварыла: «Цяжка сабе ўявіць больш мірную і добразычлівую дзейнасць для беларуска-польскіх дачыненняў за тое, чым я займалася ў Мінску». І далей: «Перастаўшы быць паслом Польшчы ў Беларусі, я буду паслом беларускай праблематыкі ў Польшчы».

Ад той пары мінула больш за 20 гадоў, і час пацвердзіў гэтыя словы: праца першага пасла Польшчы ў Беларусі назаўсёды ўпісана ў гісторыю станоўчых беларуска-польскіх сувязей, а ў Варшаве жыве і працуе надзейны сябра Беларусі — прафесар Эльжбета Смулкова.

**Мікалай Прыгодзіч** *(Мінск, Беларусь)*

# ЖЫЛІ Ў АДНЫМ ДОМЕ

З прафесарам Эльжбетай Смулковай я доўгі час быў знаёмы толькі завочна. На стэндзе нашай кафедры беларускай мовы на філфаку, што месціўся тады на Чырвонаармейскай (цяпер там гістарычны факультэт), была фатаграфія, на якой польская беларусістка нешта ажыўлена абмяркоўвала з прафесарам Львом Міхайлавічам Шакуном. Сёння гэтая фатаграфія знаходзіцца на наваствораннай кафедры гісторыі беларускай мовы, ужо на вуліцы Карла Маркса, 31. Думаю, што яна змагла б упрыгожыць і наш пасляканферэнцыйны зборнік матэрыялаў. Леў Шакун не аднойчы прыводзіў у прыклад і нам, выкладчыкам, і асабліва студэнтам менавіта беларусазнаўчую дзейнасць прафесара Эльжбеты Смулковай (часта ён называў яе прозвішча на польскі манер — Смулэк). Паступова і мы самі знаёміліся з працамі польскай даследчыцы, якая неаднойчы кансультавалася ў Шакуна, выступала на нашых канферэнцыях у Акадэміі навук і на філфаку БДУ. Менавіта дзякуючы ёй, а таксама Міхалу Кандрацюку, Аляксандру Баршчэўскаму лепшыя студэнты, што вывучалі польскую мову, штогод выпраўляліся ў азнаямленча-вытворчую



практыку ў Варшаву і Беласток. А пазней, ужо ў канцы XX стагоддзя, групы польскіх студэнтаў, магістрантаў і ад'юнктаў сталі навучацца на нашым факультэце.

Асабістыя кантакты з прафесарам Эльжбетай Смулковай распачаліся ўжо ў часы яе працы — спачатку генеральным консулам, а пазней і першым Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь. Так атрымалася, што мы сталі жыць у адным пад'ездзе дома № 7 (цяпер ужо дом 7 корпус 1) на вуліцы Пуліхава. Амбасадар з мужам жылі на чацвёртым, а мы на пятым паверсе. Сустрэчы не былі частымі, хутчэй выпадковымі, паколькі многія з нас не карысталіся ліфтам і зверху часцей апускаліся пяшком. Зразумела, што размовы нашы датычыліся найперш спраў навуковых, працы кафедры, міжвузаўскіх сувязей; пакуль быў жывы прафесар Леў Шакун, спадарыня амбасадар заўсёды перадавала прывітанні свайму дасведчанаму калегу і даўняму дарадцу па вывучэнні беларускай мовы. Сустрэчы нашы перапыніліся на пэўны час пасля ад'езду прафесара Смулковай у Польшчу.

Стасункі з пані Эльжбетай узнавіліся пазней, у час яе прыездаў на Кангрэсы беларусістаў, на міжнародныя канферэнцыі беларускіх дыялектолагаў у НАН Беларусі. А таксама ў 2009 годзе, калі мы з жонкай, дацэнтам (цяпер загадчыцай) кафедры нямецкай мовы БДУ, рыхтавалі кнігу «Беларуская мова ў працах замежных лінгвістаў» (Мінск: БДУ, 2010). Адзін з раздзелаў гэтай кнігі — «З кагорты першых» — быў прысвечаны навуковай дзейнасці прафесара Смулковай. Дзякуючы Ніне Барысаўне Мячкоўскай мы скарысталіся магчымасцямі інтэрнэту і ўдакладнілі многія моманты для будучай працы. Менавіта з падказкі пані прафесара мы ўключылі ў гэты раздзел інтэрв'ю Ірыны Будзько з Эльжбетай Смулковай, а таксама некалькі найбольш характэрных навуковых прац даследчыцы беларускага памежжа. Тады ж мы ўпершыню пазнаёміліся і з ладным томам, своеасаблівым падрахункам амаль 40-гадовай навуковай, педагагічнай і дыпламатычнай дзейнасці Э. Смулковай — кнігай «Białoruś i pogranicza» (Варшава, 2002).

Я ўдзячны лёсу, што ў маім жыцці былі прыязныя сустрэчы з гэтым незвычайным чалавекам — мудра-спакойнай і ўраўнаважанай жанчынай, выбітным навукоўцам, якая фактычна ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціла Беларусі і мове яе карэнных жыхароў. Добрага Вам здароўя на многія леты, пані прафесар!

**Крыстына Лялько** *(Мінск, Беларусь)*

# УДЗЯЧНА ЗГАДВАЮЧЫ СУСТРЭЧЫ І РАЗМОВЫ

У дасланых нядаўна ў выдавецтва «Pro Christo» ўспамінах пра святой памяці кардынала Казіміра Свёнтка пані Эльжбета Смулкова піша: «Атмасфера сустрэчаў з выбітнымі людзьмі не забываецца. Можна не памятаць падрабязнасцяў размовы і чарговасці падзеяў, але аўра асобы застаецца ў памяці назаўсёды». «Аўра асобы» самой пані Эльжбеты — інтэлігентнай, мудрай, удумлівай, з мяккаю мелодыкаю беларускай мовы, якая так натуральна гучыць з яе вуснаў, з праніклівым позіркам, з прытоенаю ўсмешкаю ў прыгожых карых вачах, памятаецца з самай першай нашай сустрэчы вясною 1992 года.

Спачатку было запрашэнне ў польскае консульства на вуліцы Румянцава і наша знаёмства, пасля якога я пайшла дадому абдараваная кнігамі самой шаноўнай Аўтаркі, а таксама Тадэвуша Канвіцкага, Сакрата Яновіча, Аляксандра Юрэвіча… Як цяпер разумею, яны былі падараваныя не выпадкова. Памятаю, што пані Эльжбета асаблівую ўвагу звярнула на кнігу Аляксандра Юрэвіча, якая называлася «Lida»: «Вы ж таксама адтуль, вам будзе цікава», — сказала пані Эльжбета. Сапраўды, мне было цікава, і да такой ступені, што я пры першай жа магчымасці паехала ў Гданьск, каб пазнаёміцца з самім аўтарам «Lidy»…

Я вельмі ўдзячна пані Эльжбеце за кантакты з людзьмі польскай культуры і літаратуры, якія духова мяне ўзбагацілі і адкрылі многія невядомыя датуль грані польска-беларускіх узаемаадносінаў…

Не памятаю цяпер, калі і як мы дамовіліся на наша інтэрв’ю, якое пасля было надрукавана ў тым жа 1992 годзе ў 6-м нумары часопіса «Беларусь», у якім я ў той час працавала. Памятаю толькі, што наша доўгая размова, якая распачалася ў працоўным кабінеце пані Эльжбеты ў консульстве, закончылася ўвечары ў яе кватэры на вул. Пуліхава. Я была пад уражаннем навуковых працаў прафесара Смулковай па беларуска-польскіх узаемасувязях і распытвала, з чаго і як пачалася яе зацікаўленасць гэтаю тэматыкаю. Пані Эльжбета пра ўсё падрабязна і цікава распавядала. Тады, напачатку 90-х, у нашым краі распачыналася духоўна-рэлігійнае адраджэнне. Ведаючы, што прафесар Смулкова займалася таксама праблематыкаю мовы ў касцёлах Беларусі, Літвы і Украіны, я закранула ў інтэрв’ю гэтае пытанне. Дазволю сабе прыгадаць яе адказ: «Так, на фоне распаўсюджаных поглядаў, што Каталіцкі Касцёл “апалячваў” беларусаў і літоўцаў, мне сапраўды хацелася даведацца, якімі былі моўныя адносіны ў рэлігійнай практыцы мінулага і як праблема выглядае цяпер, калі Другі Ватыканскі Сабор увёў у літургію нацыянальныя мовы. Раней, як вядома, яна цэлебравалася на латыні. Пасля вывучэння гістарычных

крыніцаў, пісьмовых успамінаў, пасля знаёмства з вуснаю традыцыяй у час дыялекталагічных экспедыцый у мяне склалася вельмі няпростае ўражанне аб гэтай праблеме. Былі і ёсць прыклады, калі набажэнствы і навучанне вернікаў вялося на іх нацыянальных мовах, але былі й выпадкі моўных і не толькі моўных канфліктаў.

Мінулаю восенню мне давялося пабыць на касцельных урачыстасцях у Навагрудку і Вілейцы. Літургія ў гэтых святынях ішла на польскай мове, казанні, Евангелле і лекцыю ксяндзы чыталі па-беларуску і па-польску. Трэба памятаць, што на гэтай тэрыторыі па сённяшні дзень жыве шмат палякаў, якія таксама маюць права на Божую службу на роднай мове.

Наколькі я ведаю, большасць ксяндзоў, што прыязджаюць з Польшчы на Беларусь, разумеюць неабходнасць навучання на той мове, якую людзі найлепш успрымаюць. Некаторыя з іх ведаюць беларускую мову і зусім не супраць аднаўляць на ёй набажэнствы. <…>

Перапоўнены людзьмі мінскі касцёл св. Тройцы на Залатой горцы, дзе ўсе малітвы, спевы, казанні і перадусім сама літургія вядуцца на беларускай мове — найлепшае сведчанне патрэбы і магчымасцяў адраджэння беларускага каталіцызму.

Так ці іначай, праблема мовы ў Касцёле і ў Царкве існуе, але не трэба яе свядома абвастраць… На маю думку, толькі спакойныя, талерантныя адносіны могуць вырашыць гэтае важнае пытанне.

Нельга дапусціць, каб у такой цяжкай эканамічнай і палітычнай сітуацыі дзяржавы паміж праваслаўем і каталіцызмам ці ўніяцтвам, якое пачынае адраджацца, даходзіла да канфліктаў. Цяпер трэба скіраваць агульныя намаганні на пераадоленне арганізацыйна-эканамічных цяжкасцяў, змагацца за перавыхаванне людзей, за адраджэнне духоўнасці ўвогуле. Нас вельмі доўга вучылі класавай барацьбе, падазронасці. Трэба мяняць узаемападыход чалавека да чалавека. Для мяне вельмі важная пашана да іншых людзей, да іх традыцый, поглядаў і перакананняў».

Гэтыя разважанні не страцілі сваёй актуальнасці і сёння. Дарэчы, у сваіх успамінах пра кардынала Свёнтка пані Эльжбета згадвае той вельмі нялёгкі час беларусізацыі Каталіцкага Касцёла і ролю ў гэтым працэсе тагачаснага іерарха.

Тады ж, зразумела, мы размаўлялі не толькі пра складанасці рэлігійнага і духоўнага адраджэння, але і пра грамадскія праблемы, пра польска-беларускія міждзяржаўныя стасункі, пра тое, як адгукаюцца ў гэтых стасунках гістарычныя калізіі. Тады генеральны консул сказала: «Нам трэба пастарацца аб’ектыўна прагледзець гісторыю. У такой сітуацыі нельга абысціся без навуковых працаў, заснаваных на дакументах. Важна глянуць на пэўныя гістарычныя факты з двух бакоў: з польскага і з беларускага. І калі мы пастараемся зрабіць гэта аб’ектыўна і праўдзіва, то многія псеўдаканфлікты могуць

быць адкінуты, перастануць нас мучыць. Але, напэўна, усё ж застануцца і такія, калі пункты гледжання аднаго і другога боку будуць рознымі. І трэба гэта прыняць з разуменнем прычын і ўзаемнай павагаю.

Цяпер адносна будучыні. Калі гаварыць пра факты не агульнанацыянальных, а вузкалакальных або індывідуальных людскіх крыўдаў, то яны, канечне, астаюцца ў памяці. Але нельга іх «гадаваць». Тут якраз важна, каб абодва бакі — і беларускі, і польскі — на гэтых момантах не акцэнтаваліся. Рэдка так бывае, каб нават адна сям'я пражыла і ніхто нікога не пакрыўдзіў. Але трэба навучыцца прабачаць, гэта якраз тое, чаму нас вучыць рэлігія ў штодзённай малітве — уменню адпускаць віну. І калі зноў вярнуцца да нашых міждзяржаўных стасункаў… то трэба неадкладна пачаць будаваць новыя адносіны на новых асновах, якія забяспечаны сучаснымі еўрапейскімі прававымі дамоўленасцямі.

Думаю аб тым, што будучыня нашых адносін у многім залежыць ад таго, як будзе выхоўвацца моладзь. І таму мяне непакоіць тое, што часам, чытаючы беларускую прэсу, заўважаю жаданне асобных аўтараў справу беларускага адраджэння будаваць на пошуках ворагаў, на свядомым перабольшванні некаторых праблем дзеля кансалідацыі нацыі.

У польскім навуковым і палітычным асяроддзі ў мяне ёсць шмат знаёмых, якія спрыяюць беларускаму адраджэнню і сёе-тое зрабілі для паляпшэння кантактаў з Беларуссю.

Перакanana, што ніякай пагрозы з боку Польшчы беларусам баяцца не трэба».

Пані Эльжбета была мудрым дыпламатам, валодала добрай інтуіцыяй і тактам. Дазволю сабе яшчэ адну цытату з тае нашай даўняй гутаркі, якая яскрава гэта пацвярджае. Я тады запытала: «Пані генеральны консул, як вядома, у апошні час у Польшчы з'яўляецца шмат літаратуры на тэму так званых "усходніх крэсаў". Скажам, хоць бы пачатак выдання "Бібліятэкі крэсовай". Што вы думаеце наконт гістарычнай аб'ектыўнасці названай літаратуры?» Пані Эльжбета адказала: «Можна зразумець, што беларусаў хвалюе пашырэнне такой літаратуры. І даволі цяжка тлумачыць, што з'ява гэта не палітычнага характару. Нельга выкрасліць з гісторыі таго, што было. У нас ёсць шмат сем'яў, чые продкі, дзяды і бацькі паходзяць менавіта з заходніх і не толькі заходніх абласцей Беларусі. І зразумела, што яны маюць права ўспамінаць сваю радзіму, сваё маленства. Вы ж ведаеце, што пасля 1939 года, да апошніх палітычных змен у кірунку незалежнасці і дэмакратызацыі жыцця, у Польшчы нельга было нават згадваць у друку пра даўнія ўсходнія землі, пра суайчыннікаў, якія на іх засталіся і многае перажылі… Польская культура ў Вільні, Гродне або Львове была забароненаю тэмаю. Прыйшоў час рэагавання. Людзі цікавяцца тым, што праз многія гады было для іх закрыта або сфальсіфікавана.

У сувязі з гэтым бачу дзве вельмі істотныя рэчы.

Па-першае, гэта аб’ектыўнасць падбору і інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў, здольнасць зразумець важнасць шматнацыянальнага сужыцця народаў, іх фактычнае месца і ролю.

Па-другое, у гэтай літаратуры павінна быць гістарычная аб’ектыўнасць.

Польскі ўрад і парламент, як і значная большасць нашага народа, выказваюцца за непарушнасць дзяржаўных межаў.

Абодвум бакам, і беларускаму, і польскаму, трэба адназначна зразумець, што будаваць новы грамадска-палітычны лад можна толькі пры ўмове захавання спакою і добрасуседскіх адносін».

Выснова застаецца надзвычай актуальнаю і ў наш час.

Не так даўно, крыху больш за два месяцы таму, падчас сваёй паездкі ў Польшчу я сустрэлася з пані Эльжбетаю ў падваршаўскім Атвоцку, дзе яна папраўляла здароўе ў санаторыі. У часе гэтай сустрэчы яна падаравала мне сваю кнігу «Był dom we Lwowie», на якой у прыватнасці напісала: «Dla porównania sytuacji katolików na Białorusi z zachodnioukraińską» — нібы ў працяг таго інтэрв’ю ўжо больш як дваццацігадовай даўнасці, а яшчэ ж памятаючы і пра квартальнік «Наша вера», уважліваю і зычліваю чытачкаю якога яна з’яўляецца ад самага пачатку яго выдання. За што я ёй асабліва ўдзячна.

Вялікая, альбомнага фармату кніга «Był dom we Lwowie» непадобная на ўсе ранейшыя кнігі прафесара Эльжбеты Смулковай. Яна сама піша пра гэта ў прадмове: «Niniejsza książka odbiega od wszystkich moich dotychczasowych publikacji. Nie ma charakteru naukowego ani publicystycznego, jest rejestracją pamięci, w tym nastrojów i uczuć…»

Для мяне гэтая кніга па-новаму адкрыла пані Эльжбету, адкрыла найперш як чалавека, як асобу надзвычай глыбокую, якая памятае і шануе свае карані, гісторыю свайго роду, сваіх сяброў, многія з якіх ужо адышлі ў вечнасць. Гэтак, як рупліва збірала яна раней дыялекты суседніх моваў, гэтак рупліва пазбірала, апрацавала і таленавіта падала ўспаміны і сведчанні блізкіх яе сэрцу людзей з горада свайго маленства, з роднага і незабыўнага Львова…У гэтых дакументальных запісах і сабраных у кнізе матэрыялах ёсць дзіўны магнетызм праўды жыцця, якое не заканчваецца тут, на зямлі, а дзякуючы нашай памяці мае свой працяг у вечнасці, пакідаючы ў душы святло і надзею…

Кожная сустрэча і кожная размова з пані Эльжбетаю, нават самая кароткая, узбагачае і хвалюе сэрца адчуваннем свята. І тады з удзячнасцю думаеш, што сумоўе з мудрым, адукаваным, інтэлігентным чалавекам — гэта адна з найбольшых духоўных раскошаў, якімі часам адорвае нас Пан Бог на гэтым свеце.

**Ірына Багдановіч** *(Мінск, Беларусь)*

# ПРАФЕСАР ЭЛЬЖБЕТА СМУЛКОВА АБ ПРАБЛЕМЕ САМАІДЭНТЫФІКАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ

Знаёмячыся з мовазнаўчымі і культуралагічнымі даследаваннямі слыннага польскага беларусіста прафесара Эльжбеты Смулковай, я асабліва цікавілася яе працамі, прысвечанымі праблеме беларускай самаідэнтыфікацыі. На грунце сваіх мовазнаўчых доследаў, праведзеных у Беларусі, а таксама назіранняў падчас працы амбасадарам 1991–1995 гг. пані прафесар зрабіла цэлы шэраг важных назіранняў і высноў, якія выглядаюць і сёння актуальнымі і каштоўнымі. Звяртаюся да добра вядомага ў Беларусі фундаментальнага выдання — кнігі прафесара Смулковай «Białoruś i pogranicza. Studia o języku i społeczeństwie» (Варшава, 2002), дзе маю ўвагу сярод іншага прыцягвае артыкул «Wokół problemu poczucia tożsamości mieszkańców Białorusi», напісаны і прачытаны ў якасці даклада ў Варшаўскім універсітэце яшчэ ў 1996 г. і апублікаваны ў 1997 г. (у навуковым выданні «Przegląd Wschodni», t. 4, z. 3).

Аўтар даводзіць у пачатку, што тыя развагі, якія яна прадстаўляе ў гэтым артыкуле, «абапіраюцца на маім шматгадовым навуковым дыялектна-беларусістычным досведзе (палявыя доследы і непасрэдны кантакт з людзьмі вёсак), а таксама вынікаюць з вобразу Беларусі, які ўзнік і набыў свае абрысы падчас дыпламатычнай службы ў знамянальныя 1991–1995 гады». Далей дакладна па пунктах разглядаюцца складнікі, якія звязаны з рознымі аспектамі і спецыфікай нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. Найперш аўтар звяртае ўвагу на тое, што паводле перапісу 1989 г. беларусы складаюць 80 % жыхароў сваёй краіны. Але гістарычныя, грамадска-палітычныя і культурныя рэаліі абумовілі тое, што даволі цяжка акрэсліць аб’ектыўнае становішча з пачуццём нацыянальнай самасвядомасці беларускага насельніцтва. Трэба лічыцца з прысутнасцю ў ёй розных узроўняў — ад выразнай беларускай самаідэнтыфікацыі, здольнай выяўляцца ў развіцці нацыянальнай культуры і дзяржаўнага суверэнітэту, аж да пазіцыі значнай нацыянальнай амбівалентнасці і імкнення да ранейшых савецкіх структураў, — піша пані прафесар.

На ўзроўні народна-этнічным, які прадстаўляе просты вясковы люд, — дзеліцца далей сваімі назіраннямі аўтар, — пачуццё беларускай ідэнтычнасці выяўляецца перадусім у прывязянасці да роднай зямлі, краявіду, звычаяў і абрадаў і ва ўсведамленні, што мова сям’і і ваколіцы мае толькі лакальнае (мясцовае) значэнне. «Усведамленне патрэбы авалодаць мовай вышэйшага статусу, у выпадку, калі хочаш выйсці за вузкае кола “малой радзімы”, ёсць як бы звыш упісаным у пачуццё беларускай сялянскай ідэнтычнасці», — адзначае прафесар Смулкова.

Чарговым складнікам гэтай «тожсамасці», звязаным з памяццю — са зменамі дзяржаўнай прыналежнасці, рэпрэсіямі, войнамі, ёсць пэўная абыякавасць у адносінах да ўлады і дзяржаўных структураў, на якія няма ніякага ўплыву і якім трэба адно толькі падпарадкоўвацца. Гэта спараджае тым большыя «ўцёкі» ў свой мясцовы (лакальны) свет як адзіны трывалы і надзейны. Там, дзе сутыкаюцца абедзве канфесіі — каталіцкая і праваслаўная, — у структуру пачуцця беларускай ідэнтычнасці ўваходзіць і рэлігійны складнік, які часам скіроўвае да атаясамленняў: «рускі» = праваслаўны, «польскі» = католік. Такія адрозненні могуць існаваць як пры адпаведнай ідэнтыфікацыі, так, у большасці, могуць быць толькі падкрэсліваннем розніцы ў веравызнанні пры агульнай беларускай самаідэнтыфікацыі.

Далей пані прафесар спыняецца на патрыятычнай дзейнасці Беларускай каталіцкай грамады (у пачатку 1990-х гг.) і духавенства, якое ўводзіла ў практыку набажэнстваў у касцёле беларускую мову. Яна піша: «Аб тым, што гэтыя старанні не можна трактаваць выключна як замах на правы польскай нацыянальнай меншасці (на гэтую тэму была публікацыя ў 1992 г. у газ. «Głos znad Niemna»), сведчыць, між іншым, бачанае мною ў 1991–1995 гг. развіццё парафіі св. Роха на Залатой Горцы ў Мінску, адзінай хіба ў Беларусі парафіі выключна беларускамоўнай, злучыўшай прадстаўнікоў усіх пакаленняў, а асабліва беларускую інтэлігенцыю і моладзь».

Названыя элементы беларускай ідэнтычнасці часта адбіваюцца ў літаратуры гэтага краю, асабліва ў паэзіі, напрыклад у вершы Рыгора Барадуліна, у якім ён гаворыць, што трэба дома бываць часцей, каб не страціць чагосьці святога: мовы, каранёў, з якіх вырас.

Найважнейшым у шэрагу разважанняў прафесара Смулковай нам падаецца яе сцвярджэнне, што «нават пры значнай ступені нацыянальнай і перадусім дзяржаўнай амбівалентнасці беларусы не ідэнтыфікуюць сябе ні з якім іншым народам». Аб’ектыўна, — піша яна, — ад першага разбору Рэчы Паспалітай жывучы ў сферы расійскай улады-самадзяржаўя, цягацеюць да Расіі, але з расіянамі не ідэнтыфікуюцца, часта можна пачуць выразы тыпу: «Рускія — гэта нашы браты. Нашы браты, але мой брат — гэта ж не я». Тое ж самае і з польскасцю: большасць нават «празаходне» настроеных беларусаў, якія маюць сваяцкія сувязі з палякамі, не атаясамліваюць сябе з польскасцю. Аўтар выказвае думку, што большасць беларусаў чуюць сябе больш чужымі ў адносінах да Польшчы, чым у адносінах да Расіі. Адсюль вынікае і тая моўная сітуацыя, якая існуе ў краіне: амаль паўсюдны пераход гарадскога насельніцтва на расійскую мову ў штодзённай камунікацыі, а за гэтым ідзе павелічэнне ўплыву расійскай мовы на беларускія народныя гаворкі ў вёсках. Мовай мяшанай, беларуска-расійскай, так званай «трасянкай», пачынае гаварыць таксама вёска, асабліва тыя, хто выконвае нейкія ўрадавыя,

службовыя функцыі: старшыні калгасаў, лекары, ветэрынары, адміністрацыя і таму падобныя.

Закранаючы глыбока праблему мовы ў Беларусі, даследчыца аналізуе таксама і фактары супраціву асіміляцыі. Яна адзначае, што на хвалі «перабудовы» 26 студзеня 1990 г. беларускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай і гэта было ўспрынята з вялікім энтузіязмам нацыянальна свядомай часткай беларускага грамадства, з надзеяй на паступовае пашырэнне сферы яе ўжытку, каб тым самым супрацьстаяць поўнай русіфікацыі краіны. Яна згадвае дзейнасць вядомага беларускага інтэлектуала, вучонага-беларусіста Аляксея Каўкі ў Маскве: першым моцным заклікам супраць асіміляцыі быў менавіта ягоны, ананімны тады, зварот, апублікаваны спачатку ў «Самвыдаце» ў выглядзе ліста да прыяцеля-расіяніна, а потым у 1979 г. у Лондане на англійскай і расійскай мовах. Гэта была важная публікацыя, у якой звярталася ўвага на розніцу ўспрыняцця моўнай сітуацыі ў Беларусі прадстаўнікамі розных славянскіх народаў, якія наведвалі нашу краіну. Даследчыца прыводзіла красамоўную цытату з гэтага ліста: «В реакции со стороны на современное положение белорусского языка заметно различие во взглядах посещающих БССР украинцев, поляков, чехов, словаков, болгар и *русских*. Первые недоумевают по поводу искусственного задерживания, вторые — по поводу “искусственного” насаждения белорусского языка в Белоруссии».

Яшчэ адным яскравым фактарам супраціву асіміляцыі была, як згадвае Эльжбета Смулкова, гучная праца Алега Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», створаная ў 1979–1981 гг., якая «кружыла» па Беларусі ў машынапісе і была надрукавана ў Лондане ў 1985 г. Яна прынесла шмат клопатаў не толькі аўтару, бо стала прычынай закрыцця сектара сацыяльнай псіхалогіі і эстэтыкі, якім кіраваў У. Конан у Інстытуце філасофіі і права НАН Беларусі.

Далей пані прафесар разважае над вынікамі майскага рэферэндуму 1995 г., якія за мяжой былі ўспрынятыя з вялікім здзіўленнем і сталі нагодаю думаць аб слабой нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. Першае пытанне — аб роўных правах рускай і беларускай моў — атрымала падтрымку 83,3 % (пры 64,7 % галасуючых); другое пытанне — аб новай дзяржаўнай сімволіцы — 75,1 %; трэцяе — кірунак на ўмацаванне эканамічнага звязку з Расіяй — 83,3 %. Вынікі рэферэндуму, як лічыць аўтар, былі выражэннем надзей значнай часткі грамадства, змучанага наступствамі распаду цэнтралізаванай гаспадаркі і не замененай ніякай новай рэфармаванай сістэмай, выражэннем надзей, што новаабраны, выхадзец з народа, увядзе адпаведны лад і парадак, а таксама паправіць умовы жыцця людзей.

Усе свае разважанні даследчыца падсумоўвае ў грунтоўных высновах, падкрэсліваючы перадусім шматкультурнасць як унікальную асаблівасць Беларусі. Яна піша, што, па-першае, Беларусь ёсць «тэрыторыяй збегу куль-

туры візантыйскай і лацінскай», гэта найяскравей увасабляецца ў дзвюх галоўных канфесіях (у праваслаўі і ў каталіцызме), але выразна ўплывае таксама на ментальнасць грамадства і свецкую культуру. Тут умацаванымі ад вякоў былі таксама іншыя культуры: значнае месца займала культура жыдоўская, дзе ідыш побач з польскай і расійскай ужываўся ў статусе дзяржаўнай мовы, дзе да сённяшняга дня атаясамліваюць сябе з беларускасцю мноства жыхароў Беларусі жыдоўскага паходжання. Не без значэння для культуры беларускай існуюць таксама мусульманскія традыцыі, якія прадстаўляюць мясцовыя татары.

Па-другое, гістарычны шанц развіцця беларускай дзяржаўнасці, а з ім — беларускай нацыянальнай свядомасці і яе атрыбутаў, шанц, які стварыў распад СССР, залежыць, з аднаго боку, ад таго, наколькі ўлада і ўплывовая грамадская думка на Беларусі захоча гэтую шматкультурнасць не толькі падтрымаць, але і вызнаць за спецыфіку і вартасць; а з другога боку, ад таго, ці ў дастатковай ступені перамогуць у Расіі дэмакратычныя тэндэнцыі, каб перастаць лічыць Беларусь сваёй малацікавай паўночна-заходняй правінцыяй і завязаць з ёй двухбаковыя партнёрскія стасункі.

Як бачна, глыбокія развагі і слушныя высновы гэтай навуковай працы прафесара Эльжбеты Смулковай не страцілі сваёй актуальнасці і пры ўсёй складанасці пытання, існавання рэальных перашкодаў у працэсе складвання і ўмацавання беларускай ідэнтычнасці, пагляд вядомага славіста скіраваны ў будучыню і дае надзею на паглыбленне і беззваротнае ўмацаванне ў перспектыве беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці праз адпаведныя складнікі. Сярод іх ключавая роля можа належаць рэальнаму дзяржаўнаму статусу беларускай мовы.

## ФРАГМЕНТЫ КНІГІ І БІЯГРАФІІ







У гонар прафесара Эльжбеты Смулковай падчас канферэнцыі адбылася першая прэзентацыя прысвечанай ёй кніга вядомага пісьменніка і журналіста Валера Каліноўскага «Пані Эльжбета: Гісторыя адной прыязьні» (Смаленск, 2016). Напісаная на грунтоўнай дакументальнай аснове, кніга не толькі шматбакова і глыбока асвятляе найважнейшыя этапы ў сямейнай, навуковай і дыпламатычнай біяграфіі гераіні, але прадстаўляе сабой глыбокі роздум аўтара аб лёсе чалавека ў гістарычным часе і аб часе, які працякае праз чалавечы лёс. У гэтым «узаемапрацяканні» найважнейшае, можа, не колькасць і незвычайнасць вонкавых падзей, а тая ўнутраная дужасць характару, моц духу, якія дапамагаюць чалавеку ў жыццёвых выпрабаваннях. Аўтар кнігі зрабіў мужнае ўласнае падарожжа ў той Час і Лёс, прайшоў і праехаў не толькі «горнімі», але й балючымі сцежкамі сваёй гераіні, а таму яго аповед так узрушвае чытача.

*«Мне восем гадоў. Ноч. Мяне будзяць чужыя рэзкія галасы, якія чуваць з-за асьветленых дзьвярэй сталавальні. Ложачак малодшай сястры пусты. Выбягаю ў вітальню. Ля ўваходных дзьвярэй стаіць савецкі салдат зь вінтоўкай. Жах! Уцякаю, заскокваю ў ложак. Чакаю. Праз хвіліну ў спальню заходзіць бацька ў верхняй вопратцы, адразу за ім чужак у цывільным. Бацька сакрэтным рухам усоўвае мне ў ручку свой заручальны пярсьцёнак: «Памятай, чыя ты дачушка!» Цалуе і сыходзіць. Да болю сьціскаю ў заціснутым кулачку той незразумелы тады скарб».*

**Так пані Эльжбета згадвае страшную ноч на 23 сакавіка 1940 году: ў львоўскую кватэру Эльжбеты Баран прыйшлі па бацьку людзі ў форме і цывільным. Гэта быў апошні раз, калі яна, яе маці і сястра бачылі свайго мужа і бацьку Казімежа Леана Барана, намесьніка кіраўніка Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Львове. Толькі ў 1995 годзе дочкам Казімежа Барана ўдалося знайсьці бацькава прозьвішча ў апублікаваным «Украінскім сьпісе» катынскіх ахвяраў на аркушы 72/2 пад нумарам 91.**

*«22 мая 1941года. Ушэсьце. Начны стук у дзьверы. Пакаваньне рэчаў. Расстаньне зь Лёляй. У цягніку палова на палову грамада польская і ўкраінская. Разьмяшчэньне ў вагоне для жывёлы. Праверка дакумэнтаў — замыкаюць дзьверы. Першы сьняданак у вагоне: чорны хлеб, вада, кавалачак цукру. Абед такі самы, такая ж і вячэра, з той розьніцай, што хлеб белы. Ноч. Цемра ўзмацняе роспач, людзі енчаць, кляака ў вагоне — бракуе месца».*

**Гэтыя радкі маці пані Эльжбеты Яніна Баранова напісала ў перапоўненым цялячым вагоне ў цягніку, які йшоў са Львова пяць тысяч кілямэтраў праз Здалбунаў, Ракітна, Мазыр, Гомель, Бранск, Арол, Тулу, Пензу, Куйбышаў, Уфу, Чалябінск, Новасібірск, Томск. Дзёньнік пісаўся таемна ў школьным сшытку хімічным алоўкам. Быў апублікаваны толькі пасьля распаду савецкага блёку. Пазбаўленая бацькі сям'я пані Эльжбеты была сасланая на 20 гадоў у балоты і тайгу Нарымскага краю. Пазьней вырак пра 20 гадоў быў скасаваны, але сям'я заставалася ў Сыбіры аж да канца вайны.**

**Захавалася зробленае Янінай Барановай апісаньне сустрэчы першых у Сыбіры Калядаў:**

*«Дрэўца з тайгі прынёс дрывасек, годны і зычлівы чалавек, які працаваў на вырабе клёпак; гэта была зграбная і прапарцыйная ельніца з цудоўнымі доўгімі іголкамі. Мы зрабілі розныя цацкі з даступных тут матэрыялаў, і атрымалася вельмі прыгожае дрэўца. Шопку я зрабіла зь бярозавай кары з зорачкай і надпісам Gloria in excelsis Deo! Беручы пад увагу горкія сьлёзы, якія капалі падчас склейваньня, — можна сказаць, што шопка была даражэйшай за ўсе львоўскія крамныя».*

**Эльжбета Смулкова кажа, што перш не зьбіралася рабіцца мовазнаўцай. З самага дзяцінства яна марыла стаць лекаркай, пасьля гімназіі**

**падала дакумэнты на паступленьне ў мэдычны інстытут, але дакумэнты ў гарадзкой прыёмнай камісіі адклалі, згадвае пані Эльжбета:**

*«Гэта быў час, калі ў мэдычны інстытут бралі толькі тых, хто быў чальцом польскага камсамолу — Зьвязу польскай моладзі. Я ж у такую арганізацыю не хацела. Пасьля Сыбіру гэта было адназначна. Але я адначасова вельмі цікавілася польскай літаратурай, любіла яе, і гэты прадмет для мяне быў новы, бо я ня мела магчымасьці вучыцца ў нармальнай польскай школе».*

**Гэтая кніга не толькі аб пані Эльжбеце, але і аб яе настаўніцах — прафэсарах Галіне Трускай і Антаніне Абрэмбскай-Яблонскай, якія скіравалі яе ў славістыку і беларусістыку. Прафэсар Абрэмбска-Яблоньска, напэўна, заслугоўвае на тое, каб у Беларусі пра яе напісалі асобную кнігу, але няхай для пачатку будзе прысьвечаны ёй разьдзел у кнізе пра адну зь яе любімых вучаніц.**

*«Кантакт з прафэсарам Антанінай Абрэмбскай-Яблоньскай ня толькі дазволіў мне глыбей увайсьці ў беларусазнаўчую і дыялекталягічную праблематыку, але дазволіў значна пашырыць славістычныя дасьледаваньні… Сваім прыкладам, разуменьнем і зацікаўленасьцю яна паказала нам Беларусь як краіну цікавую, вартую таго, каб сур’ёзна заняцца яе пазнаньнем».*

**Пані Эльжбета шмат езьдзіла ў БССР, вывучала тое, што было пад паверхняю вонкавай савецкасьці. Вучылася Беларусі, знаходзіла сяброў.**

*«Тады я зразумела, што трэба вельмі сьпяшацца, каб яшчэ захаваць для нашчадкаў рэшткі сьвету тамтэйшай культуры і мовы, які гіне. Цывілізацыйныя зьмены ў вёсцы, і перадусім яе трагічнае абязьлюджваньне, вядуць да заняпаду народных традыцыяў і гаворак».*

**Пані Эльжбета ня толькі глыбока пазнавала беларускую мову, але і заўсёды была яе гарачым абаронцам, ведаючы яе крызісны стан у грамадзтве, у савецкі час і цяпер:**

*«Мне гэта вельмі крыўдна, можа, таму я сьвядома ў Беларусі заўсёды размаўляю па-беларуску. Дзе б ні была. Мне вельмі шкада, бо маю поўнае разуменьне таго, што беларуская мова мае раўнапраўную магчымасьць існаваньня разам зь іншымі славянскімі мовамі. Лінгвісты дакладна разумеюць, што мова мае свае ўнутраныя правілы і падлягае розным вонкавым абмежаваньням. Прычына таго, што значэньне беларускай мовы невялікае і падае далей, — не ўнутрымоўная, яе абмяжоўваюць вонкавыя ўмовы».*

**Найбольшы разьдзел кнігі «Пані амбасадар» – пра падзеі пачатку 90-х гадоў, пра імклівае адраджэньне польска-беларускіх міждзяржаўных сувязяў на партнэрскім грунце.**

*«Мне было дадзена працаваць у Беларусі ў пераломную эпоху, у 1991–1995 гадох. Гэта быў вельмі цікавы, творчы час інтэнсіўнай зьмены ладу ў Польшчы, распаду Савецкага саюзу і ўзьнікненьня новай беларускай дзяржаўнасьці. Незалежнасьць Беларусі мы ўспрынялі як вялікую радасьць,*

*як магчымасьць наладзіць зусім новыя партнэрскія дачыненьні, цешыліся, што будзе ў нас самастойны сусед, зь якім мы зацікаўленыя супрацоўнічаць».*

**Ёсьць у кнізе і глава «Разварот» пра тое, як гэтыя сувязі пачалі пасьля 1994 года астываць, ёсьць погляд на цяперашнія падзеі і на блізкую будучыню.**

*«Беларусь жа цяпер разглядаюць на Захадзе як нейкую філію Расеі, якая сама дэкляруе, што хоча жыць у супольнасьці з тым усходнім абшарам, а не з заходнім. Так што ад самой краіны, ад самой дзяржавы Беларусі перадусім залежыць, якую яна для сябе абярэ дарогу — эўрапейскую ці эўраазіяцкую».*

**Пані Эльжбета перакананая, што Польшча зацікаўленая ў тым, каб яе суседзі, як Літва, якая ўжо сябра Эўразьвязу, а таксама Беларусь і Ўкраіна, прэтэндавалі на далучэньне да эўрапейскай супольнасьці.**

**На астанак цытата з успаміну пані Эльжбеты пра падзеі пад час сваёй амбасадарскай кадэнцыі ў Менску:**

*«На сьвята 25 Сакавіка Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч былі сярод многіх людзей у прэзыдыюме ўрачыстага сходу ў менскай філярмоніі. Гэта была вялікая ўрачыстасьць, гучала добрая музыка, заля была перапоўненая, нават не было дзе стаць. Апрача цывільных, было шмат вайскоўцаў, людзей у сутанах, сьвятароў, манашак... Былі прамовы, сьпевы, дэклямаваньне. Усё ў такім вельмі патрыятычным духу. Пазьней я больш нічога такога ня бачыла, як у гэты вечар. Адчуваўся сапраўдны энтузіязм, і пасьля кожнага выступу на цэлую залю грымела “Жыве Беларусь!”»...*

Кніга Валера Каліноўскага ўзрушвае і захапляе чытача больш як які прыгодніцкі ці авантурны раман, бо ў яе аснове ляжаць факты і дакументы, што раскрываюць праўдзівы лёс жанчыны, вучонага-філолага, палітыка, якая перанесла разам са сваёй сям’ёй усе драмы і трагедыі, што выпалі на долю беларусаў і палякаў у XX стагоддзі, а гэта перадусім жудасныя рэпрэсіі сталінскага таталітарнага рэжыму супраць паняволеных народаў былой расійскай і новай савецкай імперыі. Мужна вытрымаўшы ўсе тыя завеі і сцюжы, ёй дадзена было самой упісаць яркія, поўныя жыццесваральнай моцы і надзей старонкі ў гісторыю і культуру менавіта нашай краіны — Беларусі, спрычыніцца да ўмацавання яе дзяржаўнасці, а таксама пакласці новы пачатак садружнасці, супрацоўніцтву і ўзаемаразуменню нашых народаў дзеля будучыні.

# МОВАЗНАЎСТВА

**Вольга Барысенка** *(Мінск, Беларусь)*

## АСАБЛІВАСЦІ ВЫКЛАДАННЯ ПОЛЬСКАЙ МОВЫ БЕЛАРУСКАМОЎНЫМ НАВУЧЭНЦАМ (на матэрыяле метадычнага дапаможніка Р. Калеты «Польска-беларуская глотадыдактычная ляпсалогія»)

Яшчэ ў 70-я гг. XX ст. Савет Еўропы прапанаваў удасканаліць сістэму навучання замежным мовам. Асноўным падыходам быў прызнаны камунікатыўны сістэмна-дзейны падыход. Дыдактычнай парадыгмай на сучасным этапе агульнапрызнана камунікатыўнае навучанне, арыентаванае на такую арганізацыю адукацыйнага працэсу, якая ўзнаўляе ўсе неабходныя ўмовы рэальнага кантактавання сродкамі мовы вывучэння адэкватна працэсу камунікацыі, абмену інфармацыяй.

Перавагі такога падыходу відавочныя, аднак выкладанне польскай мовы ў Беларусі мае пэўныя асаблівасці. Было б памылковым не выкарыстоўваць веданне навучэнцамі беларускай і рускай моў. Такім чынам, неабходна спалучаць інавацыйны камунікатыўны падыход з традыцыйным, які засноўваецца на абавязковым суаднясенні замежнай мовы з роднай, у нашым выпадку — польскай мовы з беларускай і рускай. З’ява станоўчага пераносу садзейнічае развіццю навыкаў моўнай здагадкі ў навучэнцаў. Пры гэтым неабходна памятаць пра заканамернае ўзнікненне беларуска-польскай дэструктыўнай інтэрферэнцыі, якая падчас ускладняе працэс засваення лексікі і граматыкі, уплывае на чысціню мовы. Гэта праяўляецца ў граматычных характарыстыках слова і яго сінтаксічнай спалучальнасці ўнутры словазлучэння і сказа.

Праблемам кантактаў і змяшэння моў, моўнай інтэрферэнцыі прысвяцілі свае працы шматлікія даследчыкі, пачынаючы ад Гумбальта. Адны спыняліся толькі на лінгвістычных механізмах, іншыя закраналі таксама пытанні ўплыву на гэтыя працэсы сацыяльна-эканамічных і культурна-гістарычных фактараў. У апошні час сталі папулярнымі ідэі сінергетыкі. Тэрмін *сінергетыка* ўвёў ва ўжытак Г. Хакен у 70-я гг. XX ст. для намінацыі міждысцыплінарнага кірунку навуковых даследаванняў самых розных галін ведаў. Сёння сінергетыка разумеецца як вучэнне аб самаарганізацыі складаных сістэм, механізмах катастроф і хаосу, а таксама самаразвіцці з моў падчас крызісных сітуацый

новых лінгвістычных структур. Гэтыя ідэі паўплывалі на метадалогію супастаўляльнай і інтэрферэнцыйнай лінгвісткі, як вынік пачалі інакш разглядацца пытанні моўных кантактаў і змяшэння моў.

Пры разглядзе пытання польска-беларускай інтэрферэнцыі цікава знайсці заканамернасці гэтага працэсу. Ад чаго, акрамя ступені валодання мовай, можа залежаць ступень інтэрферэнцыі ў беларускамоўных навучэнцаў пры вывучэнні польскай мовы, якія часціны мовы найбольш падпадаюць пад уздзеянне іншай мовы і з чым гэта можа быць звязана.

Р. Калета ў сваім навукова-метадычным дапаможніку «Польска-беларуская глотадыдактычная ляпсалогія» («Polsko-białoruska lapsologia glottodydaktyczna», 2015) распрацоўвае вельмі актуальны кірунак кантрастыўнай лінгвістыкі — тыпы памылак беларускамоўных навучэнцаў пры вывучэнні польскай мовы, а таксама прычыны гэтых памылак, шляхі папярэджання і выпраўлення. У айчыннай лінгвадыдактыцы паралелі беларускай і польскай моў разглядалі А. Аксамітаў, М. Бірыла, У. Анічэнка, Г. Арашонкава, А. Булыка, І. Лучыц-Федарэц, А. Супрун, Л. Шакун, П. Шуба, Г. Цыхун, К. Гюлумянц, А. Кіклевіч, А. Кожынава, І. Кур'ян, А. Пацехіна, С. Важнік і інш. Найбольш аналізаваліся пытанні дыялекталогіі, фанетыкі, лексікалогіі і фразеалогіі, граматычны аспект быў найменш асветленым. А. Кіклевіч тлумачыць пэўную навуковую пасіўнасць у беларуска-польскай лінгвістычнай кампаратывістыцы ўяўным падабенствам беларускай і рускай моў, уплывам традыцый рускага мовазнаўства, дынамікай нормы сучаснай беларускай мовы [2, с. 96]. Вучэбна-метадычны дапаможнік «Польская мова» А. Кіклевіча, А. Кожынавай, І. Кур'ян падае ці не ўпершыню супастаўляльную граматыку польскай і беларускай моў.

Праца Р. Калеты заснаваная на фактычным матэрыяле, сабраным падчас працы з беларускімі студэнтамі, якія вывучалі польскую мову. Аўтар аналізуе розныя глотадыдактычныя памылкі: фанетычныя, арфаграфічныя, лексічныя, словаўтваральныя і граматычныя. Р. Калета слушна спыняецца на асаблівасцях моўнай сітуацыі ў Беларусі — білінгвізме, які, натуральна, праяўляецца пры вывучэнні яшчэ адной блізкароднаснай мовы — польскай. Блізкасць рускай і беларускай моў і роўнае валоданне імі навучэнцамі прыводзіць да таго, што часам бывае цяжка класіфікаваць глотадыдактычную памылку як русізм ці беларусізм. Пры гэтым паланісты адзначаюць пэўны лінгвістычны феномен моўных памылак беларусаў. «Studenci białoruscy — niezależnie od tego, czy na co dzień posługują się językiem rosyjskim, czy białoruskim — i tak odwołują się (świadomie czy nie) do języka białoruskiego przy nauce języka polskiego, gdyż w sytuacjach, kiedy nie mogą oni znaleźć polskiego odpowiednika, częściej sięgają po wyraz białoruski, a nie rosyjski, ponieważ w ich świadomości głęboko zakodowane jest przekonanie, że język białoruski jest bardziej podobny do polskiego niż rosyjski» [3, c. 23].

У сваім даследаванні Р. Калета дае агляд навуковай літаратуры Польшчы, прысвечанай моўным памылкам навучэнцаў падчас авалодання замежнай мовай. Цікавасць да гэтай праблемы паўстала ў 60-х гг. мінулага стагоддзя і была выклікана практычнымі патрэбамі ўдасканалення методыкі выкладання замежных моў. Асобныя раздзелы кнігі прысвечаны навукова-метадычным поглядам такіх даследчыкаў, як Францішак Груша, Вітольд Чэнкоўскі, Ганна Камароўска, Аляксандр Шульц, Гражына Бялкоўска, Бажыдар Л. Й. Качмарэк і інш. Р. Калета крытыкуе састарэлыя метадычныя падыходы да кантынгенту навучэнцаў польскай мове як замежнай як да ўніверсалізаванай асобы з Усходу. Неабходны нацыянальна арыентаваныя падручнікі польскай мовы асобна для рускіх, для беларусаў, для ўкраінцаў. «Bardzo ważne jest, by powstały podręczniki języka polskiego jako obcego przeznaczone dla konkretnych grup narodowościowych, napisanyne przez reprezentantów tych grup, którzy dobrze rozumieją problem w nauce języka polskiego, napotykane przez ich rodaków» [3, с. 65].

Другая глава даследавання прысвечана кантрастыўнаму аналізу беларускай і польскай моў. Аўтар акцэнтуе ўвагу на тых асаблівасцях графікі, фанетыкі і граматыкі, якія могуць выклікаць цяжкасці пры навучанні беларусаў польскай мове. Гэтыя цяжкасці абумоўлены з'явамі міжмоўнай адмоўнай інтэрферэнцыі, калі правілы роднай мовы, у нашым выпадку беларускай, механічна пераносяцца ў мову навучання — польскую.

Найбольшай навуковай і метадычнай каштоўнасцю вызначаецца трэцяя глава метадычнага дапаможніка Р. Калеты. У ёй падаецца тыпалогія моўных памылак беларускіх студэнтаў пры вывучэнні польскай мовы. Гэты падрабязны аналіз будзе вельмі карысным для выкладчыка (асабліва польскага паходжання) польскай мовы як замежнай. Падчас напісання манаграфіі Р. Калета выкарыстаў моўны матэрыял з 270 рознага роду пісьмовых прац (лісты, эсэ, тэсты, экзаменацыйныя матэрыялы). Аўтар кантактаваў са 130 асобамі, якія вывучалі польскую мову ў розных навучальных установах Польшчы і Беларусі. «W sumie uwzględniono 515 błędów (127 błędów fonetycznych, 142 błędy ortograficzne, 9 błędów interpunkcyjnych, 122 błędy fleksyjne, 85 błędów składniowych, 4 błędy słowotwórcze)» [3, с. 175]. Даследаванне Р. Калеты мае вялікае практычнае значэнне, яно дазваляе выявіць элементы фанетычнага, граматычнага і лексіка-семантычнага разыходжання паміж дзвюма мовамі, на якія неабходна звярнуць асаблівую ўвагу ў працэсе навучання. Лексіка-семантычны аналіз з'яў інтэрферэнцыі ў польскім пісьмовым і вусным маўленні студэнтаў-беларусаў адбываецца ў наступных кірунках: запазычанне ці калькаванне значэння беларускіх слоў на блізкія па форме польскія; калькаванне фразеалагічных зваротаў ці словазлучэнняў на блізкія па значэнні польскія звароты і словазлучэнні, скажэнне пабудовы словазлучэнняў і фразеалагізмаў; памылковае ўжыванне слоў ці выразаў як вынік недастатковага ведання ці разумення ўжытых слоў праз падабенства іх

па гучанні з беларускімі словамі, ужыванне слоў у неадпаведным кантэксце, а таксама памылкі — вынік словаўтваральных асацыяцый. Граматычны аналіз паказаў, што найбольш нестабільнымі з'яўляюцца найперш валентнасныя адносіны дзеяслоўнага выказніка з іменнымі словамі і словазлучэннямі, якія выступаюць у ролі дапаўнення, прамога ці ўскоснага. Найбольшая колькасць парушэнняў валентнасных сувязяў прыходзіцца на прыназоўнікава-склонавае кіраванне. Такім чынам, неабходна звяртаць увагу на засваенне студэнтамі польскіх сінтаксічных канструкцый. Тым больш, што «менавіта на сінтаксічным узроўні адбываецца сінтэз усіх "будаўнічых" адзінак мовы, характэрная для кожнай мовы "карціна свету" праяўляецца ў тым, як прадстаўнікі той ці іншай этнічнай культуры выражаюць, а часта і рэалізуюць думкі ў сказавых і тэкставых формах. Таму менавіта супастаўленне сінтаксічных мадэлей (схем) і працэсаў адкрывае лінгвістам шлях да пазнання спецыфікі моўнага мыслення прадстаўнікоў кожнай моўнай супольнасці, бо, як вядома, моўнае мысленне, згодна з традыцыяй, якую распачаў выдатны польскі антраполаг Браніслаў Маліноўскі, з'яўляецца часткай культуры» [1, с. 16].

Сучасныя падручнікі замежных моў накіраваны на вырашэнне праблем узаемаразумення ўдзельнікаў камунікацыі, прадстаўнікоў розных культурных традыцый, знішчэнне культурных бар'ераў, ліквідацыю культурнага шоку пры наладжванні міжнародных стасункаў. Для гэтага неабходна быць гатовым да зносінаў на замежнай мове з яе носьбітам, каб моўныя знакі сталі выконваць функцыю мовы культуры. Калі раней дзейнічала формула «навучанне мове і азнаямленне з культурай», то сёння — «вывучэнне мовы і азнаямленне з культурай — навучанне мове». Культура ўжо паўстае складнікам камунікатыўных запатрабаванняў навучэнцаў, як аснова маўленчых сітуацый. Камунікатыўна-дзейны падыход павінен рэалізоўвацца абавязкова ў кантэксце ўзаемадзеяння культур. З'яўляючыся прадстаўнікамі славянскай сям'і народаў, беларусы, натуральна, маюць у нацыянальным характары і культуры шэраг агульных з палякамі рысаў. У нас агульны маральна-этычны імператыў, падабенства традыцыйных народных звычаяў, але пры гэтым беларуская і польская культура ўнікальныя. У старой метадычнай традыцыі навучэнцы завучвалі моўныя клішэ, узнаўлялі стэрэатыпы паводзін замежніка. Пры гэтым узнікаў пэўны культурны дысананс паміж першаснасцю роднай карціны свету і другаснасцю няроднай. Быць замежнікам па маўленні і па паводзінах няпроста. Зараз такі падыход лічыцца педагагічнай памылкай. Сучасныя вучэбна-метадычныя комплексы павінны навучыць студэнта адэкватна кантактаваць з прадстаўнікамі іншай культуры, а не быць копіяй носьбіта мовы. Такім чынам, неабходна адсочваць і абмяркоўваць падабенства і разыходжанне ў культурах роднай мовы і мовы вывучэння.

Праца павінна весціся ў трох аспектах: 1) адбор і арганізацыя моўнага і маўленчага матэрыялу; 2) дынамічнае суаднясенне моўных і маўленчых адзінак у працэсе навучання; 3) фарміраванне ўменняў суаднясення беларус-

кай, рускай і польскай моў у працэсе авалодання апошняй. Безумоўна, пры вывучэнні польскай мовы беларускамоўнымі навучэнцамі беларуская мова выступае не столькі ў якасці пасярэдніка, колькі ў якасці пэўнай моўнай і маўленчай базы, якая дазваляе аптымізаваць навучанне. Засноўваючыся на прынцыпе «ад простага да складанага», навучэнцам спачатку дэманструюцца агульныя лінгвістычныя і маўленчыя з'явы, а потым спецыфічныя.

Засваенню лексікі і граматыкі польскай мовы садзейнічае блізкасць ладу беларускай мовы, на якую павінны быць арыентаваны вучэбныя дапаможнікі для беларусаў. Фарміраванне граматычнай кампетэнцыі ў навучэнцаў дасягаецца выкананнем адпаведных практыкаванняў, скіраваных у першую чаргу на супастаўленне блізкіх граматычных з'яў у польскай і беларускай мовах.

Лексічная кампетэнцыя фарміруецца ў практыкаваннях, якія адпрацоўваюць спецыфічна адрозныя ад беларускай мовы элементы польскага словаўтварэння, лексіка-граматычнай семантыкі і спалучальнасці, калі адна і тая ж думка ў польскай і беларускай мовах выражаецца рознымі сродкамі. Навучэнцы павінны атрымаць навыкі падбору адэкватных польска-беларускіх эквівалентаў лексічных адзінак і словазлучэнняў, у тым ліку і фразеалагічнага характару, пазнаёміцца са з'явамі міжмоўнай аманіміі (так званых «ілжывых сяброў перакладчыка»).

Манаграфія Р. Калеты мае на мэце «zaprezentowanie trudności i błędów językowych jako zagadnienia pozytywnego (wbrew panującemu stereotypowi). <…> Błęd językowy (glottodydaktyczny) jest ważnym źródłem informacji dła nauczyciela. Pokazuje, z jakimi problemami spotykają się uczący się w procesie uczenia się języka obcego. Dzięki temu nauczyciel może modyfikować i ulepszać nauczania, żeby był bardzej efektywny i przynosił oczekiwane wyniki» [3, с. 162].

Трэба спадзявацца, што даследаванне Р. Калеты знойдзе прыхільнікаў сярод паланістаў і беларусістаў не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі. Аўтар прапанаваў арыгінальную навуковую канцэпцыю і адкрытую даследчыцкую пазіцыю, а таксама новы сучасны падыход да выкладання польскай мовы беларускамоўным навучэнцам.

## Літаратура


1. Важнік, С. А. Кантрастыўны сінтаксіс польскай і беларускай моў: семантыка і дыстрыбуцыя дзеяслоўнага прэдыката / С. А. Важнік. — Мінск, 2008.
2. Кіклевіч, А. Беларуская літаратурная норма: дынаміка і інавацыя (на матэрыяле сучаснага беларускага друку) / А. Кіклевіч, А. Пацехіна // Slavia Orientalis. — 2000. — Т. XLIX. — № 1. — С. 93–105.
3. Kaleta, R. Polsko-białoruska lapsologia glottodydaktyczna / R. Kaleta; Katedra Białorutenistyki, Wydział Lingwistyki Stosowanej, Uniwersitet Warszawski. — Warszawa, 2015.

**Ірына Будзько** *(Мінск, Беларусь)*

# РОЛЯ ПОМНІКА «ЧЭЦЦЯ» 1489 Г. У ФАРМІРАВАННІ СЛОЎНІКАВАГА СКЛАДУ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНА-ПІСЬМОВАЙ МОВЫ

Слоўнікавы склад старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы фарміраваўся на працягу больш як чатырох стагоддзяў і ўвабраў у сябе ўвесь спектр намінацый, ужытых у помніках старабеларускай пісьменнасці, розных па часавым зрэзе і прыналежнасці да пэўнага жанру. Паколькі сёння фундаментальнае выданне «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» налічвае 35 тамоў і ў бліжэйшыя гады будзе завершана, адкрылася магчымасць прасачыць дынаміку развіцця лексічнай сістэмы старабеларускай мовы, аналізуючы слоўнікавыя артыкулы. Ужо на першы погляд відавочна, што ядро лексічнай сістэмы старабеларускай мовы склалі словы, якія фіксуюцца ў розных помніках старабеларускай пісьменнасці на працягу ўсяго перыяду яе існавання, але, у той жа час, шэраг намінацый (мы можам адзначыць, што яны знаходзяцца на перыферыі лексічнай сістэмы) быў характэрны толькі асобным помнікам пісьменнасці. Словы, занатаваныя толькі ў помніку «Чэцця» 1489 г. і адлюстраваныя ў больш як 30 тамах «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», і сталі прадметам дадзенага артыкула.

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Бярозка перапісаў «Чэццю» з кіеўскага пратографа, які да нашых дзён не захаваўся, створаны ён быў, па меркаванні некаторых навукоўцаў, на галіцка-валынскіх землях [1; 4; 5; 6], але, па меркаванні іншых даследчыкаў, месцам стварэння гэтага помніка быў Кіеў [3]. Бярозка, перапісчык украінскага пратографа, быў сынам літоўскага папа Сімяона з Навагрудка. На с. 268б помніка маецца прыпіска, у якой адзначана, што гэты рукапіс ствараўся ў мястэчку Камянец у часы вялікага караля Андрэя (так называлі Казіміра Ягелончыка [2, с. 67]) у 1489 г. Зараз цяжка вызначыць, пра які менавіта Камянец ідзе гаворка ў прыпісцы, паколькі мястэчак з такой назвай на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага было некалькі, але беларускае паходжанне самога перапісчыка не аспрэчваецца нікім, таму помнік, які дайшоў да нашых часоў, разглядаецца як здабытак адначасова і беларускай, і ўкраінскай культурнай спадчыны.

Лексічны склад помніка «Чэцця» 1489 г. уяўляе сабой дастаткова багаты матэрыял для даследавання. Аснову слоўнікавага складу гэтага помніка пісьменнасці ўтвараюць словы агульнаславянскага і ўсходнеславянскага паходжання, частка з якіх атрымала фанетычную і граматычную афарбоўку, уласцівую старабеларускай мове. Улічваючы наяўнасць старажытнарускага пратографа, можна з упэўненасцю сказаць, што аналізуемы помнік дэманструе самую вялікую колькасць лексікі царкоўнаславянскага паходжання, а такса-

ма грэцызмаў у шэрагу рэлігійных помнікаў пісьменнасці ранняга перыяду развіцця старабеларускай мовы. Лексіка помніка надзвычай разнастайная і прадстаўляе шырокі спектр прадметна-тэматычных намінацый.

Так, субстантыўныя намінацыі размяркоўваюцца па наступных лексічных аб'яднаннях.

**Асабовыя намінацыі.** Намінацыі агульнага характару, а таксама назвы роднасці і сваяцтва: *баба* 'жанчына', *братъ*, *братие*, *вдовица*, *внука* 'ўнучка', *дева*, *девица*, *девка*, *дети*, *детя (дитя)*, *детятя*, *детки*, *детище*, *дочка*, *дщерь*, *жена*, *женихъ*, *зять*, *люди*, *матерь*, *мати*, *младенець*, *молодець*, *мужъ* 'мужчына', *народъ*, *отецъ* 1. 'Бог', 2. 'бацька', 3. 'святар', *отрокъ*, *отроча*, *отроковица*, *племенникъ*, *племенница*, *прабаба*, *прадедъ*, *праматерь*, *праотецъ*, *родъ*, *родители*, *родитель*, *семья*, *семя*, *сирота*, *сородникъ*, *сородница*, *сынъ*, *уноша (юноша)*, *удова*, *удовица*, *человекъ*, *чадо*.

Назвы чыноў нябеснай іерархіі: *ангелъ*, *антихристъ*, *апостолъ*, *архангелъ*, *бесъ*, *беснии*, *богъ*, *богиня*, *боговидецъ*, *богоматерь*, *богородица*, *вышний*, *господь (господъ)*, *дьяволъ (деяволъ*, *дияволъ)*, *демонъ*, *духъ*, *приснодева*, *серафимъ*, *сотона*, *троица (тройца)*, *херавимъ (херовимъ)*

Назвы служыцеляў культу, прадстаўнікоў царкоўнай адміністрацыі, знаўцаў царкоўных канонаў і Свяшчэннага Пісання, ушанаваных царквой асоб: *архимандритъ (анхимандритъ)*, *архиепископъ*, *архиерей*, *архистратигъ*, *богословъ*, *владыка (уладыка)*, *владычица*, *евангелиста*, *епарха*, *епископъ (епискупъ)*, *ерей*, *законникъ*, *законодавецъ*, *книжникъ*, *мнихъ*, *нитрополитъ*, *панамарь*, *папа*, *патриархъ (патриярхъ)*, *первосветитель*, *попъ*, *послушникъ*, *прозвитеръ*, *просветитель*, *пустынникъ*, *свещенникъ (свещеникъ*, *священикъ)*, *столпникъ*, *чернець*.

Назвы праведнікаў, пакутнікаў за веру, аднадумцаў, асоб свяшчэннай гісторыі: *благовестникъ*, *блаженый*, *ближний*, *блюститель*, *боголюбица*, *борца (борьца*) 'змагар за веру', *венченосецъ* (метафарычная намінацыя Ісуса Хрыста), *верний*, *выбраникъ*, *единомысленикъ*, *заступникъ*, *защитникъ*, *исправитель*, *креститель*, *мироносица*, *мученикъ*, *наполнитель* 'выканальнік якой-н. місіі (пра Ісуса Хрыста)', *направитель* 'той, хто накіроўвае на правільны шлях', *наставникъ*, *вчитель*, *одномысленикъ*, *поборникъ*, *податель*, *покорный*, *покровитель*, *помочникъ (помощникъ)*, *помочница (помощница)*, *праведникъ*, *правоверный*, *празнолюбецъ* 'той, хто шануе царкоўныя святы', *предтеча (предотеча)*, *преподобникъ*, *преподобный*, *проповедникъ*, *пророкъ*, *пророчица*, *светый (светий)*, *светая*, *светитель (святитель)*, *светодавца*, *свободитель*, *спаситель*, *страстотерпецъ*, *трудникъ* 'падзвіжнік', *угодникъ (вгодникъ)*, *честитель* 'святар', *чиноначалникъ*, *чюдотворецъ*.

Назвы асоб па сацыяльнай функцыі, якую яны выконваюць у грамадстве (назвы прафесій, роду заняткаў, этнонімы і пад.): *безсребреница*, *блудница*, *бояринъ*, *вельможа*, *вестоноша* 'веснік', *видитель* 'сведка', *воевода*, *вои*, *воинъ*, *волхвъ*, *врачъ*, *вредникъ* 'шкоднік', *всекатель* 'кат', *галилеянинъ*, *господинъ*

*(осподинъ)*, *госпожа (оспожа)*, *осподарь*, *гость*, *гражанинъ*, *грекъ*, *дворнии*, *домочадецъ*, *египтянинъ*, *жидъ*, *борецъ* ‘удзельнік спаборніцтваў’, *запасникъ* ‘воін, які ўдзельнічаў у спартыўных спаборніцтвах’, *игемонъ*, *израильтянинъ*, *князь*, *мадиямлянинъ*, *мечникъ* ‘воін, узброены мячом’, *мытарь*, *наместникъ*, *наследникъ*, *началникъ*, *пастухъ*, *пастырь*, *персянинъ*, *племя*, *полкъ*, *посолъ*, *правитель*, *предостатель* ‘той, хто стаіць на чале каго-, чаго-н.’, *приставникъ* ‘служыцель’, *раба*, *рабыня*, *рабъ*, *ратный*, *рать*, *резоемець* ‘ліхвяр’, *русинъ*, *рыболовъ*, *самарянинъ*, *самодержца*, *суриянинъ*, *слуга*, *служитель*, *служебница*, *срацининъ*, *старейшина*, *старецъ*, *сторожа*, *стражь*, *странный* ‘вандроўнік’, *строитель* ‘распарадчык, арганізатар’, *судья*, *суседъ*, *фараонъ*, *фарисей*, *халдеянинъ*, *хрестиянинъ (хрестиянъ*, *хрестьянъ*, *хрестьянинъ*, *христьянинъ)*, *царь*, *царица*, *честникъ* ‘саноўнік’.

Эмацыянальна-ацэначныя намінацыі з ярка выражанай станоўчай або адмоўнай канатацыяй: *бедница*, *безаконникъ*, *ворогъ*, *врагъ*, *ворожебникъ*, *ворожа*, *вседержитель* (пра Бога), *гольтяй* ‘гультай’, *гонитель*, *грешный*, *девственикъ*, *добрый*, *другъ*, *еретикъ*, *заблужший*, *злодей*, *кормительница*, *кормитель*, *лестець*, *лиходей*, *любовникъ*, *любочестникъ*, *мужелюбица*, *мучитель*, *неверный*, *невченый*, *недругъ*, *ненавистникъ*, *ненадежный* ‘той, хто страціў надзею’, *неприятель*, *неразумный*, *нечестивый*, *нятецъ*, *отступникъ*, *паганый (поганый)*, *паганинъ*, *питательница*, *плачющий*, *погубитель*, *поспешникъ* ‘памочнік’, *посмешникъ* ‘насмешнік’, *прелестникъ* ‘спакуснік’, *преступникъ*, *приводникъ* ‘той, хто вядзе куды-н.’, *приводница*, *прогнатель*, *прогоньникъ*, *промысльникъ*, *причастникъ* ‘прысутны’, *причастница*, *противникъ*, *противный*, *разбойникъ*, *раздражитель*, *силникъ*, *скверный*, *смиреный*, *соблюдитель*, *содетель*, *сокровитель*, *сопричастникъ*, *супостатъ*, *супротивникъ*, *тать*, *трусъ*, *убийца*, *убогий*, *утешитель*, *хранитель*, *хулитель*, *хулникъ*, *человеколюбецъ*, *человекоубиецъ*.

Сярод іншых асабовых намінацый зафіксаваны наступныя: *глухий*, *голодный*, *давца*, *живый*, *земный*, *нищий*, *мертвецъ*, *мертвый*, *младый*, *нагий*, *невольный*, *недужный*, *немий*, *немоцный*, *немощный*, *немочный*, *нищий*, *пленный*, *погиблый*, *погибший*, *полоненый*, *постникъ*, *прироженецъ* ‘ураджэнец’, *прописатель* ‘прадпісальнік’, *раслабленый*, *распятый*, *скорьбящий*, *слепий (слепый)*, *сотворитель (створитель)*, *творецъ*, *трудный* ‘хворы’, *трудоватый* ‘хворы на праказу’, *хромый*.

**Абстрактная і рэлігійная лексіка.** Намінацыі агульнага характару: *адъ*, *амбонъ*, *аминъ (аминь)*, *беда*, *бездна*, *благодать*, *блудъ*, *бой*, *брань*, сінонімы — *валька*, *война*, *бремя*, *вера*, *видъ*, *вина*, *воля*, *гневъ*, *грехъ*, *даръ*, *дело*, *добро*, *законъ* ‘вера’, *заповедь*, *зборъ*, *зло*, *знамя*, *икона*, *казнь* ‘казань’, *канунъ*, *лесть*, *лихо*, *манна*, *миръ*, *моць*, *мощи*, *мука*, *мысль*, *надежа (надежда)*, *наука*, *нудь*, *нужа (нужда)*, *образъ*, *оброкъ* ‘утрыманне’, *олтарь*, *онофоръ*, *ответъ*, *пагуба*, *память*, *печаль*, *песня*, *плачь (плачъ)*, *победа*, *поводъ*, *погибель*, *подвигъ*, *покой*, *поклонъ*, *помочь (помощъ)*, *помста*, *помыселъ*, *поприще*, *порокъ*,

*постъ*, *потреба*, *поспехъ*, *похвала*, *похоть*, *право*, *праздникъ (празникъ)*, *приводъ*, *прикладъ*, *притча*, *приходъ*, *проповедь*, *псаломъ*, *работа*, *разбой*, *разумъ (розумъ)*, *рай*, *рать*, *речи* 'словы', *рядъ* 'чарга', *санъ*, *свада*, *свара*, *светъ* 'Сусвет; прасвятленне', *свобода*, *сила* 'моц; магчымасць', *силы* 'сукупнасць', *скверна*, *скиния*, *скорбь (скорьбь)*, *слава*, *слово*, *сухъ*, *смехъ*, *смрадъ*, *смыслъ*, *соблазнъ*, *соборъ* 'сход', *советъ*, *соньмъ* 'сход', *соромъ*, *спасъ*, *стихъ*, *страсть* 'пакута', *страхъ*, *студень* 'холад', *студъ*, *стукъ*, *судъ*, *суета*, *таина*, *тма (тьма)*, *трепетъ*, *трудъ*, *туга*, *умъ*, *уния*, *урядъ*, *уставъ* 'закон', *хвала*, *хула*, *честь*, *чинъ*, *чудо (чюдо)*.

Намінацыі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ни(е)/-нь(е)*, *-и(е)/-ь(е)* (назвы працэсуальнага або зборнага характару): *беззаконье (безаконие, безаконье)*, *безмолвие*, *безумье*, *благовещание*, *благовхание*, *благословение*, *благочестие*, *блищание*, *богословие (богословье)*, *богоявление*, *величание*, *веселие*, *вещание* 'вестка', *видение*, *водухновение* 'ўдох', *возвещание*, *воздвижение*, *воздержание*, *возмущение*, *возношение*, *воплощение*, *воскресение (въскресение)*, *востание*, *вселение* 'насельніцтва', *въздвижение*, *възыграние*, *вътвержение*, *вязание*, *гонение*, *господствие*, *дебрие*, *доброчестье*, *зависть*, *зачихание*, *знамение*, *избавление*, *измертвыхвостание*, *искушение*, *исполнение*, *исцеление*, *крещение*, *милосердие*, *моление*, *мучение*, *мышление*, *нарожение*, *нахожение*, *обецание (обещание)*, *обличие*, *обрезание (обрезанье)*, *объядение*, *однословье*, *одение*, *освещение*, *основание*, *осужение*, *откровение*, *отогнание*, *отомщение*, *отпущение (отпущение)*, *очищение (оцищение)*, *оцезарение*, *пение*, *петье*, *писание*, *питье*, *побитье*, *повеление (повеленье)*, *погребение*, *подобие*, *покаяние*, *поклонение (покланяние)*, *покорение*, *покормление*, *полепшение*, *полновенье* 'напаўненне', *помышление*, *понижение*, *поновление*, *поругание*, *порушение*, *посечение*, *послание (посланье)*, *послушание*, *пособие* 'дапамога', *поспешение*, *потопление*, *похваление*, *пощение*, *поясание* 'акружэнне', *правоверие*, *пребывание*, *превознесение*, *прегрешение*, *прелюбодеянье*, *пренемогание*, *прещение*, *прирожение*, *прихожение*, *причастие*, *пришествие*, *приятье*, *прободение*, *проклятие (проклятье)*, *пролитье*, *проповедание*, *прорицание*, *просвещение*, *проступление*, *прощение*, *распятье*, *речение*, *рожение*, *рукописание*, *саждение*, *свещение*, *свидение*, *свистание*, *сетование*, *сияние*, *сказание*, *скончание* 'выкананне', *слышание*, *смешение*, *смирение*, *смотрение*, *смущение*, *смятение*, *снедение*, *снитие*, *соблажнение*, *совокупление*, *создание*, *сопрение*, *створение (створенье*, *сотворенье)*, *спание*, *спасение*, *споведание*, *сребролюбие*, *стогнание*, *стретение*, *строение*, *студодеяние*, *сухоложение*, *творение*, *терние*, *терпение*, *тление*, *томление*, *угашение*, *удаление*, *умножение*, *упование*, *успение*, *устроение*, *устремление*, *устретение*, *утвержение*, *хворостие (хврастие)*, *хожение*, *хотение*, *царствие*, *цветие*, *целование*, *чарование*, *человеколюбье*, *челомбитье*, *чистосердье*, *чтение*, *чудодеяние*, *явление*, *ядение*.

Намінацыі, утвораныя пры дапамозе суфікса *-ств(о)*: *бешеньство*, *богатство (богатество)*, *божество*, *вдовство*, *воеводство*, *воинство*, *гольтяйство* ‘гультаяватасць’, *девство*, *душегубство*, *единьство*, *епискупство*, *естество*, *лиходейство*, *лукавьство*, *множество*, *мужество*, *неплодство*, *нятство (нятьство)*, *отечество*, *поганьство (паганство*, *паганьство)*, *празнество*, *пророчество*, *пьянство (пьяньство)*, *резоемство* ‘ліхвярства’, *рожство (рожество*, *рожьство)*, *светительство*, *свойство*, *сиротство (сиротьство)*, *старейшинство*, *таинство (таинество)*, *торжество*, *убийство (вбийство)*, *убожьство*, *хрестьяньство*, *царство*, *чародейство*, *человечество*, *чернечество*.

Намінацыі, утвораныя пры дапамозе суфікса *-ост(ь)*: *бледость*, *валентность*, *гордость*, *злость*, *крепость*, *кротость*, *милость*, *мудрость*, *пакость*, *подобность*, *покорность*, *противность*, *радость*, *ровность* ‘роўнасць’, *светлость*, *святость (светость)*, *скверность*, *смелость*, *старость*, *сытость*, *таиность*, *твердость*, *темность*, *хитрость*, *хоробрость*, *щедрость*, *ярость*.

Намінацыі, утвораныя пры дапамозе іншых суфіксаў: *валька*, *волшба*, *доброта* ‘прыгажосць’, *жертва*, *зачепка* ‘перашкода’, *злоба*, *клятва*, *красота*, *ласка*, *лепота*, *любовь*, *масть*, *молитва*, *мольбенъ*, *мольба*, *напасть*, *неволя*, *немоць*, *немощь*, *ненависть*, *неправда*, *неприязнь*, *нечистота*, *нитрополия*, *нищета*, *область* ‘улада’, *правда*, *прибытокъ*, *пристанище*, *служба*, *судище*, *таиниця*, *татьба (татба)*, *теплота*, *тишина*, *тягота*, *чистота*, *широта*, *щедрота*.

**Прадметная і бытавая лексіка**, у межах якой адзначаны намінацыі з галіны будаўніцтва, назвы розных прылад і інструментаў, тканін і відаў адзення, посуду, зброі, каштоўных металаў і камянёў, сродкаў транспарту. У генетычных адносінах яны пераважна ўзыходзяць або да агульнаўсходнеславянскіх, або да старажытнарускіх этымалагічных вытокаў, таксама адзначаецца вялікая колькасць царкоўнаславянізмаў сярод іх: *багряниця*, *баня*, *батоги*, *болванъ*, *бубенъ*, *венець*, *верея*, *ветрило*, *вжище*, *вино*, *власяница*, *возъ*, *волна* ‘воўна’, *ворота (врата)*, *воскъ*, *вретище*, *вясло*, *главное* ‘галаўны ўбор’, *грамота*, *грань*, *гробъ*, *гульдея*, *даръ*, *домъ*, *дощка* ‘скрыжаль’, *дрова*, *дымъ*, *жезлъ*, *железо*, *жемчюгъ (женчюгъ)*, *жератка* ‘вугаль’, *жилище*, *завесы*, *зерцало*, *злато*, *золото*, *игра*, *идолъ*, *икона*, *камень*, *капище*, *корабль (карабль)*, *кивотъ*, *кладязь*, *клеть*, *книга*, *ковчегъ*, *копье*, *крестъ*, *крило*, *кровъ*, *кругъ*, *крылосъ*, *купель*, *куча* ‘шалаш’, *легалница* ‘калыска’, *ловъ*, *ложе*, *ломъ*, *лопата*, *лохань*, *манастырь*, *масло*, *мечъ*, *млеко*, *молебникъ*, *мощи*, *мытниця*, *мясо*, *ножъ*, *обедъ*, *огонь (огнь)*, *одежа*, *одежда*, *одръ*, *оковы*, *оконце*, *органы*, *оружие (оружье)*, *острие*, *оцетъ*, *пелена*, *пеленка*, *печать* ‘знак’, *пещь*, *пиръ*, *пища*, *пламень*, *поломя*, *плита*, *повязка*, *покровъ*, *полата*, *помостъ*, *попелъ*, *порода*, *порохъ*, *прахъ*, *портище*, *порты*, *посохъ*, *поставка*, *постеля*, *поясъ*, *престолъ*, *притворъ*, *ремень*, *риза*, *санфиръ* ‘сапфір’, *светилникъ*, *светило*, *светлиця*, *свеча (свеща)*, *свирель*, *свита* ‘вопратка’, *сеть*, *скарбъ*, *скипетръ*, *скляница*

*(стькляница)*, *скрыня*, *смарагдъ* ‘каштоўны камень’, *снедь*, *сокира*, *соль*, *сосудъ*, *стена*, *столпъ*, *столецъ*, *стрела*, *студенецъ*, *судно*, *сукно*, *сулица*, *темниця*, *титло*, *трапеза (тряпеза)*, *требище*, *трость*, *труба*, *убрусъ*, *углие*, *узды*, *хижица*, *хлебъ*, *хоромина*, *храмъ*, *церковь (церковъ)*, *часть*, *чашя*, *чертогъ*, *число*, *щитъ*, *юзы*, *яице*, *ясли*.

**Намінацыі з галіны флоры і фаўны**: *агнецъ*, *аспидъ*, *бобъ*, *вельблюдъ*, *ветвие*, *виноградъ*, *волъ*, *гадъ*, *голубица*, *голубъ*, *дерево (древо)*, *дуброва*, *дяфина* ‘гатунак дрэва’, *елица*, *ехидна*, *жито*, *зверь*, *зерно*, *змий*, *змирна*, *козля*, *конь*, *корене*, *крыло*, *куколь*, *купина*, *листвие*, *листьце*, *левъ*, *миро (мюро)*, *овощъ (овощь)* ‘плод’, *овца*, *овча*, *осля*, *отрасль*, *плодъ*, *птица*, *пшениця*, *рыба*, *скорпия*, *скотъ*, *стадо*, *тварь*, *темьянъ (темъянъ)*, *терние*, *трава*, *червь*, *цветы*, *ягня*, *ягода*, *язь*.

**Метэаралагічная лексіка**: *буря*, *быстрина*, *ведро* ‘яснае надвор’е’, *ветръ*, *виръ*, *вихръ*, *воды*, *воздухъ (въздухъ)*, *голоть* ‘галалёд’, *громъ*, *дождь*, *заря (зоря)*, *звезда*, *зной*, *ледъ*, *луна*, *лучь*, *небо*, *небеса*, *небесная*, *облаки*, *оболоки*, *роса*, *сень (тень)*, *снегъ*, *солнце* (і ў значэнні ‘Гасподзь’), *смерканье*, *струя*, *студень* ‘холад’, *тепло*, *туча*.

**Медыцынская і анатамічная лексіка**: *бокъ*, *болезнь* ‘боль’, *болесть* ‘хвароба’, *борода*, *власы*, *выя*, *глава*, *голова*, *гласъ*, *голосъ*, *гноище*, *голень*, *губа*, *желчь*, *животъ* ‘жыццё’, *здоровье*, *зракъ*, *зубъ*, *колено*, *космы*, *косы*, *кость*, *кровь*, *лакотъ*, *локотъ*, *ликъ*, *лице*, *нога*, *недугъ*, *ноготь* (у форме множнага ліку *ногти*, *ногты*), *око* (у форме множнага ліку *очи*, *оци*), *пазуха*, *палецъ*, *перси*, *перстъ (персть)*, *плечо*, *плодъ* ‘дзіця’, *плоть*, *правица*, *пята*, *рана*, *ребро*, *рука*, *ручка*, *сердце*, *сесецъ*, *слезы*, *смерть*, *сонъ*, *составъ*, *стопа*, *тело (телеса)*, *уста*, *устны*, *утроба (втроба)*, *ютроба*, *ухо* (у форме множнага ліку *уши*, *ушеса*), *чрево*, *шия*, *язва*, *языкъ*.

**Прасторавая лексіка**: *бездна*, *берегъ*, *волость*, *востокъ (въстокъ*, *устокъ)*, *высота*, *глубина*, *гора*, *городъ*, *дворъ*, *долъ*, *дорога*, *езеро (озеро)*, *земля*, *краи*, *крыница*, *место* ‘горад’ і ‘месца’, *миръ*, *море*, *огородъ*, *ограда*, *островъ*, *песокъ*, *печера (печора)*, *подгорье* ‘гара, узвышша, пагорак’, *поле*, *потокъ (потоки)*, *потопъ*, *пределъ* ‘граніца, мяжа’, *пустыня*, *путь*, *река*, *ровъ*, *ручай*, *садъ*, *сажень*, *село*, *середина*, *сторона*, *страна*, *ступень* ‘крок’, *уголъ*, *холмъ*, *югъ*, *яма*.

**Тэмпаральныя намінацыі**: *векъ*, *вечеръ*, *вечерня*, *вечеря*, *генварь*, *декабрь*, *конецъ*, *лето* ‘год’, *начало*, *начатокъ*, *неделя* ‘нядзеля, сёмы дзень тыдня’, *ночь (нощь)*, *ноябрь*, *октябрь (октебрь)*, *полдень*, *полудень*, *полуночь*, *полунощь*, *початокъ*, *пристань* ‘перапынак’, *пятница*, *свято*, *сентебрь*, *субота*, *утро*, *февраль*, *часъ*.

**Лексіка, якая абазначае розныя віды дзеяння**. Аналізуемы помнік багаты на дзеяслоўную лексіку. Напрыклад, пры аналізе тэматычнай групы, якая ўключае дзеясловы, што абазначаюць рух і іншыя фізічныя дзеянні чалавека або істоты, адзначаны наступныя лексемы: *бегати*, *бити*, *блудити*,

*боротися*, *вбегати*, *вбити*, *вдалятися*, *вдарити*, *вдати*, *взыйти*, *вкинути*, *вковати*, *вловити*, *вметати*, *вморити*, *вмучити*, *внийти*, *вожечи*, *вранити*, *врезати*, *вринути*, *вчинити*, *досягнути*, *дрыжати*, *устати з мертвыхъ*, *збегчи*, *извлечи*, *изделати*, *излезти*, *ископати*, *испрятати*, *испустити (испущати)*, *народитися*, *нарядити* 'апрануць, прыбраць', *оболочися*, *обратити*, *отовратити*, *охопити*, *побечи*, *повивати*, *пожигати*, *попрати*, *предтечовати*, *прибудовати*, *пригвоздити*, *разбегчися*, *разбити*, *разрушити*, *раскопати*, *розлитися*, *розвязати*, *роступитися*, *скласти*, *соделати*, *сожечи*, *созижити*, *спиратися*, *увергнути*, *увити*, *увоздати*, *увоньзнути*, *узлити*, *узложити*, *усекнути*, *ускласти*, *узыйти* і пад.

Сярод іншых дзеясловаў адзначаны наступныя: *безумитися*, *беситися*, *благословити*, *блазнити*, *блищати*, *блюсти*, *боротися*, *вбоятися*, *вделати*, *ведати*, *велети*, *верити*, *вжасатися*, *взозрети*, *вказатися*, *влучити*, *вмети*, *возвеличити*, *возвестити / возвещати*, *возлюбити*, *возпити*, *возыскати*, *володети*, *воплотитися*, *вразумети (врозумети)*, *вчинити*, *вчити*, *въздоровити*, *въпрашати*, *глаголати*, *гневатися*, *грозити*, *даровати*, *дивитися*, *допытати*, *жадати*, *забороняти*, *защищати*, *зжалитися*, *зрети*, *избавитися*, *избратися*, *изволити*, *изгнати*, *изнемочи*, *исповедати*, *исцелити*, *кликати*, *медлити*, *мешкати*, *молвити*, *молити*, *молитися*, *навчити*, *надеятися*, *наполнити*, *нарицати*, *нудити*, *обецати*, *оповедати*, *опочити*, *осенити*, *отвечати (отвещати)*, *отлучити*, *очищати*, *повчити*, *покропити*, *полецатися*, *полонити*, *помиловати*, *посрамити*, *празновати*, *працовати*, *претерпети*, *пригодитися* 'здарыцца' і інш.

**Лексіка са значэннем прыметы асобы або прадмета**. Сярод ад'ектыўных намінацый, зафіксаваных у дадзеным помніку, адзначаны наступныя лексемы. Якасныя прыметнікі: *бедный*, *белый*, *благий (благый)*, *близкий*, *богатый*, *больший*, *борздейший*, *борздый*, *вбогий*, *вгодный*, *великий*, *высокий*, *вышний*, *вышьший*, *глубокий*, *глухий*, *гордый*, *горкий (горький)*, *грозный*, *давный*, *далекий*, *дерзкий*, *дивный*, *добрый*, *драгий*, *дражейший*, *древный (древний)*, *живый*, *красный*, *крепкий*, *крепчайший*, *кроткий*, *левый*, *ленивый*, *лепший*, *лихий*, *лукавый*, *лютый*, *лютее*, *малый*, *менший (меньший)*, *мерзкий*, *мертвый*, *милый*, *младый*, *молодый*, *моцный*, *мяккий*, *нагий*, *напрасный*, *невгодный*, *невдячный*, *недобрый*, *недостойный*, *недополный*, *недужный*, *нездоровый*, *немоцный*, *немочный*, *немощный*, *непонятный*, *неразумный*, *несилный*, *нескверный*, *несмутный*, *нечистый (нечистий)*, *нижний*, *нинешний*, *нынешний*, *нищий*, *новый*, *оканний (оканный)*, *острый*, *паганый*, *печальный (печалный)*, *покоиный*, *покорный*, *полезнее*, *полный*, *последний*, *правый*, *превечный*, *предивный*, *прекрасный*, *премудрый*, *пресветый (пресвятый)*, *пресветлый*, *преславный*, *претерпевый*, *пречистый*, *приятный*, *простый* 'прамы', *противный*, *пустый*, *разумный*, *ровный*, *розный*, *светый*, *святый*, *светлый*, *светлейший*, *свободный*, *сильный (силный)*, *сильнее*, *скверный*, *скорый*, *славный*, *сладкий*, *слепый (слепий)*, *смелый*, *старейший*, *старый*, *страстнее*, *страшный (страшьный)*,

*суетный*, *супротивный*, *сухий*, *сырый*, *тайный*, *твердый*, *темный*, *теплый*, *тесный*, *тихий*, *тощий*, *тучный*, *тяжкий*, *убогий*, *угожший*, *храбрый* (кароткая форма *храборъ*), *хромий*, *хульный*, *черемный* (у спалучэнні *Черемное море*), *честный (честний)*, *честнейший*, *чистый*, *чистее*, *чюжий*, *чюждий*, *явный*, *ясный*.

Односныя прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ск-*, *-ст-*: *александрийский*, *ангелский (ангельский)*, *ангельстий*, *антиохийский*, *апостольский*, *аравитский*, *аравитстий*, *архангельский*, *асийский*, *асурийский*, *бесовский (бесовьский)*, *богатырьский*, *болваньский*, *вселеньский*, *греческий*, *гречестий*, *девический*, *дьявольский*, *евангельский*, *евреиский*, *египетский*, *ерданьский*, *ефеский*, *женьский*, *женьстий*, *жидовский*, *жидовсьтий*, *идольский*, *иерданьский*, *иерусальмский*, *иерейский*, *иконийский*, *индийский*, *июдейский*, *каталаньский*, *кесарийский*, *критский*, *кумирьский*, *латиньский*, *лахерьский*, *ливаньский*, *ликийский*, *людьский*, *мелентийский*, *мирьский*, *мнишеский*, *молодецкий*, *морьский*, *мужеский*, *мужский*, *мурьский*, *мученический*, *осподарьский*, *отеческий*, *паганьский*, *паганьстий*, *палеостиньстий*, *перский (перьский)*, *плотский*, *поповский*, *пророческий*, *райский*, *римский*, *руский*, *светительский (святительский)*, *селуньский*, *синайстий*, *сирийский*, *сарациньский*, *сурьский*, *хананейский*, *хрестьянский (христьяньский)*, *царский (царьский)*, *человеческий*, *человечестий*, *честительский*. Односныя прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-н-*, *-ян-*, *-ен-*, *-енн-*: *безаконный*, *безбожный (безбожний)*, *бездушный*, *безлетний* 'які не мае ўзросту', *безмерный*, *безначалный*, *безплотный (безплотний)*, *безсловесный*, *безчестный*, *безчисленый*, *безстудный (бестудный)*, *безмертный*, *бесплотный*, *беспорочный*, *бессмертный*, *благоверный*, *блаженный (блаженый)*, *ближний*, *божественный (божественый)*, *болезный*, *больной*, *верний (верный*, *верьний)*, *ветрьный*, *вечный (вечьный)*, *вешний*, *внутрений*, *водный*, *врачебный*, *временьный*, *входный*, *гневный*, *голодный*, *горний*, *господний*, *греховный*, *грешный (грешний)*, *дворний*, *девственый*, *духовный*, *душевный*, *жадный* 'які моцна жадае чаго-н.', *железный*, *животный*, *земльний*, *земный (земний*, *земьный)*, *истинный (истиньный)*, *каменный (камяный)*, *корабельный*, *карамолный*, *крестный*, *лестный*, *льняный*, *масличный*, *матерьный*, *мирный* (ад *миро*), *небесный*, *неверный*, *невольный*, *недополный*, *недужный*, *нелицемерный*, *неплодный*, *неповинный*, *непорочный*, *неприязный*, *нераздельный*, *неразумный*, *несилный*, *несмутный*, *нечювьствений*, *огненый*, *оградный*, *ослабленый*, *оточный*, *пекельный (пекелный)*, *пламенный*, *пленьный*, *плотный* (ад *плоть*), *плюсняный*, *подобный*, *помраченный*, *прискорбный*, *пустынный*, *работный*, *радостный*, *разумный*, *свещенний*, *свободный*, *сердечный*, *скорбный*, *словесный*, *смертный*, *смоковный*, *сокровный*, *солнечный*, *супостатний*, *супротивный*, *телесный*, *темничный*, *тленный*, *травный*, *трепетный*, *трубный*, *ураненый*, *утробный*, *хульный*, *целебный (целебьный)*, *чюдный*, *чюдесный*.

Прыналежныя прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ов-*, *-ев-*, *-ин-*, *-ju(й)*: *авелевъ*, *аврамовъ*, *адамовъ*, *адовъ*, *ангеловъ*, *боговъ*, *божий (божый)*, *васильевъ*, *вельблюдовъ*, *давидовъ*, *дамасковъ*, *девичий*, *девчиный*, *дмитриевъ*, *дьяволий*, *змииный*, *иердановый*, *израилевъ*, *иоановъ*, *иродовъ*, *моисеевъ*, *ноевъ*, *овчий*, *павловъ*, *самсоновъ*, *семионовъ*, *сионовъ*, *сотонинъ*, *старчий*, *христовъ*, *царевый*, *царичинъ*, *человечий*.

Дзеепрыметнікі, якія перайшлі ў разрад прыметнікаў: *болящий*, *будущий*, *бывший*, *возлюбленый*, *возненавидевый*, *вонючий*, *вряжоный*, *намощоный*, *невгасимый*, *невеленый*, *невидимый*, *невымовленый*, *недвижимый*, *недоведомый*, *неизмененый*, *неизреченный*, *неисказанный*, *неистерпимый*, *неописаный*, *неосязаный*, *непобедимый*, *неповинный*, *непорушимый*, *непостижимый*, *непотоптаный*, *непреминеный*, *непрестанный*, *неприкосновенный*, *неприступный*, *несказанный*, *неследимый*, *несоблажненый*, *несочтеный*, *нетленный*, *нечестивый (нечестивий*, *нечистивый)*, *нечистый (нечистий)*, *нудимий*, *одержимый*, *ослабленый*, *ослеплий*, *осужденый*, *осуженый*, *помраченный*, *раслабленый*, *распятый*, *свещенний*, *скрытый*, *смердящий*, *стражющий*, *ураненый*, *учимый*.

Прыметнікі-кампазіты: *благоверный*, *благоговейный*, *благодатный*, *благоразумный*, *благородный*, *благословеный*, *благоточный*, *благочестивый*, *богоприемный*, *великолепный*, *всенаращаемый*, *добреуправливый*, *доброплодный*, *добропобедный*, *добророденъ*, *добросладкий*, *единодуховный*, *единомысленый*, *единородный*, *единосущный*, *единочадый*, *законопреступный*, *зловерный*, *зломичельный*, *зломысленый*, *иноплеменный*, *кровоточивый*, *кровоядный*, *круговратный*, *маловременый*, *межисобный*, *многоплодная*, *многохвалный*, *многоценный*, *огнеобразний*, *одиномысленый*, *одинославный*, *островласный*, *перворожeный*, *первохрестьяньский*, *правоверный (правоверьный)*, *православный*, *рознобудучий*, *тезоименитый*, *тресветый*, *трисолнечный*, *треупостатный*, *христолюбивый*, *человеколюбивый*, *четверодневный*, *четверозрачный*, *четвероногий*, *четверочастьный*, *чистоверующий*, *шестокрилатый*.

**Лексіка са значэннем прыметы дзеяння** таксама мае пераважна старажытнарускае або агульнаўсходнеславянскае паходжанне, сустракаюцца і царкоўнаславянізмы. Сярод якасных прыслоўяў можна адзначыць наступныя: *безсеменно*, *бескорбно*, *бестрастно*, *благоверно*, *благодарно*, *боговгодно*, *боголепно*, *велегласно*, *весело*, *вечно*, *воистину*, *глупо*, *голосно*, *горько (горко)*, *горше*, *горшее (горьшее)*, *грешно*, *грозно*, *дивно*, *добре*, *достойно*, *духовно*, *единогласно*, *живоначалне*, *заправду*, *златозарне*, *крепко*, *кругомъ*, *мерзко*, *моцно*, *надвое*, *наполы*, *направде*, *напрасно*, *незарлучно*, *невидимо*, *неверне*, *невредимо*, *негодно*, *недаромъ*, *немилостиво (немислостиве)*, *неотлучно*, *неотступно*, *непорушно*, *нерушимо*, *подобно*, *посуху*, *прикро*, *прямо*, *пусто*, *равно (ровно)*, *радостно*, *разумно*, *розно*, *силно*, *смело*, *согласно*, *сокровно*, *страшно*, *сухо*, *тайно*, *твердо* ‘моцна, актыўна’, *тихо*, *трепетно*, *хоробре*, *честно*, *чистосердно*, *чисто*, *чюдно*, *широко*, *явно*, *яро*, *ясно*.

Прыслоўі меры і ступені: *веле*, *велми (вельми)*, *едва*, *одва*, *мало*, *много*, *набольше (набольшеи)*, *немало*.

Прыслоўі з тэмпаральным значэннем: *борздо*, *вборзде*, *ввеки (ввекъ)*, *вечно*, *вначале*, *внегда*, *въскоре (воскоре)*, *всегда (всегды)*, *доле*, *дондеже*, *доныне*, *дополна*, *завтра*, *издавна*, *исперва (исперво)*, *испочатка*, *назавтрее (назавтрие)*, *напосле*, *наперво*, *напередъ*, *напоследокъ*, *ненадолго*, *непрестанно*, *николи (николе)*, *нине*, *ныне*, *ноне*, *опосле*, *опять*, *отперво*, *паки*, *пакъ*, *первей (перве*, *первее*, *перво)*, *пережe (пережней*, *пережъ)*, *потомъ (патома)*, *присно*, *скорее*, *скоро*, *спочатка*, *стократицею*, *тогда*, *тогды*, *уборзде*, *ускоре*, *часто*.

Прыслоўі з пpасторавым значэннем: *близко*, *везде*, *верху*, *далей*, *далеко*, *далече*, *доселе*, *издалека*, *кругомъ*, *мимо*, *недалеко*, *обаполъ*, *одесную*, *окрестъ*, *отколе (отколь*, *отколя)*, *откуду*, *отселе*, *отсуду*, *отсюля*, *оттоле (оттоля)*, *оттуду*, *оттыхъместъ*, *посполь*, *посреде*, *простороно*, *противъ (противу)*, *прямо*, *рядомъ*, *свыше*, *созаду*, *средъ (среде)*, *сюда*, *тамо*, *тутъ*, *упереде (упередъ)*.

З прыведзеных лексем відавочна, што беларускамоўны струмень актыўна пранікаў у тэксты рэлігійнага зместу, лексічны лад «Чэцці» 1489 г. мы можам акрэсліць як усходнеславянскі з моцным уплывам старажытнарускай і царкоўнаславянскай моў.

Каб вызначыць ступень насычэння старабеларускага слоўнікавага складу лексемамі з канкрэтных помнікаў пісьменнасці, трэба прааналізаваць слоўнікавыя артыкулы «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» і выявіць тыя словы, якія ілюструюцца цытатамі толькі з аднаго тэксту (па правілах складання ў гэтае фундаментальнае выданне ўключаліся ўсе цытаты са старабеларускіх помнікаў, калі яны не перавышалі лічбу 10). Такім чынам, толькі ў помніку «Чэцця» 1489 г. сустрэліся наступныя лексемы:

- дзеяслоўныя намінацыі (самая вялікая група): *встрепетати (устрепетати)*, *всхопити*, *годовати* ‘выхоўваць’, *детися* ‘знікнуць’, *домыслити*, *загордетися*, *заградитися*, *уста* (у складзе спалучэння *заграждати уста* ‘затыкаць рот’), *заклати* ‘прыносіць у ахвяру’, *заматерети* ‘састарыцца’, *избирати* ‘накапліваць’, *изблюсти*, *извещати*, *изгибнути*, *изглаживати* ‘даравацъ’, *изгнати*, *изговоривати*, *изделати*, *изличити*, *изложити*, *изменяти*, *изместити* ‘выгнаць’, *измешатися*, *измолчати*, *изравнати*, *изринутися*, *изрубити*, *исконатися* ‘здзейсніцца’, *испакоститися*, *испасти*, *исписати*, *исподобити*, *испрятати*, *истекатися*, *истертися*, *источати*, *источити* ‘злучыць’, *исходитися*, *исцелеватися*, *исцелятися*, *младствовати*, *мутитися*, *мятитися* ‘радавацца’, *наименоватися*, *налияти*, *наломити*, *намерзати*, *нарекатися*, *насветчити*, *насунути*, *недовмети*, *нудитися*, *обагрянивати*, *облегчивати*, *облетати*, *облиятися*, *обмагати*, *обмеркнути*, *обожити*, *оборочивати*, *обросити*, *оживитися*, *опаляти*, *оплевати*, *опораниватися* ‘спяшацца’, *орудовати*, *оскорети*, *отвесити*, *отгвоздити*, *отгонити*, *отерети*, *отворятися*, *отопретися*,

*отречи* ‘адказаць’, *отрешати*, *отрешити*, *отхопитися* ‘адарвацца’, *охопити*, *оцепети*, *очернивати*, *перекладывати*, *перельстити*, *перельщивати*, *перемолчати*, *поверечи*, *поверзти*, *повестити*, *повивати* ‘ахінаць’, *повязывати*, *погашати* ‘не даваць развівацца’, *погрузитися*, *подвинути*, *подкрадывати*, *подовчити*, *подподсулити*, *подучити*, *подхоживати*, *позвонити*, *позыбати*, *покаиватися*, *покоряти (покаряти)*, *польяти*, *помести*, *помнитися*, *помрачити*, *понужати*, *поработитися*, *поринути*, *посагнути замужъ*, *посещи*, *посинети*, *последствовати*, *постыдити*, *постычи*, *потерпети* ‘цярпліва перанесці што-н.’, *потнути*, *потутнати*, *потщивати*, *похлинутися*, *похулити*, *почестити* ‘ўшанаваць’, *пребити*, *предлежати*, *предтечевати (предтечовати)*, *преисходити*, *прелетети*, *премовляти*, *премолчати*, *препрети*, *преседатися*, *преспевати*, *претерти*, *пригвоздитися*, *приклоняти (прикланяти)*, *приличати*, *примесити*, *приобути*, *припаливати*, *притужати*, *пригнивати*, *провещати*, *проглаголати*, *прогонити*, *произыйти*, *проимати*, *прокудити* ‘сапсаваць’, *проньзнути*, *прообразити*, *пропяти*, *проразумети*, *прорекати*, *прослытися*, *простеретися*, *простроrати*, *просыпати*, *разбивати*, *разблудитися*, *развезатися*, *разверзати*, *развеяти*, *разволочитися*, *развратити*, *разгревати*, *разделитися*, *раздирати*, *раздрабляти*, *разленитися*, *разливатися*, *разлучитися*, *разогнутися*, *разрушитися*, *разумеватися*, *раскеватися*, *раслабети*, *расплодити*, *распростиратися*, *растаяти*, *растесати*, *раступитися*, *резывати*, *рострычи*, *ростужитися*, *ротитися*, *рыскати*, *свити*, *свобожатися*, *сисати*, *сладити* ‘саладзіць’, *слезти*, *случитися* ‘здарыцца’, *смолчати*, *совратити*, *согнути*, *содрыгатися*, *сожещи*, *соопочити*, *соснути*, *сотлети*, *спакоститися*, *спети*, *сподобити*, *стремити* ‘застрэмліваць’, *стромити* ‘пільна глядзець’, *сустретити*, *творети*, *толпитися*, *убеливати*, *увергти*, *уверечи*, *увестися*, *увиватися*, *увоздати*, *увоимати*, *увонзнути*, *увядати*, *удеятися*, *узготоватися*, *уздоровети*, *узмолвити*, *узнизывати*, *узъявитися*, *улегоглавитися*, *улишити*, *умилити*, *умирити*, *умноживатися*, *умякчитися*, *униматися*, *уныти*, *уобразитися*, *упразнитися*, *ускарятися*, *ускланяти*, *ускорити*, *усойти*, *устрепетатися*, *устрястися*, *утроити*;

- дзеепрыметнікі: *гнездяйся*, *гонящий*, *давимый*, *даровавший*, *движащийся*, *живленый*, *забвеный*, *заклаемый*, *заключеный*, *заколотый*, *зовущий*, *избранный*, *изведеный*, *извоеваный*, *изволивый*, *изгнивший*, *издробленый*, *искрытый*, *исподобленый*, *исполнивый*, *исцелевающий*, *исцелевший*, *исцеливый*, *кончавшийся*, *кончаный*, *кормимый*, *крестившийся*, *крещшийся*, *леющий*, *меркомый* ‘які меркне’, *молимый*, *мутящий*, *нарицающийся*, *народившийся*, *насажденный*, *наследивый*, *наставляемый*, *насытивый*, *невоместимый*, *невреждеый*, *невходимый*, *невымовленый*, *недвижимый*, *недомысленый*, *незаходящий*, *незглаголный*, *неимоверливый*, *неисказанный*, *неисклонный*, *неистерпимый*, *немерцающий*, *немогучий* ‘нямоглы’, *немутящий*, *необоримый*, *неомочивый*, *неопаливший*, *неоскверненый*,

*неосязаненый*, *неотлученый*, *непекущийся*, *непомиловавший*, *непомилованый*, *непостижный*, *непотоптаный*, *непрельщеный*, *неприкосновенный*, *нерушимый*, *неследимый*, *несоблажненый*, *несозданный*, *несомый*, *несочтенный*, *несыи*, *неувядомый*, *неусыпающий (невсыпающий)*, *нудимый*, *оболхвовавший*, *обмеркший*, *овдовевший*, *оградивый*, *оденый*, *оклеветающий*, *окровавленый*, *описаненый* 'нарысаваны', *осияный*, *ослабляющий*, *ослушившийся*, *оставивший*, *отвергшийся*, *отгонимый*, *открывший*, *отложивший*, *отлучивыися*, *отлучшийся*, *отогнавший*, *отпевающий*, *отпевший*, *отступленый*, *отступльший*, *оттерший*, *оцистивый*, *пасущий*, *побежденый*, *погублювый*, *подвизающийся*, *поемый* (ад *пети*), *пожаданый*, *поживший*, *позвавый*, *покровеный*, *покрывшийся*, *полагающий*, *положивый*, *полозячий*, *полозящий*, *полонивший*, *польяный*, *поработившийся*, *породивший*, *поруганый*, *посекаемый*, *посланый*, *послушавый*, *поспешествующий*, *посрамленый*, *потерпевший*, *почитаемый*, *превитый*, *презрящий*, *преидущий*, *преисходящий*, *преседящий*, *прибываючий*, *приводимый*, *приимый*, *приклоньшийся*, *прильнувший*, *приносимый*, *прогонимый*, *пролияный*, *пропятый*, *пророчествованный*, *просаженый*, *прославивший*, *пьющий*, *разбьеный*, *раздрушивый*, *разливающийся*, *расседшийся*, *ревущий*, *режемый*, *речющий*, *родившийся*, *рожьший*, *роптивый*, *сведущий*, *свидетельствованный*, *свобоженый*, *скончавшийся*, *скорбящий*, *слышавый*, *собирающий*, *совершаемый*, *согнивший*, *состаревшийся*, *сотворший*, *спадший*, *сумнеливый*, *сумнишний*, *схороненый*, *терпевший*, *томимый*, *трудившийся*, *тружающийся*, *уводящий*, *угодивший*, *угожший*, *уготовленый*, *украшаемый*, *укрепивый*, *умерщвляемый, уметаемый, устаньливый, утвердивый, утопающий, учимый*;

- субстантыўныя намінацыі (пераважна асабовая лексіка і намінацыі працэсуальнага, абстрактнага семантычнага напаўнення): *говоръ* 'размова', *голкъ* 'шум, гоман', *голоть* 'лёд', *гольтяй* 'гультай', *гольтяйство*, *гордение* 'гонар', *городость*, *грабитель*, *графия* 'пяро для пісьма', *грытань*, *даватель*, *девственникъ*, *жервеница* 'месца ахвяРапрынашэння', *забой* 'запор у варотах', *завидость*, *завидощи*, *завтриня (заутрня)*, *заимъ* 'пазыка' (форма *заемъ* сустракаецца ў помніках дзелавога характару), *избиратель* 'збіральнік', *изборъ* 'сход', *избранникъ* 'выбраннік', *извещание* 'паведамленне', *измирна* 'пахучае рэчыва', *изродница* 'сваячка', *исполнитель* 'выканаўца', *испренье* 'спрэчка', *испытница* 'суддзя', *исцелитель* 'лекар', *кораблецъ*, *корчага* 'карчага', *краты*, *кремида* 'цагліна' (у помніках больш пашырана поўнагалосная лексема *керемида*), *легалница* 'спальня', *летопродавца*, *лечецъ* 'лекар', *лиходейство*, *любовникъ* 'любімец', *любовница* 'любіміца', *любодейница* 'пралюбадзейка', *молебница* 'тая, якая звяртаецца да Бога', *мюро*, *надеяние* 'спадзяванне', *наказатель* 'той, хто карае', *нападание (нападенье)* 'напад', *написальникъ* 'стваральнік', *напоитель* 'той, хто напойвае', *наполнитель* 'тварэц', *направитель* 'той, хто накіроўвае

на правільны шлях’, *наслажение* ‘асалода’, *наследничество* ‘права на наследаванне’, *неверствие* ‘нявера’, *недовмение* ‘недаўменне’, *нелюбица* ‘нялюбая’, *ненасытникъ* ‘ненасытная істота’, *неплодье* ‘неўрадлівасць’, *непорство* ‘тое, што адбываецца ў нядобры час’, *нестовство* ‘шаленства’, *нечаяние* ‘нечаканасць’, *ниприязнь*, *нитрополитъ*, *обзоръ* ‘агляд’, *обличникъ* ‘выкрывальнік’, *обременение* ‘абцяжарванне’, *обрученица* ‘нявеста’, *одверие*, *однословье* ‘вернасць свайму слову’, *опитемья*, *оруженикъ* ‘воін’, *оружьеносецъ*, *оселникъ* ‘праваднік каравана з аслоў’, *отечествие* ‘бацькаўшчына’, *паутина*, *перегина* ‘цяжкапраходнае месца’, *перекаженье* ‘скажэнне’, *пересмиханье* ‘насмешка’, *писателное* ‘пяро для пісьма’, *писецъ*, *питателница* ‘карміцелька’, *плескание* ‘плясканне’, *плоховство* ‘штосьці дрэннае’, *плюснянка* ‘абутак’, *побеждение* ‘паражэнне’, *повесникъ* ‘вяшчун’, *поганъ* ‘паганін’, *погубитель* ‘знішчальнік’, *подгородие* ‘месца на ўскраіне горада’, *подражитель* ‘пераймальнік’, *подъемникъ* ‘чалавек, які бярэ на сябе выкананне якіх-н. спраў’, *поклепникъ*, *покровитель*, *полено*, *полновенье* ‘напаўненне’, *полуночье*, *полъимение* ‘палавіна маёмасці’, *померканье* ‘зацямненне’, *помощекъ*, *понарь* ‘ліхтар’, *поругъ* ‘лаянка’, *послушница* ‘прыслужніца’, *посмешникъ* ‘наспешнік’, *посмотрение* ‘бачанне’, *поспешникъ* ‘памочнік’, *посулоимание*, *потаковница* ‘патуральніца’, *потерпение*, *почерпало* ‘чарпак’, *празнество (празднество)*, *празнолюбецъ*, *превознесение*, *предстояние*, *пренемагание*, *преподобникъ*, *препрение* ‘перакананне’, *препятие* ‘распінанне’, *приводникъ* ‘той, хто прыводзіць куды-н.’, *приводница* ‘тая, хто прыводзіць куды-н.’, *прикосновение*, *приморие*, *приодение*, *приступникъ* ‘той, хто мае доступ да чаго-н.’, *приточникъ* ‘дадатак’, *прободение* ‘раненне шляхам пратыкання цела халоднай зброяй’, *прогнатель*, ‘той, хто праганяе каго-, што-н.’, сінонім *прогонникъ*, *прописатель* ‘той, хто прадпісвае што-н.’, *проповедатель* ‘прапаведнік’, *прорицание* ‘прадказанне’, *просветитель* ‘асветнік’, *просвещникъ* ‘асвятляльнік’, *просецъ* ‘просьбіт’, *процвитенье* ‘працвітанне’, *раздражитель* ‘раздражняльнік’, *раздранье* ‘раз’яднанне’, *раздрешитель* ‘той, хто вызваляе каго-н. ад пакут’, *различность* ‘рознасць’, *разрушникъ* ‘разбуральнік’, *рака*, *рахманство*, *ращение* ‘вырастанне’, *родителя* (ж. р. ад *родитель*), *ротница* ‘месца для прыняцця прысягі’, *святецъ* ‘архіерэй’, *сесецъ*, *сетование* ‘нараканне’, *сирафемъ*, *скупля* ‘скупка’, *снитие*, *соблюдитель* ‘ахоўнік’, *соверстница* ‘дарадчыца’, *содетель* ‘тварэц’, *сокровитель* ‘захавальнік’, *сопрение* ‘спрэчка’, *сопричастникъ* ‘саўдзельнік’, *сорадникъ* ‘дарадчык’, *сорадница* ‘дарадчыца’, *сохождение* ‘сашэсце’, *сродница* ‘сваячка’, *ступление* ‘раз’юшанасць’, *суетье* ‘марнасць’, *сужителница* ‘спадарожніца’, *сядение*, *тление* ‘разлажэнне’, *тмяность* ‘цьмянасць’, *толща* ‘тоўшча’, *томитель* ‘мучыцель’, *тризъ*, *трудникъ* ‘падзвіжнік’, *трупие*, *тряпеза*, *тряпезникъ* ‘спажывец’, *убрусъ*, *уводитель*

‘той хто ўводзіць куды-н.’, *ужасть* ‘жах’, *уластелинъ*, *уность*, *уноша*, *усекатель (всекатель)* ‘кат’;

- кампазіты: *двокроты*, *добролепный*, *доброплодный*, *добропобедный*, *доброразумье*, *добродородный*, *добросердый*, *добросладкий*, *доброчестный*, *доброчестно*, *доброчестье*, *долгомучимый*, *домыслити*, *законопреспевающий*, *злоупоминание*, *злувспоминание*, *истинотворяще* ‘праўдападобна’, *колькраты*, *кровопивецъ*, *кровоядный*, *круговратный*, *ласкосердие*, *лескосердство*, *летопродавца*, *лиходейство*, *лихосердый*, *любодеевъ*, *любодейница*, *маловременный (малоуременный)* ‘недаўгавечны’, *маломожный* ‘бядняк’, *миротворецъ*, *многопийца* ‘п’яніца’, *многохвалный*, *многоценно*, *многоядца*, *одинобудущий*, *одиномысленый*, *одинославный*, *одиносущный*, *одиночадый*, *одиномыслено*, *однословье*, *островласный*, *первосветитель*, *первохрестьянский*, *празнолюбецъ*, *пустыннелюбица*, *пянтикостие*, *равномощный*, *резоемецъ*, *резоемство*, *резоиманье*, *ризошвецъ*, *litрознобудучий*, *самохотный*, *светозарный*, *светообразно*, *светообразный*, *светопостный*, *сердоболя* ‘сваяк’, *срамословие*, *стократицею*, *страннопримецъ*, *студодеяние*, *сухоложение*, *трекровный*, *треупостатный*, *триглавецъ*, *тризубъ*, *тученосный*, *улегоглавитися*;
- лексіка са значэннем прыметы прадмета або дзеяння: *говяжий*, *горикий*, *горский* ‘горны’, *горчее*, *госпожинъ*, *грешно*, *громчее*, *девственный*, *державный* ‘магутны’, *добрей*, *завтриний*, *зорный* (ад *зоря*), *икониский*, *инаково* ‘інакш’, *искони*, *карамолный*, *колький* ‘які’, *крестителевъ*, *критский*, *кротко*, *лахерский*, *любодеевъ*, *лютее*, *милоснейший*, *молебно*, *молньиный*, *мурьский*, *мучителевъ*, *мучный* (ад *мукá*), *невгодно*, *невкоторый*, *недалече*, *недаромъ*, *неделничный* ‘тыднёвы’, *неведомо*, *незабытно*, *неизреченно*, *неисклонный*, *некуда*, *нелепо*, *нелижъ* ‘толькі’, *немоцно* ‘немагчыма’, *ненадолзе*, *неопално*, *неприятный*, *неравно*, *неразлучный*, *несмешенно*, *низашто*, *ниоткуду*, *ниприложно*, *нужли (нюжли)*, *оканне* ‘жорстка’, *опоследе*, *осопный*, *отнеле*, *отовселя*, *оточный*, *оточь*, *пекольный*, *пережний*, *полезнее*, *поточный* (ад *потокъ*), *прадедний*, *премудростный*, *преподобне*, *садовый*, *скотски*, *смрадный*, *соблазный*, *советнический*, *согласно*, *сокровно*, *сокровный*, *старчий*, *страстивый*, *страстне*, *супраbне*, *сходный*, *тельный* (ад *тело*), *трудниковъ*, *увекы*, *увоторопе*, *упереде*, *упреде*, *утрий*, *учительно*.

Пры аналізе слоўнікавых артыкулаў, змешчаных у «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» (тт. 5–35), вызначаны таксама лексемы, якія сустракаюцца ў «Чэцці» 1489 г. і яшчэ ў некаторых помніках старабеларускай пісьменнасці. Найбольшая колькасць такіх слоў адзначаецца ў перакладзе Біблії Францыска Скарыны: *всюду*, *вшедший (вшодший)*, *двизатися*, *детище*, *доле* ‘ўнізе’, *доплыти*, *жертвеный*, *жрати* ‘прыносіць у ахвяру’, *жребя*, *жрецъ*, *жужелица (жюжелица)*, *забывающий*, *избавивший*, *избечи*, *искончание*, *искончати*, *искоренити*, *истерпети*, *исхожати*, *клада* ‘калода’, *козлище*, *мимоходящий*,

*начинанье*, *незаходимый*, *несущий*, *нетерпеливый*, *никогда*, *нощию*, *обращати*, *обхожати*, *опочивающий*, *опоясание*, *ослаблятися*, *отперетися*, *отторгнути*, *подале*, *ползущий*, *посорометися*, *поспати*, *почести* ‘палічыць’, *пронестися*, *раскопати*, *разодрати*, *распастися*, *раступитися*, *свещати*, *сволочи*, *семо*, *сказаемый*, *сказатель*, *смрадъ*, *снедение* ‘з’ядзенне’, *сошедый*, *спасающий*, *сподобленый.* З прыкладаў відавочна, што абодва помнікі былі створаны ў рэчышчы царкоўнаславянскай кніжнай традыцыі. З іншых твораў старабеларускай пісьменнасці, якія маюць агульныя лексемы з помнікам «Чэцця», варта адзначыць слоўнік Памвы Бярынды (*губительный*, *кровать*, *отместник* ‘мсцівец’, *свершитель*), «Арыстоцелевы вароты» (XVI ст.) (*горе* ‘высока’, *измешкати*, *иссушити*, *подобникъ*, *розмыслити*, *сведеный*, *ступня*). Фактычна няма лексем, якія былі б характэрны помніку «Чэцця» і творам дзелавой пісьменнасці, што сведчыць аб даволі вялікай адлегласці, якая існавала паміж жанрамі рэлігійнай і дзелавой пісьменнасці на раннім этапе функцыянавання старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы.

## Літаратура


1. Карпиньский, М. Западно-русская Четья 1489 года / М. Карпиньский // Русский филологический вестник. — Варшава, 1889. — Т. 21. — № 1. — С. 59–109.
2. Нікалаеў, М. В. Гісторыя беларускай кнігі: у 2 т. — Т. 1: Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М. В. Нікалаеў. — Мінск, 2009.
3. Німчук, В. Цінний внесок в історію східнослов’яньских народів / В. Німчук, В. Русанівський // Мовознавство. — 1979. — № 1. — С. 72–76.
4. Перетц, В. Н. К изучению Четьи 1489 г. / В. Н. Перетц // Исследования и материалы по истории старинной украинской литературы XVI–XVIII вв. — Ленингад, 1928. — Вып. 2. — С. 1–107.
5. Плющ, П. П. Історія української літературної мови / П. П. Плющ. — Київ, 1975.
6. Соболевский, А. И. История русского литературного языка / А. И. Соболевский. — Ленинград, 1980.

**Ірына Гапоненка** *(Мінск, Беларусь)*

# ДА ПЫТАННЯ АБ ПЕРАДАЧЫ ПОЛЬСКІХ ТАПОНІМАЎ ПА-БЕЛАРУСКУ: СКЛАДАНЫЯ І САСТАЎНЫЯ НАЙМЕННІ

Геаграфічныя назвы — гэта анамастычныя адзінкі, надзеленыя важнымі грамадскімі і прававымі функцыямі пры ўнутрыдзяржаўным і міжнародным выкарыстанні. Адпаведна кожная суверэнная краіна павінна ўстанавіць нарматыўную нацыянальную форму геаграфічных найменняў, якая ў тым ліку будзе служыць зыходнай базай пры іншамоўным афармленні тапонімаў, а ў мэтах аптымізацыі міжнароднага супрацоўніцтва — распрацаваць прынцыпы і правілы перадачы іншамоўных геаграфічных назваў на нацыянальную мову.

У Беларусі апошнім часам істотна актывізавалася праца па стандартызацыі іншамоўных тапонімаў. Пад кіраўніцтвам Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Белкартаграфія» складаюцца так званыя тэхнічныя кодэксы, якія рэгламентуюць правілы афармлення геаграфічных найменняў розных краін на беларускай мове. У першую чаргу апрацоўцы падлеглі назвы памежных тэрыторый. Так, складзены і зацверджаны кодэксы па перадачы літоўскіх, латышскіх, украінскіх, польскіх, рускіх тапонімаў[1].

Асноўныя **прынцыпы** перадачы іншамоўных назваў на беларускую мову зводзяцца да наступнага.

1. Геаграфічныя назвы перадаюцца на беларускую мову паводле прынцыпу *трансліттарацыі*, зыходзячы з іх афіцыйнага напісання, прынятага ў адпаведнай замежнай мове[2]. Асноўнымі крыніцамі для ўстанаўлення аўтэнтычнай формы геаграфічных назваў у мове-крыніцы служаць выдадзеныя ў апошнія

---

[1] ТКП 176-2009. Спосабы і правілы перадачы геаграфічных назваў і тэрмінаў Латвійскай Рэспублікі на беларускую мову; ТКП 177-2009. Спосабы і правілы перадачы геаграфічных назваў і тэрмінаў Украіны на беларускую мову; ТКП 187-2009. Спосабы і правілы перадачы геаграфічных назваў і тэрмінаў Літоўскай Рэспублікі на беларускую мову; ТКП 236-2010. Спосабы і правілы перадачы геаграфічных назваў і тэрмінаў Рэспублікі Польшча на беларускую мову; ГКНП 13-012-2011. Тэхнічная інструкцыя па перадачы найменняў геаграфічных аб'ектаў з рускай мовы на беларускую мову.

[2] Поўнасцю выключаецца перадача геаграфічных назваў шляхам даслоўнага перакладу тыпу, напрыклад, польскіх найменняў *Krasne* як *Чырвонае, Bohatery — Героі, Wspólne — Сумеснае* або *Супольнае.* Не дапускаюцца змяненні структурнага аблічча геаграфічных назваў тыпу *Przedmieście — Прадмесце, Synkowce — Сынкоўцы, Harasimowicze — Харасімавічы, Boratyńszczyzna — Баратыньшчына.* Перадаем па-беларуску *Пшэдмесьце, Сынкоўцэ, Харасімавічэ, Баратыньшчызна.*

гады нацыянальныя буйнамаштабныя карты, атласы, а таксама турыстычныя даведнікі, даведнікі населеных пунктаў, даведнікі адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу і іншыя падобныя нарматыўныя выданні.

2. Дыялектныя асаблівасці іншамоўных геаграфічных назваў адлюстроўваюцца пры передачы на беларускую мову толькі ў тым выпадку, калі яны замацаваліся ў афіцыйных нацыянальных тапанімічных формах.

3. Пры адсутнасці прамых адназначных графічных адпаведнікаў іншамоўных і беларускіх літар пад увагу бяруцца асаблівасці аўтэнтычнага вымаўлення назвы[1].

4. Транслітарацыя запазычаных геаграфічных назваў праводзіцца з такім разлікам, каб афармленне транслітараванай назвы адлюстроўвала асноўныя беларускія фанетычныя асаблівасці і не супярэчыла арфаграфічным прынцыпам сучаснай беларускай мовы[2].

У працэсе перадачы замежных тапонімаў улічваюцца наступныя асаблівасці беларускай арфаграфіі: цвёрдасць шыпячых, [р] і [ц] спрадвечнага; часткова аканне, а менавіта пераход [о] ў [а]; пераход [у] ў [ў]. У мэтах максімальнага захавання зыходнага выгляду назвы не адлюстроўваюцца наступныя беларускія асаблівасці: дзеканне і цеканне (неадлюстраванне дзекання і цекання пры транслітарацыі дасягаецца за кошт напісання пасля *д*, *т* толькі непамякчальных галосных *э*, *ы*, *а*, *о*, *у*); яканне (ненаціскны [е] ў транслітараваных назвах перадаецца толькі праз непамякчальнае *э*); часткова аканне, а менавіта пераход [е] ў [а]; узнікненне прыстаўных гукаў перад пачатковымі [о], [у] (у словах іншамоўнага паходжання захаванне ненаціскнога *э* і адсутнасць прыстаўных дапускаецца правіламі беларускай арфаграфіі).

5. Выключэнне з правілаў перадачы складаюць геаграфічныя назвы, якія ва ўсходнеславянскай картаграфіі, энцыклапедычных і ў іншых афіцыйных пісьмовых выданнях традыцыйна замацаваліся ў іншай форме[3].

Канкрэтныя правілы і спосабы перадачы іншамоўных літар і літарных спалучэнняў на беларускую мову дэталёва прадстаўлены ў названых вышэй кодэксах.

Аднак у ходзе канверсіі геаграфічнага наймення, акрамя пошукаў фонаграфічных адпаведнікаў, у некаторых выпадках патрабуецца знайсці адказы на пытанні, не агавораныя ў згаданых кодэксах або раскрытыя ў іх толькі фрагментарна. Так, пры графічным выражэнні чужамоўнага тапоніма ўрэгулявання патрабуе напісанне складаных і састаўных назваў.

---

[1] Напр., гэта датычыць літар для абазначэння спецыфічных польскіх насавых галосных *ę* і *ą*.

[2] Гл.: Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. — Мінск: Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2008. Далей — ПБАП.

[3] Напр., польскія найменні *Кракаў*, а не *Кракуў*, *Лодзь*, а не *Лудзь*, *Беласток*, а не *Бялысток*, *Аўгустоў*, а не *Аўгустуў* і пад.

Пакажам існуючыя праблемы такога плану на прыкладзе польскіх тапонімаў.

***Па-першае***, з напісаннем складаных і састаўных назваў звязаны блок сімвалічных арфаграм (правапіс вялікай літары).

У беларускай і польскай мове ўжыванне вялікай / малой літары пры напісанні шматслоўных геаграфічных найменняў па большасці пазіцый супадае: з вялікай літары пішуцца ўсе часткі складаных і састаўных геаграфічных найменняў: *Зялёны Луг, Аўстра-Венгрыя, Брэст-Літоўскі, Мінск-Мазавецкі, Картуз-Бяроза* і *Bory Tucholskie, Dolny Śląsk, Górny Śląsk, Jelenia Góra, Mała Panew, Morskie Oko, Nowa Zelandia, Rzeka Świętego Wawrzyńca, Stary Sącz, Wielki Kaukaz, Wielki Kocioł Śnieżny, Wielki Staw*; прыметнікі *паўднёвы, паўночны, усходні, заходні* (адпаведна *południowy, północny, wschodni, zachodni*) пішуцца з вялікай літары, калі з'яўляюцца інтэгральнай часткай геаграфічнага наймення (*Паўночны полюс, Заходняя Еўропа* і *Beskidy Wschodnie, Europa Zachodnia, Morze Północne, Przylądek Północny, Republika Południowej Afryki, Tatry Zachodnie, Wyspa Południowa, Zachodni Brzeg (Jordanu), Ziemia Północna*) і з малой, калі абазначаюць частку тэрыторыі (*над паўночнай Беларуссю рухаецца цыклон* і *zwiedziłem zachodnią Europę*, г. зн. *zachodnią część Europy*) (гл. ПБАП, § 27 і «Pisownia polska»[1], п. 18.24). Адпаведна ў гэтай частцы перадача польскіх назваў на беларускую мову не выклікае пытанняў.

Аднак у польскай арфаграфічнай традыцыі існуюць і спецыфічныя правілы, датычныя ўжывання вялікай / малой літар у геаграфічных найменнях:

а) калі ўласная назва складаецца з двух членаў (тапанімічнага і наменклатурнага) і другі член з'яўляецца нязменным назоўнікам, то першы член (тыпу *góra, nizina, półwysep, cieśnina, tama, kanał, morze, jezioro, wyspa, pustynia, wyżyna* і г. д.) пішацца з малой літары, а другі — з вялікай, напрыклад: *morze Marmara, półwysep Hel, pustynia Gobi, wyspa Uznam*; калі ж уласная назва складаецца з двух членаў і другі член уяўляе сабой назоўнік у родным склоне або прыметнікам у назоўным склоне, абодва члены пішуцца з вялікай літары, напрыклад: *Cieśnina Beringa, Góra Kościuszki, Morze Barentsa, Hala Gąsienicowa, Kanał Panamski, Przełęcz Dukielska, Puszcza Niepołomicka, Wyżyna Małopolska*;

б) з вялікай літары ў польскай мове пішуцца абодва кампаненты (наменклатурны і тапанімічны) састаўной геаграфічнай назвы, калі назва з'яўляецца цэласным найменнем аб'екта (*Morze Baltyckie, Puszcza Białowieska*); з малой літары пішуцца абодва названыя кампаненты геаграфічнай назвы, калі назва ўяўляе сабой спалучэнне наменклатурнага кампанента з адыменным пры-

[1] Гл.: «Pisownia polska», раздзел «Pisownia nazw własnych» (гл.: «Zasady pisowni i interpunkcji» [Электронны рэсурс]. — 2011. — Рэжым доступу: http://so.pwn.pl/zasady.php?id=629595. — Дата доступу: 11.09.2016, далей — Pisownia).

метнікам, утвораным ад самастойнай геаграфічнай назвы (напрыклад, назвы геаграфічных адзінак) тыпу *województwo lubielskie.*

Пры перадачы на беларускую мову такіх шматслоўных найменняў традыцыйна ўлічваецца беларуская норма, згодна з якой адыменныя прыметнікі, утвораныя ад геаграфічных назваў, пішуцца з вялікай літары, а наменклатурныя тэрміны — з малой: *Балтыйскае мора, Люблінскае ваяводства, Белавежская пушча, Сапун-гара, Князь-возера* [гл.: ПБАП § 27, ТКП 236-2010. Спосабы і правілы перадачы геаграфічных назваў і тэрмінаў Рэспублікі Польшча на беларускую мову, п. 6.3.7].

***Па-другое***, пры афармленні складаных і састаўных назваў пытанні ўзнікаюць у дачыненні да лінейных арфаграм (афармленне слоў асобна, злітна і праз злучок).

У польскай мове сустракаюцца асобнааформленыя і дэфісныя складаныя і састаўныя назвы: *Miszkieniki Wlk., Kozłowy Ług, Nw. Ostrów, Ostrów Płd., Nw. Łuplanka* і *Malawicze-Dln., Malawicze-Grn., Horczaki-Grn., Słójka-Borowszczyzna, Waliły-Stacja*, *Ozierany-Mł., Nowe-Mokrany, Mała-Klonowica, Horoszki-Duże, Stare-Buczyce*. Прыназоўнікі, ужытыя ў сярэдзіне шматслоўных назваў, не выдзяляюцца злучкамі, напрыклад, *Gródek nad Dunajcem, Nakło nad Notecią, Świder koło Warszawy* або *Gródek n. Dunajcem, Nakło n. Notecią, Świder k. Warszawy* (гл. Pisownia, п. 18.24.4).

У беларускай мове складаныя ўласныя назвы паселішчаў з пачатковай часткай *нова-(нава-), стара-, верхне- (верхня-), ніжне- (ніжня-), сярэдне- (сярэдня-)* і інш. пішуцца злітна: *Новалукомль, Навасады, Навагрудак, Старакожаўка, Верхнядзвінск, Ніжнявартаўск, Сярэдняборск, Краснаполле, Крутагор’е, Светлагорск*; складаныя назвы геаграфічных аб’ектаў пішуцца праз злучок *Камянец-Падольскі, Буда-Кашалёва, Давыд-Гарадок, Камень-Кашырскі*, словы ў геаграфічных уласных назвах, якія з’яўляюцца спалучэннем поўнага прыметніка з назоўнікам (пры гэтым прыметнік знаходзіцца ў прэпазіцыі), пішуцца асобна: *Стары Свержань, Старыя Дарогі, Белы Груд, Вялікія Радванічы, Вялікія Якентаны, Новыя Якентаны, Малыя Шумілішкі, Малыя Яцыны, Дольны Каменны Лог*; уласныя геаграфічныя назвы, якія з’яўляюцца спалучэннем назоўніка з назоўнікам у месным склоне і прыназоўнікам *на* пішуцца праз злучок: *Растоў-на-Доне, Франкфурт-на-Майне* (гл. ПБАП, § 35, п. 1, 3, 6).

Такім чынам, у беларускай і польскай мове аналагічныя назвы ў шэрагу выпадкаў афармляюцца паводле розных прынцыпаў (напрыклад, польскія назвы, якія складаюцца з назоўніка і залежнага прыметніка тыпу *Stare-Buczyce*, па-беларуску прынята пісаць асобна — *Старыя Бучыцы*). У такой сітуацыі ў дачыненні да польскіх назваў пры перадачы па-беларуску можна прапанаваць захоўваць аўтэнтычнае польскае дэфіснае або раздзельнае напісанне. Такі варыянт бачыцца аптымальным, паколькі дазваляе пазбегнуць скажэння

зыходнай формы, што з’яўляецца адным з асноўных сучасных патрабаванняў да правіл трансляцыі назваў з мовы ў мову.

Акрамя таго, у польскай мове паўтаральныя элементы шматслоўных назваў тыпу *Dln*., *Grn., Wlk., Mł., Nw., Str., Płn., Płd.* могуць або скарачацца (*Malawicze-Dln., Malawicze-Grn., Horczaki-Grn., Horczaki-Dln., Miszkieniki Wlk., Nw. Ostrów, Ostrów Płn., Ostrów Płd., Ozierany-Mł., Ozierany-Wlk., Nw. Łuplanka, Nw. Łuka, Nw. Masiewo, Nw. Pawłów, Małaszewicze-Mł., Żłobek-Mł., Nw. Dwór, Nw. Rogożyn, Str. Rogożyn*) або падавацца ў поўным выглядзе (*Horoszki-Duże, Horoszki-Małe, Nowe-Mokrany, Malaszewicze-Duże, Mała-Klonowica, Duża-Klonowica, Dobryń Duży, Żłobek-Duży*). Элементы *Nw., Str.* пры гэтым знаходзяцца перад асноўнай назвай (*Nw. Dwór, Nw. Rogożyn, Nw. Ostrów, Nw. Łuplanka, Nw. Łuka, Nw. Masiewo, Nw. Pawłów, Str. Rogożyn*), а іншыя элементы размяшчаюцца, як правіла, пасля асноўнай назвы (*Malawicze-Dln., Malawicze-Grn., Horczaki-Grn., Horczaki-Dln., Miszkieniki Wlk., Ostrów Płn., Ostrów Płd., Ozierany-Mł., Ozierany-Wlk., Małaszewicze-Mł., Żłobek-Mł.*).

Пры беларускай перадачы такіх польскіх назваў скарочаныя часткі *Dln*., *Grn., Wlk., Mł., Nw., Str., Płn., Płd.* і пад. прынята паслядоўна раскрываюцца да поўнай формы (*Małaszewicze-Mł. — Малашэвічэ-Малэ, Malawicze-Dln. — Малявічэ-Дольнэ, Malawicze-Grn. — Малявічэ-Гурнэ, Miszkieniki Wlk. — Мішкенікі Вельке* і г. д.) з улікам родавай прыналежнасці галоўнай часткі назвы (*Żłobek-Mł. — Жлобэк-Мал***ы**, *Horoszki-Małe — Харошкі-Мал***э**; *Nw. Dwór — Нов***ы** *Двур, Nw. Łuka — Нов***а** *Лука, Nw. Masiewo — Нов***э** *Масева*). Такі падыход, на нашу думку, можна прызнаць прымальным, паколькі ён адпавядае ўсходнеславянскай тапанімічнай традыцыі. Заўважым, што часткі польскіх складаных назваў пры перадачы на беларускую мову не павінны мяняць пазіцыі адна адносна другой і падавацца ў тым парадку, у якім яны размешчаны ў польскай мове. Варыянты з пазіцыйным перамяшчэннем частак назвы, якія ў асобных выпадках сустракаюцца пры рускамоўным афармленні польскіх тапонімаў (*Nowe-Mokrany — Мокраны Нове, Mała-Klonowica — Клёновица Мала, Duża-Klonowica — Клёновица Дужа*) мы лічым недапушчальнымі.

Такім чынам, пры перадачы польскіх назваў на беларускую мову неабходна звяртаць увагу не толькі на асаблівасці літарнага адлюстравання найменняў, але і на арфаграмы ўмоўнага характару (нялітарныя), бо прынцыпы іх афармлення, прынятыя ў мове-крыніцы і прымаючай мове, могуць уступаць у супярэчнасць.

Неабходна выпрацаваць паслядоўныя прыёмы канверсіі найменняў у гэтым арфаграфічным сектары. Тут патрабуецца гнуткі падыход, трэба знайсці разумны кампраміс паміж нормамі дзвюх кантактуючых моў. З аднаго боку, па магчымасці захаваць зыходны выгляд назвы, што ў далейшым спрыяе ажыццяўленню аб’ектыўнай рэтранслітарацыі, а з другога боку, улічыць правапісныя традыцыі мовы-рэцыпіента, каб іншамоўнае найменне натуральна глядзелася ў тэксце.

У цэлым, на наш погляд, нармалізацыя перадачы польскіх геаграфічных назваў на беларускую мову ў апісаным вышэй кірунку будзе садзейнічаць устанаўленню іх аднастайнай беларускай формы, што дазволіць пазбегнуць разнабою ў картаграфічнай і геадэзічнай практыцы, у рабоце пашпартнавізавых службаў і станоўча паўплывае на эфектыўнасць працы органаў дзяржаўнага кіравання, міждзяржаўных установў, сродкаў масавай інфармацыі.

---

**Katarzyna Grabowska** *(Białystok, Polska)*

## CHARAKTERYSTYKA JĘZYKOWA LATOPISÓW II REDAKCJI (na przykładzie latopisu Krasińskich)

Powstanie II redakcji latopisów białorusko-litewskich (zwanej również *Kroniką Wielkiego Księstwa Litewskiego i Żmudzkiego*) związane jest ze wzrostem świadomości historycznej elit Wielkiego Księstwa Litewskiego oraz z przemianami politycznymi na początku XVI w. Zmiany te sprawiły, iż uległa dezaktualizacji I redakcja kronik białorusko-litewskich, wyrażająca promoskiewską ideę historycznej i politycznej jedności wschodniosłowiańskich ziem. Historia WKL, zapisana w I połowie XIV w., prezentowana była na szerokim wschodniosłowiańskim tle, jako kontynuacja historii Rusi Kijowskiej, zaś wiadomości z zakresu historii Litwy i Białorusi podano w sposób niepełny i wyrywkowy. Zrodziło to potrzebę uzupełnienia I redakcji o nowe materiały tak, by stworzyć kolejną redakcję, bardziej odpowiadającą potrzebom czasu [8, s. 135].

*Kronika Wielkiego Księstwa Litewskiego i Żmudzkiego* została prawdopodobnie zapisana w latach 20. XVI w. przez osobę związaną z rodem litewskich magnatów Gasztołdów, jednak ustalenie miejsca jej powstania jest kwestią sporną. Zdaniem niektórych badaczy latopisów zabytek ów został spisany w Nowogródku [6, s. 37–38], zaś inni skłaniają się ku opinii, iż mógł on powstać w Wilnie [8, s. 159]. W rezultacie połączenia *Latopisu wielkich książąt litewskich*, zapożyczonego z I redakcji, i *Kroniki Wielkiego Księstwa Litewskiego i Żmudzkiego* powstała nowa redakcja latopisów białorusko-litewskich. Jej najstarszym odpisem jest latopis *Krasińskich*, powstały najprawdopodobniej w połowie XVI w. Jest on niepełny, bowiem brak w nim końca *Kroniki…* i ostatniej strony *Latopisu…* . Poszczególne części *Летописца* zostały opatrzone podtytułami, np. *О Подольской земле, О Швитригаиле, О Жикгимонте, как Литву держал*. Zabytek swą nazwę zawdzięcza miejscu przechowywania do momentu zaginięcia w czasie II wojny światowej, a mianowicie Bibliotece Krasińskich w Warszawie [5, s. 10].

Pierwotny tekst II redakcji został poddany dodatkowemu opracowaniu. Na podstawie krótkiej wersji, którą reprezentuje latopis *Krasińskich*, została zredagowana wersja poszerzona. Na jej końcu znajduje się tzw. *Хроничка*, zawierająca informacje o wydarzeniach XIV — I połowy XVI w. Najbardziej charakterystycznym odpisem tej redakcji jest *Kodeks Poznański* (zwany inaczej latopisem *Raczyńskich*). Ponadto do II redakcji należą jeszcze odpisy *Rumiancewa, Towarzystwa Archeologicznego, Patriarszy, Tichonrawowa, Ewreinowa* oraz *Olszewski*.

Geneza *Kroniki Wielkiego Księstwa Litewskiego i Żmudzkiego* jest interpretowana w sposób dwojaki. Niektórzy badacze (np. M. Jučas) [4, s. 13] uważają, iż była ona swoistą odpowiedzią na moskiewską wersję legendy o pochodzeniu książąt litewskich, zawartą w *Сказании о князьях Владимирских*. Według niej dynastia władców litewskich wywodzi się od koniucha Giegiminika, który wykorzystując trudny dla Rusi okres podstępem zajął zachodnioruskie ziemie i w ten sposób został pierwszym księciem litewskim. Moskiewskie podanie kwestionowało prawo książąt litewskich do zajętych ziem, które powinny być zwrócone jej prawowitym właścicielom [6, s. 41–42]. Zgodnie z inną wersją legenda o Palemonie była polemiką z funkcjonującym w polskiej tradycji mitem o sarmackim pochodzeniu polskiej szlachty [4, s. 12–13].

Przedmiotem niniejszego artykułu jest charakterystyka języka *Latopisu Krasińskich*, najstarszego odpisu II redakcji latopisów białorusko-litewskich, na poziomie fonetycznym. W zabytku reprezentującym II redakcję latopisów białorusko-litewskich należałby się spodziewać wielu zjawisk znajdujących uzasadnienie w zachodnioruskiej fonetyce. Przeprowadzona przeze mnie analiza cech fonetycznych danego zabytku wykazała, iż tak nie jest. Elementy cerkiewnosłowiańskie również znajdują w latopisie *Krasińskich* znikome, w porównaniu do cech ogólnoruskich, poświadczenie, co nie jest rzeczą zaskakującą.

Większość poddanych analizie zjawisk fonetycznych charakteryzuje się ogólnoruskim zasięgiem. W rozwoju niektórych z nich zauważalne są pewne cechy pozwalające traktować je jako typowo zachodnioruskie. W znikomym stopniu w zabytku ujawniają się również zjawiska powstałe pod wpływem fonetyki języka polskiego.

## I. Wokalizm

1. Prasłowiańskie połączenia grup *tort, *tolt, *tert, *telt uzyskują przeważnie realizację w postaci wschodniosłowiańskiego pełnogłosu, por. np.:

*боронилися* (81), *голод* (89), [*S*[1]: *В тыи же лѣта быстъ глад великъ* (82об)] в *Городнѣ* (75), *город* (84об) [*S*: *и град ему оттвориша* (58)], *горожаны* (84об), *по дорогам* (90об), *дорогими* (82), *здоровъя* (64об), *королев* (73), *королевну*

[1] W kwadratowych nawiasach zostały przytoczone analogiczne fragmenty z innych latopisów I i II redakcji: S — *Kronika Supraska*, R — latopis *Raczyńskich.*

(78) [*S*: *понял бы в них кролевну* (97), *R*: *а понял в них кролевну Едвигу* (253)], *королем* (78) [*S*: *и сталь бы в них кролемь* (97об), *R*: *и стал бы в них королем* (253)], *з морозом* (90об), *новъгородским* (67), *сторожею* (75), *сторонѣ* (66об), *хоромы* (78об) [*S*: а *другии велики храмы* (98)];

*берег* (66об), *на берегу* (71об), *Берестя* (67) / *з Берестья* (68об), *деревом* (66), *деревяного* (82об), *остерег* (75), *острегаючи* (75), *перебили* (89), *перевезлися* (76), *перед* (71), *передаитеся* (85), *перемире* (85), *перенесется* (72), *перепустили* (85об), *переступил* (78об), *перешед* (72), *перешли* (67), *перешодши* (65об), *Побережная* (65), *серебра* (70об), *середнии* (65об), *в середу* (81об) [*S*: *преставися в среду* (103)], *стеречи* (77);

*володѣеть* (*городом Витебском*) (81), *Володимер* (73), *Володимѣровича* (80), *володимирскии* (70), *волостем* (79об), *волости* (73об), *волохи* (83), *волоховѣ* (83), *волочили* (89) [*S*: *руки и ноги влачаху пси* (82об)], *головами* (78об), [*S*: *плѣнников под стены кладаху главами* (98об)], *голоду* (89), *голосом* (68об), *золотыи* (82), *в колокол* (89об), *молоду* (80об), *молодых* (68об), *наголову* (67об), *в полон* (67), *полоцким* (67об), *в Полоцку* (68), *полочане* (67об), *холоп* (74), *за холопа* (74).

Cerkiewnosłowiańską realizację tych prasłowiańskich połączeń udokumentowano w zdecydowanie mniejszej ilości przykładów, por.:

*възвратився* (67об), *възвратимися* (68об), *от града* (68), *навратившися* (66), *цариградскии* (86);

*безпрестани* (90об), *законопрѣступныи* (78об), *пребывал* (86об), *пред* (64), *преступив* (77), *сребра* (69), *в среду* (89об);

*з благословеное* (64), *владыками* (85), *владыкы* (85), *на главу* (79), *злата* (69).

Jako materiał ilustracyjny demonstrujący stosunek elementów ogólnoruskich do cerkiewnosłowiańskiej realizacji dawnych połączeń *or, *ol, *er, *el mogą posłużyć dwa cytaty z latopisu *Krasińskich* oraz *Kroniki Supraskiej*, por.:

*K*: *У Смоленску был* ***голод*** *вѣлми вѣликии, по селом и по* ***дорогам*** *звери люди едали, а в* ***городѣ*** *в Смоленску и по мѣсту по улицам псы люди едали,* ***головы*** *по улицам* ***волочили****, руки и ноги человечьи, и люди люди едали, и малых дѣток матки ели от великого* ***голоду****, а у великии пост мясо едали по селом и по волостем* (89);

*S*: *В тыи же лѣта бысть* ***глад*** *великь во Смоленску, по лесомь и по* ***дорогамь*** *звѣри ядяше люди, а в* ***городе*** *и по улицамь пси ядаху люди, мертвых* ***главы*** *и руки и ноги* ***влачаху*** *пси. Ино и люди елико от малых детеи от великого гладу, а во великое говение мяса ѣли, звирину, по* ***волостомь*** *и по селомь* (82об).

Niewątpliwie pod wpływem polskiej fonetyki powstały formy typu *кролевъства* (78), *кролевъство* (86) oraz *препросить* (77об).

2. Nagłosowe połączenie *ort oraz prasłowiański przedrostek *orz pod intonacją cyrkumfleksową uzyskują niemal bezwyjątkową realizację w postaci zapisów *ро*-, *роз*- (*рос*-): *з ровнинами* (72), *ровнины* (65), *розбили* (80), *розболелся* (81об),

*розгнѣвати* (87), *розехали* (90), *розмаитое* (65), *до розмаитых* (64об), *розного* (65), *розогнаны* (67), *розсекши* (83), *розширяти* (66об), *роскошные* (65), *роспустил* (84об) / *разехатися* (76об), *размаитыми* (82).

3. W latopisie *Krasińskich* dominuje nagłosowe [o-] (<*ie-), będące jedną z najwcześniej poświadczonych cech ruskich, por.: *одна* (77об), *одно* (64об), *одного* (64об), *одному* (64), *озера* (69об), *озеро* (65об), *озером* (65об), *оленеи* (83), *осени* (84об), *осень* (87). Nagłos *je-* został poświadczony zaledwie w jednym apelatywie: *еленеи* (65) oraz w imieniu *Евнутеи* (73).

4. Latopis *Krasińskich* dokumentuje nieliczne przykłady akania w postaci zapisów obocznych: *воиско* (70) / *у воиска* (*Якгаилово*) (acc. sg.) (77); *доконало ся* (77) / *доканаем* (77); *зоволгъскии* (69об) / *заволгъского* (70об), *с Китоврасу* (69) / *с Китаврасу* (66об); *в кораблех* (64об) / *караблех* (80); *корачевским* (69об), *Корачов* (73) / *Карачев* (69); *монастырь* (68) / *манастырь* (68); *з Новагородка* (68об) / *з Навагородка* (67); *отаманы* (82об) / *со атаманы* (82об); *Полемона* (70об) / *Палемон* (65); *Ямонт* (68об) / *Яманту* (82). Pośrednio akanie zostało wyrażone w hiperyzmach typu: *Брясловль* (83), *Колугу* (90об), *обдоровавши* (69), *остронома* (64об). Charakterystyczne dla gwar południowobiałoruskich zwężenie [ʻa] > [e] obserwowane jest w nielicznych formach: *месеца* (85), *на память* (66), *резанского* (82), *Резанское* (82), *Свѣтослав* (78об). *Latopis Krasińskich* dwukrotnie notuje również zmianę [ʻa] > [e] w imieniu *Ерослава* (87об, 88об).

5. Analizowany zabytek dokumentuje paralelne zapisy wyrazów z *ě* oraz *e*, co świadczy o ich artykulacyjnej zbieżności. Zjawisko to obserwowane jest obecnie na całym białoruskim obszarze językowym, za wyjątkiem południowego zachodu oraz niektórych regionów sąsiadujących z dialektami ukraińskimi [7, s. 167–168]. Szereg podobnych przykładów z zamiennym użyciem *ě* oraz *e* w starobiałoruskich zabytkach XIII–XIV w. przytacza w swej pracy J. F. Karskij. Należy podkreślić, iż w zabytku zapisy z ѣ nie zawsze są zgodne z etymologią, pojawiają się również na miejscu [e], co jest kolejnym dowodem ich zbieżnej artykulacji. Materiał ilustracyjny:

a) w końcówkach fleksyjnych: *у Киевѣ* (87) / *на Киеве* (81об), *Новѣгородце* (67об) / *на Новегородце* (67), *в присязѣ* (78об) / *к присязе* (89об), *на рецѣ* (84) / *реце* (76об), *собѣ* (67) / *собе* (71);

b) w temacie wyrazów: *Андрѣя* (89об) / *Ондреи* (84об), *вѣликого* (76) / *великыи* (77), *дѣток* (78об) / *детки* (83об), *мѣжи* (76об) / *межи* (70), *мѣсто* (64) / *место* (66об), *мѣсяцеи* (97) / *месяца* (87), *недѣль* (86) / *недели* (85), *к нѣму* (76) / *к нему* (81), *в Нѣмцах* (77об) / *немъцы* (74).

W *Latopisie Krasińskich* nie zostało potwierdzone zjawisko zwężenia artykulacji [ě] > [i], typowe dla południowobiałoruskich i północnoukraińskich gwar. Na charakter poświadczonych w zabytku końcówek przypadków zależnych zaimka *весь* (*со всим* (69), *со всими* (81), *всих* (73об)) mógł mieć wpływ paradygmat odmiany miękkotematowej. W związku z tym podobne zapisy należy odnieść do zjawisk morfologicznych, nie zaś fonetycznych [1, s. 137].

6. Przegłos [e] > [o] po dawnych [š’], [ž’], [č’] oraz [c’] przed spółgłoską twardą w analizowanym zabytku uzyskał dość liczną egzemplifikację. O fonetycznym podłożu tego zjawiska najlepiej świadczą przykłady, w których zmiana [e] > [o] zachodzi w rdzeniu wyrazów, np.: *тут жо* (81), *в Жомоить* (75об), *в Жомоитьскои* (66об), *жон* (88), *з жоною* (64об), *Жославль* (82), *ещо* (74об), *перешодши* (65об), *пришол* (65об), *прошод* (66об), *съжог* (66об), *ужо* (77об), *чолом* (81), *чорныи* (89об), *чотыри* (64об). W końcówkach lub sufiksach zmiana może być wynikiem wyrównań morfologicznych, w związku z czym geneza zapisów z *о* w tych pozycjach morfemowych jest najmniej pewna, por.: *вѣчо* (68), *вечом* (68об), *Михаиловичом* (70), *мужов* (67об), *навышьшого* (64), *нашом* (73об), *нашому* (76об), *ничого* (75), *прилежачое* (67), *за сторожою* (73об), *чого* (64), *чужого* (79);

*начовал* (83), *положон* (81об), *не послушон* (81), *сажоными* (82об), *спустошоны* (67).

Paralelnie pojawiają się zapisy z nieprzegłosowym [e], por.: *вшедши* (65), *Жемоитская* (65), *жену* (75об), *Жеславль* (73об), *еще* (76), *пришед* (70об), *уже* (74об), *черни* (90), *в четырех* (67); *набожен* (68), *положен* (68об), *спустошена* (66об).

## II. Konsonantyzm

7. Wśród kontynuantów dawnych połączeń *tj, *kt’, *gt’ liczebnie przeważają wschodniosłowiańskie zapisy z *ч*: *боячися* (66об), *будучи* (66об), *волочили* (89), *вѣчо* (68), *вечом* (68об), *княжачи* (68об), *не маючи* (66), *наследуючи* (64об), *ночи* (90), *опускаючи* (64об), *пануючи* (66об), *помоч* (68об), *просячи* (68об), *служечи* (68), *сѣчу* (67об), *тысяч* (70об), *усхочеть* (81об), *ходечи* (64об), *хотечи* (64об). Cerkiewnosłowiańską realizację tych prasłowiańskich grup w postaci zapisów z *щ* uzyskują w zabytku nieliczne przykłady, por.: *воплощене* (64), *помощь* (86), *портищи* (82об), *поюще* (81об), *с свѣщами* (81об), *священники* (80). Pojedyncze przykłady poświadczają również wpływy zachodniosłowiańskiej fonetyki: *моци* (67), *моцно* (87об), *моць* (69), *нѣмоцон* (81об). Połączenie *dj w latopisie przybiera bezwyjątkową postać zachodnio(ruskiego) [ž]: *горожаны* (84об), *медвежих* (71), *медвежьи* (71), *межи* (65об), *Межиземского* (*моря*) (64об), *посажал* (83об), *прироженого* (70об), *роженого* (89об), *сажоными* (83об), *хоживало* (69).

Na uwagę zasługują udokumentowane w zabytku kontynuanty dawnego połączenia *zdj w postaci białoruskiego [ždž] (wyrażone w pisowni poprzez *жч*): *дожчу* (88об), *ежчивал* (71), *приежчали* (86об), *приежчаючи* (82об). Podobne przykłady opisuje w swojej pracy nad językiem gwar białoruskich J. F. Karskij [3, s. 382].

8. Prasłowiańskie grupy: spółgłoska wargowa + [j] posiadają w zabytku typowe dla języków ruskich kontynuanty w postaci [pl’], [bl’], [ml’], [vl’]. Stanowią

one niemal bezwyjątkową normę: *Бряславль* (66об), *видблянѣ* (89), *Жеславль* (73об), *Жеславля* (88), *землю* (65), *земля* (66об), *кораблех* (64об), *к Лукомлю* (88), *ко Мъстиславлю* (78об), *Мстиславльскую* (78об), *к Муромлю* (90об), *о справленьи* (82), *явлено* (74об). Jedyny przykład bez epentezy: *з благословеное* (64) należy tłumaczyć wpływem języka cerkiewnosłowiańskiego, w którym około X w. pojawiła się tendencja do usuwania l-epentetycznego.

9. Charakterystyczną cechą, podkreślającą związek *Latopisu Krasińskich* z zachodnim obszarem Słowiańszczyzny Wschodniej jest sposób realizacji [g]. Zmiana [g] w szczelinowe krtaniowe [h] dokonała się na całym obszarze białoruskim, ukraińskim oraz południoworosyjskim [9, s. 21; 10, s. 89]. Poświadczenie [g] > [h] w cyrylickich zabytkach jest trudne ze względu na fakt, iż litera *г* mógł oddawać zarówno wybuchowe [g], jak też wymowę frykatywną. Pośrednio na taką artykulację wskazywały zapisy z *кг, к*, *гк* w miejscu etymologicznego [g]. Według obserwacji J. F. Karskiego w latopisach białorusko-litewskich zapis *г* był stosowany przy oznaczaniu frykatywnego dźwięku, zaś w zapożyczeniach wybuchowe [g] jest oddawane poprzez *кг* [2, s. 227].

W analizowanym zabytku udokumentowane zostały przykłady, na podstawie których można wnioskować o obecności w wymowie szczelinowego krtaniowego [h]. Są to wyłącznie zapożyczone wyrazy (przede wszystkim litewskie imiona i ich derywaty), aczkolwiek nie zawsze odznaczają się konsekwencją graficznej realizacji: *Боркг* (65об), *Юрборк* (65об), *на Юрборку* (66) / *Борг* (65об); *Довкгирда* (84); *Дѣдиколду* (83об); *Жикгимонт* (87об); *Кгаштовт* (67об); *со Кгданска* (80); *Кгердус* (72), *Кгедроити* (72), *кгедроиским* (72); *Кгинбут* (66об); *Кгинвил* (68); *Кгирмонту* (71); *Кгирус* (66об), *Кгирусова* (69); *Кгровъжис* (67); *Кгрумпа* (67), *Крумпю* (67); *Кгѣдимина* (72об); *Лынквеневичом* (78об); *Олькгирд* (72об), *Олкгирдовая* (80об), *Олкгирдовича* (74); *Минъкгаило* (67об); *Монтикгирдовича* (88); *Рынкголт* (70об); *Якгаила* (74), *Якгаило* (78об). Litewskie imiona *Скиргаило* (69), *Швитригаило* (81) zostały poświadczone wyłącznie z zapisem poprzez *г*.

10. Dyspalatalizacja spółgłosek funkcjonalnie miękkich [ž’], [š’] i [č’], potwierdzona w zabytkach pochodzących z różnych obszarów Wschodniej Słowiańszczyzny, nie znajduje poświadczenia w tekście analizowanego zabytku. Najprawdopodobniej pod wpływem tradycji piśmienniczej konsekwentnie pojawiają się zapisy z *и* po spółgłoskach szumiących, por.:

*и вчинил* (65об), *мѣшкаючи* (85об), *в ночи* (85), *починавши* (77), *пречистое* (64), *прислухаючи* (79об), *причины* (64), *чинити* (66);

*княживши* (67об), *наши* (78об), *оставъши* (72), *пришедши* (76), *розширяти* (66об), *спустошили* (82об);

*божии* (64), *животѣ* (73об), *живых* (64), *дружинѣ* (84об), *княжити* (70об), *Неважи* (65об), *прибѣжить* (75об).

Nieliczne wyekscerpowane z zabytku przykłady odzwierciedlają dyspalatalizację spółgłoski [r’], notowaną w piśmiennictwie zachodnioruskim

od XIV w. [3, s. 307–309]. W *Latopsie Krasińskich* przeważają zapisy z *р* w sąsiedztwie *и*: *не вѣрил* (75), *Кривыи* (80), *в монастыри* (68), *нѣприятѣли* (78об), *окристился* (68), *принял* (64), *Риму* (64), *ударили* (81), *чотыри* (87об) / *бояры* (78), *постpыглася* (68), *тры* (82об).

Jedynie zjawisko dyspalatalizacji spółgłoski [c'] uzyskało w języku analizowanego latopisu szerszą egzemplifikację; zabytek notuje paralelne zapisy z *ы* oraz *и* po [c]: *Богородици* (81об), *на границы* (69), *девици* (64), *месци* (65), *немци* (71об), *на правици* (64), *священници* (81об), *в черници* (68) / *арцыбискуп* (78), *вилневцы* (79об), *дѣржавцы* (79), *кузнецы* (89об), *немъцы* (74), *новъгородцы* (80), *поганцы* (78об), *на Соколцы* (83об), *на столцы* (80об).

11. Zmianę [ł] w niezgłoskotwórcze [u], przejawiającą się zmieszaniem w zapisie *л, оу* oraz *в*, białoruskie i ukraińskie zabytki dokumentują od XIV wieku. W analizowanym latopisie proces ten uzyskał znikome poświadczenie i obrazują go pojedyncze zapisy z *-в* w wygłosie dawnych form imiesłowu czynnego czasu przeszłego: *часу панованыя Кунасова* ***повъстав*** *царь Батыи* (66об), ***зъехавъся*** *и опять чисто разехатися* (76об), *и там тых гостеи* ***честив*** *и даровал размаитыми дары* (86).

Zabytek dokumentuje również przejście [u] w niezgłoskotwórcze [u] po poprzedzającej samogłosce na początku morfemu lub wyrazu, por.: *невъставичности* (64об), *поврезати* (69), *царя вбил* (69), *и вдарил* (81), *за вдѣл* (72), *и вмерши* (71об), *а въслышав* (66об), *князь (...) жомоитскии Втенус* (70об), *на Втине* (72), *было вчинено* (70об), *не вчинило* (76об). Najprawdopodobniej drogą analogii do zjawiska zachodzącego po samogłoskach, proces ten rozszerza się na inne pozycje: *вбили* (70) (*убили*), *вжо* (65), *вродил* (65), *втек* (70) (*убежал*), *втенским* (72), *вчинили* (67об).

Jednocześnie zabytek dokumentuje przykłady, w których obserwuje się odwrotne zjawisko, a mianowicie zastępowanie [v] literą *у*: *где* ***у*** *Велю упадываеть* (71), *были с собою* ***у*** *милости великои* (72об), *оставили были ещо у Вилни* (77), *за твердою сторожою* ***у*** *комнатѣ* (77), *на канун крещеня* ***у*** *четверг* (81об), *зжог митрополита* ***у*** *Витебску* (88об), *а* ***у*** *великии пост* (89), *битва* ***у*** *городѣ* (90). Zjawisko rozprzestrzenia się na pozycje po spółgłoskach: *трудно будеть узоити* (71), *в город у Вилню* (74об), *там у Кревѣ* (77).

12. Zabytek dokumentuje nieliczne przykłady charakterystycznej dla współczesnego języka białoruskiego spółgłoski protetycznej [7, s. 296 i 299] [v] przed samogłoskami tylnymi: *у-в обѣдную пору* (85), *у-в осень* (88об), *у-в отаманов* (82об), *у-в Угорскую землю* (85об), *у-в ызбах* (78). Wszystkie przytoczone przykłady odzwierciedlają zmianę przyimka [vъ] po zaniku jerów w [u] niezgłoskotwórcze, po którym przed samogłoskami rozwinęło się [v] protetyczne. Dodatkowo w ostatnim przykładzie znalazło odzwierciedlenie graficzne przejście [i] > [y] po przyimku zakończonym spółgłoską twardą. W zwrocie *ни у во што* (75) przyimek *у во* powstał drogą analogii do form zawierających protetyczne [v] przed nagłosowym [o].

Formy *окиян* (64об), *окияном* (64об) notują interwokaliczną spółgłoskę [j].

13. Proces utraty nagłosowego [i-] < *jь w językach białoruskim i ukraińskim po zaniku jerów w słabej pozycji dokumentują ukraińskie gramoty XIV–XV w. oraz XV-wieczne zabytki piśmiennictwa starobiałoruskiego [7, s. 234]. Zjawisko to uzyskało marginalne poświadczenie w analizowanym latopisie (najczęściej poprzez użycie przyimka *з* w miejscu *из*/*ис*): *иметь княжити* (67) / *и за бога мети* (66); *з города* (77об), *з Марина города* (80), *з Москвы* (80) / *из города* (80), *из мертвых востаня* (71об), *из города Киева* (81об), *из железъ* (85об).

14. Prewokalizacja nagłosowej grupy spółgłoskowej (przed sonantami [r], [l] poświadczona w południowo- i zachodnioruskich zabytkach od XIV wieku została udokumentowana w analizowanym latopisie na przykładzie nazwy miasta *Орша*: *к Орши* (81) / *ршанѣ* (81), *на Рши* (89). W pozostałych formach prewokalizacja zachodzi drogą analogii przed spółgłoskami [g] i [n]: *игде* (64об) / *где* (65), *иняли* (87об) / *в нятцтвѣ* (75), *в няцтво* (77).

## Podsumowanie

Na podstawie przeprowadzonej analizy zjawisk fonetycznych poświadczonych w *Latopisie Krasińskich* można stwierdzić, iż dominują w nim cechy o zasięgu ogólnoruskim. Zachodnioruskie cechy fonetyczne odznaczają się niekonsekwencją użycia. Większość z nich znajduje znikome poświadczenie w tekście zabytku. Wyjątek stanowi wysoka częstotliwość zapisów ilustrujących spirantyzację [g] > [h], co może świadczyć o zawansowanym stopniu rozwoju tego procesu. W latopisie nie zostało potwierdzone zwężenie artykulacji [ě] > [i] (wyraźnie zaznaczone w I redakcji, np. *Kronice Supraskiej*) oraz dyspalatalizacja spółgłosek funkcjonalnie miękkich [č’], [ž’], [š’] (stanowiąca niemal bezwyjątkową normę w innym latopisie reprezentującym II redakcję — *Kodeksie Poznańskim*, przykłady tego procesu pojawiają się również w *Kronice Supraskiej*), marginalnie udokumentowana została dyspalatalizacja [r’]. Znikome graficzne poświadczenie uzyskują również inne zjawiska fonetyczne, które w latopisie I redakcji odznaczały się dość wysoką frekwencją, np.: akanie, jekanie, przejście [u] w niezgłoskotwórcze [u], prewokalizacja nagłosowej grupy spółgłoskowej. Nasuwa to przypuszczenie, iż autor latopisu być może świadomie «poprawił» tekst zabytku, starał się usunąć z niego pewne elementy dialektalne lub zachować tradycyjny zapis wyrazów. Z drugiej strony zauważalna jest również tendencja odchodzenia od cerkiewnosłowiańskiej tradycji, wyrażona m.in. w relacjach pomiędzy grupami pełnogłosowymi i niepełnogłosowymi, realizacji nagłosowego *or, rozwoju prsł. połączeń *tj, *dj, *kt’, *gt’.

## Bibliografia

1. Борковский, В. И. Историческая грамматика русского языка / В. И. Борковский, П. С. Кузнецов. — Москва, 2007.
2. Карский, Е. Ф. О языке так называемых литовских летописей / Е. Ф. Карский // Труды по белорусскому и другим славянским языкам. — Москва, 1962.
3. Карский, Е. Ф. Язык белорусского народа / Е. Ф. Карский // Белорусы. — Вып. 1. — Москва, 1955.
4. Морозова, Н. Проблема языка и текстологии летописей Великого княжества Литовского. Хроника Быховца / Н. Морозова. — Вильнюс, 2001.
5. Полное собрание русских летописей / ред. Н. Н. Улащик. — Т. XXXV. — Москва, 1980.
6. Семянчук, А. Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі / А. Семянчук. — Гродна, 2000.
7. Филин, Ф. П. Происхождение русского, украинского и белорусского языков / Ф. П. Филин. — Москва, 2006.
8. Чамярыцкі, В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры / В. А. Чамярыцкі. — Мінск, 1969.
9. Kuraszkiewicz, W. Zarys dialektologii wschodniosłowiańskiej / W. Kuraszkiewicz. — Warszawa, 1963.
10. Stieber, Z. Zarys gramatyki porównawczej języków słowiańskich / Z. Stieber. — Warszawa, 1989.

**Вольга Елісеева, Агата Ракава** *(Мінск, Беларусь)*

## ЭЛЕКТРОННЫ НАВУЧАЛЬНЫ РЭСУРС ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ДЛЯ ПОЛЬСКАМОЎНЫХ НАВУЧЭНЦАЎ ПАЧАТКОВАГА ЎЗРОЎНЮ

Новым кірункам беларускага мовазнаўства з’яўляецца выкладанне беларускай мовы як замежнай, у тым ліку дыстанцыйнае і электроннае навучанне беларускай мове.

Асаблівай цікавасцю да вывучэння беларускай мовы вызначаецца Рэспубліка Польшча. «Выкладанне беларускай мовы, гісторыі і культуры ажыццяўляецца ў польскіх вышэйшых навучальных установах — у Варшаўскім універсітэце на кафедры беларускай філалогіі (створана ў 1957 г., з’яўляецца найстарэйшай за межамі Беларусі), у Беластоцкім універсітэце на кафедры беларускай філалогіі і на кафедры беларускай культуры, ва ўніверсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне (аддзел беларусістыкі), у Апольскім універсітэце (аддзел беларусістыкі і ўкраіністыкі)» [3]. Дзейнасць кафедраў

і аддзелаў беларусістыкі ў названых універсітэтах дае багаты навуковы плён. Эльжбета Смулкова, Ларыса Пісарэк, Міхал Саевіч і многія іншыя польскія навукоўцы займаюцца даследаваннямі ў галіне беларускай мовы.

Варта таксама адзначыць, што ў Польшчы пражывае каля 47 тыс. беларусаў (паводле вынікаў перапісу насельніцтва 2011 г.) [4, ст. 31]. Дзяржаўная праграма «Культура Беларусі» на 2016–2020 гг. сярод прыярытэтных мэтаў вызначае «спрыянне захаванню нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці беларускай дыяспары», а падпраграма 4 «Беларусы ў свеце» сярод кірункаў дзейнасці называе «спрыянне вывучэнню беларускай мовы ў краінах замежжа» [1].

Развіццё электроннай адукацыі з'яўляецца адной з задач дзяржаўнай праграмы развіцця лічбавай эканомікі і інфармацыйнага грамадства на 2016–2020 гг. [2].

Прадстаўленне беларускай мовы ў інтэрнэт-прасторы з'яўляецца важным фактарам развіцця мовы ва ўмовах глабалізацыі і развіцця інфармацыйных тэхналогій. Паводле класіфікацыі ЮНЭСКА беларуская мова адносіцца да ўразлівых (*vulnerable*) — «на мове размаўляе большасць дзяцей, але яе выкарыстанне можа быць абмежаваным»[1] [6].

У 2013 г. шырокі водгук у беларускіх СМІ атрымаў артыкул венгерскага лінгвіста і матэматыка Андраша Корная «Лічбавая смерць моў» [5], у якой навуковец прадстаўляе «доказы масавага вымірання моў, выкліканага лічбавым разрывам»[2], сцвярджае, што «пакуль менш за 5 % усіх моў могуць узняцца да выкарыстання ў лічбавай сферы»[3]. Пры класіфікацыі моў улічвалася пяць фактараў: «1) велічыня і дэмаграфічны склад моўнай супольнасці; 2) прэстыж мовы; 3) роля мовы ў самаідэнтэфікацыі; 4) узровень падтрымкі праграмнага забеспячэння; 5) Вікіпедыя»[4]. Паводле гэтых параметраў Андраш Корнай выдзеліў чатыры тыпы моваў: квітнеючыя (*thriving*), жывыя (*vital*), пакінутыя ў спадчыну (*heritage*) (тыповыя прыклады: царкоўнаславянская, санскрыт), маўклівыя (*still*). Беларуская мова разам з 83 іншым мовамі была ўключана даследчыкам у другі тып: безумоўна жывыя мовы. Такія вынікі даюць падставы для аптымізму. Параўнанне крытэрыяў вызначэння статусаў мовы паводле класіфікацыі ЮНЭСКА і паводле даследаванняў Андраша Корная дэманструе, што беларуская мова, хоць і залічаная да «ўразлівых», выбрала перспектыўны шлях развіцця і шырока прадстаўлена ў інтэрнэт-прасторы.

Актыўнае развіццё інфармацыйных тэхналогій у сферы адукацыі, у тым ліку ў галіне лінгвадыдактыкі, неабходнасць шырэйшага прадстаўлення

---

[1] most children speak the language, but it may be restricted to certain domains.

[2] evidence of a massive die-off caused by the digital divide.

[3] less than 5% of all languages can still ascend to the digital realm.

[4] (i) the size and demographic composition of the language community; (ii) the prestige of the language; (iii) the identity function of the language; (iv) the level of software support; and (v) Wikipedia.

беларускай мовы ў інтэрнэт-прасторы і цікавасць да беларускай мовы ў Рэспубліцы Польшча пацвярджаюць актуальнасць стварэння электронных навучальных рэсурсаў па беларускай мове.

Дадзены артыкул прысвечаны агляду электроннага навучальнага курса для вывучэння беларускай мовы як замежнай польскамоўнымі навучэнцамі пачатковага ўзроўню. Курс створаны на базе сайта «Вывучаем беларускую: з любоўю да мовы» (by.lang-study.com) і з'яўляецца прыкладам супрацы прадстаўнікоў дзвюх кампетэнцый: IT-спецыяліста (В. Я. Елісеева) і філолага, выкладчыка мовы (А. А. Ракава). Ролі выканаўцаў пры стварэнні курса падзяляліся наступным чынам.

IT-спецыяліст, кандыдат тэхнічных навук В. Я. Елісеева ажыццяўляе:

- агульную тэхнічную падтрымку праекта (усталёўка і наладка праграмнага забеспячэння сайта і забеспячэнне яго функцыянавання, вёрстка шаблонаў, карэкціроўка структуры рэсурсу і інш.);
- праектаванне рэсурсу by.lang-study.com і яго асобных модуляў;
- кіраўніцтва ўсім праектам;
- пастаноўку, размеркаванне і ўдакладненне задач для студэнтаў, магістрантаў і іншых удзельнікаў праекта;
- навучанне і кансультацыі па выкарыстанню неабходных праграмных інструментаў.

Філолаг, выкладчык мовы, магістр філалагічных навук А. А. Ракава выконвала распрацоўку раздзела «Асновы» для навучэнцаў пачатковага ўзроўню, у які ў 2016 г. уключаны асобны падраздзел «Kurs języka białoruskiego na poziomie A1 dla Polaków», які складаецца з 20 урокаў:

Lekcja 1. Samogłoski i twarde spółgłoski.

Lekcja 2. Spółgłoski [г], [л], [ў].

Lekcja 3. Miękkie głoski w języku białoruskim.

Lekcja 4. Miękkie [г] i [л], miękkie syczące.

Lekcja 5. Jeszcze kilka ważnych informacji o wymowie i czytaniu.

Lekcja 6. Niektóre zasady białoruskiej fonetyki w porównianiu do polskiej. To pomaga!

Lekcja 7. Witamy się po białorusku!

Lekcja 8. Mińsk stolica Białorusi.

Lekcja 9. Co to jest?

Lekcja 10. Skąd jesteś?

Lekcja 11. Cześć! Co robisz?

Lekcja 12. Chcę czytać książki — koniugacja I.

Lekcja 13. Smacznego!

Lekcja 14. Czym się interesujesz?

Lekcja 15. Urodziłem się…

Lekcja 16. Będę się uczyć!

Lekcja 17. Gdzie jesteś?

Lekcja 18. Kiedy ostatnio byłeś w teatrze?
Lekcja 19. Wszystkiego najlepszego!
Lekcja 20. Uczymy się nazywać czas.

Падраздзел «Kurs języka białoruskiego na poziomie A1 dla Polaków», у сваю чаргу, уключае дзве лагічныя часткі, якія адпавядаюць:

- уводна-фанетычнаму курсу — першыя 6 урокаў;
- лексіка-граматычнаму курсу — астатнія 14 урокаў.

Урокі ўводна-фанетычнага курса паслядоўна знаёмяць навучэнцаў з сістэмай гукаў беларускай мовы і змяшчаюць, акрамя неабходных тлумачэнняў (якія ўключаюць і параўнанні з фанетычнай сістэмай польскай мовы), аўдыёзапісы вымаўлення асобных гукаў і слоў з гэтымі гукамі. Акрамя гэтага, навучэнцам прапаноўваецца замацаваць атрыманыя веды, выконваючы адпаведныя практыкаванні, якія ўключаны ў склад урока. Для ўводна-фанетычнага курса былі створаны 27 інтэрактыўных практыкаванняў і 43 аўдыёзапісы. Прадстаўлены практыкаванні розных тыпаў: суаднясенне, выбар правільнага адказу, запаўненне пропускаў, катэгарызацыя. Графічнае афармленне практыкаванняў разнастайнае, некаторыя суправаджаюцца ілюстрацыямі.

Урокі лексіка-граматычнага курса прысвечаны пэўным лексічным і граматычным тэмам і ў асноўным складаюцца з наступных частак: слоўнік да тэксту, навучальны тэкст па адпаведнай камунікатыўнай тэме (большасць тэкстаў створана ў форме дыялогаў ці палілогаў), пытанні па тэксце, граматычныя табліцы і каментарыі, лексіка-граматычныя практыкаванні. Было створана 12 навучальных тэкстаў, 107 лексіка-граматычных практыкаванняў розных тыпаў: заданні на запаўненне пропускаў, на суаднясенне, на размяшчэнне элементаў у правільнай паслядоўнасці, на выбар правільнага адказу, а таксама графічныя практыкаванні: крыжаванкі, пошук слоў сярод літар.

Асноўныя этапы працы над стварэннем электроннага навучальнага курса для вывучэння беларускай мовы як замежнай для польскамоўных навучэнцаў пачатковага ўзроўню наступныя:

- вызначэнне метадалогіі навучання ў межах курса і распрацоўка неабходных навучальна-метадычных матэрыялаў;
- апрацоўка тэкстаў згодна з задачамі курса (прастаўленне націскаў, выдзяленне галоўнай інфармацыі і г. д.);
- стварэнне і падбор ілюстрацый, аўдыёзапісаў;
- стварэнне інтэрактыўных практыкаванняў;
- распрацоўка структуры ўрокаў;
- размяшчэнне падрыхтаваных матэрыялаў на сайце by.lang-study.com, уключаючы графічнае афармленне тэкстаў, табліц, заданняў.

Паколькі адным з прынцыпаў распрацоўкі курса было аспектна-комплекснае навучанне мове, лексічныя і граматычныя тэмы аб’ядноўваліся з улікам метадычнай мэтазгоднасці. Суаднесенасць камунікатыўных і граматычных тэм выглядае наступным чынам (граматычная тэма, пасля камунікатыўная).

Скланенне назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў:

- назоўны склон — асабістыя дадзеныя (канструкцыі тыпу: *мяне завуць Алена. Я настаўніца),* сям'я (канструкцыі тыпу: *у мяне ёсць малодшы брат*); арыентацыя ў горадзе, экскурсіі (канструкцыі тыпу: *гэта драматычны тэатр*);
- родны склон — назвы краін, гарадоў (канструкцыі тыпу: *Збігнеў з Польшчы*);
- давальны склон — мерапрыемствы, святы (канструкцыі тыпу: *я падарыў малодшаму брату самалёт, жадаем вам здароўя*);
- вінавальны склон — назвы ежы, (канструкцыі тыпу: *я ем смажаную бульбу*) паводзіны ў краме, назвы колераў (канструкцыі тыпу: *ці магу я паглядзець гэты блакітны магніцік*);
- творны склон — прафесіі (канструкцыі тыпу: *ён працуе інжынерам*), зацікаўленасці (канструкцыі тыпу: *я цікаўлюся класічнай літаратурай*);
- месны склон — арыентацыя ў горадзе (канструкцыі тыпу: *ён на той плошчы*), віды транспарту (канструкцыі тыпу: *Алена едзе на аўтобусе*).

Лексічная тэма «Апісанне памяшкання» выкарыстоўваецца для паўтарэння ўсіх склонаў.

Спражэнне дзеясловаў:

- спражэнне дзеясловаў у цяперашнім часе — назвы асноўных дзеянняў чалавека (канструкцыі тыпу: *мы кожны дзень ходзім ва ўніверсітэт*);
- прошлы час дзеясловаў — падарожжы, экскурсіі (канструкцыі тыпу: *мы купаліся і загаралі*);
- будучы час дзеясловаў, закончанае і незакончанае трыванне дзеясловаў — падарожжы, экскурсіі, планаванне паездкі (канструкцыі тыпу: *я паеду ў Мінск і буду там вучыцца*).

Прыслоўі:

- утварэнне прыслоўяў ад якасных прыметнікаў — надвор'е (канструкцыі тыпу: *на вуліцы сонечна*).

Лічэбнікі:

- колькасныя лічэбнікі — асабістыя дадзеныя, узрост (канструкцыі тыпу: *мне трыццаць гадоў*); паводзіны ў краме (канструкцыі тыпу: *магніцік каштуе дваццаць тысяч рублёў*), спорт (канструкцыі тыпу: *французскі біятланіст адстае на дваццаць секунд*);
- парадкавыя лічэбнікі — спорт (канструкцыі тыпу: *наша каманда была першая*).

Лексічная тэма «Назвы жывёл» не вывучаецца асобна, некаторыя найбольш ужывальныя словы прадстаўлены ва ўводна-фанетычным курсе.

Вывучэнне службовых часцін мовы не выносіцца ў асобныя тэмы ў сувязі з падабенствам ужывання ў беларускай і польскай мовах. Прапануюцца асобныя практыкаванні ў межах іншых лексіка-граматычных тэм.

У тэксты, распрацаваныя для курса, мы імкнуліся ўключыць тры кампаненты:

- лексічны (словы, устойлівыя словазлучэнні, некаторыя фразеалагізмы, што адпавядаюць вызначанай тэме);
- граматычны (тэкст ілюструе граматычную тэму, якая вывучаецца ў межах ўрока);
- культуралагічны (звесткі пра гісторыю, культуру Беларусі, спецыфіку зносінаў на беларускай мове).

Вядома, што электронны рэсурс не дазваляе ў поўнай меры сфарміраваць камунікатыўныя навыкі, асабліва ў сферы вуснага маўлення. Імкнучыся кампенсаваць гэты недахоп, мы стваралі многія навучальныя тэксты ў форме дыялогаў ці палілогаў, каб канструкцыі, характэрныя для вуснага дыялагічнага маўлення, засвойваліся пасіўна. Для таго, каб акрэсліць сітуацыю, у якой адбываецца дзеянне, і ўдзельнікаў размовы, былі створаны ілюстрацыі.

Перад навучальнымі тэкстамі змяшчаецца слоўнік, які складаўся згодна з дыферэнцыйным прынцыпам, г. зн. у яго ўключаліся словы, якія розняцца па гучанні і значэнні ў беларускай і польскай мовах. У беларускіх словах прастаўлены націскі. Амаль пасля кожнага сказа навучальнага тэксту прыводзіцца пераклад на польскую мову, а таксама дадзены неабходныя тлумачэнні адносна асаблівасцяў ужывання ў маўленні тых ці іншых беларускіх слоў і выразаў.

Заданні да тэксту дазваляюць праверыць яго разуменне, замацаваць новую лексіку і могуць адначасова адыгрываць ролю імітатыўных заданняў па граматыцы. Прапануюцца практыкаванні на выбар правільнага адказу, заданні на запаўненне прабелаў, размяшчэнне элементаў у правільнай паслядоўнасці.

Граматычны матэрыял пададзены ў асноўным у форме табліц. Прыклады ў табліцах узяты пераважна з навучальных тэкстаў да ўрокаў. Каментарыі даваліся ў выпадку адрознення граматычных канструкцый у беларускай мове, спецыфічных фанетычных працэсаў у фармантах.

Апошнім этапам працы стала размяшчэнне створаных матэрыялаў на сайце «Вывучаем беларускую: з любоўю да мовы» (by.lang-study.com). Сайт створаны на платформе «Wordpress», былі выкарыстаны як стандартныя магчымасці размяшчэння матэрыялаў, так і магчымасці, звязаныя са зменай коду html.

Варта таксама адзначыць, што сам рэсурс «Вывучаем беларускую: з любоўю да мовы» разлічаны на навучэнцаў рознага ўзроўню, якія могуць быць носьбітамі розных моў. Увесь праект — гэта эксперыментальная пляцоўка для студэнтаў-філолагаў, якія вучацца ствараць электронныя навучальныя рэсурсы па беларускай мове. Прапанаваныя на сайце вучэбныя матэрыялы ўвесь час удасканальваюцца і пашыраюцца. Гэта доўгатэрміновы праект, пастаянна паляпшаецца і развіваецца, дзякуючы намаганням розных удзельнікаў.

Рэсурс «Вывучаем беларускую: з любоўю да мовы» — гэта мультымедыйны гіпертэкставы навучальны рэсурс, які ствараецца па стандартных

- энклітычныя формы займеннікаў, напр.: *Ісус му імя, Марыя му маці. // (...) Марыя **му** Маці прыгожа **спявае*** 'яму' [с. 12, **2**]; *Калі ты, дачуленька, — просім **це*** 'цябе' *да нас* [с. 62, **107**];
- формы *цераз каго-н.*, пол. *przez kogoś*: ***Цераз родну маму** // Нежанаты хаджу* [с. 92, **171**] і г. д.

Характарызуючы л е к с і к у песень, наогул трэба падкрэсліць, што некаторыя словы вельмі архаічныя, вядомыя і ў старабеларускай мове, фіксуюць іх «Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі» [2] і / або «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (напр. [1] — адзін з тамоў). Адны з іх трапілі ў сучасную літаратурную беларускую мову, іншыя вядомы толькі на паграніччы. Вызначэнне напрамку запазычання або пацвярджэнне ўласна беларускага шляху развіцця лексемы, а таксама адлюстраванне сучаснага стану прыведзенай лексікі патрабуе звароту як да этымалагічных і гістарычных слоўнікаў абедзвюх моў, так і да сучасных лексікаграфічных прац, што значна павялічыла б памеры публікацыі і не з'яўляецца задачай гэтага артыкула. У кантэксце ўзаемных польска-беларускіх дачыненняў варта прывесці наступныя словы:

**аблог** 'аблога (даўно не аранае поле, пакрытае травой, дзірваном)' (параўн.: [2, т. 1, с. 472]), пол. *obłog, obłoga* 'абкладанне, аблажэнне, акружэнне; месца, дзе хто-н. ляжыць' [14, с. 396], *odłóg* 'поле, якое можна араць і засейваць, якім даўно не карысталіся', фразеалагізм *leżeć odłogiem*: *Там на аблозе скакалі жабы* [с. 96, **179**];

**абора** 'абора, кароўнік' (параўн.: [2, т. 1, с. 475]), пол. *obora*: *У пана старосты поўна **абора*** [с. 96, **180**];

**агер** 'не кастраваны конь', пол. *ogier*: *А ў нашым полі скакалі **агеры** — // Дажалі жытка малады кавалеры* [с. 97, **180**];

**айцец** 'бацька' (параўн.: [2, т. 1, с. 491]), пол. *ojciec*: *Сонца–месяц высако, // **Ойцец**–маці далеко, // а сястронка ў няволі // Не прыйдзе ніколі* [с. 63, **111**], *Манечка ляжыць у **айца**, ў матанькі ў каморы* [с. 76, **136**], *прасіў **айцец**, прасіла маці, прасіла радзіна* [с. 78, **140**], *У яго хаце — **айцец**, маці, // Будуць табе даганяці — у той час плакаці* [с. 84, **154**], — **бацька**: *Чорт яго **бацька** знае, чаго ён маргае* [с. 65, **113**], *Была ў **бацька** дочка* [с. 69, **121**], *Ой дбай, **бацьку**, дбай: дочку замуж дай!* [с. 85, **154**], ***Баценька** едзе, мёд-віно везе* [с. 119, **221**], *Наша Маня па **баценьку** паслала* [с. 120, **223**], *Ой, паціху, мой **баценьку**, гавары* [с. 127, **242**], — *Запрагай ты, **бацька**, пеўня і курку чубату* [с. 140, **273**], *Е ва ўсіх **баценькі**, а ў мяне — нет* [с. 152, **297**], *Свайму **бацьку** пакланіўся: пакідаю цябе **баценька**, // На чужое дагляданне* [с. 153, **300**];

**апантаны** 'захоплены думкамі', пол. *opętany*: *Як я заспяваю — кажуць, што я п'яна. // Як іду ціхенька — кажуць: «Апантана»* [с. 106, **203**];

**быдла, быдліна** 'рагатая дамашняя жывёла' (параўн.: [2, т. 1, с. 58]), пол. *bydło*: — *Выганяйце вы **быдліну** // На шырокую даліну, // На зялёную травіну* [с. 46, **79**];

**гасціна** ‘гасцяванне’ (параўн.: [2, т. 1, с. 142]), пол. *gościna*: *У мяне ў клунаньцы* ***гасціна****, // А на полі — радзіна* [с. 97, **181**], *А як я захачу — траву патапчу, А да свае матуленькі ў* ***гасціну*** *прыйду* [с. 101, **191**];

**дзеўчынонька** ‘дзяўчыначка’, пол. *dziewczynońka*: *Не хваліся,* ***дзеўчынонька****, чырвоным маністам* [с. 61, **106**];

**едваб** ‘шоўк, шаўковыя ніткі’ (параўн.: [2, т. 1, с. 192]), пол. *jedwab*: *Бо мой вяночак* ***едвабам*** *віты — // Не аддам яго за таляр біты* [с. 37, **53**], *У мяне ёсць пас* ***ядвабны*** [с. 130, **248**] — **шоўк**: ***шоўкам*** *кашулю шыючы* [с. 47, **82**];

**жаўнер** ‘салдат’ (параўн.: [2, т. 1, с. 209]), пол. *żołnierz*: А пад тою сасонкаю // Ляжыць жаўнер, як маляваны [с. 202, **412**] — **салдат**: *Усе* ***салдаты*** *з войска ідуць* [с. 202, **413**];

**збавіцель** ‘збаўца’, пол. *Zbawiciel*: *Ах, Божа жа ж мой да й* ***Збавіцелю*** [с. 83, **151**];

**зыск** ‘карысць, прыбытак’ (параўн.: [2, т. 1, с. 270]), пол. *zysk*: *Бадай шчасця не меў ніякага* ***зыску****, // Хто едзе далёка, не бярэ зблізку* [с. 55, **94**];

**кварта** ‘мера вадкіх і сыпкіх рэчываў, роўная чацвёртай частцы гарца’ (параўн.: [2, т. 1, с. 299]): *Мая міла чарнабрыва, яшчэ вазьму* ***кварту*** [гарэлкі ў карчме. — *Я. К.-Д.*] [с. 133, **255**];

**квет** ‘колер’, **кветка** (параўн.: [2, т. 1, с. 300–301]), пол. *kwiat* ‘кветка’: *Цябе любіў, любіці буду, // Як ружовую* ***квету*** [с. 50, **87**], *У садочку гуляла,* ***кветачкі*** *рвала* [с. 70, **123**], *Вырву зелля з* ***кветкамі*** *— // Застануся з дзеткамі* [с. 64, **111**], *Дзяўчына-****кветка****, чаму радно рэдка* [с. 128, **245**], *Перша* ***кветанька*** *— маладая Манечка!* [с. 145, 281] — **цвет** ‘кветка, колер’ (параўн. [2, т. 2, с. 454]): *Я цябе любіў, любіці буду, ружовы мой* ***цвеце*** [с. 50, **88**], *Няма* ***цвету*** *найлепшага ад макаўчынага (...)* [с. 55, 95], *На каліне белы* ***цвет*** *— Будзе мяне поўны свет* [с. 64, **111**], *Прыляталі пташкі з каліны* ***цвет*** *есці* [с. 91, **168**], *Прайшлі мае леты* ***цветам*** *за дубовы горы* [с. 100, **189**], *Пад лесам хадзіла, //* ***цвет****-каліну ламала* [с. 106, **202**];

**кілішак** ‘чарачка’ < **келишекъ**, *памянш* ад **келихъ** < пол. **kieliszek**, **kielich** (параўн. [2, т. 1, с. 307]): — **чарачка**: *Медавая* ***чарачка****, гэй, медавая!* [с. 80, **145**], *Не па поўнай* ***чараньцы*** *мёд-гарэланьку піці!* [с. 123, **232**];

**копа** ‘мера: шэсцьдзясят штук’ (параўн.: [2, т. 1, с. 331]), пол. *kopa* ‘тс’ : ***Копу яек*** *на паўмісак, // Каўбасою акружыці (...)* [с. 29, **36**];

**косар** ‘касец’ (параўн.: [2, т. 1, с. 337]), пол. *kosiarz*: *Найму* ***касары*** *семдзесят чатыры, // Каб выкасілі ўсе горы і даліны* [с. 74, **131**], Ой, то я пайду касяроў наймаці. // Найму касяроў сто дваццаць чатыры, // Каб выкасілі тыя лугі-даліны [с. 74, **132**] — **касец**: ***Касцы*** *косяць, Бога просяць* [с. 73, **129**];

**кур** ‘певень’ (параўн.: [2, т. 1, с. 356]), пол. *кніжнае kur*: *— Устань, нявеста, устань, маладая, ужо другі* ***кур*** *спявае* [с. 78, **142**];

**ладне** ‘прыгожа’, пол. *ładnie*: *Л****адне*** *ўмывайся, цодня спадзявайся* [с. 30, **38**], *Ён чарнявы, чарнявы, а я бялява — // Будзе з нас будзе* ***ладна*** *пара.* [с. 66, **115**];

**ладны**, пол. *ładny*: *І высокі, і харошы, і **ладнага** стану* [с. 73, **128**];

**лапаць**, **злапаць**, пол. *łapać, złapać*: *Пашлі дзеванькі ў лес калінаньку ламаці, // А маладзіцы перапёланьку **лапаці**. // Пакуль дзеванькі ў лесе калінанькі наламалі, // Маладзіцы перапёланьку **злапалі*** [с. 95, **177**];

**лета**, *мн*., *лето* 'год' (параўн.: [2, т. 1, с. 367]), пол. *lata*: *Тры **лет** я ў маманькі свае не была* [с. 61, **107**], *Ой, **лета** мае маладзенькія, чом вы марна так ідзеце?* [с. 99, **186**], *А ён арэ, а ён арэ, а я плачу — // Маладыя **лета** трачу* [с. 99, **188**], *Не паспела замуж выйсці, ўжо **леты** мінаюць. // Прайшлі мае **леты** цветам за дубовы горы // (…) // Даганіце хлопцы **леты**, **леты** малады* [с. 100, **189**], *Я раскошы не ўжыла — ужо **леты** мінаюць. // (…) // Па чым жа мае **леты** ўспамінаці буду?* [с. 102, **195**], *Чырвона каліна ўсе лугі акрасіла, // Маладая маладзіца свае **лета** патраціла. (…) // За табою, ліхі мужу, свае **лета** пастрадала* [с. 107, **205**], *Даганяйце **леты**, **леты** маладыя (…) // — Верн響цеся, **леты**, да мяне ў госці! (…) // — (…) Было замуж не йсці — **леты** шанаваці* [с. 111, **211**], *Шчэ й раскошы не зажыла — ужо **лета** мінаюць.* [с. 111, **212**], — *Тры леты )ў матулі жыці, // У вяночку з руты хадзіці* [с. 148, **291**];

**людскі** 'чалавечы' [2, т. 17, с. 188], пол. *ludzki*: *Бог плакаў, лежачы на сене,// каб усцешыць **людске** племя* [с. 13, **3**];

**места** 'горад' [2, т. 1, с. 396], пол. *miasto*: *У **места** пайду, чаравічкі куплю* [с. 38, **58**];

**мовіць** 'гаварыць', у прыкладзе ўжыта форма 3-й ас. адз.л., пол. *mówić, chłopiec mówi*: *Хлопец стаіць, нічога **не мовіць**, // Абярнуўся да яе плячыма — смешачкі строіць* [с. 113, **215**];

**намовіць** 'пераканаць', пол. *namówić*: — *Маладая Марыся, хто ж цябе **намовіў**, // (…) — Ой, не **намовяць** падляшскія хлопцы* [с. 42–43, **70**];

**паложнічка**, **палажнічка** 'парадзіха', пол. *położnica*: — ***Паложнічка** міла, дзе ты даселе была?* [с. 117, **219**], — *Ўстань, палажнічка, ўстань, нам вячэраці дай!* [с. 122, **229**];

**пан** 'форма вежлівага звароту ці называння асоб, якім выказвалася асаблівая павага' (параўн.: [2, т. 2, с. 9]), пол. *pan*: *Ці ёсць дома пан гаспадар?// (…) Ёсць дома пан гаспадар* [с. 13–14, **5**];

**пані** 'форма ветлівага звароту або ўпамінання асобы, якая належала да прывіліяваных слаёў грамадства' (параўн.: [2, т. 2, с. 7]), пол. *pani*: *Ці ёсць дома пані гаспадыня? // (…) Ёсць і пані гаспадыня* [с. 14, **5**], *Наша пані з рукі ў руку — // Ключыкамі стуку-груку* [с. 20, **15**];

**паніч** 'малады пан' (параўн.: [2, т. 2, с. 8]), пол. уст. *panicz*: *У хату ўвайшла — панічы сядзяць, // Ой, дай Божа, панічы сядзяць! // Панічы сядзяць, шапанькі дзяржаць* [с. 14, **6**];

**панна** 'дзяўчына, форма ветлівасці' (параўн.: [2, т. 2, с. 8]), пол. *panna*: — *Просім **панны** на двор выйсці, // На двор выйсці, дар вынесці* [с. 29, **36**];

**пташка** 'птушка' **(**параўн.: [2, т. 2, с. 206]), пол. *ptak, ptaszek*: *А на чварты разок **пташкай** залячу* [с. 61, 107], *Прылятали **пташкі** з каліны цвет есці*

[с. 91, **168**] — **птушка**: *Ты зязюлька, мая родна, // Непраўдзівая **птушка*** [с. 60, **105**], *Каб па тым слядочку **птушкі** не лятал, // Каб майго мілога іншы не кахалі* [с. 107, **206**];

**радзіна** ‘сям’я’ (параўн.: [2, т. 2, с. 234]), пол. *rodzina*: *Добры вечар усім вам, шчаслівa **радзіна*** [с. 11, **1**], *Ах ты, мой мілюсенькі, пусці мяне да **радзінкі**!* [с. 23, **24**], *Пакланіся, грэшны чловек, усяму свету, усёй сваёй **радзіне*** [с. 27, **33**], *Прасіў айцец, прасіла маці, прасіла **радзіна*** [с. 78, **140**], *У мяне ў клунаньцы гасціна, // А на полі — **радзіна*** [с. 97, **181**], *Як я была малада, пшаніца радзіла — Мяне маладзеньку, **радзіна** любіла* [с. 110, **211**], *А мне жонка міла, бо мая **радзіна**, // А сястра мілейша, бо мяне гасціла* [с. 116, **217**], *Там Манюлька па **радзіну** паслала: (...) // — Прыбудзь, прыбудзь, **радзінанька** да мяне* [с. 119, **222**], *Наша Маня па **радзіну** паслала, // — Ой, да мяне, **радзінонька**, да мяне* [с. 120, **223**], *То Мішова **радзінанька** // На гулянне выйшла!* [с. 121, **225**], *Пазбіралася Лідачкіна радзіна. // (...) Нашто матанька радзінаньку збірае* [с. 154–155, **305**];

**радзіны** [параўн. 23, т. 2, с. 234], пол. *narodziny*: *Як у нашай Кацярынушкі // То вяселле, то **радзінушкі**: // На вяселлі каравай месяць, // На радзінах дзяціну цешаць* [с. 131, **250**];

**род** ‘рад пакаленняў, якія паходзяць ад аднаго продка’ (параўн.: [2, т. 2, с. 235]), пол. *ród*: *Мяне, старое, увесь **род** адрокся* [с. 110, **211**];

**рок** ‘год’ (параўн.: [2, т. 1, с. 247]), пол. *rok*: *Ад **року** да **року** — // Вярбою па боку.* [с. 28, **34**], *Цяпер жа мне, маладзенькай, што **рачок**, то й горай* [с. 100, **189**], *Пажыву **рачок**, пажыву другі, на трэці патаўкуся, // А як ён жа мне не паправіцца — пайду і ўтаплюся* [с. 107, **204**];

**слічны** ‘прыгожы’, пол. *śliczny*: *За ёй ходзіць **слічна** панна* [с. 31, **40**], *Ой, патапіла мяне матанька, як канапельку ў воду, // Ой, не так мяне ж, маладзенькую, як маю **слічну** ўроду* [с. 106, **204**];

**слонка**: (параўн.: [2, т. 2, с. 302 *слонце* // с. 313 *солнце*]), пол. *słońce*, *słonko*: *Гарэ Сямён да й гарэ, да й на **слонка** паглядае* [с. 126, **239**];

**стадола**, **стадоланька** ‘гумно’ (параўн.: [2, т. 2, с. 336]), пол. *stodoła*: *Сажні мяне, сажні, сажні мяне, сажні // І ў **стадоланьку** завязі. (...) // А цяпер хачу спакою, я цяпер хачу спакою — // Ляжаці ў **стадоле**, як у пакою* [с. 97, **182**];

**убогі** ‘бедны’ (параўн.: [2, т. 2, с. 392–393 (*убожество*)]), пол. *ubogi*: *Багата — рагата, шчэ й да таго пышна, // **Убогая** — харошая, // Як у садзе вішня. (...) **убогую** дзяўчынаньку трэба шанаваці* [с. 66, **115**] — **бедны** — *Багата — рагата на мяжы ляжала, // **Бедна** ды хароша тры капы нажала* [с. 89–90, **166**];

**узаровы** ‘узорны’ пол. *wzorowy*: *Пані старасціха — гаспадыня **ўзарова*** ‘прыкладная, перадавая’ [с. 96, **180**];

**урода** ‘прыгажосць’ (параўн.: [2, т. 2, с. 416]), пол. *uroda*: *Ой, гыля, гыля, гусі, на воду — // Гавораць людзі пра маю **ўроду*** [с. 37, **53**]; *Гавораць людзі*

*на маю* ***ўроду****. // Няхай гавораць — Бог ім заплаціць, // А мае* ***ўроды*** *ніхто не страціць* [с. 37, **54**]; *Гавораць людзі на нашу* ***ўроду****, // Няхай гавораць — Бог ім заплаціць, // А наша* ***ўрода*** *вянка не страціць* [с. 37, **55**], *(...) яе* ***ўроды*** *жаль, // Бо яе* ***ўрода****, як ціхая вада* [с. 85, **154**], *Ой, патапіла мяне матанька, як канапельку ў воду, // Ой, не так мяне ж, маладзенькую, як маю слічну* ***ўроду*** [с. 106, **204**];

**шаты**, *мн*. 'адзенне, вопратка' (параўн.: [2, т. 2, с. 480]), пол. *узнёслае szata, мн. szaty*: *астаюцца злато,* ***шаты****, дарагі палацы* [с. 27, **33**];

**швагер** 'брат жонкі, муж сястры', пол. *szwagier*: *— Ой ты,* ***швагрэ, швагрэ-швагруленьку****, // Ой, дзе падзеў ты сястру Ганулeньку?* [с. 263, **522**] і г. д.

Занатаваны не толькі назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы. Сярод займеннікаў заўважаны, напр.: **жадны** 'ніводны', пол. *żaden*: *Ой не ўжыла* ***жадна*** *нявеста ў свякёрка раскошы* [с. 55, **96**]; **ніц** 'нічога', пол. *nic*: *За туманам, за туманам та й* ***ніц*** *не відна.* [с. 65, **114**]; *— Што ж ты, Вася,* ***ніс*** *не робіш // І нічога не гаворыш* [с. 75, **133**]; **вшысцы** 'усе', пол. *wszyscy*: *— Вы, рыбацы,* ***вшысцы*** *братцы* [с. 31, **40**].

Зафіксаваны прыслоўі, напр.: **дзісь** 'сёння', пол. *dziś*: *Бабулька-рыбулька, // Прыйдзі* ***дзісь*** *да мяне.* [с. 117, **218**], *Матулю мая родна, што мне* ***дзісь*** *за сон сніўся* [с. 136, 265]; **назаўшы** 'заўсёды', пол. *па zawsze*: *На ручніку стаўшы, ручкі і звязаўшы, // Тады будзеш, мая міла, са мною* ***назаўшы*** [с. 142, **277**]; **рэвне** 'смутна': *І ваду брала —* ***рэвне*** *плакала // І на долю наракала, што злая была* [с. 225, **450**].

Выступаюць таксама польскія лічэбнікі: **едэн** 'адзін', пол. *jeden*: ***еднэму*** [с. 31, **40**]; **тшы** 'тры', пол. *trzy*: *напоткала* ***тшэй*** *рыба****цы*** [с. 31, **40**]; **тшэцему** [с. 31, **40**]; **чтэры** 'чатыры', **чварты** 'чацвёрты', пол. *cztery, czwarty*: *А на* ***чварты*** *разок пташкай залячу* [с. 61, **107**]; *А я з тае ахвоты // Да й нажала* ***чтэры*** *(штыры) снопы* [с. 91, **169**] // [с. 92, **170**] // *Ой, араў, араў па* ***чатыры*** *баразёнкі* [с. 94, **174**].

Службовыя часціны мовы прадстаўлены экспрэсіўным словам **ляда** 'адзін з многіх, мала варты', пол. *lada*: *Не аддай яе за* ***ляда*** *якога, бо яе ўроды жаль* [с. 85, **154**] і словам **яко** 'як', пол. *jako*: *Не жалуй, пане, бочку мядочку: // Нажалі жыта,* ***яко*** *лядочку* [с. 94, **175**], *Нажалі жыта* ***як*** *лядочку* [с. 95, **178**].

Занатаваны таксама і устойлівыя словазлучэнні, напр.: **белы сыр** 'спрасаваны тварог', пол. *ser biały*: *(...) Каўбасою акружыці, //* ***Белым сырам*** *завяршыці* [с. 29, **36**], *Не шкадуй, пане,* ***белага сыра*** *— // Дасць табе Пан Бог мілага сына* [с. 95, **178**] і г. д.

Песні змяшчаюць таксама украінізмы, хоць іх і няшмат: *доня, памянш*. да 'дачка', *шчэ* 'яшчэ': ***Шчэ*** *й раскошы не зажыла — ўжо леты мінаюць* [с. 212, **213**]; *до чого*, з аканнем *да чога* 'да чаго': *Ой, рады ж мы вярнуціся ды няма* ***да чога*** [с. 212, **213**], дыял. *рожа* 'кветка ружа': *Зацвіў хлопец* ***рожай****, (...), // А дзяўчына каліною* [с. 113, **214**], *дужы* 'моцны, здаровы': *Муж мяне*

*наб’е — не буду **дужа*** [с. 123, **231**; 134, **260**]; *чарэда* ‘стада’: *свіней **чарэду*** [с. 123, **234**], *та* ‘і’: ***та** й шчэ маладую* [с. 140, **273**], *бараболя* ‘бульба’: *Паставілі **бараболю** нялуплену есці. // Я на тую **бараболю** скоса паглядаю* [с. 140, **273**], *олень* ‘алень’: ***Олень** па бары ходзіць* [с. 81, **147**].

Некаторыя словы «падаюцца сапсаванымі» (цераз далучэнне элементаў з розных моў), аднак і такія лексемы могуць быць распаўсюджаны на даволі шырокай тэрыторыі, напр. калі **цодня**, можна меркаваць, што кантамінацыя *штодня* і *codziennie*: *Ладне ўмывайся, **цодня** спадзявайся* [с. 30, **38**] і **кунджаравы**, *кучаравы* і *kędzierzawy*: *Не хваліся, казачэньку, **кунджаравым** чубам* [с. 215, **435**], *Ой ты, дубе **кунджаравы**, // Шырокі ліст на табе. // Ой ты, хлопец маладжавы, // Дурны розум пры табе* [с. 238, **480**] «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» іх не фіксуе, то прыслоўе **скуль**, *skąd* і *адкуль* вядомае і ў паўночна-заходняй Беларусі, і ў паўднёва-ўсходняй Літве [4, т. 4, с. 469]): *— Пастойце, гусанькі, я вас запытаю, // Ці вы з таго краю, **скуль** мілога маю?* [с. 236, **473**].

У тэкстах песен захаваўся цэлы шэраг рэдкіх лексем, цікавых з пункту гледжання этымалагічных даследаванняў. Перыферыйны характар мясцовых гаворак, дазволіў «замарозіць» архаічную лексіку і фразеалогію (параўн.: [17, с. 333; 6, с. 47]).

Цяперашні рэдактар «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (пачынаючы ад т. 9 да т. 13) Г. Цыхун звяртае ўвагу, з аднаго боку, на празрыстыя па матывацыі, але глыбока архаічныя словы, напр. *прастаполле*: *Ой, у полі-**прастаполі** // Там зрадзіла проса* [с. 251, **503**][1], з другога боку, на рэдкія словы, паходжанне якіх яшчэ дакладна не высветленае, напр. *трузелле*: *Забалела Марысі галоўка, Марысі галоўка. // Захацела Марыся **трузелля**. // Азваўся адзін казак: «Я маю тры коні (...), // Трэцім канём трузелле дастану». // Ой, стаў казак **трузелле** капаці — // Стала яму зязюля каваці: // — Не капай ты, казача, **трузелля**, казача, **трузелля**, // Бо ў твае Марысі сёння вяселле* [с. 220, **442**][2] (параўн.: [6, с. 53]).

Вялікая колькасць асабовых уласных імён, якія выступаюць у народных песнях Беласточчыны, можа быць каштоўным дапаўненнем да даследаванняў антрапаніміі рэгіёна. Параўн. жаночыя імёны, што выступілі ў песнях:

---

[1] Г. Цыхун адзначае, што слова ўзгадваецца ў «Літоўскім статуце», дзе гаворка вядзецца пра ўраджай на гнойнай зямлі і на простаполлі (зямля без гною), *прастаполь* ‘няўгноеная глеба’ вядома і ў гаворках наваколля Ваўкавыска [6, с. 53; там жа спасылкі на крыніцы].

[2] Паводле Г. Цыхуна, назва з няяснай першаснай матывацыяй: «першая яго частка ўзыходзіць да элемента *тры-*». Слова звязваецца з запісаным на Палессі *тройзеллем* ‘лекавая трава’, чэшскім *trejzel*, *tryzel*, славенскім *trizelj*, харвацкім *truzalj*, *tržalj* ‘жаўтушнік, Erysimum’. На Віцебшчыне запісана *трызаўка* ‘рутвіца, Lotus corniculatus L.’ [6, с. 53].

- **Марыя**, трэба меркаваць, што гэта найбольш папулярнае імя, зафіксавана яно ў наступных памяншальна-ласкальных формах: *Маня* [c.120, **223**]; *Манечка* [c. 41, **66**], [c. 43, **71**], [c. 49, **85**], [c. 70, **122**], [c. 136, **264**], [c. 145, **281**], [c. 151, **294**]; *Манюлька* [c. 119, **222**], [c. 145, **281**]; *Марыся* [c. 42, **70**], [c. 68, **119**], [c. 93, **171**], [c. 121, **224**], [c. 153, **302**], [c. 154, **304**]; *Марыська* [c. 154, **304**]; *Марысенька* [c. 51, **89**];
- **Ганна**, матэрыял ілюструе таксама вельмі шмат прыкладаў: *Ганна* [c. 143, **279**]; *Гануля* [c. 88, **164**]; *Ганулька* [c. 48, **83**], [c. 143, **279**], [c. 147, **288**]; *Гандзя* [c. 90, **167**]; *Гандзюля* [c. 40, **63**], [c. 90, **167**]; *Гандзюлька* [c. 42, **68**]; *Гандзюленька* [c. 118, **221**];
- **Кацярына**: *Кацярына* [c. 123, **231**], [c. 126, **239**]; *Кася* [c. 145, **283**]; *Касенька* [c. 42, **67**], [c. 52–53, **91**]; *Касюлька* [c. 59, **101**];
- **Валянціна**: *Валя*, *Валюня* [c. 151–152, **296**];
- **Анастасія**: *аддавайце мяне за Настульчынага* [c. 215, **434**];
- **Антаніна**: *Антоля* [c. 137, **267**];
- **Вера**: *Верачка* [c. 41, **65**];
- **Вольга** ці **Аляксандра**?, тэкст песні сведчыць хутчэй на карысць першага афіцыйнага імя: *Оля* [c. 147, **289**];
- **Галіна**: *Галінка* [c. 148, **290**];
- **Лідзія**: *Лідачка* [c. 154, **305**];
- **Надзея**: *Надзенька* [c. 40, **62**]; *Надзечка* [c. 121, **226**];
- **Ніна**: *Ніначка* [c. 40, **64**];
- **Станіслава**: *Станіслава* [c. 87–88, **163**];
- **Тамара**: *Тамарка* [c. 347, **172**];
- **Юлія**: *Юлечка маладзенька* [c. 94, **174**];
- **Яніна**: *Яніна* [c. 87–88, **163**].

Мужчынскіх уласных імён зафіксавана менш:

- **Іван** // **Ян**, з мужчынскіх імён найчасцей выступае ў песнях Беласточчыны: *Іван* [c. 41, **65**]; *Іванка* [c. 43, **71**], [c. 59, **101**], [c. 70, **122**], [c. 137, **267**], [c. 153, **300**]; *Івашка* [c. 143, **279**]; *Ванечка* [c. 41, **66**], [c. 49 **85**]; *Ясь* [c. 87–88, **163**], [c. 94, **175**]; *Ясё* [c. 88, **164**]; *Янка* [c. 153, **299**]; *Ясенька* [c. 42, **67**], [c. 48, **83**], [c. 51, **89**], [c. 52–53, **91**]; *Ясю-Ясюленьку* [c. 63, **109**];
- **Васіль**: *Вася* [c. 75, **133**]; *Васечка* [c. 40, **64**]; *Васілька* [c. 75, **133**], [c. 121, **224**];
- **Міхаіл**: *Міхалку мой* [c. 118, **220**]; *Мішова чарамшынка; Мішова вішня; Мішова радзінанька* [c. 121, **225**];
- **Андрэй**: *Андрэй* [c. 144, **280**];
- **Канстанцін**: *Касцічак* [c. 153, **302**];
- **Пётр**: *Пецін* [c. 121, **226**];
- **Раман**: *Раманьцё, Раманэчку* [c. 65, **114**];

- **Сямён**: *Сямён* [с. 126, **239**];
- **Уладзімір**: *Валодзя* [с. 42, **68**].

«Лексіка, з’яўляючыся “будаўнічым” матэрыялам песень, — піша Галіна Пэльцова, — адлюстроўвае:

1) абрады і народную паэзію, з імі звязаную (напр., абрадавыя, вясельныя, забаўляльныя песні),

2) звычаі і механізмы паводзінаў нашых продкаў, а таксама пачуцці, якія імі кіруюць (напр., песні пра каханне, залётныя, сямейныя, эпічныя),

3) умовы жыцця і працы (напр., песні пра працу)» [18, с. 110].

Акрамя таго, хацелася б звярнуць увагу ў дадзеным артыкуле на тое, што тэксты песень наогул з’яўляюцца адлюстраванем асаблівасцяў маўлення насельніцтва, прынцыпаў словаўтварэння, змянення слоў і сінтаксічнай пабудовы словазлучэнняў і сказаў, а таксама скарбніцай захавання архаізмаў. Даволі вялікая група слоў — гэта словы-архаізмы (і ўстарэлыя, і нейтральныя), агульныя для беларускай (часам і ўкраінскай) і польскай моў.

Песні, якія мясцовае насельніцтва спявае (або, больш дакладна, якія некалі спявала) падчас народных абрадаў і штодзённых заняткаў, працы, адлюстроўваюць складаную моўную і культурную сітуацыю, якая склалася на тэрыторыі Беласточчыны, паказваюць узаемадзеянне не толькі лексічных адзінак рознага паходжання, але і фанетычных і марфалагічных форм, а таксама сінтаксічных канструкцый. Народныя песні характарызуюць канкрэтную этнічную культуру, тут жа, на пагранiччы, элементы розных моў і культур узаемна пранікаюць і ўздзейнічаюць. Тое, што ў аднародным асяроддзі можа быць чужым, на перыферыі становіцца агульным багаццем. Што датычыць польска-беларускага памежжа, то яно далей чакае грунтоўнага даследавання з пункту погляду пранікнення культур.

## Літаратура

1. Гістарычны слоўнік беларускай мовы / рэд. А. М. Булыка. — Т. 17. — Мінск, 1998.
2. Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі: у 2 т. / рэд. А. М. Булыка. — Мінск, 2013.
3. Песні Беласточчыны / укл. М. Гайдук. — Мінск, 1997.
4. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. — Т. 4. — Мінск, 1984.
5. Смулкова, Э. Гаворкі ўсходняй Беласточчыны ў святле лексічных даследаванняў / Э. Смулкова // Беларускае і славянскае мовазнаўства. — Мінск, 1972; перадрук.: BP. — S. 219–225.
6. Цыхун, Г. Лексіка Беласточчыны ў арэальна-этымалагічным асвятленні / Г. Цыхун // Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami / red. E. Smułkowa i A. Engelking. — Warszawa, 2001. — С. 47–53.
7. Barszczewska, N. Kilka przykładów wpływu języka polskiego na składnię gwar białoruskich i ukraińskich Białostocczyzny / N. Barszczewska, J. Głuszkowska //

Rozprawy Slawistyczne. — T. 12: Ze studiów nad gwarami wschodniosłowiańskimi w Polsce. — Lublin, 1997. — S. 171–174.
8. Barszczewski, A. Białoruski folklor związany ze śmiercią i pogrzebem we Wschodniej Białostocczyźnie / A. Barszczewski // Studia z Filologii Rosyjskiej i Słowiańskiej / red. A. Bartoszewicz. — Warszawa, 1995. — T. 22. — S. 95–109.
9. Bartmiński, J. O języku folkloru / J. Bartmiński. — Wrocław, 1973.
10. BP — Smułkowa, E. Białoruś i pogranicza. Studia o języku i społeczeństwie / E. Smułkowa. — Warszawa, 2002.
11. Czyżewski, F. Polonizmy w ukraińskich gwarach Pobuża / F. Czyżewski // Rozprawy Slawistyczne. — T. 4: Interferencje językowe na różnych obszarach Słowiańszczyzny. — Lublin, 1989. — S. 87–132.
12. Głuszkowska, J. Wschodniosłowiańskie elementy językowe w folklorze podlaskim / J. Głuszkowska // Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami / red. E. Smułkowa i A. Engelking. — Warszawa, 2001. — S. 81–92.
13. Kozłowska-Doda, J. Osobliwości pieśni pogrzebowych z Dubicz Cerkiewnych na Białostocczyźnie (na tle polsko-białoruskiego pogranicza etnolingwistycznego) / J. Kozłowska-Doda // Gdzie bije źródło… Pieśni ludowe pogranicza Polski i Białorusi; red. F. Czyżewski, A. Dudek-Szumigaj, M. Żygalova. — Lublin; Wisznice, 2015. — S. 59–75.
14. Linde, S. B. Słownik języka polskiego / S. B. Linde. — T. III. — Lwów, 1857.
15. Łesiów, M. Folklor pogranicza polsko-ukraińskiego / M. Łesiów // Literatura ludowa i literatura chłopska. Materiały z ogólnopolskiej naukowej sesji folklorystycznej 16–18.02.1973. — Lublin, 1973. — S. 173–194.
16. Łesiów, M. Polonizmy ukraińskiej gwary wsi Kolechowice / M. Łesiów // Język Polski. — T. XXVIII. — 1958. — S. 362–369.
17. Obrębska-Jabłońska, A. Dialektologiczna problematyka badań slawistycznych na Białostocczyźnie / A. Obrębska-Jabłońska // Acta Baltico-Slavica. — T. I. — 1964. — S. 197–205; przedruk: Obrębska-Jabłońska, A. Śladami żywego języka. Wybór pism / A. Obrębska-Jabłońska; red. E. Smułkowa. — Warszawa, 1993. — S. 322–334.
18. Pelcowa, H. Leksyka kresowa północno-wschodniej Lubelszczyzny i jej odzwierciedlenie w pieśni ludowej / H. Pelcowa // Gdzie bije źródło… Pieśni ludowe pogranicza Polski i Białorusi / red. F. Czyżewski, A. Dudek-Szumigaj, M. Żygalova. — Lublin, Wisznice, 2015. — S. 109–117.
19. Pelcowa, H. Słownictwo wschodniosłowiańskie w gwarach Polski środkowo-wschodniej w świetle związków językowych polsko-ukraińskich / H. Pelcowa // Rozprawy Slawistyczne. — T. 12: Ze studiów nad gwarami wschodniosłowiańskimi w Polsce / red. F. Czyżewski i M. Łesiów. — Lublin, 1997. — S. 189–211.
20. Smułkowa, E. Białoruskie kudravy to nie zawsze ‘kędzierzawy’ / E. Smułkowa // Acta Baltico-Slavica. — T. XIV. — 1982; przedruk: BP. — S. 284–287.
21. Smułkowa, E. Pojęcie gwar przejściowych i mieszanych na polsko-białorusko-ukraińskim pograniczu językowym oraz Dyskusja nad referatem Elżbiety Smułkowej / E. Smułkowa // Dzieje Lubelszczyzny. — T. VI: Między Wschodem a Zachodem. — Cz. IV: Zjawiska językowe na pograniczu polsko-ruskim. — Lublin, 1992; przedruk: BP. — S. 336–348.

22. Smułkowa, E. Propozycje terminologicznego zawężenia zakresu pojęć: «gwary przejściowe» — «gwary mieszane» / E. Smułkowa // Rozprawy Slawistyczne. — T. 6. — Lublin, 1993; przedruk: BP. — S. 349–354.
23. Smułkowa, E. Przykłady zróżnicowania morfologicznego gwar białoruskich Białostocczyzny / E. Smułkowa // Sprawozdania z Prac Naukowych Wydziału I PAN. — № 5. — 1960; przedruk: BP. — S. 121–132.
24. Smułkowa, E. Szkic systemów fonologicznych ruskich gwar Białostocczyzny Wschodniej / E. Smułkowa // Slavia Orientalis. — Z. 3. — 1968; przedruk: BP. — S. 91–96.
25. Smułkowa, E. Uwagi do metody badań nad leksyką gwarową pogranicza językowego / E. Smułkowa // Studia nad gwarami Białostocczyzny: morfologia i słownictwo. — 1984; przedruk: BP. — S. 288–292.
26. Smułkowa, E. Z zagadnień rozwarstwiania semantycznego w słownictwie gwarowym. (Na przykładzie białoruskiej leksyki rolniczej) / E. Smułkowa, L. Wygonnaja // Studia z filologii polskiej i słowiańskiej. — T. XII. — 1974; przedruk: BP. — S. 226–231.
27. Wiśniewski, J. Zarys dziejów osadnictwa na Białostocczyźnie / J. Wiśniewski // Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. — T. I. — Wrocław, 1980. — S. 14–27.

**Радаслаў Калета** *(Варшава, Польшча)*

## АБ ВАРЫЯНТАХ РАМАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА АЛФАВІТА, ЯКІЯ ФУНКЦЫЯНУЮЦЬ У ПОЛЬШЧЫ

Тэма раманізацыі беларускага алфавіта неаднаразова абмяркоўвалася найперш беларускімі, але таксама і польскімі даследчыкамі. У сувязі з гэтым можна ўзгадаць такія прозвішчы, як Давідоўскі [1], Копач [3], Кошчанка [4], Лукашанец [5], Лычаўка [6], Саўка [7], Сомін [8], Таболіч [9], Ціханюк [16]. Даследчыкаў, як бачым, нямала, таму што пытанне раманізацыі беларускага алфавіта па сённяшні дзень правакуе вялікія эмоцыі. Розныя праблемы (і адначасова абурэнне) выклікае той факт, што ні ў Беларусі, ні ў Польшчы не існуе адзінага стандарту раманізацыі беларускага алфавіта, нягледзячы на існаванне аднаго варыянту транслітарацыі беларускіх геаграфічных назваў, які ў 2012 г. быў зацверджаны і рэкамендаваны да шырокага ўжытку Групай экспертаў па справах геаграфічных назваў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, аб чым можам прачытаць у дакуменце «Report on the Current Status of United Nations Romanization Systems for Geographical Names» [14]. Прыклады падаюцца ў табліцы 1.

**Табліца 1. Афіцыйная транслітарацыя беларускіх геаграфічных назваў, зацверджаная і рэкамендаваная ААН у 2012 г.**

| *Беларускі алфавіт* | *Транслітарацыя (афіцыйная беларуская сістэма з 2007 г., зацверджаная і рэкамендаваная ААН у 2012 г.)* | *Прыклады (Инструкция по транслитерации… [2])* |
|---|---|---|
| А, а | A, a | Аршанскі — Aršanski |
| Б, б | B, b | Бешанковічы — Biešankovičy |
| В, в | V, v | Віцебск — Viciebsk |
| Г, г | H, h | Гомель — Homieĺ, Гаўя — Haŭja |
| Д, д | D, d | Добруш — Dobruš |
| Е, е | Je — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага | Ельск — Jeĺsk, Бабаедава — Babajedava |
| | ie — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Венцавічы — Viencavičy |
| Ё, ё | Jo — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага | Ёды — Jody, Вераб’ёвічы — Vierabjovičy |
| | io — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Мёры — Miory |
| Ж, ж | Ž, ž | Жодзішкі — Žodziški |
| З, з | Z, z | Зэльва — Zeĺva |
| І, і | I, i | Іванава — Ivanava, Іўе — Iŭje |
| Й, й | J, j | Лагойск — Lahojsk |
| К, к | K, k | Круглае — Kruhlaje |
| Л, л | L, l | Лошыца — Lošyca, Любань — Liubań |
| | Ĺ, ĺ — калі пасля літары выступае мяккі знак (ь) | Фаніпаль — Fanipaĺ |
| М, м | M, m | Магілёў — Mahilioŭ |
| Н, н | N, n | Нясвіж — Niasviž |
| | Ń, ń — калі пасля літары выступае мяккі знак (ь) | Любань — Liubań |
| О, о | O, o | Орша — Orša |
| П, п | P, p | Паставы — Pastavy |
| Р, р | R, r | Рагачоў — Rahačoŭ |
| С, с | S, s | Светлагорск — Svietlahorsk |
| | Ś, ś — калі пасля літары выступае мяккі знак (ь) | Беларусь — Bielaruś |
| Т, т | T, t | Талачын — Talačyn |

| *Беларускі алфавіт* | *Транслітарацыя (афіцыйная беларуская сістэма з 2007 г., зацверджаная і рэкамендаваная ААН у 2012 г.)* | *Прыклады (Инструкция по транслитерации... [2])* |
|---|---|---|
| У, у | U, u | Узда — Uzda |
| Ў, ў | Ŭ, ŭ | Шаркаўшчына — Šarkaŭščyna |
| Ф, ф | F, f | Фаніпаль — Fanipaĺ |
| Х, х | Ch, ch | Хоцімск — Chocimsk |
| Ц, ц | C, c | Цёмны Лес — Ciomny Lies |
| | Ć, ć — калі пасля літары выступае мяккі знак (ь) | Друць — Druć |
| Ч, ч | Č, č | Чавусы — Čavusy |
| Ш, ш | Š, š | Шуміліна — Šumilina |
| ’ | Прапускаецца | |
| Ы, ы | Y, y | Чыгірынка — Čyhirynka |
| Ь, ь | *Абазначаецца як знак мяккасці над літарамі:* Ĺ, ĺ, Ń, ń, Ś, ś, Ć, ć | Фаніпаль — Fanipaĺ, Любань — Liubań, Беларусь — Bielaruś, Друць — Druć |
| Э, э | E, e | Чачэрск — Čačersk |
| Ю, ю | Ju, ju — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага | Юхнаўка — Juchnaŭka, Гаюціна — Hajucina |
| | iu — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Цюрлі — Ciurli, Любонічы — Liuboničy |
| Я, я | Ja, ja — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага | Ямнае — Jamnaje, Баяры — Bajary |
| | ia — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Валяр’яны — Valiarjany, Вязынка — Viazynka |

У Польшчы з 2005 г. выкарыстоўваецца транскрыпцыя (не транслітарацыя!) беларускага алфавіта польскімі літарамі. Правілы гэтае транскрыпцыі былі зацверджаны на дзяржаўным узроўні Указам Міністра ўнутраных спраў і Адміністрацыі ад 30 траўня 2005 г. «Аб спосабе транслітарацыі імёнаў і прозвішчаў асоб, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцяў» (польск. «Rozporządzenie Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji z dnia 30 maja 2005 r. w sprawie sposobu transliteracji imion i nazwisk osób należących do mniejszości narodowych i etnicznych zapisanych w alfabecie innym niż alfabet łaciński» (Dz. U. Nr 102, poz. 855) [15]). У назве гэтага дакумента зрабілі памылку. На самай справе гаворка ідзе не аб транслітарацыі, але аб транскрыпцыі, пра што сведчыць дзеяслоў пол. *transkrybujemy* ‘транскрыбуем’,

які ўжываецца ў далейшай частцы ўказа. Правілы польскай транскрыпцыі падаюцца ў табліцы 2.

**Табліца 2. Польская транскрыпцыя беларускага алфавіта**

| *Беларускі алфавіт* | *Польская транскрыпцыя* |
|---|---|
| А, а | A, a |
| Б, б | B, b |
| В, в | W, w |
| Г, г | H, h |
| Д, д | D, d |
| Е, е | Je, je — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>e — пасля Л, л<br>ie — пасля іншых зычных літар |
| Ё, ё | Jo, jo — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>o — пасля Л, л<br>io — пасля іншых зычных літар |
| Ж, ж | Ż, ż |
| З, з | Z, z |
| І, і | I, i |
| Й, й | J, j |
| К, к | K, k |
| Л, л | L, l — перад е, ё, я, ю, і, ь<br>Ł, ł — перад зычнымі літарамі, перад галоснымі *а*, *о*, *у*, *ы,* а таксама на канцы слова |
| М, м | M, m |
| Н, н | N, n |
| О, о | O, o |
| П, п | P, p |
| Р, р | R, r |
| С, с | S, s |
| Т, т | T, t |
| У, у | U, u |
| Ў, ў | U, u |
| Ф, ф | F, f |
| Х, х | Ch, ch |
| Ц, ц | C, c |
| Ч, ч | Cz, cz |
| Ш, ш | Sz, sz |

| *Беларускі алфавіт* | *Польская транскрыпцыя* |
|---|---|
| ’ | Прапускаецца |
| Ы, ы | Y, y |
| Ь, ь | *Мяккасць абазначаецца над літарамі:*<br>Ć, ć, Ń, ń, Ś, ś, Ź, ź, *за выключэннем літары* Л, л.<br>Ль, ль *перадаецца як* L, l |
| Э, э | E, e |
| Ю, ю | Ju, ju — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>u — пасля Л, л<br>iu — пасля іншых зычных літар |
| Я, я | Ja, ja — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>a — пасля Л, л<br>ia — пасля іншых зычных літар |

Правілы гэтай транскрыпцыі папулярызуюцца ў польскіх даведніках (напр. «Polszczyzna na co dzień» [13]) і арфаграфічных слоўніках, напр. у «Вялікім арфаграфічным слоўніку» («Wielki słownik ortograficzny PWN» [17]), даступным таксама ў інтэрнэце.

Беларусы павінны ведаць, што менавіта гэтыя правілы раманізацыі беларускага алфавіта выкарыстоўваюцца польскімі ЗАГСамі (польск. *USC — urząd stanu cywilnego*) у польскіх дакументах, напр. у пасведчанні аб нараджэнні ці пасведчанні аб шлюбе, а таксама ў іншых дакументах, напр. у вадзіцельскім пасведчанні. Калі замежнік хоча або мусіць атрымаць польскае пасведчанне аб нараджэнні ці пасведчанне аб шлюбе, то павінен пакінуць у польскім ЗАГСе арыгінальны дакумент, які быў выдадзены ў яго краіне. На падставе гэтага арыгінала робіцца польская транскрыпцыя імя і прозвішча і выдаецца польскі дакумент. Падобным чынам выглядае сітуацыя, калі замежнік уступае ў шлюб з грамадзянінам Польшчы. Тады ў пасведчанні аб шлюбе будзе таксама польская транскрыпцыя імя і прозвішча мужа / жонкі-замежніка. Аднак трэба падкрэсліць той факт, што формы беларускіх імёнаў і прозвішчаў у польскай транскрыпцыі не супадаюць з формамі беларускіх імёнаў і прозвішчаў, якія запісваюцца ў транслітарацыі ў беларускіх пашпартах. У беларускіх замежных пашпартах выкарыстоўваецца транслітарацыя Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь (больш падрабязна гл. [7]). Унізе старонкі пашпарта знаходзіцца варыянт транслітарацыі, адпаведны транслітарацыі, распрацаванай Міжнароднай арганізацыяй грамадзянскай авіяцыі (МАГА, анг. *ICAO — International Civil Aviation Organization*). Сістэма гэтай транслітарацыі падаецца ў табліцы 3.

**Табліца 3. Транслітарацыя беларускага алфавіта паводле правілаў Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі**

| *Беларускі алфавіт* | *Транслітарацыя МАГА* | *Беларускі алфавіт* | *Транслітарацыя МАГА* |
|---|---|---|---|
| А, а | A | П, п | P |
| Б, б | B | Р, р | R |
| В, в | V | С, с | S |
| Г, г | H | Т, т | T |
| Д, д | D | У, у | U |
| Е, е | E | Ў, ў | U |
| Ё, ё | IO | Ф, ф | F |
| Ж, ж | ZH | Х, х | KH |
| З, з | Z | Ц, ц | TS |
| І, і | I | Ч, ч | CH |
| Й, й | I | Ш, ш | SH |
| К, к | K | Ы, ы | Y |
| Л, л | L | Э, э | E |
| М, м | M | Ю, ю | IU |
| Н, н | N | Я, я | IA |
| О, о | O | | |

Формы транслітарацыі беларускіх імёнаў і прозвішчаў з пашпартоў выкарыстоўваюцца, што зразумела, і ў Польшчы. Грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які часова альбо пастаянна пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Польшча, павінен ва Упраўленні па справах замежнікаў (польск. Urząd ds. Cudzoziemców) атрымаць карту часовага альбо пастаяннага пражывання, у якой формы транслітарацыі імя і прозвішча супадаюць з формамі англійскай транслітарацыі, якая выкарыстоўваецца ў беларускіх замежных пашпартах. Такім чынам, чыноўнікі ў польскіх установах непаслядоўныя ў падыходзе да беларускіх імёнаў і прозвішчаў, што, на шчасце, яны ўжо ўсведамляюць. Цяпер працягваюцца кансультацыі адміністрацыі з мовазнаўцамі па вырашэнні гэтага няпростага пытання ўніфікацыі правілаў транслітарацыі замежных імёнаў і прозвішчаў у польскіх дакументах.

У табліцы 4 падаюцца прыклады раманізацыі беларускіх імёнаў і прозвішчаў у дакументах розных відаў.

**Табліца 4. Прыклады раманізацыі беларускіх імёнаў і прозвішчаў у дакументах розных відаў**

| *Імя/прозвішча па-беларуску* | *У пашпарце / карце пражывання ў РП* | *ЗАГС у РП (польская транскрыпцыя)* | *Магчымы варыянт уніфікацыі** |
|---|---|---|---|
| Варонка | VARONKA | Waronka | Varonka |
| Ефрасіння | EFRASINNIA | Jefrasinnia | Jefrasinnia |
| Юлія | YULIYA | Julija | Julija |
| Кныш | KNYSH | Knysz | Knyš |
| Крысціна | KRYSTSINA | Kryscina | Kryscina |
| Семянькевіч | SEMIANKEVICH | Siemiańkiewicz | Siemiańkievič |
| Хаўстовіч | KHAUSTOVICH | Chaustowicz | Chaŭstovič |
| Трацяк | TRATSIAK | Traciak | Traciak |
| Слуцкая | SLUTSKAYA | Słuckaja | Sluckaja |
| * На аснове афіцыйнай транслітарацыі беларускіх геаграфічных назваў, зацверджанай і рэкамендаванай ААН у 2012 г. | | | |

Як бачна з табліцы 4, формы імёнаў і прозвішчаў адной і той жа асобы не супадаюць у розных дакументах. Беларусы звычайна «лепшай» і найважнейшай формай («сапраўднай») лічаць форму імя і прозвішча з пашпарта. Можа здарыцца так, што польскі чыноўнік не паверыць на слова, што *EFRASINNIA* і *Jefrasinnia* — гэта адна і тая асоба. Тады спатрэбіцца пасведчанне з пасольства, што імя *Ефрасіння* мае ў польскай транскрыпцыі форму *Jefrasinnia*. Згаданае пасведчанне трэба перакласці ў прысяжнага перакладчыка на польскую мову, што яшчэ больш ускладняе ўжо няпростую сітуацыю.

Праблемы раманізацыі беларускага алфавіта можна было б вырашыць, калі б у Беларусі дзейнічала адзіная транслітарацыя беларускага алфавіта, якая датычыла б і імёнаў, і прозвішчаў, і геаграфічных назваў. Паколькі за гэтыя транслітарацыі «адказваюць» два розныя ведамствы (МУС і Камітэт па дзяржмаёмасці), цяжка ў хуткім часе разлічваць на выпрацоўку агульнага стандарту. А для гэтага хапіла б толькі добрай волі чыноўнікаў, таму што — як ужо ўзгадвалася — існуе стандарт транслітарацыі беларускага алфавіта ў дачыненні да геаграфічных назваў, які ў 2012 г. быў зацверджаны і рэкамендаваны да шырокага ўжытку Групай экспертаў па справах геаграфічных назваў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. Калі прымяняць гэтую транслітарацыю таксама ў дачыненні да імёнаў і прозвішчаў[1] (у тым ліку

[1] Дарэчы, так робяць рэдактары часопіса «Belarusian Political Science Review» на старонках свайго выдання [10].

і ў пашпартах), гэта значна спрасціла б сітуацыю. Тады і ў Польшчы праблема транслітарацыі спрасцілася б, таму што польскаму чыноўніку (і не толькі чыноўніку) лягчэй прачытаць прозвішча, напр., *Siemiańkievič*, чым SEMIANKEVICH (як у пашпарце), *Chaŭstovič*, чым KHAUSTOVICH, і г. д. У пашпарце (як у замежных пашпартах грамадзян іншых краінаў) былі б дзве версіі прозвішча — зверху старонкі ў беларускай транслітарацыі (напр., *Chaŭstovič*), а ўнізе старонкі спрошчаная версія (*Chaustovic*) — для машын, якія правяраюць асабовыя дадзеныя ў аэрапорце. Такая сістэма прынятая і ў польскіх пашпартах, напр. імя RADOSŁAW (з польскай літарай Ł) мае ўнізе старонкі свой адпаведнік RADOSLAW (з міжнароднай літарай L, без перадачы польскіх моўных асаблівасцяў).

Пакуль што беларусы выкарыстоўваюць у Польшчы англійскую транслітарацыю з пашпарта не толькі ў дакументах (што больш зразумела), але нават у навуковых ці публіцыстычных тэкстах на польскай мове, не ўсведамляючы, што для палякаў такі варыянт прозвішча выглядае крыху дзіўна, напр. *Wywiadu udzieliła Yuliya Slutskaya.* Яшчэ больш дзіўна выглядае такое «англійска-беларускае» прозвішча, якое скланяецца па-польску, напр. *Projekt został skrytykowany przez Yuliyę Slutską.* У польскіх тэкстах лепш у такіх выпадках выкарыстоўваць польскую версію прозвішча альбо польскую транскрыпцыю, але з дадатковай інфармацыяй у тэксце альбо ў дужках, напр. *Wywiadu udzieliła białoruska działaczka Julia Słucka (brus. Julija Słuckaja, Юлія Слуцкая)*. Гэта праўда, што сказ такі можа здавацца надта доўгім і нязручным, але менавіта такі спосаб дае магчымасць не парушаць нічыю традыцыю — ні польскую, ні беларускую. Ад віду тэксту залежыць, ці можна падаць у дужках транслітарацыю або прозвішча, запісанае кірыліцай. Калі тэкст пішацца для чытачоў, якія праўдападобна нічога не ведаюць пра Беларусь і нават могуць не ведаць кірыліцы, тады лепш выкарыстоўваць транслітарацыю. Усё залежыць ад таго, хто і для каго піша. Не падлягае сумневу, што выкарыстанне ў польскіх тэкстах польскіх варыянтаў беларускіх прозвішчаў дазваляе пазбегнуць праблемаў пры скланенні, напр. *Projekt został skrytykowany przez Julię Słucką / Juliję Słucką (brus. Julija Słuckaja, Юлія Слуцкая).*

У Польшчы існуе яшчэ адзін стандарт транслітарацыі кірыліцы (у тым ліку імёнаў і прозвішчаў аўтараў розных відаў публікацыяў), якая ў міжнародным асяроддзі называецца ISO 9:1995 «Information and documentation — Transliteration of Cyrillic characters into Latin Characters — Slavic and non-Slavic languages» (анг. *ISO = The International Organization for Standardization*) [11]. У Польшчы гэты стандарт функцыянуе пад назвай PN-ISO 9:2000 «Informacja i dokumentacja. Transliteracja znaków cyrylickich na znaki łacińskie — Języki słowiańskie i niesłowiańskie» [12] (белар. *Інфармацыя і дакументацыя. Транслітарацыя кірыліцкіх знакаў на лацінскія — Славянскія і неславянскія мовы*). У табліцы 5 падаецца сістэма гэтай транслітарацыі.

**Табліца 5. Транслітарацыя беларускага алфавіта паводле стандарту ISO 9:1995**

| *Беларускі алфавіт* | *Транслітарацыя ISO 9:1995 (PN-ISO 9:2000)* | *Беларускі алфавіт* | *Транслітарацыя ISO 9:1995 (PN-ISO 9:2000)* |
|---|---|---|---|
| А, а | A, a | Р, р | R, r |
| Б, б | B, b | С, с | S, s |
| В, в | V, v | Т, т | T, t |
| Г, г | G, g | У, у | U, u |
| Д, д | D, d | Ў, ў | Ŭ, ŭ |
| Е, е | E, e | Ф, ф | F, f |
| Ё, ё | Ë, ë | Х, х | H, h |
| Ж, ж | Ž, ž | Ц, ц | C, c |
| З, з | Z, z | Ч, ч | Č, č |
| І, і | Ì, ì | Ш, ш | Š, š |
| Й, й | J, j | ’ | ’ |
| К, к | K, k | Ы, ы | Y, y |
| Л, л | L, l | ь | ′ |
| М, м | M, m | Э, э | È, è |
| Н, н | N, n | Ю, ю | Û, û |
| О, о | O, o | Я, я | Â, â |
| П, п | P, p | | |

Гэты варыянт ужываецца галоўным чынам у бібліяграфічных спісах ды ў бібліятэках, але ён таксама вядомы ў Польшчы і выкарыстоўваецца як яшчэ адзін варыянт транслітарацыі беларускага алфавіта. Напрыклад, імя і прозвішча вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава будзе выглядаць у гэтай транслітарацыі наступным чынам: *Vasìl Bykaŭ*.

Чым адрозніваюцца згаданыя ў артыкуле стандарты раманізацыі беларускага алфавіта, паказвае наступная табліца 6.

**Табліца 6. Адрозненні ў стандартах раманізацыі беларускага алфавіта**

| *Беларускі алфавіт* | *Афіцыйная транслітарацыя беларускіх геаграфічных назваў, зацверджаная і рэкамендаваная ААН у 2012 г.* | *Польская транскрыпцыя* | *Транслітарацыя беларускага алфавіта паводле правілаў Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі (выкарыстоўваецца ў пашпартах)* | *Транслітарацыя беларускага алфавіта паводле стандарту ISO 9: 1995 (у Польшчы PN-ISO 9:2000, датычыць бібліяграфічных спісаў)* |
|---|---|---|---|---|
| В, в | V, v | W, w | V | V, v |
| Г, г | H, h | H, h | H | G, g |
| Е, е | Je — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага<br>ie — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Je, je — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>e — пасля Л, л<br>ie — пасля іншых зычных літар | E | E, e |
| Ё, ё | Jo — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага<br>io — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Jo, jo — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>o — пасля Л, л<br>io — пасля іншых зычных літар | IO | Ë, ë |
| Ж, ж | Ž, ž | Ż, ż | ZH | Ž, ž |
| І, і | I, i | I, i | I | Ì, ì |
| Й, й | J, j | J, j | I | J, j |
| Л, л | L, l | L, l — перад е, ё, я, ю, і, ь<br>Ł, ł — перад зычнымі літарамі і галоснымі а, о, у, ы, а таксама на канцы слова | L | L, l |
| Ў, ў | Ŭ, ŭ | U, u | U | Ŭ, ŭ |
| Х, х | Ch, ch | Ch, ch | KH | H, h |
| Ц, ц | C, c | C, c | TS | C, c |
| Ч, ч | Č, č | Cz, cz | CH | Č, č |
| Ш, ш | Š, š | Sz, sz | SH | Š, š |

| *Беларускі алфавіт* | *Афіцыйная транслітарацыя беларускіх геаграфічных назваў, зацверджаная і рэкамендаваная ААН у 2012 г.* | *Польская транскрыпцыя* | *Транслітарацыя беларускага алфавіта паводле правілаў Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі (выкарыстоўваецца ў пашпартах)* | *Транслітарацыя беларускага алфавіта паводле стандарту ISO 9: 1995 (у Польшчы PN-ISO 9:2000, датычыць бібліяграфічных спісаў)* |
|---|---|---|---|---|
| ’ | *Прапускаецца* | *Прапускаецца* | *Прапускаецца* | ’ |
| ь | Мяккасць абазначаецца над літарамі: Ć, ć, Ń, ń, Ś, ś, Ź, ź ды Ĺ, ĺ | Мяккасць абазначаецца над літарамі: Ć, ć, Ń, ń, Ś, ś, Ź, ź, за выключэннем літары Л, л.<br>Ль, ль перадаецца як L, l | *Прапускаецца* | ʹ |
| Э, э | E, e | E, e | E | È, è |
| Ю, ю | Ju, ju — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага<br>iu — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Ju, ju — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>u — пасля Л, л<br>iu — пасля іншых зычных літар | IU | Û, û |
| Я, я | Ja, ja — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь) і (ў) нескладовага<br>ia — пасля зычных літар (у тым ліку пасля Л, л) | Ja, ja — на пачатку слова, пасля галосных літар, апострафа (’), мяккага знака (ь)<br>a — пасля Л, л<br>ia — пасля іншых зычных літар | | Â, â |

Як бачым, сітуацыя выглядае даволі складанай. Колькасць існуючых варыянтаў прычыняецца да таго, што грамадзянін Рэспублікі Беларусь мае некалькі варыянтаў свайго імя і прозвішча, пры гэтым сярод усіх варыянтаў ён лічыць сапраўдным толькі адзін, які пададзены ў яго пашпарце. Выхаду з гэтай сітуацыі пакуль няма, і, здаецца, на вялікі жаль, не хутка будзе. Тэарэтычна варта было б, каб беларускія мовазнаўцы давалі зразумець чыноўнікам парадокс існуючага разнабою і стараліся пераканаць, што стандарт, зацверджаны Арганізацыяй Аб’яднаных Нацый, павінен стаць адзіным агульным беларускім стандартам. Тады і ў Польшчы ён таксама

мог бы выкарыстоўвацца ў афіцыйных дакументах у якасці міжнароднага, а польская транскрыпцыя магла б выступаць як дапаможная (напр., у навуковых ці публіцыстычных тэкстах) альбо адзіная ў выпадку калі замежнік становіцца грамадзянінам Польшчы.

## Літаратура


1. Давідоўскі, П. Перадача ўласных назваў лацінскімі літарамі на Беларусі і ў Польшчы: тэорыя і практыка / П. Давідоўскі // Супольнасць традыцыі — садружнасць у будучыні. Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: зборнік навук. артык., пад рэд. І. Э. Багдановіч, С. М. Запрудскага. — Мінск, 2012. — С. 17–22.
2. Инструкция по транслитерации географических названий Республики Беларусь буквами латинского алфавита [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.webcitation.org/6XUwabw3U. — Дата доступа: 21.09.2016.
3. Копач, А. І. Праблема стандартызацыі нацыянальных геаграфічных назваў у кантэксце паўночнаамерыканскага вопыту / А. І. Копач // Беларуская лінгвістыка. — Вып. 64. — 2010. — С. 53–59.
4. Кошчанка, У. А. Ад «геаграфічнай» лацінкі да нацыянальнай сістэмы раманізацыі беларускай мовы / У. А. Кошчанка // Зборнік матэр. міжнар. навук.-практ. канф. «Моўныя правы і іх абарона» (28 сак. 2015 г.). — Т. 1. — Мінск, 2015. — С. 171–178.
5. Лукашанец, А. А. Аб правілах транслітарацыі беларускіх уласных назваў / А. А. Лукашанец // Наша слова. — 1994. — № 5. — С. 6.
6. Лычавко, А. Какой транслит правильный? / А. Лычавко // tut.by [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://news.tut.by/society/309486.html. — Дата доступа: 21.09.2016.
7. Саўка, З. Беларускае ў іншамоўным: шляхі стандарызацыі / З. Саўка // Acta Albaruthenica 11. Literatura, język i kultura: tradycje i współczesność. — Warszawa, 2011. — С. 231–238.
8. Сомін, А. Праблема транслітарацыі ўласных імёнаў і наіўная моўная рэфлексія (у кантэксце руска-беларускага білінгвізму) / А. Сомін (у друку).
9. Таболіч, А. Транслітарацыя, але якая? / А. Таболіч // Наша слова. — 1994. — № 30. — С. 6.
10. Belarusian Political Science Review [Electronic resource]. — Mode of access: http://bpsreview.palityka.org. — Date of access: 21.09.2016.
11. ISO 9 1995. «Information and documentation — Transliteration of Cyrillic characters into Latin Characters — Slavic and non-Slavic languages».
12. PN-ISO 9:2000. «Informacja i dokumentacja. Transliteracja znaków cyrylickich na znaki łacińskie — Języki słowiańskie i niesłowiańskie».
13. Polszczyzna na co dzień / Red. M. Bańko. — Warszawa, 2006.
14. Report on the Current Status of United Nations Romanization Systems for Geographical Names [Electronic resource]. — Mode of access: http://www.eki.ee/wgrs. — Date of access: 21.09.2016.
15. Rozporządzenie Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji z dnia 30 maja 2005 r. w sprawie sposobu transliteracji imion i nazwisk osób należących do mniejszości narodowych i etnicznych zapisanych w alfabecie innym niż alfabet łaciński (Dz. U.

Nr 102, poz. 855) // archive.is [Electronic resource]. — Mode of access: http://archive.is/1r2O8. — Date of access: 21.09.2016.
16. Tichoniuk, B. Kilka uwag do sposobu zapisywania łacinką toponimów białoruskich we współczesnej kartografii białoruskiej / B. Tichoniuk // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: матэр. III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый» (Мінск, 21–25 мая, 4–7 снежня 2000 г.). — Мінск, 2001. — S. 297–299.
17. Wielki słownik ortograficzny PWN z zasadami pisowni i interpunkcji / red. E. Polański. — Warszawa, 2013.

**Катажына Канчэўска** *(Гродна, Беларусь)*

## ПОЛЬСКІЯ ГАВОРКІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ Ў ПРАЦАХ ПОЛЬСКІХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ У КАНЦЫ XX — ПАЧАТКУ XXI СТАГОДДЗЯ[1]

### Уступ

Гродзеншчына ў сувязі са сваім геаграфічным становішчам з’яўляецца досыць спецыфічным рэгіёнам Беларусі. У ёй пражываюць прадстаўнікі 91 нацыянальнасці[2], у тым ліку найбольшая ва ўсёй краіне колькасць насельніцтва, якое дэкларуе польскую (230 810 асоб) і літоўскую (2 153 асобы) нацыянальнасці. Дыялектнае багацце гэтага рэгіёна, у якім можна вылучыць беларускія, літоўскія, польскія гаворкі, з’яўляецца прадметам вывучэння не толькі айчынных даследчыкаў; вельмі актыўна працуюць над гэтай праблематыкай і навукоўцы з Польшчы. Она Раманчук (Ona Romančuk) з Варшаўскага ўніверсітэта прысвяціла сваю доктарскую дысертацыю [53] і шматлікія артыкулы гервяцкім літоўскім гаворкам. Беларускія гаворкі даследавалі Багуміл Астроўскі з Інстытута польскай мовы Польскай акадэміі

[1] Артыкул працягвае цыкл аглядных работ аўтара, прысвечаных праблематыцы вывучэння польскіх памежных гаворак у Беларусі: Канчэўска, К. Даследаванне польскіх гаворак польска-беларуска-літоўскага памежжа ў канцы XX — пачатку XXI стагоддзя / К. Канчэўска // Хоревские чтения. Выпуск II: сб. науч. раб. / ГрГУ им. Я. Купалы; под науч. ред. С. Ф. Мусиенко. — Гродно, 2015. — Т. 2. — С. 139–153.

[2] Усе выкарыстаныя ў артыкуле статыстычныя дадзеныя паходзяць са зборнікаў Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі 2009 г., размешчаных на адрасе: http://belstat.gov.by.

навук у Кракаве [41], Ніна Баршчэўска з Варшаўскага ўніверсітэта і Мірослаў Янковяк з Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук у Варшаве [1]. Асобны артыкул, прысвечаны элементам беларускіх гродзенскіх гаворак у рамане Элізы Ажэшка, апублікавала Эва Галяхоўска з Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук у Варшаве [7]. Даследчыкі Беластоцкага і Люблінскага ўніверсітэтаў актыўна даследуюць беларускія гаворкі Беласточчыны, частка якой гістарычна належала да Гродзенскага павета, а значыць, мясцовыя беларускія гаворкі набліжаны да беларускіх гаворак гродзенска-баранавіцкай групы і матэрыял даследаванняў польскіх навукоўцаў можна выкарыстаць пры вывучэнні гродзенскіх беларускіх гаворак. Надзвычай важнае значэнне маюць таксама матэрыялы «Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны», працу над якім распачаў у 1955 г. калектыў Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай. Аднак найбольшую ўвагу польскія даследчыкі прысвячаюць менавіта польскім гаворкам Гродзеншчыны.

Польскія навукоўцы атрымалі магчымасць праводзіць даследаванні на тэрыторыі сучаснай Гродзеншчыны толькі з 1987 г., пасля падпісання дагавора аб супрацоўніцтве паміж Польскай акадэміяй навук і Акадэміяй навук Беларусі. Стан вывучэння польскіх памежных гаворак да пачатку 1990-х гг. прадставіла Зоф'я Саванеўска-Махова [44]. Пакольκі ў канцы XX — на пачатку XXI ст. даследаванні польскіх гаворак польска-беларуска-літоўскага памежжа выйшлі на якасна новы ўзровень, мэтай нашага артыкула з'яўляецца агляд[1] работ польскіх навукоўцаў, якія займаюцца дадзенай праблематыкай, і вылучэнне асноўных праблемна-тэматычных груп гэтага напрамку іх навуковых даследаванняў[2] на тэрыторыі Гродзенскай вобласці[3].

## Пытанні тэрміналогіі

Належыць адзначыць, што тэрмін «польскія гаворкі» дагэтуль з'яўляецца паняццем неадназначным. У навуковай літаратуры ў дачыненні да гродзенскіх польскіх гаворак можна таксама сустрэць азначэнні: «польская мова», «польскі дыялект», «польскія перыферыйныя гаворкі», «крэсовыя гаворкі», «польскі рэгіялект», «польскі сацыялект», «інтэрдыялект».

Вячаслаў Вярэніч, знакаміты беларускі лінгвіст, даследчык і нястомны арганізатар вывучэння польскіх гаворак у тагачасным Савецкім Саюзе на аб-

---

[1] У сувязі з абмежаванасцю аб'ёму артыкула ў ім пазначаны толькі асноўныя напрамкі. Падрабязнаму апісанню даследаванняў, праведзеных у паасобных мясцовасцях Гродзеншчыны, будзе прысвечаны асобны артыкул аўтара.

[2] У артыкуле разглядаюцца работы, апублікаваныя з сярэдзіны 90-х гг. XX ст.

[3] Адміністрацыйная адзінка абрана выключна ў мэтах артыкула. Аўтар разумее ўсю складанасць гістарычна-адміністрацыйных працэсаў, а таксама іх уплыў на вывучэнне гаворак, і таму тэрытарыяльны аспект у даследаваннях гаворак памежжа з'яўляецца прадметам яго асобнага артыкула.

шары ад Літвы да Сібіры, акрэсліў тры тыпы польскіх гаворак на тагачасным польска-беларускім памежжы [56]: 1) змешаныя польска-беларускія гаворкі, якія паўсталі на беларускім субстраце, радзей — адстраце ў выніку беспасрэднага кантакту аўтахтонаў з польскім насельніцтвам; 2) астраўныя польскія дыялекты па-за кампактнай тэрыторыяй польскай мовы, якія паўсталі на беларускім субстраце ў выніку налажэння на яго польскай літаратурнай мовы; на сённяшні іх стан уплываюць дэмаграфічныя працэсы; 3) мова польскіх перасяленцаў розных часоў, напрыклад гаворкі мазавецкіх, малапольскіх або сілезскіх сялян, якія перасяляліся падчас цэлымі вёскамі ў XIX і на пачатку XX ст.; да нашага часу амаль цалкам асіміляваліся.

Валерый Чэкман, які быў піянерам у даследаваннях польскай мовы на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, размяжоўваў у рамках мясцовых польскіх гаворак два варыянты: польскія гаворкі памежжа і польскі інтэрдыялект[1]. Паводле гэтага навукоўца, польскія памежныя гаворкі — гэта «тэрытарыяльная разнавіднасць польскай мовы, якая паўстала на субстраце іншых моў, але гістарычна з'яўляецца разнавіднасцю агульнапольскай літаратурнай мовы (…); яна распаўсюджана на тэрыторыях, дзе пражывае польскамоўнае насельніцтва, сярод якога старэйшае пакаленне з'яўляецца маналінгвістычным, а сярэдняе ўжо — бі- і мультылінгвістычным з польскай мовай у якасці роднай» [64, с. 125]. Такія гаворкі, паводле навукоўца, распаўсюджаны толькі ў некалькіх раёнах Літвы (віленскі, ковенскі, смолвенскі), у месцах кампактнага пражывання польскага насельніцтва. Адначасова Валерый Чэкман звяртаў увагу на тое, што на тэрыторыі Беларусі польская мова не з'яўляецца роднай для мясцовага насельніцтва і «нават у якасці другой мовы не мае сціслага арэала, а значыць, не з'яўляецца дыялектам з пункту гледжання лінгвагеаграфіі» [64, с. 126]. Матэрыялы даследаванняў навукоўца сведчылі пра тое, што польскай мовай валодае на гэтай тэрыторыі абмежаваная частка насельніцтва, пераважна католікі, якія выкарыстоўваюць яе толькі ў пэўных камунікатыўных сітуацыях. Даследчык сцвярджаў, што «такі статус польскай мовы, асаблівасці яе арэала ў гаворках Беларусі, а таксама структура даюць падставу лічыць яе інтэрдыялектам. Важнай рысай гэтага інтэрдыялекту з'яўляецца тое, што ён мае характар адстрату адносна моўных груп або дыялектаў іншай мовы» [64, с. 127]. Свае разважанні Валерый Чэкман абагульніў наступным чынам: «З пункту гледжання гісторыі, абедзве гэтыя формы польскай мовы з'яўляюцца ступенямі сацыялінгвістычнага развіцця адной і той жа з'явы, аднак інтэрдыялект з'яўляецца больш архаічным» [64, с. 128].

Належыць звярнуць увагу на тое, што даследаванні вучонага на тэрыторыі Беларусі праводзіліся пераважна ў цэнтральнай і ўсходняй яе частках. Палявыя даследаванні, праведзеныя іншымі навукоўцамі, дазваляюць сцвярджаць,

[1] Тэрмін «інтэрдыялект» у адносінах да польскай мовы на тэрыторыі Беларусі ўвёў Вячаслаў Вярэніч, а тэарэтычныя падставы распрацаваў Валерый Чэкман.

што памежныя гаворкі ў разуменні Валерыя Чэкмана дагэтуль выступаюць на Гродзеншчыне, у захаваўшыхся анклавах былых шляхецкіх ваколіц. Пра іх можна, на нашу думку, гаварыць таксама як пра сацыялект, таму што яны з'яўляюцца спецыфічнымі менавіта для канкрэтнай групы нашчадкаў мясцовай шляхты [29; 55; 61] і маюць асаблівасці, якія не назіраюцца ў польскіх гаворках жыхароў каталіцкіх вёсак на гэтым жа абшары. Тэрмін «рэгіялект» даследчыкі ўжываюць у дачыненні да польскіх гаворак сціслага арэала, напрыклад уласна Воранаўшчыны, Гродзеншчыны, Сапоцкіншчыны ці Астравеччыны. На жаль, нягледзячы на досыць вялікую колькасць даследаванняў, адсутнасць адзінага метадалагічнага падыходу не дазволіла дагэтуль выпрацаваць агульнапрынятай тэрміналогіі ў адносінах да польскіх гаворак Гродзеншчыны.

## Агульная характарыстыка даследаванняў польскіх навукоўцаў

Менавіта Гродзеншчына часцей за ўсё бывае ў цэнтры ўвагі польскіх даследчыкаў перадусім таму, што з'яўляецца месцам кампактнага пражывання насельніцтва, якое прызнае сваёй нацыянальнасцю польскую. Найбольшая яго колькасць прадстаўлена ў наступных раёнах: Воранаўскі — 24 615 чал. (80,80 % ад агульн. кольк. жыхароў), Шчучынскі — 22 151 чал. (46,40 % ад агульн. кольк. жыхароў), Лідскі — 47 660 чал. (35,30 % ад агульн. кольк. жыхароў), Гродзенскі — 18 323 чал. (33,60 % ад агульн. кольк. жыхароў), Зельвенскі — 4 513 чал. (23,60 % ад агульн. кольк. жыхароў), Бераставіцкі — 3 907 чал. (21,70 % ад агульн. кольк. жыхароў), Свіслацкі — 3 999 чал. (20,50 % ад агульн. кольк. жыхароў).

Ускладняе працу навукоўцаў досыць спецыфічная сацыялінгвістычная сітуацыя рэгіёна і той факт, што этнічная ідэнтычнасць на Гродзеншчыне не з'яўляецца канстантай і мае некалькі ўзроўняў. На гэта звяртала ўвагу, пачынаючы з сярэдзіны 90-х гг. мінулага стагоддзя, Ганна Энгэлькінг [4–6], прадстаўляючы вынікі сваіх этнаграфічных даследаванняў на Гродзеншчыне. Міраслаў Сабэцкі з Беластоцкага ўніверсітэта прысвяціў манаграфію пытанню культурнай самасвядомасці на Гродзеншчыне [52], а Эва Галяхоўска звярнула ўвагу на сацыялінгвістычныя праблемы апісання сучаснай польскай мовы ў гэтым рэгіёне [12]. Феномен Гродзеншчыны вывучаюць не толькі мовазнаўцы, але і сацыёлагі і этнолагі. У 1997–1998 гг. даследаванні на гэтай тэрыторыі праводзіў Інстытут этналогіі і культурнай антрапалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. У другой палове 90-х гг. мінулага стагоддзя ў Гродзенскім раёне працаваў калектыў польскіх і беларускіх даследчыкаў пад кіраўніцтвам Ірыды Грэк-Пабісовай з Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук у Варшаве. У перыяд з красавіка па ліпень 2005 г. экспедыцыя пад кіраўніцтвам Эльжбеты Смулковай, пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага ўніверсітэта

ў Санкт-Пецярбургу, даследавала тэрыторыю Бераставіцкага раёна. На жаль, палявыя даследаванні, а тым больш сумесныя з беларускімі навукоўцамі, праводзяцца несістэматычна.

Вынікі даследаванняў рэгулярна публікуюцца ў такіх выданнях, як: «Studia nad Polszczyzną Kresową», «Język Polski Dawnych Kresów Wschodnich», «Acta Baltico-Slavica», «Język polski», «Poradnik Językowy», «Prace Filologiczne», «Slavia Orientalis», «Przegląd Polonijny», а таксама ў пасканферэнцыйных зборніках і выданнях акадэмічных цэнтраў. Адным з самых буйных навуковых цэнтраў у галіне даследавання польскіх гаворак на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, у тым ліку і Гродзеншчыны, з'яўляецца Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук у Варшаве; асабліва шырока даследаванні праводзіліся, калі яго кіраўніком была Ірыда Грэк-Пабісова. Навуковая дзейнасць асяродка ў гэтым напрамку прадстаўлена ў артыкуле Ірыды Грэк-Пабісовай і Малгажаты Аструўкі [13].

## Праблемна-тэматычныя групы моўных даследаванняў

Сярод тых публікацый польскіх даследчыкаў, што з'явіліся ў канцы XX — на пачатку XXI ст. і датычаць польскіх гаворак польска-беларуска-літоўскага памежжа, у тым ліку Гродзеншчыны, можна вылучыць наступныя праблемна-тэматычныя групы:

1. Паўночна-ўсходні дыялект польскай мовы, у тым ліку гродзенскія гаворкі.

1.1. Тэарэтычныя і метадалагічныя пытанні даследавання польскіх гаворак.

Кантрасны метад апісання палонацэнтрычных супольнасцей па-за межамі Польшчы прадставіў Станіслаў Дубіш [3]. Януш Рыгер узняў пытанне метадалогіі даследавання польскіх гаворак [42]. Ганна Зяліньска засяродзіла ўвагу на спалучэнні сацыялінгвістычных і дыялекталагічных метадаў пры даследаванні польскай мовы ў Беларусі і Літве [54]. Эльжбета Смулкова прадставіла метадалагічныя ўвагі па даследаваннях на моўным памежжы [47; 49].

1.2. Апісанне сучаснага стану паўночна-ўсходняга дыялекту польскай мовы.

Манаграфіі, якія раскрываюць дадзеную праблематыку, датычаць у асноўным сучаснага стану польскай мовы на больш шырокім абшары даўняй Рэчы Паспалітай. Ірыда Грэк-Пабісова апісала сучасныя польскія гаворкі на даўнім паўночна-ўсходнім памежжы Рэчы Паспалітай пры ўдзеле Ірэны Марыняковай [14], а таксама Малгажаты Аструўкі і Ганны Зяліньскай [16]. Зоф'я Курцова прадставіла польскія гаворкі Беларусі ў дыяхранічным і сінхранічным аспектах [36]. Лешак Бяднарчук прысвяціў увагу этналінгвістычным адносінам на абшары Вялікага Княства Літоўскага ў рэтраспекцыйным кантэксце, падрабязна прааналізаваў моўныя супольнасці на тэрыторыі гэтага

дзяржаўнага ўтварэння, а таксама на сучасных тэрыторыях, якія ўваходзілі ў яго склад, апісаўшы ў тым ліку і гродзенскія польскія гаворкі [2].

Фанетыцы польскіх памежных гаворак была прысвечана ўвага Ірыды Грэк-Пабісовай, якая апісала фанетыку сучасных польскіх гаворак у Літве і Беларусі [17], а таксама Ірэны Савіцкай [45], якая прадставіла фанетычную сістэму польскіх гаворак, што сфарміравалася на беларускім дыялекталагічным субстраце. Ядвіга Казлоўская-Дода звярнула ўвагу на лексіку польскіх гаворак Беларусі, а менавіта Воранаўшчыны, як прадмет дыялекталагічнага даследавання [60], падкрэсліўшы неабходнасць стварэння рэгіянальнага слоўніка.

1.3. Пытанні білінгвізму і моўнай інтэрферэнцыі на беларуска-польска-літоўскім памежжы.

Найбольшую ўвагу дадзенай праблематыцы прысвяціла Эльжбета Смулкова [48], якая адзначыла складанасць сацыялінгвістычнай сітуацыі памежжа і неабходнасць грунтоўнага даследавання яго моўных працэсаў. На думку даследчыцы, найчасцей на памежных тэрыторыях мае месца сітуацыя індывідуальнага бі-, а часам мультылінгвізму пры адначасовай дыглосіі, г. зн. білінгвізм дыгласійнага тыпу, і радзей дзве або тры мовы ўжываюцца папераменна без сацыяльна акрэсленых правіл размежавання іх функцыі.

2. Польскія гаворкі на тэрыторыі непасрэдна Гродзенскай вобласці.

2.1. Мова штодзённай камунікацыі на Гродзеншчыне і сацыялінгвістычная сітуацыя рэгіёна.

Дадзеная праблематыка была ў цэнтры ўвагі Рэгіны Савіцкай [46], Катажыны Канчэўскай [25; 27], Марыі Луцэвіч-Напалкаў [37] і Ядвігі Казлоўскай-Доды [35].

2.2. Мова sacrum.

Найбольшую ўвагу польскія даследчыкі прысвяцілі польскай мове як мове sacrum, што зразумела, калі ўлічыць, што ў пасляваенны час, ажно да пачатку 1990-х гг., польская мова захоўвалася пераважна ў рэлігійнай сферы. Падрабязна гэтую праблематыку прадставіла ў сваіх працах Эва Галяхоўска [9–11], якая вывучала шматмоўнасць беларускіх католікаў. Пра мову sacrum пісалі таксама Дарота Асецка [40] і Катажына Канчэўска [23].

2.3. Пісьмовая мова.

Пісьмовай мове мясцовых палякаў было прысвечана толькі некалькі прац. Эльжбета Рудніцка-Фіра прадставіла вынікі назірання за пісьмовай мовай мясцовай інтэлігенцыі на падставе лістоў, апублікаваных у гродзенскай польскамоўнай газеце «Голас з-над Нёмана» («Głos znad Niemna») [43], а Ірыда Грэк-Пабісова прааналізавала ўсе польскамоўныя лісты, якія дасылаюцца ў рэдакцыю гэтай газеты [15]. Катажына Канчэўска засяродзіла ўвагу на асаблівасцях мовы польскай інтэлігенцыі з Ліды на падставе мясцовага друкаванага выдання [21] і мовы гродзенскіх польскамоўных сродкаў масавай інфармацыі [24].

2.4. Мова шляхты.

Праведзеныя палявыя даследаванні дазволілі навукоўцам сцвердзіць той факт, што пры вывучэнні мясцовых польскіх гаворак неабходна браць пад увагу і сацыяльны фактар, таму што мова жыхароў былых шляхецкіх ваколіц і каталіцкіх вёсак значна адрозніваецца. Ганна Зяліньска прадставіла заўвагі пра мову гродзенскай шляхты на падставе даследаванняў у былой аколіцы Багатырэвічы пад Луннай і суседніх з ёю [55]. Эва Галяхоўска апісала ветлівыя формы ў мове падляскай і гродзенскай шляхты [8]. Ядвіга Казлоўска-Дода засяродзіла ўвагу на мове і звычках жыхароў былых шляхецкіх ваколіц Воранаўшчыны [61], а Катажына Канчэўска апісала не вывучаны дагэтуль сацыялект жыхароў былых шляхецкіх ваколіц за Індурай каля Гродна [29].

2.5. Мова інскрыпцый каталіцкіх могілак.

Інскрыпцыі мясцовых каталіцкіх могілак з'яўляюцца важным элементам даследаванняў, паколькі яны адлюстроўваюць жывую мову, дазваляюць назіраць дынаміку моўных змен і з'яўляюцца надзвычай багатай крыніцай інфармацыі не толькі для мовазнаўцаў, але і для гісторыкаў, этнографаў, сацыёлагаў, культуролагаў. Польскамоўныя надпісы на каталіцкіх могілках Гродзеншчыны вывучалі: Ядвіга Казлоўская-Дода — у ваколіцах Воранава [62], Ганна Лукуць — у Сапоцкіне [38], Катажына Канчэўска — у мясцовасцях Квасоўка, Індура, Вярэйкі, Рэпля, Лунна, Воўпа, Рось [22; 26].

2.6. Гаворкі канкрэтных субрэгіёнаў на падставе палявых даследаванняў.

2.6.1. Тэарэтычныя падставы вывучэння гаворак субрэгіёнаў.

Пытанні даследавання польскіх гаворак паўночна-заходняй Гродзеншчыны на фоне паўночна-ўсходняга дыялекту польскай мовы ўздымала Ірэна Гарасімовіч [18–20].

2.6.2. Гаворкі ваколіц Воранава.

Гаворкі дадзенага субрэгіёна падрабязна апісала Ядвіга Казлоўска-Дода, якая праводзіла тут палявыя даследаванні пачынаючы з другой паловы 90-х гг. XX ст. Даследчыца прысвяціла артыкулы наступным пытанням: сітуацыя польскай мовы ў Воранаўскім раёне [34], граматычныя асаблівасці спражэння дзеясловаў у гаворцы выбраных вёсак [63], моўнае адлюстраванне сацыяльнага падзелу ў субрэгіёне [33], беларускія элементы ў марфалогіі польскіх мясцовых гаворак [57], катэгорыя граматычнага роду ў польскіх мясцовых гаворках [32], выяўленне катэгорыі адушаўлёнасці / неадушаўлёнасці ў польскіх мясцовых гаворках [58], польская мова ваколіц Доцішак [31], абраныя дзеяслоўныя формы ў мясцовых польскіх гаворках у параўнанні з беларускімі гаворкамі субрэгіёна [30; 59].

2.6.3. Гаворкі ваколіц Сапоцкіна.

Вынікі даследаванняў у вёсках Асочнікі, Нямнова, Сяліванаўцы, Сонічы, Васілевічы прадставіла Рэгіна Савіцка [46]. Польскія гаворкі Сапоцкіна апісала ў неапублікаванай дысертацыі Ганна Лукуць [39].

2.7. Гаворкі ваколіц Гродна.

Палявыя даследаванні на паўднёвым заходзе ад Гродна праводзіць Катажына Канчэўска. На падставе гістарычных крыніц даследчыца вылучыла тры асноўныя групы былых шляхецкіх ваколіц, якія да гэтай пары захаваліся каля Гродна, і праводзіць рэгулярныя даследаванні з мэтай выяўлення стану захавання польскіх гаворак у гэтых супольнасцях і ўкладання слоўніка шляхецкага сацыялекту. Артыкулы, падрыхтаваныя на ўжо апрацаваным матэрыяле, знаходзяцца ў друку. Даследчыца вывучае таксама ўплыў польскай мовы на лексіку беларускіх гродзенскіх гаворак [28].

## Заключэнне

Належыць звярнуць увагу на тое, што, нягледзячы на вялікую, здавалася б, колькасць назапашанага і прааналізаванага матэрыялу, да гэтай пары даследчыкі польскіх гаворак на тэрыторыі Гродзеншчыны не апрацавалі сумесных праграм і метадалогіі даследаванняў. Дагэтуль не супастаўлены дадзеныя розных даследчыкаў, не распрацавана сетка населеных пунктаў для палявых даследаванняў, аналіз вынікаў якіх дапамог бы акрэсліць цэласную моўную карціну рэгіёна і падрабязна апісаць рэгіялекты. Мэтазгодным, на нашу думку, было б апрацаванне метадалагічных парад накшталт прапанаваных Эльжбетай Смулковай для вывучэння гаворак Браслаўшчыны [50] і правядзення палявых даследаванняў на памежных тэрыторыях (супольна з Ганнай Энгелькінг) [51], але з улікам спецыфікі Гродзеншчыны. Прадстаўленая ў гэтым артыкуле спроба падвесці вынікі праведзенай у апошняе дваццаціголдзе работы вызначыла асноўныя накірункі далейшай працы і акрэсліла «белыя плямы» на дыялектнай карце Гродзеншчыны, якіх усё яшчэ, на жаль, застаецца многа.

## Літаратура


1. Barszczewska, N. Dialektologia białoruska / N. Barszczewska, M. Jankowiak. — Warszawa, 2012.
2. Bednarczuk, L. Językowy obraz Wielkiego Księstwa Litewskiego / L. Bednarczuk. — Kraków, 2010.
3. Dubisz, S. Kontrastowa metoda opisu polonocentrycznych wspólnot komunikatywnych poza granicami kraju / S. Dubisz // Język polski poza granicami kraju / pod red. S. Dubisza. — Opole, 1997. — S. 324–378.
4. Engelking, A. Białoruska wieża Babel, czyli mityczne uzasadnienie tożsamości religijnej na pograniczu wyznaniowym. Wersja kołchoźników z Grodzieńszczyzny / A. Engelking // Konstrukcje i destrukcje tożsamości / pod red. E. Golachowskiej, A. Zielińskiej. — T. 1. Wokół religii i jej języka. — 2011. — S. 147–164.
5. Engelking, A. Nacje, to znaczy grupy religijne. O wynikach etnograficznych badań terenowych na Grodzieńszczyźnie / A. Engelking // Kultura i Społeczeństwo. — 1996. — T. 1. — S. 109–139.

6. Engelking, A. Tożsamość «tutejsza» na wielojęzycznym pograniczu. Spostrzeżenia na przykładzie parafii nackiej / A. Engelking // Język a tożsamość na pograniczu kultur / pod red. E. Smułkowej, A. Engelking. — Białystok, 2000. — S. 17–22.
7. Golachowska, E. Elementy białoruskiej gwary z terenu Grodzieńszczyzny w powieści Elizy Orzeszkowej «Dziurdziowie» / E. Golachowska // Twórczość Elizy Orzeszkowej / pod red. K. Stępnika. — Lublin, 2001. — S. 87–92.
8. Golachowska, E. Formy grzecznościowe w mowie szlachty podlaskiej i grodzieńskiej. Zarys problematyki / E. Golachowska // Acta Baltico-Slavica. — T. 31. — Warszawa, 2007. — S. 83–92.
9. Golachowska, E. Język katechezy a tożsamość narodowa katolików na Grodzieńszczyźnie / E. Golachowska // Tożsamość na styku kultur 2 / pod red. I. Masoit, H. Sokołowskiej. — Wilno, 2011. — S. 228–236.
10. Golachowska, E. Język modlitwy na dzisiejszej Grodzieńszczyźnie / E. Golachowska // Językowe i kulturowe dziedzictwo Wielkiego Księstwa Litewskiego / pod red. J. Mędelskiej, Z. Sawaniewskiej-Mochowej. — Warszawa, 2010. — S. 222–230.
11. Golachowska, E. Po polsku czy po białorusku? Narodowościowe i językowe wybory młodego pokolenia katolików na Grodzieńszczyźnie / E. Golachowska // Konstrukcje i destrukcje tożsamości / pod red. E. Golachowskiej, A. Zielińskiej. — Warszawa, 2011. — T. 1: Wokół religii i jej języka. — S. 105–111.
12. Golachowska, E. Socjolingwistyczne problemy opisu współczesnej polszczyzny na Grodzieńszczyźnie / E. Golachowska // Dziedzictwo kulturowe regionu pogranicza III / pod red. E. Skorupskiej-Raczyńskiej, J. Rutkowskiej. — Gorzów Wielkopolski, 2010. — S. 59–66.
13. Grek-Pabisowa, I. Badania współczesnej polszczyzny kresowej w Instytucie Slawistyki PAN / I. Grek-Pabisowa, M. Ostrówka // Język Polski Dawnych Kresów Wschodnich. — Warszawa, 2012. — T. 5. — S. 83–91.
14. Grek-Pabisowa, I. Język polski na Kresach północno-wschodnich dawniej i dziś / I. Grek-Pabisowa, I. Maryniakowa // Historia i współczesność języka polskiego na Kresach wschodnich / pod red. I. Grek-Pabisowej. — Warszawa, 1997. — S. 27–110.
15. Grek-Pabisowa, I. Przyczynek do badań współczesnej potocznej polszczyzny pisanej Polaków na Białorusi / I. Grek-Pabisowa // Studia nad Polszczyzną Kresową. — Warszawa, 2001. — T. 10. — S. 125–136.
16. Grek-Pabisowa, I. Współczesne gwary polskie na dawnych Kresach północno-wschodnich / I. Grek-Pabisowa, I. Maryniakowa, M. Ostrówka, A. Zielińska. — Warszawa, 1999.
17. Grek-Pabisowa, I. Współczesne gwary polskie na Litwie i Białorusi. Fonetyka / I. Grek-Pabisowa — Warszawa, 2002.
18. Harasimowicz, I. Atlas gwar polskich inspiracją badań gwar polskich na Grodzieńszczyźnie / I. Harasimowicz // Діалектологічні студії / відп. ред. П. Гриценко, Н. Хобзей. — Львів, 2004. — Т. 4: Школі, постаті, проблеми. — S. 252–261.
19. Harasimowicz, I. Gwary polskie północno-zachodniej Grodzieńszczyzny na tle polszczyzny północno-kresowej / I. Harasimowicz // Spotkania polsko-ukraińskie. Język-Kultura-Literatura / pod red. H. Pelcowej. — Chełm, 2006. — S. 129–139.
20. Harasimowicz, I. O potrzebie dalszych badań gwar polskich północno-zachodniej Grodzieńszczyzny / I. Harasimowicz // Rozprawy Slawistyczne UMCS 19. — Lublin, 2002. — S. 219–235.

21. Konczewska, K. «Jak Feniks z popiołu». Polszczyzna pisana lidzkich Polaków / K. Konczewska // Dialog z tradycją / pod red. R. Dźwigoł, I. Steczko. — Kraków, 2015. — T. 3. — C. 447–458.
22. Konczewska, K. Język polski inskrypcji nagrobnych na Grodzieńszczyźnie / K. Konczewska // Polono-Slavica in honorem Maria Wojtyła-Świerzowska. Krakowskie Studia Slawistyczne II / pod red. L. Bednarczuka, H. Chadurskiej, A. Mażulis-Frydel. — Kraków, 2014. — S. 127–138.
23. Konczewska, K. Polski język religijny w Grodnie i na Grodzieńszczyźnie / K. Konczewska // Annales Universitatis Paedagogicae Cracoviensis. Studia Linguistica VI. — Kraków, 2011. — C. 124–134.
24. Konczewska, K. Polszczyzna grodzieńska w mediach / K. Konczewska // Język w środowisku wiejskim / pod red.E. Rudnickiej-Firy, M. Błasiak-Tytuły. — Kraków, 2014. — T. 2. — S. 183–191.
25. Konczewska, K. Sytuacja języka polskiego na Grodzieńszczyźnie / K. Konczewska // Język Polski Dawnych Kresów Wschodnich. — Warszawa, 2012. — T. 5. — S. 133–142.
26. Konczewska, K. Uwagi o polszczyźnie inskrypcji nagrobnych na Grodzieńszczyźnie / K. Konczewska // Acta Baltico-Slavica. — 2014. — T. 38. — S. 67–88.
27. Konczewska, K. Współczesna sytuacja socjolingwistyczna na Grodzieńszczyźnie / K. Konczewska // Socjolingwistyka XXIX. — Kraków, 2015. — C. 149–169.
28. Konczewska, K. Zapożyczenia polskie w grodzieńskich gwarach białoruskich w zakresie kultury materialnej / K. Konczewska // W kręgu dawnej polszczyzny / pod red. M. Mączyńskiego, E. Horyń, E. Zmudy. — Kraków, 2016. — T. I. — S. 101–111.
29. Konczewska, K. Zróżnicowanie gwar polskich Grodzieńszczyzny. Polszczyzna «szlachty zaindurskiej» / K. Konczewska // Język Polski 3. — 2016 (у друку).
30. Kozłowska-Doda, J. Imiesłowy przysłówkowe uprzednie w polszczyźnie z okolic Dociszek na Białorusi na tle innych obszarów gwarowych / J. Kozłowska-Doda // Studia Wschodniosłowiańskie. — 2015. — T. 15. — S. 325–342.
31. Kozłowska-Doda, J. Język polski z okolic Dociszek na tle polszczyzny północno-kresowej / J. Kozłowska-Doda // Acta Baltico-Slavica. — 2013. — T. 36. — S. 383–406.
32. Kozłowska-Doda, J. Kategoria rodzaju gramatycznego w polszczyźnie mieszkańców rejonu woronowskiego na Białorusi (wybrane zagadnienia) / J. Kozłowska-Doda // Język Polski Dawnych Kresów Wschodnich / pod red. J. Riegera. — Warszawa, 2012. — T. 5. — S. 153–161.
33. Kozłowska-Doda, J. Odbicie zróżnicowania społecznego w polskiej gwarze kresowej w rejonie woronowskim na Białorusi / J. Kozłowska-Doda // Z badań nad językiem i kulturą Słowian / pod red. P. Sotirova i P. Złotkowskiego. — Lublin, 2007. — S. 39–52.
34. Kozłowska-Doda, J. O sytuacji języka polskiego w rejonie woronowskim na Białorusi / J. Kozłowska-Doda // Język Polski Dawnych Kresów Wschodnich / pod red. J. Riegera. — Warszawa, 1999. — T. 2. — S. 11–26.
35. Kozłowska-Doda, J. Polacy z okolic Naczy i Radunia o języku swoim i sąsiadów / J. Kozłowska-Doda // Język mniejszości w otoczeniu obcym / pod red. J. Riegera. — Warszawa, 2002. — S. 57–76.
36. Kurzowa, Z. Ze studiów nad polszczyzną kresową / Z. Kurzowa — Kraków, 2007.
37. Łucewicz-Napałkow, M. Wiencej po polsku, czyli o sytuacji socjolingwistycznej na północno-zachodniej Grodzieńszczyźnie / M. Łucewicz-Napałkow // Pogranicza

Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej / pod red. E. Smułkowej, A. Engelking. — Warszawa, 2007. — S. 335–345.
38. Łukuć, A. Cmentarze parafii rzymskokatolickiej Teolin na pograniczu polsko-białoruskim / A. Łukuć // Nekropolie jako znak kultury pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego / pod red. F. Czyżewskiego, A. Dudek-Szumigaj, L. Frolak. — Lublin, 2011. — S. 107–114.
39. Łukuć, A. Polszczyzna mieszkańców Sopoćkin na Białorusi / A. Łukuć // Maszynopis pracy doktorskiej napisanej pod kierunkiem Jana Mazura na UMCS w Lublinie. — Lublin, 2012.
40. Osiecka D. «Nechaj rozbiera się Pan Bóg sam», czyli o języku sacrum na Grodzieńszczyźnie / D. Osiecka // Konstrukcje i destrukcje tożsamości / pod red. E. Golachowskiej, A. Zielińskiej. — Warszawa, 2011. — T. 1: Wokół religii i jej języka. — S. 165–187.
41. Ostrowski, B. Białoruskie gwary Grodzieńszczyzny. Wybrane zagadnienia / B. Ostrowski. — Kraków, 2013.
42. Rieger, J. Jak badać współczesne słownictwo kresowe? / J. Rieger // Studia nad Polszczyzną Kresową. — Warszawa, 2004. — T. 11. — S. 23–33.
43. Rudnicka-Fira, E. Polszczyzna pisana inteligencji polskiej na Białorusi / E. Rudnicka-Fira // Język Polski Dawnych Kresów Wschodnich. — Warszawa, 1996. — T. 1: Studia i materiały. — S. 111–124.
44. Sawaniewska-Mochowa, Z. Bibliografia prac o polszczyźnie kresowej / Z. Sawaniewska-Mochowa // Studia nad Polszczyzną Kresową. — 1991. — T. 6. — S. 223–254; 1995. — T. 8. — S. 265–282.
45. Sawicka, I. System fonetyczny polszczyzny ukształtowanej na białoruskim podłożu dialektalnym / I. Sawicka // Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami / pod red. E.Smułkowej, A. Engelking. — Warszawa, 2001. — S. 154–158.
46. Sawicka, R. Polszczyzna w codziennej komunikacji na Grodzieńszczyźnie (na przykładzie wybranych wsi) / R. Sawicka // Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej / pod red. E. Smułkowej, A. Engelking. — Warszawa, 2007. — S. 348–353.
47. Smułkowa, E. Badanie pograniczy językowych — uwagi metodologiczne / E. Smułkowa // Gwary dziś / pod red. J. Sierociuka. — Poznań, 2003. — T. 2: Regionalne słowniki i atlasy gwarowe. — S. 45–56.
48. Smułkowa, E. Dwujęzyczność po białorusku: bilingwizm, dyglosja, czy coś innego? / E. Smułkowa // Język a tożsamość na pograniczu kultur / pod red. E. Smułkowej, A. Engelking. — Białystok, 2000. — S. 90–100.
49. Smułkowa, E. Glosa do teorii badań pograniczy językowych / E. Smułkowa // Z przeszłości i teraźniejszości języka polskiego / pod red. J. Kamper-Warejko, J. Kulwickiej-Kamińskiej, K. Nowakowskiej. — Toruń, 2007. — S. 165–179.
50. Smułkowa E. Uwagi o słownictwie dwujęzycznych mieszkańców Brasławszczyzny i sposobie jego prezentacji / E. Smułkowa // Brasławszczyzna. Pamięć i współczesność. — T. II: Słownictwo dwujęzycznych mieszkańców rejonu (Słownik brasławski). — Warszawa, 2009. — S. IX–XVII.
51. Smułkowa E. Uwagi o metodzie badań terenowych na pograniczach Białorusi / E. Smułkowa, A. Engelking // Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej / pod red. E. Smułkowej, A. Engelking. — Warszawa, 2007. — S. 5–14.

52. Sobecki, M. Kultura symboliczna a tożsamość: studium tożsamości kulturowej Polaków na Grodzieńszczyźnie z perspektywy edukacji międzykulturowej / M. Sobecki. — Białystok, 2007.
53. Vaičiulyte-Romančuk, O. Tikriniai vardai Gervėčių apylinkių tarmėje / O. Vaičiulyte-Romančuk. — Vilnius, 1996.
54. Zielińska, A. O łączeniu metod socjolingwistycznych i dialektologicznch w badaniach języka polskiego na Litwie i Białorusi / A. Zielińska // Z Polskich Studiów Slawistycznych. — Warszawa, 2002. —T. 10: Językoznawstwo. — S. 281–289.
55. Zielińska, A. O polszczyźnie szlachty grodzieńskiej / A. Zielińska // Polszczyzna za granicą jako język mniejszości i języki mniejszościowe w Polsce / pod red. E. Dzięgiel. — Warszawa, 2009. — T. 1. — S. 55–70.
56. Веренич, В. Л. Состояние и перспективы исследования «польщизны кресовой» / В. Л. Веренич // Польские говоры в СССР. — Минск, 1973. — Ч. 1. — С. 183–212.
57. Казлоўская-Дода, Я. Беларускія элементы ў марфалогіі польскай гаворкі ў Воранаўскім раёне / Я. Казлоўская-Дода // Беларуская лінгвістыка. — 2008. — Вып. 61. — С. 30–38.
58. Казлоўская-Дода, Я. Выяўленне катэгорыі адушаўлёнасці/неадушаўлёнасці ў польскай мове жыхароў Воранаўшчыны / Я. Казлоўская-Дода // Супольнасць традыцыі — садружнасць у будучыні. Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: зборнік навук. артык. / пад рэд. І. Э. Багдановіч, С. М. Запрудскага. — Мінск, 2012. — С. 173–180.
59. Казлоўская-Дода, Я. Дзеяслоўныя формы (дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі) у польскай і беларускай гаворках на Воранаўшчыне / Я. Казлоўская-Дода // Польска-беларускае супрацоўніцтва ў культуры, мове і літаратуры: зб. матэр. міжнар. нав. канф. (26 верасня 2013 г.) / пад рэд. У. А. Сенькаўца. — Брэст, 2014. — С. 54–64.
60. Казлоўская-Дода, Я. Лексіка польскіх гаворак у Беларусі як прадмет дыялекталагічнага даследавання / Я. Казлоўская-Дода // Мовазнаўства: матэрыялы IV Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін» / пад рэд. С. Запрудскага і Г. Цыхуна. — Мінск, 2010. — С. 78–84.
61. Казлоўская-Дода, Я. Мова і звычкі жыхароў былых шляхецкіх аколіц і сялянскіх вёсак Воранаўшчыны (узаемныя ўяўленні) / Я. Казлоўская-Дода // Acta Polonoruthenica. — Мінск, 2010. — С. 137–148.
62. Казлоўская-Дода, Я. Польскамоўныя асаблівасці надмагільных надпісаў беларуска-літоўскага сумежжа / Я. Казлоўская-Дода // Весці Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей. — 1997. — Т. 2. — С. 34–36.
63. Казлоўская-Дода, Я. Спражэнне дзеясловаў у польскай гаворцы некалькіх вёсак Воранаўскага раёна / Я. Казлоўская-Дода // Acta Albaruthenica 5. — 2005. — С. 212–220.
64. Чекман, В. Н. К социолингвистической характеристике польских говоров белорусско-литовского пограничья / В. Н. Чекман // Studia nad Polszczyzną Kresową. — Warszawa, 1982. — Т. 1. — С. 125–128.

**Marcin Kojder** *(Lublin, Polska)*

# NOMINACJA KOBIET NA POGRANICZU POLSKO-BIAŁORUSKIM W XVIII WIEKU (na materiałach metrykalnych parafii w Horodyszczu)

## Wstęp

Antroponimy żeńskie były na ogół wtórne w stosunku do nazw męskich. Nazwy używane do identyfikacji kobiet tworzone od nazw mężów lub ojców za pomocą odpowiednich przyrostków żeńskości [1, s. 73] lub poprzez określenia apelatywno–proprialne (analityczne) [3, s. 176; 6]. Celem artykułu jest wstępne omówienie nominacji kobiet w I połowie XVIII wieku na terenie pogranicza polsko-ruskiego (białoruskiego) na podstawie zapisów ksiąg metrykalnych parafii unickiej w Horodyszczu. Przedmiotem analizy są feminatywne nazwy własne osobowe występujące obok imienia używane w badanych archiwaliach w celu nominacji (identyfikacji) kobiet, czyli ten element zestawienia antroponimicznego, któremu można przypisać funkcję nazwiska.

Horodyszcze — osiedle, wcześniej miasteczko i dwór, leżące w powiecie włodawskim, cztery mile od Włodawy. W XVI wieku wieś była własnością książąt Połubińskich, którzy między 1558 a 1569 rokiem wystarali się u Zygmunta Augusta o przywilej lokacyjny. Jednak miasteczko nie mogło rozwinąć się gospodarczo i demograficznie, m.in. z powodu położenia w bagnistej okolicy, w związku z czym w 1859 r. senat królestwa cofnął przywilej jako niewykonany i niepotwierdzony. Pod koniec XVI wieku Horodyszcze należało do Koniecpolskich i stanowiło część dóbr Rososz. Od 1625 roku należało do Firlejów, następnie do Mogilnickich. W Horodyszczu funkcjonowała cerkiew kaplicą w Połubiczach, ufundowana w 1550 roku przez Wasyla Połubińskiego. W 1827 liczyło 107 domów i 603 miszkańców, a w 1861 — 100 domów i 765 mieszkańców [8, s. 142].

## Charakterystyka źródeł

Materiał badawczy wyescerpowany został z akt parafii greckokatolickiej (unickiej) w Horodyszczu z lat 1700–1743, składających się dwóch części: księgi chrztów (1700–1743) oraz księgi małżeństw (1716–1729), księga zgonów nie zachowała się. Księga w formie dudki oraz luzów, zawiera zapisy w języku ruskim, polskim i łacińskim. Zespół archiwalny przechowywany jest w Wojewódzkim Archiwum Państwowym w Lublinie.

Typ dokumentów źródłowych determinuje dostępny materiał nazewniczy, czyli feminatywne nazwy własne osobowe. Księgi metrykalne przynoszą znacznie więcej antroponimów żeńskich, niż księgi świeckie. Źródła świeckie, np. księgi

sądowe, zawierają w ogromnej większości antroponimy męskie — to mężczyźni reprezentowali swoje rodziny przed sądem, występowali jako strony w transakcjach, rozporządzali majątkiem rodziny w testamentach. Kobiety osobiście stawały do ksiąg w przypadku spraw kryminalnych albo skarg lub wówczas, kiedy nie mogły być reprezentowane przez mężczyzn (ojców lub mężów) — wdowy i sieroty.

W tym kontekście księgi metrykalne są znacznie bardziej sfeminizowane — przy przyjęciu sakramentów wymaga była obecności obojga rodziców, rodziców chrzestnych czy świadków a więc przedstawicieli obydwu płci (w większości przypadków). W akcie chrztu odnajdujemy imię chrzczonego i zarazem bierzmowanego dziecka (dziewczynki), deskrypcję oznaczająca rodziców (najczęściej imię i nazwisko ojca oraz imię matki) a także imiona i nazwiska rodziców chrzestnych (często dwie pary a nawet trzy — w przypadku dzieci szlacheckich lub dzieci księży) a także babki chrzestnej. W aktach ślubów są to imiona i nazwiska osób zawierających małżeństwo oraz imiona i nazwiska świadków (często czterech lub sześciu). We wszystkich aktach określenia kobiet występują na równi z mężczyznami.

W I połowie XVIII wieku te deskrypcje antroponimiczne używane na określenie kobiet wykazują jeszcze znaczną różnorodność, chociaż znaczna większość z nich posiada ten komponent, który w zestawieniu z imieniem można zakwalifikować jako nazwisko. Spotykane są jeszcze formacje beznazwiskowe składające się z imienia i różnych określeń o charakterze apelatywnym lub apelatywno-proprialnym. Wśród tego typu zestawień odnajdujemy:

- imiona chrzczonych dzieci (dziewczynek): *Цорка Анна, цорка Агафия, дєвицѹ наимѧ Марїѧ, dewicu naimia Anna, corku Solomiiu, Córkę naymię Jagna*[1]*;*
- imię dziecka z określeniem odmiejscowym: *Z Dubicy Corka Maria, З Городишча Цорку Агафию, З Полюбичъ Цорка Фєωдора*;
- imię z określeniem odmiejscowym: *Paraskewia z Horodiszcza, Katarzyna wdowa z Polubicz*;
- imię z określeniem zawodowym: *Anna Gospodyni Jmosc Pana Starosty Tłumackiego, Anna Gospodyni Dworu Horodyskiego*;
- imię z analitycznym patronimikum: *Anastazia Corka Zaleskiego, Agnieszka Tomasza Zdolskoho Corka, Anna Kowalowszczanka Petra mrysiuka Małoznka, Theodora Corka Stecka Draguna*;
- imię z analitycznym określeniem odmężowskim: *Мария Никиты Дяконика Жєна, Евка Павла Шубика Жена, Ewa Pawła Szubika zona, Ewa Josifa Brodika Małzonka, Helena Siemiona Szaury abo Melnika Horodowskaho Małzonka*;
- zestawieni nie zawierające imienia żeńskiego opierające się wyłącznie na antroponimie męskim: *Małzonka Emeliana Szostaczyka*;

---

[1] Materiał ilustrujący podaję w wyborze z zachowaniem pisowni oryginału.

Feminatywne nazwy osobowe chodzą też w skład deskrypcji antroponimicznych używanych na określenie małżeństw. Deskrypcje te odróżniają się w zależności od rodzaju aktu:

- deskrypcje zawierające nazwisko męża i imię żony (występujące w aktach chrztów): *Z oyca Jakima Dytki Matky Akuliny, Ociec Kądrat Szubarczik Matka Tatiana, Ѿтєцъ Анрєи Шавличъ Ковачъ Матка Евфімия, Ѿтцъ Ѿного Грицъ Шудєнко Матка Параскєвия, Ѡтцъ Его Сємєнъ Гордичукъ Матка Параскєвя, З Ѿтца Демяна Максимюка Матка Еодокя, ωтцъ Иωанъ Стандритъ Мати Мария, ωтц Ѳεωдор огородник Матка анна, Ѿтцъ Трофим Рудчукъ Матка Параскєвия, Олεξандра Соколовского родѣла вовдотиѧ, ωтцъ Jan Korol matka оулѧна, otcu ieho Mikita Wolczyk Matka Owdokia z Lyniowa szlubnyie, Roditele Toyei Szlubnyie Sobie. Otec Josif Woyt Brodiuk, Mater Ewa z Mironiukow, Roditele Jeia Hrehory Gauronski alias Zwiruk, Mater Oudotia z Zaliszczey Szlubnyie, зүццивих родитєлєй йωсифа соколовского матєр вовдотиѧ*.

Pewna liczba deskrypcji zawiera dwa nazwiska, tj. nazwisko męskie (mężą) i nazwisko żeńskie (żony) w formie patronimicznej, np.: *Rodila ieho szlubny: otec Petr Mrysik, matka Ana Kowalowszczanka, Rodzili ieho szlubnyie Andrei Iwanowicz Matka Kateryna Tomczanka, Otec Jeho Jacenty Bathosz Matka Xenia Gołczanka, Roditele Jeho Joan Badzydzik. Mater Natalia Panasiuczanka Szlubny, Otec Toiey Jacenty Bartkowski; Mater Oxenia Kliminka, Pater Ignatus Chmelecki Mater Grudzianka, Otec Jeho Joan Kowal Simonowicz; Mater Ahafia Seredianka Szlubnyie Małząkowie*.

Nazwiska żeńskie były wtórne w stosunku do nazw męskich i tworzone od nazw mężów lub ojców za pomocą odpowiednich przyrostków żeńskości [1, s. 73]. W historycznym nazewnictwie kobiet należy wyodrębnić trzy rodzaje antroponimów żeńskich: a) imiona chrzestne, b) żeńskie formy tworzone od imienia ojca lub męża, c) formacje od nazwisk męskich.

Antroponimy żeńskie dzieliły się na dwie generalne grupy: marytonimiczne (tworzone za pomocą sufiksów *-owa, -icha/-ycha, -ina/-yna, -ka, -a*) oraz patronimiczne (formanty *-anka, -owna, -owka, -enka*) [4, s. 267].

## Nazwiska na *-ska/-cka*

Przyrostek *-ska/-cka* w badanym okresie używany był już nie tylko do identyfikacji kobiet zamężnych, ale także panien. Przestawały już wówczas funkcjonować bariery stanowe [5, s. 97–98] i nosicielkami nazwisk na *-ska/-cka* były nie tylko szlachcianki, ale także kobiety niższych stanów [4, s. 150]. Dlatego przegląd form żeńskich zaczniemy od tych właśnie form, choć nie one były najliczniejsze. Zanotowano 25 przypadków użycia tych form:

*Bilecka, Chmelecka, Czarnecka, Czarniecka, Czernecka, Dolska, Dybska, Grodzka, Gromacka, Grzymacka, Iwanicka, Jezerska, Korecka, Kuroska, Kusz-*

*kowska, Radcowska, Rawicka, Rudnicka, Sokołowska, Tchórzewska, Ulatowska, Wałska, Zaleska, Zdolska, Żuromska,*

Nazwiska na *-ska/-cka* , mogące pełnić zarówno funkcję andronimów jak i patronimów, powstawały od odpowiednich formacji męskich (nazwisk ojców lub mężów), najczęściej odmiejscowych, drogą konwersji [5, s. 97–98]:

*Bilecka< Bilecki, Chmelecka < Chmelecki, Czarnecka < Czarnecki, Dolska < Dolski, Dybska < Dybski, Grodzka < Grodzki, Gromadka < Gromacki, Grzymacka < Grzymacki, Iwonicka < Iwanicki, Jezerska < Jezerski, Korecka < Korecki, Kuszkowska < Kuszkowska, Radcowska < Radcowski, Rawicka < Rawicki, Rudnicka < Rudnicki, Sokołowska < Sokołowski, Tchórzowska < Tchórzewski, Ulatowska< Ulatowski, Wałska < Wałski, Zaleska < Zaleski, Zdolska < Zdolski, Żuromska < Żuromski*.

## Nazwiska andronimiczne (żon)

Pozostałe formy andronimiczne, powstawały drogą derywacji słowotwórczej, za pomocą typowych formantów.

Najliczniejszą grupę form odmężowskich tworzy sufiks *-owa* (80 form):

*Bojarynowa, Chałupczykowa, Chilimączykowa, Chwedkowa, Czerneczynowa, Daliłowiczowa, Danilosiukowa, Demkowa, Draganowa, Dublakowa, Dudakowa, Dudikowa, Filiwaniukowa, Gabryelewiczowa, Gadałkowa, Halkewiczowa, Hłuszykowa, Humiennikowa, Hupczykowa, Iwaszkowa, Jakimowa, Jakubikowa, Janowa, Juskowa, Kabniewiczowa, Kędrasiowa, Kirykowa, Kobysiowa, Kolesnikowa, Konachowa, Korolowa, Kosiukowa, Kosiuszkowa, Krawczukowa, Kurusowa, Makarowa, Maksymicha, Markowa, Mazurykowa, Michałowa, Michałowiczowa, Osipowa, Osipukowa, Ostapowa, Osypikowa, Pasenczukowa, Paskowa, Pawłowa, Petrowa, Petruczynikowa, Pochwowa, Podakowa, Romanowiczowa, Roznowiczowa, Rudczukowa, Samczukowa, Samulewiczowa, Sebesukowa, Simonowiczowa, Stabniewiczowa, Stefanikowa, Stefaniukowa, Struczykowa, Suchowerchowa, Szczykowa, Szepetiukowa, Szokołowiczowa, Szostakowa, Szubikowa, Szybikowa, Walukowa, Waszkowa, Weliukowa, Welukowa, Wielukowa, Wodonosikowa, Wojtowa, Wołczkowa, Zwirukowa, Zwrukowa*.

Formant *-owa* wywodzący się z rzeczowników dzierżawczych, informował o przynależności jednej osoby do drugiej i oznaczał relację «jest żoną» [5, s. 134]:

Nazwiska na *-owa* tworzone były od antroponimów męskich:

- imion męskich (mężów): *Chwedkowa, Demkowa, Iwaszkowa, Jakimowa, Jakubikowa, Janowa, Juskowa, Kirykowa, Konachowa, Makarowa, Markowa, Michałowa, Osipowa, Ostapowa, Paskowa , Pawłowa, Petrowa, Waszkowa*;
- od nazwisk patronimicznych: *Chałupczykowa, Chilimączykowa, Czerneczynowa, Daliłowiczowa, Danilosiukowa, Filiwaniukowa, Gabryelewiczowa, Halkewiczowa, Hłuszykowa, Hupczykowa, Kabniewiczowa, Kędrasiowa, Kobysiowa, Kosiukowa, Kosiuszkowa, Krawczukowa, Kurusowa,*

*Michałowiczowa, Osipukowa, Osypikowa, Pasenczukowa, Petruczynikowa, Romanowiczowa, Roznowiczowa, Rudczukowa, Samczukowa, Samulewiczowa, Sebesukowa, Simonowiczowa, Stabniewiczowa, Stefanikowa, Stefaniukowa, Szepetiukowa, Szokołowiczowa, Szostakowa, Walukowa, Weliukowa, Welukowa, Wielukowa*;

- od męskich nazwisk odapelatywnych: *Draganowa, Dublakowa, Dudakowa, Dudikowa, Gadałkowa, Podakowa, Pochwowa, Suchowerchowa, Struczykowa, Szczykowa, Szubikowa, Szybikowa, Wołczkowa, Zwirukowa*;
- od nazw zawodów*: Bojarynowa, Humiennikowa, Kolesnikowa, Korolowa, Wodonosikowa, Wojtowa*;
- od etnonimów: *Mazurykowa*.

Drugi pod względem produktywności formant tworzący nazwiska odmężowskie **-***icha* (52 formy): *Daszycha, Demczycha, Demianicha, Hawrylicha, Hrihoricha, Hupaczycha, Iwanicha, Kobiszczycha, Kobysiacha, Kondraticha, Kosyczycha, Kowalicha, Kowalycha, Kraszczycha, Kraticha, Kunasicha, Lautyrycha, Lebeticha, Łusicha, Macerycha, Makarycha, Maksymicha, Marczycha, Martynicha, Mikiticha, Nestorycha, Niczyporycha, Oleksicha, Osipicha, Pawlicha, Pekutycha, Petrchucicha, Petrycha, Pilipicha, Podolanczycha, Podoliaczycha, Pysczycha, Rodaczycha, Rosolicha, Rudaicha, Sautyrycha, Sawczycha, Sawtyrycha, Semenicha, Słoborodicha, Słodownicha, Swaczycha, Szołkunicha, Tiliwonicha, Tkaczycha, Tomaszycha, Wodonosicha, Zacharycha.*

Sufiks *-icha/-ycha* postrzegany jest przez badaczy jako wschodniosłowański i zarazem chłopski [2, s. 133]. W naszym materiale, wśród podstaw nazwisk na *-icha/-ycha* identyfikujemy imiona męskie wschodniosłowiańskiej proweniencji: *Daszycha, Demczycha, Demianicha, Hawrylicha, Hrihoricha, Iwanicha, Kondraticha, Kraticha, Kunasicha, Lautyrycha, Makarycha, Maksymicha, Marczycha, Martynicha, Mikiticha, Nestorycha, Niczyporycha, Oleksicha, Osipicha, Pawlicha, Sawczycha, Semenicha, Tomaszycha, Zacharycha, Petrycha, Pilipicha*.

Pozostałe nazwiska utworzone za pomocą formantu *-icha/-ycha*:

- od nazwisk odapelatywnych: *Hupaczycha, Kobiszczycha, Kobysiacha, Kosyczycha, Kraszczycha, Lebeticha, Łusicha, Macerycha, Petrchucicha, Pysczycha, Rodaczycha, Rosolicha, Rudaicha, Sautyrycha, Sawtyrycha, Słoborodicha*;
- od nazw zawodów: *Kowalicha, Kowalycha, Pekutycha, Słodownicha, Swaczycha, Szołkunicha, Tiliwonicha, Tkaczycha, Wodonosicha*;
- od nazw etnicznych: *Podolanczycha, Podoliaczycha*.

Kolejny sufiks **-***ka* utworzył 29 form: *Bogdanka, Bożyczka, Brodawka, Bubenczyczka, Chiloniuczka, Gronka, Humieniczka, Kosiuczka, Krycuniczka, Kwasniejka, Marczuczka, Marczyczka, Mironinka, Młynarka, Okrzczuczka, Ontoniarka, Osipiczka, Pektotka, Pisarka, Romanowiczka, Słodowniczka, Sołodowniczka, Szczynka, Szubiczka, Szubyczka, Trylinka, Wołoszka, Zwiruczka, Zwirynka,*

W tej grupie nazwiska żeńskie zostały tworzone od nazwisk męskich, np.:

- od patronimików męskich: *Bożyczka, Brodawka, Bubenczyczka, Chiloniuczka, Gronka, Kosiuczka, Krycuniczka, Kwasniejka, Marczuczka, Marczyczka, Mironinka, Okrzczuczka, Ontoniarka, Osipiczka, Romanowiczka, Szczynka, Szubiczka, Szubyczka, Trylinka, Zwiruczka, Zwirynka*;
- od imienia męskiego: *Bogdanka*;
- od nazw zawodów: *Humieniczka, Młynarka, Pektotka, Pisarka, Słodowniczka, Sołodowniczka*;
- od nazwy etnicznej: *Wołoszka*.

Najniższą frekwencją charakteryzował się sufiks *-ina/-yna*, który utworzył 2 formy: *Buksina, Koniczyna*.

Badany materiał przynosi także sporadyczne użycia nazwisk żeńskich w formie równej nazwiskom męskim. Ten nowy typ w nazewnictwie kobiet ilustrują nieliczne jeszcze przykłady: *Anna Słodownik, kateryna Sołoducha, Dorofei Hłuszczyk*. Obecność nazw kobiet równych nazwom męskim jest bardzo ciekawym zagadnieniem. Jest to początkowy etap w rozwoju współczesnego nazewnictwa kobiet, tj. określaniu za pomocą form bez formantów oznaczających żeńskość. Taki typ nazw żeńskich znany był na Podlasiu już w XVI wieku [3, s. 135; 4, s. 271; 6, s. 123].

## Żeńskie nazwiska patronimiczne (córek)

Zgromadzone materiały poświadczają również żeńskie formy patronimiczne. Oprócz omówionego wcześniej formantu *-ski*, żeńskie nazwiska patronimiczne tworzone były za pomocą typowych dla tych form sufiksów *-anka*, *-owna* (tylko jedno nazwisko) [2, s. 137; 4, s. 270].

W badanym materiale znaczną przewagę ma ten pierwszy:

*-anka* (45 form): *Aleksianka, Bojarczanka, Borowiczanka, Brodianka, Czarneczczanka, Czeszejczanka, Doroszanka, Dubrowianka, Dzisianka, Firanka, Hłuszczanka, Hołowczanka, Jurczanka, Kamienszczanka, Karpianka, Kleczanka, Kobysianka, Konasianka, Konaszanka, Korpianka, Kowalszczanka, Kraszanka, Krenianka, Kwaśnianka, Łaszczanka, Łukaszanka, Markiewianka, Onoszczanka, Pekotianka, Perchucianka, Petrucanka, Pisarzuczanka, Podolanka, Polaczanka, Potapianka, Seredianka, Sołodowniczanka, Szawranka, Szczodranka, Taraszanka, Waszczanka, Wołczanka, Zoromszczanka, Zwiranka, Zwiruczanka*

Formant *-anka* formanty charakteryzowały łączył z całą gamą nazwisk męskich, bez większych ograniczeń morfologicznych.

Wśród podstaw nazwisk na *-anka* odnajdujemy

- imiona męskie: *Aleksianka, Doroszanka, Jurczanka, Karpianka, Konasianka, Konaszanka, Łukaszanka, Onoszczanka, Potapianka, Taraszanka, Waszczanka*;
- męskie nazwiska patronimiczne: *Czarneczczanka, Czeszejczanka, Dubrowianka, Hołowczanka, Kamienszczanka, Kobysianka, Kraszanka, Krenianka,*

*Kwaśnianka, Łaszczanka, Markiewianka, Petrucanka, Pisarzuczanka, Zoromszczanka, Zwiruczanka*;
- męskie nazwiska odapelatywne: *Borowiczanka, Brodianka, Dzisianka, Firanka, Hłuszczanka, Kleczanka, Korpianka, Perchucianka, Seredianka, Szawranka, Szczodranka, Wołczanka, Zwiranka*;
- męskie nazwy zawodów: *Bojarczanka, Kowalszczanka, Pekotianka, Sołodowniczanka*;
- nazwy etniczne: *Podolanka, Polaczanka*.

Co ciekawe, sufiks -*owna* zanotowano wyłącznie raz: *Sokołowiczowna*.

## Wnioski

Antroponimy żeńskie były na ogół wtórne w stosunku do nazw męskich. Nazwy używane do identyfikacji kobiet tworzone od nazw mężów lub ojców za pomocą odpowiednich przyrostków żeńskości. W historycznym nazewnictwie kobiet należy wyodrębnić trzy rodzaje antroponimów żeńskich: a) imiona chrzestne, b) żeńskie formy tworzone od imienia ojca lub męża, c) formacje od nazwisk męskich.

Nazwiska żeńskie w aktach parafii unickiej w Horodyszczu tworzy 5 formantów. Nazwiska żon tworzone są za pomocą sufiksów *-owa*, *-icha*/*-ycha*, *-ina/-yna*, *-ka*, zaś nazwiska panien sufiksy *-anka*, *-owna*. Formant *-ska*/*-cka* tworzył zarówno formy andronimiczne, jak i patronimiczne, ponadto nosicielkami tego typu nazwisk były przedstawicielki wszystkich stanów. Było to spowodowane postępującą strukturalizacją męskiego przyrostka *-ski/-cki* w funkcji nazwiskotwórczej, w wyniku swoistej «ucieczki» nosicieli nazwisk odapelatywnych i patronimicznych do uznawanych za «lepsze» nazwisk na *-ski* [5, s. 97–98; 7, s. 154]. We wszystkich powyższych grupach podstawami są istniejące już nazwiska męskie (mężów i ojców).

Ważnym zagadnieniem jest obecność w badanym okresie pierwszych użyć nazwisk żeńskich w formie równej nazwiskom męskim, co jest etapem początkowym w rozwoju współczesnego nazewnictwa kobiet.

## Bibliografia

1. Borek, H. Nazwiska mieszkańców Bytomia od końca XVI wieku do roku 1740 / H. Borek, U. Szumska. — Warszawa, 1976.
2. Dacewicz, L. Nazewnictwo mężów i żon w XVIII w. na terenie powiatu mielnickiego / L. Dacewicz // Rozprawy Slawistyczne 7: Systemy onomastyczne w słowiańskich gwarach mieszanych i przejściowych / pod red. S. Warchoła. — Lublin, 1993.
3. Dacewicz, L. Nazewnictwo kobiet w dawnym powiecie mielnickim (XVI–XVII w.) / L. Dacewicz. — Białystok, 1994.
4. Dacewicz, L. Historia nazwisk na kresach północno-wschodnich Rzeczypospolitej (XVI–XVIII wiek) / L. Dacewicz. — Białystok, 2014.
5. Kaleta, Z. Nazwisko w kulturze polskiej / Z. Kaleta. — Warszawa, 1998.

6. Kojder, M. Sposoby nominacji kobiet w zapisach ksiąg sądowych z terenu starostwa hrubieszowskiego w XVII i XVIII wieku / M. Kojder // Studia Wschodniosłowiańskie 9. — Białystok, 2009. — S. 117–128.
7. Kojder, M. Uwagi o nazewnictwie osobowym mieszkańców Hrubieszowa i okolicznych miast w XVII i XVIII wieku / M. Kojder // Miasto w perspektywie onomastyki i historii / pod red. I. Sarnowskiej-Giefing i M. Graf. — Poznań, 2010. — S. 151–162.
8. Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. — T. 1 / red. F. Sulimierski, B. Chlebowski, W. Walewski. — Warszawa, 1880.

**Ганна Кулеш** *(Мінск, Беларусь)*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АДМЕТНАСЦІ МОВЫ ЗАКАНАДАЎЧЫХ ТЭКСТАЎ

Камунікатыўна-прагматычныя характарыстыкі мовы заканадаўства (дакладнасць, афіцыйнасць, лаканічнасць, высокая ступень стандартызацыі, стылістычная аднароднасць, эмацыянальная нейтральнасць і да т. п.) з’яўляюцца ўніверсальнымі для тэкстаў на любой мове. Што ж да лінгвістычных характарыстык, то, калі прымаць пад увагу, што мова закона — гэта функцыянальны сегмент літаратурнай мовы, пераважная іх большасць у розных нацыянальных мовах (нават блізкароднасных) будуць не супадаць або неаднолькава праяўляцца.

Напрыклад, сярод адметных граматычных асаблівасцей заканадаўчага падстылю вылучаюць шырокае выкарыстанне назоўнікаў са значэннем дзейнай асобы. Гэтая асаблівасць актуальная для тэкстаў законаў у любой мове, а вось рэалізацыя гэтай асаблівасці будзе неаднолькавай. У рускай юрыдычнай лексіцы, напрыклад, асабліва пашыранымі з’яўляюцца ўтварэнні са значэннем дзейнай асобы з суфіксам -*тель* [3, с. 28]. У беларускай жа мове словаўтваральны тып з суфіксам -*цель* кваліфікуецца як малапрадуктыўны, пры гэтым адзначаецца, што «большасць назоўнікаў з гэтым суфіксам — запазычанні з рускай мовы» [1, с. 226]. Яшчэ адзін прыклад: мадальнасць неабходнасці ўласцівая для афіцыйных дакументаў у любой мове і лічыцца іх універсальнай рысай. Але для яе сінтаксічнага ўвасаблення ў рускай мове пашыраны безасабовыя сказы, у польскай — у большасці выпадкаў з гэтай мэтай выкарыстоўваюцца асабовыя; у рускіх тэкстах частотнасцю вызначаюцца інфінітыўныя сказы, у польскіх — яны адсутнічаюць [2, с. 16].

Асаблівасцю беларускамоўнага заканадаўства з’яўляецца яго перакладны характар: на працягу ўсяго XX ст. і ў цяперашні час беларускія законы ствараюцца па-руску, затым пэўная іх частка перакладаецца на беларускую мову. Назіранні за лінгвістычнымі асаблівасцямі перакладнога тэксту ў суаднесенасці з арыгінальным даюць магчымасць звярнуць увагу на такія з’явы, якія маглі б застацца незаўважанымі без параўнання паралельных тэкстаў. У прыватнасці, супастаўленне яскрава паказвае нацыянальныя адметнасці мовы заканадаўчых тэкстаў на граматычным узроўні.

Да спецыфічных марфалагічных асаблівасцей афіцыйна-справаводчага стылю даследчыкі рускамоўных тэкстаў залічваюць пашырэнне аддзеяслоўных назоўнікаў, з ліку якіх найбольш высокай частотнасцю вылучаюцца ўтварэнні з суфіксамі *-нн-, -енн-, -анн-*; прадуктыўнасць кароткіх формаў прыметнікаў; ужыванне пранамінатываў *данный*, *настоящий*, *соответствующий, таковой* замест нейтральных у стылістычных адносінах указальных займеннікаў *этот*, *тот*, *такой* і да т. п.; «абездзеяслоўліванне» тэксту, а пры найменшай колькасці дзеясловаў наяўнасць найбольшай колькасці формаў інфінітыва для выяўлення імператыўнасці; пашырэнне вытворных прыназоўнікаў, асабліва адыменных.

Прасочым, як названыя марфалагічныя адметнасці адлюстраваны ў перакладзеных з рускай мовы беларускамоўных заканадаўчых тэкстах.

1. У расійскіх даследаваннях **аддзеяслоўныя назоўнікі** кваліфікуюцца як базісная катэгорыя часцінамоўнай структуры мовы права. У беларускую мову гэтая мадэль трапіла ў старажытны перыяд са стараславянскай рэлігійнай літаратуры як паказчык высокага стылю выказвання, у той час як жывой мове больш уласцівыя нульсуфіксальныя аддзеяслоўныя ўтварэнні. Супастаўленне беларускамоўных тэкстаў з адпаведнымі арыгінальнымі паказала, што частотнасць у іх названых аддзеяслоўных назоўнікаў на розных часавых адрэзках не была аднолькавай. У 1920-я гг., на пачатковым этапе складвання лінгвістычных сродкаў заканадаўчага стылю, імкнуліся па магчымасці пазбегнуць пры перакладзе рускамоўных тэкстаў ужывання стылістычна маркіраваных назоўнікаў з суфіксамі *-нн-/-енн-/-анн-*, якія вызначаліся высокай ступенню абстрагаванасці. Найбольш частыя спосабы абысці такія формы — 1) іх пропуск: *до* ***вынесения*** *приговора — раней ‹…› прысуду* (КК-28, 13); 2) замена на дзеяслоў і яго формы: *право свободного* ***пользования*** *родным языком — права вольна* ***карыстацца*** *роднаю моваю* (К-27, 21).

У далейшым сітуацыя змянілася. Пачынаючы ад другой палавіны 1930-х гг. намецілася затуханне тэндэнцыі да замены аддзеяслоўных назоўнікаў і павелічэнне іх колькасці ў беларускамоўных тэкстах, што паказвае табліца 1.

**Табліца 1. Змяншэнне колькасці замен аддзеяслоўных назоўнікаў у другой палавіне 1930-х гг.**

| | *Колькасць замен у кожным тэксце* | | |
|---|---|---|---|
| | *КК* | *ГК* | *ГПК* |
| 1920-я — I пал.1930-х гг. | 74 | 67 | 57 |
| II пал.1930-х гг. | 56 | 24 | 28 |

У 1950-я гг. аддзеяслоўныя назоўнікі калькаваліся і нават транслітараваліся што можна патлумачыць як лінгвістычнымі (змена агульнага кірунку развіцця літаратурнай мовы), так і пазалінгвістычнымі фактарамі (адказнасць перакладчыкаў за парушэнне нормаў права брала верх над адказнасцю за парушэнне моўных нормаў; мова заканадаўчых тэкстаў не была аб'ектам навуковых даследаванняў):

| | | | |
|---|---|---|---|
| для устранения опасности | каб адхіліць небяспеку (КК-28, 11) | каб устараніць небяспеку (КК-40, 11) | для ўстаранення небяспекі (КК-57, 11) |
| побег с пути следования к месту поселения | уцёкі з дарогі ‹…› да месца пасяленьня (КК-28) | уцёкі з дарогі ‹…› да месца пасялення (КК-40) | пабег са шляху следавання да месца пасялення (КК-57) |
| с целью возбуждения суеверия | каб выклікаць забабоны (КК-28, 160) | каб выклікаць забабоны (КК-40, 160) | з мэтай ўзбуджэння забабонаў (КК-57, 160) |

У другой палавіне XX — пачатку XXI ст. пры перакладзе юрыдычных тэкстаў канструкцыі з імёнамі дзеяння не трансфармуюцца, а захоўваюць структуру арыгінала, назоўнікі з суфіксамі *-нн-, -енн-, -анн-* не замяняюцца на іншыя формы, не адзначаны і іх пропуск. Уніфікацыя беларускіх варыянтаў паводле стандарту зыходнага тэксту ў пэўных выпадках мела вынікам ужыванне неўласцівых для беларускай мовы формаў. Выкарыстанне транслітараваных аддзеяслоўных назоўнікаў старaславянскага паходжання або ўтвораных са старaславянскімі структурнымі элементамі, як *прадастаўленне* (предоставление), *прадстаўленне* (представление), *узбуджэнне* (возбуждение), *разгалашэнне* (разглашение), *пабуджэнне* (побуждение), не з'яўляецца сведчаннем адсутнасці ў беларускай мове адэкватных нарматыўных эквівалентаў для перадачы адпаведных паняццяў. Гэта сведчанне недастатковай лінгвістычнай кампетэнцыі некаторых стваральнікаў беларускамоўных тэкстаў або свядомага іх імкнення да транслітаравання пры перакладзе. Граматычны і лексічны патэнцыял беларускай літаратурнай мовы дазваляе пазбегнуць ужывання

такіх формаў (замест *права ўзбуджэння пытання — права ўзняць пытанне*, замест *нізкія пабуджэнні — нізкія матывы / намеры*, замест *разгалашэнне звестак — абнародаванне / распаўсюджванне звестак*).

2.Назіранні за ўжываннем **кароткіх прыметнікаў** у паралельных тэкстах 1920-х — першай палавіне 1930-х гг. паказваюць, што пры абсалютнай адсутнасці абмежаванняў на выкарыстанне поўных прыметнікаў у прэдыкатыўнай функцыі рускім іменным прыметнікам амаль паслядоўна адпавядаюць аналагічныя беларускія, хоць для беларускай мовы параўнальная рэдкасць канструкцый з кароткімі формамі прыметнікаў у выказніку абумоўлена гістарычна: *соглашения между супругами… **недействительны** и **необязательны** для третьих лиц* (КЗоБС-27, 24) — *згоды паміж супругамі… **няправадзейны** і **не абавязковы** для трэціх асоб* (КЗаШС-27, 24). У выніку немагчымасці ўтварэння кароткай формы ад некаторых прыметнікаў, а таксама з прычыны пэўных перакладчыцкіх трансфармацый у беларускіх тэкстах законаў 1920–30-х гг. колькасць ужыванняў кароткіх прыметнікаў аказалася некалькі меншай, чым у рускіх, што адлюстроўвае табліца 2:

**Табліца 2. Параўнальная колькасць кароткіх прыметнікаў у беларускіх і рускіх тэкстах законаў 1920–30-х гг.**

| | *КЗаШС-27* | *К-27* | *ППК-27* | *КК-28* | *ГК-32* |
|---|---|---|---|---|---|
| рус. | 37 | 7 | 46 | 12 | 175 |
| белар. | 35 | 5 | 45 | 11 | 169 |
| заменена рус. каротк. на белар. поўн. (%) | 5,5 % | 28,6 % | 2,2 % | 8,4 % | 3,5 % |

У 1950-я гг. намячаецца тэндэнцыя да пашырэння поўных формаў прыметнікаў. За кошт гэтага мяняюцца суадносіны колькасці кароткіх формаў у рускіх тэкстах і ў перакладзеных на беларускую мову. Для пацвярджэння параўнаем асобныя палажэнні з КК-40 і з КК-57: *асуджаны відавочна **непрыгодзен** да фізічнай працы* (КК-40, 30) — *асужаны яўна **не прыгодны** да фізічнай працы* (КК-57, 30); *суд прызнае, што жыццё гэтых асоб у данай мясцовасці **соцыяльна-небяспечна*** (КК-40, 39) — *суд прызнае пражыванне гэтых асоб у данай мясцовасці **соцыяльна-небяспечным*** (КК-57, 39). У далейшым гэтая тэндэнцыя пастутова замацоўваецца. Тыя прыметнікі, што да 1960-х гг. выкарыстоўваліся ў кароткай форме, у шмат якіх выпадках заменены на адпаведныя поўныя. Змяншэнне колькасці кароткіх формаў прыметнікаў у мове заканадаўства адлюстроўвае тэндэнцыю, характэрную для ўсёй беларускай літаратурнай мовы, у якой іх выкарыстанне «пастуова, але няўхільна звужаецца» [4, с. 122].

Поўныя прыметнікі са значэннем мадальнасці, імператыўнасці з такім жа поспехам выконваюць сваю стылістычную функцыю ў беларускамоўных тэкстах,

як і аналагічныя кароткія ў рускамоўных, паколькі мера катэгарычнасці залежыць не ад формы слова, а ад яго семантычнай структуры, ад наяўнасці ў ёй волевыяўленчага кампанента. На падставе адзначанага лагічна прыйсці да высновы, што не форма, а семантыка прыметнікаў з'яўляецца падставай для залічэння іх да стылеўтваральных сродкаў заканадаўчых тэкстаў.

3. **Указальныя займеннікі** *этот*, *тот*, *такой* і да т. п. не залічваюцца да стылеўтваральных сродкаў рускамоўных заканадаўчых тэкстаў, а кваліфікуюцца як нейтральныя ў стылістычных адносінах. Аднак менавіта ўказальныя займеннікі адыгрываюць асабліва значную ролю ў вербальным выяўленні такой характарыстыкі заканадаўчага тэксту, як дакладнасць.

У беларускамоўных тэкстах 1920–30-х гг. колькасць указальных займеннікаў была большай, чым у паралельных рускамоўных за кошт разнастайных перакладчыцкіх трансфармацый:

- замена рускага асабовага займенніка на спалучэнне ўказальнага займенніка з назоўнікам: *вред от этих деяний является менее важным, чем вред, который **они** предупредили* (УК-28, 11) — *шкода ад гэтых дзеяньняў з'яўляецца менш важнаю, чымся шкода, ад якой **гэтыя дзеяньні** перасьцерагалі* (КК-28, 11);
- замена рускага прыналежнага займенніка на ўказальны: *в случае дачи письменного заключения эксперты могут быть обязаны судом дать устное разъяснение **своего** заключения* (ГПК-36, 155) — *Калі даецца пісьмовае заключэнне, суд можа абавязаць экспертаў даць вуснае раз'ясненне **гэтага** заключэння* (ГПК-36, 155);
- уключэнне ў перакладны тэкст указальнага займенніка пры яго адсутнасці ў арыгінальным у спалучэнні з іншымі тэкставымі трансфармацыямі: *отвечает лишь имущество, состоящее*… (ГК-32, 19) — *адказвае толькі **тая** маёмасьць, якая знаходзіцца* (ГК-32, 19).

Увядзенне ўказальных займеннікаў уносіла строгі парадак у фармулёўку закона, максімальна канкрэтызавала выказванне. Пачынаючы ад другой палавіны 1950-х гг. такія трансфармацыі не адзначаны, аднак на працягу ўсяго даследаванага перыяду колькасць указальных займеннікаў у беларускамоўных тэкстах была большай, чым у рускамоўных, за кошт пранамінатываў *настоящий* і *данный*.

У сучасных тэкстах прыметнікавы займеннік *настоящий* мае даволі абмежаваную спалучальнасць з назоўнікамі — пераважна са словам *кодэкс* і некалькімі іншымі, што называюць часткі гэтага дакумента, — *артыкул*, *раздзел*, *пункт*. Значэнне пранамінатыва *настоящий* 'той, пра які ідзе гаворка' ў заканадаўчых тэкстах XX ст. паслядоўна перадавалася займеннікам *гэты*. Пераклад пранамінатыва *данный* такой аднастайнасцю на працягу XX ст. не вылучаўся. У 1920-я і 1930-я гг. яго адпаведнікам у беларускамоўных тэкстах з'яўляўся пранамінатыў *даны*: *на **данай** тэрыторыі* (К-27, 53); *суд прызнае **даную** асобу бацькаю дзіцяці* (КЗаШС-27, 45); *за межы **данае** акругі* (ППК-27, 15а); ***даны** суд* (ГПК-30, 42), ***даны** наймальнік* (ГПК-36, 243). У тэкстах 1950-х гг. *данный* у адных выпадках перакладаецца як *даны*, у іншых — як *гэты*: *не было никакого производства*

*по **данному** делу о **данном** лице* (УК-57, 17) — *не было ніякага судавядзення па **гэтай** справе аб **данай** асобе* (КК-57, 17). Такая ж неаднастайнасць перакладу пранамінатыва *данный* уласцівая і тэкстам 1960-х гг. У тэкстах 1970-х і 1980-х гг. пранамінатыву *данный* паслядоўна адпавядае *даны*, а пачынаючы ад 1990-х гг. з'яўляецца не ўжываны раней у заканадаўстве варыянт *дадзены*: *рассмотреть **данный** проект* (К-94, 99) — *разгледзець **дадзены** праект* (К-94, 99); ***в данной** области* (КоН-97, 6) — *у **дадзенай** галіне* (КаН-97, 6); *в **данный** местный Совет депутатов* (ИК-00, 95) — *у **дадзены** мясцовы Савет дэпутатаў* (ВК-00, 95). Неаднастайнасць ужывання ў тэкстах — у пэўнай меры вынік неаднолькавай фіксацыі ў лексікаграфічных крыніцах.

4. Сярэдняя колькасць **дзеясловаў** у беларускамоўных заканадаўчых тэкстах 1920-х — першай палавіны 1930-х гг. была большай, чым у рускамоўных, што абумоўлена спецыфікай граматычных сродкаў нацыянальнай мовы. Колькасць дзеясловаў у перакладных тэкстах павялічвалася за кошт «паглынання» пераважна кніжных граматычных формаў арыгінальных тэкстаў, г. зн. за кошт замены:

- неўласцівых формаў дзеепрыметнікаў: *по делам, **производящимся** в народном суде — па справах, якія **вядуцца** ў народным судзе* (ГПК-30, 75);
- суфіксальных аддзеяслоўных назоўнікаў: *право свободного **пользования** родным языком — права вольна **карыстацца** роднаю моваю* (К-27, 21);
- канструкцый з вытворнымі прыназоўнікамі: ***в случае отказа** давать показания — у выпадку, **калі** сьведка **адмовіцца** даваць паказанні* (ГПК-30, 50).

У другой палавіне XX ст. колькасць дзеясловаў у беларускамоўных варыянтах законаў па-ранейшаму застаецца большай, чым у рускамоўных. Калі беларускамоўныя заканадаўчыя тэксты 1920-х — першай палавіны 1930-х гг. утрымлівалі дзеясловаў на 31,6 % больш, чым рускамоўныя, то ў далейшым гэты разрыў паступова змяншаўся: у тэкстах 1960–70-х гг. ён склаў 22,4 %, 1980–90-х — 21,8 %. Характэрна, што павелічэнне колькасці дзеясловаў пачынаючы ад другой палавіны 1950-х гг. адбывалася пераважна за кошт неўласцівых для беларускай мовы формаў дзеепрыметнікаў.

Ацэньваючы інфінітыў як стылеўтваральны сродак мовы заканадаўчых дакументаў, варта, на наш погляд, размяжоўваць функцыі незалежнага інфінітыва і залежнага, г. зн. падпарадкаванага праз сувязь прымыкання якому-небудзь іншаму слову ў сказе. Найбольшым патэнцыялам выяўлення імператыўнасці ў мове законаў выступае незалежны інфінітыў. Залежны інфінітыў з-за аслабленасці лексічнага значэння сам па сабе, на наш погляд, не мае здольнасці да пабуджальнасці. Адзначанае дае падставу лічыць, што інфінітывы па-за кантэкстам з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі, пры залічэнні да стылеўтваральных сродкаў заканадаўчага маўлення да іх неабходна падыходзіць дыферэнцыравана.

5. Для агульналітаратурнага маўлення пачатку XX ст. **вытворныя прыназоўнікі** былі малаўласцівымі. У заканадаўчыя тэксты 1920-х гг. яны траплялі ў выніку калькавання, аднак поруч з калькаваннем ажыццяўляліся спробы выкарыстання замест іх наяўных уласнамоўных рэсурсаў:

- невытворных прыназоўнікаў: ***в целях*** *агитации и пропаганды* (УК-28, 103) — ***для*** *агітацыі і прапаганды* (КК-28, 103); *орган ЗАГС записывает* ***в качестве*** *отца лицо, указанное в заявлении матери* (КЗоБС-27, 43) — *орган ЗАГС запісвае* ***за*** *бацьку асобу, паказаную ў заяве мацяры* (КЗаШС-27, 43);
- злучнікаў: *те же деяния, совершенные* ***в виде*** *промысла* (УК-28, 259) — *тыя самыя дзеяньні, учыненыя* ***як*** *промысел* (КК-28, 259); *уклонение от несения обязанностей военной службы* ***под предлогом*** *религиозных или иных убеждений* (УК-28, 176) — *ухіленьне ад выкананьня абавязкаў вайсковай службы* ***нібы*** *з рэлігійных альбо іншых пераконаньняў* (КК-28, 176).

Адзначаны выпадкі пропуску вытворнага прыназоўніка: *умышленное истребление или повреждение какого-либо имущества* ***путем*** *поджога* (УК-28, 262) — *наўмыснае зьнішчэньне альбо псаваньне якой-небудзь маёмасьці падпалам* (КК-28, 262), а таксама замена прыназоўнікавай канструкцыі на дадзеную частку: ***В случае*** *признания брака недействительным, остается в силе предшествующий брак* (КЗоБС-27, 13) — ***Калі шлюб будзе прызнаны за неправадзейны****, то застацца ў сіле папярэдні шлюб* (КЗаШС-27, 13).

Ад другой палавіны 1930-х гг. тэндэнцыя да калькавання рускіх канструкцый з вытворнымі прыназоўнікамі пры перакладзе заканадаўчых тэкстаў пачынае пашырацца. З другой палавіны ХХ ст. выпадкі ўжывання невытворных прыназоўнікаў або іншых граматычных сродкаў (напрыклад, падпарадкавальнага злучніка *як* ‘у якасці’) пры перакладзе рускіх вытворных адзінкавыя.

Адзначанае паказвае, што ступень праяўлення нацыянальных адметнасцей заканадаўчых тэкстаў на розных часавых адрэзках абумоўлена спецыфікай выпрацоўкі літаратурных нормаў. Найбольш значна яна выступала ў 1920-я — першай палавіне 1930-х гг., але нават ва ўмовах істотных інтэрферэнцыйных працэсаў беларуска- і рускамоўныя заканадаўчыя тэксты адрозніваюцца шэрагам параметральных прыкмет.

## Скарачэнні

**ГК-32** — Грамадзянскі кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі: са зменамі з 1927 па 1-е лістапада 1932 г. — Менск [Мінск]: выданне НКЮ БССР, 1932. — 171 с.

**ГПК-30** — Грамадзянскі працэсуальны кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі: дзейнічае з 01.09.1923. — Менск [Мінск]: выданне НКЮ БССР, 1930. — 195 с.

**ГПК-36** — Грамадзянскі працэсуальны кодэкс БССР: са зммяненнямі на 1 ліпеня 1936 г. — Менск [Мінск]: ДВБ, 1936. — 197 с.

**ВК-00 (ИК-00)** — Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь: прыняты Палатай прадстаўнікоў 24 студз. 2000 г.: адобр. Саветам Рэсп. 31 студз. 2000 г. — Мінск: Беларусь, 2000. — 158 с.

**К-27** — Канстытуцыя (Асноўны Закон) Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі: праект, прыняты Саветам Народных Камісараў БССР на пасяджэнні 22 сакавіка 1927 г. — Менск [Мінск]: выданне Кіраўніцтва спраў СНК БССР, 1927. — 49 с.

**К-94** — Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь / Конституция Республики Беларусь: Прынята на трынаццатай сесіі Вярхоўн. Савета Рэсп. Беларусь дванаццатага склікання 15 сак. 1994 г. — Мінск: Беларусь, 1994. — 152 с.

**КЗаШС-27** — Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы БССР у рэдакцыі, прынятай IV сесіяй ЦВК БССР VII склікання / Кодекс законов о браке, семье и опеке БССР в редакции, принятой IV сессией ЦИК БССР VII созыва. — Мінск: Выд. выдавец. п/аддз. заканадаўчых праектаў і кадыфікацыі НКЮ, 1927. — 41 с.

**КК-28** — Крымінальны кодэкс Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. — Мінск: выданне кіраўніцтва спраў СНК : выданне экан. нарады БССР, 1928. — 163 с.

**КК-40** — Крымінальны кодэкс БССР: са змяненнямі на 1 снеж. 1939 г. — Мінск: Дзяржвыд БССР. Рэд. паліт. літ., 1940. — 98 с.

**КК-57** — Крымінальны кодэкс Беларускай ССР: афіц. тэкст са зменамі на 1 мая 1957 г. і з дадат. сістэматыз. матэрыялаў / М-ва юстыцыі БССР. — Мінск: Дзярж. выд-ва БССР, 1957. — 296 с.

**КаН-97** (**КоН-97**) — Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб нетрах : адобр. Саветам Рэсп. 27 лістап. 1997 г. / Кодекс Республики Беларусь о недрах: Прыняты Палатай прадстаўнікоў 13 лістап. 1997 г. — Мінск: ЗАО «Белбизнеспресс», 1998. — 143 с.

**ППК-27** — Папраўча-працоўны кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі / Исправительно-трудовой кодекс Белорусской Социалистической Советской Республики. — Мінск: выданне выдавец. п/аддз. заканадаўчых праектаў НКЮ БССР, 1927. — 57 с.

## Літаратура


1. Беларуская граматыка: у 2 ч. / АН БССР Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / [А. І. Падлужны і інш.]. — Мінск, 1985.
2. Ваулина, С. С. Модальное микрополе необходимости в официально-деловых документах русского и польского языков / С. С. Ваулина, Е. Н. Магдалинская // Вестн. Балтийского федерального ун-та им. И. Канта. — 2012. — Вып. 8. — С. 12–17.
3. Иссерлин, Е. М. Официально-деловой стиль: учеб. пособие / Е. М. Иссерлин. — М., 1970.
4. Шакун, Л. М. Аб ужыванні поўных і кароткіх форм прыметнікаў у складзе выказніка ў сучаснай беларускай мове / Л. М. Шакун // Ученые записки (БГУ). — Вып. 27. Серия филол. — 1956. — С. 113–126.

**Міхал Мордань** *(Беласток, Польшча)*

# НЕАФІЦЫЙНЫЯ РОДАВЫЯ НАЙМЕННІ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ ХРАБАЛЫ НА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІМ ПАМЕЖЖЫ

Храбалы — гэта невялікая вёска ў Падляскім ваяводстве, на маршруце з Беластока ў Люблін, размешчаная ў дзесяці кіламетрах ад Бельска-Падляскага. Верагодна, вёска ўзнікла ў XV ст., але першая інфармацыя пра яе з'явілася ў крыніцах пад датай 1536 г.[1] Размяшчэнне вёскі трэба спалучаць з функцыянаваннем недалёкага Бельска — аднаго з самых важных цэнтраў каралеўскага шляху з Кракава ў Вільню. У XVI ст. для выканання рамонтных работ у драўляным бельскім замку прыцягнулі цесляра, які атрымаў у Храбалах вызваленую ад падатку валоку зямлі. З люстрацыі, якая прайшла ў 1576 г., даведваемся, што ў той час сяло належала вайтоўству ў Гацьках, а яго жыхары былі прыгоннымі ў каралеўскім фальварку Сталавач і там адпрацоўвалі паншчыну. Агулам вёсцы належала 15 валок зямлі (то бок каля 300 гектараў), адна з іх належала цесляру, які на гэты раз працаваў на будаўніцтве і пры рамонце памешчыцкіх будынкаў. Астатнія жыхары займаліся сельскай гаспадаркай, а таксама бортніцтвам і баброўніцтвам. З сярэдзіны XVII ст. згадак пра існаванне сяла няма — Храбалы не адзначаныя ў люстрацыі Падляскага ваяводства ад 1664 г. Можна меркаваць, што з-за свайго стратэгічнага размяшчэння паселішча было разбурана ў выніку тагачасных войнаў, верагодна падчас шведскага нашэсця.

Адраджэнне Храбалоў трэба звязваць, паводле вуснага падання, з аб'яўленнем у недалёкім лесе, ва ўрочышчы *Галоўкава* (*Hołowkowo*) побач з *Туравай крыніцай*, іконы Пакутнай Божай Маці. Яшчэ да 1795 г. вёска была каралеўскай уласнасцю, пасля належала прускаму (1795–1807), а затым царскаму ўраду. У 1816 г. у Храбалах было ўсяго 6 дамоў, іх насельніцтва складалі 23 мужчыны і 13 жанчын. Прозвішча большай часткі тагачасных жыхароў — Гліва (Gliwa): яго насілі Іван, Сцяпан, Бенедыкт і Хілька. У 1861 г. вёска была вызвалена ад прыгону. У XIX ст. апроч Гліваў жылі тут Беляхі / Белахі (Bielach / Biełach), Бабрыцкія (Bobrycki), Данілюкі (Daniluk), Дамброўскія (Dąbrowski), Казлоўскія (Kozłowski), Урублеўскія (Wróblewski) і Хількевічы (Chilkiewicz). Гэтыя антрапонімы з'яўляюцца адным з галоўных складнікаў прозвішчаў сённяшніх жыхароў Храбалоў. На зломе XIX і XX стст. у сяле жылі ўжо 140 чалавек, якія гаспадарылі на 349 дзесяцінах зямлі. У 1915 г.

[1] Звесткі пра гісторыю вёскі апрацаваныя паводле «Atlasu gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny» [7], публікацыі «Historia Gminy Bielsk Podlaski» [20], а таксама на аснове матэрыялаў, сабраных у Музеі малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах.

у выніку бежанства мясцовае насельніцтва было вымушана падацца ўглыб Расіі. Пасля вайны жыхары пачалі вяртацца. Яны рабілі гэта паступова, таму ў 1921 г. у вёсцы было толькі 7 дамоў і 54 чалавекі. У наступныя гады колькасць дамоў значна ўзрасла. Як і жыхары іншых вёсак, мясцовыя былі непасрэднымі сведкамі, а часта таксама ўдзельнікамі падзей Другой сусветнай вайны.

Нягледзячы на неспакойны перыяд першай паловы XX ст. невялікія Храбалы сталі важным цэнтрам для навакольных вёсак. Ва ўмовах ўсё новых адміністрацыйных падзелаў у Храбалах месціўся гмінны цэнтр. Гэта было ў 1952, затым у 1959 (грамада) ды ў 1973 гг. Канчаткова, у выніку змяненняў у адміністрацыйным кіраванні, у 1976 г. вёска была ўключана ў склад гміны Бельск-Падляскі. У 1980 г. у сяле былі 42 дамы са 161 жыхаром. З часоў цесляра, які працаваў у каралеўскім замку ў Бельску, прайшлі сотні гадоў, але да сённяшняга дня захаваліся тут сталярскія і цяслярскія традыцыі. Як у самых Храбалах, так і ў навакольных вёсках можна пабачыць пабудаваныя ў 1920–1950 гг. і ўпрыгожаныя драўлянымі арнаментамі хаты. Многія з іх пабудаваў мясцовы цясляр Ян Дамброўскі. У вёсцы надалей працуюць сталяры з роду Гліваў. З Храбалоў родам філолаг-беларусіст Мікалай Урублеўскі — аўтар слоўніка мовы вёскі Храбалы, які налічвае каля 20 тысяч слоў.

З самага пачатку і да сённяшняга дня вёску насяляе — у пераважнай большасці — праваслаўнае беларускае насельніцтва[1]. Асноўным сродкам камунікацыі мясцовых жыхароў з'яўляецца пераходная гаворка з беларуска-ўкраінскімі моўнымі рысамі. Гэтая мова, якую карэнныя жыхары называюць *рускай*, *простай* або *сваёй* (*hovoryti po-svojomu*), амаль ідэнтычная старабеларускай мове, на якой быў напісаны, сярод іншага, Статут Вялікага Княства Літоўскага і іншыя дакументы таго перыяду.

У гэтым артыкуле хацелася б звярнуць увагу на неафіцыйныя родавыя найменні, якія ўжываюцца ў вуснай традыцыі ў сельскай прасторы Храбалоў. Зыходны матэрыял сабраны шляхам непасрэднага даследавання ў сем'ях, якія цяпер пражываюць у вёсцы, а таксама з успамінаў пра асоб, якія цягам некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў памерлі, але памяць пра якіх да гэтага часу жывая сярод сваякоў, сяброў і суседзяў

Невялікая колькасць жыхароў вёскі адлюстроўваецца ў невялікай колькасці родавых найменняў — можна назваць 36 антрапонімаў.

Родавыя найменні часта памылкова атаясамліваюць з мянушкамі, таму адносна рэдка можна іх знайсці ў літаратуры ў якасці асобнай анімічнай катэгорыі [8, с. 165–166]. Агульнай рысай родавых найменняў і мянушак, несумненна, з'яўляецца намінацыйна-дыферэнцыяльная функцыя, якая заключаецца ў канкрэтызаванні ідэнтыфікацыі асобы. Тым не менш гэтыя

---

[1] Выключэнне складаюць некалькі польскіх сем'яў каталіцкага веравызнання, якія на працягу апошніх некалькіх гадоў набылі ў вёсцы дамы.

тэрміны не з’яўляюцца сінонімамі і нельга іх ужываць як узаемазаменныя [5, с. 24], хаця б з-за іх узаемавыключальных уласцівасцяў[1].

Родавыя найменні азначаюцца як спадчынныя назвы, якія акрэсліваюць усю сям’ю. Хоць яны і не падлягаюць прававому прызнанню, але ў вясковым асяродку ў паўсядзённым жыцці замяшчаюць афіцыйныя прозвішчы. Яны з’яўляюцца асновай для ўтварэння азначэнняў гаспадара дома, жонкі, сыноў і дачок. Родавыя найменні не характарызуюць іх носьбітаў, а толькі іх называюць. Гэтая экспрэсіўная нейтральнасць адрознівае іх ад катэгорыі адзначаных пэўным эмацыйным зарадам мянушак.

Аналізуемыя назвы, згодна з існуючымі поглядамі (гл. напр.: [3, с. 237–238; 5, с. 24; 17, с. 160], уключаны да катэгорыі родавых найменняў. Яны маюць спадчынны характар, не ўтрымліваюць эмацыйнага фактару і служаць ідэнтыфікацыі і распазнанню сям’і. Як слушна было заўважана, некаторыя родавыя азначэнні, утвораныя ад імёнаў шляхам додання адпаведных суфіксаў, з генетычнага пункту гледжання з’яўляюцца дыялектнымі патранімічнымі і матранімічнымі фармацыямі. Умовай для аднясення гэтых назваў да катэгорыі родавых найменняў з’ўляецца іх функцыянаванне ў наступным пакаленні [10, с. 99; 16, с. 217; 17, с. 166]. Так адбываецца ў дачыненні да сямейных антрапонімаў, якія функцыянуюць у сельскай прасторы Храбалоў. Яны ахапілі пакаленне ўнукаў, многія з іх — таксама праўнукаў і прапраўнукаў. Больш за тое, у некаторых выпадках сённяшнія жыхары не памятаюць нават пратапласта, ад імя якога было ўтворанае дадзенае родавае найменне.

У аналізуемым наборы выразна дамінуюць найменні, матываваныя імем продка (30 назваў). У якасці асновы выкарыстоўваюцца ў асноўным мужчынскія імёны. У структурным плане гэтыя назвы ўяўляюць сабой розныя мадэлі словаўтварэння. Сярод іх прысутнічаюць антрапонімы, утвораныя з дапамогай суфікса *-ovy* (*Iv'anockovy* < усх.-сл. ім. *Iv'anocko* < царк. *Иоанн* пар. БірБА 87, ТихСл 180–182; *Kost'entovy* < ім. *Kost'enty* < царк. *Константин*, поль. *Konstanty* пар. TichI 107, УсцСл 107–108, MalI 264; *K'u͡ondratovy* < усх.-сл. ім. *K'u͡ondrat* < царк. *Кондрат* пар. БірБА 100; *Oleks'i͡ejovy* < усх.-сл. ім. *Oleks'i͡ej* < царк. *Алексий* TichI 67; *Step'ankovy* < усх.-сл. ім. *Step'anko* < царк. *Стефан* TichI 132); *-u͡ovśki* (*Oleksij'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Oleks'i͡ej* < царк. *Алексий* TichI 67)) ды тыя, якія маюць квазі-суфіксы *-y͡e, -i, -i͡e* (*Gmitr'y͡e* < усх.-сл. ім. *Gm'itior* < царк. *Димитрий* пар. БірБА 61–62; *Maćk'i* < ім. *M'aćko* < царк. *Матфий*, царк. *Матфей* [14, с. 422–423], поль. *Maciej* БірБА 116, TichI 112, MalI 274; *Matxvij'i͡e* < усх.-сл. ім. *Matxv'i͡ej* < царк. *Матфей* БірБА 117; *Tomasz'y͡e* < усх.-сл. ім. *Tom'asz*[2] царк. *Фома* УсцСл 200, MalI 332; *Vańciul'i͡e* < усх.-сл. ім. *Vańci'ul* < *Иван* < царк. *Иоанн* пар. TichI 99, MalI 249).

---

[1] Дадатковую інфармацыю па гэтай тэме гл.: [8, с. 174–175, 178–179; 16, с. 214].

[2] Аб усходнеславянскім паходжанні сведчыць месцазнаходжанне націску.

Найбольш колькасную групу складаюць найменні, якія маюць узаемазаменныя паралельныя формы. Часцей за ўсё тут сустракаем назвы, пазбаўленыя суфіксаў у строгім сэнсе гэтага слова, ды фармацыі, утвораныя з дапамогай суфікса *-u͡ovśki*: *Błaszczuk'i* // *Błaszczuk'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Błaszcz'uk*[1] < царк. *Власий* пар. SHNOB I 32; *Danił'y* // *Danił'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Dan'iło* < царк. *Даниил* TichI 79; *Jakub'y* // *Jakub'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Jak'ub* < царк. *Иаков*, поль. *Jakub* БірБА 78, MalI 239; *Jas'i͡e* // *Jasi'u͡ovśki* < ім. *Jaś* < царк. *Иоанн*, поль. *Jan* TichI 99, УсцСл 96, SHNOB I 134; *Kuźm'y* // *Kuźm'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Kuźm'a* < царк. *Косма* TichI 107; *Lark'i* // *Lark'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *L'arko* < царк. *Иларион*, поль. *Hilary* БірБА 82, MalI 234; *Levk'i* // *Levk'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *L'evko* < царк. *Лев* TichI 110; *Mark'i* // *Mark'u͡ovśki* < ім. *M'arko* < царк. *Марк*, поль. *Marek* БірБА 114, MalI 280; *Mixałk'i* // *Mixałk'u͡ovśki* < ім. *Mix'ałko* < царк. *Михаил*, поль. *Michał* TichI 117, MalI 284; *Ondr'y͡ej* // *Ondryj'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Ondr'y͡ej* < царк. *Андрей* БірБА 28, пар. TichI 69; *Ontos'i͡e* // *Ontosi'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Ont'oś* < царк. *Антоний* пар. БірБА 30, УсцСл 30; *Sidor'y͡e* // *Sidor'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *S'idor* < царк. *Исидор* TichI 97; *Vicent'y* // *Vicent'u͡ovśki* < ім. *Vic'enty* < царк. *Викентий*, поль. *Wincenty* TichI 142, пар. MalI 342. Варыятыўнасць выступае таксама ў састаўленні антрапонімаў, якія заканчваюцца на *-i*, *-y͡e,* а таксама *-ovy*: *Dziumeszk'i* // *Dzium'eszkovy* < усх.-сл. ім. *Dzium'eszko* < царк. *Димитрий* пар. ТихСл 138; *Lijasz'y͡e* // *Lijasz'ovy* < усх.-сл. ім. *Lij'asz* < царк. *Илия* пар. БірБА 82. У выключных выпадках, для таго, каб вызначыць сям’ю, выкарыстоўваюцца тры азначэнні, якія марфалагічна падпадаюць пад вышэй апісаныя мадэлі (*Deniz'y* // *Den'izovy* // *Deniz'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Den'iz* < царк. *Дионисий* пар. БірБА 62, TichI 80; *Troxim'y* // *Trox'imovy* // *Troxim'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Trox'im* < царк. *Трофим* TichI 139). Таксама для членаў адной сям’і могуць выкарыстоўвацца два родавыя найменні, якія, аднак, спасылаюцца на агульнага продка (*Semulk'ovy* // *Semen'u͡ovśki* < усх.-сл. ім. *Semulk'o* // *Sem'i͡en* < царк. *Симеон* пар. TichI 133, ТихСл 312).

У матывіровачных падставах ёсць імёны ў першаснай і вытворнай формах. Сярод першых толькі два прыклады можна разглядаць як афіцыйныя імёны (*Jakub, Tomasz*), хоць і ў гэтых выпадках яны не цалкам супадаюць з афіцыйнымі назвамі. Дыферэнцыяльнай рысай з’яўляецца націск, які падае на розныя склады — у залежнасці ад варыянта (пар. *J'akub* — *Jak'ub*, *T'omasz* — *Toma'sz*). Часцей за ўсё сустракаем асноўныя гутарковыя варыянты (*Kost'enty, K'u͡ondrat, Kuźm'a, Matxv'i͡ej, Oleks'i͡ej, Ondr'y͡ej, Sem'i͡en, Trox'im, Vic'enty*), якія адрозніваюцца ад афіцыйных перш за ўсё фанетычнымі ўласцівасцямі. Як

---

[1] Фармацыі, створаныя з дапамогай суфікса *-uk*, маюць на даследаванай тэрыторыі аманімічны характар. Іх можна разглядаць як памяншальныя формы асабовых імёнаў або патронімы. На падставе атрыманай інфармацыі, форма *Błaszcz'uk* трактуецца як вытворная форма асабовага імя. Пра ролю суфікса *-uk* у антрапаніміі з дыяхранічнага пункту гледжання гл. сярод іншага [11, с. 157–161].

асноўныя трэба разглядаць таксама імёны *Gm'itior* (пар. царк. *Димитрий*), *Den'iz* (царк. *Дионисий*) ды *Dan'iło* (царк. *Даниил*), таму што такі статус маюць у анамастычных крыніцах фармацыі з усечаным суфіксам *-ий*, характэрным царкоўным формам, і імёны са зменenай парадыгмай [9, с. 33]. Астатнія родавыя найменні паўсталі на аснове вытворных імёнаў. Найбольш шматлікімі з іх з'яўляюцца вытворныя суфіксальныя, створаныя шляхам дадання простага суфікса *k-(o)* (*L'arko, L'evko, M'aćko, M'arko, Mix'ałko, Step'anko*), радзей *-ś* (*Jaś, Ont'oś*), аднаразова *-sz* (*Lij'asz*). Некалькі формаў мелі складаныя фарманты *-oc+ko* (*Iv'anocko*), *-esz+ko* (*Dzium'eszko*), *-ul+ko* (*Semulk'o*), *-c'+ul* (*Vańci'ul*). Афіксы былі дададзеныя да поўных (*Ivan+ocko, Lev+ko, Mixał+ko, Stepan+ko*) або скарочаных асноў (*Dzium+eszko, Ja+ś, Mać+ko, Onto+ś, Sem+ulko*). Акрамя таго, асновы некаторых вытворных формаў былі пазбаўлены ініцыяльных элементаў (пар. *Larko* < *И-ларион, Hi-lary*; *Lijasz* < *И-лия, E-liasz*; *Vańciul* < *И-ван* (< *Иоанн*)). Шляхам усячэння пачатковай галоснай асновы ўтвораны таксама бязафіксны варыянт *Sidor* (< *Исидор*).

Толькі адно родавае найменне было ўтворана ад жаночага імя, да якога быў дададзены фармант *-yny* (*Par'aszczyny* < усх.-сл. ім. *Par'aska* < царк. *Параскева* TichI 125). Нязначная колькасць родавых азначэнняў такога тыпу ўпісваецца ў больш шырокую тэндэнцыю славянскай антрапаніміі, у якой жаночыя імёны не вельмі прадуктыўныя ў стварэнні іншых катэгорый найменняў, напрыклад сучасных прозвішчаў. Прычыны гэтаму варта шукаць у першую чаргу ў патрыярхальнай мадэлі сям'і. Формы, якія ўзніклі на аснове жаночых імёнаў, сустракаем толькі ў сітуацыі, калі жанчына стала ўдавой у раннім узросце дзіцяці або калі не ведалі, хто яго бацька. Азначэнні матранімічнага тыпу з'яўляліся таксама ў выпадку, калі ў жанчыны быў высокі сацыяльны прэстыж у вясковым асяроддзі.

У сяле Храбалы запісана 6 родавых азначэнняў, не матываваных уласнымі імёнамі. Чатыры назвы адносяцца да прозвішчаў членаў сям'і, пар.: *Bobr'ycki* < п. *Bobrycki/a*, *Korszak'i* // *Korszak'u͡ovśki* < п. *Korszak*, *Pałczuk'i* < п. *Palczuk*, *Vorobij'u͡ovśki* < п. *Wróblewski/a*). Магло б здавацца, што нельга — прынамсі, некаторыя назвы — класіфікаваць як родавыя найменні, таму што яны фармальна аднолькавыя з афіцыйнымі прозвішчамі (*Bobrycki*), або злёгку фанетычна адрозніваюцца ад афіцыйнай формы ў выніку дыялектнага вымаўлення (напрыклад, *Korszak'i* — розніца ў націску, *Pałczuk'i* — у выніку замены *l* > *ł*). Тым не менш гэтыя антрапонімы нельга атаясамліваць з прозвішчамі, па меншай меры, па некалькіх прычынах. Родавыя назвы і прозвішчы не заўсёды даюцца ў спадчыну такім жа чынам. Гэты працэс асабліва прыкметны, калі муж пасля шлюбу пасяляецца ў доме жончыных бацькоў (так званыя *прыступы* AGWB 99) і яго «падключаюць» да родавага наймення, якое выкарыстоўваецца для абазначэння насельнікаў гэтага дома[1].

---

[1] У Храбалах, напрыклад, такая сітуацыя адбылася, сярод іншага, у выпадку *Pi'eti Bobr'yckoho* (п. *Chomaniuk*), *Al'oszki Sidor'u͡ovzkoho* (п. *Pawluczuk*), *L'evusia*

Як адзначае Л. Дацэвіч [10, с. 93], у выпадку неафіцыйных ідэнтыфікацыйных элементаў аб канчатковай прыналежнасці дадзенага асабістага імя да той ці іншай групы ў першую чаргу сведчаць кантэкст і сітуацыя. У мясцовым анамастыконе назвы, якія тут апісваюцца, у свядомасці жыхароў маюць такі ж статус, як астатнія згаданыя ў гэтым артыкуле родавыя найменні, таму што ў лакальнай мікрасупольнасці рэалізуюць аднолькавыя функцыі. Акрамя таго, пра аднолькавасць некаторых прозвішчаў у афіцыйнай і дыялектнай форме можна казаць толькі ў выпадку мужчынскіх формаў у адзіночным ліку (напрыклад *Ści'opko Bobr'ycki, Iv'an Bobr'ycki, Pi'etia Bobr'ycki*). Гэты прынцып не працуе ў выпадку ідэнтыфікацыі сям'і агулам, а прыведзеныя назвы выконваюць усё ж такую ролю (пар. *Bobr'ycki — Bobryccy*).

Рэсурс родавых найменняў, запісаных у Храбалах, замыкаюць дзве назвы, адна з якіх адносіцца да віду дзейнасці, якім займалася асоба, што ініцыявала азначэнне ўсёй сям'і (*Koval'i͡e* < ас. наз. *Kov'al* < ап. усх.-сл. *kov'al* 'каваль' AGWB 100). Другая назва прадстаўляе тып фармацыі, звязанай з мянушкай, і паходзіць ад факта, які адбыўся ў гісторыі вёскі (*Komun'istovy* < ас. наз. *Komun'ist* 'продак пасля вяртання з бежанства збудаваў шматкватэрны дом, г. зв. *камуну*). Можна меркаваць, як такую, што паходзіць ад мянушкі, можна разглядаць згаданую раней форму *Vorobij'͡ǝuvśki*. Несумненна, гэтая назва адносіцца да прозвішча *Wróblewski/a*, але ёсць ускосная сувязь паміж ёй і мянушкай (матываванай гучаннем афіцыйнага антрапоніма), дадаткова мадыфікаванай шляхам моўнай змены з польскай формы на дыялектную ўсходнеславянскую (п. *Wróblewski* > мянушка *Vorob'i͡ej* > *Vorobij'u͡ovśki*)[1].

Некалькі слоў неабходна сказаць пра моўны аспект апісваемых найменняў. Як паказвае аналіз, пераважная большасць з іх заснавана на асабовых імёнах, рэпертуар якіх складаюць толькі антрапонімы хрысціянскага паходжання, у асноўным ва ўсходнеславянскай форме (*Dan'iło, Kuźm'a, Par'aska, S'idor* і г. д.). Не знаходзім варыянтаў імёнаў, уласцівых толькі польскай традыцыі, — некалькі формаў, якія выступаюць у польскай мове, прысутнічаюць адначасова ва ўсходнеславянскай антрапаніміі. Да іх адносяцца, напрыклад, вытворныя формы з кампанентам *-ko* (*L'arko, M'aćko, M'arko, Mix'ałko*) і *-ś* (*Jaś*) і два імёны з канчаткам *-y* (*Kost'enty, Vic'enty*). Тыповыя, як магло б здавацца з пункту гледжання словаўтварэння, у польскай мове формы *Tomasz, Jakub* праз змяненне націску больш блізкія варыянтам беларускім, пар. *Тамаш, Якуб*

---

*Koval'u͡ovśkoho* і інш. Яны пасяліліся ў дамы сваіх жонак і прынялі іх родавае найменне. У сваю чаргу, іх жонкі, згодна звычаю, змянілі афіцыйныя прозвішчы.

[1] Варта таксама адзначыць, што прозвішчы, якія заканчваюцца на *-ski* (тыпу *Wróblewski*), як правіла, не ўзнікалі непасрэдна на аснове апелятыўнай лексікі (то бок непасрэдна ад апелятыва *wróbel*). Гэтыя антрапонімы прадстаўляюць адтапанімічную мадэль, шлях іх фарміравання можна вызначыць наступным чынам: ап. *wróbel* > ас. наз. *Wróbel* > м. н. тыпу *Wróble, Wróblewo* > п. *Wróblewski*.

УсцСл 200, 229. Пад уплывам польскай мовы ўсталявалася форма імя *Den'iz* з гучным зычным у фінальнай частцы (пар. поль. *Dionizy*).

Несумненна цікавай з’яўляецца прысутнасць у прыведзеным наборы тыпова лакальных формаў іменаў, якія сустракаюцца толькі на абмежаванай тэрыторыі (напрыклад, *Dzium'eszko, Gm'itior, Iv'anocko*), у тым ліку варыянтаў, якія змяшчаюць у сваёй структуры дыфтонгі (тыпу *K'u͡ondrat, Matxv'i͡ej, Oleks'i͡ej*). Пацверджання некаторых формаў не знойдзем у навуковых публікацыях у галіне польскай, беларускай, рускай ці ўкраінскай антрапаніміі, а таксама нават у багатых зместам крыніцах па антрапаніміі польска-ўсходнеславянскага памежжа. Іх існаванне абмяжоўваецца невялікай тэрыторыяй, якая ахоплівае некалькі, а часам нават толькі адзін населены пункт[1].

Увагу звяртаюць на сябе таксама мясцовыя моўныя асаблівасці апісваемых родавых назваў. Гэтыя з’явы асабліва прыкметныя ў галіне фанетыкі. Гэта, сярод іншага, замена *f > ch, chw* (*Troxim'y, Matxvij'i͡e*), аканне (*Ondryj'i͡e, Oleks'i͡ejovy, Oleksij'u͡ovški, Ontos'i͡e*) і дзеканне (*Dziumeszk'i*). Найбольш характэрнай, аднак, з’яўляецца наяўнасць дыфтонгаў, прысутных у мове, на якой жыхары вёскі Храбалы размаўляюць у штодзённым побыце. У прыведзеным матэрыяле дыфтонгі выступаюць у большасці родавых найменняў, пар. *Ondryj'i͡e, Oleks'i͡ejovy, Jas'i͡e, Lijasz'y͡e, Ontos'i͡e, Sidor'y͡e, Gmitr'y͡e, Koval'i͡e, Matxvij'i͡e, K'u͡ondratovy, Vańciul'i͡e, Tomasz'y͡e*, а таксама ва ўсіх формах, якія заканчваюцца на *-u͡ovški* (*Ondryj'u͡ovški, Deniz'u͡ovški, Błaszczuk'u͡ovški, Troxim'u͡ovški, Lark'u͡ovški, Sidor'u͡ovški, Korszak'u͡ovški* і інш.).

У пачатку артыкула было адзначана, што набор афіцыйных прозвішчаў жыхароў Храбалоў уключае ў сябе толькі некалькі антрапонімаў. Таму трэба заўважыць, што ў такіх рэаліях важнейшую ролю ў рэалізацыі ідэнтыфікацыйна-дыферэнцыяльнай функцыі адыгрываюць неафіцыйныя родавыя найменні. У даследаваным раёне ёсць шмат такіх вёсак, дзе ў афіцыйных найменных мікрасістэмах пераважаюць толькі некалькі прозвішчаў, а кожнае з іх належыць некалькім ці нават больш за дзясятак сем’ям. У сяле Храбалы, напрыклад, часцей за ўсе прозвішчы сустракаецца *Dąbrowski/Dombrowski*[2]. Яго носяць сем'і *Danił'u͡ov* // *Danił'u͡ovškix*, *Gmitr'u͡ov*, *Jasi'u͡ov* // *Jasi'u͡owškix*, *Komun'istovyx*, *Korszak'u͡ovškix*, *Koval'u͡ov*, *Lark'u͡ov* // *Lark'u͡ovškix*, *Matxvij'u͡ov*, *Step'ankovyx* і *Tomasz'u͡ov*. Многа таксама *Gliwów*: *Deniz'y* // *Deniz'u͡ovški* //

---

[1] Гэты факт абгрунтоўвае правядзенне даследаванняў у галіне неафіцыйных асабовых назваў, асабліва тых, якія захаваліся выключна ў вуснай традыцыі.

[2] Варыянт *Dombrowski* з’явіўся ў выніку няправільнага (?) запісу службовымі асобамі. Прычыны такіх дзеянняў трэба звязваць з перыядам, у які Храбалы належалі Расійскай імперыі, дзе, як вядома, галосны насавы *ą* запісвалі кірылічным алфавітам як *ом*. Пасля 1918 г. вярнуліся да польскамоўнага запісу, але не заўсёды раіліся з людзьмі, зацікаўленымі ў арыгінальным напісанні іх прозвішчаў, таму цяпер сустракаюцца розныя версіі этымалагічна аднаго і таго ж антрапоніма.

*Den'izovy*, *Mark'i* // *Mark'u͡ovśki*, *Jakub'y* // *Jakub'u͡ovśki*, *Ontos'i͡e* // *Ontosi'u͡ovśki*, *Oleksij'u͡ovśki*, *L'arkowy* і *Vicent'y* // *Vicent'u͡ovśki*. Чарговыя — *Chilkiewicze*: *Błaszczuk'i* // *Błaszczuk'u͡ovśki*, *Oleks'i͡ejovy*, *Sidor'y͡e* // *Sidor'u͡ovśki* (частка нашчадкаў носіць прозвішча *Pawluczuk*), *Par'aszczyny*, *Kuźm'y* // *Kuźm'u͡ovśki*. Некалькі сем'яў — *Biełachy*: *Ondryj'i͡e* // *Ondryj'u͡ovśki*, *Lijasz'y͡e* // *Lijasz'ovy*, *Levk'i* // *Levk'u͡ovśki*, *Iv'anockovy*, столькі ж *Wróblewskich*: *Dziumeszk'i* // *Dzium'eszkovy*, *Maćk'i*, *Vorobij'u͡ovśki*, *Semulk'ovy* // *Semen'u͡ovśki*. Прозвішча *Korszak* маюць дзве сям'і — *Korszak'i* // *Korszak'u͡ovśki* і *Mixałk'i* // *Mixałk'u͡ovśki*. Толькі тры прозвішчы сустракаюцца адзін раз — *Palczuk* (*Pałczuk'i*), *Bobrycki/a* (*Bobr'ycki*) і *Daniluk* (*Troxim'y* // *Trox'imovy* // *Troxim'u͡ovśki*). Канстатацыя, што прыведзеныя ў гэтым артыкуле родавыя найменні рэалізуюцца ў першую чаргу ў вясковым асяродку, дзе афіцыйныя прозвішчы недастаткова выконваюць функцыю ідэнтыфікацыі [10, с. 91], — апраўданая.

Варта таксама адзначыць, што на абшары саміх родавых найменняў бачна тэндэнцыя, якая мае на мэце вызначэнне паасобных сем'яў у сітуацыі, калі асновай з'яўляецца тое ж самае імя. Так адбываецца ў выпадку *Lark'u͡ov* // *Lark'u͡ovśkix* і *L'arkovyx*, дзе выкарыстаныя афіксы — *-i* // *-u͡ovśki* і *-ovy* ды *Oleks'i͡ejovyx* і *Oleksij'u͡ovśkix*, якіх адрозніваюць фарманты — *-ovy* і *-u͡ovśki*[1]. Неабходна таксама заўважыць, што некаторыя родавыя найменні ўзніклі на аснове розных памяншальных формаў аднаго хроснага імя, пар. *Iv'anockovy* (< *Iv'anocko*), *Jas'i͡e* (< *Jaś*) і *Vańciul'i͡e* (< *Vańci'ul*) — усё ад імя *Iwan* // *Jan*; *Dzium'eszkovy* (< *Dzium'eszko*) і *Gmitr'y͡e* (< *Gm'itior*) — абодва ад імя *Dimitrij*; як этымалагічна аднолькавыя могуць быць класіфікаваны антрапонімы *M'aćkovy* (< *M'aćko*) і *Matxvij'i͡e* (< *Matxv'i͡ej*), пра што гл. вышэй.

У заключэнне можна адзначыць, што семантыка матывіровачных падстаў, словаўтваральная пабудова і фанетычныя асаблівасці прыведзеных родавых найменняў ідэальна ўпісваюцца ў мясцовую мову, на якой паўсядзённа размаўляюць жыхары вёскі Храбалы. Яны падкрэсліваюць важнасць мясцовай гаворкі ў захаванні этнічнай і культурнай тоеснасці карэннага насельніцтва — праваслаўных беларусаў, якія пражываюць на тэрыторыі польска-ўсходнеславянскага памежжа.

## Скарачэнні

**ап**. — апелятыў; **ас. н.** — асабовая назва; **гл.** — глядзі; **ім.** — імя; **м. н.** — мясцовая назва; **п.** — прозвішча; **пар.** — параўнай; **поль.** — польскі; **усх.-сл.** — усходнеславянскі; **царк.** — царкоўны.

---

[1] Мінімальную фанетычную розніцу бачым таксама ў асновах гэтых родавых найменняў, хоць у абодвух выпадках матывіровачным імем з'яўляецца аднолькавая форма *Oleks'i͡ej*.

**Мікалай Прыгодзіч** *(Мінск, Беларусь)*

# ПОЛЬСКАЯ МОВА ЯК ПАСЯРЭДНІЦА ЗАПАЗЫЧВАННЯ СЛОЎ НЯМЕЦКАГА ПАХОДЖАННЯ Ў ПОМНІКАХ СТАРАБЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА (ПАПЯРЭДНІЯ ЗАЎВАГІ)

Праблема пасярэдніцтва як аднаго са шляхоў пранікнення іншамоўнай лексікі ў мову-рэцыпіент у навуковай літаратуры атрымала дастаткова шырокае асвятленне, як ва ўсходнеславянскай, так і ў замежнай лінгвістыцы. Праўда, сёння асобныя палажэнні гэтай класіфікацыі выклікаюць шматлікія пытанні, найперш у сувязі з выхадам грунтоўных лексікаграфічных прац гісторыка-этымалагічнага напаўнення тыпу «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (вып. 1–36), «Словаря древнерусского языка XI–XIV вв.» і да т. п. Гэтыя і іншыя працы патрабуюць новага падыходу пры разглядзе апасродкаванага і прамога (непасрэднага) запазычвання лексікі іншамоўнага паходжання. Сказанае непасрэдна датычыцца і польскага пасярэдніцтва пры запазычванні слоў нямецкага паходжання ў старабеларускую мову.

**З гісторыі пытання.** Вылучэнне старапольскай (увогуле польскай) мовы як пасярэдніцы ў працэсе запазычвання беларускай мовай іншамоўных слоў фактычна пачалося ў другой палове XIX ст., калі ў манаграфіі «Беларусы» (Том 1. Уводзіны ў вывучэнне мовы і народнай славеснасці) акадэмік Я. Ф. Карскі прывёў дастаткова значны спіс слоў, што прыйшлі ў беларускую мову з іншых моў пераважна праз польскае пасярэдніцтва (*балька* — бэлька, польск. *belka* з ням. *Balken*; *вартый* ‘стоящий’, польск. *wart* з ням. *Wart*; *дрот* ‘проволока’, польск. *drut* з *drot*, ням. *Dragt*; *шынка* ‘окорок’, польск. *szynka* з ням. *Schinken*). Дапускаў ён і пранікненне некаторых слоў «не праз польскую мову, а прама ад немцаў або з яўрэйскага жаргону» [5, с. 12]. Аднак найбольш мэтанакіравана і грунтоўна вывучэнне працэсу запазычвання германізмаў у беларускай мове пачалося толькі ў другой палове XX ст. у сувязі з падрыхтоўкай картатэкі Гістарычнага слоўніка беларускай мовы (у план навукова-даследчых работ Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР гэтая тэма была ўключана ў 1960 г.; закончана падрыхтоўка картатэкі ў 1972 г., усяго ў ёй налічваецца 1 мільён 60 тысяч картак) [3, с. 5]. Падрыхтоўка картатэкі, а з 1973 г. і непасрэдна першых выпускаў Гістарычнага слоўніка паспрыяла і шырокаму навуковаму вывучэнню розных груп іншамоўных запазычанняў. Менавіта на гэты перыяд прыпадае абарона трох кандыдацкіх дысертацый, у якіх дэталёва разглядаліся пытанні запазычвання германізмаў: Чертко И. И. «Лексика немецкого происхождения в старобелорусском языке» (1967), Акулов И. М. «Заимствования в структуре белорусского языка» (1977), Галай О. М. «Бытовая лексика немецкого происхождения в старобелорусском

языке (на материале письменных памятников XV–XVII вв.)» (1977). Значна пазней былі абаронены яшчэ дзве дысертацыі — доктарская дысертацыя А. А. Станкевіч «Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках» (1997) і кандыдацкая дысертацыя С. С. Масленікавай «Германізмы ў дыялектнай мове Гродзеншчыны: структура, семантыка, адаптацыя» (2015).

У кожнай з гэтых дысертацый згадваюцца два важнейшыя шляхі прыходу ў беларускую мову слоў нямецкага паходжання — апасродкаваны і непасрэдны (прамы). Аднак дэталёвага аналізу спецыфікі ўваходжання гэтых слоў у беларускую (старабеларускую) мову мы не знойдзем. Інакш кажучы, гэты падзел на дзве групы даецца аўтарамі як вядомы ўсім факт, хоць гэта, зразумела, далёка не так. Дарэчы, аб гэтым яшчэ ў 1965 г. у грунтоўным артыкуле «Лексіка нямецкага паходжання ў беларускай пісьменнасці XV–XVII стст.» дастаткова падрабязна пісаў А. І. Жураўскі. Аналіз амаль 200 лексічных адзінак нямецкага паходжання і каля 470 вытворных слоў (прыблізна 670 слоў) у помніках старабеларускага пісьменства дазволіў яму зрабіць вывад, што з улікам гістарычных, палітычных і эканамічных умоў жыцця беларусаў у эпоху феадалізму «нямецкая лексіка пранікала ў беларускую мову трыма асноўнымі шляхамі: 1) шляхам непасрэднага запазычвання ад немцаў, 2) праз яўрэйскую мову, 3) праз польскую мову» [4, с. 66].

Першыя два шляхі пранікнення германізмаў у колькасных адносінах асабліва не вызначаюцца, хоць тут ёсць і шмат цікавых прыкладаў, якія заслугоўваюць асобных даследаванняў-артыкулаў. Найбольшая ўдзельная вага ў групе запазычанняў з нямецкай мовы прыпадае на польскую мову, шырокі наплыў германізмаў у якую пачаўся яшчэ ў XIII–XIV стст. і ажыццяўляўся як непасрэдна ў выніку эканамічных і культурных сувязей, так і праз суседнюю чэшскую мову. Што датычыцца так званых чэхізмаў, то ў навуковай літаратуры яны кваліфікуюцца па-рознаму. Напрыклад, А. М. Булыка сцвярджае: «Прыкметнай, але эфемернай з’явай у гісторыі беларускай лексічнай сістэмы было ўжыванне ў біблейскіх тэкстах Ф. Скарыны слоў чэшскага паходжання тыпу *жадость, жаларъ, жизень, заважие, змизати, лебка, ледвина, либивость, локтушие, нутити, ошеметникъ, планый, ратолесный, рерюха, смыркъ, урченый, ятра* і інш. Яны праніклі ў выніку непасрэдных кантактаў беларускага першадрукара з чэхамі ў перыяд выдавецкай дзейнасці ў Празе (1517–1519) і выкарыстання ім пры апрацоўцы тэксту біблейскіх кніг у якасці асноўнага дапаможніка чэшскай Бібліі ў венецыянскім выданні 1506 г. і пазней у беларускай мове не замацаваліся, паколькі для абазначэння адпаведных рэалій і паняццяў у старабеларускай мове былі свае словы» [1, с. 35].

Адзначым таксама, што Л. Машынскі ў працы «Geografia niektórych zapożyczeń niemieckich w staropolszczyźnie» (Познань, 1954) адзначае ў польскіх пісьмовых крыніцах да 1500 г. 575 асноўных запазычанняў нямецкага паходжання і 1180 дэрыватаў — усяго 1755 слоў.

Зразумела, што па стану на сярэдзіну-пачатак другой палавіны XX ст. далёка не ўсе помнікі пісьменства былі дэталёва даследаваны і лексікаграфічна апісаны, многае неабходна было ўдакладніць, супаставіць, класіфікаваць і інш.

**Альдэнбургскі праект па вывучэнню германізмаў.** Новым этапам у вывучэнні германізмаў стаў пачатак XXI ст. Цэнтрам даследавання слоў германскага паходжання ў еўрапейскіх мовах выступіў Альдэнбургскі ўніверсітэт імя Карла фон Асецкі, у якім пад кіраўніцтвам прафесара Герда Генчэля і прафесара Стэфана Энгельберга з Інстытута нямецкай мовы ў Мангайме з 2014 г. ажыццяўляецца міжнародны праект «Lehnwörter auf Wanderschaft» («Блукаючыя (руск. блуждающие) словы»). Першым этапам праекта стала падрыхтоўка грунтоўных бібліяграфій даследаванняў германізмаў у кожнай з трох усходнеславянскіх моў (гл.: Германізмы ў беларускай мове / склад.: А. А. Прыгодзіч, М. Р. Прыгодзіч, Г. Генчэль; пад рэд. М. Р. Прыгодзіча. — Мінск: БДУ, 2015. — 303 с.).

Другі этап — праект «Мігрыруючыя словы: шляхі нямецкіх запазычанняў з польскай ва ўсходнеславянскія мовы». Сувыканаўцамі праекта з'яўляюцца Наталля Хабзей (Львоў), Васіль Круглоў (Санкт-Пецярбург), Аляксандр Малдаван і Кірыл Максімовіч (Масква), Мікалай і Алена Прыгодзіч (Мінск). Зыходнай базай праекта стаў «Слоўнік нямецкіх запазычаных слоў у польскай літаратурнай мове ад пачатку пісьменства да сярэдзіны XX ст.» («Wörterbuch der deutschen Lehnwörter in der polnischen Schriftsprache von den schriftlichen Anfängen bis in die Mitte des 20. Jahrhunderts»)[1], які ў 2010 г. быў выдадзены Анджэем Вінцэзам і Гердам Генчэлем. У 2014 г. гэты слоўнік быў уключаны ў інтэрнэт-партал «Нямецкія запазычанні ў іншых мовах» Інстытута нямецкай мовы ў Мангайме[2].

Названы слоўнік падае толькі «прататыпічныя» запазычанні ў польскай мове, адпаведныя наступным умовам: 1) у іх павінна быць нямецкая або германская этымалогія, г. зн. у нямецкай мове яны не могуць быць запазычаннямі з іншых моў. Напрыклад, польскае *lampa* < сяр.-верх.-ням. *lampe* < франц. *lampe* < нар.-лац. *lampade* сюды не трапляе; 2) яны павінны быць прамымі запазычаннямі з нямецкай мовы ў польскую. Сюды не трапляе, напрыклад, польск. *kielich* < ст. чэшск. *kelich*/*kalich* < сяр.-верх.-ням. *kelch/kelich*.

Акрамя таго, у WDLP прадстаўлены толькі пісьмова засведчаныя нямецкія запазычанні ў польскай мове; яўныя дыялектызмы да ўвагі не прымаюцца. Інакш кажучы, гутарка ідзе аб вузкім вызначэнні «прататыпічных» нямецкіх запазычанняў у польскай мове. Паводле гэтага слоўніка, у складзе польскай мовы з пачатку пісьменства да сярэдзіны XX ст. налічваецца больш як 2 400 прататыпічных германізмаў. У польскай мове другой паловы XX ст. захоўваецца прыблізна 1200 германізмаў.

---

[1] Далей — WDLP.

[2] Доступ у інтэрнэце: http://diglib.bis.uni-oldenburg.de/bis-verlag/wdlp/.

Зразумела, што адной з галоўных задач праекта з'яўляецца вызначэнне, якія польскія запазычанні з нямецкай мовы зафіксаваны таксама ў беларускай, рускай і ўкраінскай мовах. Для гэтага выкарыстоўваліся шматтомныя гістарычныя і этымалагічныя слоўнікі, і найперш іх картатэкі. Гістарычны слоўнік беларускай мовы фіксуе 378 германізмаў, у Тлумачальным слоўніку беларускай мовы — 492 і ў Слоўніку І. Насовіча — 185 германізмаў. З пункту гледжання захаванасці германізмаў у гэтых слоўніках, у беларускай мове налічваецца 685 германізмаў. Калі ж улічыць, што ў Слоўніку І. Насовіча зафіксавана 12 слоў, што адсутнічаюць у Гістарычным і Тлумачальным слоўніках, то ўсяго ў беларускай мове налічваецца 673 германізмы.

Інакш кажучы, з 2 400 нямецкіх запазычанняў у польскай мове, зафіксаваных у WDLP, амаль 700 (685) запазычанняў сустракаецца і ў трох беларускіх слоўніках. А гэта азначае, што амаль адна трэць усіх прататыпічных германізмаў польскай мовы мае або мела адпаведнікі ў беларускай мове. Варта падкрэсліць, што Тлумачальны слоўнік беларускай мовы адлюстроўвае наяўнасць у сучаснай беларускай літаратурнай мове амаль 500 (493) германізмаў з адпаведнікамі ў польскай мове, або 73 % ад агульнай колькасці 685. З улікам жа таго, што ў Гістарычным слоўніку беларускай мовы (уключна і картатэкі) выяўлена амаль 400 германізмаў з нямецкай або германскай этымалогіяй, якія маюць адпаведнікі ў польскай мове і запазычаны ў польскую мову не праз чэшскую мову, можна меркаваць, што колькасць усіх германізмаў у старабеларускай мове павінна быць як мінімум у два разы большай. Гэта значыць, што колькасць германізмаў у шырокім значэнні ўжо ў старабеларускай мове раўнялася як мінімум 800, а то і 1000 [5].

Далейшае даследаванне германізмаў у беларускай мове старабеларускай пары, несумненна, дазволіць не толькі статыстычна дакладна выявіць іх колькасць у помніках старажытнага беларускага пісьменства, але і паказаць тыя зрухі, якія адбываліся з гэтымі словамі ў працэсе іх засваення.

## Літаратура


1. Булыка, А. М. Лексіка іншамоўнага паходжання як крыніца гістарычнага слоўніка беларускай мовы / А. М. Булыка // Мовознавство. — 2015. — № 2. — С. 30–36.
2. Генчель, Г. Германизмы в белорусском языке, имеющие польские соответствия: определение их количества во временной перспективе и проблемы их качественной характеристики / Г. Генчель // Матэрыялы VI Міжнароднага кангрэса беларусістаў (Мінск, 27–29 мая 2015 г.) (у друку).
3. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. — Вып. 1 / гал. рэд. А. І. Жураўскі, рэд. выпуска А. М. Булыка. — Мінск, 1982.
4. Жураўскі, А. І. Лексіка нямецкага паходжання ў беларускай пісьменнасці XV–XVII стст. / А. І. Жураўскі // Германізмы ў беларускай мове / склад.: А. А. Прыгодзіч, М. Р. Прыгодзіч, Г. Генчэль; пад рэд. М. Р. Прыгодзіча. — Мінск, 2015. — С. 60–72.
5. Карский, Е. Ф. Белорусы. Том 1. Введение в изучение языка и народной словесности / Е. Ф. Карский // Германізмы ў беларускай мове / склад.: А. А. Прыгодзіч, М. Р. Прыгодзіч, Г. Генчэль; пад рэд. М. Р. Прыгодзіча. — Мінск, 2015. — С. 6–17.

**Міхал Саевіч** *(Люблін, Польшча)*

# ФОРМЫ НАЗВАЎ ЖОНАК У НАРАЎСКІХ БЕЛАРУСКІХ ГАВОРКАХ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ Ў МІНУЛЫМ І СЁННЯ

## 1. Уступныя заўвагі

Дадзены артыкул мае на мэце прадставіць формы назваў жонак, якія некалі выкарыстоўваліся і якія ўжываюцца сёння ў нара́ўскіх беларускіх гаворках Беласточчыны. Аналізуюцца выключна назвы жонак, утвораныя ад імя мужа пры дапамозе фармантаў *-іχа*, *-ča* і *-ka*. Антрапанімічны матэрыял быў сабраны аўтарам у 1974–1976, 1994–1995 і 2014–2016 гг. у наступных мясцовасцях: Ляўкова Старое (Lewkowo Stare), Ляўкова Новае (Lewkowo Nowe), Капітаншчызна (Kapitańszczyzna), Ахрымы (Ochrymy), Падляўкова (Podlewkowie)[1], Бярнацкі Мост (Bernacki Most)[2], Сушчы Борэк (Suszczy Borek), Навіны (Nowiny), Церамкі (Cieremki), Міхноўка (Michnówka)[3], Эльяшукі (Eliaszuki)[4], размешчаных у заходняй частцы гміны Нара́ўка ў Гайнаўскім павеце.

Сярод жыхароў даследаваных мясцовасцяў пераважаюць нашчадкі перасяленцаў з-пад Свіслачы, Ваўкавыска і Бераставіцы, якія спачатку аселі ў наваколлі Ялоўкі, а затым, у пачатку XVII ст., перасеклі Нараў і дасягнулі ракі Нара́ўка, дзе беларускамоўнае насельніцтва і сутыкнулася з украінскамоўным з прыбужскага і брэсцкага рэгіёнаў[5]. Многіх сялян родам з наваколля Бераставіцы пасялілі ў сваіх уладаннях Ляўкова-Нара́ўка памешчыкі Масальскія. Гэтыя ўладанні ўключалі абшары паміж рэчкамі Нараў і Нара́ўка пад агульнай назвай Нара́ўская пушча. З пачатку XVI ст. да 1975 г. яны былі часткай Гродзенскага павета Троцкага ваяводства на тэрыторыі Ваўкавыскага павета Навагрудскага ваяводства.

«Такім чынам, на працягу некалькіх стагоддзяў на Нара́ўцы сутыкаліся межы чатырох ваяводстваў: Падляскага, Брэсцкага, Навагрудскага і Троцкага. З уключэннем у 1569 г. Падляшша да Кароны рака Нара́ўка стала лініяй мяжы паміж Літвой і Каронай. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай на працягу дванаццаці гадоў рака Нара́ўка была мяжой паміж Прусіяй і Расійскай імпе-

---

[1] Дыялектная назва вёскі — Hałuby.

[2] Дыялектная назва вёскі — Barnaczczyna.

[3] Дыялектная назва вёскі — Michnauka.

[4] Дыялектная назва вёскі — Laszuki.

[5] Пра гісторыю засялення ўсходняй часткі сучаснай Беласточчыны гл.: Wiśniewski J. «Osadnictwo wschodniej Białostocczyzny: geneza, rozwój oraz zróżnicowanie i przemiany etniczne» [25]; ён жа. «Zarys osadnictwa na Białostocczyźnie» [26].

рыяй» [13, с. 3]. Меншую групу жыхароў даследаванай тэрыторыі складаюць абеларушаныя нашчадкі так званых аблаўшчыкаў, стральцоў і ахоўнікаў, якія былі ў мінулым набраныя ў асноўным з жыхароў вёсак з заходняга боку Лядскай пушчы з мэтай аховы лесу, а таксама нашчадкі пакупнікоў зямлі па землеўладальніках напрыканцы XIX — пачатку XX ст., якія перасяляліся з недалёкіх вёсак з-за Нарава *(«zza r'ėčk'i»)* і з аддаленых, з-за лесу, г. зн. з Падляшша *(«zza l"ėsu, s Padl"aša»)*. Невялікі адсотак мясцовага насельніцтва паходзіць ад польскіх перасяленцаў, якія прыйшлі на Нараў і Нараўку ў асноўным з заходняга Падляшша і ўсходняй Мазовіі.

Жыхары даследаваных вёсак, размешчаных уздоўж Нарава, пераважна двухмоўныя. Праваслаўныя хрысціяне карыстаюцца ў штодзённых зносінах між сабой беларускай гаворкай, у кантактах з іншымі людзьмі — польскай мовай. Ступень валодання польскай мовай розная. Часта пажылыя людзі размаўляюць па-польску слаба, у той час як сярэдняе пакаленне і асабліва маладыя — свабодна. Каталікі, у сваю чаргу, у штодзённай камунікацыі звычайна выкарыстоўваюць польскую мову, здараецца таксама, што карыстаюцца мясцовай беларускай гаворкай.

Гаворкі наваколля Нара́ўкі і недалёкай Белавежы — гэта найбольш паўднёвыя беларускія гаворкі на Беласточчыне[1]. У гэтых гаворках выступае аканне, дзеканне і цеканне, мяккае вымаўленне пярэднеязычна-зубных перад [е] і [і], цвёрды [с], займеннік *hety*, а таксама інфінітыў на [*c'*], [*c'i*], параўн.: *rab"ic'* // *rab"ic'i* [6, t. I, карта 1]. Да даследаваных гаворак трапілі адзінкавыя асаблівасці ўкраінскіх гаворак, напрыклад цвёрдыя губныя зычныя перад [*e*], пераход [*e*] ў складах перад націскам у [*i*], канчаткі *-ev'i* // *-ov'i* ў давальным і творным склоне назоўнікаў адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду[2]. Нягледзячы на пэўныя рысы суседніх украінскіх гаворак, гаворкі наваколля Нараўкі з'яўляюцца беларускімі гаворкамі. Належаць яны да паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы, у якім працягваюцца шматлікія асаблівасці паўночна-заходніх украінскіх гаворак [14, с. 39].

## 2. Аналіз формаў назваў жонак у даследаваных гаворках

Вынікі папярэдніх даследаванняў сведчаць, што большасць назваў — вытворныя са словаўтваральнымі фармантамі *-iχa: Al'aks'andryχa ≤ Al'aks'ander, Patr'yχa ≤ Patr'o, P'au̯l'iχa ≤ P'aveł; -ča: Maks"imča ≤ Maks"im, N'ikan'orča ≤ N'ikan'or, S'arγ"ėi̯ča ≤ S'arγ"ėi̯; -ka: I̯'ul'ička ≤ I̯'ul'ik, K'os'c'ička ≤ K'os'c'ik.* Парадыгматычны фармант (-ø) ужываецца выключна пры ўтварэнні жаночых

---

[1] Параўн.: «Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny», карта 1 «Główne linie podziału fonetycznego badanych dialektów Białostocczyzny» [6, t. I, c. 13]; Sajewicz M. «O białorusko-ukraińskiej granicy językowej na Białostocczyźnie» [17].

[2] Параўн. таксама іншыя карты ў [6, t. I].

прозвішчаў: *B"ėl'ska ≤ B"ėl'sk'i, Puč'ynska ≤ Puč'ynsk'i, Sad'ȯu̯ska ≤ Sad'ȯu̯sk'i*. Усё часцей выкарыстоўваюцца назвы жонак на *-ava*, *-ova*, *-ina*, напрыклад *S'ir'ožyna ≤ S'ir'oža, V'it'al'ikava ≤ V'it'al'ik*[1]. Апрача назваў жонак, утвораных пры дапамозе словаўтваральных фармантаў, у даследаваных гаворках існуюць і састаўныя антрапанімічныя ўтварэнні тыпу *N'as'c'a Patr'ova, M'išyna M'an'ka, K'ol'ina L"uba*.

## 2.1. Назвы жонак з фармантам *-iχa/-yχa*

### *2.1.1. Агульныя заўвагі*

На высокую ступень прадуктыўнасці фарманта *-iχa* ва ўтварэнні назваў жонак ва ўсходнеславянскіх літаратурных мовах і гаворках звяртаў увагу між іншым Ф. Слаўскі [21]. М. В. Бірыла і В. П. Лемцюгова заўважылі, што ў «сучасных беларускіх дыялектах антрапонімы на *-iχa/-yχa* — вельмі жывы і прадуктыўны тып назваў жонкі па імені, прозвішчу або мянушцы мужа. У бытавой сферы гэты тып амаль не ведае канкурэнцыі» [1, с. 55–56]. Падобную пазіцыю адносна гэтага пытання займаюць таксама П. У. Сцяцко [3, с. 187–188] і М. Саевіч [16; 19]. Назвы жонак з фармантам *-iχa/-yχa* зафіксаваныя таксама ў шматлікіх літаратурных творах беларускіх аўтараў [5, с. 21 і інш.].

У польскай мове ўтварэнні з суфіксам *-iχa* з'яўляюцца спарадычнымі [10, с. 90]. Значна часцей яны сустракаюцца ў розных сацыяльных варыянтах польскай мовы [22, с. 34 і інш.]. Шматлікія даследчыкі, у тым ліку А. Зарэмба [27], С. Вархал [24], П. Смачыньскі [22], А. Кавальска [11], В. Цыран [7, с. 104], Т. Малец [12, с. 41–43], Л. Дацэвіч [9], звяртаюць увагу на прадуктыўнасць фарманта *-iχa* ў польскіх гаворках, а таксама ва ўсходнеславянскіх гаворках усходняй Беласточчыны і Люблiншчыны. А. Кавальска дакладна вызначыла мазавецка-падляшскія ізаморфы словаўтваральнага фарманта *-iχa* для агульных і ўласных назоўнікаў [11, с. 217–218]. Аўтар выказала думку, што назвы жонак з гэтым фармантам сустракаюцца на кампактнай тэрыторыі ўсходняга Падляшша. Заходняя мяжа распаўсюджання назваў жонак з суфіксам *-iχa*, утвораных ад назваў прафесіі (занятку) мужа, праходзіць па лініі, якая ідзе на захад ад Сувалкаў, Монькаў і Лапаў, а на ўсход — ад Семятычаў, Лосіцаў і Радзыня Падляшскага [11, с. 217–218]. Трохі меншую тэрыторыю займаюць, як паказвае А. Кавальска, утварэнні з *-iχa* ад прозвішчаў і імёнаў

---

[1] Шмат каштоўных заўваг пра формы назваў жонак, якія ўжываліся ў мінулым ва ўсходнеславянскіх гаворках на абшары Падляшша і ВКЛ (на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны), знойдзем у наступных працах: Dacewicz L. «Nazewnictwo kobiet w dawnym powiecie mielnickim (XVI–XVII)» [8]; Tichoniuk B. «Rodzaje antroponimów w nazewnictwie kobiet z Podlasia w XVI–XVII-wiecznych aktach» [23].

мужа [11, с. 217–218]. Падобныя даследаванні П. Смачыньскі [22], С. Вархал [24], Е. Сяроцюк [20] правялі на Люблiншчыне. Вынікі працы паказалі, што назвы жонак з фармантам *-iχa* ўтвараюцца на ўсходняй частцы гэтага рэгіёна, прыблізна да лініі Бэлжыцэ — Радзынь Падляшскі [20].

Назвы жонак з фармантам *-iχa* зафіксаваны таксама на меншых астраўках на ўсходзе Польшчы, не злучаных з кампактнай вобласцю іх распаўсюджання. Назвы, утвораныя ад прафесіі мужа, выступаюць у некаторых месцах Мазовіі, напрыклад у наваколлі Плоньска, Пултуска, Мінска Мазавецкага [7, с. 104]. Дэрываты ад імя і прозвішча мужа занатаваны між іншым на Мазовіі, Келецчызне, у Малапольшчы, у Земі Хелмінска-Дабжынскай, а таксама пад Чанстаховай [27]. У сувязі з тым узнікае пытанне, ці можна фармант *-iχa* разглядаць як генетычна ўсходнеславянскі. Верагодна, варта пагадзіцца з С. Вархалам, які разглядае гэты словаўтваральны элемент як уласнапольскі, падкрэсліваючы, што выступае ён на значнай тэрыторыі Польшчы, прычым таксама на абшарах, якія непасрэдна не мяжуюць з беларускімі ці ўкраінскімі гаворкамі [24, с. 164]. Акрамя таго, С. Вархал заўважае, што гэты словаўтваральны фармант выступае ў розных функцыях амаль на ўсёй тэрыторыі распаўсюджання іншых славянскіх моў [24, с. 164]. Аднак не існуе ніякіх сумненняў, што актыўная прадуктыўнасць дадзенага фарманта ва ўсходніх польскіх гаворках выклікана менавіта ўплывам усходнеславянскіх гаворак і моў, у якіх ён вельмі прадуктыўны.

У дыялекталагічных працах даследчыкі часта падкрэслівалі, што назвы жонак са словаўтваральным фармантам *-iχa* на польска-беларуска-ўкраінскім памежжы маюць нейтральны характар. Такую пазіцыю займаў А. Зарэмба [27]. Даследчык падкрэсліваў, што словаўтваральны элемент *-iχa* ў назвах жонак на пагранiччы не мае эмацыянальнай афарбоўкі. Затое, як узгадваў вучоны, па меры адхілення на захад такія назвы набываюць гумарыстычны або зневажальны характар [27].

Нашыя даследаванні, як праведзеныя ў 70-х і 90-х гг. мінулага стагоддзя, так і пазнейшыя — у 2014–2016 гг., паказалі, што назвы жонак з фармантам *-iχa* могуць мець адмоўную эмацыянальную афарбоўку як ва ўсходнеславянскіх гаворках на тэрыторыі Польшчы, так і ў сумежных з імі польскіх гаворках [18; 28]. Безумоўна, звязана гэта з тым, што ўсходнеславянскія гаворкі ў Польшчы знікаюць, асабліва на Люблiншчыне, а таксама са значным уплывам на іх польскай мовы. Спрыяе гэта архаізацыі даследаваных назваў і змене іх функцыі жаночай намінацыі ў значэнні ‘жонка названай асобы’ на экспрэсіўную, параўн. выказванне рэспандэнта з Ляўкова Новага на Беласточчыне: *kal’'is’ u͜naz͜γavar'yl’i na͜z'amužn’i kab’'ety Patr'yχa, P'au̯liχa | ʒ’'is’aka n’ė | tak n’i͜γav'orat | bo to i̯'akos’ n’ikul’t'urno | n’idal’ik'atno | č'asom tak prazyv'ai̯ut star'yχ b'abou̯ | 'al’e tak u͜'očy to n’i͜vypad'ai̯e skaz'ac’ im.*

Назвы жонак са словаўтваральным элементам *-iχa* ўсё яшчэ існуюць і фіксуюцца даследчыкамі ў беларускіх гаворках уздоўж Нарава. Гэтыя назвы

адносяцца тут, амаль без выключэння, да старэйшых замужніх жанчын і ўдоваў. Выкарыстоўваюцца яны таксама часцей за ўсё асобамі старэйшага пакалення. У такім выпадку, як правіла, фармант *-iχa* характарызуецца нейтральна, з’яўляецца паказчыкам значэння ‘жонка названай асобы’.

Звяртае на сябе ўвагу, аднак, што назвы жонак з фармантам *-iχa* паступова знікаюць, набываючы зневажальнае або іранічна-гумарыстычнае значэнне. Назвы з фармантам *-iχa*, якія ўжываюцца маладымі асобамі ў адносінах да старых жанчын, звычайна маюць зневажальную афарбоўку. Вельмі рэдка формы з дадзеным фармантам ужываюцца ў адносінах да замужніх жанчын сярэдняга ўзросту. Наогул, дадзеныя формы характарызуюцца гумарыстычным або іранічным адценнем. Гэтыя формы ніколі не адносяцца да маладых замужніц. Замест форм на *-iχa* ўсё часцей сустракаюцца састаўныя назвы, параўн. *S’ir'ožyna ž'ònka*, або простыя, параўн. *S’ir'ožyna*, часам формы на *-ova*, *-ava*, параўн. *M’iχał'ova // M'iχaława.*

### *2.1.2. Назвы жонак са словаўтваральным элементам -iχa, утвораныя ад імя мужа*

У даследаваных беларускіх гаворках уздоўж Нарава на Беласточчыне словаўтваральны фармант *-iχa* можа ўтвараць назвы жонак толькі ад некаторых тыпаў імёнаў мужа. Найчасцей ён спалучаецца са словаўтваральнай асновай, якая заканчваецца на групу зычных гукаў. Часам група зычных у словаўтваральнай аснове з’яўляецца вынікам пэўных марфаналагічных працэсаў, уласцівых дэрывацыі назваў жонак. У функцыі матывавальнага слова могуць выступаць як афіцыйныя, хросныя імёны, так і гіпакарыстычныя формы. Націск у такіх формах можа падаць на аснову *Al’aks'andryχa ≤ Al’aks'ander, P'au̯liχa ≤ P'aveł* або на словаўтваральны фармант: *Karp”'iχa ≤ Karp, Kuz’m”'iχa ≤ Kuz’m'a, Patr'yχa ≤ Patr'o*. Дэрывацыі даследаваных назваў уласцівыя розныя марфаналагічныя з’явы.

Утвараючы слова ў значэнні ‘жонка названай асобы’, фармант *-iχa* далучаецца таксама да асноў, якія заканчваюцца на зычныя *-l’, -r, -s, -s’, -š: M’iχal”'iχa ≤ M’iχ'al’, Makar'yχa ≤ Mak'ar, Panas”'iχa ≤ Pan'as, Sabas”'iχa ≤ Sab'es’, Łukaš'yχa ≤ Łuk'aš*. У матывавальных словах націск падае на апошні склад. Калі націск у матывавальным слове пераходзіць на першы склад, то такая аснова спалучаецца з фармантам *-ča*: *M’iχas’'iχa ≤ M’iχ'as’*, але *M”'iχas’ ≤ M”'iχašča*.

Радзей словаўтваральны элемент *-iχa* спалучаецца з асновай на суфікс *-uk, -ik*, параўн. *Kas’c’uč'yχa ≤ Kas’c”'uk, G”'en’iχa ≤ G”'en’ik* (з адсячэннем элемента *-ik*), *T'ol’iχa ≤ T'ol’ik* (з адсячэннем элемента *-ik*)[1].

---

[1] Мужчынскія формы імёнаў *G”'en’a*, *T'ol’a* ў даследаваных гаворках не выкарыстоўваюцца.

Дадзены фармант, акрамя таго, выкарыстоўваецца з мэтай дэрывацыі назваў жонак ад гіпакарыстычных мужчынскіх імёнаў з канчаткам *-a*, асновы якіх, найчасцей аднаскладовыя, заканчваюцца на адзінкавы зычны, параўн. *K'ol'iχa ≤ K'ol'a, M''iciχa ≤ M''ic'a, P''ec'iχa ≤ P''ec'a, S''ašyχa ≤ S''aša, S'ir'ožyχa ≤ S'ir'oža, V'an'iχa ≤ V'an'a, V'as'iχa ≤ V'as'a, V''ic'iχa ≤ V''ic'a*.

Націск у характарызаваных формах знаходзіцца на словаўтваральнай аснове, як і ў матывавальных словах.

## 2.2. Назвы жонак з фармантам -*ča*

### *2.2.1. Агульныя заўвагі*

Назвы жонак з фармантам *-ča* ў беларускіх гаворках натавалі м. ін. П. У. Сцяцко [3, с. 190; 4], Е. С. Мяцельская і Я. М. Камароўскі [2], а таксама М. Саевіч [16; 19]. Дадзеныя формы зафіксаваныя таксама ў шматлікіх літаратурных творах, напрыклад у паэмах «Новая зямля» і «Сымон-музыка» Якуба Коласа. Назвы жонак з фармантам *-ča* выступаюць у дакуменце-люстрацыі Кляшчэлёўскага староства, складзенага Станіславам Дзевялтоўскім Скочкам у 1560 г. (напр. *Andrzeycza Wdowa*[1]).

П. У. Сцяцко звяртае ўвагу на тое, што гэты словаўтваральны элемент можа ўтвараць у беларускіх гаворках назвы жонак ад прафесіі мужа і яго імя. Назвы першага тыпу зафіксаваны ў зэльвенскіх і слонімскіх гаворках, у той час як назвы другога тыпу выступілі на Гродзеншчыне і пад Стоўбцамі. Параўн. занатаваныя П. У. Сцяцко назвы жонак, утвораныя ад імя мужа: *Ad'amča ≤ Ad'am, Al''ešča ≤ Al''es', Ant'ošča ≤ Ant'os', Br'on'išča ≤ Br'on'is', M'iχ'ašča ≤ M'iχ'as', V'inc'ušča ≤ V'inc'us'* [3, с. 190–191].

Назвы жонак тыпу *aγran'omča ≤ aγran'om, mai̯'orča ≤ mai̯'or* П. У. Сцяцко залічвае да рэгіянальных, а фармант *-ča* — да малапрадуктыўных. На думку даследчыка, рэгіянальны характар маюць таксама назвы тыпу *Ad'amča*, аднак, як адзначае аўтар, названы словаўтваральны фармант характарызуецца ў згаданых вышэй гаворках высокай прадуктыўнасцю [3, с. 190–191].

З праведзеных аўтарам дадзенага артыкула палявых даследаванняў вынікае, што назвы жонак з фармантам *-ča*, асабліва ўтвораныя ад імя мужа, на тэрыторыі Польшчы часцей за ўсё выступаюць на польска-беларуска-ўкраінскім памежжы, галоўным чынам у беларускіх гаворках Беласточчыны. Назвы жонак з фармантам *-ča* былі зафіксаваны між іншым у беларускіх гаворках

---

[1] Гл.: Źródła do dziejów Kleszczel. Aneks 2. W województwie podlaskim w ziemi bielskiey lustracya starostwa kleszczelewskiego przez Dziewiałtowskiego w roku tysiąc piecsetsześćdziesiatym czyniona z pomiarą włoczną y placową. Крыніца інфармацыі: Archiwum Państwowe w Białymstoku, Kamera Wojenna i Domen Prus Nowowschodnich w Białymstoku, sygn. 2674 [14, с. 323–360].

на поўнач ад ракі Нараў, у наваколлі Гарадка (Gródka), Ялоўкі (Jałówki), а таксама на поўдзень, у наваколлі Нараўкі і Белавежы.

Гэтага тыпу назвы выступаюць таксама ва ўсходнеславянскіх гаворках на захад ад Лядскай пушчы. Тут, аднак, у назвах жонак пераважае словаўтваральны элемент *-iχa/-yχa.*

Дыскусію выклікае паходжанне дадзенага фарманта. На нашу думку, трэба яго выводзіць з формаў адпаведных прыналежных прыметнікаў. Паказальна, што назвы жонак з фармантам *-ča* ў даследаваных гаворках змяняюцца як прыметнікі, параўн. N. *Iv'anča,* G. *Iv'ančai̯e,* D. *Iv'ančui̯,* A. *Iv'anču,* I. *Iv'ančai̯u,* L. *Iv'ančui̯.* Гэтыя канструкцыі нагадваюць старыя беларускія прыналежныя прыметнікі тыпу *kniahiniaja*, *korolewaja*, *starostinaja.*

Назвы жонак з фармантам *-ča* ўзніклі, несумненна, на аснове мужчынскіх гіпакарыстыкаў, тыпу *Ad'amko, Iv'anko, Mikał'ai̯ko, S'c'ap'anko* шляхам далучэння элемента *i̯*. У назоўным і вінавальным склоне зычны j знік, затое захаваўся ў іншых склонах. Варта заўважыць, што ў даследаваных гаворках не ўзніклі назвы жонак з фармантам *-ča* ад імёнаў, якія не ўтваралі гіпакарыстычных формаў на *-ko: P'otr / P'atr'o.*

Назвы жонак з фармантам *-ča* ў даследаваных нараўскіх гаворках характарызуюцца малой прадуктыўнасцю. Сёння называюць імі, амаль выключна, жанчын найстарэйшага пакалення. У цяперашні час ніхто не акрэслівае такім чынам як маладых замужніх жанчын, так і замужніх жанчын сярэдняга пакалення. Пад формай з фармантам *-ča*, асабліва ў вуснах маладых жыхароў даследаваных вёсак, маецца на ўвазе непачцівае, іранічнае стаўленне асобы, якая звяртаецца да старой жанчыны. У маўленні людзей найстарэйшага пакалення гэтыя назвы могуць мець нейтральнае значэнне 'жонка названай асобы', параўн. у сувязі з гэтым выказванне адной з рэспандэнтак, жыхаркі вёскі Ляўкова Старое, 90 год: *kal''is' to był'o in'akš | i̯'akos' tałkav''ėi̯ | sk'ažeš Iv'anča, M'ikał'ai̯ča, Patr'yχa | i u̯že u̯s'o pan''atne | v''ėdal'i χto tak''i | a c'ap'er nam nam'iš'al'i u̯s'aγ'o na‿k'upu | i svaγ'o | i čuž'oγo | i što s‿taγ'o v'yšło | n'irazbar'yχa | p'an'i bandaruk'ova | ab'o I̯'ankava | Ž'oržykava | toš‿i tak v'ad'omo što I̯'ankava | a čyi̯'a van'a | a n'i‿l''ep'i skaz'ac' pa‿l''ucku | i̯ak to kal''is' | G'i'org'ii̯ča | Maks''imča, P'au̯l'iχa.*

## *2.2.2. Назвы жонак з фармантам -ča, утвораныя ад імя мужа*

Фармант *-ča* ў нараўскіх беларускіх гаворках Беласточчыны часцей спалучаецца з асновамі мужчынскіх імёнаў, чым раней характарызаваны фармант *-iχa.* Выступае ён найчасцей пасля асноў, якія заканчваюцца губнымі зычнымі *m, b, p,* параўн. *Ad'amca ≤ Ad'am, Yaras''imča ≤ Yaras''im, I̯ak''imča ≤ I̯ak''im, Maks''imča ≤ Maks''im, I̯ak'upča ≤ I̯ak'up, I̯'ös'ipča ≤ I̯'ös'ip, P'il''ipča ≤ P'il''ip, Traχ''imča ≤ Traχ''im.*

Аднолькава часта матывавальным словам назваў жонак з фармантам -*ča* з’яўляецца імя мужа, аснова якога заканчваецца на зычны *i̯*, напрыклад: *Al’aks’'ėi̯ča ≤ Al’aks’'ėi̯, Andr'ėi̯ča ≤ Andr'ėi̯, An'opryi̯ča ≤ An'opryi̯, L’iv'ȯnc’ii̯ča ≤ L’iv'ȯnc’ii̯, M’ikał'ai̯ča ≤ M’ikał'ai̯, S’arγ'ėi̯ča ≤ S’arγ'ėi̯.*

Асновай шматлікіх назваў жонак з фармантам -*ča з*’яўляецца мужава імя, аснова якога заканчваецца на зычны -*n: Amal’'anča ≤ Amal’'an, C'iχanča ≤ C'iχan, Ʒ'im’anča ≤ Ʒ'im’an, χaryt'onča ≤ χaryt'on, Iv'anča ≤ Iv'an, I̯'ustynča ≤ I̯'ustyn, Łuki̯'anča ≤ Łuki̯'an, Parf’'ėnča ≤ Parf’'ėn, Raʒ’iv'ȯnča ≤ Raʒ’iv'ȯn, Ram'anča ≤ Ram'an, S’c’ap'anča ≤ S’c’ap'an.*

Фармант -*ča* можа спалучацца таксама з асновамі імёнаў на зычны -*t: Iγn'ač:a ≤ Iγn'at, K'ȯndrač:a ≤ K'ȯndrat, M’ik’'ič:a ≤ M’ik’'ita.*

Нешматлікія дэрываты ў значэнні ‘жонка названай асобы’ ўтвораны ад імя мужа, якое заканчваецца санорнымі зычнымі -*l’, -ł, -r: Gabr'ėl’ča ≤ Gabr'ėl’, T'of’il’ča ≤ T'of’il’, Dan’'il’ča ≤ Dan’'iło, K’ir'yl’ča ≤ K’ir'yło, F'edarča ≤ F'edar, N’ikan'orča ≤ N’ikan'or, Ryγ'ȯrca ≤ Ryγ'ȯr, Vłaʒ’im’'ėrča ≤ Vłaʒ’im’'ėr.*

У якасці выключэння зафіксаваны назвы жонак з фармантам -*ča*, матываваныя імем мужа на зычны -*s, -s’: Bar'yšča ≤ Bar'ys, M'iχašča ≤ M'iχas’, Sal’av'ešča ≤ Sal’av'es’.*

У назвах жонак, утвораных ад мужчынскага імя, якое заканчваецца на зычныя *s’, r,* зафіксаваны нешматлікія структурныя дублеты: *Ryγ'ȯrča ≤ Ryγ'ȯr* і *Ryγar'yχa ≤ Ryγ'ȯr, Sal’av'ešča ≤ Sal’av'es’* і *Salav'es’iχa ≤ Salav'es’.*

Усе прыведзеныя назвы жонак з фармантам -*ča*, матываваныя імем мужа, захоўваюць тое ж месца націску, што і ў матывавальнага слова. Словаўтваральны фармант ніколі не выступае ў гэтых назвах пад націскам.

Варта падкрэсліць, што выбар фарманта ў назвах жонак у нараўскіх беларускіх гаворках вельмі часта залежыць менавіта ад месца націску ў базавым слове, параўн. *M’'iχas’ ≤ M’'iχašča* і *M’iχ'as’ ≤ M’iχas’'iχa, 'Iγnas’ ≤ 'Iγnašča* і *Iγn'as’ ≤ Iγnas’'iχa.*

## 2.3. Назвы жонак з фармантам -*ka*

### *2.3.1. Агульныя заўвагі*

У даследаваных гаворках фармант -*ka* выступае найперш у назвах жонак, утвораных ад прозвішча мужа. Вялікая колькасць утварэнняў такога тыпу тлумачыцца тым, што прозвішчы, якія з’яўляюцца ўтваральным словам, асабліва з суфіксам -*uk*, але таксама і з суфіксамі -*ev’ič*, -*ov’ič*, на даследаванай тэрыторыі найбольш папулярныя. Існуе намнога менш прыкладаў дэрыватаў, утвораных шляхам далучэння фарманта -*ka* да імя мужа. У функцыі ўтваральнага, базавага слова адносна рэдка ў даследаваных гаворках выступаюць назоўнікі на -*uk* і -*ik,* параўн. *F’'eʒ’ik, I̯'ul’ik, Patr'uk.*

У даследаваных гаворках існуе тэндэнцыя да паступовага знікнення гэтага тыпу дэрыватаў і абмежавання сферы іх выкарыстання. Пачынаюць яны траціць сваё, як дасюль, нейтральнае значэнне ‘жонка названай асобы’, у першую чаргу ў маўленні моладзі і жыхароў сярэдняга ўзросту. Усё часцей дадзеныя назвы выражаюць іранічныя, паблажлівыя і гумарыстычныя адносіны асобы, якая гаворыць, да старой замужняй жанчыны або ўдавы. Змена функцыі назваў жонак з фармантам *-ka* звязана, безумоўна, з іх архаізацыяй і паступовай заменай іх назвамі з фармантам *-ova, -ava,* параўн. *Bandar'učka — Bandaruk'ova ≤ Bandar'uk, Yryc'učka — Yrycuk'ova ≤ Yryc'uk, N'ovička — Nav’ik'ova ≤ N'ov’ik.*

#### *2.3.2. Назвы жонак з фармантам -ka, утвораныя ад імя мужа*

У даследаваных гаворках ад мужчынскіх гіпакарыстычных форм на *-ik* могуць утварацца назвы жонак пры дапамозе фарманта *-ka.* У гэтую нешматлікую групу дэрыватаў уваходзяць назвы тыпу: *I̯'ul’ička ≤ I̯'ul’ik, G’'en’ička ≤ G’'en’ik, K'os’c’ička ≤ K'os’c’ik, L’'udv’ička ≤ L’'udv’ik, T'aʒ’ička ≤ T'aʒ’ik.*

Яшчэ радзей фармант *-ka* спалучаецца з формамі імён на *-uk*: *Kas’c’'učka ≤ Kas’c’'uk, Patr'učka ≤ Patr'uk, Pau̯l’'učka ≤ Pau̯l’'uk.*

Зафіксавана некалькі структурных дублетаў: *G’'enička ≤ G’'en’ik* і *G’'en’iχa ≤ G’'en’ik* (адсячэнне элемента *-ik*), *Ž'en’ička ≤ Ž'en’ik* і *Ž'eniχa ≤ Ž'en’ik* (адсячэнне элемента *-ik*).

## 3. Заключныя заўвагі

Традыцыйна назвы жонак у беларускіх нараўскіх гаворках утвараліся часцей за ўсё ад імён мужа пры дапамозе фармантаў *-iχa, -ča* і *-ka.* Гэтыя формы ў мінулым функцыянавалі ў нейтральным значэнні, а фармант *-ka* быў паказчыкам значэння ‘жонка названай асобы’.

У пасляваенны час, асабліва, пачынаючы з 70-х гг. XX ст., назіраецца тэндэнцыя да паслядоўнага знікнення назваў жонак з фармантамі *-iχa, -ča* і *-ka.* Дадзеныя назвы характарызуюць сёння, амаль без выключэння, жанчын старэйшага пакалення. Ужываюцца гэтыя назвы найстарэйшымі асобамі. У такіх умовах назвы жонак захоўваюць сваё нейтральнае значэнне ‘жонка названай асобы’.

У сітуацыі, калі назвы жонак з фармантамі *-iχa, -ča* і *-ka* ў адносінах да сталых жанчын выкарыстоўваюць асобы малодшага або сярэдняга пакалення, звычайна набываюць яны зневажальны або іранічна-гумарыстычны характар. Дадзеныя назвы паступова набываюць функцыю, падобную да функцыі мянушак. Працэсу спрыяе архаічны характар гэтых назваў. Побач з архаізацыяй традыцыйных назваў жонак з фармантамі *-iχa, -ča* і *-ka* выразна актывізуюцца пад уплывам польскай мовы адпаведныя фарманты *-ova, -ava,* часткова *-ina, -yna.*

## Літаратура


1. Бірыла, М. В. Анамастычныя словаўтваральныя элементы ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах / М. В. Бірыла, В. П. Лемцюгова. — Мінск, 1973.
2. Мяцельская, Е. С. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі / Е. С. Мяцельская, Я. М. Камароўскі. — Мінск, 1972.
3. Сцяцко, П. У. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі / П. У. Сцяцко. — Мінск, 1977.
4. Сцяцко, П. У. Дыялектны слоўнік. З гаворак Зельвеншчыны / П. У. Сцяцко. — Мінск, 1970.
5. Шур, В. В. Онім у мастацкім тэксце / В. В. Шур. — Мазыр, 2006.
6. Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. — T. I. — Warszawa, 1980.
7. Cyran, W. Tendencje słowotwórcze w gwarach polskich / W. Cyran. — Łódź, 1977.
8. Dacewicz, L. Nazewnictwo kobiet w dawnym powiecie mielnickim (XVI–XVII) / L. Dacewicz. — Białystok, 1994.
9. Dacewicz, L. Nazewnictwo kobiet w starostwie brańskim w XVI w. / L. Dacewicz // Białostocczyzna. — 1994. — № 4 (36). — S. 69–71.
10. Grzegorczykowa, R. Słowotwórstwo współczesnego języka polskiego. Rzeczowniki sufiksalne rodzime / R. Grzegorczykowa, J. Puzynina. — Warszawa, 1979.
11. Kowalska, A. Mazowiecko-podlaskie zasięgi sufiksu *-icha* w nazwach pospolitych i własnych / A. Kowalska // Rozprawy Slawistyczne 7 / red. S. Warchoł. — Lublin, 1993. — S. 201–218.
12. Malec, T. Budowa słowotwórcza rzeczowników i przymiotników w gwarze wsi Rachanie pod Tomaszowem Lubelskim / T. Malec. — Wrocław, 1976.
13. Michaluk, D. Dobra i miasteczko Narewka na tle dziejów regionu (do końca XIX wieku) / D Michaluk. — Białystok; Narewka,1997.
14. Roszczenko, M. Kleszczele / M. Roszczenko. — Bielsk Podlaski; Kleszczele, 2002.
15. Sajewicz, M. Derywacja sufiksalna osobowych nazw subiektów w nadnarwiańskich gwarach białoruskich Białostocczyzny. Deverbativa, Deadiectiva / M. Sajewicz. — Lublin, 2002.
16. Sajewicz, M. Nazwy żon z formantami *-iχa*, *-ča* w gwarach białoruskich okolic Lewkowa Starego na Białostocczyźnie / M. Sajewicz // Studia Slawistyczne 2 / red. Z. Abramowicz, L. Dacewicz. — Białystok, 2000. — S. 143–154.
17. Sajewicz, M. O białorusko-ukraińskiej granicy językowej na Białostocczyźnie / M. Sajewicz // Rozprawy Slawistyczne 12 / red. F. Czyżewski, M. Łesiów. — Lublin, 1997. — S. 91–107.
18. Sajewicz, M. Przezwiska mieszkańców kilku wsi z białorusko-ukraińskiego pogranicza językowego na Białostocczyźnie / M. Sajewicz // Przezwiska i przydomki w językach słowiańskich. Cz. II // Rozprawy Slawistyczne 15 / red. S. Warchoł. — Lublin, 1999. — S. 59–86.
19. Sajewicz, M. Słowotwórstwo nazw żon w nadnarwiańskich gwarach białoruskich Białostocczyzny / M. Sajewicz // Acta Albaruthenica 1. — Warszawa, 1998. — S. 51–67.
20. Sierociuk, J. Nazwiska żon i córek a procesy słowotwórcze gwar pogranicza / J. Sierociuk // Rozprawy Slawistyczne 7: Systemy onomastyczne w słowiańskich gwarach mieszanych i przejściowych / red. S. Warchoł. — Lublin, 1993. — S. 259–267.
21. Sławski, F. Zarys słowotwórstwa prasłowiańskiego / F. Sławski // Słownik prasłowiański. — T. 1. — Wrocław, 1974. — S. 43–141.

22. Smoczyński, P. Słowiańskie imiona pospolite i własne z podstawowym *-ch-* w części sufiksalnej / P. Smoczyński. — Łódź, 1963.
23. Tichoniuk, B. Rodzaje antroponimów w nazewnictwie kobiet z Podlasia w XVI–XVII-wiecznych aktach / B. Tichoniuk // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства: матэр. III Міжнар. навук. канф.: у 2-х т. / рэд. А. Г. Мезенка. — Т. 2. — Віцебск, 1994. — С. 120–123.
24. Warchoł, S. O ekspresywnej funkcji formantów tworzących nazwiska synów, córek i żon w gwarach ziemi stężyckiej / S. Warchoł // Rozprawy Komisji Językowej Łódzkiego Towarzystwa Naukowego. — 1973. — 19. — S. 161–172.
25. Wiśniewski, J. Osadnictwo wschodniej Białostocczyzny: geneza, rozwój oraz zróżnicowanie i przemiany etniczne / J. Wiśniewski // Acta Baltico-Slavica. — 1977. — XI. — S. 7–80.
26. Wiśniewski, J. Zarys osadnictwa na Białostocczyźnie / J. Wiśniewski // Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. — T. 1. — Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1980. — S. 14–27.
27. Zaręba, A. Formy nazwisk żon i dzieci w dialektach języka polskiego / A. Zaręba // Pisma polonistyczne i slawistyczne. — Warszawa, 1983. — S. 500–569.
28. Zinkiewicz, L. Przezwiska mieszkańców wsi Dratów w województwie lubelskim / L. Zinkiewicz // Rozprawy Slawistyczne 7: Systemy onomastyczne w słowiańskich gwarach mieszanych i przejściowych / red. S. Warchoł. — Lublin, 1993. — S. 361–376.

**Таццяна Сакун** *(Мінск, Беларусь)*

## КАНТЭКСТУАЛЬНЫЯ ІНШАМОЎНЫЯ СІНОНІМЫ І АНТОНІМЫ Ў ПЕРЫЯДЫЧНЫМ ДРУКУ 1920–30-Х ГГ.

Іншамоўныя словы ўплываюць на развіццё і ўзбагачэнне сінанімічных радоў [1, с. 31], аднак запазычанні, у параўнанні з уласнабеларускімі словамі, увасходзяць у меншыя па аб'ёму сінанімічныя групы [5, с. 16]. Запазычаныя сінонімы развіваюць значэнне сэнсавай асновы рада шляхам яго канкрэтызацыі, ліквідуюць полісемію спрадвечнага слова, паведамляюць пра пэўную сферу камунікацыі, у якой яны могуць быць выкарыстаны [3, с. 15]. Калі з'яўленне эквівалентных запазычанняў выклікае дыферэнцыяцыю прагматычных кампанентаў семантыкі спрадвечнага і іншамоўнага сінонімаў, безэквівалентныя запазычанні змяняюць дэнататыўны і сігніфікатыўны кампаненты семантыкі спрадвечных слоў [2, с. 101].

У перыяд 1920–1930-х гг. на старонках беларускай перыёдыкі адбывалася адаптацыя іншамоўных слоў, галоўным чынам шляхам гласіравання. Многія іншамоўныя словы мелі пры сабе адпаведнікі, якія ўзыходзілі да этымона ці блізкага да яго па значэнню слова: ***аграрны*** — *зямельны;* ***агрэман*** — *згода;*

***агрэсія** — напад; **амністыя** — памілаванне, дараванне; **апеляцыя** — абскарджанне; **арбітр** — суддзя, пасрэднік; **валанцёр** — добраахвотнік; **вета*** і ***эмбарга** — забарона; **дэпазіт** — уклад; **інтэрв'ю** — размова, гутарка; **калізія** — супярэчнасць; **камюніке** — паведамленне; **лакальны*** і ***рэгіянальны** — мясцовы; **парытэт** — роўнасць; **прэвентыўны** — папераджальны, папярэдні, ахоўны, перасцерагальны; **ратыфікацыя** — зацвярджэнне; **рэнтабельны** — даходны, прыбытковы; **санацыя** — аздараўленне; **спікер** — старшыня, маршалак; **фермер** — хлебароб, гаспадар, селянін, чыншавік, земляроб, хутаранец, арандатар, кулак, памешчык; **эмерытура** — пенсія; **эмісія** — выпуск* і г. д.

Звяртаюць на сябе ўвагу ўзаемазамяняльныя іншамоўныя словы. Так, у акрэслены перыяд у друку адначасова выкарыстоўваюцца словы ***кантрыбуцыя*** і ***рэпарацыя***: *Пасьля вэрсальскага мірнага дагавору пераможаная Нямеччына павінна была ўплаціць **кантрыбуцыю** ў 100 мільярдаў доляраў, як адшкадаваньне за тыя шкоды, якія яна прычыніла Францыі і Бельгіі* (Ж-28); *з гэтымі **кантрыбуцыямі** (або **рэпарацыямі**)* (Зв.-30, № 10); *атрымаць з Нямеччыны **рэпарацыі** (выплаты)* (СБ-26, № 30). *У амэрыканскіх палітычных і фінансавых колах спадзяюцца ў бліжэйшым часе распачацьця перагавораў аб ваенных даўгах і **рэпарацыях (кантрыбуцыях)** у кірунку зьмяншэньня агульнай сумы…* (Бел. сл.-28, № 1). *Па Вэрсальскай згодзе Нямеччына абавязана плаціць «саюзьнікам» так званыя **рэпарацыі**, г. зн., папросту кажучы, **кантрыбуцыю*** (М-к-26, № 7–8); *konferencyja ŭ sprawie adškadawańniaŭ **(reparacyjaŭ)** za wajennyja straty* (BK-32, № 2); *на ўплату **рэпарацый (кантрыбуцый)** пераможнікам Нямеччыны* (Віц. пр.-32, № 15); *у лік **рэпарацый** (даўгоў)* (Ч/п-32, № 115). Запазычанні ўтвараюць сінанімічны рад: кантрыбуцыя — адшкадаванне — рэпарацыі — выплаты — даўгі.

Са значэннем 'усенароднае галасаванне' актыўна выкарыстоўваюцца іншамоўныя словы ***плебісцыт*** і ***рэферэндум***: *права **плебісцытам** (усенародным галасаваньнем) выявіць сваю волю* (НБ-23, № 3); *каб гэтае пытаньне разьвязала ўсенароднае галасаваньне **(плебісцыт)*** (ГБ(В)-24, № 7); *усенародны **плебісцыт** (галасаваньне)* (БВ-31, № 105); *па wyznačeńnie terminu samoha **plebiscytu** (hałasawańnia)* (BK-34, № 24); ***плебісцыт** (усенароднае галасаванне)* (К/П-35, № 9); *адбываўся **плебісцыт** (выбары) у фолькстаг* (К/п-35, № 50); *ніякага давер'я да захавання тайны **плебісцыту** (галасавання)* (Ч/п-35, № 11); *германскія фашысты назначылі ў Аўстрыі і Германіі **«плебісцыт»** (усенародны допыт), які, як быццам, высветліць адносіны насельніцтва гэтых краін і асабліва Аўстрыі к адбыўшамуся ўзброенаму захопу і гвалтоўнаму далучэнню Аўстрыі да Германіі* (Лен. пр.-38, № 72); *у Германіі і захопленай германскімі фашыстамі Аўстрыі праводзіўся так называемы **«плебісцыт»** (галасаванне)…* (Лен. пр.-38, № 84); *у сувязі з гітлераўскай камедыяй **«плебісцыту»** («народнага галасавання»)* (СЛ(б)-38, № 43); *усенародным галасаваньнем **(рэфэрэндум)*** (ГБ(В)-24, № 3); *на ўсенароднае галасаваньне (гэтак званы*

***«рэфэрэндум»)*** (С/Б-24, № 1); ***рэфэрэндум*** *(галасаваньне грамадзян) у справе зьмены канстытуцыі* (СН-27, № 73); *праводзіць усенароднае апытанне* ***(рэферэндум)*** *па сваёй ініцыятыве або па патрабаванню адной з саюзных рэспублік* (Зв.-36, № 279). *Канстытуцыяй уводзіцца ўсенароднае апытанне* ***(рэферэндум)*** *для тых выпадкаў, калі гэта будзе прызнана неабходным Вярхоўным Советам СССР або адной з саюзных рэспублік* (М/К-36, № 185). *Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР робіць тлумачэнне дзейнічаючых законаў і выдае адпаведныя ўказы, робіць усенароднае апытанне* ***(рэферэндум)*** *па сваёй ініцыятыве або па патрабаванню адной з саюзных рэспублік…* (Віц. пр.-37, № 164); *Канстытуцыяй уводзіцца ўсенароднае апытанне* ***(рэферэндум)*** (К-т-37, № 55). *У сувязі з буйнымі забастоўкамі ва Францыі прадпрыемцы арганізавалі на вялікіх заводах* ***«рэферэндум»*** *(галасаванне) па пытанню аднаўлення работы* (Кім.-38, № 36).

Заўважым, што запазычанне ***плебісцыт*** напачатку мела больш шырокую сферу выкарыстання, ужывалася ў тым ліку ў пераносным значэнні ‘народнае галасаванне’: *У 1925 годзе украінцы правялі першы школьны* ***плебісцыт*** *і падалі польскім школьным уладам больш 100.000 школьных дэклярацыяў з дамаганьнем украінскай мовы навучаньня ў школах* (ВК-36, № 6). Аднак у Канстытуцыю БССР увайшло нейтральнае запазычанне ***рэферэндум***.

Разгледзім іншамоўныя неалагізмы, якія на старонках беларускай перыёдыкі 1920–30-х гг. мелі падобныя адпаведнікі і, такім чынам, маглі ўтвараць сінанімічныя рады.

1) Альянс, блок, кааліцыя, ліга; антанта, аншлюс; унія.

Словы ***альянс***, ***блок***, ***кааліцыя***, ***ліга*** ўжываліся са значэннем ‘саюз, аб’яднанне; злучэнне, хаўрус’:

*так званых рабоча-сялянскіх* ***альянсаў*** *(саюзаў)* (Л-ц(п)-36, № 20); *пашырэнне і ўмацаванне рабоча-сялянскіх* ***альянсаў*** *(саюзаў)* (Ч/п-36, № 42); *каб рабочыя і сялянскія* ***альянсы*** *(аб’яднанні, саюзы. — Рэд.) былі створаны і развіваліся ва ўсёй краіне* (Ш/С-36, № 196); *Нацыянальны* ***альянс*** *(саюз) моладзі* (ЧЗ-38, № 231);

*čati pajstaŭ hety* ***blok****, hetaje zlučeńnie niapolskich narodaŭ* (К-22, № 1); *кандыдаты ў Сойм і Сэнат ад* ***Блёку*** *(хаўрусу) Нацыянальных Меншасьцей* (БЗ-22, № 26); *утварыць сярод іх* ***блёк*** *(саюз) незаможнага сялянства і сераднякоў* (СБ-25, № 127); *стварыць* ***блёк*** *(саюз) з прыбалтыцкіх дзяржаваў* (СН-27, № 5); *u sprawie ŭtwareńnia supolnaha* ***bloku*** *(chaŭrusu) па wybary* (ВК-27, № 48); ***Blok*** *(abjadnańnie) Nacyjanalnych Mienšaściaŭ* (ВК-28, № 17); *учыніць рабоча-сялянскі* ***блёк*** *(саюз)* (МП-30, № 130); *гэтыя дзяржавы ўваходзяць у* ***блёк*** *(саюз) супроць Савецкага Саюзу* (Н/В-30, № 6); *аўстра-венгерскі* ***блок*** *(саюз)* (БВ-33, № 141); *гэты* ***блок*** *(саюз) паўгода кіраваў Расіяй* (Зв.-37, № 227); *пасля стварэння італа-германскага* ***блока*** *(саюза) у Еўропе* (КР-38, № 29);

*аўстрыйскія сацыял-дэмакраты пастанавілі ўвайсьці ў* ***каaліцыю*** *(хаўрус) з буржуазеяй* (СБ-23, № 148); *аб яго поглядзе на* ***каaліцыю*** *(саюз з іншымі партыямі)* (СБ-24, № 5); *да стварэньня кіруючай цяпер краем урадавай* ***коаліцыі*** *(аб'яднаньня)* (Н-26); *сацыялісты займалі ўва ўрадавай* ***каaліцыі*** *(аб'яднаньні) першае кіруючае месца* (СН-27, № 96); *войны, якія вяла рэволюцыя супроць* ***каaліцыі*** *(саюза) контррэволюцыйных манархій* (К/т-39, № 77); *у варожых адзін аднаму* ***каaліцыях*** *(саюзах)* (Ч/зв.-40, № 62).

Іншамоўнае слова ***ліга*** ўдакладняецца запазычаннем ***блок***:

*так званая,* ***Ліга*** *нацыяў (Хаўрус народаў)* (СБ-20, № 88). *Рад дэмакратычных (...) групаў апазіцыі ўтварылі* ***Лігу (блёк)****, якая атрымала назоў «Нацыянальнага Аб'яднаньня»* (СП-24, № 26); *«нэгрскіх* ***лігаў****» (зьвязкаў) ува ўсіх дзяржавах сьвету* (С/Б-24, № 27); *стварыць нацыянальную* ***лігу*** *(саюз)* (СБ-25, № 207); *сарганізаваліся ў «****Лігу*** *(зьвяз, саюз) безработных»* (ВК-33, № 6).

Як кантэкстуальныя сінонімы ў шырокім значэнні 'саюз, аб'яднанне' выступаюць словы ***антанта***, ***аншлюс***, ***унія***:

*Сама* ***Антанта*** *(саюз дзяржаваў, цяпер пабядзіўшых) трашчыць па ўсіх швох* (Бел.-20, № 1); *уладзілі свой пякельны хаўрус пад назваю* ***«Антанта»*** (СБ-20, № 71). *...Не абміне канфэрэнцыя і яшчэ аднаго пытаньня — аб адносінах да савецкіх рэспублік, якія скలаліся ў сваю* ***Антанту****. Колькі цяпер гэтых* ***Антантаў****? Вялікая Антанта, Антанта Сярэдняй Эўропы, Прыбалтыцкая Антанта. Ёсьць, здаецца, Балканская Антанта.* ***Антанта*** *Савецкіх рэспублік — так сама. (...) І ўсе гэтыя* ***Антанты*** *стараюцца, хочуць перамагчы, перахітраваць адна адну* (БЗ-22, № 10); ***Антанта*** *(саюз Англіі, Францыі, Японіі, Бэльгіі і Італіі) прызнала* (СН-27, № 54); *нешта вельмі падобнае на англа-японскую* ***Антанту*** *(саюз); Японія нічога ня мела-б супроць, каб аднавіць* ***Антанту*** *(саюз) з Англіяй* (Зв.-28, № 274); *разгалосьсі паміж ангельска-францускай* ***Антантай*** *(саюзам) і Амэрыкай* (Зв.-29, № 100). *Łatwija i Estonija zaklučajuć sajuz z Litwoj dy jašče i tworać nowuji* ***antantu*** *(sajuz) nadbałtyckich dziaržaŭ* (BK-34, № 32);

*уважаючы мытны саюз падгатоўкай да так зв.* ***«аншлюсу»*** *(аб'еднаньня)* (ВК-31, № 12); *«паміж Аўстрыяй і Германіяй устанавілася такая форма палітычнай салідарнасці, якая роўназначна саюзу ці нават больш таго — маральнаму* ***аншлюсу*** *(далучэнне Аўстрыі да Германіі)»* (Б/П-36, № 160); *справу* ***«Anschlussu»*** *(аб'яднаньня) з Аўстрыяй* (ВК-36, № 40); ***«аншлюс»*** *(далучэнне) Судзета (нямецкай вобласці Чэхаславакіі) да Германіі* (К/п-38, № 61). *У сакавіку месяцы адбыліся два* ***«аншлюсы»****, якія будуць мець вялізарнае значэньне для будучага ўкладу палітычных сіл у Эўропе. Першы «аншлюс» — гэта літоўскі, а другі — аўстрыйскі. Ясна, што паміж двама «аншлюсамі» ёсьць вялікія рожніцы, але ёсьць і падабенствы* (БФ-38, № 4). *Аўстрыйская праблема, пастаўленая ў парадак дня германскімі фашыстамі (****аншлюс****, г. зн. аб'яднанне Аўстрыі з Германіяй), не знімаецца* (Б/Б-35, № 13);

*да мытнай **вуніі** (аб'яднаньня)* (І-25, № 1); *у справе мытнай **вуніі** (аб'еднаньня)* (СН-27, № 9); *праект стварэньня сярэдня эўрапэйскага аб'яднаньня дзяржаваў **(уніі)** — у складзе Малай Антанты, Аўстрыі і Нямеччыны* (Д/п-28, № 3). *На толькі-што адбыўшайся ў Гаваньне канферэнцыі т. зв. «Усеамэрыканскай **Уніі»** (аб'яднаньня ўсіх дзяржаваў абедзьвюх Амэрык — Паўночнай і Паўднёвай (і «Сярэдняй»), разглядалася пэўне ж не бяз згоды Канадзкага ўраду, пытаньне аб далучэньні Канады да складу гэтай «Усеамэрыканскай **Уніі»*** (С/П-28, № 4).

2) Канцэрн, карпарацыя, картэль, сіндыкат, трэст; кампанія, кансорцыум; манаполія.

Са значэннем 'аб'яднанне, саюз; хаўрус' выступаюць словы ***канцэрн***, ***карпарацыя***, ***картэль***, ***сіндыкат***, ***трэст***:

*аб спыненьні плацяжэй буйнейшым германскім **концэрнам** (аб'яднаньнем) па будаўніцтву самалётаў і матораў* (Ч/п-32, № 72); *прадстаўнікі ваенных **канцэрнаў** (аб'яднаньняў ваеннай прамысловасьці)* (Ч/п-33, № 164); *з'яўляючыся палітычным прадстаўніком **канцэрна** (капіталістычна-фінансавага аб'яднання)* (БВ-35, № 72). *Міцуі — старэйшае фінансавае аб'яднанне **(канцэрн)** Японіі* (К(М)-36, № 83); *забастоўцы тыпаграфшчыкаў газетнага **канцэрна** (аб'яднання) «Полонія»* (Ч/п-36, № 105);

*па прыкладу фашысцкіх **корпарацый** (саюз)* (ЧЗ-29, № 22). ***Карпарацыя** — аб'яднанне людзей на аснове якіх-небудзь групавых (прыватных) інтарэсаў з мэтай сумеснай іх абароны, дзейнічаючых як самастойная арганізацыя* (Зв.-35, № 223);

*прамысловыя **картэлі** (аб'яднаньні) далей усьцяж падыймаюць цэны на свае вырабы* (НС-26, № 37); *памянёных прамысловых **картэляў**, (аб'яднаньняў)* (СБ-26, № 291); *вытворцы якіх пазлучаліся ў саюзы **(картэлі)*** (БЗ-32, № 26); *дзяржава ў гэтых **«картэлях»** (хаўрусах прамыслоўцаў) адыгрывае рашаючую ролю* (БЗ-32, № 33); *польскі **картэль** (саюз) цукроўнікаўі* (ВК-33, № 22); *systemaj **kartelaŭ** (sajuzaŭ) ziemlarobskich wytworcaŭ i młynoŭ* (ВК-33, № 35); *пануючыя буйныя прамысловыя аб'яднанні **(картэлі)*** (ПБ-34, № 10);

***сындыкаты** (партыі, хаурусы) рабочых* (СБ(С)-20, № 10); *роль так-званых **Сындыкатаў** (Праф. Саюзаў)* (ЖБ-25, № 3); ***сындыкат** (хаўрус) 160 найвялікшых англійскіх гандлёвых фірмаў* (БЗ-32, № 11);

*нямецка-францускі мэталюргічны **трэст** (саюз прамыслоўцаў)* (НШ(а)-25); *вялізарны амэрыканскі тытуновы **трэст** (аб'яднаньне капіталістаў і фабрыкантаў гэтае галіны прамысловасьці)* (БН-26, № 1); *вялізарныя міжнародавыя **трэсты** (саюзы) вялікіх прамыслоўцаў* (НС-26, № 36). ***Трэст** — аб'яднаньне некалькіх прадпрыемстваў* (БВ-30, № 55); *ня толькі **трэсты** (вялікія аб'яднаньні буйнага капіталу) падлягаюць нацыяналізацыі* (БК-30, № 1); *u baraćbie z **trustami** (sajuzami promysłaŭ)* (Сам.-33, № 2);

*к-т фінансавых экспэртаў выказаўся за ўтварэньне **кансорцыуму** (аб'яднаньне) францускіх банкаў* (СБ-26, № 144).

Некаторыя з пералічаных запазычанняў выкарыстоўваюцца ў адным кантэксце, дзе маюць месца спробы размежавання значэнняў: ***Канцэрны*** *амэрыканскай мэталюргіі, у тым ліку і такія волаты, як сталёвы* ***трэст*** *(...), працуюць са стратамі* (Н/В-32, № 29). *У адным толькі* ***концэрне*** *АЭГ (усеагульная электрычная* ***кампанія****) звольнена 1100 служачых* (ЧЗ-32, № 14); *гэтых самых* ***картэляй*** *(міжнародных* ***трэстаў****)* (СБ-27, № 105); *перад шпаркім разьвіцьцём розных* ***манаполяў, трэстаў, картэляў*** *(розныя тыпы аб'яднаньня банковага і прамысловага капіталу)* (Д/п-28, № 5); *буйныя* ***трэсты, карцелі*** *(аб'яднаньні)* (К(ч)-32, № 72); *па пытаньні аб міжнародных* ***сындыкатах (картэлях)*** (СБ-27, № 113); ***сындыкат (кампанія)*** *фінансістаў* (ЗП-28, № 2). *Чым розьніцца* ***сындыкат*** *ад* ***трэсту****?* (ЧЗ-28, № 21). — ***Трэст,*** *у асноўным, зьяўляецца цесным аб'яднаньнем прадпрыемстваў аднэй галіны вытворчасьці з поўным зьнішчэньнем іх гаспадарчай самастойнасьці, тады, як* ***сындыкат*** *— аб'яднаньне прадпрыемстваў аднэй ці некалькіх галін вытворчасьці са зьнішчэньнем толькі іх комэрцыйнай самастойнасьці. У СССР* ***сындыкатам*** *таксама называецца аб'яднаньне* ***трэстаў*** (ЧЗ-28, № 22).

3) Канвенцыя, пакт, трактат; канкардат; канцэсія; кантракт.

Пералічаныя запазычанні ў названы перыяд выкарыстоўваліся са значэннем 'дагавор, умова, згода, пагадненне':

*падпісаны польска-турэцкія умовы:* ***трактат*** *аб прыязьні, гандлёвая* ***конвэнцыя*** *і* ***конвэнцыя*** *аб аседласьці* (Н/с-23, № 17); *быццам падпісанай міжы ССРР і Вэнгрыяй тайнай ваеннай* ***конвэнцыяй*** *(умовай)* (СП-24, № 12); *вашынгтонскую* ***канвэнцыю*** *(згоду) аб 8-мігадзінным рабочым дню* (СБ-28, № 35); *спэцыяльнай умовы* ***(конвэнцыі),*** *падпісанай абедзьвюма дзяржавамі* (ВК-31, № 10); *аб першым артыкуле праекту* ***канвэнцыі*** *(згоды)* (БВ-32, № 44); *аб падпісаньні* ***канвэнцыі*** *(згоды) аб узгаднялльнай працэдуры паміж Польшчай і Савецкім саюзам* (П/п-32, № 267); *ангельскі праект* ***канвэнцыі*** *(угоды)* (БГ-33, № 1); *хаця-б якую «куцую»* ***конвэнцыю*** *(супольную ўмову)* (РК-33, № 22); *падпісаньне* ***канвэнцыі*** *(дагавору) аб азначэньні агрэсіі* (Р/КБ-33, № 27); ***канвенцыя*** *(дагавор) па раззбраенню* (К/п-34, № 83); ***канвенцыя*** *(пагадненне) аб забароне хімічнай вайны* (С/кам.-34, № 33); *па пытанню аб заключэнні* ***канвенцыі*** *(дагавору) узаемнай дапамогі* (З/сб-35, № 35); *падпісаць агульную* ***канвенцыю*** *(пагадненне) па абмежаванню ўзбраенняў* (Сав. П.(л)-35, № 21); *аб ваеннай* ***канвенцыі*** *(дагавору)* (Ч/п-35, № 297); *турэцкага праекта* ***канвенцыі*** *(дагавора) аб рэжыме праліваў* (Сав. П.(л)-36, № 53); *рыбалоўнай* ***канвенцыяй*** *(пагадненнем)* (Лен. пр.-39, № 77);

*аб гарантыйным* ***пакце*** *(дагаворы)* (СБ-25, № 153); ***пакт*** *(дагавор) з Літвой* (СН-26, № 45); *польскі праект* ***пакту*** *(умовы) аб неагрэсіі (ненападаньні)* (НП-27, № 45); *нямецка-італьянскі* ***пакт*** *(дагавор)* (СН-27, № 1); ***пакт*** *(г. зн. дагавор) Келёга гаворыць аб забароне вайны* (Зв.-28, № 200); *prajekt mižnarodnaha* ***paktu*** *(dahaworu) ab skasawańni na zaŭsiody wajny* (ВК-28, № 41); *правядзеньне ў жыцьцё* ***пакту*** *Кэльлёга (міжнародны дагавор, які*

*абавязвае дзяржавы адмовіцца ад вайны)* (БВ-29, № 3); *аб зацьверджаньні **пакту** Кэльлёга (міжнароднае ўмовы аб забароне вайны)* (БВ-29, № 26); *proby zaklučeńnia **paktu** (umowy) ab nienapadańni* (ВК-31, № 37). *Германія адмовілася ад удзела ва ўсходня-еўрапейскім **пакце** (дагаворы) аб ненападзе і ўзаемадапамозе* (ПК-34, № 136); *Англія больш усяго зацікаўлена ў заключэнні еўрапейскага паветранага **пакта** (дагавора)* (З/ср-35, № 56). *Слова **«пакт»** азначае згода, дагавор паміж дзяржавамі* (ЛС-35, № 46); *пытанне аб **пактах** (згода)* (Ч/п-35, № 214); *рознага роду дагаворы **(пакты),** заключаемыя Савецкім Саюзам з другімі краінамі* (Бальш. сцяг-36, № 5); *быў задуман усходні **пакт** (умова) аб узаемнай дапамозе* (К/прд-36, № 20). ***Пакт** — міжнародны дагавор* (Ч/п-36, № 66); *аб заключэнні паліцэйскага **пакта** (згоды) паміж абодвымі краінамі* (Ч/п-36, № 116);

*Усе польскія законы і **трактаты** (умовы), падпісаныя Польшчай…* (Н/с-23, № 10). *ССРР лучыць з Кітаем палітычны **трактат** (умова)* (ЗБ-25); *праект **трактату** (дагавору), які будзе падпісаны пасьля зацьверджаньня яго праз абодва ўрады* (СН-27, № 9); *Litwa nie padpisała Wersalskaha **traktatu** (dahaworu)* (ВК-28, № 34). *Hałasy za źmienu Wersalskaha **traktatu** (dahaworu) štoraz čaściejšyja i tacniejšyja…* (ВК-33, № 13).

Запазычанне ***канкардат*** мае абмежаванае значэнне ‘дагавор паміж рымскім папам і ўрадам пэўнай дзяржавы’: *Францыя ўжо даўно разарвала саюз **(«конкордат»)** з Рымам* (СП-24, № 10). *Сойм (…) зацьвердзіў умову **(канкардат)** Польшчы з папаю* (СБ-25, № 73); *зьмест **канкардату** (умовы) паміж Польскай Рэспублікай і Папай Рымскім* (БД-25, № 15). *Напалеон пачуў сваю ўладу запраўды змацаванай толькі пасьля **«канкардату»** (угоды) з Рымам* (НС-26, № 35). *Nawat dumajuć ab **Konkordacie** (dahawory) miž Čechijaj i Watykanam* (ВК-27, № 7); *у праекце **конкордату (трактату)** з Ватыканам* (ДП-28, № 4); *піянэрская арганізацыя выступае супроць **канкардату** (дагавор з папай) з яго імкненьнем атручваць дзяцей рэлігійным дурманам* (Зв.-29, № 64); *аб заключэньні **конкардату** (згода з Ватыканам)* (ЧЗ-29, № 7). ***Konkordat** (dahawor) Litwy z Apostalskaj Stalicaj* (К-24, № 12). *Nawat dumajuć ab **Konkordacie** (dahawory) miž Čechijaj i Watykanam* (ВК-27, № 7). ***Konkordatam** nazywajecca ŭmowa kožnaj dziaržawy z Watykanam, jak hałoŭnaj ustanowaj katalickaha kaścioła, u sprawach suadnosinaй pamiž katalickim publičnym žyćciom u tej ci inšaj dziaržawie* (ВК-34, № 22); *пагражаюць нават сарваньнем **конкордату** (умовы з Ватыканам)* (Сам.-37, № 4).

Нягледзячы на абмежаванае значэнне, гэта запазычанне актыўна выкарыстоўвалася на старонках тагачаснага перыядычнага друку, таксама ў пераносным значэнні: *Калі **конкордат** з рымскім папай амаль ня зусім звольніў каталіцкае духавенства ад улады польскай дзяржавы, пакінуўшы вышэйшую ўладу над ім галаве замежнага «Рымскага Інтэрнацыяналу», другі **«конкордат»** — з праваслаўнай царквой — да канца і безапэляцыйна падпарадкаваў царкоўную іерархію і ўсё царкоўнае жыцьцё ў краі — урадава-*

*паліцэйскай апецы і самаволі…* (З/п-26). *Польска-жыдоўскую ўмову, якую падпісалі прадстаўнікі жыдоўскага і польскага народу завуць **«конкордатам»** мусіць дзеля таго, што гэтая ўмова была зроблена і ўвайшла ў сілу бадай адначасна з тым слаўным **«конкордатам»,** які польскі ўрад зрабіў з Рымскім Папай* (СН-26, № 6).

Іншамоўнае слова ***канцэсія*** ўжывалася ў значэнні ‘дагавор — дазвол’: *абісінскі ўрад даў… **канцэсію** (дазвол-**кантракт**) амэрыканскай кампаніі на будову грэблі на Ніле* (Пр-ца-27, № 4). ***Канцэсія** — дазвол, які выдаецца на вядомых умовах дзяржавай прыватным капіталістам на ажыццяўленне той ці іншай гаспадарчай дзейнасці* (Зв.-35, № 223). *Англійскі капітал не супроць прыбраць к рукам і астатнюю частку вобласці Чако, атрымаўшы на яе **канцэсію** (дагавор аб доўгатэрміновай арэндзе. — Рэд. «К. П.») ад Парагвая* (К/п-35, № 37).

Запазычанне ***кантракт*** выкарыстоўвалася ў якасці сіноніма да слова ***ўмова***: *Кантрактацыя, якая азначае ўмову **(кантракт)** паміж сельскаю гаспадаркаю і дзяржаўнаю, ў нашых беларускіх умовах у першую чаргу ставіць сабе мэты: а) умацаваць далейшае пашырэньне пасеўных плошчаў пад ільном, б) падняць ураджайнасьць, в) садзейнічаць разьвіцьцю сельскае гаспадаркі, адначасова прадстаўляючы выгады засеўшчыкам ільна; шляхам добраахвотнае ўмовы (кантрактацыі) з сваім сельска-гаспадарчым каапэратывам* (Н/Б-28, № 30). *Трэба толькі дасканальна азнаёміць сялянства, якія мэты ставіць сабе кантрактацыя як умова **(кантракт)** паміж дзяржаўнай прамысловасьцю і сялянскай гаспадаркай для абодвых бакоў* (Н/Б-29, № 49).

4) Мемарандум, нота.

Словы *мемарандум* і *нота* выступаюць сінонімамі са значэннем ‘заява’: *прапанова саюзьнікаў дае нямецкаму **мэмарандуму** (напамінаньню) новы напрамак* (СБ-25, № 164); *літоўскі **мэморандум** (дыплёматычная **нота**) па пытаньнях аб польскай палітыцы* (ЧЗ-29, № 21). *Урадавыя дэпутаты румынскай часткі прыкарпацкай Русі перадалі Міранэску **мэморандум** (палітычную заяву), у якім яны прапануюць яму настойваць у Варшаве на пабудаваньні прамых чыгуначных зносін паміж Сыгэтулем і Чарнавіцамі…* (ЧЗ-29, № 45); *адносна нядаўна апублікаванага ангельскім друкам **мэморандуму** (палітычная **нота**) нямецкага вайсковага міністра* (ЧЗ-29, № 47); *прадстаўнік германскай дэлегацыі на сусьветнай эканамічнай канфэрэнцыі Гугенберг падаў старшыні канфэрэнцыі **мэморандум** (заяву)* (З/ср-33, № 98); ***мэмарандум** (прапанова) аднаго з правадыроў германскага фашызму Гугэнберга на лёнданскай канфэрэнцыі* (Р/КБ-33, № 27). *Пасол пан Іен перадаў нам адпавядальны **мэмарандум** (заяву)* (Ч/п-33, № 109). ***Мэмарандум** — дакладная запіска альбо дыплёматычная **нота**, у якой выкладаецца погляд ураду на якое-небудзь пытаньне* (Ч/п-33, № 140). ***Мэмарандум** — афіцыйнае паведамленьне, якое выкладае думку ўраду па якому-небудзь пытаньню* (Ч/п-33, № 144). *Югаслаўскі ўрад перадаў у лігу нацый **мемаранду** (заяву) аб тэрарыстычнай дзейнасці*

*югаслаўскіх эмігрантаў…* (БМ-34, № 107). *Аб гэтым яскрава гаворыць **мемарандум** (дыпламатычны дакумент) германскага ўрада перараданага ўрадам Францыі, Англіі, Італіі і Бельгіі, у якім германскі ўрад выказвае сваю незадаволенасць совецка-французскім дагаворам аб узаемадапамозе* (ЛС-35, № 52); *фашысцкая Германія звярнулася (…) з **мэморандумам** (пісьмовай заявай) к англійскаму ўраду* (К/З-36, № 33). *Пытанні прыведзены ў **мемарандуме (ноце)**, складзеным у форме інструкцыі англійскаму паслу ў Берліне…* (К-т-36, № 103). *Совет міністраў разгледзеў германскі **мемарандум (ноту)**, прызнаў яго непрымальным* (Зв.-36, № 55). *У **мемарандуме** (паведамленні), перараданым дзяржавам — удзельнікам Локарно, Гітлер указвае на франка-совецкі дагавор, як на адзіную прычыну разрыву Германіяй Локарнскага дагавора* (К/прд-36, № 24) (СЛ(б)-36, № 26). ***Меморандум** — у дасканаласці азначае «памятная запіска». **Меморандумам** называецца звычайна дыпламатычная **нота**, утрымліваючая многа фактычнага матэрыяла і фармальна прадназначаная як-бы для таго, каб напомніць аб гэтых фактах ураду, якому яна адрасуецца. Фактычна **меморандум** адрозніваецца ад другіх дыпламатычных **нот** толькі тым, што апошнія значна карацей, ўтрымліваюць значна менш фактычнага матэрыяла* (Ш/С-36, № 202).

У асобную групу вылучаюцца іншамоўныя словы, якія маюць больш вузкае лексічнае значэнне, у параўнанні з тымі запазычаннямі, пры дапамозе якіх адбываецца тлумачэнне. Напрыклад, кантэкстуальныя гіперонім ***экспарт*** і гіпонім ***дэмпінг***: *Нязначнае ажыўленьне можна заўважыць яшчэ і ў вугальнай прамысловасьці Польшчы. Яно выклікаецца з аднаго боку палітыкай фашыстоўскага ўраду, які стымулюе **экспорт** шляхам бросавых цэнаў **(дэмпінг)**…* (Б-29, № 7). *У вуснах гэтай буржуазнай газэты савецкі **экспарт** увесь час называецца **«дэмпінгам»** (продаж тавараў за граніцу па цэнах ніжэй сабекошту). Газэта хоча прыкрыць факт магутнага гаспадарчага росквіту Савецкага Саюзу беспадстаўнымі разважаньнямі аб «дэмпінгавым» характары нашага **экспарту*** (Зв.-30, № 144). *Французская прэса востра ляець ваеннага міністра, які (…) закупіў вялізарную партыю радавых макаронаў для арміі, ня гледзячы на афіцыяльна абвешчаны ў Францыі байкот радавага «падрыўнога **экспорту» («дэмпінгу»)**…* (БЗ-31, № 1); *забойчы для сусьветнай гаспадаркі савецкі **дэмпінг**, ці падрыўны **экспорт** (па нясумерна нізкіх цэнах)* (БЗ-31, № 25). *У Германіі ствараецца спецыяльны фонд, які будзе выкарыстан для **дэмпінга** на сусветных рынках. З гэтага фонду, будуць вазмяшчацца экспарцёрам страты ад **экспарту** па цэнах ніжэй сабекошту* (П/п-35, № 144). ***Дэмпінг** — слова англійскае. Яно азначае продаж тавараў на замежным рынку па больш таннай цане, чым на ўнутраным з мэтай альбо знайсці збыт для прадуктаў перавытворчасці, альбо забяспечыць выключнае права (манаполію) на прадаваемы прадукт. Паклёпніцкае абвінавачванне ў **дэмпінгу** было высунута супроць СССР у 1930 г. заходне-еўрапейскімі і амерыканскімі капіталістамі з мэтай падарваць совецкі **экспарт** і тым*

*ускладніць пасняхова праваздімую індустрыялізацыю нашай краіны.* ***Дэмпінг*** *шырока прымяняюць краіны імперыялізма, асабліва Японія* (БП-37, № 96). ***Дэмпінг****, або бросавы* ***экспарт*** *— прадажа тавараў на іншакраінным рынку па штучна зніжаным, брасовым цэнам, пры павышаных цэнах на ўнутраным рынку, з мэтай выцяснення канкурэнтаў на знешніх рынках і забеспячэнні высокіх манапольных цэн на ўнутраным рынку* (Б/З-39, № 34).

Запазычанне ***парламент*** з’яўляецца кантэкстуальным гіперонімам у адносінах да гіпонімаў ***кангрэс***, ***картэсы***, ***ландтаг***, ***меджліс***, ***рыксдаг***, ***рэйхстаг***, ***скупшчына***, ***стортынг***, ***хурал***: *Niamieččupa prystupiła da nowych wybarаŭ и* ***Parlament*** *(Sojm)* (K-24, № 30); *у ангельскім* ***парлямэнце*** *(накшталт дзяржаўнай думы)* (К-т-27, № 59); *пасяджэньні ангельскага* ***парляманту*** *(дзяржаўнае думы)* (БВ-26, № 12); *65 сяброў амэрыканскага* ***кангрэсу (парляманту)*** (СБ-25, № 216); *на выбарах у* ***кангрэс (парламент)*** *Калумбіі* (БВ-35, № 110); *сесія іспанскіх* ***картэсаў (парламента)*** (Зв.-37, № 228); *у прускім* ***ландтагу (парляманце)*** (ЧЗ-30, № 17); *турэцкі* ***мэджыліс (парлямант)*** (СБ-25, № 57); *з дэпутатам першай палаты* ***рыксдагу*** *(швэдзкі* ***парлямант****)* (Зв.-28, № 67); *выбары ў германскі* ***рэйхстаг (парлямэнт)*** (БВ-32, № 134); *югаслаўская* ***скупшчына (парлямант)*** (СБ-26, № 146); *лічбовы склад нарвэжскага* ***парляманту*** *—* ***Стортынга*** (С/П-28, № 4). *Мангольскія газеты публікуюць паведамленне аб выніках закончыўшай сваю работу 20-й сесіі Малога* ***Хурала (парламента)*** (Л/С-36, № 31).

Антанімія — з’ява больш рэдкая, чым сінанімія. Антанімічныя пары ўтвараюцца ў выніку лагічнага проціпастаўлення [4, с. 13]. Антонімы характарызуюць з’яву праз супрацьлеглыя паняцці падобнымі па форме словамі: *Лепшы канькабежац рэспублікі дынамавец Барыс Бальшакоў дагэтуль быў вядомы, як выдатны* ***спрынтэр*** *(бягун на кароткія дыстанцыі). Яго імя фігуруе ў першым дзесятку канькабежцаў Саюза. Аднак слабасцю яго з’яўляліся стайерскія (вялікія) дыстанцыі* (Зв.-37, № 27). *Са старта бег адразу павёў лепшы* ***стайер*** *(бягун на доўгія дыстанцыі) рэспублікі…* (Зв.-35, № 222). *Nielha dać kartawinaй mienš pad* ***minimum*** *(minimum = najmienšaje mahčymaje množstwa), taksama jak nielha dać ich i pa-nad* ***maximum*** *(maximum = najbolšaje mahčymaje množstwa)* (BK-27, № 20). ***Экспорт*** *— вываз тавараў;* ***імпорт*** *— прывоз* (ЧЗ-28, № 17). ***Эміграцыя*** *— выезд з краіны,* ***іміграцыя*** *— уезд у яе* (ЧЗ-28, № 39).

На старонках беларускамоўнай перыёдыкі 1920–30-х гг. знаходзіць адлюстраванне адаптацыя іншамоўных слоў і іх уваходжанне ў сістэму нацыянальнай мовы. Падбор адпаведнікаў да слоў іншамоўнага паходжання, утварэнне сінанімічных радоў з запазычаных і ўласнабеларускіх слоў, запазычанне і засваенне антанімічных пар спрыялі развіццю беларускай літаратурнай мовы ў вызначаны перыяд.

## Скарачэнні

**Б** — Бальшавік. **Б/Б** — Бальшавік Беларусі. **БМ** — Бальшавік Мсціслаўшчыны. **БП** — Бальшавік Палесся. **Б/П** — Бальшавік Полаччыны. **Б/З** — Бальшавіцкі змагар. **Бальш. сцяг** — Бальшавіцкі сцяг. **Бел. сл**. — Беларускае слова. **БВ** — Беларуская вёска. **БГ** — Беларуская газета. **БД** — Беларуская доля. **БН** — Беларуская ніва. **БЗ** — Беларускі звон. **БФ** — Беларускі фронт. **Бел.** — Беларусь. **Віц. пр.** — Віцебскі пралетарый. **ГБ(В)** — Голас беларуса. **Д/п** — Доля працы. **ДП** — Думка працы. **Ж** — Жанчына на барыкадах. **ЖБ** — Жыццё беларуса. **З/п** — За праўду. **З/сб** — За сацыялістычнае будаўніцтва. **ЗП** — Зара працы. **Зв.** — Звязда. **ЗБ** — Зорка беларуса. **З/ср** — Ленінскі шлях (Слуцк). **І** — Іскра. **К/прд** — Калгасная праўда (Асіповічы). **К/П** — Калгасная праўда (Гарадок). **К/п** — Калгасная праўда (Лепель). **К(ч)** — Калектывіст. **К/З** — Камунар Заслаўшчыны. **К-т** — Камуніст. **К/т** — Калгасная трыбуна. **КР** — Калектывіст Расоншчыны. **К(М)** — Камуна. **Кім.** — Кімавец. **Лен. пр.** — Ленінскі прызыў. **Л/С** — Ленінскі шлях (Шуміліна). **Л-ц(п)** — Барацьбіт за калектывізацыю. **ЛС** — Чырвоная Лагойшчына. **МП** — Магілёўская праўда. **М-к** — Маладняк. **М/К** — Маяк камуны. **Н/Б** — На Беларусі. **Н/В** — На варце. **Н** — На прадвесні. **НС** — Народная справа. **Н/с** — Наш сцяг. **НБ** — Наша будучыня. **НП** — Наша праўда. **НШ(а)** — Новы шлях. **П/п** — Палеская праўда. **ПБ** — Піянер Беларусі. **Пр-ца** — Праца. **ПК** — Прымежны камунар. **Р/КБ** — Работніца і калгасніца Беларусі. **РК** — Родны край. **СБ** — Савецкая Беларусь (Мінск). **СБ(С)** — Савецкая Беларусь (Смаленск). **Сам.** — Самапомач. **С/П** — Сіла працы. **СЛ(б)** — Сцяг Леніна. **С/Б** — Сын беларуса. **СН** — Сялянская ніва. **СП** — Сялянская праўда. **С/кам.** — За калгасы. **Сав. П.(л)** — Калгаснік на варце. **Ч/п** — Чырвонаармейская праўда. **Ч/зв.** — Чырвоная звязда. **ЧЗ** — Чырвоная змена. **Ш/С** — Шлях сацыялізма. **BK** — Biełaruskaja krynica. **K** — Krynica.

## Літаратура

1. Амирова, Т. Г. Заимствование и его роль в развитии и обогащении синонимии (на материале разносистемных языков): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / Т. Г. Амирова; Азерб. гос. ун-т. — Баку, 1975.
2. Воробьева, С. В. Системно-структурные преобразования семантики слова в процессе лексического заимствования (на материале новейших англицизмов в русском языке): дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / С. В. Воробьева. — Минск, 2003.
3. Кравченко, С. Ю. Обогащение русских синонимических рядов иностранной лексикой: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.20 / С. Ю. Кравченко; Пятигор. гос. лингв. ун-т. — Пятигорск, 2000.

4. Магамедова, Л. К. Роль иноязычных заимствований в развитии лексической семантики в лезгинском литературном языке: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / Л. К. Магамедова; Дагестан. гос. пед. ун-т. — Махачкала, 2005.
5. Чо Хи Сук. О соотношении синонимических и иных системных характеристик заимствованных и исконных слов в русском языке : автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01 / Чо Хи Сук; Моск. гос. ун-т им. М. В. Ломоносова. — М., 2004.

---

**Марына Свістунова** *(Мінск, Беларусь)*

## ЛЕКСІЧНЫЯ ПАЛАНІЗМЫ Ў «АПОКРЫСІСЕ» ХРЫСТАФОРА ФІЛАЛЕТА

Уплыў польскай мовы на беларускую, неаднолькавы па інтэнсіўнасці ў розныя гістарычныя перыяды, — даўно вядомы і агульнапрызнаны факт[1]. Аляксей Пятровіч Груца ў адным са сваіх артыкулаў піша: «як аб гэтым пераканаўча сведчаць дадзеныя картатэкі “Гістарычнага слоўніка беларускай мовы”, паланізмы ў часы позняга сярэдневякоўя (XVI–XVII стст.) складалі звыш чвэрці слоўнікавага складу старабеларускай мовы» [4, с. 538].

Польскамоўны ўплыў праяўляўся на ўсіх моўных узроўнях у розных па стылявой і жанравай прыналежнасці старабеларускіх творах. Але асабліва моцна ён адчуваецца, калі твор быў напісаны па-польску і потым перакладаўся на старабеларускую мову, як гэта адбылося, напрыклад, са знакамітым «Апокрысісам» Хрыстафора Філалета (польскі варыянт выйшаў з друку ў Вільні ў 1598 г., старабеларускі — у Астрозе ў 1599 г.). У тэксце помніка паслоўны пераклад выразіўся ў дадаванні да польскамоўных каранёў старабеларускіх слова- і формаўтваральных афіксаў і надання такім чынам цэлай словаформе больш-менш усходнеславянскага аблічча.

У гэтым выпадку вельмі складана гаварыць пра паланізмы наогул, лексічныя паланізмы ў тым ліку. Аднак пры больш уважлівым аналізе граматычных сродкаў становіцца відавочна, што моўная аснова старабеларускага варыянта застаецца ўсё-такі ўсходнеславянскай. Гэта азначае, што ў ім можна вылучаць іншамоўныя элементы, прынамсі моўныя элементы польскага паходжання.

У няпростай справе даследавання паланізмаў даводзіцца сутыкнуцца з яшчэ адной цяжкасцю ўжо тэрміналагічнага характару. Як гэта ні парадаксальна, але ў айчыннай навуковай літаратуры цяжка знайсці абгрунтаваныя азначэнні і канкрэтныя крытэрыі таго, якія ж наогул словы трэба лічыць па-

---

[1] Пра гэта гл., напр.: [1, с. 253–255; 2, с. 7–8; 6, с. 95, 102; 7, с. 7, 9; 8, с. 9–10; 14, с. 90–91].

ланізмамі. Агульныя дэфініцыі накшталт «паланізмы (ад новалац. *polonus* — польскі) — словы або выразы, запазычаныя з польскай мовы» [10, с. 94], «паланізм, -у, м. Слова або выраз, запазычаныя з польскай мовы. (Ад новалац. *polonus* — польскі)» [13, с. 625] не могуць служыць надзейнымі крытэрыямі пры вызначэнні паланізмаў.

Больш шырока пра паланізмы паведамляецца ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» і ў «Беларускай энцыклапедыі»: «паланізм, слова, запазычанае з польскай мовы. У беларускую мову пачалі пранікаць з канца 14 ст. Працэс актыўнага папаўнення слоўніка беларускай мовы паланізмамі працягваўся да 1930-х гг. Запазычанне іх адбывалася 2 шляхамі: вусным <…> і пісьмовым <…> . Сярод паланізмаў выдзяляюцца грамадска-палітычныя тэрміны, ваенныя, бытавыя словы, прастамоўныя. Праз польскую мову ў беларускую лексіку прыйшла значная колькасць слоў з іншых моў» (Далей называюцца некаторыя фанетычныя, марфалагічныя і словаўтваральныя прыметы паланізмаў сучаснай беларускай мовы. — *М. С.*) [11; 12]. Аднак і гэтае азначэнне не з’яўляецца дастатковым, хаця і падае асноўныя фармальныя моўныя прыметы, паводле якіх сучасныя адзінкі лексікі беларускай мовы можна кваліфікаваць як паланізмы.

У нас жа гаворка не пра сучасную лексіку, а пра старажытную, і, зразумела, дыяхранічны падыход патрабуе карэкціроўкі. І калі для фанетычных, словаўтваральных, граматычных паланізмаў старажытнай пары можна выявіць, апісаць і падаць канкрэтныя фармальныя прыметы, то для лексічных паланізмаў такія прыметы вызначыць нельга, хіба што можна назваць лексіка-семантычныя групы, у якія запазычваліся словы з польскай мовы.

Маючы справу са старажытнымі моўнымі сістэмамі, да лексічных паланізмаў варта адносіць словы, якія ўзніклі і/або былі вядомы спачатку ў польскай мове, а пазней сталі выкарыстоўвацца і ў старабеларускай з тым жа значэннем (значэннямі); натуральным выглядае супадзенне семантычнага аб’ёму, а таксама фанетычнае і граматычнае афармленне такіх старабеларускіх лексем на ўзор польскай мовы.

**А.** Як вядома, шматлікія запазычанні з лацінскай, нямецкай, італьянскай, французскай і іншых моў маглі трапляць у старабеларускую мову ў «спольшчаным» варыянце — часта яны фіксуюцца з выразнымі польскамоўнымі фанетычнымі, словаўтваральнымі, граматычнымі рысамі, цалкам ці часткова супадае і семантычны аб’ём суадносных польскіх і старабеларускіх лексем, а таму апошнія часам кваліфікуюцца як паланізмы. Аднак па сваёй сутнасці яны з’яўляюцца транслятарамі ў старабеларускую мову праз польскую з трэцяй мовы. Пры гэтым, паспеўшы адаптавацца ў самой польскай мове, у старабеларускую такія паланізмы-транслятары часам трапляюць ужо з выразным польскамоўным афармленнем ці асаблівасцямі.

Адзін з паказальных прыкладаў гэтага знаходзім у «Апокрысісе» Хрыстафора Філалета. Твор рэлігійна-палемічны, яго з’яўленне было выклікана

Брэсцкай царкоўнай уніяй 1596 г., таму ў тэксце часта сустракаецца назоўнік лацінскага паходжання *pāpa* ‘вярхоўны галава рымска-каталіцкай царквы і дзяржавы Ватыкан’ [15, т. 8, с. 153]. У польскай мове гэты назоўнік трансфармаваўся ў *papiez* і ў адпаведным графічным выглядзе адзначаецца ў старабеларускім творы: 1) ***papieża*** *Rzymskiego* (3) — ***папежа*** *Римского* (9), 2) *Liberius* ***papież*** (98) — *Либерій* ***папѣжъ*** (64) і інш. Корань *папеж-* выдзяляецца і ў вытворных словах *папежство, папежникъ*. Вельмі рэдка сутракаецца напісанне *папа.*

Яшчэ адзін прыклад з тэксту помніка — словы *офѣра, офѣровати* і інш. аднакарэнныя: <…> *y па wszelkim mieyscu bywa ти* ***ofiarowana ofiara*** *czysta* (128) — <…> *на всякомъ мѣсцу бываетъ ему* ***офѣрована офѣра*** *чиста* (84 адв.).

Паводле «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (далей — ЭСБМ), назоўнік *ахвяра* вядомы ў «ст.-бел. з канца XV ст. *офяра* і *офера* (Гіст. мовы, 1, 198, 218), з першай палавіны XV ст. *ѡферовати* ‘ахвяраваць, даваць зарок’ (Нас. гіст.; Гіст. мовы, 1, 52) <…> Запазычана з польск. *ofiara* (ст.-польск. *ofiera), ofiarować* <…>, дзе з чэш. *ofera*, ст.-чэш. *offera, offerovati* ад лац. *offere* ‘запрапанаваць, прынесці ў дар’ <…>» [15, т. 1, с. 215].

Па сутнасці, такога кшталту словы паходзяць з лацінскай мовы і набылі рысы, характэрныя для польскай мовы, таму называць іх паланізмамі не зусім правамоцна. Ім больш адпавядае, на наш погляд, назва *паланізмы-транслятары* — словы, якія пераносяць (транслююць) лексічныя адзінкі з адной моўнай сістэмы ў другую і пры гэтым надаюць ім выразныя рысы (фанетычныя, словаўтваральныя, граматычныя) польскай мовы. Аднак паланізмы-транслятары не можна адносіць да лексічных паланізмаў.

**Б.** Сітуацыя з лексічнымі паланізмамі значна ўскладняецца ў выпадку слоў, якія з’яўляюцца спадчынай праславянскага лексічнага фонду. Так, напрыклад, звычайна назоўнік *рокъ* са значэннем ‘год; тэрмін’ адносяць да лексічных паланізмаў [3, с. 186; 6, с. 94]. Прывядзём прыклады, выяўленыя ў «Апокрысісе», дзе назоўнік *рокъ* выступае з асноўным значэннем ‘год’: <…> *панованьѦ кролевствъ наших полского осмого, а швецкого второго* ***року*** (38); *на кождый* ***рокъ*** (128 адв.) і інш.

Аднак лексема *рокъ* узыходзіць да праславянскага **rokъ* ‘дамоўлены час, тэрмін’ ад **rekti* ‘сказаць’ і «першапачаткова азначала ‘нешта дамоўленае’ <…>, альбо дамоўленасць у прававых адносінах, якая, як правіла, вызначалася тэрмінам на 12 месяцаў — такім парадкам слова **rokъ* атрымала значэнне ‘год’ <…>. Таму неабавязкова выходзіць з меркавання аб запазычанні ст.-бел. *рокъ* з польск. *rok*. Прасл. **rokъ* генетычна звязваецца з ст.-інд. *racanam* ‘распарадак’, гоц. *ragin* ‘думка’, ‘розум’, *rahnjan* ‘разлічваць’, тахар. A *rake*, B *rekti* ‘слова’, алб. *rok* ‘тэрмін’, ‘рашэнне’ …» [15, т. 11, с. 178–179].

Такім чынам, не адмаўляючы, што шырокае выкарыстанне лексемы рок ‘год’ у старабеларускай мове падтрымлівалася ўжываннем адпаведнай

польскамоўнай формы, тым не менш лічыць яго лексічным паланізмам неправамерна.

Яшчэ прыклад — адмоўны займеннік *жаденъ* ('ніхто', выражае суб'ектныя адносіны) і *жадный* ('ніякі', выражае аб'ектныя адносіны): *владыкове <…> не толко трактаты строили, але и такіе речи признали, которыхъ николи **жаденъ** греческой рѣлеи члкъ не признавал* (44 адв.); *свѣтскіе люде до розъсоудку наоуки о вѣре, права **жадного** не маютъ* (58); ***жадной** отмѣны позволити не хочемо а ни можемо* (34 адв.);

Паводле даных ЭСБМ, першая пісьмовая фіксацыя займенніка *жаденъ* у старабеларускай мове адносіцца да 1338 г. [15, т. 3, с. 201]. Традыцыйна ён трактуецца як паланізм [2, с. 136; 9, с. 271–272]. Аднак «існуюць дзве этымалагічныя версіі паходжання слова: з кораня **żęd-* (гл. *жадаць, жадзён)* або з выразу **ni-že-jedьnъ*. Агляд іх даў Трубачоў, які прыводзіць шэраг фактаў і паралелей і абгрунтавана схіляецца да другой, звяртаючы ўвагу на ўкр. *жоден* <…>» [15, т. 3, с. 201]. Трубачоў звяртае ўвагу на адсутнасць насавога галоснага ў корані польскага слова *żaden*, які быў бы заканамерным пры ўмове паходжання ад праславянскага **żęd-*.

Адпаведныя словы з такім жа значэннем зафіксаваны, акрамя польскай і беларускай, таксама ва ўкраінскай, чэшскай, славацкай, верхня- і ніжнялужыцкай мовах, а таксама ў некаторых рускіх дыялектах (смал., кур., варонеж., пaўд., свярдл.) (паводле [15, т. 3, с. 201]).

Верагодна, у гэтым выпадку мы маем справу з праяўленнем рэштак дыялектных асаблівасцей праславянскай пары, а не з больш позняй інавацыяй пад уплывам польскай мовы, хаця ўдзел апошняй у падтрымцы ўжывання гэтых формаў у старабеларускай мове адмаўляць, безумоўна, нельга.

Адносна паходжання займенніка *жадний* ва ўкраінскай мове яшчэ раней украінская даследчыца Л. Л. Гумецкая выказалася так: «Не проще ли отнести эту украинско-западнославянскую общность к полигенетическим явлениям, возникающим самостоятельно в разных центрах языковой территории?» [5, с. 226].

Ці гэта рыса, што ўзнікла ў розных гаворках незалежна, ці гэта рэшткі агульнай праславянскай спадчыны, дакладна сказаць немагчыма, але зразумела адно — уласна лексічным паланізмам старабеларускі займеннік *жаденъ, жадный* не з'яўляецца. Тут дарэчы будзе прыгадаць словы вядомага беларускага мовазнаўцы У. В. Анічэнкі, які заўважыў: «…адны і тыя ж словы маглі адначасова пашырацца на польскіх і сумежных з імі беларускіх і ўкраінскіх землях. Лексемы гэтага тыпу можна разглядаць як агульны здабытак трох суседніх народаў і ў адносінах да Беларусі лічыць уласна беларускай і ўкраінскай лексікай» [1, с. 42].

Літаральна на самым пачатку «Апокрысіса» — у прадмове да першай часткі — знаходзім выразы: *vpatruię **omyłkę** troiaką* (1) — *усмотрую въ ней **помылку** троякую* (7 адв.); *Ktora to **myłka**, gdzieby się każda zosobna wywodzić y*

*pokazować miała, siłaby o tym pisać* (1) — *Которая то* **мылка**, *гдѣбы ся каждая зособна выводити и показовати мѣла, сила о томъ писати* (8).

Адносна першай пары слоў (*отyłka — помылка*) не ўзнікае ніякіх сумненняў: абодва маюць праславянскі корань *myl-, яны ўтвораны па аднолькавай мадэлі (суфіксальнае словаўтварэнне), пры дапамозе аднолькавага словаўтваральнага сродку (суфікса -*к*-); аднак утваральнай асновай у адным выпадку выступае частка інфінітыва *omyl-a-ć (się)*, а ў другім — інфінітыва *памыл-я-цца* < *мыл-я-цца* [15, т. 8, с. 145].

У другой пары слоў (*tyłka — мылка*) сітуацыя выглядае інакш. Зразумела, што ў аснове іх усё той жа праславянскі корань *myl-, ад якога пры дапамозе суфікса -*к*- і быў утвораны аддзеяслоўны назоўнік, але ўзнікае пытанне: існавала такая лексема ў старабеларускай мове як уласнае ўтварэнне ці была цалкам запазычана з польскай мовы і, значыць, з'яўляецца лексічным паланізмам? ЭСБМ фіксуе дзеяслоў *мыліцца* з указаннем, што ён паходзіць з польскага *mylić się, mylać* 'памыляцца, уводзіць у зман' і адзначаны ў асноўным у паўднёва-заходніх беларускіх рэгіёнах, хаця сустракаецца на ўсходзе і ў цэнтры Беларусі [15, т. 7, с. 115].

На прыкладзе ілюстрацый з «Апокрысіса» Хрыстафора Філалета можна акрэсліць кола праблем, якія звязаны з разуменнем семантычнага напаўнення тэрміна *лексічны паланізм* і скарэкціраваць яго ў дачыненні да беларускай моўнай сістэмы старажытнай пары.

Яшчэ ў 1970 г. А. І. Жураўскі пісаў: «…праблема паланізмаў наогул з'яўляецца найбольш складанай у беларускай лексікалогіі. Аб'ектыўную цяжкасць пры вывучэнні гэтага разраду запазычанняў у беларускай мове складае выключная блізкасць слоўнікавага саставу польскай і беларускай моў у семантычных і словаўтваральных адносінах. У якасці папярэдняга меркавання можна лічыць, што такая блізкасць тлумачыцца некалькімі асноўнымі прычынамі: захаваннем агульнаславянскай дыялектнай спадчыны; утварэннем новых лексічных адзінак на глебе самастойнага існавання гэтых моў па аднолькавай словаўтваральнай мадэлі; запазычваннем з адной мовы ў другую ў выніку цеснага ўзаемадзеяння паміж гэтымі мовамі на працягу ўсяго старажытнага перыяду» [6, с. 89].

У гэтых словах вядомага беларускага лінгвіста фактычна акрэслены напрамкі магчымых даследаванняў у справе дыяхранічнага вывучэння паланізмаў. І застаецца толькі канстатаваць, што поле дзейнасці ў межах гэтых напрамкаў вельмі і вельмі шырокае.

## Літаратура

1. Анічэнка, У. В. Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі / У. В. Анічэнка. — Мінск, 1969.
2. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы / А. М. Булыка, А. М. Жураўскі, І. І. Крамко. — Мінск, 1979.
3. Булыка, А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV–XVIII стст. — Мінск, 1980.
4. Груца, А. Пра некаторыя даўно забытыя паланізмы ў беларускай мове / А. Груца // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства: зб. матэр. V Міжнар. навук. канф. у 3-х ч. — Ч. 3. — Віцебск, 1997. — С. 538–541.
5. Гумецкая, Л. Л. К истории украинско-польских языковых связей / Л. Л. Гумецкая // Исследования по польскому языку. — с. 219–228.
6. Жураўскі, А. І. Паланізмы / А. І. Жураўскі // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы / рэд. А. Я. Баханькоў, А. І. Жураўскі, М. Р. Суднік. — Мінск, 1970. — С. 89–104.
7. Жураўскі, А. І. Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання / А. І. Жураўскі, І. І. Крамко. — Мінск, 1973.
8. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3-х т. — Т. 3: Очерки словесности белорусского племени / Е. Ф. Карский. — Минск, 2007.
9. Мякишев, В. Язык Литовского Статута 1588 года / В. Мякишев. — Краков, 2008.
10. Сцяцко, П. У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкі, Л. А. Антанюк. — Мінск, 1990.
11. Сцяцко, П. У. Паланізм / П. У. Сцяцко // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. — Т. 11. — Мінск, 2000. — С. 536.
12. Сцяцко, П. У. Паланізм / П. У. Сцяцко // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. — Т. 4. — Мінск, 1987. — С. 147.
13. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. — Т. 3. — Мінск, 1979.
14. Шакун, Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. — Мінск, 1984.
15. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. — Мінск, 1978–. (Выданне працягваецца.)

**Вольга Трацяк** *(Варшава, Польшча)*

# МОЎНАЯ ПАЛІТЫКА ПОЛЬШЧЫ І БЕЛАРУСІ (УПЛЫЎ НА АЙКОНІМЫ ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАГА ПАМЕЖЖА)

> Język stanowi niezbędny i najdoskonalszy środek oraz konieczny warunek dostatecznego i skutecznego porozumiewania się członków określonej grupy etnicznej, celem wspólnej a owocnej działalności kształtującej jej historyczny byt, którego rozwój poprzez etapy różne treścią i zakresem dociera stopniowo do etniczno-terytorialnych formacji narodu i państwa.
>
> *Zenon Klemensiewicz [19, s. 3]*

Пытанні моўнай палітыкі ў адносінах да айканімічных найменняў шырока абмяркоўваліся як польскімі (Аляксандра Цеслякова, Эва Вольніч-Паўлоўская, Эва Жэтэльска-Фелешка) так і беларускімі (Валянціна Лемцюгова, Ігар Капылоў, Ірына Гапоненка) мовазнаўцамі. Патрэба ўзнаўлення дыскусіі па гэтай праблеме вынікае з сучаснай моўнай палітыкі Польшчы і Беларусі, якая вядзецца на ўзроўні заканадаўства і міжнародных пагадненняў гэтых краін.

Аб’ектам нашага аналізу з’яўляюцца афіцыйныя айконімы польска-беларускага памежжа. Тэрыторыя, вызначаная для аналізу, умоўна адносіцца да абшару, які ўключае: на тэрыторыі Польшчы — Аўгустоўскі, Бельскі, Гайнаўскі і Сакольскі паветы, на тэрыторыі Беларусі — Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Гродзенскі, Зэльвенскі, Мастоўскі, Шчучынскі раёны Гродзенскай вобласці і Брэсцкі, Жабінкаўскі, Камянецкі, Кобрынскі, Маларыцкі і Пружанскі раёны Брэсцкай вобласці.

Мэта артыкула — знайсці адказы на наступныя пытанні: Што такое моўная палітыка? Як рэалізуецца моўная палітыка ў Польшчы і Беларусі? Які ўплыў моўная палітыка мае на айконімы польска-беларускага памежжа?

## Моўная палітыка (агульныя палажэнні)

На пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя Беларусь і Польшча, як і іншыя славянскія краіны, знаходзіліся ў сітуацыі сістэмнай трансфармацыі. Змена палітычнага ладу ў кожнай са згаданых краін абумовіла новы падыход да пытанняў моўнай палітыкі.

Рэалізацыя моўнай палітыкі ў дзяржаве поўнасцю супадае з палітычнымі мэтамі кіруючай партыі (кіруючага ўрада), якая на аснове законаў, Кансты-

туцыі, адукацыйна-культурнай палітыкі і інш. можа ажыццяўляць свае, не заўсёды ўсвядомленыя задачы.

Само паняцце *моўная палітыка* (*polityka językowa*), па словах Адама Паўлоўскага: «…jest także podatne na instrumentalizacje, co sprawia, że definiowanie jest różne, w zależności od miejsca, czasu i doraźnych potrzeb władzy» (цыт. па [21, с. 36]). Магчыма, таму стаўленне да тэрміна *моўная палітыка* сярод польскіх навукоўцаў на працягу доўгага часу выклікала крайне розныя рэакцыі, вельмі часта негатыўныя [21, с. 36–39].

Адна з першых сучасных польскіх фармулёвак, якая раскрывае значэнне паняцця *моўная палітыка*, належыць мовазнаўцу Валерыю Пісарэку, які вылучае чатыры галоўныя пункты: «1. że jest ona (моўная палітыка. — *В. Т.*) częścią działań kulturalnych polityki państwa i in. podmiotów, 2. że reprezentuje wartości narodowe, ale też ekonomiczne, 3. że w tej polityce znajdują się określone składniki polityki informacyjnej państwa, 4. że spośród wielu funkcji języka szczególne zainteresowanie budzi funkcja integracyjna, dopingująca i kulturotwórcza» [22, с. 13–18]. Даследчык акрэслівае асноўныя напрамкі развіцця мовы, адпаведныя сучаснай глабальнай сітуацыі.

Сваю дэфініцыю тэрміна прапануе таксама Станіслаў Гайда. Паводле яго, *моўная палітыка* — гэта «ogół podejmowanych w pewnej społeczności działań nakierowanych na kształtowanie jej sytuacji językowej (systemu językowego i jego funkcjonowania, świadomości językowej, stosunku między językiem własnym a innymi, czynników determinujących zachowanie języków itp.)» [17, с. 38].

Як заўважае Уладзіслаў Любас, пастаноўка мэт моўнай палітыкі і іх рэалізацыя мае непасрэднае адлюстраванне ў нацыянальнай палітыцы, якая вядзецца дзяржавай [21, с. 44]. Назіраецца наступная залежнасць. Моўная палітыка таталітарных дзяржаў, у пераважнай большасці выпадкаў, імкнецца да дамінацыі адной мовы (пануючай дзяржавы, буйнейшай, больш развітай, з трывалай гістарычнай спадчынай, высокай развітай культурай). У той час краіны з дэмакратычнай палітычнай сістэмай (у пераважнай большасці) дбаюць аб раўнапраўным карыстанні ўсіх моў, якімі паслугоўваюцца грамадзяне гэтых краін [21, с. 44]. У дэмакратычных краінах, дзе законам прадугледжваецца адна дзяржаўная мова, гарантуецца свабоднае карыстанне нацыянальнымі і рэгіянальнымі мовамі меншасцяў, асабліва на лакальным камунікацыйным узроўні.

Такім чынам, моўная палітыка мае на ўвазе пэўны пералік праграмных палажэнняў, скіраваных на захаванне, дбаласць і развіццё мовы як аднаго з найважнейшых элементаў нацыянальнай культуры. Як кожная грамадская дзейнасць, моўная палітыка павінна быць выразам грамадскага і культурнага палілогу з усімі састаўнымі элементамі гэтай сістэмы камунікацыі [21, с. 14]. Само паняцце моўная палітыка мы (за У. Любасам) разглядаем у адарванасці ад *палітыкі* sensu stricto, разумеем як лінгвістычны падыход, скіраваны на

адмысловую і самастойную ідэалізацыю [21, с. 14]. Паводле класікаў тэорыі Эйнара Хаўгена (Einar Haugen) і Ральфа Купера (Ralph Cooper), моўная палітыка засяроджваецца на трох галоўных аспектах: 1) планаванне статусу; 2) планаванне корпуса; 3) планаванне праграмы рэалізацыі і яе распаўсюджвання (цыт. па [21, с. 14]).

## Моўная палітыка Польшчы

Статус польскай мовы ў Польшчы не патрабуе дадатковых тлумачэнняў. Гэта адзіная дзяржаўная мова, якая абслугоўвае ўсе сферы жыцця. І, нягледзячы на розныя гістарычныя і палітычныя змены, на працягу многіх стагоддзяў яна здолела захаваць бесперапыннае развіццё.

Задачы моўнай палітыкі Польшчы заўсёды былі скіраваны на захаванне статусу і чысціні нацыянальнай мовы: «W Polsce […] celem (zwykle niepisanym) polityki językowej była obrona języka narodowego przed obcą konkurencją; tak było od wieku XIII aż do końca drugiej wojny światowej. Po 1945 roku na czoło polskiej polityki językowej wysunęła się troska o jakość polszczyzny i obrona jej odmiany ogólnej przed gwaryzmami, prowincjonalizmami, egzotyzmami żargonowymi i obscenami. W latach osiemdziesiątych celem polityki językowej miało być z jednej strony pielęgnowanie politycznie ograniczonej integracji narodowej, z drugiej zaś — integracji w ramach społeczności regionalnych z ich odrębnościami, a więc idei zgodnego współistnienia dialektów i języka ogólnego» [22, с. 19]. У канцы 90-х гадоў XX стагоддзя, у часы падрыхтоўкі Польшчы да ўступлення ў Еўрапейскі саюз, пытанні мовы пачалі разглядацца па-новаму, згодна з законапалажэннямі і палітыкай ЕС.

Уступленне Польшчы ў Еўрапейскі саюз у 2004 годзе было абумоўлена пэўнымі абавязацельствамі, у тым ліку ратыфікацыяй шэрагу дакументаў, якія рэгулявалі моўную палітыку дзяржавы. У 1992 годзе членамі Савета Еўропы быў прыняты дакумент *Еўрапейская хартыя рэгіянальных моў і моў меншасцяў* (*European Charter for Regional or Minority Languages*) (далей *Еўрапейская хартыя моў*), ратыфікаваны Польшчай у 2009 годзе. Галоўнай мэтай дакумента з'яўляецца абарона нацыянальных моў меншасцяў, якія з'яўляюцца недзяржаўнымі. Распрацоўка і зацвярджэнне *Еўрапейскай хартыі моў* па пытаннях моў меншасцяў мае вялікае значэнне. Прыняцце гэтага дакумента гарантуе фундаментальныя правы чалавека, яго права на выбар мовы і на карыстанне ёю ў прыватным жыцці. У *Еўрапейскай хартыі моў* падкрэсліваецца:

«Абарона гістарычных рэгіянальных моў або моў меншасцяў у Еўропе ў той час, калі некаторым з іх пагражае знікненне, з'яўляецца ўкладам у захаванне і развіццё нацыянальнага і культурнага багацця» [16].

Ратыфікацыя *Еўрапейскай хартыі моў* накрэсліла зусім новы падыход да моўнай палітыкі Польшчы. Пытанні, якія да гэтага часу знаходзіліся «на

перыферыях зацікаўлення польскай моўнай палітыкі» [21, с. 53], пачалі быць ключавымі. На першым плане з’явіліся пытанні шматмоўнасці ў камунікацыйнай прасторы, а таксама аднолькавыя правы для ўсіх моў меншасцяў [21, с. 53].

На тэрыторыі Польшчы пражываюць нацыянальныя меншасці: армянская, беларуская, літоўская, нямецкая, расійская, славацкая, украінская, чэшская, яўрэйская і этнічныя меншасці: караімская, лэмкоўская, татарская, цыганская.

Ажыццяўленне гарантый *Еўрапейскай хартыі моў* у Польшчы адбываецца на аснове «Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальных мовах». Тут варта падкрэсліць, што не толькі законы Еўрапейскага саюза выступаюць у абарону нацыянальных моў меншасцяў. Міжнароднае супрацоўніцтва, якое адбываецца ў рамках Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, таксама засяроджвае асаблівую ўвагу на абароне культурнай спадчыны і правах нацыянальных меншасцяў. Адным з асноўных элементаў абароны нацыянальных меншасцяў з’яўляецца гарантыя выкарыстання ўласнай мовы ў сітуацыях афіцыйных зносін, у тым ліку выкарыстанне геаграфічных назваў на сваёй мове [27, с. 228].

## Моўная палітыка Беларусі

Спецыфіка моўнай сітуацыі Беларусі — існаванне дзвюх дзяржаўных моў: беларускай і рускай — прычынілася да моўнай дыспрапорцыі, у якой руская мова стала асноўным сродкам зносін ва ўсіх сферах жыцця, а беларускай пагражае знікненне.

На такое становішча беларускай мовы складваецца некалькі фактараў, і ўсе яны матываваныя палітычна. Па-першае, да сёння адчуваюцца вынікі ранейшай моўнай палітыкі СССР. У 1930–1980-я гг. у Беларускай ССР руская мова займала вядучае месца, хаця была не адзінай дзяржаўнай[1]. Яе пазіцыя была абумоўлена прыналежнасцю да аднаго з найбольш колькасных народаў Еўропы, з багатай гісторыяй і літаратурнай традыцыяй, а таксама ролямі, якія прыпісваліся рускай мове ў СССР: агульнадзяржаўнай і ідэалагічна-палітычнай прапаганды [21, с. 150]. Беларуская мова ў гэты перыяд была выціснута з грамадскага ўжытку [3, с. 182]. Па-другое, дзяржаўная палітыка незалежнай Беларусі, асабліва пачынаючы з 1994 года і да сёння, не спрыяе развіццю нацыянальнай мовы, аддаючы перавагу ў афіцыйных, адміністрацыйных і юрыдычна-прававых зносінах рускай мове. Вялікай перашкодай для развіцця беларускай мовы пасля распаду СССР з’яўляецца, як і раней, знаходжанне ў

[1] Арт. 21. Канстытуцыі БССР: «В государственных и общественных учреждениях и организациях Белорусской Социалистической Советской Республики устанавливается полное равноправие белорусского, еврейского, русского и польского языков». URL.: http://www.pravo.by/main.aspx?guid=2051.

адзінай з Расіяй інфармацыйнай прасторы [12, с. 177]. Зацікаўленне нацыянальнай мовай сярод карэннага этнасу Беларусі знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні, і, як адзначала Ніна Мячкоўская ўжо пятнаццаць гадоў таму, «усё, што пішацца і апавядаецца па-беларуску, утварае *рэгіянальную субкультуру*, выспу ў рускамоўнай інфармацыйнай прасторы, малацікавую для большасці спажыўцоў» [12, с. 177–178], гэта застаецца актуальным да сёння.

На пачатку 90-х гадоў, у новай рэчаіснасці вельмі аптымістычна зарысоўвалася становішча беларускай мовы ў незалежнай Беларусі. Яшчэ да распаду СССР, на хвалі новай камуністычнай ідэалогіі — перабудовы, якая рэалізавалася з 1987 да 1991 года і асноўвалася на рэформах палітычнага і эканамічнага характару, з'явілася магчымасць пераасэнсавання нацыянальных каштоўнасцяў, у тым ліку і моўнай сітуацыі. У студзені 1990 года быў прыняты закон «Аб мовах у Беларускай ССР», у якім беларускай мове адводзіўся статус адзінай дзяржаўнай, а руская мова кваліфікавалася ў законе як «мова міжнацыянальных зносін народаў Саюзу ССР» [11]. Прыняцце закона, між іншым, было спробай выратавання і павышэння статусу беларускай мовы. Асобныя артыкулы дакумента значна пашыралі сферу выкарыстання беларускай мовы, што ў перспектыве мела паслужыць шырокаму ўжыванню нацыянальнай мовы і пераходу яе з «мовы меншасці ў мову большасці» [11].

Выпрацоўка і арганізацыя моўнай палітыкі дзяржавы была нечым зусім новым. Таму, як піша на сваёй старонцы Таварыства беларускай мовы: «выканаўчая ўлада палічыла магчымым выкарыстаць інтэлектуальныя рэсурсы грамадскай арганізацыі, якая мела пэўны багаж ведаў у гэтай галіне, — Таварыства беларускай мовы (ТБМ), заснаванага ў чэрвені 1989 году» [11]. Тагачаснае разуменне моўнай палітыкі было арыентаванае на распрацоўку юрыдычна-прававых нормаў у галіне моўных зносін [3, с. 181]. Рыхтаваліся і зацвярджаліся праграмы развіцця беларускай і іншых моў у БССР, а таксама быў запланаваны цэлы шэраг мерапрыемстваў, кіраваных на рэалізацыю беларускай моўнай палітыкі.

Пасля прыняцця Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь у 1994 годзе беларуская мова набыла статус адзінай дзяржаўнай, ужыванне рускай мовы зводзілася да свабоднага выкарыстання, на якой маглі адбывацца міжнацыянальныя зносіны[1]. Змена ўлады пасля першых прэзідэнцкіх выбараў у 1994 годзе, а таксама змена напрамку дзейнасці беларускай дзяржавы — вяртанне да пабудовы саюзнай дзяржавы з Расіяй — абумовілі працэсы запавольвання адраджэння нацыянальнай мовы. Дадатковай перашкодай для яе адбудовы стаў праведзены ў 1995 годзе рэферэндум, у якім большасць насельніцтва Беларусі выступіла за дзве дзяржаўныя мовы: беларускую і рускую. «Воля народа» была зацверджана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

---

[1] Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. URL: http://www.pravo.by/main.aspx?guid=2091.

У сусветнай цывілізацыі вядомы адзіночныя выпадкі «занядбання дзяржаўных моў пры захаванні дзяржавы, затое гісторыя сведчыць, што мовы знікаюць, калі выходзяць з ужытку ў грамадскіх сферах жыцця» [3, с. 181]. Як было згадана вышэй, пазіцыя рускай мовы настолькі моцна ўкаранілася ў беларускім грамадстве, што канкураваць з ёю беларускай мове вельмі цяжка. Бясспрэчным застаецца факт, што пакуль беларуская мова не будзе мовай афіцыйных зносін, не будзе разглядацца як прыярытэтнае пытанне дзяржаўнай дзейнасці — на ўзроўні грамадства такая патрэба таксама не ўзнікне.

## Моўная палітыка ў дачыненні да айконімаў польска-беларускага памежжа

Як вядома, уласныя найменні характарызуюцца цэлым спектрам разнародных назваў, якія залежаць ад прыналежнасці да канкрэтнага аб’екта (назвы населеных пунктаў, уласныя асабовыя імёны, геаграфічныя назвы, назвы шэрагу аб’ектаў, якія з’яўляюцца вынікам працы чалавека) [23, с. 212]. Асноўная, але не адзіная функцыя ўласных найменняў — ідэнтыфікацыйная. У сітуацыях раскрыцця этымалагічнага або канатацыйнага сэнсу найменне можа выкарыстоўвацца, між іншым, у функцыі сімвалічнай, палітычнай або рэкламнай. Менавіта таму тапанімічныя найменні, асабліва айконімы і ўрбонімы, больш за іншыя ўласныя назвы падатлівыя на кан’юнктурныя (палітычныя) змены.

**Польшча.** Першым польскім дакументам, які рэгуляваў выкарыстанне і перайменаванне тапанімічных назваў, быў Закон, зацверджаны Прэзідэнтам Рэчы Паспалітай, ад 24 кастрычніка 1934 года «O ustaleniu nazw miejscowości i obiektów fizjograficznych oraz o numeracji nieruchomości» (Dz. U.1934, nr 94, poz. 850). На працягу шэрагу гадоў гэты дакумент неаднаразова змяняўся, а ў 2003 годзе быў заменены Законам «O urzędowych nazwach miejscowości i obiektach fizjograficznych», на аснове якога ўстанаўліваюцца ўсе назвы жылых і нежылых населеных пунктаў, іх частак і назвы ўсіх фізіяграфічных аб’ектаў[1]. У законе, між іншым, акрэсліваюцца спосабы і парадак ажыццяўлення змен і ліквідацыя адміністрацыйных назваў населеных пунктаў, іх частак і назваў фізіяграфічных аб’ектаў, а таксама акрэсліваецца праца Камісіі па назвах населеных пунктаў і фізіяграфічных аб’ектаў (Komisji Nazw Miejscowości i Obiektów Fizjograficznych) і спосабы ўсталявання і абвяшчэння афіцыйных спісаў назваў населеных пунктаў і іх частак і фізіяграфічных аб’ектаў ды інш. Найноўшым дакументам, згаданым вышэй, у якім гарантуецца абарона нацыянальных і этнічных моў меншасцяў, у тым ліку магчымасць выкарыстання традыцыйных геаграфічных найменняў побач з афіцыйнымі польскімі

[1] Standaryzacja nazw geograficznych Polski. URL: http://ksng.gugik.gov.pl/standar_nazw_geo_pl.php.

назвамі на табліцах дарожных знакаў, з'яўляецца «Закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальных мовах» (Ustawa z dnia 6 stycznia 2005 r. O mniejszościach narodowych i etnicznych oraz o języku regionalnym (Dz. U. Nr 17, poz. 141, z późn. zm.)).

Ажыццяўленне вышэйпералічаных законаў, незалежна ад перыяду іх прыняцца, рэалізавалася згодна з палітычнымі мэтамі кіруючай улады. Так, напрыклад, польскія традыцыйныя айконімы, якія дзейнічалі да 1939 года, былі заменены на больш адпаведныя камуністычнаму дыктату, пасля 1989 года зноў пераменены на традыцыйныя або новыя [24, с. 512]. Пачынаючы з канца 40-х гадоў XX стагоддзя аж да сёння пытанні стандартызацыі ўласных найменняў на тэрыторыі Польшчы застаюцца актуальнымі. Як адзначае Эва Вольніч-Паўлоўская, працы па стандартызацыі і ўпарадкаванні польскіх геаграфічных найменняў усё яшчэ заслугоўваюць асаблівай увагі. Па словах даследчыцы, за апошнія сто гадоў польскія айконімы змяняліся некалькі разоў запар, прычым адбывалася гэта найчасцей па ініцыятыве «зверху», а не натуральным шляхам [27, с. 224].

Тапанімія польска-беларускага памежжа, унаследаваная ад расійскай адміністрацыі, на хвалі агульнанацыянальнай палітыкі ПНР часткова трапіла пад працэсы асіміляцыі. Блізкія па гучанні, напісанні і значэнні беларускага паходжання назвы адміністрацыяй «падганяліся» пад польскія найменні. Рэгістрацыя айконімаў найчасцей праводзілася без праверкі гістарычных форм, што неаднаразова прыводзіла да скажэння ранейшай матывацыі і значэння айконімаў. Так з'явіліся формы сучасных назваў населеных пунктаў, прыведзеных для прыкладу ніжэй у супастаўленні з ранейшымі варыянтамі:

| **Сучасны варыянт** | **Гістарычны варыянт** |
|---|---|
| Biały Ług | Biały Łuh |
| Długi Ług | Długi Łuh // Dołhi Łuh |
| Dobrowoda | Dobrywoda |
| Górny Gród | Hurynow Hrud |
| Gredele | Hredele |
| Gregorowce | Hryhorowce |
| Grodzisk | Horodzisko |
| Grudki | Hrudki |
| Kruglany | Kruhlany |
| Orzechowicze | Orechwicze//Orechowicze |

Змены назваў прыводзілі не толькі да zaціранне лакальных асаблівасцяў анамастыкону, яны пераасэнсоўвалі змястоўнасць многіх найменняў. Напрыклад, у назве *Biały Łuh* — сучаснай *Biały Ług*, матываваная беларускім апелятывам *łuh* (*луг*) фанетычная змена паўплывала на значэнне наймення, якое, праўдападобна, было галоўным фактарам матывацыі, акрэслівала геаграфі-

чнае становішча мясцовасці. Беларускі *луг* адпавядае значэнню 'сенажаць, пераважна заліўная, пакрытая шматгадовай травяністай расліннасцю', у той час польскі апелятыў *ług* сучасна мае значэнне 'nazwa zwyczajowa wodnych roztworów wodorotlenków: potasu — ług potasowy; sodu — ług sodowy; środek wybielający, zawierający ług sodowy' [25, c. 74], а ў старапольскай мове адпавядаў значэнням 'mokradła, bagno, jezioro; gaj' [26, c. 128]. Форма *Biały Ług* у польскіх спісах мясцовасцей рэеструецца з 1938 г., пасля ў 1962 г., 1967 г., 1982 г. аж да сёння. Па такому ж прынцыпу былі зменены назвы *Długi Łuh* (гістарычная *Dołhi Łuh*) на *Długi Ług* (з 1962 г.), *Kozłowy Łuh* на *Kozłowy Ług* (з 1962 г.), *Wroni Łuh* на *Wroni Ług* (з 1962 г.).

Назва *Hurynow Hrud* — сучасная *Górny Gród* двойчы перайначаная. Па-першае, *hrud* і *gród* адпаведна суадносяцца з 'невялікая горка, узгорак' і 'dawniej: osada obronna; ośrodek władzy lokalnej'. Па-другое, *Hurynow* утварылася ад антрапоніма *Гурынаў*, а не ад прыметніка *górny* 'верхні'.

Частка найменняў, як відаць на прыкладах, была асіміляваная фанетычна:

- рэалізацыя выбухнога *g* на месцы заднеязычнага фрыкатыўнага *h*: *Hredele — Gredele*, *Hryhorowce — Gregorowce*, *Horodzisko — Grodzisk*, *Hrudki — Grudki*, *Kruhlany — Kruglany*;
- рэалізацыя *rz* на месцы ўсходнеславянскага мяккага *r'*: Orechwicze// Orechowicze — Orzechowicze;
- пад уплывам польскай мовы наступіла змена адкрытага склада на закрыты: *Horodzisko — Grodzisk*.

Частка айконімаў была адаптаваная лексічна:

- *Dołhi Łuh* (у аснове беларускі апелятыў *доўгі*) — *Długi Ług* (у аснове польскі апелятыў *długi*);
- *Hryhorowce* (у аснове беларускае асабовае імя *Рыгор*, а дакладна вытворнае ад яго *Грыгор*) — *Gregorowce* (у аснове, магчыма, лацінскае асабовае імя *Gregorius*).

На аналізаванай тэрыторыі польска-беларускага памежжа, па словах прадстаўніка беларускай меншасці Яраслава Яновіча, за перыяд з 1921 па 2004 год было спаланізвана некалькі соцень афіцыйных найменняў [18]. Асабліва істотныя змены адбываліся ў перыяд 1918–1982 гг. Прадстаўнікі беларускай меншасці з падтрымкай беларускіх таварыстваў і саюзаў рознага тыпу на працягу доўгіх гадоў прыкладалі шмат намаганняў, каб вярнуць традыцыйныя назвы сваім мясцовасцям. З гэтымі фактамі можна азнаёміцца ў кніжным выданні Яраслава Яновіча «Likwidacja oficjalnego nazewnictwa miejscowości Białostocczyzny pochodzenia białoruskiego przez administrację rządową w latach 1921–2004». З дакументаў, сабраных у кнізе, вынікае неаднаразовае парушэнне закона «O ustaleniu nazw miejscowości i obiektów fizjograficznych oraz o numeracji nieruchomości» ў дачыненні да традыцыйных назваў Беласточчыны. Змены найменняў не былі абвешчаныя ў дзённіку «Monitor Polski», так, як гэта было прадугледжана законам, а таксама не кансультаваліся з жыхарамі адпа-

ведных мясцовасцей. Спробы вяртання традыцыйных варыянтаў найменняў прадстаўнікамі беларускай меншасці засталіся безвыніковымі аж да сёння.

Вырашэнне актуальных пытанняў аб найменнях выклікае не меншыя цяжкасці. На аснове «Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальных мовах», які ўвайшоў у сілу ў 2005 годзе, у прадстаўнікоў нацыянальных і этнічных меншасцяў з'явілася магчымасць увядзення двухмоўных назваў на табліцах дарожных знакаў. Пра гэта гаворыцца ў арт. 12.1.2 дакумента, там жа ўводзіцца паняцце «дадатковай традыцыйнай назвы мясцовасці і вуліц», для якіх існуе магчымасць выкарыстання такога варыянта побач з адміністрацыйнай назвай, але толькі на абшарах, дзе ад агульнай колькасці жыхароў пражывае больш за 20 % прадстаўнікоў нацыянальнай меншасці[1].

Магчымасць выкарыстання айконімаў на мове меншасці побач з афіцыйнымі польскімі назвамі мае характар сімвалічны, адыгрывае важную ролю ў самаідэнтыфікацыі нацыянальнай супольнасці і яе інтэграцыі [20, с. 13], мае вялікае эмацыянальнае значэнне.

Увядзенне і зацвярджэнне двухмоўных назваў адбываецца ў супрацоўніцтве Камісіі па назвах населеных пунктаў і фізіяграфічных аб'ектаў з працай экспертаў (вельмі часта лакальных дарадцаў). Як слушна падкрэслівае Аляксандра Цеслякова, «trzeba zdawać sobie sprawę, że uzus nie zawsze równa się tradycji» [15, s. 218]. Істотным для мовазнаўцаў з Камісіі па назвах населеных пунктаў і фізіяграфічных аб'ектаў, а таксама для экспертаў па гэтых пытаннях з'яўляецца зацвярджэнне адпаведнага для мясцовай супольнасці варыянта наймення: мясцовага, дыялектнага ці нарматыўнага (так як гэта прынята для польскіх айконімаў) [27, с. 231]. Апрача гэтага, экспертамі прымаецца рашэнне графічнага афармлення назвы.

На сённяшні дзень (дадзеныя з 5 красавіка 2016 г.) на тэрыторыі Польшчы ўведзены дадатковыя назвы для 1221 населенага пункта і яго частак, якія знаходзяцца ў 58 гмінах. Дадатковыя назвы з'явіліся на беларускай, кашубскай, літоўскай, лэмкоўскай і нямецкай мовах[2].

У студзені 2011 года гміна Орля Бельскага павета Падляшскага ваяводства для 26 мясцовасцей увяла дадатковыя назвы на беларускай мове. З беларускімі формамі назваў згаджаюцца не ўсе жыхары гміны. У іх ацэнцы, толькі 9 з 26 зацверджаных беларускіх найменняў адпавядаюць традыцыйным варыянтам. Назвы, запрапанаваныя экспертамі-лінгвістамі і Камісіяй па назвах населеных пунктаў і фізіяграфічных аб'ектаў, не гучаць ані па-беларуску, ані «па-своему» [13, с. 265].

Мэта ўвядзення «Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальных мовах» і магчымасці, створаныя ім, здаецца, перадусім скіраваны

---

[1] Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej Polskiej (nr 17, Warszawa, dnia 31 stycznia 2005 r. Pozycja 141, art. 12, pkt. 6). URL: http://dziennikustaw.gov.pl/D2015000057301.pdf.

[2] URL: http://ksng.gugik.gov.pl/nwjmwp.php.

на зберажэнне той нацыянальнай спадчыны, якая захоўваецца на лакальным узроўні, у мясцовасцях, унесеных у Афіцыйны рэестр гмін. Прадстаўнікі беларускай меншасці рэальна баяцца прыпісання ім зусім чужых назваў, якія нічога не значаць. Паводле іх, лепш афіцыйная польская назва, да якой яны ўжо паспелі прызвычаіцца, чым незразумелае найменне, тым больш, што ў кантактах з мясцовым жыхарствам і так выкарыстоўваецца «свой» варыянт, на лакальнай гаворцы.

Магчымасць увядзення двухмоўных польска-беларускіх назваў населеных пунктаў увесь час з'яўляецца актуальнай для чатырох гмін, дзе пражывае больш за 20 % ад агульнай колькасці насельніцтва прадстаўнікоў беларускай меншасці: гарадской гміны Гайнаўка ды сельскіх гмін Гайнаўка, Нараўка і Чыжы. Як толькі іх жыхары выступяць з ініцыятывай аб увядзенні двухмоўных назваў, то, згодна з законам, далучацца яны да папярэдніцы змен — гміны Орлі[1].

Такім чынам, на аснове разгледжанага матэрыялу можна канстатаваць, што моўная палітыка, якая вядзецца ўнутрыдзяржаўным заканадаўствам Польшчы, а таксама на аснове міжнародных пагадненняў, мае непасрэдны ўплыў на афіцыйныя назвы населеных пунктаў. На сённяшні дзень многія тапанімічныя пытанні застаюцца яшчэ не вырашанымі. Варта, аднак, памятаць, што моўная палітыка ў адносінах да ўласных найменняў павінна праводзіцца не толькі згодна з унутранай палітыкай краіны, міжнароднымі дагаворамі, але таксама з разуменнем гісторыі [15, s. 219].

**Беларусь.** На форму і змест сённяшніх беларускіх айконімаў мелі ўплыў розныя палітычныя падзеі. У адным са сваіх артыкулаў Валянціна Лемцюгова трапна ацэньвае сітуацыю беларускай айканіміі: «На вялікі жаль, беларускай тапаніміі (у першую чаргу айканіміі) давялося падзяліць лёс нашага народа, яго мовы, культуры, што не магло не адбіцца адмоўна на яго стане. Кожны раз, калі беларуская мова падпадала пад забарону, беларуская айканімія прымусова мяняла сваё нацыянальнае аблічча на іншамоўнае» [10, с. 12]. Асабліва істотныя змены, якія паўплывалі як на структурнае, фанетычнае, так і графічнае пераафармленне найменняў, зазначае даследчыца, адбыліся ў часы Рэчы Паспалітай, а пасля замацаваліся расійскай канцылярыяй [10, с. 12–13].

У часы Савецкага Саюза на хвалі палітычнай прапаганды, беларуская айканімія была пададзена чарговай хвалі скажэння — сотні беларускіх айконімаў былі перайменаваныя на больш адпаведныя камуністычнай ідэалогіі. Асабліва інтэнсіўныя працэсы дэнамінацыі адбываліся ў 20-я і 60 гады XX ст. У гэты перыяд у Беларусі было зменена звыш 900 найменняў [8, с. 72]. Пад перайменаванне траплялі найменні, якія адлюстроўвалі беларускую гістарычную самабытнасць, матываваныя тыпамі старажытных паселішчаў (*Маёнтак*),

---

[1] Праблематыка моўнай палітыкі ў дачыненні да беларускай меншасці абмяркоўвалася таксама ў публікацыях Ніны Баршчэўскай [2; 14].

рамёстваў (*Гута*), зніклымі імёнамі (*Асіпаўка*, *Давыдаўшчына*, *Міцькі*), мянушкамі (*Калеснікі*) і прозвішчамі першых пасяленцаў або заснавальнікаў мясцовасцей (*Ханявічы*) [8, с. 72]. Замест іх з'явіліся новыя, беззмястоўныя назвы тыпу: *Акцябр, Дзяржынск, Дружба, Кірава, Першамайская, Чырвоны Сцяг* і г. д.

На хвалі палітыкі перабудовы, а затым згодна з задачамі моўнай палітыкі, развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у незалежнай Беларусі ў 1991 годзе пры Акадэміі навук ствараецца Рэспубліканская тапанімічная камісія. Прыярытэтныя задачы, якія вызначае сабе гэты навукова-кансультацыйны цэнтр, — гэта адраджэнне, захаванне і ўпарадкаванне беларускай айканіміі як важнай часткі гістарычна-культурнай спадчыны беларусаў.

Хаця Беларусь не прыступіла да ратыфікацыі дакумента *Еўрапейскай хартыі рэгіянальных моў і моў меншасцяў*, які мае на мэце рэалізацыю новай «еўрапейскай ідэі» партнёрскага суіснавання моў, усе гэтыя гарантыі рэгулююцца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, а таксама Законам Рэспублікі Беларусь ад 13.07.1998 «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» (са змяненнямі і дапаўненнямі на 1 студзеня 2014 г.).

На аснове Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» рэгулююцца галоўныя палажэнні моўнай палітыкі дзяржавы. У прэамбуле закона адзначаецца, што «Закон аб мовах мае на мэце ўрэгуляванне адносін у галіне развіцця і ўжывання беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі ў дзяржаўным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці» [7].

У Артыкуле 32 «Мова назваў», які змяшчаецца ў 5 главе Закона, гаворыцца, што ўсе тапанімічныя назвы ў Рэспубліцы Беларусь даюцца на беларускай або рускай мове, таксама «назвы геаграфічных аб'ектаў, якія знаходзяцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь, даюцца на беларускай або рускай мове ў адпаведнасці з традыцыяй, а новыя — у транскрыпцыі з мовы арыгіналу» [7]. Незразумела, чаму ў сувязі з дзяржаўным двухмоўем у дачыненні да ўласных геаграфічных назваў існуе альтэрнатыва беларускай або рускай мовы. У такой сітуацыі тапанімічныя найменні павінны давацца на абедзвюх мовах, якія маюць роўны статус дзяржаўных. Як паказала практыка, двухмоўе ў тапанімічных назвах прычынілася да вялікай колькасці недарэчных сітуацый, было звязана з шэрагам памылак[1], якія патрабавалі выпрацоўкі правілаў запісу аднолькавых формаў наймення ў беларускай і рускай мовах.

---

[1] Праблема з двухмоўным запісам тапанімічных найменняў праяўляецца на некалькіх узроўнях: правапісу, словаўтварэння і словазмянення, лексічным, функцыянальным, матывацыйным, гісторыка-культурным. Некаторыя з іх прыводзім на прыкладзе ўрбонімаў Мінска. Назвы вуліц сталіцы Беларусі на вулічных знаках пішуцца на беларускай мове. У сувязі з гэтым многія найменні трэба перакладаць з рускай на беларускую мову, што на ўзроўні правапісу вызначаецца значнай колькасцю арфаграфічных і графічных памылак. Напрыклад, вул. *Кноріна*, вул. *Щорса*,

Праца па нармалізацыі і выпрацоўцы адзінага падыходу ў напісанні геаграфічных найменняў на аснове міжнародных пагадненняў у Беларусі не мае такой працяглай традыцыі, як у Польшчы. Як адзначае Ірына Бародзіч, першыя працы, прысвечаныя нарматыўнай апрацоўцы ўсіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак у Рэспубліцы Беларусь, праводзіліся ў перыяд 2003–2010 гг., вынікам чаго было выданне нарматыўных даведнікаў «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» для кожнай вобласці асобна [4, с. 301].

Значымым для нармалізацыі і стандартызацыі тапанімічных найменняў Беларусі аказаліся міжнародныя пагадненні і супрацоўніцтва з ААН, у структурах якой дзейнічае Міжнародная група экспертаў па стандартызацыі геаграфічных найменняў, у склад якой уваходзяць таксама спецыялісты Рэспублікі Беларусь [4, с. 301].

Напрыканцы 2010 года з'явіўся Закон «Аб найменнях геаграфічных аб'ектаў», у якім вырашаюцца пытанні нармалізацыі і прысваення назваў геаграфічным аб'ектам, іх перайменавання, а таксама забяспечваецца адзіны падыход да ажыццяўлення такой дзейнасці. Важным пунктам Закона з'яўляецца ахова геаграфічных найменняў як неад'емнай часткі гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь [6].

Нягледзячы на пастанову Закона «Аб мовах» з 2010 г., з рэгулярнай перыядычнасцю вяртаюцца ідэі ўвядзення папраўкі ў існуючы закон, які даваў бы магчымасць перакладу, а не транслітарацыі тапанімічных назваў. Ініцыятарамі такіх змен найчасцей з'яўляюцца мясцовыя органы дзяржкіравання. Мэтазгодным, паводле іх, быў бы «спосаб перадачы геаграфічных назваў шляхам прамога перакладу з беларускай на рускую мову: Будаўнікоў — Строителей,

---

вул. *Дэкабрыстаў* ды інш. Праблемы ўзнікаюць таксама на лексічным узроўні, калі пад увагу не бяруцца розніцы ў значэнні беларускіх і рускіх назваў, у тым з'явы аманіміі. Напрыклад, як у сітуацыі транслітэрацыі рускай назвы вул. *Алейная*. Беларускае слова *алея* і рускае *аллея* супадаюць у значэнні 'дарога, абсаджаная з абодвух бакоў дрэвамі або кустамі'. Разыходжанні паяўляюцца на ўзроўні форм прыметнікаў: беларускі *алейны* можа быць утвораны ад назоўніка *алей* і *алея*, адпаведна суадносяцца са значэннямі 'які звязаны з алеем, утвораны алеем, складаецца з алею' і 'які адносіцца да алеі-дарогі', рускі прыметнік *аллейный* — толькі ад назоўніка *аллея*. Варта падкрэсліць, што беларускі прыметнік *алейны* найчасцей выкарыстоўваецца са значэннем 'які звязаны з алеем, утвораны алеем, складаецца з алею'. Пацверджаннем гэтаму могуць быць вынікі лексічнай спалучальнасці прыметніка *алейны* ў Нацыянальным корпусе беларускай мовы, дзе на 149 выпадкаў фіксуецца толькі адно словазлучэнне з прым. *алейны* (ад *алея* у значэнні 'дарога') — *алейная брама*, рэшта выступае са значэннем *алею*. На функцыянальным узроўні, у выпадку перакладу найменняў з рускай на беларускую мову прыводзіць да блытаніны ў адраснай функцыі, якая ў тапаніміі з'яўляецца асноўнай. Напрыклад, ул. *Обойная* — вул. *Шпалерная*, ул. *Железнодорожная* — вул. *Чыгуначная*, ул. *Радужная* — вул. *Вясёлкавая*, ул. *Родниковая* — вул. *Крынічная* і г. д. Гл.: [9].

Чэрвеньская — Июньская. Такі падыход, мяркуюць яны, апраўданы ва ўмовах існавання ў Беларусі дзвюх дзяржаўных моў» [1]. Захады сённяшняй беларускай адміністрацыі прыпамінаюць гісторыю тапанімічных змен, якія праводзіліся польскімі, расійскімі, а пасля савецкімі чыноўнікамі. Паводле міжнароднага заканадаўства, на аснове якога была арганізавана стандартызацыя і нармалізацыя геаграфічных найменняў, прамы пераклад тапонімаў непрымальны. Такі метад не выкарыстоўваецца ні ў адной краіне свету. У міжнароднай традыцыі для геаграфічных найменняў замест перакладу выкарыстоўваюць наступныя спосабы перадачы ўласных назваў: транскрыпцыя, транслітарацыя, транспазіцыя, калька. Як адзначае ААН, такога тыпу дзеянні ў адносінах да найменняў адмоўна ўплываюць на гістарычна-культурны іменаслоў, сціраюць нацыянальныя асаблівасці мовы [1].

Праца тапанімічнай камісіі ў рамках міжнароднай групы пры ААН прычынілася да распрацоўкі беларускага лацінскага алфавіту (беларускай лацінкі). Патрэба выкарыстання такога алфавіту была звязана са шматлікімі аспектамі сучаснага жыцця, між іншым, са стандартызацыяй тапанімічных найменняў картаграфічных выданняў, а таксама онімаў у іншамоўных інфармацыйных крыніцах [5, с. 289]. Правілы перадачы беларускага пісьма сродкамі лацінскай графікі былі зацверджаны Міжнародным камітэтам ААН у 2007 г. На аснове гэтага была падрыхтавана афіцыйная «Інструкцыя па транслітарацыі геаграфічных назваў Рэспублікі Беларусь літарамі лацінскага алфавіта», нормамі якой могуць карыстацца як замежныя, так і беларускія выдаўцы [5, с. 289]. Замацаванне беларускага лацінскага алфавіта ў Беларусі адбылося на аснове Закона Рэспублікі Беларусь «Аб назвах геаграфічных аб’ектаў» (артыкул 9. Паўнамоцтвы Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь у сферы найменняў геаграфічных аб’ектаў) ад 16 лістапада 2010 г. № 190-З[1]. Нармалізацыя перадачы геаграфічных найменняў сродкамі лацінскага алфавіту станоўча ўплывае не толькі на стандартызацыю тапанімічнай сістэмы назваў, але і на беларускую мову ўвогуле. Беларуская сістэма транслітарацыі, створаная на аснове традыцыйнай беларускай лацінкі, з’яўляецца часткай гісторыі беларускай мовы. Дадаткова, беларуская лацінка, як ніводная іншая сістэма, дазваляе захаваць своеасаблівае фанетычнае афармленне ўласных імёнаў.

Варта падкрэсліць, што моўная палітыка Беларусі ў дачыненні да тапанімічных найменняў вядзецца не па ініцыятыве дзяржавы, а з увагі на міжнародныя пагадненні ў рамках ААН, намаганнямі беларускіх навукоўцаў, якія працуюць у складзе міжнароднай Групы экспертаў, а таксама згодна з прыярытэтамі, якія ставяцца ААН па пытаннях геаграфічных найменняў.

[1] Закон Республики Беларусь «О наименованиях географических объектов» (Статья 9. Полномочия Государственного комитета по имуществу Республики Беларусь в области наименований географических объектов). URL: http://kodeksy-by.com/zakon_rb_o_naimenovaniyah_geograficheskih_ob_ektov/9.htm.

Нацыянальная тапанімія і геаграфічныя назвы, паводле рэзалюцый ААН, з’яўляюцца гісторыка-культурнай спадчынай краіны.

Такім чынам, можна сцвердзіць, што моўная палітыка Беларусі, нягледзячы на існуючую моўную сітуацыю, на ўзроўні заканадаўства рэгулюецца шэрагам унутрыдзяржаўных дакументаў. Значная колькасць моўных пытанняў вырашаецца ў рамках Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, членам якой БССР, а пасля Рэспубліка Беларусь з’яўляецца з дня яе заснавання.

Параўнаць моўную палітыку Польшчы і Беларусі амаль немагчыма. Нацыянальныя мовы абедзвюх дзяржаў развіваліся ў зусім іншых абставінах. У моўнай палітыцы Польшчы ніколі не ўзнікала пытання аховы мовы ад знікнення, у той час як беларуская мова ўжо на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў змагаецца за сваё існаванне. У дачыненні да тапанімічных найменняў вялікую ролю адыгрываюць палітычныя ўмовы, у якіх знаходзяцца дзяржавы. Польшча, дзякуючы ратыфікацыі шэрагу еўрапейскіх дакументаў, выпрацоўцы ўнутрыдзяржаўных актаў, рэалізуе моўную палітыку згодна са стандартамі дэмакратычнай краіны. Беларуская моўная палітыка рэалізуецца на аснове Канстытуцыі і ўнутрыдзяржаўных законаў. У дачыненні да айконімаў станоўчым фактарам у захаванні нацыянальнага тапанімічнага фонду Беларусі з’яўляецца прынятце рэзалюцый ААН.

## Літаратура

1. Абрамовіч, Г. Геаграфічныя назвы на расійскую перакладаць не будуць? / Г. Абрамовіч [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://nn.by/?c=ar&i=114764. — Дата доступу: 30.08.2016.
2. Баршчэўская, Н. Сітуацыя беларускай мовы ў Польшчы / Н. Баршчэўская // Belarusika = Albaruthenica. — Кн. 32. — Мінск, 2012. — С. 342–353.
3. Беларуская мова. Энцыклапедыя / пад рэд. А. Я. Міхневіча. — Мінск, 1994.
4. Бородич, И. В. Некоторые проблемы в области наименований географических объектов Республики Беларсусь / И. В. Бородич // Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 20 красавіка 2010 г.). — Мінск, 2010. — С. 300–303.
5. Давідоўскі, П. М. Передача беларускіх онімаў графічнымі сродкамі лацінскага алфавіта: маштаб праблемы / П. М. Давідоўскі // Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 20 красавіка 2010 г.). — Мінск, 2010. — С. 289–295.
6. Закон аб назвах геаграфічных аб’ектаў [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://tbm-mova.by/laws1_7.html. — Дата доступу: 30.08.2016.
7. Закон Рэспублікі Беларусь ад 13.07.1998 № 187-З «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”» [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://pravo.newsby.org/belarus/zakon1/z552.htm. — Дата доступу: 30.08.2016.
8. Кавалёва, А. В. Страчаныя адантрапанімічныя айконімы на *-і/-ы*, матываваныя імёнамі-мянушкамі / А. В. Кавалёва // Беларуская анамастыка. Гісторыя і су-

часнасць: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 20 красавіка 2010 г.). — Мінск, 2010. — С. 72–76.
9. Капылоў, І. Л. Праблема ўнармавання назваў вуліц горада Мінска / І. Л. Капылоў // Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 20 красавіка 2010 г.). — Мінск, 2010. — С. 295–299.
10. Лемцюгова, В. П. Беларуская айканімія як аб'ект навукі і практыкі / В. П. Лемцюгова // Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць: матэр. міжнар. навук. канф. (Мінск, 20 красавіка 2010 г.). — Мінск, 2010. — С. 10–17.
11. Моўная палітыка ў Беларусі ў 1990-я гады [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://tbm-mova.by/monitoring16.html. — Дата доступу: 30.08.2016.
12. Мячкоўская, Н. Сацыялінгвістычны погляд на чыннікі, тармазы і прыярытэты нацыянальнага адраджэння / Н. Мячкоўская // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: матэр. III Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». — Мінск, 2001. — С. 173–180.
13. Трацяк, В. Двухмоўныя назвы на Беласточчыне / В. Трацяк // Acta Albaruthenica 14. — Варшава, 2014. — С. 257–268.
14. Barszczewska, N. Język białoruski w Polsce — historia i stan obecny / N. Barszczewska // Acta Polono-Ruthenica. — T. XIV. — Olsztyn, 2009. — S. 339–351.
15. Cieślikowa, A. Polityka językowa i ustalenia prawne dotyczące nazw własnych / A. Cieślikowa // Polska polityka komunikacyjnojęzykowa wobec wyzwań XXI wieku / pod red. S. Gajdy, A. Markowskiego, J. Porayskiego-Pomsty. — Warszawa, 2005. — S. 217–222.
16. Europejska karta języków regionalnych i mniejszościowych, Strasbourg 1966 [Electronic resource]. — Mode of access: http://mniejszosci.narodowe.mac.gov.pl/mne/prawo/europejska-karta-jezyk. — Date of access: 30.08.2016.
17. Gajda, S. Program polskiej polityki językowej (rozwiązania wstępne) / S. Gajda // Polska polityka językowa na przełomie tysiącleci. — Lublin, 1999.
18. Janowicz, J. Likwidacja oficjalnego nazewnictwa miejscowości Białostocczyzny pochodzenia białoruskiego przez administrację rządową w latach 1921–2004 / J. Janowicz [Electronic resource]. — Mode of access: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=11994. — Date of access: 30.08.2016.
19. Klemensiewicz, Z. Język jako współczynnik polskiego bytu narodowego i państwowego / Z. Klemensiewicz // Biuletyn Towarzystwa Językoznawczego. — 1968. — Z. XXVI. — S. 3–7.
20. Kondratiuk, M. Urzędowe i gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny / M. Kondratiuk. — Białystok, 2011.
21. Lubas, W. Polityka językowa / W. Lubas. — Opole, 2009.
22. Pisarek, W. Istota i sens polskiej polityki językowej / W. Pisarek // Polska polityka językowa na przełomie tysiącleci. — Lublin, 1999. — S. 13–23.
23. Rzetelsko-Feleszko, E. Czy trzeba albo czy można ingerować w «nomina propria» / E. Rzetelsko-Feleszko // Polska polityka komunikacyjnojęzykowa wobec wyzwań XXI wieku / pod red. S. Gajdy, A. Markowskiego, J. Porayskiego-Pomsty. — Warszawa, 2005. — S. 212–216.
24. Słowiańska onomastyka. Encyklopedia / pod red. E. Rzetelsko-Feleszko, A. Cieślikowej. — T. II. — Warszawa, 2003.

25. Słownik języka polskiego. — Warszawa, 1995.
26. Słownik staropolski. — T. IV. — Wrocław; Warszawa; Kraków, 1963.
27. Wolnicz-Pawłowska, E. Standaryzacja narodowych nazw geograficznych w świetle polskiego prawa (na tle prawa międzynarodowego) / E. Wolnicz-Pawłowska // Polska polityka komunikacyjnojęzykowa wobec wyzwań XXI wieku / pod red. S. Gajdy, A. Markowskiego, J. Porayskiego-Pomsty. — Warszawa, 2005. — S. 223–232.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА, ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ

**Марына Варабей** *(Мінск, Беларусь)*

## ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫЯ ВКЛ ВАЧЫМА УЛАДЗІСЛАВА СЫРАКОМЛІ Ў ГІСТАРЫЧНАЙ ПАЭМЕ «МАРГЕР»

Уладзіслаў Сыракомля ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры ў амплуа «лірніка вясковага» за сваю блізкасць да народнай традыцыі, з якой быў знаёмы з малых гадоў, вывучэнне лакальнай вусна-паэтычнай творчасці, за стварэнне маляўнічых выяў прыроды і будзённасці землякоў-сялян, любоў да іх працы, спачуванне ім. Такой любоўю прасякнутыя гавэнды, ці, як іх інакш называюць, — гаворкі альбо гутаркі пісьменніка — хрэстаматыйныя творы Сыракомлі. Яны шчыра перакладаліся на беларускую мову з пачатку ХХ ст. — у нашаніўскі перыяд і пазней, за савецкім часам, што абгрунтавана і ідэалогіяй той эпохі — увагай да працоўных мас, у тым ліку і да сялянства. Перакладаюцца творы Сыракомлі да нашых дзён. Мы маем магчымасць чытаць Сыракомлю па-беларуску дзякуючы Янку Лучыну, Альберту Паўловічу, Гальяшу Леўчыку, Язэпу Лёсіку, Янку Купалу, Уладзіміру Дубоўку, Максіму Лужаніну, Яўгеніі Пфляўмбаўм, Кастусю Цвірку, Уладзіміру Мархелю, Генадзю Кісялёву, Ірыне Багдановіч і іншым. Маюцца даследаванні, якія асвятляюць жыццё і творчы шлях Уладзіслава Сыракомлі, яго бясспрэчныя сувязі з Беларуссю і беларушчынай. Сярод іх можна назваць працы «Дарога ў сто год» (нарыс), «Слова пра Сыракомлю. Быт і культура беларусаў у творчасці “вясковага лірніка”» Кастуся Цвіркі; «Лірнік вясковы», «Вяшчун славы і волі», «Творчасць Уладзіслава Сыракомлі» Уладзіміра Мархеля; «Уладзіслаў Сыракомля. Лірнік Зямлі беларускай» Алеся Марціновіча і інш.

Уладзіслаў Сыракомля вывучаў беларускае краязнаўства і гісторыю, пра што сведчыць яго проза, маркіраваная даследчыкамі як нарысы альбо нататкі, сярод іх, напрыклад, добра знаёмыя беларускім гісторыкам і літаратуразнаўцам «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», «Мінск», «Нёман ад вытокаў да вусця».

Значнаму пласту твораў Уладзіслава Сыракомлі не нададзена належнай увагі беларускіх перакладчыкаў і даследчыкаў. Перадусім гэта буйныя ліра-

эпічныя і драматычныя творы. Сярод іх паэмы і драмы вершам (драматычныя паэмы). Некаторыя перакладаліся фрагментарна, як паэма «Urodzony Jan Dęboróg» («Дабрародны Ян Дэмбарог») — яе часткова пераклалі У. Мархель і К. Цвірка, «Córa Piastów» («Дачка Пястаў») — фрагментарна апублікавана ў перакладзе К. Цвіркі. Сярод драматычных твораў можна назваць «гістарычную драму з XVII веку» «Możnowładcy i sierota (Zofija Xiężniczka Słucka)» («Магнаты і сірата, або Зоф'я, князёўна слуцкая»), перакладзеную на беларускую мову і даследаваную Ірынай Багдановіч. Гэтыя і іншыя творы патрабуюць больш дасканалага літаратуразнаўчага аналізу, што дазволіць глыбей асэнсаваць гістарычныя падзеі, якія адлюстраваны пісьменнікам, раскрыць іх значнасць.

Сярод іх і паэма «Margier» («Маргер»), якая пабачыла свет у 1855 годзе, аднак да гэтага часу не перакладзена на беларускую мову (рускамоўны ж пераклад з'явіўся яшчэ ў 1888 годзе дзякуючы Ліадору Пальміну). На хвалі паэтызацыі далёкай мінуўшчыны Сыракомля бярэ за аснову гэтага ліра-эпічнага твора падзеі XIV ст., дзеянне адбываецца ў замку князя Маргера ў Пулене (польск. Punie, бел. Пуні, рус. Пунэ — у часы Сыракомлі мястэчка Трокскага павета Віленскай губерні). У паэме паўстаюць грамадзянскасць, патрыятызм, палітычныя, рэлігійна-філасофскія, маральна-этычныя праблемы герояў, каханне — усё гэта ўвасоблена на фоне маляўнічых мясцовых краявідаў і рэалістычных батальных сцэн.

Некалькі ключавых ліній сюжэту паэмы ствараюць агульную карціну, адлюстраваную аўтарам на аснове гісторыі крыжовых паходаў на Вялікае Княства Літоўскае. Вобразы галоўных герояў сплятаюцца ў цэласную матрыцу, у межах якой і дзейнічаюць. Сам Сыракомля ва ўступным слове да паэмы вылучае постаці гістарычныя і выдуманыя. Сярод чыста гістарычных называе: князя Маргера, старую літоўскую варажбітку, Магістра крыжакоў — аўтар «стараўся выявіць згодна з узорам летапісаў», а таксама Рансдорфа Варнэра, які згадваўся ў хроніках. Дзеля выяўлення тыповых характараў дзяўчат і ваяроў старое Літвы Сыракомля ўводзіць у паэму такіх персанажаў, як Эгле і Лютась.

Рэалістычнасць і гістарычнае апірышча адлюстраваных Сыракомлем падзей можна абгрунтаваць паводле матэрыялаў з разнастайных па часе крыніц. Пра замак Пулен і яго захоп крыжакамі маюцца звесткі ў «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага [4, с. 309–312], згадвае ў сваёй «Истории России с древнейших времен» гісторык Сяргей Салаўёў у кантэксце характарыстыкі хрысціянізацыі Усходняй Еўропы пры князях Альгердзе і Кейстуце. Маюцца звесткі пра гэтыя падзеі і ў даследаваннях XX ст., напрыклад, у нарысе Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь» [1, ст. 35–36]. Ва ўсіх названых крыніцах падкрэсліваюцца выключна асцярожныя норавы літоўскіх князёў, якія не жадалі залежнасці ні ў рэлігійных, ні ў тэрытарыяльных, ні ў палітычных адносінах. Уладзіслаў Сыракомля паказвае перыяд, калі многія

вялікія князі дагэтуль прымалі ўжо хрысціянскую веру. Гістарычна, трэба сказаць, заходняя культура пранікала на тэрыторыі Літвы ў хвіліны кароткага вайсковага зацішша.

Паводле С. Салаўёва падзеі ў Пунэ апісаныя наступным чынам: «У 1336 годзе прыехаў у Прусію маркграф Брандэнбургскі, граф Генебергскі і граф Намурскі са шматлікімі войскамі, каб дапамагаць Ордэну ў вайне з язычнікамі. Магістр Ордэна скарыстаўся зручным выпадкам, рушыў разам з паплечнікамі на Літву і асадзіў Пунэ, астрожак, які служыў прытулкам для Літвы, што вярталася з набегаў. На гэты раз у астрожку схавалася чатыры тысячы мясцовых жыхароў з жонкамі, дзецьмі і з усёй маёмасцю. У хрысціянскім апалчэнні было шмат вайсковых машын, якія так паспяхова білі ў сцены астрожка, што абложаныя хутка заўважылі немагчымасць абараняцца надалей і, нягледзячы на тое, вырашылі лепш загінуць з жонкамі і дзецьмі, чымся скарыцца ворагу; бараніліся да апошняга, страцілі шмат народу на вылазках; усе, хто быў здольны да бою, былі параненыя, а між іншым частка сценаў была расхістана таранамі, другая ж — пагражала абрынуцца ад падкопаў. Тады ліцвіны перабілі жонак і дзяцей, паклалі трупы іх на велізарнае вогнішча, нагрувашчанае пасярод умацавання, падпалілі яго і пачалі самі забіваць адзін аднаго, большую частку забіў Маргер, начальнік крэпасці, пакляўся, што па смерці сваіх паплечнікаў пазбавіць жыцця самога сябе; моцна дапамагла Маргеру адна старая, якая абезгаловіла сякерай сто ратнікаў і пасля ўчыніла самазабойства на вачах у непрыяцеляў, якія ўваходзілі ва ўмацаванне. Немцы без перашкодаў узялі крэпасць; ліцвіны, што засталіся ў жывых, самі кідаліся пад удары мячоў. Маргер стрымаў сваё слова: ён біўся яшчэ з суполкаю адчайных адважных і, калі ўсе яны загінулі, рынуўся ў сутарэнні, дзе схаваў сваю жонку, забіў адразу яе, а пасля і самога сябе» [3, с. 244–246][1].

У С. Салаўёва гэты кароткі аповед прыводзіўся ў якасці чарговага пацвярджэння таго, наколькі нялёгка было змагацца з ліцвінамі: нават калі крыжакі перамагалі, то не атрымлівалі шанца займець якіясьці выгоды з захопу, аказваліся ў патавым становішчы.

Уладзіслаў Сыракомля ў паэме падкрэслівае, што ў замку большасць людзей не вайскоўцы, ды і ўзбраенне не такое магутнае, як у падрыхтаваных немцаў. Увогуле, і ў крыніцах адзначаецца, што крыжакі з цяжкасцямі ваявалі на землях ВКЛ, нават пры лепшай падрыхтаванасці. У «Маргеры» апісаны момант, дзе выяўлена поле пасля бою, якое заслана целамі ваяроў, сцэна гаворыць сама за сябе:

> Straszny był widok pola: na zdeptanej ścierni
> Leżą martwe Litwiny i Niemcy pancerni;

[1] Пераклад з рускай мовы наш. — *М. В.*

Na jednych lniana odzież i osłony rysie,
Na drugich jasna blacha promieniami lśni się [2, c. 10].

Пісьменнік падкрэслівае чыста захопніцкі характар крыжовых паходаў: вынішчэнне мясцовага насельніцтва, рабаўніцтва, захоп палонных — неад'емныя атрыбуты распаўсюду хрысціянства.

Раскрываючы норавы рыцараў-крыжакоў, якія не адпавядаюць хрысціянскаму светапогляду, падкрэсліваючы фармальны падыход у абрадах і традыцыях, пісьменнік высвятляе сапраўдныя падставы паходаў. Яскравыя апісанні таго, як пасля бою ваяры спавядаюцца, а раніцою зноў можна ісці забіваць. Ствараецца ўражанне, што чалавечае жыццё нічога для іх не вартае, а крыжакі бы спісаныя з герояў сярэднявечнага фальклору: прагныя да багацця, слабыя да плоцкіх уцехаў, недалёкія. Дарэчы, вобраз Рансдорфа супрацьпастаўляецца кагорце паплечнікаў. Разам з тым Уладзіслаў Сыракомля абсалютна не ідэалізуе ваяроў-ліцвінаў. Яны роўна такія ж вайскоўцы, салдаты, якія ведаюць сваю справу:

Litwin zemstą kipiący, a na jęki głuchy,
Odziera z szyj rycerskich złociste łańcuchy,
Odziera miecz od boku, szarpie hełm bogaty,
I płaszcze z krzyżem Pańskim rozdziera na szmaty;
Albo żylaste ręce, jako sępie szpony,
Zapuszcza w trupią brodę, we włos utrefiony,
I targa, i znieważa ostatki człowieka,
Gdzie słyszy bicie serca, pierś na pół rozsieka [2, c. 11].

Вельмі паказальны момант, калі рыцар Маргера знаходзіць паўмёртвага Рансдорфа, спачатку схіляецца да яго, бачыць, што чалавек жывы, а пасля, пазнаўшы ў ім ворага, гатовы адразу ўчыніць расправу.

Ваяры-ліцвіны змагаюцца, баронячы сваё. Хоць нейкім чынам яны апраўданыя ў сваіх паводзінах, бо тут нападаюць не першыя.

У той час, як рыцары-крыжакі ўяўляюць сабе ліцвінаў шматбожнікамі, успрымаючы іх веру нібы нецывілізаваныя перажыткі мінуўшчыны, язычнікі бачаць вытаптаныя палеткі і спаленыя вёскі. Трэба сказаць, што ліцвінаў у Сыракомлі мы бачым праз апавядальніка, які спачувае і літоўскай зямлі, і людзям. Акрамя таго, пісьменнік звяртае асаблівую ўвагу на тое, як ліцвінаў бачыць палонены Рансдорф, якога забралі з поля бою як ахвяру, пакінулі жыць. Акрамя таго, юнак знаходзіць у чужынскім замку тое, што прымушае яго пазбыцца ўсяго ўбачанага за сценамі муроў Маргера (каханне да Эгле, але гэта іншая гісторыя). Але палітычныя амбіцыі крыжацкага магістрата змусяць Рансдорфа ісці на Літву. Наступны паход абгрунтоўваецца тым, што бліжэйшыя да Пулена землі падпарадкаваныя.

Не трэба доўга распавядаць пра тое, што хрышчэнне Літвы адбывалася цягам папярэдніх стагоддзяў і хрысціянскае веравызнанне прымалі літоўскія князі ў адпаведнасці са сваімі ўласнымі памкненнямі, якія часта грунтаваліся на асабістых, дзяржаўных, палітычных запатрабаваннях — вялікія князі і знаць аддавалі перавагу ці ўсходняй, ці заходняй традыцыі. Фактычна, падзеі, апісаныя Сыракомлем, адлюстроўваюць наступны, экспансійны працэс, які мала дастасаваўся да рэлігіі, а тым больш да веры і маралі.

Уладзіслаў Сыракомля апавядае пра адну лакальную падзею, нават здарэнне з гісторыі Літвы, відавочна, намагаючыся, з аднаго боку, стварыць агульную карціну, асэнсаваць веды з мінуўшчыны, скласці пэўны заканамерны абрыс таго часу. З другога — паказаць выключнасць галоўных герояў, іх паводзінаў у крытычных абставінах. Маргер, постаць гістарычная, моц, розум і сэрца Літвы, прымае апошняе для сябе рашэнне, на цяперашні погляд роспачнае, але адзінае. Рансдорф жа, больш мяккі за сваіх паплечнікаў, не абдзелены розумам, глыбейшае веры і не меншае адданасці службе, бачыцца чалавекам наступнай эпохі, з надзеяй на змены і вырашэнне мірным шляхам (што на фоне апісанага практычна немагчыма).

## Літаратура


1. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд / М. Ермаловіч. — Мінск: Выдавецкі цэнтр «Бацькаўшчына»; МП «Бесядзь», 1994. — 91 с.
2. Margier, poemat z dziejów Litwy. Poezye Ludwika Kondratowicza (Władysława Syrokomli) z portretem autora. Tom II // Nowa Biblioteka pisarzy polskich. Tom XIV. Nakładem Karola Miarki. Mikolów. — Warszawa, 1908. — 328 s. // Wikimedia Commons [Electronic resource]. — Mode of access: https://commons.wikimedia.org/w/index.php?title=File:Poezye_Ludwika_Kondratowicza_tom_I–II.djvu&page=10. — Date of access: 23.01.2015.
3. Соловьев, С. М. История России с древнейших времен / С. М. Соловьев; отв. ред.: И. Д. Ковальченко, С. С. Дмитриев // Сочинения: в восемнадцати книгах. — Книга II. — Москва: Мысль, 1988. — 765 с.
4. Стрыйковский, М. О началах, истоках, достоинствах, делах рыцарских и внутренних славного народа литовского, жмудского и русского, доселе никогда никем не исследованная и не описанная, по вдохновению божьему и опыту собственному / М. Стрыйковский; пер. В. Т. Поляковский. — Часть I. — Москва; Берлин: Директ-Медиа, 2015. — 448 с. // Google Books [Электронный ресурс]. — Режим доступа: https://books.google.by/books?id=lbc5CwAAQBAJ&pg=PA311&lpg=PA311&dq=замок+Пуллен&source=bl&ots=5ZPmxcd2La&sig=u06ObH_k63meONKMG438b-xlF3A&hl=ru&sa=X&ved=0ahUKEwjnyPjdmLvNAhXIjiwKHaRRB-Q6AEIGjAA#v=onepage&q=%D0%B7%D0%B0%D0%BC%D0%BE%D0%BA%20%D0%9F%D1%83%D0%BB%D0%BB%D0%B5%D0%BD&f=false. — Дата доступа: 12.05.2016. (Паводле выд.: Kronika Polska, Litewska, Żmudzka i wszystkiej Rusi. — Кёнігсберг, 1582.)

**Helena Głogowska** *(Olsztyn, Polska)*

# KŁOPOTY Z TOŻSAMOŚCIĄ NARODOWĄ NA POGRANICZU POLSKO-BIAŁORUSKIM

Wobec ciągle aktualnego problemu związanego z dylematami na pograniczu polsko-białoruskim, można postawić hipotezę, że są one spowodowane spuścizną po Wielkim Księstwie Litewskim, w którym zaznaczyły się różne wpływy kulturowe wschodnie i zachodnie oraz religijne (pogaństwo, chrześcijaństwo wschodnie, zachodnie, judaizm, islam), oraz opóźnionego pojawienia się w tej przestrzeni kategorii nowoczesnego narodu i koniunkturalnego wykorzystywania jej przez władze polityczne oraz ludność. Była przestrzeń Wielkiego Księstwa Litewskiego stała się swoistym pograniczem polsko-białoruskim, na którym po jego upadku ścierały się różne wpływy polityczne: rosyjskie, polskie, niemieckie, litewskie, białoruskie, które aspirowały do dominacji na tym terytorium. Jaki był tego efekt w XX w., pokazują zmieniające się granice państwowe. Pojawiają się więc pytania: 1. Jakie czynniki wpływały i jakie kryteria powodowały dylematy tożsamościowe? 2. Jak język, wyznanie, stan świadomości narodowej, koniunktura polityczna wpływały na te dylematy?

Pogranicze polsko-białoruskie jest kategorią niejednoznaczną, różnie pojmowaną. Pojęcie pogranicza zawiera w sobie wiele sensów i bywa stosowane w różnych znaczeniach [23, s. 5]. Jest nią przestrzeń ukształtowana «historycznie (w związku ze zmianami granic i układów państwowych oraz migracjami ludności)», zamieszkała «przez ludzi znajdujących się w specyficznej sytuacji (pogranicznej — innej niż w centrum) z punktu widzenia swojej tożsamości i kultury, w tym stosunku do religii i języka lub języków, w przypadku wielojęzyczności» [23, s. 5]. Można mówić o różnych wymiarach pogranicza: — personalnym, społecznym, sytuacyjnym. Wiele socjologicznych i socjolingwistycznych definicji pogranicza określa je jako «miejsce zetknięcia się, przenikania, nakładania itp. różnych narodów czy grup etnicznych, ich kultur i języków» [23, s. 5–6].

W przypadku pogranicza polsko-białoruskiego można stwierdzić, że wyznacza je wiele czynników. Wśród nich istotne znaczenie ma historia i kształtowanie się granic politycznych, zwłaszcza po unii polsko-litewskiej w Krewie w 1385 r., a następnie po unii lubelskiej w 1569 r. Koegzystencja we wspólnej Rzeczypospolitej charakteryzowała się wspólnymi cechami, takimi np. jak rozprzestrzenianie się elementów kultury zachodniej na ziemiach białoruskich po unii polsko-litewskiej. Różne etnosy, zamieszkujące Rzeczpospolitą, posługujące się różnymi językami, poddawały się różnym wpływom, m.in. religijnym, językowym, kulturowym. Samuel Huntington na pograniczu polsko-białoruskim (przez środek obecnej Białorusi) przeprowadził wschodnią granicę cywilizacji zachodniej, która ustaliła się około 1500 r. [10, s. 231] Oddziaływanie chrześcijaństwa wschodniego i

zachodniego na przestrzeni dziejów uczyniło z religii ważny czynnik identyfikacji na pograniczu polsko-białoruskim poczynając od XIV w. Potem nałożyło się na to pojęcie narodowości, co doprowadziło do częstego utożsamiania kategorii wyznaniowej z narodową. Chociaż etnosy rozmawiały własnymi językami, w sferze publicznej na pograniczu dominował język urzędowy, właściwy dla grup panujących politycznie. W praktyce wiązało się to z wpływami języka polskiego na obszar Wielkiego Księstwa Litewskiego, a następnie — po rozbiorach Rzeczypospolitej — języka rosyjskiego. Język białoruski jako język urzędowy w Wielkim Księstwie Litewskim po unii lubelskiej zaczął tracić na znaczeniu i przetrwał w użyciu potocznym — często jako «prosty» język do początku XX w. Na te wszystkie wpływy nałożyła się kwestia narodowa, która stała się dominującą na początku XX w., by w obliczu I wojnie światowej sprowokować powstanie państw narodowych.

Mówiąc o pograniczu polsko-białoruskim trudno wyznaczyć jego obszar geograficzny. Wobec oddziaływania wielu czynników terytorium to staje się płynne i niejednoznaczne. Elżbieta Smułkowa stwierdziła, że «wprawdzie etnografowie wytyczają zasięgi poszczególnych elementów dawnej kultury ludowej i językoznawcy — cech dialektycznych, a historycy wskazują kierunki ruchów osadniczych i przebieg historycznych granic politycznych i administracyjnych, co ułatwia myślenie o jakimś obszarze jako pogranicznym w sensie kulturowym, ale na tym się owa terytorialność w zasadzie kończy. Czyli nawet terytorialnie rozumiane pogranicze jest tworem myślowym, bardziej konstrukcją wyobrażeniową badacza (opartą wprawdzie na realiach) niż bytem fizycznym» [23, s. 7]. Justyna Straczuk, badająca pogranicze prawosławno-katolickie, stwierdziła, że ma ono «bardziej naturę symboliczną niż fizyczną. Nie można bowiem ustalić topograficznej granicy kulturowej ani tym bardziej międzygrupowej granicy etnicznej. Granice nie biegną między grupami, ale są zinternalizowane, przebiegają wewnątrz człowieka. Nie da się wobec tego ustalić zewnętrznych obiektywnych granic wyznaniowych, nawet mimo, wydawałoby się, jednoznacznej instytucjonalnej przynależności do Kościoła katolickiego czy prawosławnego. Miejscem kontaktu kulturowego jest bowiem zawsze jednostka, która uwikłana w różne relacje — społeczne, rodzinne, lokalne, wyznaniowe — prezentuje własny, indywidualny układ kulturowy, rozmaicie wykorzystywany i interpretowany» [25, s. 246]. Ponieważ pogranicze polsko-białoruskie jest wieloaspektowe i trudne do zdefiniowania i określenia jego zasięgu, pojawiają się na nim problemy z identyfikacją jego mieszkańców, którzy często nie potrafią określić swej tożsamości, wykraczającej poza «swojskość», «tutejszość» w opozycji do «obcości» czy «inności».

«Specyficzną kwestią na pograniczu kultur jest określenie tożsamości narodowej poszczególnych jednostek» — stwierdza Andrzej Chodubski [2, s. 11]. Zauważa w tym względzie: 1. tożsamość autochtoniczną, 2. tożsamość narodu stanowiącego większość w strukturze państwowej, 3. tożsamość mniejszości narodowych w strukturze państwowej, 4. tożsamość zmierzającą do dwu- bądź

Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з “Хронікай Быхаўца”» [4]. У артыкуле акрамя расчытанага тэксту помніка прадстаўлены ўласныя вынікі азнаямлення з рукапісам і матэрыяламі яго адзінкі захавання.

Згодна з папярэднімі высновамі, на старонках Вавельскага спіса прадстаўлены фрагмент (страчаны пачатак і канец) аднаго са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ. Гэта адзіны вядомы на сёння кірылічны спіс поўнага зводу. Палеаграфічны аналіз паперы, вадзяных знакаў і почырку дазваляе датаваць яго другой паловай XVI ст. — 70–90-мі гадамі. Сярод гіпатэтычных уладальнікаў рукапісу — князі Астрожскія-Заслаўскія, чый архіў пасля выгасання роду перайшоў у спадчыну Сангушкам, а таксама самі князі Сангушкі, у чыіх зборах адзін са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ мог захоўвацца ад пачатку [4, с. 206].

Не выключанай, хоць і дастаткова гіпатэтычнай, з’яўляецца сувязь Вавельскага спіса з віленскай каралеўскай бібліятэкай Жыгімонта ІІ Аўгуста: частка бібліятэчных збораў пасля смерці караля і вялікага князя патрапіла на абшары Малапольшчы, у тым ліку і ў прыватныя ўладанні магнатаў [9].

Аб’ём захаванага ў Вавельскім спісе летапіснага фрагмента складае 26 аркушаў, альбо 52 старонкі (285–336). На некаторых аркушах прысутнічаюць сляды старой кірылічнай пагінацыі — унізе 295 старонкі пазначана літара ѕ҃ (6), унізе 311 старонкі — літара з҃ (7). Прысутнасць на старонках рукапісу лічбавай кірылічнай сістэмы сведчыць пра тое, што захаваны фрагмент рукапісу некалі ўваходзіў у склад больш вялікага кодэкса, а значыць і большага па аб’ёме летапіснага помніка [4, с. 193, 195].

Тэксталагічныя назіранні, зробленыя намі пры першасным аналізе рукапісу Вавельскага спіса, дазволілі зрабіць папярэднія высновы адносна арыгінальнасці тэксту рукапісу і яго ўзаемасувязі з Хронікай Быхаўца. У прыватнасці, было адзначана, што Вавельскі спіс уяўляе сабой копію; што Вавельскі спіс і Хроніка Быхаўца ўзыходзяць да агульнага пратографа (адлюстроўваюць агульны архетып); што Вавельскі спіс не з’яўляецца кірылічным пратографам Хронікі Быхаўца [4, с. 206].

Адзначаны і такія асаблівасці тэксту рукапісу, як: 1) наяўнасць некалькіх відаў почырку (прычым характэрна, што ў пераважнай большасці выпадкаў іншым почыркам запоўнены невялікія фразы ў сярэдзіне радка, што, у сваю чаргу, можа сведчыць пра тое, што асноўны перапісчык пакідаў у тэксце лакуны, якія пазней запаўняліся іншым пісцом); 2) наяўнасць паўтораў і выпраўленняў; 3) наяўнасць кустодаў, выкарыстанне якіх не адпавядае сваму прызначэнню [4, с. 195–198].

Нягледзячы на тое, што паасобныя тэксталагічныя назіранні над Вавельскім спісам ужо патрапілі ў поле навуковай зацікаўленнасці вучоных, неабходнасць больш падрабязнага — заснаванага на аналізе паасобных розначытанняў — тэксталагічнага аналізу дадзенага помніка не страціла сваёй актуальнасці, а для даследавання ўсяго поўнага зводу мае прынцыпо-

вае значэнне. Гэта дасць магчымасць прасачыць асаблівасці адлюстравання агульнага пратографа ў спісах Вавельскім і Хроніка Быхаўца; а таксама асаблівасці ўзаемадачыненняў Вавельскага спіса са спісамі іншых зводаў беларуска-літоўскага летапісання.

## Аналіз розначытанняў

Супастаўляльны аналіз паралелльных тэкстаў Вавельскага спіса і спіса Хроніка Быхаўца выявіў паміж імі шэраг розначытанняў, сярод якіх: лексічныя замены; адрозненні ў марфемнай структуры слоў; лексічныя варыянты фанетычнага і арфаграфічнага паходжання; пропускі слоў і тэкставых фрагментаў; інверсія словаформ.

Натуральна, што не ўсе з пералічаных розначытанняў характарызуюцца аднолькавай ступенню значнасці для высвятлення ўзаемадачыненняў паміж спісамі. У межах дадзенага артыкула наша ўвага (з арыентацыяй методыку, распрацаваную Дзмітрыем Ліхачовым [3]), будзе звернута на розначытанні, якія 1) могуць сведчыць пра свядомую, мэтанакіраваную дзейнасць перапісчыка; 2) з'яўляюцца паказальнымі для характарыстыкі перапісчыка — яго кампетэнцыі, моўных густаў; 3) могуць з'яўляцца адлюстраваннем пэўных этапаў як у гісторыі помніка, так і ў гісторыі яго перапіскі.

Розначытанні, якія не маюць сэнсава значнай для тэкстаў ролі альбо ўзнікненне якіх можа кваліфікавацца як вынік міжвольнай дзейнасці перапісчыка (інверсія слоў, пропуск слова ў назве княжаскіх тытулаў; несупадзенні ў выкарыстанні службовых часцін моў (пропуск, замена злучнікаў и/а), у межах дадзенага даследавання не разглядаюцца. Па прычыне абмежаванасці аб'ёму прыведзеныя розначытанні не ахопліваюць усіх, выяўленых пры тэксталагічным супастаўленні спісаў.

Важна адзначыць і тое, што тэксталагічны аналіз спісаў поўнага зводу праводзіцца з улікам неаднароднасці яго складу. Паводле даследчыкаў, якія ў сваіх працах падрабязна спыняліся на аналізе структуры і крыніц Хронікі Быхаўца (Тэакрыст Сушыцкі [10; 11], Вячаслаў Чамярыцкі [13], Ежы Ахманскі [20], Барыс Флора [12], Мечысловас Ючас [14], Надзея Марозава [5; 6]), у гэтым помніку, акрамя арыгінальных частак, можна вылучыць часткі, створаныя на аснове *Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага* і *Летапісца вялікіх князёў літоўскіх*. З улікам дадзенай высновы супастаўленне выяўленых розначытанняў Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца з адпаведнымі варыянтамі іншых спісаў беларуска-літоўскага летапісання праводзіцца ў залежнасці ад таго, да якой крыніцы ўзыходзіць выбраны для аналізу фрагмент. Пры неабходнасці праводзіцца супастаўленне па ўсіх спісах.

Цытаты з Вавельскага спіса прыводзяцца па рукапісе [1], з Хронікі Быхаўца — па выданні Т. Нарбута [21]. Розначытанні з іншымі спісамі беларуска-

літоўскага летапісання прыводзяцца па публікацыі ў 35-м томе «Полного собрания русских летописей» [7].

**Лексічныя розначытанні.** Сярод найбольш паказальных для характарыстыкі генеалагічных узаемасувязяў Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца з'яўляюцца розначытанні, прадстаўленыя **лексічнымі варыянтамі** (як рознакаранёвымі, так і аднакаранёвымі, выкліканымі як сінанімічнай, так і несінанімічнай заменай лексем).

Да лексічных розначытанняў, якія ўзніклі ў выніку несінанімічнай замены лексем, адносяцца:

| *Вавельскі* | *Хроніка Быхаўца* |
|---|---|
| А с того вси городы **полские** поделали и всю землю Подолскую ѡсели, с. 288 | a z toho wsi horody **Podolskija** podełali y wsiu zemlu Podolskuiu osieli, c. 19 |
| А потом Смотрич, и Скалу, и **Черныи Городок** вынял, и вси городы позаседал, с. 290 | A potom Smotrycz, y Skału y **Czerleny horod** wyniał, y wsi horody pozasidał |
| а я, даст Бог, в него буду на Великден, с. 294<br>…И на самыи **Великден** рано княз великии со бояры и съ кн(я)зи ѿ заѵтрени идет с ц(е)ркви, с. 295 | A ja dast' Boh w neho budu na welikdeń, c. 21<br>…i na samy **wedeniy deń** rano, kniaź weliki so bojary y so kniazi ot zawtryni idet z cerkwi, c. 21 |
| по\|нял кн(я)зь великии Ѡлгирдь дочку кн(я)зя великого тферского **Юревну** княжну Ѵля\|ну, с. 300 | poniał kniaź weliki Olgierd doczku kniazia welikoho Twerskoho **Oljewnu**, kniażnu Ulianu, c. 22 |
| ѡстродскии кунтор, звали его **Гуностым**, с. 303 | Ostrodski kuntor, zwali ieho **Liebestyn**, c. 23 |
| и поиде к рецѣ к **Вилни**, с. 310 | y poyde k rece k **Willii**, c. 25 |
| подлуг их воли веру **хрестиянскую** приняти, с. 322–323 | według ich woli, wiru **ich łatyńskuiu** pryniaty, c. 29 |
| А **люд свои зостави** ѵ Высоком городе тогда сущу, и не \| пустиша в город кн(я)зя Скиркгаила с. 331 | a **Ladckoyże zostałsia** u wysokom tohda horode suszczy, y nepustysza w horod kniazia Skirgayła, c. 31 |

Кантэкстуальны аналіз першага розначытання — *городы* ***полские*** */ horody* ***Podolskija***, як і супастаўленне яго з адпаведным фрагментам у іншых спісах беларуска-літоўскага летапісання, дзе паўсюль прысутнічае лексема *подольския*[1], сведчыць, што дадзены варыянт, з аднаго боку, можа быць так

[1] Супр. [7, с. 66], Еўраін. [7, с. 228 ], Крас. [7, с. 138], Рум. [7, с. 207], Альш. [7, с. 186].

званай памылкай пераасэнсавання альбо памылкай прачытання: не расчытаўшы назву ў пратографе, перапісчык прапанаваў уласны, блізкі па гучанні варыянт. Не выключана, аднак, што замена лексемы *подольския* на *польскія* акурат з'яўляецца асэнсаванай праўкай перапісчыка: пасля Люблінскай уніі Падолле ўвайшло ў склад Польскага Каралеўства, адпаведна падольскія землі правамерна сталі называцца *польскімі*. У такім выпадку розначытанне можна разглядаць як адно са сведчанняў часу перапіскі спіса — 2-я палова XVI ст., пасля 70-х гадоў.

У адрозненне ад першага, другое розначытанне — ***Черныи*** *Городок* / ***Czerleny*** *horod* — з большай упэўненасцю можна вызначыць як памылку пераасэнсавання. Лексема *червлёный* са значэннем 'цёмна-чырвоны, барвовы' як складовая частка геаграфічнай назвы пры няправільным расчытанні была пераўтворана ў блізкую па гучанні лексему *чорны*. Адпаведныя фрагменты іншых спісаў беларуска-літоўскага летапісання таксама ўтрымліваюць лексему *червлёный*[1]. Варта таксама заўважыць, што ва ўсіх іншых спісах, акрамя Румянцаўскага, як і ў Вавельскім, прадстаўлена форма *городок* (а не *город*, як у Хроніцы Быхаўца), што дазваляе вызначыць гэты варыянт як першасны.

Асобнага каментару патрабуе аналіз розначытання ***Великден / wedeniy deń***, выяўленага ў так званым апавяданні пра паход Альгерда на Маскву. Акрамя Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца дадзенае апавяданне прысутнічае толькі ў Еўраінаўскім спісе. Як і ў Вавельскім, у Еўраінаўскім спісе прадстаўлена лексема *великдень* [7, с. 223].

Гэтая ж лексема адзначана таксама ў «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага. Апісваючы паход Альгерда на Маскву, М. Стрыйкоўскі заўважае, што дадзеныя звесткі сустракаюцца толькі ў «па-руску пісаных літоўскіх летапісах» [23, с. 420], а «рускія хронікі» і іншыя гісторыкі, акрамя Герберштэйна, гісторыю пра паход Альгерда на Маскву не згадваюць [23, с. 421].

Калі зыходзіць з кантэкстуальнага аналізу апавядання пра паход Альгерда на Маскву, то больш апраўданым з'яўляецца варыянт *великдень*, у тым ліку ў спісе Хроніка Быхаўца: вялікі князь Альгерд пагражае прыйсці з войскам на Маскву на Вялікдзень — і здзяйсняе сваю пагрозу. Чым тады можна патлумачыць прысутны ў Хроніцы Быхаўца варыянт *wedeniy deń*?

На аналізе дадзенага розначытання ў свой час спыняўся польскі гісторык Казімір Хадыніцкі [16, с. 15–16]. Адзначыўшы, што звесткі пра «введений день»[2] як тэрмін прыходу Альгерда на Маскву пазначаны ў «Софийским временнику», К. Хадыніцкі выказаў гіпотэзу, што стваральнік Хронікі Быхаўца, памыліўся і, недакладна расчытаўшы інфармацыю з крыніцы, замест *введений день* прачытаў *великдень*. Гэта, у сваю чаргу, паводле даследчыка, абумовіла

---

[1] Сл. [7, с. 74], Супр. [7, с. 66], Крас. [7, с. 139], Рум. [7, с. 207], Альш. [7, с.187].

[2] Свята Увядзення ў храм Божай Маці па праваслаўным календары адзначаецца 21 лістапада.

стварэнне цэлай гісторыі пра велікоднае яйка. Не выключаў гісторык і таго, што варыянт *введений день* у тэкст Хронікі Быхаўца мог быць уведзены Т. Нарбутам [16, с. 15–16]. Мяркуем, ні адна з гіпотэз К. Хадыніцкага не можа лічыцца да канца абгрунтаванай. Больш верагоднай з'яўляецца акурат першаснасць прысутнага ў спісах Вавельскім і Еўраінаўскім варыянту *великдень*. У сваю чаргу, індывідуальны для Хронікі Быхаўца варыянт *введений день* уяўляе сабой альбо памылку прачытання / пераасэнсавання, альбо, што таксама не выключана, вынік свядомай праўкі перапісчыка: даведаўшыся з іншых крыніц новую інфармацыю пра час паходу Альгерда на Маскву, перапісчык мог унесці змены ў рукапіс.

Не менш паказальным з'яўляецца разначытанне ***Юревну / Oljewnu***, прысутнае ў фрагменце пераліку Альгердавых нашчадкаў. Гаворка ў дадзеным выпадку вядзецца пра другую жонку вялікага князя Альгерда цвярскую князёўну Ульяну Аляксандраўну. Зыходзячы з таго, што сярод памяншальна-ласкальных форм імені *Аляксандр / Аляксандра* прысутнічаюць формы *Олесь, Олелько, Оля* (формы *Олесь / Оля* як скарочаныя ад *Алянсандр / Аляксандра* захаваліся ў сучаснай польскай мове), то больш дакладным падаецца чытанне, прадстаўленае ў Хроніцы Быхаўца, — *Ульяна Олеўна* (*Оліеўна, Ольеўна*?), што можна расчытаць як Ульяна Аляксандраўна. Разам з тым у Еўраінаўскім спісе — адзіным сярод захаваных, дзе таксама, як і ў спісах Вавельскім і Хроніка Быхаўца, ёсць падрабязны пералік Альгердавых дзяцей, — прадстаўлены ідэнтычны варыянту з Вавельскага спіса варыянт *Юрьевну* [7, с. 223].

Ідывідуальным, характэрным толькі для Хронікі Быхаўца з'яўляецца прысутны ў гэтым спісе варыянт імя астрожскага кунтара — *Liebestyn* (разначытанне ***Гуностым / Liebestyn***). У спісах кароткага зводу Віленскім, Супрасльскім і Акадэмічным знаходзіцца блізкі да Вавельскага спіса варыянт *Гуносты**н*** (Віл.: *звали его Гунстыном* [7, с. 86]; Супр.: *звали его Гунстыномь* [7, с. 62]; Акад.: *звали его Гуньстыном* [7, с. 111]). Адпаведна у Вавельскім спісе прадстаўлены больш ранні варыянт і лексема *Liebestyn* з'яўляецца ў дачыненні да яго другаснай. Разам з тым дакладна вызначыць паходжанне гэтага другаснага варыянта складана. У спісах пашыранага зводу (за выключэннем спіса Красінскіх, дзе таксама прадстаўлена лексема *Густын* [7, с. 133]), прысутнічае варыянт *Августын* (спісы Рач. [7, с. 155], Рум. [7, с. 202], Альш. [7, с. 182], Арх. т-ва [7, с. 98]), *Август* (Еўраін. [7, с. 224]). К. Гудмантас, аналізуючы разначытанне *Гуностым / Liebestyn*, адзначыў, што ў Хроніцы Быхаўца прадстаўлена цалкам правільная нямецкая форма імя, і менавіта яна можа з'ўляцца арыгінальнай. Разам з тым даследчык не выключыў верагоднасці таго, што форма *Liebestyn* уяўляе сабой інавацыю Т. Нарбута [17, с. 127–129].

Паказальным для характарыстыкі спісаў поўнага зводу з'яўляецца таксама разначытанне *к* ***Вилни / k Willii***: першы з варыянтаў — *к Вилни* — адпавядае варыянту са Слуцкага спіса [7, с. 69], у той час як другі — варыянту са спісаў Віленскага [7, с. 86] і Супрасльскага [7, с. 112].

Разначытанне *веру **хрестиянскую** / wiru **ich łatyńskuiu*** можна аднесці да тыпу свядомых правак. Прадстаўлены ў Хроніцы Быхаўца варыянт *wiru **ich łatyńskuiu*** ўтрымлівае значэнне супрацьпастаўлення «мы — яны». Гэтым падкрэсліваецца, што прыймаецца «чужая» стваральнікам тэксту вера. У сваю чаргу, варыянт *веру **хрестиянскую**,* наадварот, змяншае значэнне супрацьпастаўлення сябе іншым; акцэнтуе ўвагу не на тым, што прымаецца чужая вера, але на тым, што нехрысціянін прымае хрысціянства. Паколькі дадзеная фраза не мае сабе адпаведнікаў у іншых спісах, дакладна вызначыць, якая форма з'яўляецца першаснай, немагчыма.

Да з'яўлення памылкі ў абодвух спісах — Вавельскім і Хроніцы Быхаўца — прывяло недакладнае прачытанне фразы *А лядскои заставе, у Высокомь городе тогда сущу и не пустиша у градь Скиргаила* (цыт. па Слуцк. спісе [7, с. 71]). Вынікам яго стала ўзнікненне разначытання ***люд свои зостави / Ladckoyże zostałsia***. Наяўнасць дадзенага разначытання сведчыць пра тое, што абодва спісы з'яўляюцца копіямі і спісваліся з больш ранняга пратографа, прычым у абодвух выпадках ідэнтычнае месца выклікала праблемы з расчытаннем. Важна таксама звярнуць увагу на тое, што і ў Вавельскім спісе, і ў Хроніцы Быхаўца, як і ў Слуцкім спісе, прысутнічае лексема *Скиргаила*, у той час як у спісах Віленскім, Супрасльскім і Акадэмічным — *Költраило* [7, с. 89, с. 65], *Кограила* [7, с. 114]. Гэта, у сваю чаргу, даказвае, што варыянт *Скиргаила* характэрны не толькі для Хронікі Быхаўца, але і для ўсяго поўнага зводу і з'яўляецца дадатковым пацвярджэннем агульнапрынятай на сёння гіпотэзы, што пратографам поўнага зводу быў спіс, блізкі да Слуцкага [6, с. 22; 13, с. 168–169].

Такім чынам, аналіз несінанімічных па сваім паходжанні разначытанняў Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца паказаў, што для Хронікі Быхаўца ў большай ступені характэрныя індывідуальныя разначытанні (*wedeniy deń, Oljewnu, Liebestyn*), у той час як варыянты з Вавельскага спіса маюць адпаведнікі як у Еўраінаўскім спісе (*Великден, Юревну*), так і ў спісах кароткага зводу (*Гуностым*). Разам з тым для Вавельскага спіса (што ніжэй будзе праілюстравана таксама і іншымі прыкладамі) характэрна наяўнасць большай, у параўнанні з Хронікай Быхаўца, колькасці варыянтаў, узнікненне якіх можна звязаць з памылкай прачытання альбо памылкай пераасэнсавання (*городы полские*; *Черныи Городок*).

Асобную групу разначытанняў, выяўленых пры паралельным супастаўленні Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца, складаюць разначытанні, якія ўзніклі ў выніку сінанімічнай замены лексем: *братскои* (с. 286) — *braterskoy* (с. 18)[1]; *францышковъ* (с. 295, 299) — *Franciszkan* (с. 20, с. 22); *ѡдинство* (с. 302) —

[1] Асобна хацелася б адзначыць супадзенне варыянта *братцкой* у спісах Вавельскім і Еўраінаўскім (адзіным са спісаў, дзе ёсць даслоўнае тэксталагічнае супадзенне апісання пагаднення паміж вялікімі князямі Альгердам і Кейстутам [7, с. 223]).

*odynoctwo* (с. 22); *нелюбост* (с. 303) — *nelubow* (с. 23); *ѿчину* (с. 306) — *otczyznu* (с. 24); *ѡного* (с. 320) — *toho* (с. 28); *иные* (с. 314, 330) — *inszyie* (с. 25, 31). Аналіз дадзеных розначытанняў паказвае, што большая частка варыянтаў, прадстаўленых у Вавельскім спісе, адносіцца да больш архаічнай, стылістычна маркіраванай лексікі, у той час як у Хроніцы Быхаўца адпаведная лексіка мадэрнізавана. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу прысутнасць у Хроніцы Быхаўца лексічных варыянтаў, з'яўленне якіх відавочна абумоўлена ўплывам польскай мовы: *с(о)лнца* (с. 298) — *słońca* (с. 22), *Жикгимонт* (с. 301) — *Zygmont* (с. 28); *Вильня* — *Вильно* (*засели* ***Вилню*** (с. 308) — *zaseli* ***Wilno*** (с. 24); *поедмо до* ***Вилни*** (с. 313) — *poiedmo do* ***Wilna*** (с. 25)); *шостыи* (с. 300) — *szósty* (с. 22) і інш.). Апошняе, мяркуем, тлумачыцца тым, што Хроніка Быхаўца ўяўляе сабой позні, да таго ж транслітараваны з дапамогай польскай лацінкі спіс, які перапісваўся ў дастаткова спецыфічнай культурна-моўнай сітуацыі, звязанай з пашырэннем польскай культуры на землях ВКЛ. Наяўнасць непаланізаваных варыянтаў у больш раннім Вавельскім спісе сведчыць пра іх першаснасць у дачыненні да паланізмаў, прысутных у Хроніцы Быхаўца.

Акрамя лексічных варыянтаў сінанімічнага і несінанімічнага паходжання, пры супастаўляльным аналізе Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца выяўлены розначытанні з адрозненнем у адну літару: *к* — *н*, *к* — *т*, *т* — *п*, *н* — *л*:

| | |
|---|---|
| воеводу кн(я)зя Федорова, што на тых городех был, на имя **Нестака**, с. 290 | y wojewodu kniazia Fedorowa, szto na tych horodech był, na imia **Nestana** poymał, c. 20 |
| Нехто **пак** был ѡстродскии \| кунтор, с. 303 | Nechto był **pan** Ostrodski kuntor, c. 23 |
| **Винкгонт** Андреи, ȣдел его Трубческь, с. 300 | **Wingolt** Andrey udeł ieho Trubczesk, c. 22 |
| И поиде **таки** кн(я)зь великии Витолт къ городу, с. 331 | Y poyde **paki** kniaź Witolt ko horodu Wilni, c. 31 |
| а **так** к Вилни приехали, и \| кн(я)зь великии Якгоило дядю своего кн(я)зя великог(о) Кестутя ѡковавши къ Креву послал, с. 313 | y **kak** k Wilni pryiechali, y kniaź weliki Jagoyło, diadiu swojeho kniazia welikoho Kestutia, okowawszy ko Krewu posłał, c. 25 |

Засяродзімся на аналізе двух першых розначытанняў, паколькі для аналізу поўнага зводу яны маюць найбольш важнае значэнне. У прыватнасці, акрамя Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца імя падольскага ваяводы сустракаецца толькі ў спісах Слуцкім (лексема *Нестака* [7, с. 74]) і Супрасльскім (лексема *Нестиса* [7, с. 66]). Прысутнасць у Вавельскім спісе варыянта *Неста**к*** дадаткова пацвярджае агульнапрынятую на сёння гіпотэзу аб тым, што пратографам поўнага зводу быў спіс, блізкі да Слуцкага, і што варыянт *Нестак* з'яўляецца

першасным у дачыненні да варыянту *Нестан*. З’яўленне апошняга ў тэксце Хронікі Быхаўца можна патлумачыць памылкай / апіскай на адным з этапаў перапіскі альбо нават транслітарацыі тэксту, калі літара *к* была памылкова расчытана як *н*.

Да падобнага па паходжанні тыпу разначытанняў адносяцца вырыянты ***пак / pan***. У спісах Віленскім [7, с. 86] і Акадэмічным [7, с. 111] прысутнічае лексема *пак*, у той час як у Супрасльскім — *пан* [7, с. 62]. Такім чынам, варыянт *пак* з’яўляецца першасным у дачыненні да *пан*. У Хроніцы Быхаўца, у сваю чаргу, прысутнічае варыянт, які ўзнік у выніку замены літар на адным з этапаў перапіскі, і гэты варыянт тэксталагічна блізкі да чытання ў Супрасльскім спісе.

Заменай літар на адным з этапаў перапіскі можна патлумачыць узнікненне разначытання ***Винкгонт / Wingolt***. Варыянт *Винкгонт* прысутнічае ў іншых сказах гэтых жа спісаў (*и стретит его кн(я)зь Скиркгаило з братом своим* ***Винкгонтом***, с. 330 / *i stretet ieho kniaź Skirgayło z bratom swoim* ***Wingontom***, с. 31), што даказвае яго першаснасць у дачыненні да варыянта з Хронікі Быхаўца.

Да цікавых лексічных разначытанняў з адрозненнем у адну літару можна аднесці таксама разначытанні ***Бог / Bohi***; ***зажигали / zażymali***:

| | |
|---|---|
| ѡн же [вялікі князь Кейстут. — *Г. М.*] к великому кн(я)зю Витолту, сыну своемү, рек: «Ты мне не верил, а се тые грамоты, што записалися были на нас, но **Бог** нас wстерег, с. 306 | On że [вялікі князь Кейстут. — *Г. М.*] ko welikomu kniaziu synu swojemu Witowtu rek: ty mne ne werył, a se tyie hramoty szto zapisalisia byli na nas, no **Bohi** nas osterehli, с. 24 |
| и ѡчепы, хоромы великие поднимаючи, пленных под стены главами клали и **зажигали**, с. 326 | y oczepy choromy welikiie podnimaiuczy, plennych pod steny hławami kłali y **zażymali**, с. 30 |

Нязначнае на першы погляд разначытанне ***но Бог нас wстерег / no Bohi nas osterehli*** набывае зусім іншую вагу, калі аналізаваць яго з улікам такога гістарычнага факта, як нехрышчонасць вялікага князя Кейстута. Гістарычна больш дакладным у такім выпадку выглядае варыянт Хронікі Быхаўца. Разам з тым менавіта варыянт *Бог* прысутнічае ва ўсіх іншых спісах беларуска-літоўскага летапісання — як кароткага, так і пашыранага зводу (Слуцк. [7, с. 68], Віл. [7, с. 86], Супр. [7, с. 62], Акад. [7, с. 111], Еўраін. [7, с. 224], Крас. [7, с. 134], Рачынск. [7, с. 155], Румянц. [7, с. 203], Альш. [7, с. 182]). Адпаведна гэты варыянт можна лічыць першасным у дачыненні да варыянта *боги* — пазнейшай свядомай праўкі перапісчыка. Такім чынам, можна зрабіць выснову аб тым, што папярэдне вядомы толькі па спісе Хроніка Быхаўца варыянт *боги* не з’яўляецца характэрным для ўсіх спісаў поўнага зводу. Гэтае чытанне з’яўляецца альбо індывідуальным — характэрным толькі для Хронікі Быхаўца (што

найбольш верагодна) і ўяўляе сабой свядомую праўку перапісчыка, альбо, не выключана, характэрным для асобнай групы спісаў поўнага зводу — калі праўка была зроблена на ранніх этапах перапіскі.

Да такой жа праўкі — якая магла ўзнікнуць у выніку мэтанакіравайнай дзейнасці перапісчыка, а не як памылка прачытання — адносіцца розначытанне ***зажигали / zażytali***. Першасным з’яўляецца варыянт, прадстаўлены ў Вавельскім спісе, што даказвае тэксталагічнае супастаўленне фразы са спісамі кароткага зводу (напр., Сл.: *другыя великиа храмы очепы поднимаху и плениковь подь стену главами кладаху и* ***зажигаху*** [7, с. 70], тое ж у спісах Супрасльскім [7, с. 64] і Віленскім [7, с. 88]). Разам з тым варыянт *зажимали* кантэкстуальна выглядае больш лагічным: палонных клалі галовамі пад сцены пабудоў і зацiскалі. Не выключана, што апісаная ў пратографе сітуацыя — захопнікі клалі палонных галовамі пад сцяну і падпальвалі — для перапісчыка Хронікі Быхаўца была слаба ўяўляльнай і кантэкстуальна нелагічнай, у выніку чаго ў тэкст быў унесены свой, кантэкстуальна больш апраўданы варыянт. Супастаўленне дадзенага ўрыўка з адпаведным урыўкам у спісах пашыранага зводу паказвае, што стваральнік пашыранага зводу таксама імкнуўся больш разгорнута — каб чытачу было зразумела — апісаць спосаб мукі палонных, і таму ў тэкстах з’яўляецца ўдакладненне, што палонных, паклаўшы галовамі пад сцяну, падпальвалі ззаду: *а иншых людеи под стену головами клали, ланъцуги великими хоромы подънимаючи,* ***и з заду люди жъгли*** (цыт. па спісе Рач. [7, с. 157]).

Тэксталагічнае супастаўленне Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца выявіла таксама і тое, што сюжэтная ўстаўка пра забойства 14 пакутнікаў-францысканцаў характарызуецца найбольшай колькасцю розначытанняў паміж спісамі:

| | |
|---|---|
| и собралшысе мещане виленскиє погани, и прышли моцю великою ү кляштор, не хотечы хр(и)стиянства закону рымского мети, и кляштор сожьгли, и мнихов семъ **стали**, а другүю сем мнихов розвязалшы, на крыж, и пустили по Вели внизъ, мовечы: «Зъ захода єстє **с(о)лнца** пришли и на **всход** зас по(и)д(и)те, што есте **казали** богов наших», с. 297–298 | y sobrawszysia meszczanie Wileńskij pohanie, y pryszli mociu welikoiu u klasztor nechotiaczy chrystyanstwa zakonu Rymskoho mety, y klasztor sożhli, y mnichow sem **stiali**, a druhuiu sem mnichow rozwiazawszy na kryż y pustyli po welli wniz mowiaczy, z zachoda ieste **słońca** pryszli, y na **zachod** zaś poydyte, szto ieste **kazili** Bohow naszych, c. 22 |

Дадзеная ўстаўка (да фразы *Зъ захода єстє*, пасля якой адбываецца пераход на іншую старонку, дзе тэкст пішацца асноўным для рукапісу почыркам) упісана ў тэкст рукапісу іншым, больш дробным за асноўны почыркам. Як можна заўважыць з вышэйпрыведзеных цытат, варыянты з Вавельскага спіса (*мнихов семъ* ***стали*** *— mnichow sem* ***stiali****; што есте* ***казали*** *богов наших — szto ieste* ***kazili*** *Bohow naszych*) з’яўляюцца відавочна памыковымі і

маглі ўзнікнуць у выніку няправільнага прачытання альбо пераасэнсавання перапісчыкам тэксту. Памылковым і кантэкстуальна нелагічным з’яўляецца таксама прадстаўлены ў Вавельскім спісе варыянт *Зъ захода єстє с(о)лнца пришли и на **всход** зас по(и)д(и)те*.

Гэта яшчэ раз даказвае выказаную вышэй выснову пра тое, што Вавельскі спіс, у параўнанні з Хронікай Быхаўца, характарызуецца наяўнасцю большай колькасці «памылковых» варыянтаў. Разам з тым у шэрагу выпадкаў менавіта Вавельскі спіс захаваў больш раннія варыянты лексем (*Нестак*, *пак, Винкгонт, Бог*, *зажигали*). У сваю чаргу, некаторыя варыянты, прадстаўленыя ў Хроніцы Быхаўца, могуць сведчыць пра намаганні перапісчыка зрабіць тэкст больш зразумелым (*зажимали*) і адпаведным гістарычным рэаліям (*боги*).

Варта адзначыць і тое, што ў межах урыўка пра забойства францысканцаў у абодвух спісах прысутнічае кантэкстуальна алагічная фраза *а другую сем мнихов розвязалшы / a druhuiu sem mnichow rozwiazawszy,* дзе мае месца альбо памылка — павінна быць *других*, альбо пропуск. Наяўнасць дадзенага чытання ў спісах Вавельскім і Хроніка Быхаўца сведчыць пра тое, што абодва спісы ўзыходзяць да ўжо пашкоджанага — з наяўнай памылкай — пратографа.

**Пропускі.** Наяўнасць розначытанняў, звязаных з пропускам слоў ці тэкставых фрагментаў, — адна з найбольш частых з’яў рукапіснай літаратуры. І нярэдка — адна з найбольш паказальных: у адрозненне ад апісак і паўтораў слоў прысутныя ў пратографе пропускі пры ўмове адсутнасці іншых спісаў таго ж пратографа фактычна ніколі не могуць быць узноўленыя перапісчыкам [2, с. 71]. Разам з тым, паколькі перапіска любога рукапісу — працэс заўсёды жывы, індывідуальны, залежны не толькі ад стану захаванасці пратографа, кампетэнцыі перапісчыка, але і ад шэрагу нюансаў, якія могуць узнікаць падчас перапіскі, сустракаюцца выпадкі, калі дакладна вызначыць, што ў дачыненні да архетыпу з’яўляецца пропускам, а што пазнейшай устаўкай, бывае праблематычным. У выпадку з Вавельскім спісам і Хронікай Быхаўца да такіх праблемных розначытанняў можна аднесці наяўныя ў Хроніцы Быхаўца і адпаведна адсутныя ў Вавельскім спісе даты бітвы на Сініх Водах і Альгердавай смерці.

| | |
|---|---|
| И потом кн(я)зь великии Ѡлкгирдь, …нашодши, побил татар на Синеи Воде, трех братов — кн(я)зя Хачибея, а Кутлубугу, а Дмитрея, с. 286 | **҂ат҃на hod** (у Т. Нарбута зноска: 1351 rok). Kniaź weliki Olgierd, … szodszy pobił Tatar, na Siney wode troch bratow, Chaczybeja, a Kutłubuhu, a Dmitreja, с. 19 |
| А затым кн(я)зь великии Ѡлкгирдь ꙋмрет, с. 302 | A zatym kniaź weliki Olgierd umret **҂ат҃оз hod** (у Т. Нарбута зноска: 1351 rok), с. 23 |

Не выключана, што змешчаныя ў Хроніцы Быхаўца даты з’яўляюцца пазнейшай інтэрпаляцыяй маргінэсных запісаў. Дата Альгердавай смерці, акрамя Хронікі Быхаўца, прысутнічае ў спісах Рачынскім [7, с. 154] і Еўраінаўскім

[7, с. 224]. Тэксталагічна, аднак, дадзеныя звесткі з Хронікай Быхаўца не суадносяцца.

Разам з тым пры тэксталагічным супастаўленні Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца выяўлены шэраг розначытанняў, якія сведчыць пра наяўнасць відавочных тэкставых пропускаў у Вавельскім спісе і, адпаведна, пацвярджаюць, што гэты спіс з'яўляецца копіяй:

| | |
|---|---|
| а тепер ____ гараздъ ведаю, што з нимъ записалися на нас, с. 305 | a teper **z Nemec** horazd wedaiu, szto z nim zapisalisia na nas, с. 24 |
| Если кн(я)зь великии Витолтъ будет над ним должеи седети, так, как и над ѿцомъ его _____, с. 315 | iesli kniaź weliki Witolt, budet pod nimi dołżey sedety, tak kak, y nad otcem ieho, **budet**, с. 26 |
| ино бы ему ѡдное жонки вокласти на себе плате да выити _________ в неє, с. 315 | ynoby iemu odnoie żonki, wskłasty na sebe płatie, da wyity **won, z druhoiu żonkoiu, a toy żonce zostatysia wneie**, с. 26 |

Звесткі пра атрыманне інфармацыі *з Немец* прысутнічаюць у Віленскім, Супрасльскім, Акадэмічным[1] спісах кароткага зводу, адпаведна можна меркаваць, што выраз *з Немец* павінен быў быць прысутны ў архетыпе поўнага зводу, а ў спісе Вавельскім — прапушчаны.

Пропуск лексемы *будет* і фразы *won, z druhoiu żonkoiu, a toy żonce zostatysia* робіць сказы ў Вавельскім спісе кантэкстуальна незразумелымі, і нават, як у выпадку з другім прыкладам, бессэнсоўнымі. У самім рукапісе на месцы тэкставых пропускаў ніякіх лакун, як і іншых сведчанняў таго, што перапісчык не зразумеў тэкст пратографа і пакінуў месца для пазнейшай упіскі, няма. Адпаведна, цяжка дакладна сказаць, ці дадзеныя пропускі з'яўлялюцца памылкай перапісчыка Вавельскага спіса, ці былі ўжо ў спісе, з якога рабілася копія.

Разам з тым маюць месца пропускі тэкставых фрагментаў таксама і ў Хроніцы Быхаўца, пра што сведчыць супастаўленне ніжэйпрыведзенага ўрыўка з адпаведным урыўкам Слуцкага [7, с. 69], Віленскага [7, с. 87], Супрасльскага [7, с. 63] і Акадэмічнага [7, с. 113] спісаў, дзе прапушчаная фраза прысутнічае:

| | |
|---|---|
| Тогды кн(я)зь великии Якгоило перезвал его из Немец и дал ему Луческъ, и всю Волынскую землю, и в **Лит(о)вскои земли ѿчину его**. с. 316 | Kniaź weliki Jagoyło perezwał ieho yz Nemec, y dał iemu Łuczesk, i wsiu Wołyńskuiu zemlu ________ , с. 27 |

[1] Віл.: *а **з Немци** явлено, што немци записалися на нас* [7, с. 86]; Супр.: *а **из Немець** ми явлено, что немьци записалися на нас* [7, с. 62]; Акад.: *а **из Немець** ми явлено что немци записалися на нас* [7, с. 111].

Наяўнасць дадзенай фразы ў Вавельскім спісе і суаднясенне яе са спісамі кароткага зводу сведчыць пра прысутнасць дадзенай фразы ў пратографе поўнага зводу.

У той жа час у Хроніцы Быхаўца прысутнічае дастаткова вялікая фраза-ўдакладненне, адпаведнікаў якой ні ў спісах кароткага, ні ў спісах пашыранага зводаў беларуска-літоўскага летапісання няма:

| | |
|---|---|
| а се вже третее — с ним **ся мы** воюем з немцы, и ѡни с ними Полоцка добывают ________, с. 305 | a se wże treteie snim _____ wojuiem z Nemcy, y oni s nimi Połocka dobywaiut, **pod synom moim, a pod twoim bratom pod kniazem Andrejem Horbatym**, c. 24 |

Звяртае на сябе ўвагу і тое, што ў абодвух спісах — і Вавельскім, і Хроніцы Быхаўца — у выніку атаясамлення перапісчыкам літар *к* і *н* замест займенніка ***кім*** (як у спісах кароткага зводу) з'явіўся займеннік ***нім*** (характэрны толькі для спісаў поўнага зводу — у спісах сярэдняга зводу таксама займеннік *кім* [7, с. 133, 155, 182, 202, 224]). Прычым, як бачна з прыведзенага прыкладу, у Вавельскім спісе, нягледзячы на замену літар, фраза, характэрная для спісаў кароткага зводу, захавана цалкам — *с ним* ***ся мы*** *воюем з немцы, и ѡни с ними Полоцка добывают*, у той час як у Хроніцы Быхаўца зваротная часціца *ся* і займеннік *мы* апушчаны — *a se wże treteie* ***snim wojuiem*** *z Nemcy, y oni s nimi Połocka dobywaiut*, што ў цэлым не паўплывала на сэнсавае напаўненне сказа.

Такім чынам, аналіз пропускаў у спісах Вавельскім і Хроніцы Быхаўца паказаў, што яны прысутныя ў абодвух спісах. Аднак пропускі, выяўленыя ў тэксце Вавельскага спіса, уплываюць на значэнне і звязнасць фразы. І гэта сведчыць пра тое, што Вавельскі спіс альбо спісваўся з ужо пашкоджанага пратографа, дзе прапушчыныя фразы ўжо былі страчаныя, альбо — пра няўважлівасць перапісчыка. Звяртае на сябе ўвагу, што ў Хроніцы Быхаўца прысутнічае фраза-ўдакладненне, адпаведнікаў якой у іншых спісах беларуска-літоўскага летапісання няма.

## Высновы

Аналіз разначытанняў, выяўленых пры паралельным супастаўленні захаванага ў Вавельскім спісе летапіснага фрагмента з адпаведным фрагментам Хронікі Быхаўца, засведчыў наступнае.

Больш ранні па часе перапіскі Вавельскі спіс, нягледзячы на наяўнасць у ім большай у параўнанні з Хронікай Быхаўца колькасці апісак і сэнсава значных пропускаў, характарызуецца наяўнасцю большай колькасці варыянтаў, адпаведнікі якім знаходзяцца ў спісах кароткага (перадусім Слуцкі) і пашыранага (Еўраінаўскі) зводаў. Дадзеная акалічнасць пацвярджае выказаную даследчыкамі гіпотэзу аб тым, што сярод крыніц поўнага зводу быў спіс, блізкі да Слуцкага, і спіс, блізкі да Еўраінаўскага.

Хроніка Быхаўца, у сваю чаргу, характарызуецца наяўнасцю шэрагу ўнікальных чытанняў, адпаведнікаў якім у іншых спісах беларуска-літоўскага летапісання няма (*wedeniy deń, Oljewnu, Liebestyn*), а таксама чытанняў, якія могуць сведчыць пра мэтанакіраваную дзейнасць перапісчыка, абумоўленую жаданнем зрабіць тэкст больш зразумелым і кантэкстуальна лагічным (*Bohi; zażymali*). Характэрным для Хронікі Быхаўца з'яўляецца таксама наяўнасць шэрагу паланізмаў, узнікненне якіх — што пацвярджае супастаўленне гэтых лексем з адпаведнымі чытаннямі Вавельскага спіса, дзе паланізмы адсутнічаюць, — мае больш позняе паходжанне і, не выключана, абумоўлена спецыфічнай культурна-моўнай сітуацыяй, у якой рабілася транслітэрацыя.

Характарызуючы працу перапісчыкаў Вавельскага спіса і Хронікі Быхаўца, варта адзначыць, што ў першым выпадку перапісчык падыходзіў да тэксту фармальна — пераносіў у яго тэкставыя паўторы, рабіў альбо пераносіў з пратографа апіскі і пропускі; у той час як у Хроніцы Быхаўца тэкст перададзены з меншай колькасцю апісак і недакладнасцяў. Дастаткова верагодным з'яўляецца і тое, што на адным з этапаў перапіскі Хронікі Быхаўца праводзілася праўка летапіснага тэксту, вынікам чаго стала з'яўленне ў яе тэксце шэрагу ўнікальных чытанняў.

Можна вылучыць асобныя чытанні (*люд свои зостави / Ladckoyże zostałsia; а друг8ю сем мнихов розвязалшы / a druhuiu sem mnichow rozwiazawszy*), якія сведчаць пра тое, што і Вавельскі спіс, і Хроніка Быхаўца (яе кірылічны пратограф) з'яўляюцца копіямі. Пры гэтым другое з прыведзеных разначытанняў паказвае, што абодва спісы перапісваліся з ужо пашкоджанага — з наяўным пропускам альбо памылкай — пратографа.

## Літаратура


1. [Вавельскі спіс] / Archiwum Narodowe w Krakowie, Oddział I na Wawelu, Archiwum Sanguszków, zespół nr 637, sygnatura ARS 144.
2. Летапісы і хронікі Беларусі: сярэднявечча і раньнемадэрны час / уклад. В. Варонін // ARHE = Пачатак. — 2010.
3. Лихачев, Д. С. Текстология: на материале русской литературы X–XVII веков (изд. втор., перераб. и доп.) / Д. С. Лихачев. — Ленинград, 1983.
4. Міхальчук, Г. Новы спіс агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з «Хронікай Быхаўца» / Г. Міхальчук // Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі гістарычны зборнік. — Białystok, 2016. — № 45. — S. 190–225.
5. Морозова, Н. Вопросы языка и текстологии летописей Великого княжества Литовского: Хроника Быховца: дис. … докт. гуманит. наук, филолог., балтийские и славянские языки и литература (H590) / Н. Морозова. — Вильнюс, 2001.
6. Морозова, Н. Проблемы языка и текстологии летописей Великого княжества Литовского: Хроника Быховца: автореф. дис. … докт. гуманит. наук, филолог., балтийские и славянские языки и литература (H590) / Н. Мороз. — Вильнюс, 2001.
7. Полное собрание русских летописей. — Москва, 1980. — Т. 35.

8. Рогов, А. И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения: Стрыйковский и его хроника / А. И. Рогов. — Москва, 1966.
9. Рошчына, Т. Бібліятэка Жыгімонта II Аўгуста // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя: у 2 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. — Мінск, 2007. — Т. 1: Абаленскі—Кадэцыя. — 2-е выд. — С. 327.
10. Сушицький, Ф. Западно-русские летописи как памятники литературы / Ф. Сушицький // Збірник історично-філологічного відділу Української Академіі наук. — Вып. 20. — Київ, 1921.
11. Сушицький, Ф. Західньо-руські літописи як пам'ятки літератури / Ф. Сушицький. — Київ, 1929.
12. Флоря, Б. Н. О «Летописце Быховца» / Б. Н. Флоря // Источники и историография славянского средневековья: сб. ст. и матер. — Москва, 1967. — С. 135–144.
13. Чамярыцкі, В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры / В. А. Чамярыцкі. — Мінск, 1969.
14. Ючас, М. А. Хроника Быховца / М. А. Ючас // Летописи и хроники. 1973. — Москва, 1974. — С. 220–231.
15. Chodynicki, K. Legenda o meczenstwie czternastu franciszkanow w Wilnie / K. Chodynicki // Ateneum Wilenskie. — Wilno, 1927. — T. IV. — S. 53–78.
16. Chodynicki, K. Ze studjów nad dziejopisarstwem rusko-litewskiem / K. Chodynicki // Odbiwka z Ateneum Wileńskiego. — 1926. — Zesz. 10–11.
17. Gudmantas, K. Lietuvos metraščio Vavelio nuorašas (fragmentas) / K. Gudmantas // Senoji Lietuvos literature. — 2012. — Kn. 34. — S. 121–151.
18. Jabłoński, J. Drzewo Zywota, z Raiu Naprzod na Corze Jerozolimskiej Kalwaryi, złośliwą ręką potym na Górze Łysiec Przez Ręce Swiętego Emeryka Krolewica Węgierskiego … Przesadzone …. w Krakowie: w Drukarni Jakuba Matyaszkiewicza, J. K. M. y J. O. Jmći X. Biskupa Krakowskiego, Xiążęcia Siewierskiego, Ordynaryinego Typografa, [1736\1737], S. 58–60. (Biblioteka Narodowa w Warszawie, XVIII.2.908)
19. Kazańczuk, M. Staropolskie legendy herbowe / M. Kazańczuk. — Ossolinem, 1990.
20. Ochmański, J. Nad Kroniką Bychowca / J. Ochmański // Studia Zrodloznawcze. — T. XII. — 1967. — S. 155–163.
21. Pomniki do dziejów litewskich. Zebrane przez Teodora Narbuta z rycina i facsimile / T. Narbutt. — Wilno, 1846.
22. Ruffin, W. Historya o Drzewie Krzyża Świętego na Górę Łysą przyniesionym. Spisana przez X. Woyciecha Ruffina w Krakowie: W Drukarni Jakuba Sibeneychera, 1604, k. C2 (Biblioteka Książąt Czartoryskich, sign. 2a.I.5346)
23. Stryjkowski, M. Która przed tym nigdy świata nie widziała Kronika Polska, Litewska, Zmodzka i Wszystkiej Rusi / M. Stryjkowski. — Królewec, 1582.
24. Tazbir, J. Z dziejów fałszerstw historycznych w Polsce w pierwszej połowie XIX wieku / J. Tazbir // Przegląd Historyczny. — T. 57. — S. 580–598.
25. Trajdos, T. M. Benedektyni na Łyscu za panowania Władysława II Jagiełły (1386–1434) / T. M. Trajdos // Roczniki Historyczne. Poznańskie Toważystwo Przyjaciół Nauk. Wydział Historii i Nauk Społecznych. Rocznik XLVIII za rok 1982. — Warszawa; Poznań, 1983. — S. 1–46.

**Наталля Русецкая** *(Люблін, Польшча)*

# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДРАМАТУРГІЯ Ў ПОЛЬСКІХ ПЕРАКЛАДАХ І ТЭАТРАЛЬНЫХ ПАСТАНОЎКАХ

На самым пачатку неабходна адзначыць дзве актуальныя праблемы, звязаныя з пытаннем сучаснай беларускай драматургіі і яе перакладамі на польскую мову.

Па-першае, сама беларуская драматургія развіваецца сёння ў межах дзвюх моўных плыняў: беларускай і рускай. У сувязі з гэтым узнікае шэраг дыскусійных момантаў у асяроддзі навукоўцаў, якія займаюцца вывучэннем беларускай драматургіі. Філолагі найчасцей прытрымліваюцца меркавання, што не варта залічваць творы на рускай мове да беларускай літаратуры. Культуролагі і тэатразнаўцы, якія даследуюць тэксты п’ес як частку тэаральнага працэсу, не дзеляць беларускіх драматургаў паводле моўнай прыналежнасці. Як слушна адзначыла польская даследчыца Беата Сівэк у сваёй манаграфіі, прысвечанай сучаснай беларускай драматургіі: «Różnice wynikające z tego podziału bynajmniej nie odnoszą się wyłącznie do sfery językowej, ale sięgają znacznie głębiej» [5, с. 20].

Заглыбляцца ж у вырашэнне гэтага пытання мы не будзем у межах нашага агляду, адзначым толькі, што ў беларускім літаратуразнаўстве ўсё часцей з’яўляюцца спробы апраўдаць пазіцыю рускамоўнага пісьменніка ў Беларусі. Напрыклад, Сяргей Кавалёў, абараняючы маладых драматургаў, якія выбралі рускую мову для сваёй творчасці, звяртае ўвагу на прагматычны аспект: «Па-першае, ён (драматург — *Н. Р.*) адразу выходзіць са сваім прадуктам на вялізны расійскі рынак і можа прапаноўваць сваю п’есу не 27 тэатрам, а, скажам, 500: ад Смаленска да Уладзівастока. Па-другое, не праблема знайсці перакладчыка з рускай мовы ў суседніх постсавецкіх краінах і ў Заходняй Еўропе. Нават не заўсёды такі перакладчык патрэбны: рускамоўныя тэатры існуюць у многіх краінах свету. Па-трэцяе, нават у Беларусі большасць тэатраў — рускамоўныя, а чатыры беларускамоўныя без праблемаў знойдуць перакладчыка для цікавай п’есы айчыннага аўтара» [1, с. 58]. У тэорыі такое меркаванне выглядае цалкам слушным, але на практыцы ў кожнага твора свой сцэнічны лёс, які можа быць абумоўлены самымі рознымі фактарамі: тэматыкай, праблематыкай ці, напрыклад, якасцю перакладу.

Другая праблема, яшчэ больш складаная, датычыць уласна перакладу беларускіх п’ес на польскую мову: што даюць яны польскай культуры і ці знаходзяць яны свайго адрасата (чытача / гледача)? Беларуская літаратура ў адносінах да польскай займае пазіцыю: «маладой» альбо «перыферыйнай» (Эвен-Зохар), «малой» (Бурдзьё). Пераклад жа ўзнікае як неабходнасць запоўніць пэўныя «лакуны» ў той культуры, на мову якой дадзены пераклад

ажыццяўляецца: таму найчасцей менавіта «малыя» літаратуры запазычваюць з «вялікіх» значныя творы прызнаных аўтараў. Пры гэтым кожны пераклад (як і арыгінальны твор) арыентуецца, ці павінен арыентавацца, на чытача. Як адзначае польскі даследчык Крыштаф Хэйвоўскі, пераклады ўзнікаюць выключна на патрэбы літаратуразнаўцаў і перакладазнаўцаў [2, с. 13].

Паспрабуем, такім чынам, прасачыць шлях з'яўлення перакладаў беларускай драматургіі на польскую мову.

Перш чым перайсці непасрэдна да перакладаў, варта адзначыць з'яўленне ў 2011 г. першай польскай манаграфіі люблінскай даследчыцы Беаты Сівэк «Укрыжаваная вольнасць» [5], цалкам прысвечанай сучаснай беларускай драматургіі і тэатру. Паколькі праца была сапраўды першай, то аўтарка мусіла прысвяціць уступныя два раздзелы панарамнаму агляду гісторыі драматургіі і тэатру ў Беларусі. У далейшай частцы манаграфіі асобныя раздзелы прысвечаны такім беларускім драматургам, як Алесь Петрашкевіч, Аляксей Дудараў, Мікола Арахоўскі, Алесь Асташонак, Сяргей Кавалёў, Ігар Сідарук, Лявон Вашко.

У заключным раздзеле працы разгледжана пытанне прысутнасці беларускага тэатра ў польскай культурнай прасторы, дзе даследчыца прыходзіць да наступнай высновы: «O ile teatr białoruski, najczęściej przy okazji najróżniejszych międzynarodowych festiwali teatralnych, przypomina Polakom o swoim istnieniu, o tyle białoruski dramat w jego literackim kształcie jest w zasadzie nieobecny. Sześć zaledwie tekstów, z czego dwa teksty rosyjskojęzyczne, to niewiele, w ogólnej liczbie przynajmniej kilkudziesięciu dobrych dramatów białoruskich, które wciąż jeszcze nie zostały przetłumaczone» [5, c. 341].

Ніжэй названыя ўсе шэсць тэкстаў беларускай драматургіі ў польскіх перакладах, якія былі апублікаваныя да 2011 г.:

- чатыры п'есы С. Кавалёва ў складзе зборніка «Стомлены д'ябал» (S. Kowalow «Zmęczony diabeł». Lublin, 2004): «Teatr Franciszki Urszuli Radziwiłłowej» (tłum. B. Siwek), «Tristan i Izolda» (tłum. T. Giedz), «Cztery historii Salomei» (tłum. T. Giedz), «Zmęczony diabeł» (tłum. M. Sajewicz);
- надрукаваная ў часопісе «Dialog» (2005. № 12) п'еса Андрэя Курэйчыка (пад псеўданімам *Нікіта Міцкевіч*): Nikita Mickiewicz (Kurejczyk) «Niebo» (tłum. P. Mitzner);
- п'еса Мікалая Халезіна, таксама ў часопісе «Dialog» (2006. № 9): Nikolaj Chalezin «Pokolenie Jeans» (tłum. A. L. Piotrowska).

Менавіта адсутнасць перакладаў беларускай драматургіі на польскую мову натхніла аўтарку манаграфіі на рэалізацыю перакладніцкага праекта, вынікам якога стала выдадзеная ў 2013 г. анталогія сучаснай беларускай драматургіі «Labirynt. Antologia współczesnego dramatu białoruskiego» (Radzyń Podlaski, 2013. Wybór, redakcja, przedmowa i noty biograficzne Beata Siwek. Tłumaczyli: M. Buchalik, A. Goral, N. Rusiecka, T. Giedz-Topolewska, B. Siwek).

Варта назваць прадстаўленых у анталогіі драматургаў і іх п'есы:

1. Mikoła Arachouski «Labirynt» (tłum. B. Siwek);
2. Mirasłau Adamczyk, Maksim Klimkowicz «Vita brevis albo Spodnie świętego Jerzego» (tłum. A. Goral);
3. Mirasłau Adamczyk, Maksim Klimkowicz «Czarny kwadrat» (tłum. N. Rusiecka);
4. Ihar Sidaruk «Głowa» (tłum. A. Goral);
5. Siarhiej Kawalou «Dziennik intymny» (tłum. M. Buchalik);
6. Siarhiej Kawalou «Powrót Głodomora» (tłum. A. Goral);
7. Lawon Waszko «Sekskorespondencyjny» (tłum. M. Buchalik);
8. Wolha Hapiejewa «Kolekcjoner» (tłum. T. Giedz-Topolewska, N. Rusiecka).

Амаль адначасова са з'яўленнем манаграфіі Беаты Сівэк свой перакладніцкі праект распачаў Андрэй Масквін. У 2011 г. у Варшаве быў апублікаваны першы том перакладаў новай беларускай драматургіі. Асноўнае адрозненне гэтага выдання ад пазнейшай па часе з'яўлення анталогіі «Labirynt» — гэта пераклад на польскую мову выключна рускамоўных драматургаў Беларусі.

Ніжэй прадстаўлены пералік аўтараў і іх твораў у трох тамах варшаўскага выдавецкага праекта «Nowa dramaturgia białoruska»: T. 1–3. Wybór, redakcja, noty biograficzne, przedmowa Andriej Moskwin.

T. 1. Warszawa, 2011. Tłumaczyła Karolina Niewiadomska, wstęp Andriej Moskwin «Białoruska dramaturgia: w poszukiwaniu własnej drogi»:
1. Jelena Popowa «Śniadanie na trawie»;
2. Nikołaj Chalezin «Przyszedłem»;
3. Anatol Szurpin «Tra-ta-ta»;
4. Andriej Kuriejczyk «Klan ślepców» (fragment);
5. Konstantin Ścieszyk «Mężczyzna — kobieta — pistolet»;
6. Paweł Priażko «Serpentyna»;
7. Grigorij Cisiecki «Pajęczyna bełkotliwości, pajęczyna kłamstwa»;
8. Grigorij Cisiecki «Cień»;
9. Grigorij Cisiecki «Niemy poeta».

T 2. Życie w pułapce. Warszawa, 2014.
1. Julia Czerniawska «Winda» (tłum. J. Adamowicz);
2. Nikołaj Rudkowski «Dożyć do premiery» (tłum. B. Majorczyk);
3. Andriej Iwanow «To wszystko przez nią» (tłum. B. Majorczyk);
4. Jelena Popowa «Do domu!» (tłum. B. Majorczyk);
5. Nikołaj Rudkowski «Wielka wędrowka urodów» (tłum. J. Adamowicz, B. Biesiadowska-Magdziarz, R. Magdziarz).

T. 3. Młodzi gniewni. Warszawa, 2015.
1. Konstantin Ścieszyk «Czas zmienić się w popiół» (tłum. N. Pietrulewicz);
2. Pawieł Rassolko «Untitled» (tłum. A. Raspopow);
3. Mikita Wаładźko «O głupkach, ślepcach i pijakach» (tłum. J. Adamowicz);

4. Mikita Waładźko «Mysz ma wielu wrogów» (tłum. J. Adamowicz);
5. Julia Szewczuk «Niatreba» (tłum. J. Adamowicz);
6. Maksim Dośko «Radio Kultura» (tłum. G. Giedrytė);
7. Maksim Dośko «Współczucie» (tłum. J. Kozioł);
8. YARO «It» (tłum. J. Adamowicz);
9. Rimma Uszkiewicz «Dobry człowiek z niewielkiego europejskiego kraju» (tłum. J. Adamowicz);
10. Aleksiej Naranowicz «Palacz» (tłum. J. Adamowicz);
11. Wiktoria Biran «Zrób tak, żeby mnie bolało, kochanie!» (tłum. J. Adamowicz).

Беларускай драматургіі быў часткова прысвечаны яшчэ адзін нумар польскага тэатральнага часопіса «Dialog» (2014. № 1):

**Scena białoruska**

Dmitrij Bogosławski «Czekajcie na nas długo» (tłum. A. L. Piotrowska);

«Opisywać rzeczywistość, jaka jest»: rozmowa Joanny Biernackiej i Wojciecha Urbańskiego;

Anna Kuligowska-Korzeniewska «Niemy poeta, czyli o dramacie i teatrze białoruskim».

Важным крокам на шляху папулярызацыі беларускага тэатральнага і драматургічнага дыскурсу ў польскай культурнай прасторы з’явілася кніга Андрэя Масквіна, прысвечаная гісторыі тэатра ў Беларусі ў 1920–1930 гг. [4]. Польскі тэатразнаўца Пётр Міцнер адзначыў у сваёй рэцэнзіі: «Andriej Moskwin napisał ogromnie ważną książkę. Jest to monografia teatru białoruskiego w latach jego narodzin, rozkwitu i likwidacji, istotna dla badaczy historii teatru, nie tylko w Polsce, ale też na Białorusi, gdzie, z różnych znanych nam przyczyn, nie powstała tego typu praca. Co więcej, każe ona spojrzeć na teatr i dramat białoruski owego dziesięciolecia szerzej, w kontekstach: rozwoju kultury, polityki, historii języka. Powiedziałbym, że jest to praca, która pozwala zrozumieć istotę rozmaitych zjawisk i problemów dzisiejszej kultury białoruskiej. Dobrze, że książka ta ma ukazać się w Polsce. Myślę, że ucieszyłoby to Jerzego Giedroycia. Niezmiernie istotne jest to, że książka opisuje fascynujące zjawisko kulturowe: w ciągu zaledwie dziesięciu lat dokonało się (w warunkach o wiele trudniejszych niż na przykład na Ukrainie) odrodzenie narodowe, które natychmiast też przejawiło się w powstanie “ex nihilo” białoruskiego teatru» [4, s. 4].

Такім чынам, можна заўважыць выразную змену ў параўнанні з сітуацыяй беларускай драматургіі да 2011 г., калі творы беларускіх аўтараў практычна не існавалі ў польскіх перакладах. Анталогія беларускамоўных аўтараў, падрыхтаваная Беатай Сівэк, і тры тамы рускамоўных, сабраныя і выдадзеныя Адрэем Масквіным, несумненна, павялічылі магчымасць польскага чытача пазнаёміцца з творчасцю сучасных драматургаў Беларусі. У сувязі з гэтым

узнікае наступнае пытанне: наколькі пераклады беларускіх твораў наблізілі іх да польскай сцэны? Іншымі словамі, што з прадстаўленага ў анталогіях было рэалізавана цягам апошніх гадоў у польскіх тэатрах. У пошуках адказу на гэтае пытанне выявілася, што беларуская драматургія ў лепшым выпадку спачатку з'яўляецца на польскіх сцэнах, а потым асобныя творы выходзяць з друку, але такое здараецца рэдка. Так, п'еса Сяргея Кавалёва «Стомлены д'ябал», выдадзеная ў польскім перакладзе ў 2004 г. у аднайменным зборніку беларускага драматурга, была пастаўлена на сцэне Люблінскага драматычнага тэатра імя Ю. Остэрвы беларускім рэжысёрам Рыдам Таліпавым яшчэ ў 1997 г., то бок за сем год да выхаду кнігі. Падобна выглядае і сітуацыя з іншымі беларускімі аўтарамі і іх творамі. У межах міжнароднага тэатральнага фестывалю «Konfrontacje Teatralne», які штогод адбываецца ў Любліне, у 2006 г. быў рэалізаваны праект «Dramat nieobecny. Czytanie współczesnego dramatu białoruskiego» (5–6.10.2006), на якім былі прадстаўлены дзве п'есы беларускамоўных аўтараў і дзве рускамоўных у перакладах на польскую мову, якія пазней увайшлі ў анталогіі: «Вяртанне Галадара» С. Кавалёва, «Калекцыянер» В. Гапеевай, «Серпанцін» П. Пражко і «Мужчына — жанчына — пісталет» К. Сцешыка[1]. Перфарматыўнае чытанне п'есы Мікалая Рудкоўскага «Вялікае перасяленне ўродаў» адбылося ў варшаўскім тэатры «На волі» ў 2012 г. (рэжысёр Алдона Фігура) і ў Беластоцкім драматычным тэатры імя А. Венгеркі (14.06.2013; рэжысёр Агнешка Карыткоўска-Мазур); у тым самым тэатры ў рамках праекта «(re)interpretacje. slap czytań — WOJNA. POKÓJ. NIEPOKÓJ» адбылося перфарматыўнае чытанне п'есы «Дажыць да прэм'еры» (20–21.03.2013; рэжысёр Яраслаў Тумідайскі). Нагадаем, што кніга з перакладамі гэтых твораў Мікалая Рудкоўскага выйшла з друку ў 2014 г. Таксама перфарматыўнае чытанне твора Ірыны Ярашэвіч (YARO) «It» адбылося ў Беластоцкім драматычным тэатры імя А. Венгеркі ў рамках праекта «(re) interpretacje. slap czytań — SĄSIEDZI: BIAŁORUŚ» (24–25.04.2013; рэжысёр Томаш Дамагала), а пераклад быў апублікаваны праз год.

Варта таксама падзяліцца цікавымі назіраннямі: акрамя згаданых вышэй твораў беларускіх драматургаў, якія спачатку траплялі на сцэну, а потым у друк, выявілася наяўнасць твораў, якія трапілі на сцэны польскіх тэатраў, але іх пераклады нідзе не друкаваліся. Сярод іх мы маем на сённяшні дзень тры спектаклі і дзве перфарматыўныя чыткі:

**Teatr Rampa (Warszawa)**:

W. Dunin-Marcinkiewicz. «Pińska szlachta» (premiera 30.09.2010, tłum. B. Krzyżańska-Czarnowieska, C. Seniuch (pieśni), reż. M. Pinihin).

---

[1] Гл. водгук на гэтую падзею, напісаны польскім тэатразнаўцам Гжэгажам Янікоўскім [3]. Водгук змешчаны таксама ў інтэрнэце на адрасе: http://www.e-teatr.pl/pl/artykuly/33827,druk.html.

**Teatr Polski (Warszawa):**

N. Chalezin, N. Kalada. «Czas Kobiet» (premiera 12.06.2012, tłum. A. L. Piotrowska, reż. N. Chalezin).

**Teatr Rozrywki w Chorzowie:**

N. Rudkowski. «Kobiety Bergmana (Persony)» (premiera 12.03.2016, tłum. i reż. Dariusz Jezierski).

**Teatr im. Aleksandra Węgierki w Białymstoku**:

«(re)interpretacje. slap czytań — SĄSIEDZI: BIAŁORUŚ» (24–25.04.2013)

Dmitrij Bogosławskij «Jutra może nie być» (tł. J. Adamowicz, reż. Tetiana Logoyda).

Paweł Priażko «Zamknięte drzwi» (tł. B. Majorczyk, reż. Aleksandr Harcujew)[1].

У заключэнне варта яшчэ згадаць, што шэраг перакладаў рускамоўных беларускіх драматургаў даступны сёння польскаму чытачу ў электронным варыянце на інтэрнет-старонцы www.teatrdlawas.pl, прысвечанай тэатру:

Paweł Priażko «Właściciel kawiarni» (tłum. N. Pietrulewicz), «Urodzaj» (tłum. J. Adamowicz), «Pole» (tłum. R. Sknadaj), «Zamknięte drzwi» (tłum. B. Majorczyk);

Konstantin Ścieszyk «Czas zmienić się w popiół»* (tłum. N. Pietrulewicz);

Siergiej Ancelewicz «Kronika chronik» (tłum. J. Adamowicz);

Maksim Dośko «Współczucie»* (tłum. J. Kozioł), «Radzio Kultura»* (tłum. G. Giedrytė);

Julia Czerniawska «Winda»* (tłum. J. Adamowicz);

Andriej Iwanow «To wszystko przez nią»* (tłum. B. Majorczyk);

Rimma Uszkiewicz «Dobry człowiek z niewielkiego europejskiego kraju»* (tłum. J. Adamowicz);

Mikita Waładźko «O głupkach, ślepcach i pijakach»* (tłum. J. Adamowicz);

Aleksiej Naranowicz «Palacz»* (tłum. J. Adamowicz);

Jelena Popowa «Do domu»* (tłum. B. Majorczyk);

Dmitrij Bogosławski «Ludzka miłość» (tłum. B. Majorczyk), «Jutra może nie być» (tłum. J. Adamowicz), «Cichy odgłos znikających kroków» (tłum. B. Majorczyk), «Efekty uboczne» (tłum. B. Majorczyk);

Irina Jaroszewicz (Jaro) «It»* (tłum. J. Adamowicz);

Nikołaj Rudkowski «Dożyć do premiery»* (tłum. B. Majorczyk), «Wielka wędrowka urodów»* (tłum. J. Adamowicz);

Paweł Rassolko «Untitled»* (tłum. A. Raspopow);

Wiktoria Biran «Zrób tak, żeby mnie bolało, kochanie»* (tłum. J. Adamowicz).

---

[1] Пераклады п’ес Д. Багаслаўскага і П. Пражко змешчаны ў інтэрнэце на адрасе http://www.teatrdlawas.pl.

[*] П’есы, пазначаныя знакам *, друкаваліся ў анталогіі «Nowa dramaturgia białoruska» (т. 1–3).

Аналіз прыведзеных вышэй фактаў, якія дэманструюць прысутнасць беларускай драматургіі ў польскім тэатры, не дае падставаў сцвярджаць, што публікацыя перакладаў п’ес адкрывае ім шлях непасрэдна на тэатральныя сцэны. Калі ж улічваць не толькі ўласна спектаклі, але і перфарматыўныя формы тэатральных рэалізацый, то можна заўважыць хутчэй адваротную сувязь — асобныя пераклады, зробленыя ў рамках перакладніцкіх ці тэатральных праектаў, трапляюць у друк пазней. З сумам даводзіцца канстатаваць, што з перакладзеных на сёння твораў беларускіх драматургаў, прысутных у польскай культурнай прасторы ў папяровых і электронных версіях, ніводзін не трапіў на сцэну польскіх тэатраў у выглядзе паўнавартаснага спектакля.

## Літаратура


1. Кавалёў, С. Пачвара ў рэліктавым лесе: Літаратура. Тэатр. Крытыка / С. Кавалёў. — Мінск, 2013.
2. Hejwowski, K. Iluzja przekładu. Przekładoznawstwo w ujęciu konstruktywnym / K. Hejwowski. — Śląsk, 2015.
3. Janikowski, G. Niezależni, niepodlegli... / G. Janikowski // Opcje. — № 4/12. — 2006.
4. Moskwin, A. Teatr białoruski 1920–1930. Odrodzenie i zagłada / A. Moskwin. — Warszawa, 2014.
5. Siwek, B. Wolność ukrzyżowana. Rzecz o białoruskim dramacie i teatrze / B. Siwek. — Lublin, 2011.


**Беата Сівэк** *(Люблін, Польшча)*

# «ІНТЫМНЫ ДЗЁННІК» СЯРГЕЯ КАВАЛЁВА. ВАКОЛ ПРАБЛЕМЫ МЕТАДРАМАТЫЧНАСЦІ

Сяргей Кавалёў, несумненна, з’яўляецца адным з найбольш значных сучасных беларускіх драматургаў. Свой творчы шлях ён распачаў з актыўнага ўдзелу ў літаб’яднанні «Тутэйшыя»[1], пісаў вершы, літаратурную крытыку, творы для дзяцей[2], займаўся вывучэннем гісторыі беларускай літаратуры[3].

[1] Пра гэтую групу піша Кісліцына Г. Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы (Мінск, 2006. С. 43–74).

[2] Кавалёў С. Мэва. Казкі (Мінск, 1988); Як пакахаць ружу (Мінск, 1989); Партрэт шкла (Мінск, 1991).

[3] Кавалёў С. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. (Мінск, 1993); Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу (Мінск, 2002); Шматмоўная літаратура Вялікага Княства Літоўскага як

Першым драматычным творам С. Кавалёва для дарослага чытача была напісаная ў 1990 г. двухактовая п'еса-містыфікацыя «Звар'яцелы Альберт». Ужо на падставе гэтага твора, напісанага паводле матываў зборніка Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1846), можна заўважыць, што крыніцай літаратурнага натхнення для С. Кавалёва ў галоўнай ступені з'яўляецца літаратура мінулых эпох, фальклор і гісторыя.

Амаль усе яго наступныя творы — «Балада пра Бландою» (1995), «Трышчан ды Іжота» (1996), «Стомлены д'ябал» (1999), «Францішка, або Навука кахання» (1999), «Сёстры Псіхеі» (2000), «Чатыры гісторыі Саламеі» (2003), «Тарас на Парнасе» (2004), «Легенда пра Машэку» (2004), «Вяртанне Галадара» (2005), «Інтымны дзённік» (2007), «Магічнае люстра пана Твардоўскага» (2007) — грунтуюцца на розных тэкстах культуры, якія пры ўвядзенні ў новую структуру набываюць новы змест. С. Кавалёў выкарыстоўвае ў сваіх п'есах міфы, легенды і паданні (міф пра Псіхею, легенда пра Машэку), запазычвае матывы з сярэднявечных рыцарскіх раманаў, з ананімных паэтаў XIX ст. («Тарас на Парнасе»), з біяграфій славутых жанчын эпохі Барока (вандроўніцы Саламеі Пільштыновай-Русецкай, княгіні Францішкі Уршулі Радзівіл), з творчасці беларускіх драматургаў мінулых стагоддзяў (Каятана Марашэўскага, Францішка Аляхновіча, Янкі Купалы), звяртаецца да інтымных нататак Максіма Багдановіча, а таксама да літаратурнай творчасці такіх вядомых пісменнікаў, як Франц Кафка і Тадэвуш Ружэвіч. Інтэртэкстуальныя гульні з чужымі творамі, добра вядомыя сучаснай драматургіі, суіснуюць у некаторых п'есах С. Кавалёва разам са свядома і мэтанакіравана скарыстанымі метадраматычнымі стратэгіямі. Варта нагадаць, што метадраматычныя стратэгіі і аўтарэферэнцыі ўзнікаюць у шмат якіх творах беларускай драматургіі. Іх можна выявіць у п'есах Галіны Багданавай, драме «Рэпетыцыя» Алеся Асташонка, фарсе «Vita brevis, альбо Нагавіцы святога Георгія» Міраслава Адамчыка і Максіма Клімковіча, а таксама ў творах Сяргея Кавалёва «Францішка Уршуля Радзівіл, альбо Навука кахання» і «Інтымны дзённік». Апошняя п'еса і паслужыць для ілюстрацыі спецыфікі і функцыі метадраматычных стратэгій.

Агульнавядома, што крыніцай беларускай метатэатральнасці з'яўляюцца інтэрмедыі, якія былі адной з найважнейшых з'яваў у сферы беларускага драматургічнага і тэатральнага мастацтва. Варта прыгадаць такія творы, як «Цімон Гардзілюд» («Tymon Gardzilud», каля 1584 г.) Каспара Пянткоўскага, «Чорт і яго хлопцы» («Diabeł i jego chłopcy», сяр. XVII ст.), «Гутарка Івана і царкоўнага слугі» («Rozmowa Iwana z dworakiem») і «Схізматык і ўніят-

агульная спадчына народаў Сярэдне-Усходняй Еўропы (Roczniki Humanistyczne TN KUL. Ser. Słowianoznawstwo. — 2002. — S. 119–128); Польскія пачынальнікі беларускай драматургіі: Каспар Пянткоўскі і Гжэгаш Кнапій (Феномен пагранічча: Польская, украінская і беларуская літаратура: уплывы і узаемаўзбагачэнне / рэд. С. Кавалёў, І. Набытовыч. — Мінск, 2008. — С. 59–74.).

католік» («Schizmatyk i unita-katolik»), змешчаныя ў п’есе гродзенскага езуіта Яўстафія Пылінскага пад назвай «Камедыя пра Якуба і Іосіфа» («Komedia o patriarchach Jakubie i Józefie», 1651), альбо таксама інтэрмедыі, запісаныя ў «Аршанскім зборніку», — «Слаўная дапамога для Раміравай перамогі, учынёная анельскімі палкамі» («Sławna Pomoc Ramirowego Zwycięstwa przez Anielskie Pułki Uczyniona»), «Містычнае прычасце ў жалю нявінных Кароля і Фрыдэрыка» («Mistyczna Komunia w Żalu Niewinnych Karola i Fryderyka»), «Духоўнае прычасце святых Барыса і Глеба» («Komunia duchowna Borysa i Gleba»), «Містычнае вяселле прычасця Генсерыка і Трызімунда» («Mistyczna Wesela Komunia Genserika i Tryzymunda»). Аднак, у адрозненне ад тэкстаў інтэрмедый, сучасныя беларускія п’есы, якія выкарыстоўваюць метатэатральныя і аўтарэферэнцыйныя стратэгіі, грунтуюцца на апазіцыі двух кантрастуючых парадкаў — найчасцей гістарычнага і сучаснага. І гэта адразу вядзе да асаблівасцей у пабудове драматычнага дыскурсу і мове твора (спосабу нарацыі).

На думку Ганны Бужыньскай, метадраматычнасць цяжка разглядаць толькі ў фармальных катэгорыях, хаця, несумненна, яна змяняе стылістыку драматычнага тэксту. Адначасова яна ўводзіць і эстэтычную ацэнку (дакладнае альбо карыкатурнае, гратэскнае адлюстраванне знешняй рэчаіснасці альбо ўнутранага свету п’есы), а таксама, што здаецца найважнейшым, дэманструе філасофію і светапогляд аўтара, спосаб ягонага бачання і інтэрпрэтацыі ключавога ўзаемадзеяння паміж светам рэальным і мастацкім светам твора [5, s. 12]. Паводле польскай даследчыцы, выкарыстанне такой стратэгіі ёсць «выяўленнем сумніву ў гарманічным уладкаванні сусвету, а таксама ў магчымасці спазнання законаў, якія кіруюць чалавечым лёсам, гэта таксама з’яўляецца адмаўленнем веры ў існаванне аб’ектыўнай праўды» [5, s. 13]. Гэта вынікае з метафізічнага страху, роспачнага ўсведамлення абсурду існавання, альбо з бунту супраць ідэалізаваных вобразаў аб’яднанага, іерархізаванага, лагічнага свету і вядзе гледачоў не да катарсіса, але праз здзіўленне — да рэфлексіі [5, s. 13]. Акрамя гэтага метатэатральнасць палягае на своеасаблівай дваістасці ўсіх тэатральных знакаў, якія адначасова ўказваюць і прадстаўляюць, з’яўляюцца рэчамі і знакамі рэчаў. Адной з самых папулярных формаў такой стратэгіі лічыцца прыём «тэатра ў тэатры», хаця, як заўважае Ёланта Дыгуль, існуюць разыходжанні ў вызначэнні і класіфікацыі яго форм. У сваю чаргу, Джордж Форэстэр лічыць, што найважнейшы паказальнік метатэатральнасці — гэта наяўнасць унутранага гледача. Паводле гэтага даследчыка, мы маем справу з тэатрам у тэатры тады, калі як мінімум адна постаць асноўнай п’есы робіцца гледачом п’есы ўнутранай. З гэтага пункту гледжання да «тэатра ў тэатры» не адносяцца звычайныя інтэрмедыі, але толькі тыя, у якіх знойдзецца хаця б адна постаць гледача ў асноўнай п’есе.

Патрыс Паві вызначае гэтую з’яву як «фабулярызацыю тэатральнай сітуацыі, калі даходзіць да яе апрадмечвання праз утварэнне з яе часткі фабулярнага дзеяння». Манфрэд Шмелінг лічыць, аднак, што «тэатр у тэатры» — гэта

ідэальная метатэатральная форма, характэрная для ўнутранага драматычнага тэксту, які «валодае ўласнай сцэнічнай прасторай і ўласнай храналогіяй такім чынам, што ўстанаўліваецца прасторавая і часавая сінхроннасць сцэнічнай і драматургічнай сферы» (цыт па [7, s. 8]). Ён таксама вылучае падвойную перспектыву рэальнага гледача, як гледача і сведкі спектакля, гледачом якога з'яўляецца акцёр, г. зн. фіктыўны глядач. Такім чынам, усе гэтыя разважанні датычаць такога спосабу крэацыі мастацкага свету ў п'есе, які не ставарае ілюзіі рэчаіснасці, але выразна паказвае, што ў межах гэтага свету здзяйсняецца акт стварэння новай, двухузроўневай рэчаіснасці.

Варта, аднак, памятаць, што драматургічныя тэксты, якія грунтуюцца на метатэатральных стратэгіях, незвычайна дыферэнцыраваныя, а дыферэнцыяцыя, акрамя тэматычнай, адбываецца на падставе тыпу выкарыстаных у дадзеным творы тэхнік. Сярод іх можна вызначыць наступныя:

- *mise en abyme*[1] — канструкцыя, якая палягае на тым, што ў межах аднаго літаратурнага тэксту змяшчаецца іншы літаратурны тэкст, які можа быць рознымі спосабамі звязаны з асноўным тэкстам;
- п'еса-прэтэкст — п'еса, звязаная з характарам унутранага прадстаўлення, якое ўзмацняе ілюзію рэальнасці асноўнай п'есы;
- тэатральная рэпетыцыя — асноўная п'еса прадстаўляе жыццё акцёрскай трупы альбо стварэнне тэатра, а ўнутраная п'еса — падрыхтоўку да спектакля [7, s. 22–23].

Польскі тэатролаг Славамір Свёнтэк вызначае яшчэ два віды гэтай фармальнай катэгарызацыі. Ён гаворыць пра такую тэатральную сітуацыю, калі акцёр, звычайна ад імя аўтара, у пралогу альбо эпілогу звяртаецца непасрэдна да гледача і пераказвае яму аўтарскае ідэйнае альбо дыдактычнае пасланне. Апошні від — гэта аб'ектывацыя тэатральнай праблематыкі, увядзенне дыскурсу, звязанага з рознымі пытаннямі на тэму тэатральнага мастацтва. «Тэатр становіцца тут, — піша С. Свёнтэк, — прадметам разваг і рэфлексій у выказваннях дзеючых асоб» [13, s. 149].

П'еса С. Кавалёва «Інтымны дзённік» рэалізуе даволі спецыфічны тып метадраматычнасці. Толькі змешчаныя ва ўступе заўвагі аўтара і фінальнае павучэнне дазваляюць сцвярджаць, што мы маем справу з п'есай-прэтэкстам, са стратэгіяй, якая злучае дзве гісторыі, з першага погляду самастойныя і незалежныя, моцна, аднак, насамрэч узаемазвязаныя і ўзаемаабумоўленыя: «Абедзве гісторыі, — піша С. Кавалёў, — разыгрываюць тыя самыя шэсць акцёраў адпаведнага веку. У канцы спектакля частка акцёраў выходзіць на паклон у строях герояў першай гісторыі, частка — у строях герояў другой, што дапамагае гледачу звязаць дзве гісторыі ў адно цэлае пад назвай "Інтымны дзённік"» [1, с. 104].

---

[1] Аўтарам тэрміна *mise en abyme* лічыцца Андрэ Жыд, які як прыклад канструкцыі гэтага тыпу ў літаратуры называе камедыю з «Гамлета» («пастка») і сцэну з лялькамі ў п'есе Гётэ «Вільгельм Мейстэр». Глядзі больш на гэтую тэму [12, s. 36].

Ілюзія тэатральнасці канчаткова разбіваецца ў змешчаных у канцы твора рэмарках, якія яшчэ ў большай ступені паказваюць нам ролю выкарыстаных метадраматычных стратэгій і актуалізуюць дыскурс тэатральнай тэматыкі: «У гэты момант на сцэну выходзіць Клава. Дакладней, акцёрка, якая ў першай гісторыі грала Клаву. Застывае нерухома недалёка ад прасцэніума, прыціскае да грудзей загорнуты ў паперу партрэт. За ёй з'яўляецца акцёрка ў касцюме Дар'і Цімафееўны, пакурвае папяроску ў доўгім муштуку. І нарэшце з'яўляецца акцёр у касцюме Стылі з гітарай у руцэ. Акцёры, якія граюць персанажаў другой гісторыі, Пётру, Вераніку і Макса, здзіўлена глядзяць на персанажаў першай гісторыі, потым пераглядаюцца між сабой, і абедзве гісторыі — даўняя і сучасная — завяршаюцца» [1, с. 167]. Несумненна, такая канструкцыя фінальнай рэмаркі служыць узмацненню сувязі паміж дзвюма гісторыямі, якія функцыянуюць на розных сюжэтных узроўнях і скіроўваюць увагу рэцыпіента на падабенствы ў сферы выкарыстанага ў тэксце спосабу стварэння персанажаў. Героямі першай гісторыі, якая складаецца з чатырох сцэн, з'яўляюцца: Максім (паэт, 23 г.), Стыля (крымскі мастак і выпівоха, каля 30 г.), Клава (курортніца, 28 г.), Вольга (яе малодшая сястра, 20 г.), Салтыкоў (муж Клавы, за 30 г.) і Дар'я Цімафееўна (гаспадыня пансіёна, за 50 г.). Дзеянне адбываецца летам 1915 г. у Старым Крыме. Дзеянне другой гісторыі «адбываецца ў нашыя дні ў Мінску» і складаецца з пяці сцэн, у якіх таксама выступаюць шасцёра персанажаў: Пётра (літаратурны крытык, каля 23 г.), Лявон (модны празаік, каля 30 г.), Каліса (мастачка-дызайнерка, 28 г.), Вераніка (журналістка, 20 г.), Макс (выдаўца і бізнесмен, за 30 г.) і Ядвіга Антонаўна (карэктарка, за 50 г.), ствараючы такім чынам своеасаблівае драматургічнае двухгалоссе. Абедзве гісторыі «размаўляюць» паміж сабой, узаемапранікаюць і дапаўняюць адна адну. Першая гісторыя з'яўляецца сціплым, усяго толькі трохдзённым, урыўкам з жыцця выбітнага беларускага паэта эпохі мадэрнізму — Максіма Багдановіча (гл. [2]). На першы план выступае гісторыя рамана паэта з Клавай Салтыковай, з якой ён сустрэўся ў Старым Крыме і якая прыўнесла ў жыццё паэта незвычайна моцныя эмоцыі і перажыванні. С. Кавалёў канцэнтруецца на духоўным, метафізічным вымярэнні інтымных адносін беларускага паэта. Простая, нескладаная фабула спалучаецца ў аналізаваным творы са стварэннем вобраза паэта як асобы выключнай. Драматург звяртаецца да вядомых фактаў з біяграфіі паэта, драматызуе іх і надае ім характар алюзіі. Словы, прамоўленыя Клавай у другой сцэне п'есы: «Але калі я чытала Севяраніна, Блока, Ясеніна, мне заўсёды здавалася, што гэта вельмі небяспечныя людзі. (…) Бо яны кожную падзею, выпадак, сустрэчу ператвараюць у літаратуру. Здаецца, у іхнім жыцці няма нічога свайго, асабістага. Усё навокал — толькі тэма для вершаў» [1, с. 118–119], — робяцца цэнтральнай тэмай разважанняў у другой гісторыі, паколькі датычаць галоўнай праблемы мастацтва — яго мэты, каштоўнасці і межаў. Ужо ў першай частцы п'есы можна заўважыць з'яўленне дыскурсу апрадмечанай цялеснасці, заяўлены ў рэпліках Вольгі,

якая канцэнтруе сваю ўвагу на фізіялагічных рэакцыях каханкаў. Аднак, як паказваюць наступныя сцэны п'есы, веды пра таямніцы цела датычаць выключна яго рэакцый, якія не заўсёды можна патлумачыць чыста біялагічнымі прынцыпамі. Гэта яшчэ і багатая сфера духоўных перажыванняў, тое цялеснае Я (як аб'ектыўнае, так і суб'ектыўнае), якое з'яўляецца фундаментам цэласнасці і тоеснасці чалавека (гл. на гэту тэму [11]).

У другой гісторыі «Інтымнага дзённіка» С. Кавалёва закранаецца важная тэма культурных каштоўнасцяў, асабліва літаратурных, а таксама маральных, этычных. У размове з Ядвігай Антонаўнай пісьменнік Лявон, які заканчвае працу над эратычным раманам, героямі якога будуць людзі з кола блізкіх знаёмых, кажа наступнае: «Шчырая літаратура. А ўявіце, колькі ў майго рамана будзе чытачоў. Усе, пра каго напісана, — раз. Іхнія сябры і знаёмыя — два. І ўрэшце прачытаюць усе астатнія, каб пераканацца, што пра іх нічога не напісана...» [1, с. 139–140].

Як падкрэслівае Марыя Палякова, «гэты дыялог паказвае не толькі тое, што практычна ўсё табу і маральныя нормы ў сучасным грамадстве ўжо адпалі, што прыватнае, інтымнае жыццё лёгка становіцца здабыткам шырокай публікі, але закранае і цікавую праблему стану літаратуры» [4, с. 321]. Цяжка не пагадзіцца з гэтым сцверджаннем маладой даследчыцы. У другой частцы п'есы праблемы, якімі жыве рэдакцыя «Брамы», засяроджанасць на ходзе рэдакцыйнай працы, мэтай якой з'яўляецца не столькі заспакаенне літаратурна-мастацкіх патрэб чытачоў часопіса (у адпаведнасці з профілем), але хутчэй прыбытак і папулярнасць, якую прыносяць скандальныя матэрыялы на мяжы з парнаграфіяй, што друкуюцца на старонках выдання. І тут паўстае наступная важная праблема, закранутая ў п'есе Кавалёва, — праблема тоеснасці і маральнасці сучаснага чалавека, дэградацыі этычных каштоўнасцей.

Заяўленая праблема набірае сілы, калі высвятляецца, што журналістка «Брамы» Вераніка знайшла доступ да невядомых інтымных нататак Міксіма Багдановіча, апублікаваць якія прагнуць многія выдаўцы на рынку. Наступныя сцэны гэтай часткі твора будуюцца вакол дылемы: друкаваць іх ці не друкаваць. І ў прынцыпе, адносіны асобных персанажаў да гэтага пытання сведчаць пра іх сістэму каштоўнасцей, выяўляюць іх жыццёвыя прыарытэты і памкненні. Знамянальнымі ў такой сітуацыі робяцца словы Пятра, адрасаваныя да Веранікі: «Хацела ўцячы ад сябе самой. Спадзявалася ў іншым горадзе, у іншай краіне стаць іншай Веранікай. А гэта немажліва. Змена дэкарацый не перайначвае існасці герояў» [1, с. 166]. Гэтыя словы прымушаюць задумацца над пытаннем тоеснасці, аўтэнтычнасці, жыццёвай праўды, якая, хоць і вымагае ад нас пэўных высілкаў, з'яўляецца адзіна слушным шляхам, адзіным спосабам адкрыць уласны твар, адпрэчваючы маску, бо менавіта адкрытасць, шчырасць і непасрэднасць з'яўляюцца спосабам паказаць твар [8, s. 134]. Аднак чалавек часта адчувае страх перад экспрэсіяй твару, што ёсць складовай часткай страху перад уласнай згубай. У яго аснове ляжыць

маральная свядомасць, якая дыктуе чалавеку чакаць ад сябе водгуку на заклік да адказнасці [8, s. 134]. Гэта страх перад небяспекай аголенага твару, які ўводзіць суб’ект у стан дэстабілізацыі яго інтэгральнасці, разбурае яго самадастатковую і гарманічную структуру [10, s. 237]. Такім чынам, немагчыма пагадзіцца з Таццянай Падаляк, якая ў артыкуле «Які “інтым” шукаў і знайшоў тэатр у “Дзённіку” Максіма Багдановіча» [3, с. 314] абураецца створанай у п’есе Кавалёва постаццю Максіма Багдановіча, паўтараючы як рэфрэн: «Якая смелая навацыя?!. Якая геройская разняволенасць?!» Галоўная ідэя п’есы (а таксама спектакля) зусім іншая. Нельга забывацца, што тэма цела сталася адной з праблем сучаснай літаратуры. Яна стаіць у самым цэнтры спрэчак пра каштоўнасць розуму, паколькі падвяргае сумневу яго рацыянальнасць, аспрэчвае вольнасць мастацтва. Нельга не заўважыць, што зварот да гэтай тэмы не абавязкова звязаны з імкненнем лёгка дасягнуць поспеху, але можа быць, як у п’есе С. Кавалёва, свядомай правакацыяй, якая вядзе да рэалізацыі канкрэтнай мастацкай задачы.

У кантэксце заяўленай у назве артыкула праблемы варта падкрэсліць, што выкарыстаная С. Кавалёвым метадраматычная стратэгія ўзняла цэлы шэраг пытанняў, сумніваў, праблем, якія адназначна адсылаюць нас да сучаснай рэчаіснасці, з яе пагрозамі, выклікамі, але, магчыма, і шансамі. Сувязь, якая існуе паміж дзвюма гісторыямі, дазваляе канстатаваць, што геданістычныя ўцёкі ад духоўнасці вядуць сучаснага чалавека да занурэння ў аксіялагічнай пустцы і безнадзейнасці, а пытанне полу абмяжоўваецца выключна цялесным аспектам, хоць павінна разглядацца ў значна шырэйшым разуменні, чым здольнасць да сексуальнай актыўнасці. Такім чынам, можна паўтарыць словы Д. Чаі, што «ciało przełomu wieków to ciało konsumujące i konsumowane» (цела на мяжы стагоддзяў — гэта цела, якое спажывае і якое спажываюць) [6, s. 11], а «człowiek i jego życie podlegają logice konsumpcjonizmu» (чалавек і ягонае жыццё падпарадкоўваецца спажывецкай логіцы) [9, s. 313–314]. Справа, аднак, у тым, каб выйсці за межы цела ў кірунку духу, калі «ўсе мы разам ляцім да зор».

## Літаратура

1. Кавалёў, С. Сёстры Псіхеі: п’есы / С. Кавалёў. — Мінск, 2011.
2. Максім Багдановіч: Вядомы і невядомы: зборнік літаратуразнаўчых і архіўных матэрыялаў / рэд. Ц. В. Чарнякевіч. — Мінск, 2011.
3. Падаляк, Т. Які «інтым» шукаў і знайшоў тэатр у «Дзённіку» Максіма Багдановіча / Т. Падаляк // Паміж Беларуссю і Польшчай. Драматургія Сяргея Кавалёва = Pomiędzy Białorusią a Polską : Dramaturgia Siarhieja Kawaloua : зборнік артыкулаў / укл., прадм. Л. Грамыка, І. Лапо; пад рэд. А. Ліопа, А. Баровец. — Мінск, 2009. — С. 314–317.
4. Палякова, М. «Інтымны дзённік» Сяргея Кавалёва на фоне сучаснай парнатопіі / М. Палякова // Дзеяслоў. — 2012. — № 61. — С. 317–323.

5. Burzyńska, A. Mechanika cudu. Strategie metateatralne w polskiej dramaturgii awangardowej / A. Burzyńska. — Kraków, 2005.
6. Czaja, D. Ciało w kilku odsłonach / D. Czaja // Metamorfozy ciała. Świadectwa i interpretacje / red. D. Czaja. — Warszawa, 1999.
7. Dygul, J. Metateatralność w dramaturgii Carla Goldoniego / J. Dygul. — Warszawa, 2012.
8. Jaranowski, M. Lęk przed ekspresją twarzy: refleksja w «ramach» filozofii Emmanuela Levinasa / M. Jaranowski // Osoba i Racjonalność. — 2009. — T. 6. — S. 127–136.
9. Kowalczyk, I. Ciało i władza. Polska sztuka krytyczna lat 90 / I. Kowalczyk. — Warszawa, 2002.
10. Levinas, E. Całość i nieskończoność. Esej o zewnętrzności / E. Levinas; przeł. M. Kowalska. — Warszawa, 2014.
11. Mirucka, B. Poszukiwanie znaczenia cielesności i ja cielesnego / B. Mirucka // Przegląd Psychologiczny. — 2003. — T. 46. — № 2. — S. 209–223.
12. Pietrzak, P. Powieść nowoczesna i dylematy współczesnej nauki o literaturze / P. Pietrzak. — Warszawa, 2007.
13. Świontek, S. Dialog — dramat — metateatr / S. Świontek. — Łódź, 1999.

---

**Petar Sotirov** *(Lublin, Polska)*

# OBRAZ HONORU W JĘZYKU POLSKIM I BIAŁORUSKIM (NA MATERIAŁACH KONWERSATORIUM *EUROJOS*)

Konwersatorium pod nazwą *Językowo-kulturowy obraz świata Słowian na tle porównawczym* (EUROJOS) zostało powołane na XIV Międzynarodowym Kongresie Slawistów w Ochrydzie z inicjatywy przewodniczącego Komisji Etnolingwistycznej przy Międzynarodowym Komitecie Slawistów profesora Jerzego Bartmińskiego. Oficjalnie konwersatorium afilowane jest przez Instytut Slawistyki PAN, a jego ciałem organizacyjnym jest 14-osobowa rada naukowa. Konwersatorium EUROJOS ma wymiar międzynarodowy, skupia naukowców z wielu krajów słowiańskich i niesłowiańskich. Podstawowym obiektem prac badawczych w ramach konwersatorium jest językowy obraz świata Słowian i ich sąsiadów z akcentem na system wartości, w związku z tym na pierwszym etapie działalności opisano 5 pojęć do tego kanonu należących, mianowicie: DOM, PRACA, WOLNOŚĆ, EUROPA, HONOR [3].

Pokłosiem prac badawczych wykonanych w ramach konwersatorium EUROJOS jest pięciotomowy *Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów* [6]. Opracowanie jest próbą paralelnego opisania świata wartości słowiańskich na szerszym tle porównawczym. Stało się to możliwe dzięki jednolitej metodologii, która została

zastosowana przy opracowaniu odrębnych haseł przez wszystkich autorów. W związku z tym specyfiką wydawnictwa jest ujednolicony system narzędzi pojęciowych, wspólna terminologia, jednakowe źródła materiału językowego (są to dane leksykograficzne, ankietowe i tekstowe), podobny sposób definiowania znaczeń. Wszystko to razem tworzy wspólną bazę teoretyczną i metodologiczną oraz zapewnia porównywalność wyników. Konkretnym docelowym zadaniem autorów w ramach projektu było zaproponowanie tzw. «definicji kognitywnej», a jej istotę kierownik projektu EUROJOS J. Bartmiński określa tak: «Założeniem autorów haseł było nie tyle definiowanie samych pojęć w sensie logicznym, ile zdiagnozowanie specyficznego rozumienia określonych wartości przez użytkowników poszczególnych języków. Dlatego jako narzędzie eksplikacji znaczeń przyjęto subiektywistyczną koncepcję "definicji kognitywnej", której celem jest nie tyle zobiektywizowany opis znaczenia słów, ile uchwycenie tego, jak mówiący rozumieją znaczenia słów. Wartości opisywane są jako "koncepty kulturowe", czyli pojęcia aksjologicznie nacechowane i wyposażone w swoiste kulturowo konotacje» [4, s. 11].

Obiektem niniejszej pracy jest koncept HONORU w języku polskim i białoruskim, a jej celem — ujawnienie podobieństw i różnic w zakresie treści pojęcia i jego nazewnictwa. Analiza porównawcza dokonuje się na podstawie dwóch artykułów włączonych do tomu 5. HONOR *Leksykonu aksjologicznego Słowian i ich sąsiadów* [6], mianowicie: artykuł pt. *HONOR w języku polskim* autorstwa Moniki Grzeszczak [5] oraz artykuł pt. *Концепт гонар в белорусском языке* autorstwa Nadieżdy Kochnowicz [1]. Z tychże prac pochodzą również wszystkie przykłady, które zostały przytoczone w tekście.

Jak dowodzi M. Grzeszczak, we współczesnym języku polskim podstawowym leksemem reprezentującym koncept HONORU jest leksem *honor*, który został zapożyczony z języka łacińskiego pod koniec XVI wieku zastępując wyrazy rodzimego pochodzenia rodzaju *cześć*, *poczciwość* (*poćciwość*), *poczesność* (*poczestność*), *poczliwoć*, *poczliwość*, *uczciwe*. Jego pierwotne znaczenie było 'uczciwość'.

Badania N. Kochnowicz pokazują, że w języku białoruskim treść pojęcia HONORU odzwierciedla ten sam leksem, ale jego historia i stan społeczny są bardziej skomplikowane w porównaniu z językiem polskim. Ma to na pewno związek zarówno z historią społeczeństwa białoruskiego, jak i z obecną sytuacją socjolingwistyczną Białorusi (np. obecność społecznego bilingwizmu). Autorka artykułu o honorze w języku białoruskim dowodzi, że leksem *гонар* (czyli *honor*) zaistniał w języku białoruskim w XVII wieku za pośrednictwem języka polskiego, natomiast podczas wcześniejszego okresu staroruskiego, tak jak i w języku polskim, powszechnie używany był leksem słowiańskiego pochodzenia *чэсць* (prsł. **чьсть*). Z badań autorki dowiadujemy się, że od XVII wieku w języku białoruskim powstała swoista rywalizacja między wieloma leksemami (w tym *чэсць* i *гонар*). W XIX wieku obserwowana jest dominacja pierwszego z nich (czyli *чэсць*), a *гонар*,

który kojarzył się przede wszystkim z mową szlachty polskiej, miał zastosowanie dialektalne. W XX wieku, w okresie odrodzenia narodowego, leksem *чэсць* został wyparty przez *гонар*. Obecnie obydwa wyrazy uważane są za synonimy, przy tym *чэсць* kojarzy się bardziej z wewnętrznym aspektem pojęcia HONORU czyli z moralnością, z życiowymi zasadami indywiduum, natomiast *гонар* — z zewnętrznym aspektem czyli ze społecznym uznaniem[1].

Jedną z podstawowych kwestii w definiowaniu pojęcia HONORU jest kwestia jego **pojęcia nadrzędnego** czyli **hiperonimu**, która w znacznym stopniu wyjaśnia czym jest tak naprawdę HONOR, część jakiego systemu stanowi. Źródła językowe (systemowe, tekstowe, ankietowe) dotyczące języka polskiego, które zostały ujawnione przez M. Grzeszczak wskazują na to, że dla Polaków honor to rodzaj *postawy*, *cnoty*, *wartości*, *idei* oraz *zasady* (ta ostatnia łączy się najczęściej z *wiernością* komuś lub czemuś). Można zauważyć, że wymienione wyrazy uwidoczniają dwa główne aspekty pojęcia: psychospołeczny i aksjologiczny. Źródła białoruskie natomiast wskazują jako hiperonimy wyrazy: *пачуццё* (poczucie), *паняцце* (pojęcie), *годнасць* (godność)*, якасць* (jakość), *уменне паводзіць сябе* (umiejętność zachowania się), które prezentują jednocześnie aspekt psychologiczny, społeczny i behawioralny.

Badanie **synonimów** leksemów *honor* i *гонар* również poszerzają wiedzę o treści bazowego pojęcia. W języku polskim ustalono istnienie długiego szeregu nazw, które są lub mogą być, w zależności od kontekstu, synonimicznymi leksemu *honor*. Najczęściej w roli synonimu występuje wyraz *godność*, także *godność osobista* oraz *poczucie (własnej) godności*. W przypadkach, w których chodzi o charakter człowieka używane są wyrazy: *duma, ambicja, miłość własna,* natomiast w przypadkach dotyczących (zachowania) postawy moralnej i szacunku wobec innych używany jest wyraz *zachować twarz* (w znaczeniu 'uratować honor'). Wyrazy rodzaju *dobre imię, dobra sława*, *cześć, gloria, renoma, reputacja* odnoszą się do opinii społecznej na temat pewnej osoby, zaś wyraz *dobro (dobra) osobiste* funkcjonuje jako termin prawniczy. W języku polskim istnieją wyrazy, które służą do podkreślenia szczególnego uznania społecznego, np. *szacunek, poważanie*; *cześć; konsyderacja; estyma; uznanie*, *poklask*, *respekt*, *atencja* lub wskazują na czyjąś powagę, znaczenie, świetność, autorytet, na przykład *splendor*, *dostojeństwo*, *prestiż.* Zewnętrzne oznaki szacunku, czci składanych komuś (ze względu na coś) zaznaczane są wyrazami: *wyrazy uznania*, *hołdy; hołd*, *czołobitność*, *adoracja*, *ukłon*, *pokłon*, *uszanowanie*. Ogląd wyrazów bliskoznacznych w języku polskim wskazuje na obecność niemałej liczby leksemów pochodzenia obcojęzycznego (przeważnie łacińskiego), które przyczyniają się do wrastania ogólnej liczby wyrazów synonimicznych związanych z pojęciem HONORU (zob. *ambicja, gloria,*

---

[1] O wewnętrznym i zewnętrznym aspekcie pojęcia HONORU bardziej szczegółowo zob. [2].

*renoma, reputacja, konsyderacja, estyma, respekt, atencja, splendor, prestiż, hołd, adoracja*).

W języku białoruskim w związku z pojęciem HONORU zauważalna jest mniejsza ogólna liczba wyrazów synonimicznych w porównaniu z językiem polskim, są to: *чэсць, годнасць, абавязак, сумленне, гордасць, радасць, задавальненне, самапавага, самаадзнака, прызнанне*, *павага*, *слава*, *добрая рэпутацыя*, *вядомасць, пашана*. Jednak należy podkreślić, że znaczna część wyrazów to leksemy wielofunkcyjne, gdyż używane są, w odróżnieniu od języka polskiego, w przeróżnych kontekstach. Na przykład leksem *чэсць* używany jest w związku z aspektami 'cecha, wartość', 'wysoka samoocena' oraz 'uznanie społeczne', natomiast białoruski leksem *годнасць* — w związku z aspektem 'cecha, wartość', 'dobry stosunek do samego siebie' oraz 'wysoka samoocena'. Można zauważyć również, że tylko nieliczne wyrazy w języku białoruskim stanowią zapożyczenia, na przykład są to jedynie *фанабэрыя* (*фанабэрыстасць*) i *рэпутацыя*.

W ramach konwersatorium EUROJOS zastosowano również kryterium **kolekcje i kompleksy**, czyli zbadano otoczenie pojęciowe, w którym funkcjonuje pojęcie HONORU. Otoczenie to obejmuje zarówno pojęcia bliskie (kolekcje), jak i z innego porządku, ale pojęcia najczęściej skojarzane z HONOREM (kompleksy).

Według autorki badania obrazu honoru w języku polskim najbardziej typowe są przykłady zastosowania leksemu *honor* wraz z wyrazem *(dobra) reputacja*, które potwierdza utożsamianie honoru z dobrą opinią, jaką ktoś cieszy się wśród ludzi (np.: *Upewniam, że ta okazja ani honorowi ani dobrej reputacji szkodzić nigdy nie będzie*) oraz z wyrazami nawiązującymi do lęku przed utratą dobrego imienia (np. *Chyba też nie zna poczciwości* [= dobrego imienia, dobrej sławy — *M. G.*], *honoru i wstydu*). Często (na przykład w tekstach prasowych) *honor* współwystępuje w jednym szeregu z *godnością*, *godnością człowieka*, *poczuciem własnej godności*, też z *czcią*, *uczciwością* i *przyzwoitością.* Niektóre kompleksy wskazują na powiązania honoru z sferą materialną, np. biznes, sport (zob. *honor i pieniądze*, *honor i biznes*; *honor i półfinał*). Szeregi typu *zaszczyty i honory*; *tytuły i honory*; *honory i bogactwa*; *uznanie i honory*; *honory i nagrody*; *honory i przywileje* wskazują na zewnętrzne oznaki / przejawy honoru. W języku polskim wysoką frekwencją odróżniają się wyrazy rodzaju *honor i ojczyzna* oraz *Bóg*, *honor i ojczyzna*, które prezentują honor jako wartość patriotyczną.

W języku białoruskim można znaleźć szereg podobieństw w stosunku do problemu kolekcji i kompleksów, w których *гонар* i jego synonimy występują. Do nich należą na przykład kolekcje typu: *honor i godność* (*гонар і годнасць*), *godność i reputacja* (*годнасць і дзелавая рэпутацыя), cześć i sława* (*чэсць і слава*)*, honor i patriotyzm* (*гонар і патрыятызм*) itp. Dodatkowo w języku białoruskim odnaleziono konteksty, w których honor współwystępuje z wyrazami *radość, szczęście* i *powaga*. Ciekawy jest również kompleks *głupstwo i honor*. Na podstawie kolekcji i kompleksów autorka artykułu o białoruskim honorze dowodzi, że honor należy do najważniejszych wartości dla współczesnego Białorusina, jakimi

są również: *радзіма (rodzina)*, *народ (naród)*, *патрыятызм (patriotyzm)*, *адказнасць (odwaga)*, *пачуццё абавязку (odpowiedzialność)*, *сумленне (sumienie)*, *справядлівасць (sprawiedliwość)*, *душа (dusza)*, kojarzy się także z bogactwem i wysokim statusem społecznym.

Nie mniej istotne przy opisie rozumienia honoru jest ujawnienie jego **opozycji**. W języku polskim występuje grupa leksemów, które w semantyce mają wpisane znaczenie 'utrata godności i dobrego imienia'. Są to wyrazy jak: *dyshonor, niesława*, *zła sława; złe imię*, *brak honoru*, *brak godności*; *brak szacunku dla siebie*, *brak wstydu*, *nikczemność*, *hańba*; *haniebność*, *poniżenie*, *zhańbienie*. Leksemy i wyrażenia pozostające w opozycji semantycznej do *honoru* w wymiarze zewnętrznym utrwalające negatywne postawy ze strony otoczenia są takie, jak: *brak szacunku*; *brak zaszczytu*, *brak wyróżnienia*, *brak pochwały*; *nagana*; *pogarda*; *upokorzenie*, *poniżenie*, *kompromitacja*. W tekstach prasowych najbardziej wyrazistymi oppositum honoru są: *hańba*, *niegodziwość* (zwłaszcza w życiu politycznym) oraz *konformizm*, *oportunizm* i *pragmatyzm*.

W języku białoruskim antonimami leksemu *honor* są przede wszystkim *zniewaga* (*знявага*), *hańba*, *poniżenie* (*прыніжэнне*), *wstyd* (*сорам*) oraz oznaki materialnego bogactwa, na przykład pieniądze, ranga, odzież (por. *Чэсць даражэй за грошы*).

W badaniach nad słowiańską aksjologią specjalną uwagę zwracano na kwestię **podmiotu honoru**, czyli kto może być nosicielem honoru (i związku z tym za co). Na przykład Jadwiga Puzynina zauważa, że «*honor — w poprzednich wiekach ograniczony najpierw do stanu rycerskiego, potem szlacheckiego, a następnie przynajmniej do mężczyzn — w XX wieku rozszerzył swój potencjalny zasięg na wszystkich ludzi, niezależnie od stanu, płci, a także wieku: nie jest wcale tak, by także dzieci (w wieku szkolnym, a nawet przedszkolnym), nie mówiąc o kobietach, wbrew wcześniej wypowiadanym sądom, nie mogły mieć poczucia honoru na swoją miarę*» [7].

Z tekstu o polskim honorze wynika, że honor przypisywany jest najczęściej osobom płci męskiej kierującym się w swoim postępowaniu określonym kodeksem norm i zachowań i odnosi się w pierwszej kolejności do osób związanych z wojskiem, a w znaczeniu dobrego imienia również do przedstawicieli różnych organizacji zbrojnych (por. *honor (polskiego) żołnierza* / *honor żołnierski*; *honor żołnierza lądowego*; *honor (polskiego) oficera* / *oficerski honor*; *honor wojskowy*; *honor sił zbrojnych*; *honor armii*; *honor wojska; honor jednostki*; *honor Armii Krajowej*). Honor dotyczy kobiet raczej w znaczeniu 'czci', 'cześć niewieścia; poczciwość' (np. wyraz *honor kobiecy*) lub 'dobra opinia o prowadzeniu się danej kobiety' (np. *honor damy*), czyli nawiązuje do zewnętrznej formy honoru. Wyraz *honor Boski* świadczy, że honor odnosi się także i do Boga.

Pewne wyrazy języka polskiego pokazują, że podmiotem honoru może być również określona zbiorowość społeczna, na przykład: naród (*honor narodu*, *honor narodowy*), grupa społeczna (*honor rodziny*), grupa zawodowa (*honor lekarza*;

*honor dziennikarza, honor nauczyciela*). Według ustaleń M. Grzeszczak honor jest też kojarzony z osobami mającymi specyficzny kodeks etyczny, na przykład z wchodzącymi w konflikt z prawem — jako przykład autorka przytacza wyraz *być złodziejem z honorem*.

Białoruski materiał językowy jako podmioty honoru również ujawnia subiekty indywidualne i grupowe, na przykład, z jednej strony, *obywatel*, *matka*, *nauczyciel* (*грамадзянін*, *маці*, *выкладчык*), z drugiej — *szkoła*, *produkcja*, *zwycięzcy*, *ojczyzna* (*школа*, *вытворчасць*, *пераможцы*, *Радзіма*). Autorka odróżnia także różne podmioty w zależności od roli społecznej, na przykład: człowiek, obywatel, kobieta, ojciec, babcia, urzędnik, piosenkarz, szlachcic, oficer, Białorusin (*чалавек*, *грамадзянін*, *жанчына*, *бацька*, *бабуля*, *чыноўнік*, *пясняр*, *шляхціц*, *афіцэр*, *беларус*). Nareszcie, możliwy jest podział podmiotów honoru na «pierwotne» i «wtórne». Do drugich należą przypadki «korzystania» z honoru grupy, do której się przynależy (np. *Я ганаруся нашай культурай; Маці адчувае гонар за сына*) oraz przypadki przyswajania zasługi (np. *Вася — гонар школы; Хакеісты абараняюць гонар краіны*).

Kwestia podmiotu honoru bezpośrednio powiązana jest z pytaniem o **postawy i zachowania**, w których ujawnia się pojęcie HONORU, czyli za co honor się należy. W języku polskim szereg wyrazów wskazuje, że honor przejawia się w przede wszystkim w takich postawach i zachowaniach jak: *umiejętność przyznania się do błędów*; *odpowiedzialność za słowa i czyny* oraz *podjęte przez siebie decyzje*; *umiejętność ponoszenia konsekwencji za własne postępowanie*. Jako honorowe rozumiane są też: *zachowywanie się zgodnie z przyjętymi lub swoimi zasadami*; *trzymanie się zasad* oraz *postępowanie zgodnie z ogólnie przyjętymi normami moralnymi, przestrzeganie norm moralnych* itp.

Według polskiej tradycji za niehonorowe uznaje się *tchórzostwo, plotkarstwo, oszczerstwo* lub *meskineria*,[1] a współcześnie do zachowań sprzecznych z honorem zalicza się też łamanie raz danego słowa oraz niedotrzymywanie przysięgi. W licznych kontekstach wyraz *ludzie bez honoru* odnosi się do polityków, należy zauważyć jednak, że zjawisko to spotyka się w większości badanych języków.

W języku polskim wszystkie typy danych świadczą, że honor łączy się najściślej z wartościami etycznymi. Składniki semantyczne pojęcia stanowią takie wartości, jak: godność i jej poczucie, słowność oraz szeroko pojęta uczciwość.

W języku białoruskim najbardziej bliskimi konceptowi HONORU są poczucie obowiązku (*абавязак / пачуццё абавязку*) oraz patriotyzm (*Гонар — гэта Радзіма*). Wśród najważniejszych warunków zachowania honoru są niezależność, zachowanie etyczne, wyjątkowość i sukces.

---

[1] Na przykład na temat honoru W. Doroszewski pisze: «Niehonorowym jest tchórzostwo, honorową odwaga; honorowa jest umiejętność dochowania tajemnicy, niehonorowanymi plotkarstwo, oszczerstwo lub meskineria» [8, hasło: honorowy].

Na podstawie porównania definicji kognitywnej pojęcia HONORU w języku polskim i białoruskim zaprezentowanych przez M. Grzeszak i N. Kochnowicz można sformułować wnioski dotyczące podobieństw i różnic w obrębie badanego pojęcia. Można zauważyć, że podobieństwa mają znaczną przewagę, są one oznakami wspólnej dla obu narodów europejskiej i słowiańskiej bazy kulturowej, natomiast odnotowane różnice są wynikiem specyficznych dla każdego z nich warunków historyczno-kulturowych. Jako najbardziej wyraziste przykłady podobieństwa i różnic można wymienić następujące fakty:

- w języku polskim i białoruskim ten sam główny leksem reprezentuje pojęcie HONORU (pol. *honor*, biał. *гонар*), jednocześnie w obydwóch językach zachowany został również leksem pochodzący od prasłowiańskiego leksemu **чьсть* (pol. *cześć*, biał. *чэсць*), ale występujący obecnie w nieco odmiennych funkcjach — w języku polskim kojarzony jest najczęściej z kobietą, w języku białoruskim związany jest z uznaniem społecznym, czyli odzwierciedla zewnętrzny wymiar pojęcia;
- w stosunku do pojęcia nadrzędnego w obydwóch językach zauważalny jest aspekt psychologiczny, bowiem honor odnosi się do wewnętrznej struktury osobowości (honor jest poczuciem, ideą), wysuwa się także aspekt aksjologiczny (honor jest cnotą, wartością, jakością) oraz aspekt psychospołeczny (honor jest postawą, umiejętnością zachowania się);
- w zakresie synonimów polskiego leksemu *honor* i białoruskiego *гонар* podobieństwo polega na tym, że istnieją liczne wspólne synonimy, na przykład: *godność* (biał. *годнасць*), *duma* (biał. *гордасць*), *szacunek* (biał. *пашана*), *reputacja* (biał. *рэпутацыя*); można odnotować również pewną różnicę dotyczącą faktu, że w języku polskim szereg synonimów jest nieco dłuższy niż w języku białoruskim, jednocześnie da się zauważyć, że w języku białoruskim znaczna część synonimów *гонар* jest wielofunkcyjna, gdyż używane są w bardziej rozmaitych kontekstach; ten sam wniosek dotyczy wyrazów antonimicznych *honor* i *гонар*;
- w zakresie kolekcji i kompleksów zarówno w języku polskim, jak i w białoruskim charakterystyczne jest połączenie honoru z godnością (pol. *honor i godność,* biał. *гонар i годнасць*), z dobrą reputacją (pol. *honor i dobra reputacja*, biał. *годнасць i дзелавая рэпутацыя*) oraz z patriotyzmem (pol. *honor i ojczyzna*, biał. *гонар i патрыятызм*); w języku polskim bardzo widoczne są również: triada *Bóg, honor i ojczyzna*, związki językowe odnoszące się do zewnętrznych oznak honoru, np. *zaszczyty i honory*; *tytuły i honory* oraz wyrazy pokazujące powiązania honoru ze sferą materialną, np. *honor i pieniądze*, *honor i biznes*; w języku białoruskim specyficzne są wyrazy eksponujące relacje honoru z odpowiedzialnością (*гонар i адказнасць*), ze sławą (*гонар i слава, слава i чэсць*), z radością *(гонар i радасць)* oraz ze szczęściem (*гонар i шчасце*);
- zarówno w rozumieniu polskim, jak i białoruskim honor odnosi się do podmiotów indywidualnych i grupowych (zbiorowości społecznych lub

zawodowych); polskie przykłady językowe pokazują, ze honor dotyczy przede wszystkim płci męskiej i odnosi się w pierwszej kolejności do osób związanych z wojskiem, a w przypadku kobiet honor rozumiany jest raczej w znaczeniu 'czci'; w polskim ujęciu honor odnosi się także i do Boga; w języku białoruskim mniej eksponowany jest podział płciowy przy podmiotach honoru, natomiast autorka badań dokonuje podziału podmiotów na «pierwotne» i «wtórne»;

- w stosunku do konkretnych postaw i zachowań świadczących o obecności honoru zarówno polskie, jak białoruskie dane językowe wskazują na odpowiedzialność za słowa i czyny i za podjęte przez siebie decyzje (biał. *абавязак / пачуццё абавязку*) oraz postępowanie zgodne ze swoimi lub z ogólnie przyjętymi normami moralnymi (biał. *этычныя паводзіны*); polskie dane językowe wskazują również na *umiejętność przyznania się do błędów* jako oznakę honoru, a białoruskie — na *niezależność*, *wyjątkowość* i *sukces* jako warunki zachowania honoru.

W konkluzji, zaprezentowana praca pokazuje, że ujednolicona metodologia badawcza zastosowana podczas prac w ramach projektu EUROJOS pozwala na skuteczną analizę porównawczą, która rzuca dodatkowe światło na porównywane obiekty badawcze, jakimi są koncepty budujące aksjosferę Słowian i ich sąsiednich narodów.

## Bibliografia


1. Кохнович, Н. Концепт ГОНАР в белорусском языке / Н. Кохнович // Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów / pod red. J. Bartmińskiego. — T. 5. HONOR / red. D. Ajdaczic, P. Sotirov. — Lublin (w druku).
2. Толстая, С. Русская *честь* и польский *honor* / С. Толстая // Etnolingwistyka. Problemy języka i kultury 25. — Lublin, 2013. — S. 9–22.
3. Abramowicz, M. Językowo-kulturowy obraz świata Słowian na tle porównawczym. Założenia programu «A» / M. Abramowicz, J. Bartmiński, W. Chlebda // Etnolingwistyka. Problemy języka i kultury 21. — 2009. — S. 341–342.
4. Bartmiński, J. Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów — co zawiera, na jakich zasadach się opiera, dla kogo jest przeznaczony / J. Bartmiński // Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów / pod red. J. Bartmińskiego. — T. 1. DOM / red. J. Bartmiński, I. Bielińska-Gardziel, B. Żywicka. — Lublin, 2015. — S. 7–14.
5. Grzeszczak, M. HONOR w języku polskim / M. Grzeszczak // Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów / pod red. J. Bartmińskiego. — T. 5. HONOR / red. D. Ajdaczic, P. Sotirov. — Lublin (w druku).
6. Leksykon aksjologiczny Słowian i ich sąsiadów / pod red. J. Bartmińskiego. — T. 1–5. — Lublin, 2015—.
7. Puzynina, J. O honorze w języku i nie tylko / J. Puzynina // Wieź. — 1999. — № 9. — S. 40–47.
8. Słownik języka polskiego / red. W. Doroszewski. — T. 1. — Warszawa, 1958.

**Галіна Тварановіч** *(Беласток, Польшча)*

# ПОЛЬСКАЯ ТЭМАТЫКА Ў ТВОРЧАСЦІ «БЕЛАВЕЖЦАЎ»

Зразумела, ужо самім фактам, што Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» створана і існуе на працягу амаль 60 гадоў у Польшчы, абумоўлена тое, што творчасць яго сяброў на розных узроўнях звязана з пальшчызнай, прасякнута польскімі рэаліямі, уплывамі, характарызуецца разнастайнымі літаратурна-культурнымі тыпалагічнымі і кантактнымі сувязямі.

Адзін з істотных момантаў кантактных узаемадачыненняў «белавежцаў» і польскіх пісьменнікаў даносіць літаратурная старонка аб'яднання ў штотыднёвіку «Ніва», якая з'яўлялася творчым варштатам «белавежцаў» ад часу заснавання да саракагоддзя арганізацыі (1958–1998), пакуль не стаў выходзіць літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс-штогоднік «Тэрмапілы». На літаратурнай старонцы былі надрукаваны ў перакладзе і арыгінале творы каля 70 польскіх аўтараў з самых розных культурных асяродкаў Польшчы. Для прыкладу варта згадаць хоць бы імёны Уладыслава Бранеўскага, Віктара Варашыльскага, Анджэя Васькевіча, Паўла Гайнтша, Адама Загаеўскага, Францішка Кабрыньчука, Эвы Ліпскай, Чэслава Мілаша, Фларыяна Няўважнага, Тадэвуша Ружэвіча, Яна Соханя, Леапольда Стафа, Чэслава Сэнюха, Віславы Шымборскай, Эдварда Ярашэвіча і інш. Вядома, працягваецца гэта традыцыя і на «тэрмапільскіх» старонках, узбагаціўшыся пры тым на крытычна-літаратуразнаўчае асэнсаванне творчасці польскамоўных аўтараў.

Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» — унікальная арганізацыя: ніводная нацыянальная меншасць у Польшчы не мае гэткага своеасаблівага пісьменіцкага саюза. Аб'яднанне ўзнікла ў Польшчы, але ж на гістарычна беларускіх землях, і яго шэрагі склалі менавіта аўтахтоны, якія з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы. Звыш 140 аўтараў прапісалася ў «белавежскай» прасторы на працягу існавання арганізацыі. У творчым наробку «белавежцаў» — звыш 200 аўтарскіх кніг прозы, паэзіі, эсэ, літаратурна-крытычных і навуковых даследаванняў, альманахаў. Як згадвалася, з 1998 г. беларускім літаратурным аб'яднаннем пад шматгадовым кіраўніцтвам старшыні «Белавежы» Яна Чыквіна выдаецца часопіс «Тэрмапілы».

Зацікавіўшыся ў другой палове сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя творчасцю сучасных беларускіх пісьменнікаў Польшчы, англійская даследчыца Шырын Акінэр акрэсліла іх мастацкі набытак як літаратуру рэдкай разнастайнасці ды шчырага натхнення. Маючы на мэце аналіз найперш эстэтычнай матэрыі, Ш. Акінэр звярнула пры тым увагу і на сацыялагічнае значэнне існавання «Белавежы». Сапраўды, дзейнасць гэтай арганізацыі выразна пацвярджае адну з менавіта беларускіх гістарычных заканамернасцей, ці не самую вызначальную, лёсаносную — і загадкава невытлумачальную.

У прыватнасці, Ш. Акінэр канстатавала: «Факт, што гэты народ так доўга захоўвае пачуццё сваёй нацыянальнай асаблівасці, мяжуе з цудам» [6, с. 3].

Кніга Георгія Валкавыцкага «Віры. Нататкі рэдактара» — своеасаблівы летапіс станаўлення, можна сказаць, лакальнага беларускага Адраджэння на Беласточчыне, і менавіта ў польскіх сацыяльна-грамадскіх варунках, калі падчас палітычнай адлігі сярэдзіны пяцідзясятых гадоў у Польшчы адышлі ад канцэпцыі монадзяржавы і была прызнана прысутнасць нацыянальных меншасцей. Вядома, выразныя адраджэнскія працэсы ў беларускім асяроддзі сталі магчымымі дзякуючы таму, што ў ім ніколі не занікала патрэба нацыянальнага самавыяўлення і, як ні парадаксальна, асабліва ўзмоцненая ў перыяд Другой сусветнай вайны. Невыпадкова Масей Сяднёў у сваім «Беластоцкім сшытку» (1998), прыпамінаючы амаль год, праведзены на Беласточчыне (кастрычнік 1943 — май 1944), называе ўздым беларускасці з яго школьніцтвам, газетай «Новая дарога» (рэдактар Хведар Ільяшэвіч) «нечым накшталт маленькага кароткага рэнесансіку» [2, с. 280].

Наканавана было Г. Валкавыцкаму пасля заканчэння Маскоўскага літаратурнага інстытута аказацца ў 1954 г. у Беластоку, каб стаць стваральнікам і першым рэдактарам «Нівы», арганізатарам Беларускага літаратурнага аб'яднання, адным з заснавальнікаў Беларускага культурна-грамадскага таварыства. Такім чынам, шчасліва супалі ў адным моманце грамадскія патрэбы і магчымасці неардынарнай асобы.

Часавая прастора «Віроў» ахоплівае 1954–1987 гг., якраз ад пачатку «працоўнай дзейнасці» аўтара і да выхаду яго на пенсію. І патрапіў адразу Г. Валкавыцкі на працу ў «Беластоцкую газету», быў залічаны ў аддзел культуры. Неўзабаве, у маі 1955 г., Г. Валкавыцкі разам «са званнем публіцыста» быў накіраваны ў Камітэт ПАРП: «Тут паставілі мяне на сектар культуры. Трапіў *у сапраўдны вір спраў і падзей* (выдзелена намі. — *Г. Т.*). Гэта куды пазней узнік лозунг: "Партыя кіруе, урад правіць". У той час усё вяршыў Камітэт. У ролю вяршыцеля ўваходзіў я з апаскай, асцярожна мацаў новы грунт. Выявіўшы белую варону, звалілася на мяне хмара крумкачоў. Выцягваюць з гурту паршывых авечак, стукаюць адзін на другога, пераконваюць у бескарыслівым служэнні справе. Адразу адчуў, што асяроддзе, у якім давядзецца дзейнічаць, падзеленае, склочнае, асабліва артысты. Свае спасцярогі я выказаў цэкісцкай сяброўцы Б. С. Неўзабаве з'явілася яна з рабочай групай, і мы, павялічыўшы калектыў мясцовымі актывістамі, заняліся распрацоўкай культуры на Беласточчыне. Сабралі багаты матэрыял. Пасля супольнага абмеркавання ўзнікла ясная карціна. Яе я і прадставіў на ваяводскай нарадзе апарату прапаганды. З заключнага слова Мар'яна Ксёнжака даведаўся, што зрабіў першую спробу аналізу культурнага становішча ў ваяводстве. Пранікаць глыбей у тэму, а тым больш рабіць адпаведныя вывады не дазваляў надзённы вэрхал. Набліжаліся ліпеньскія фэсты, адначасова рыхтаваліся мы і да 35-годдзя Тымчасовага рэвалюцыйнага камітэта Польшчы. Прадбачваўся прыезд Баляслава Берута.

Нарадзілася ідэя пленэрнага спектакля на дзядзінцы палаца Браніцкіх, дзе ў 1920 годзе адбылося абвяшчэнне ТРКП» [1, с. 10–11].

Са здаровым пачуццём гумару, што ўвогуле з'яўляецца адметнай рысай яго творчай індывідуальнасці, узнаўляе Г. Валкавыцкі палітычную атмасферу, псіхалогію чалавечых адносін у тагачасным культурным беластоцкім асяроддзі. Яго намаганні ў накірунку ажыўлення мясцовага літаратурнага жыцця нават прыцягваюць увагу сакратара Саюза польскіх літаратараў Яна Марыі Гісгеса. І, відаць, не акажыся Г. Валкавыцкі запатрабаваным беларускаю справаю, у камітэцкім аддзеле культуры ім таксама было б зроблена шмат карыснага дзеля ўсяго ваяводства. Аднак, як піша аўтар «Віроў», не паспеўшы ўвайсці ў курс камітэцкай працы, ён атрымаў даручэнне падрыхтаваць прапанову аб стварэнні беларускай арганізацыі і далей — аб заснаванні тыднёвіка беларусаў у Польшчы. Надзвычай трапную назву даў сваёй кнізе Г. Валкавыцкі. Укручаны ў *вір спраў і падзей* з самага пачатку свайго побыту на Беласточчыне, ён вызваліцца з яго толькі з выхадам на пенсію, што, на жаль, паскорылася цяжкаю хваробаю. Знайшлі адлюстраванне ў нататках рэдактара самыя разнастайныя «завіраванні»: партыйны нагляд, цэнзура, перапады чаканняў і рэальнасці, міжчалавечыя праблемы, пошук талентаў...

Кніга Г. Валкавыцкага напісана з унутранай асабістай патрэбы своеасаблівага падвядзення вынікаў і сілаю рэчаў — аўтар «Віроў» аказаўся ў самым цэнтры беларускага культурна-грамадскага жыцця — сталася індывідуалізаваным летапісам уздыму беларускіх адраджэнскіх працэсаў і ўрэшце іх аслаблення. Польская тэматыка прысутнічае ў кнізе выразна, хоць найперш як сацыяльна-грамадскі кантэкст, і цікавіць аўтара па меры ўплыву гэтага кантэксту на беларускае асяроддзе.

Сакрат Яновіч, у сваю чаргу, польскамоўную кнігу «Białoruś, Białoruś» адрасуе менавіта польскаму чытачу. Кароткую прадмову ён пачынае са згадкі, што палякі і беларусы маюць за сабою шэсць вякоў агульнага лёсу і падобнай гісторыі. І адразу ж аўтар спяшаецца папярэдзіць, што было б памылкаю спадзявацца, што чытач мае перад сабой нарэшце «wykład schludnie uporządkowanej historii adoracji wzajemnej między Białorusią i Polską. Nie przeczę że ktoś kiedyś powinien napisać taką rzecz (naukowo i dokładnie!). Mnie natomiast idzie tu o co innego, o wywołanie u czytelnika takiej właśnie potrzeby po to, by przyszła wiedza, będąca jej owocem, stała się integralną częścią naszej kultury. Dzisiaj, niestety, jesteśmy pod tym względem najczęściej analfabetami!

Chcę unikać chronologii; i to nie tylko korzystając z uprawnień, jakie daje gawęda, i nie dlatego, by nie nudzić, ani dlatego, że czytelnik mój jest wyposażony głównie w narodowe, pozabiałoruskie zestawy narzędzi myślenia historycznego. Wygłaszam ekspromt, długą improwizację, że się tak wyrażę, o pilnej już teraz konieczności powszechnego uświadomienia sobie tego, że nie można być pełnowymiarowym Polakiem czy Białorusinem bez pewnych wiadomości w bagażu

intelektualnym» [7, s. 5–6]. Пісьменнік адзначае, што занатаваў толькі свае адчуванні і высновы, падтрыманыя ведамі, звяртаючыся да значных падзей і перыядаў, асветленых пакуль залішне аднабакова. Ён задаецца скрушлівым пытаннем: як магло стацца, што два народы, якія доўгі час былі ў агульнай дзяржаве, жывуць цяпер у «асіметрыі», прычым крыўднай для Беларусі?!.

Невыпадкова распачынае свой «экспромт» С. Яновіч з успамінаў аб наведваннях Кракава — старадаўняй польскай сталіцы, незвычайна багатай на духоўна-асветніцкія традыцыі, горадзе, які прытуліў у свой час Івана Луцкевіча, Цётку, Алеся Гаруна... І ён, беларускі пісьменнік Польшчы, на пачатку сваёй літаратурнай творчасці — «po pierwszutkich miniaturach prozatorskich, takich sokratkach» [7, s. 7] — таксама быў прыязна прыняты сярод векавечных кракаўскіх муроў, што яго дасюль унутрана падбудоўвае. І, вядома, звяртаецца С. Яновіч да постаці слыннага сына зямлі беларускай Францыска Скарыны, які менавіта ў Кракаўскім універсітэце здабыў ступень бакалаўра. Шлях жа яго з радзіннага крывіцкага Полацка, магчыма, пралягаў праз Вільню, а далей, як патрыятычна адзначае С. Яновіч, і праз родныя пісьменнікавы Крынкі: «miasto zygmuntowskie na szlaku z Litwy do Korony» [7, s. 9]. З Кракавам звязаны лёс і другога магутнага дзеяча беларускай эпохі Адраджэння — Міколы Гусоўскага, пра якога С. Яновіч распавядае ў сувязі з Язэпам Семяжонам, перакладчыкам «Песні пра зубра» на беларускую мову. Знайшлося месца ў кнізе «Białoruś, Białoruś» рэфлексіям пісьменніка аб Сымоне Будным, Каятане Марашэўскім, Адаме Міцкевічу, Яне Чачоце, Яне Баршчэўскім, Уладзіславе Сыракомлю, Вінцэнту Дуніне-Марцінкевічу, Арцёму Вярыгу-Дарэўскім, Янку Купале, Якубу Коласе, Цішку Гартным, Янку Брылю, Уладзіміру Караткевічу і шэрагу іншых асоб, творчасцю якіх і роляй у гісторыі Беларусі якраз вызначаецца беларускі час, большасць якіх тым ці іншым чынам звязаны з Польшчай.

І, вядома, адным з галоўных герояў кнігі С. Яновіча з'яўляецца Беласток — горад яго юнацтва і сталення, на які, ён, аднак, прыкметна глядзіць з пазіцыі крынчаніна, ужо знаёмага з іншымі цікавымі, значнымі мясцінамі: «Białystok to przerośnięty dzieciak w porównaniu z Krynkami, zgromadzenie zabudowy bez zrębów planu urbanistycznego, z rynkiem najwyraźniej uformowanym w trójkącie dróg rozbiegających się od pałacu Branickich (który, owszem, przypomina Wersal). Cerkiewka na wzgórzu Magdaleny — przeoczony przez pożogi bitewne ostatek Rusi; obok, ordynarnie — amfiteatr (ani krzty w nim lekkości helleńskiej), dalej budyniska z peerelowskiego okresiku kultu jednostki; a za rozstajami zaś na Suraż i Knyszyn, czyli za Rynkiem Kościuszki, kościółek, przygwożdżony czerwieniejącym zwaliskiem fary. Zaułeczek z wydumaną tabliczką Zamkowy…» [7, s. 44]. Галоўнай жа беластоцкай вартасцю С. Яновіч лічыць тое, што ў гэтым горадзе над ракой Белай разгарнуўся беларускі літаратурны рух, які запачаткаваў развіццё прыгожага пісьменства ў рэгіёне. Варта нагадаць, што

зборнік паэзіі «Рунь» — першая творчая ластаўка беларускіх пісьменнікаў Польшчы, што пабачыў свет у 1959 г., быў першым выданнем такога кшталту на пасляваеннай Беласточчыне, а той жа С. Яновіч і Я. Чыквін сталі ініцыятарамі стварэння ў Беластоку Клуба польскіх пісьменнікаў.

Не выпадае абмінуць палеміку С. Яновіча з першым польскім нобелеўскім лаўрэатам Чэславам Мілашам. Прывёўшы значны фрагмент з яго артыкула «Rodzinna Europa» (Twórczość. 1981. № 6), «белавежац» эмацыянальна канстатуе: «Passus z Miłosza oddaje przeciętny pogląd polskiego inteligenta lat międzywojennych, który niezbyt radośnie angażował się w cele skrajne i którego cechowało niejakie umiarkowanie osądów. Ani emocjonował się on tymi zmaganiami białoruskimi, ani im ochoczo przeszkadzał. Zimne spojrzenie? I skąd miał on wiedzieć, że niejedną gramatykę tego języka ułożono wcześniej niż gramatyki tych nacji, które od dawna uchodzą za w pełni dojrzałe (Słowacy, Finowie)» [7, s. 82]. Сапраўды, Ч. Мілаш, акрамя агульных разваг, выказаў крыўдную недасведчанасць у істотных для беларускага культурна-літаратурнага абсягу момантах, сцвярджаючы, напрыклад, што граматыка беларускай мовы была ўкладзена толькі ў XX ст. С. Яновіч нагадвае, што ў 1853 г. Павел Шпілеўскі закончыў складанне «Беларускай граматыкі і слоўніка», якая, на жаль, па палітычных матывах не была дапушчана да друку Імператарскай акадэміяй навук у Пецярбургу. Увогуле ж трэба ўзгадаць, што ў актыве беларускай мовы — пяць пакаленняў раннебеларускай «Граматыкі славенскай» (братоў Мамонічаў, Івана Фёдарава, Лаўрэнція Зізанія, Мялеція Смятрыцкага, у тым ліку лацінамоўная Івана Ужэвіча). І неяк амаль не звяртаецца ўвага на тое, што беларусы атрымалі Святое Пісанне на сваёй роднай мове нават раней за немцаў: у жніўні 1517 г. Ф. Скарына ўжо выпусціў «Псалтыр», а Марцін Лютэр, які стаўся занавальнікам нямецкай літаратурнай мовы і пераклаў на яе «Біблію», у кастрычніку гэтага ж года толькі выступіў са сваімі славутымі 95 тэзісамі супраць індульгенцый, паклаўшы пачатак Рэфармацыі. І на якой, як не на старабеларускай мове, вялося справаводства, выдаваліся Статуты ў ВКЛ?!.

Мусіла прамінуць роўна 30 гадоў, каб у інтэрв'ю «Ksiądz Baka powrócił do źródła», дадзеным «Gazecie Wyborczej», Адам Паморскі, адзін з рэдактараў анталогіі беларускай паэзіі «Nie chyliłem czoła przed mocą» (Wrocław, 2008), ва ўнісон з С. Яновічам і нават яшчэ выразней выпукліўшы праблему, сцвердзіў: «I nie jest tak, że to my, Polacy, jesteśmy starszymi braćmi, a Białorusini dopiero pod naszą ręką się kształtują. Białoruś to przecież jeden z podmiotów kultury staroruskiej; starszej od polskiej, a kultura ta od początku drugiego milenium tworzyła literaturę w języku jeśli nie własnym, to w lokalnym wariancie tego słowiańskiego esperanto, jakim był cerkiewno-słowiański. Białoruś zawsze podkreślała swoją odrębność na Rusi Kijowskiej: była to odrębność dynastyczna, językowa, po części kulturowa. Nawet chrześcijaństwo przyęto tu (w Księstwie Połockim) bodaj bezpośrednio z Bizancjum, nie przez Kijów» [8, s. 18].

Своеасаблівая анатацыя на зваротнай вокладцы кнігі «Białoruś, Białoruś» заканчваецца словамі, відаць, рэдактара Барбары Будзіноўскай, што кніга С. Яновіча «przynosi obraz nas samych widzianych oczami Białorusina» [7].

Безумоўна, польская тэматыка прадстаўлена і ў паэзіі сяброў БЛА «Белавежа». Пераважае пры гэтым матыў супрацьстаяння асіміляцыі беларусаў ва ўмовах памежжа, заяўлены вельмі выразна ў творах Дзмітрыя Шатыловіча, Алеся Барскага, Віктара Стахвюка, Юрыя Баены, Юркі Буйнюка. Яркім прыкладам таму скрушлівая паэтычная рэфлексія Міхася Шаховіча: *Зямлю абдымаю вачыма, / Тулюсь да яе, як дзяўчыны. / Шапчу: / — Дарагая, скажы, / Чаму я жыву на мяжы? (...) / Чаму на бяскрэссі прастораў / У хаце маёй аж цесна ад гора? / Скажы, / Дарагая, скажы, / Ці доўга мне жыць на мяжы?* [5, с. 56].

Прысутнасць польскай тэматыкі ў эстэтычным аспекце найвыразней праяўляецца ў вершах Яна Чыквіна, пэўны час цесна звязанага з Варшавай. Прытым назіраецца эвалюцыя ў выяўленні яго адносін да сталічнага горада. Напачатку студэнт Варшаўскага ўніверсітэта, малады чалавек захапляецца архітэктурай, паркамі, упрыгожанымі антычнымі скульптурамі: *У Саскім многа вакханак / чакае ў поўным натхненні, / калі расплюшчацца цені, / на экзальтацыю ранка, / на грымасу каханай, / што назбірала ў жменю / пажоўклых праменняў / апаўшай восені рана* [4, с. 34]. Не выказваецца нацыянальная заклапочанасць, дамінуе план чыста чалавечы, універсальны. Акрыляе прысутнасць у важным гістарычна-сацыяльным цэнтры. Аднак паступова ў вершы ўваходзіць адчуванне, што лірычны герой нетутэйшы, можа любавацца хараством Варшавы, але ж з пазіцыі госця. Праз 43 гады паэт зноў вернецца ў вершы ў адзін з любімых сваіх паркаў: *Здаецца мне, што я іду па Саскім. / Гады велікодныя ў сонечным ззянні, / Прыгожа варушыцца свет пакаяння, / Рэха разносіць мелодыі наскія. // Ах, гэты сад пад нядрэмным вокам Венеры / Мяне назаўсёды з Польшчаю вяжа. / І адсюль я адразу бачу ўсё разам, / Што ў замыслах боскіх, а што на паперы. //* (...) *Ды чуеш, як цісне паціху абруч сталёвы, / як крыўда на сэрца кладзецца сваім невагомым пухам. // І як ні ідзі ты, а будзе твой шлях заўжды па ўскрайку, / Бо ты адтуль, дзе толькі актавы болю і скрухі...* (...) [4, с. 258]. Радасць, зведаная ў маладосці, саграе, нават абавязвае, але ж ужо душа цалкам усвядоміла сваё месца, свой статус, калі разведзены па розных берагах грамадзянства і нацыянальнасць. Мажорны эстэтычны аспект набірае выразна мінорныя ноты. Трэба сказаць, што ўвасабленню польскай тэматыкі ў творчасці «белавежцаў» наогул уласцівыя пераходы ад мінору да мажору, чаргаванне настрояў.

Я. Чыквін з'яўляецца таксама стваральнікам унікальнай анталогіі польскай паэзіі XX стагоддзя на беларускай мове, у якой своеасабліва адлюстроўваюцца адносіны беларускага паэта-перакладчыка да польскай тэматыкі, культуры праз выбар такіх твораў польскай паэзіі, якія характары-

зуюцца ўнутранай праблемнай дынамікай, ідэйна-эстэтычнай супярэчнасцю і сацыяльна-грамадскай амбівалентнасцю [3].

Такім чынам, можна сцвердзіць, што польскія палітычныя, сацыяльна-грамадскія і культурныя рэаліі ў рознай ступені і насычанасці адгукаюцца своеасаблівым рэхам ва ўсёй творчасці беларускіх пісьменнікаў Польшчы.

## Літаратура


1. Валкавыцкі, Г. Віры. Нататкі рэдактара / Г. Валкавыцкі. — Беласток, 1991.
2. Сяднёў, М. Масеева кніга / М. Сяднёў. — Мінск, 1994.
3. Чыквін, Я. Лісце срэбнай таполі. З польскай лірыкі XX ст. / Я. Чыквін. — Беласток, 1999.
4. Чыквін, Я. Адно жыццё. Выбранае / Я. Чыквін. — Беласток, 2009.
5. Шаховіч, М. Пад сузор’ямі / М. Шаховіч. — Беласток, 1998.
6. Akiner, Sh. Suczasnyja biełaruskija piśmienniki u Polszczy / Sh. Akiner. — Biełastok, 1982.
7. Janowicz, S. Białoruś, Białoruś / S. Janowicz. — Warszawa, 1987.
8. Ksiądz Baka powrócił do źródła // Gazeta Wyborcza. — 2011. — 2 czerwca.


---


**Андрусь Унучак** *(Мінск, Беларусь)*


## РАСІЙСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА НА ЗЕМЛЯХ БЫЛОГА ВКЛ: «ПОЛЬСКАЕ ПЫТАННЕ» І БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ 1863–1914 ГГ.

Пішучы пра другую палову XI — пачатак XX ст. у кантэксце існай сёння беларускай дзяржавы, нельга не закрануць прынамсі два найважнейшыя аспекты, якія аказалі на ўзнікненне гэтай дзяржавы найбольш вызначальны ўплыў. Гаворка пра расійскую нацыянальную палітыку і «польскае пытанне».

Нельга не адзначыць, што «польскае пытанне» ў палітычнай гісторыі Беларусі другой паловы XIX — пачатку XX ст. было, і ў многім працягвае быць, адным з самых «балючых» у гісторыі не толькі Беларусі, але і рэгіёну ўсёй былой Рэчы Паспалітай і часткова Расіі.

Як відаць з гістарычных крыніцаў, менавіта «польскае пытанне», «паланізм» быў асноўнай пагрозай для панавання Расійскай імперыі на землях былога Вялікага Княства Літоўскага, якія, паводле сучаснага расійскага гісторыка Міхаіла Далбілава, складалі «стратэгічна важную перыферыю Расійскай імперыі» [10, с. 15]. З іншага боку, «польскае пытанне» тычылася

не столькі Царства Польскага, колькі «Паўночна-Заходняга краю». Менавіта тут ішла найбольш упартая і зацятая барацьба.

Пытанням нацыянальнай палітыкі Расійскай імперыі на землях былога ВКЛ у другой палове XIX — пачатку XX ст. прысвечана даволі значная паводле аб'ёму і абсягу закранутых пытанняў навуковая літаратура [8; 10; 18; 29; 39; 42; 43; 45]. Аднак у гэтай масе кніг і артыкулаў, на жаль, недастатковае месца займаюць менавіта беларускія даследаванні, працы беларускіх гісторыкаў. Комплекснымі даследаваннямі беларускага нацыянальнага руху і расійскай нацыянальнай палітыкі з прафесійных беларускіх гісторыкаў сучаснага перыяду сярод іншых займаюцца Аляксандр Смалянчук [28; 29], Сяргей Токць [30; 31; 32]; з іншага боку «барыкадаў» знаходзіцца Аляксандр Бендзін [6], які ацэньвае беларускую гісторыю з расійскіх пазіцый. Тут наўмысна прыводжу толькі тых аўтараў, якія даследуюць і ацэньваюць нацыятворчыя працэсы ў Беларусі другой паловы XIX — пачатку XX ст. Шырэй пра гістарыяграфію — праблемы ёсць у акадэмічным выданні пад рэдакцыяй Валянціны Яноўскай «На шляху станаўлення беларускай нацыі» [22]. Увогуле ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі, па сутнасці, існуюць дзве групы даследчыкаў: тыя, хто лічыць, што русіфікацыя — гэта зло, і тыя, хто ўпэўнены, што гэта дабро. Адпаведна, па-рознаму яны ставяцца і да «польскага пытання», і да беларускага нацыянальнага руху.

## Да тэрміналагічнага пытання

Сам тэрмін «польскае пытанне» ў кантэксце дадзенай тэмы мае два асноўныя значэнні [2; 15; 26; 34]. Па-першае, гэта ідэалагічная барацьба паміж расійцамі і палякамі, Расіяй і Польшчай; па-другое, гэта палітыка царскага ўрада, скіраваная на русіфікацыю Беларусі. У фондзе куратара Віленскай навучальнай акругі (ВНА) Івана Карнілава, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Пецярбургу, ёсць дакумент з характэрным загалоўкам «Запіска пра падтрымку генерал-губернатарам Паўночна-Заходняга краю Аляксандрам Львовічам Патапавым польскіх элементаў і пра праслед службоўцаў, якія праводзілі русіфікацыю ў Віленскай навучальнай акрузе»[1].

І. Карнілаў, адзін з галоўных ідэолагаў палітыкі «обрусения» краю, сцвярджаў, што русіфікацыя ВНА была скіравана супраць «польскіх элементаў». У іншай сваёй запісцы, датаванай 1864 г., той жа І. Карнілаў называў бела-

---

[1] Аддзел рукапісаў Расійскай Нацыянальнай Бібліятэкі ў Пецярбургу (далей — АР РНБ). Ф. 377. Спр. 11. Арк. 1. «Записка о поддержке генерал-губернатором Северо-Западного края Александра Львовича Потаповым польских элементов и о преследовании служащих, проводивших русификацию в Виленском учебном округе». (Пераклад з рускай мовы ў артыкуле наш. — *А. У.*)

рускія землі «тутэйшыя карэнныя рускія губерні», аднак адначасова падкрэсліваў, што «ўвесь цяжар барацьбы з дзяржаўнымі і народнымі зладзеямі абрынулася ў гэтым краі на адзін толькі ўрад»[1]. Гэта значыць, і сам ідэолаг «мураўёўскай сістэмы» гэта ўскосна прызнаваў, што барацьба з «паланізмам» дэ-факта не мела падтрымкі мясцовага, у разуменні расійскай адміністрацыі — «рускага», насельніцтва краю. Такім чынам, для ўсіх грамадскіх сілаў былога Вялікага Княства Літоўскага — і прыезджых, і мясцовых — было дастаткова ясна, што тэорыя аб «спрадвечных рускіх землях» супярэчыла рэальнаму становішчу спраў.

З гэтай прычыны тым, хто прыехаў русіфікаваць Беларусь пасля паўстання 1863 г., тэрмінова трэба было вызначацца з паняццем «паланізм», «польскія ўплывы», «польская прапаганда» і г. д. Згаданы вышэй І. Карнілаў даў у 1864 г. пэўную дэфініцыю «паланізму», якая з’яўляецца вельмі карыснай для разумення ўсёй нацыянальнай палітыкі Расійскай імперыі на беларускіх землях. Ён пісаў: «Так званая польская прапаганда ёсць свайго роду звыродлівая форма мясцовай цывілізацыі»[2]. Іншымі словамі, усё тое, што было нерасійскім у культурным і грамадскім жыцці беларускіх земляў, магло быць патэнцыйна залічана да «польскай прапаганды», да т. зв. паланізму.

Польскі гісторык Анджэй Раманоўскі абгрунтавана лічыць, што назва *Польшча* ў XIX ст. мела зборны характар і была шырэйшым паняццем, чым Літва і Карона. На ўсходзе Польшча заканчвалася Смаленскам. Як пацверджанне гэтага тэзіса ён прыводзіць фрагмент успамінаў Эдварда Вайніловіча (1847–1928), які пісаў: «Пра краіну, якая ляжыць за Дняпром, на захадзе кажуць: Польшча» [4, с. 84]. Такім чынам, можна з упэўненасцю сказаць, што ўся спадчына Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў у XIX ст. атрымала назву «польскай»; гэты тэрмін ужывалі і расійскія ўлады, і адукаваныя пласты насельніцтва беларускіх земляў. Паводле А. Раманоўскага, «польскі» ў той час азначала прыкладна тое ж, што «брытанскі» ў дачыненні да земляў Вялікабрытаніі, а пазней Аб’яднанага Каралеўства [44, с. 85]. Паасобку жылі англічане, шатландцы, уэльсцы і інш., але разам яны былі брытанцамі. Праблема, такім чынам, палягала ў тым, што назвы «паляк, польскі» ўтрымлівалі выразна акрэслены этнічны змест і не маглі разглядацца як умоўна нейтральныя.

Беларускі даследчык Дзмітрый Матвейчык у даследаванні, прысвечаным эміграцыі з беларуска-літоўскіх земляў пасля паўстання 1830–1831 гг., піша пра шматузроўневы характар свядомасці палітычных эмігрантаў — еўрапеец, паляк, ліцвін, дзе назва «паляк» азначала выхадцаў з земляў былой Рэчы Паспалітай [17, с. 76]. Такім чынам, шляхціц беларускіх земляў пачуваў сябе «апошнім еўрапейцам на ўсходзе», «палякам» — спадкаемцам найвялікшай рэспублікі ў Еўропе, і «ліцвінам» — прадстаўніком канкрэтнага еўрапей-

[1] АР РНБ. Ф. 377. Спр. 36. Арк. 1.
[2] АР РНБ. Ф. 377. Спр. 36. Арк. 1.

скага народа. Іншымі словамі кажучы, у гэтай трыядзе толькі «ліцвін» быў этнонімам. Мэта ж расійскай палітычнай прапаганды палягала ў замацаванні этнічнага зместу назвы «паляк» як адзінага магчымага. Такім чынам, «паланізацыя» часоў Рэчы Паспалітай і русіфікацыя ў Расійскай імперыі павінны былі разглядацца як з'явыаднаго парадку.

Расійскім элітам, якія сутыкнуліся са шматузроўневай свядомасцю насельніцтва беларускіх земляў, не заставалася нічога іншага, як прапанаваць падобную да трыяды «еўрапеец — паляк — ліцвін» расійскую двухузроўневую схему ідэнтычнасці, якая была створана ў ранейшыя часы ў выглядзе канцэпцыі т. зв. трыадзінага рускага народа: велікарусаў, маларусаў і беларусаў. У гэтай схеме пакідалася месца для беларускай тоеснасці, але яна насіла падпарадкаваны характар у адносінах да «агульнарускай». Галоўным ворагам гэтай тоеснасці абвяшчаўся «паланізм», паколькі ён не мог быць асіміляваны і ўпісаны ў «руска-беларускую» схему. Само існаванне «паланізму» падрывала канцэпцыю трыадзінага «рускага» народа.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў 1914 г. мінскі губернатар Аляксандр Гірс падаў у Савет міністраў Расійскай імперыі дакладную запіску «Аб захадах, якія могуць умацаваць нацыянальную самасвядомасць беларусаў і супрацьдзейнічаць іх паланізацыі»[1]. У гэтай запісцы ён адзначаў, што «Мерапрыемствы, пакладзеныя ў аснову нашай ускраіннай палітыкі графам Міхаілам Мікалаевічам Мураўёвым, стварылі ўмовы, спрыяльныя для паступальнага руху рускіх пачаткаў і развіцця расійскай культуры ў краі коштам польскай»[2]. Выходзіла, што «ўмацаванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў» не магло адбыцца без замяшчэння польскай культуры ў краі, культурай расійскай. Разам з гэтым, паводле мінскага губернатара, нават праз 50 гадоў пасля ўсталявання «мураўёўскай сістэмы» кіравання на землях былога ВКЛ было зразумела, «што рускі элемент у краі яшчэ недастаткова ўмацаваўся, каб уласнымі сіламі адстаяць край для Расіі і для расійскай культуры»[3].

Такім чынам, у апошнія гады існавання Расійскай імперыі чыноўнікі высокага рангу вымушаны былі канстатаваць, што без дапамогі дзяржавы русіфікацыя беларускіх земляў немагчымая. Бо пры «адкрытым сутыкненні дзвюх варожых адна адной культураў (маюцца на ўвазе расійская і польская. — *А. У.*)»[4] расійская, на іх думку, не мела ніякіх шанцаў без «адміністрацыйнага рэсурсу».

---

[1] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Пецярбургу (далей — РДГА). Ф. 1405. Воп. 532, Спр. 748. «О мерах могущих укрепить национальное самосознание белорусов и противодействовать их полонизации».

[2] РДГА. Ф. 1405. Воп. 532. Спр. 748. Арк. 1.

[3] РДГА. Ф. 1405. Воп. 532. Спр. 748. Арк. 1.

[4] РДГА. Ф. 1405. Воп. 532. Спр. 748. Арк. 1.

У такіх умовах на гістарычную арэну выйшаў беларускі рух. Цяжка не пагадзіцца з тымі навукоўцамі, якія лічылі і лічаць адным з пачынальнікаў беларускай нацыянальнай ідэалогіі правадыра паўстання 1863 г. на беларуска-літоўскіх землях Кастуся Каліноўскага (1838–1864). Сапраўды, у яго ідэйнай спадчыне шмат таго, што можа быць інтэрпрэтавана як складнік сучаснай беларускай нацыянальнай ідэі. У адным са сваіх самых знакамітых твораў «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастусь Каліноўскі пісаў: «хто хоча дазнаці праўдзівага смаку, няхай сам пажыве пад рондам маскоўскім, то і пагглядзіць, якое дабрадзейства мужыкі мелі; ось то для чаго кажам: што польскае дзела гэта наша дзела, гэта вольнасці дзела» [14, с. 43][1]. У перадсмяротнай «Тлумачальнай запісцы», якую ён склаў расійскаму следству 28 лютага 1864 г., занатавана: «Выпрацаванае гісторыяй спачуванне Літвы да Польшчы, якое найбольш узмацнілася падчас расійскага панавання (факт, на які варта звярнуць увагу), перамагло ўсялякія акалічнасці, якія былі супраць паўстання, і Літва зварухнулася» [14, с. 142]. У гэтых радках правадыр паўстання адначасова і салідарызуецца з «польскім дзелам», і дыстанцыруецца ад Польшчы, да якой у Літвы ёсць толькі «спачуванне».

Такім чынам, паступова расчышчаецца поле для аналізу «польскага пытання», сутнасць якога палягае ў барацьбе Расійскай імперыі з «цывілізацыяй былога Вялікага Княства Літоўскага» на беларускіх землях. У гэтых умовах натуральнай задачай выхадцаў з былога ВКЛ было не даць загінуць «польскаму дзелу», што яны і рабілі ў часе паўстання 1863 г. і пасля яго.

## Дзяржаўная палітыка: ідэалогія і практыка

Ідэолагамі барацьбы з «польскімі ўплывамі» на «рускіх землях» былі расійскія чыноўнікі, якія гэтую палітыку і ажыццяўлялі, а таксама інтэлектуалы (навукоўцы, святары, публіцысты), якія прэзентавалі сябе выразнікамі расійскай грамадскай думкі. Часам абедзве гэтыя функцыі спалучаліся ў адной асобе (прыгадаем, напрыклад, Пампея Бацюшкава, пра што ніжэй).

Калі чыноўнікі ў сваёй масе былі асабіста прысутныя ў краі, то для інтэлектуалаў гэта не было правілам. Што датычыцца канчатковай мэты расійскай нацыянальнай палітыкі ў краі, то тут можна пагадзіцца з польскім гісторыкам Вітальдам Радкевічам пра тое, што яна, прынамсі да 1904 г., палягала ў поўнай лінгвістычнай і культурнай русіфікацыі нерасійскага насельніцтва заходніх губерняў Расійскай імперыі [42, с. 13]. Зыходзячы з гэтага відавочна, што палітыка русіфікацыі датычылася дзвюх сфераў — рэлігійнай і моўнай. Гэта і будзе ў фокусе нашага разгляду ў дачыненні як да расійскай нацыянальнай палітыкі, так і да беларускага нацыянальнага руху.

---

[1] Тут і далей правапіс беларускамоўных твораў захаваны. — *А. У.*

Такім чынам, пачнём з чыноўнікаў. Расійскія ўрадоўцы лічылі ці/і вымушаныя былі лічыць край «рускім». У сярэдзіне XIX ст. пачала ўводзіцца ў шырэйшы грамадскі ўжытак формула, згодна з якой практычна ўсё насельніцтва краю, за выключэннем хіба габрэяў і мусульман, было абвешчана «рускім». У 1857 г. віцэ-дырэктар расійскага Дэпартамента духоўных спраў іншаземных веравызнанняў Пампей Бацюшкаў склаў «Дакладную запіску ў Міністэрства Унутраных Спраў па пытанні ўсталявання праваслаўных цэркваў у абшарніцкіх маёнтках Заходняга краю»[1]. Тут ён канстатаваў кепскае становішча праваслаўнай канфесіі ў «Паўночна-Заходнім краі», неахвоту мясцовых абшарнікаў хоць неяк спрыяць мясцовым праваслаўным ва ўзвядзенні царкоўных будынкаў.

У згаданай запісцы, дакладней у чарнавіку, які ён шмат разоў правіў, П. Бацюшкаў даў «гістарычнае тлумачэнне» такога становішча праваслаўя на землях былога ВКЛ: «Продкі дваране абшарнікаў Заходніх губерняў, за вельмі малымі выключэннямі, былі спрадвеку Рускімі — паводле паходжання і мовы, і да канца XVI стагоддзя, непахіснымі ў праваслаўі. Але калі, у цараванне Жыгімонта III са з'яўленнем Езуітаў у Літве пачаліся ганенні за веру, тады многія княскія і дваранскія роды перасяліліся ў Вялікую Расію, іншыя ж пакінуўшы праваслаўе, перайшлі да дагматаў Заходняга вучэння пасярэдніцтвам Уніі, названай, паводле справядлівага выслоўя таго часу, мастом для пераходу з Праваслаўя ў Лацінства»[2]. Для нашага сюжэту гэтая запіска каштоўная тым, што ілюструе, наколькі шчыльна была пераплецена канфесійная прыналежнасць з нацыянальнасцю ў расійскім урадавым дыскурсе. І з іншага боку, яна паказвае перакананасць расійскіх урадоўцаў у тым, што насельніцтва беларускіх земляў спрадвеку было «рускім і праваслаўным».

Ужо ў канцы сваёй кар'еры, у 1886 г., пішучы пра захады супраць недазволенага навучання на польскай мове, П. Бацюшкаў паведамляе, што ў 1863 г. у навучальных установах «Паўночна-Заходняга краю» «Вучні да такой ступені заразіліся сучаснымі марамі, што былі і такія выпадкі, калі выхаванцы дзёрзка і прама адмаўляліся займацца расійскай мовай і расійскай гісторыяй, як прадметамі для іх цалкам непатрэбнымі»[3]. Пасля гэтага ён дадаў свой каментар, з якога вынікае, што такая сітуацыя была ва ўрадавых навучальных установах; што ж тады казаць пра ўстановы прыватныя, якія зрабіліся апірышчам «польскай фанатычнай прапаганды»?

Такім чынам, праглядаючы пісьмовую спадчыну нават аднаго расійскага чыноўніка, мы можам заўважыць пэўныя ўнутраныя супярэчнасці паміж

---

[1] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 13. Арк. 1–14. «Докладная записка в Министерство Внутренних Дел по вопросу устройства православных церквей в помещичьих имениях Западного края».

[2] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 13. Арк. 6.

[3] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 62. Арк. 57.

ідэйнымі ўстаноўкамі і рэальнай практыкай жыцця. Безумоўна, прызнаць, што гэты край не расійскі, чыноўнікі не маглі, таму ўзнікала версія «польскай змовы», «польскай інтрыгі», якая будзе пастаянна функцыянаваць у расійскім дыскурсе аж да калапсу імперыі і фрагментарна ўзнікае ў сённяшняй Беларусі.

Што ж тычыцца навуковых даследаванняў, то тут зноў прывядзём прыклад П. Бацюшкава, які шмат папрацаваў для складання «Атласа па веравызнанню і племянному складу мясцовага насельніцтва»[1]. Пры складанні гэтага «Атласа» ён карыстаўся напрацоўкамі расійскіх вайскоўцаў і супрацоўнікаў Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў. У тлумачальнай запісцы 1889 г., у якой апісаны працэс складання гэтага «Атласа», П. Бацюшкаў пісаў: «Табліцы племяннай мяжы Атласа паказалі, між іншага, што колькасць палякаў, якія жывуць у літоўскіх, беларускіх і маларасійскіх губернях не дасягае ўвогуле 9 % усёй колькасці жыхароў заходняга краю, але ёсць губерні, дзе яны не складаюць і 1 %»[2]. Далей пра веравызнанне: «Пры разглядзе табліц і мапаў відавочна, што, за выключэннем Ковенскай губерні і некаторых мясцовасцяў Віленскай і Гродзенскай, якія даволі густа заселеныя латынянамі (жмуддзю, латышамі, літвінамі і вельмі малым працэнтам палякаў), ва ўсіх астатніх мясцовасцях пануючая вера — праваслаўе»[3].

Тут можна казаць пра цікавы метадалагічны падыход. А менавіта пра тое, што браліся разам «Паўночна-Заходні» і «Паўднёва-Заходні край», ці сённяшнія Літва, Беларусь і Украіна. Пасля «даказвалася», што ўвесь край не польскі і не каталіцкі, а значыць — рускі і праваслаўны, а вялікая колькасць касцёлаў і капліц створаны толькі і выключна для празелітызму.

Цікава, што той самы П. Бацюшкаў у «Запісцы з падрабязным праектам меркаванага другога выдання Атласа Заходне-рускага краю. 1862 г.»[4], паказваў малюнак, які значна адрозніваўся ад вышэйзгаданага. Паводле яго звестак выходзіла, што напярэдадні паўстання «ўсіх жыхароў у дзевяці заходніх губернях лічыцца 10 659 712 душ абодвух палоў. З гэтай колькасці праваслаўных — 62,56 %; рыма-католікаў — 24,7 %; іўдзеяў — 11,07 %; стараабрадцаў — 0,98 %; пратэстантаў — 0,62 %. Племянная градацыя падаецца ў наступным выглядзе: рускіх — 67,2 %, яўрэяў — 11,07 %, палякаў — 8,86 %, літоўцаў — 6,01 %, жмудзі — 4,29 %, латышоў — 1,75 %»[5]. Выходзіць, што католікі складаюць амаль чвэрць насельніцтва краю, а праваслаўныя не такую ўжо абсалютную большасць і што каля 3 % «рускіх» былі католікамі. Гэтыя

---

[1] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 94. Арк. 1. «Атлас по вероисповеданиям и по племенному составу местного населения».

[2] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 94. Арк. 3.

[3] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 94. Арк. 3.

[4] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 77. Арк. 1. «Записка с подробным проектом предпологаемого второго издания Атласа Западно-русского края».

[5] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 77. Арк. 4–5.

лічбы ўлічваюць украінскія губерні, дзе працэнт праваслаўных быў даволі вялікі. Відавочна, што русіфікатарская палітыка пасляпаўстанніцкага часу адбілася і на «статыстыцы». Варта таксама заўважыць, што гэтыя запіскі П. Бацюшкава былі чарнавікамі, якія ён пасылаў у Пецярбург на зацвярджэнне.

Як паказаў літоўскі даследчык Дарус Сталюнас, за 1863–1867 гг. з каталіцтва ў праваслаўе было пераведзена каля 75 тысяч асобаў у 6 губернях «Паўночна-Заходняга краю», ці 0,75 % ад насельніцтва 9 заходніх губерняў, якія П. Бацюшкавым залічваліся да «заходнярускіх». На думку Д. Сталюнаса, у асноўным удавалася перавесці ў праваслаўе беларусаў, якія, у адрозненне ад літоўцаў, не мелі «рэлігійнага фанатызму» [45, с. 134, 135, 182].

Расійскія імперскія ўлады шчодра фінансавалі расійскі друк на беларускіх землях. Так, толькі на выданне «Памятников русской старины в Западных губерниях» у 1870 г. было выдаткавана з фондаў МУС 2 тысячы рублёў, якія павінны былі атрымаць акруговы інспектар ВНА і мастак акадэмік Іван Трутнеў для мастацкага афармлення выдання[1].

Разам з гэтым уся палітыка Расійскай імперыі на беларускіх землях спрыяла глыбейшаму вывучэнню беларускай гісторыі, мовы, фальклору і г. д. Найлепшым прыкладам з’яўляецца Яўхім Карскі, які ўвайшоў у навуку як сур’ёзны даследчык у 1880-я гг. Менавіта на даследаванне 24-гадовага Я. Карскага «Обзор звуков и форм белорусской речи» спасылаўся грунтоўны 82-тамовы слоўнік Бракгаўза і Эфрона пры апісанні межаў рассялення беларусаў [1]. Знакамітыя «Бѣлоруссы» Я. Карскага, матэрыялы якіх пазней выкарыстоўваліся дзеячамі беларускага нацыянальнага руху, пісаліся ў межах расійскай навуковай сістэмы, на рускай мове і на сродкі, выдаткаваныя віленскім генерал-губернатарам князем Пятром Святаполк-Мірскім [33, с. 145; Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 610, воп. 1, спр. 47, арк. 1 (звесткі У. Ляхоўскага)]. Высновы Я. Карскага сведчылі, што расійскай навуковай грамадскасці патрэбна змяняць свой погляд на Беларусь і беларусаў. Ён па-акадэмічнаму грунтоўна паказаў і даказаў, што беларусы існуюць як самастойны і самабытны народ.

Такім чынам, да пачатку XX ст. у расійскай навуцы, а значыць і ў грамадскай думцы, паступова вымалёўвалася «беларускай пытанне». Пішучы ў канцы 1903 г. свой «Всеподданнейший отчёт», віленскі генерал-губернатар князь П. Святаполк-Мірскі ў раздзеле пад назвай «Белорусское племя» пісаў, што беларусы, не маючы ні палітычнага, ні культурнага мінулага, непазбежна павінны зліцца з расійцамі ці палякамі і што ўраду лепш рабіць акцэнт на «агульнарускае» паходжанне беларусаў, не размяжоўваючы іх паводле канфесійнай прыкметы [40, с. 93–94]. Дэ-факта гэта было прызнанне існавання «беларускага пытання» як такога. Большую частку «беларускага» раздзела свайго «Отчёта» генерал-губернатар прысвяціў мове дадатковага набажэн-

[1] АР РНБ. Ф. 52. Спр. 107. Арк. 1.

ства ў касцёле. Ён выразна стаяў на тым, каб расійская мова была ўведзена ў касцельнае набажэнства на беларускіх землях любым коштам, адзначаючы, што нізкі ўзровень «нацыянальнай самасвядомасці ў беларусаў (мелася на ўвазе расійская свядомасць. — *А. У.*)» прыводзіць да таго, што выпускнікі Віленскай духоўнай семінарыі вельмі хутка паланізуюцца, што выяўлялася ў іх непрыязным стаўленні да «ўсяго ўрадавага і расійскага». Віленскі генерал-губернатар тут супрацьпастаўляў беларусам літоўцаў, якія змагаліся супраць польскай мовы ў касцёле [40, с. 95–97].

Пасля рэвалюцыйных падзеяў 1905–1907 гг. улады імперыі былі змушаныя карэкціраваць рыторыку і тактыку барацьбы супраць «паланізму». У пецярбургскім зборніку «Белорусы. Обзор русской периодической печати», дзе друкаваліся агляды расійскамоўнай прэсы па «беларускаму пытанню», адзначалася, што расійцы не змагаюцца супраць польскай культуры і мовы, яны толькі прагнуць зрабіць палякаў вернымі імперыі, пазбавіць іх думкі пра паўстанне [5, с. 1].

Разам з тым вялікая грамадска-палітычная сіла касцёла прызнавалася ўсімі, хто жыў у краі: палякамі, расійцамі, беларусамі і літоўцамі. Так, у заходнярускай газеце «Белорусская жизнь» канстатавалася: «Прафесар А. Пагодзін, з’яўляючыся зацятым ворагам расійскага нацыяналізму, паказвае, што менавіта ў нашы дні, у эпоху асаблівых ганенняў на палякаў, яны, моцныя сваёй культурай, заваёўваюць новыя і новыя пазіцыі. Калі б прафесар лепш ведаў мясцовыя варункі, ён не казаў бы, што “культурны ўплыў, а не ўраднік, не паліцэйскі рэжым з’яўляюцца пераможцам”; ён прызнаў бы разам з намі, што рускі нацыяналізм са сваім ураднікам саступае не польскай культуры, значна слабейшай, чым расійская, а польскаму клерыкалізму… Культура застаецца ўбаку. Проста ксёндз перамагае ўрадніка» [5, с. 9].

Прарасійская эліта ў Беларусі пачала актыўна рэкрутавацца толькі на пачатку XX ст., у якасці прыкладу можна прывесці выдаўца «Белорусской жизни» Лук’яна Саланевіча і старшыню таварыства «Крестьянин» Сяргея Кавалюка. Прывядзём толькі адзін прыклад — «паверанparam пры Мінскім Акруговым Судзе і Віленскай Судовай палаце» Іван Чыгіроў у 1912 г. вырашыў выдаваць газету «Минская Русская Жизнь» «па наступнай праграме: 1) агляд агульнадзяржаўнага, краёвага і мясцовага палітычнага жыцця ў мэтах умацавання ўсведамлення рускага народнага адзінства, непадзельнасці Расійскай імперыі і абароны ва ўсіх яе частках панавання рускай народнасці, умацавання Расійскай дзяржаўнасці на прынцыпах самадзяржаўнай улады Цара ў яднанні з заканадаўчым прадстаўніцтвам»[1].

Праект выдання такой газеты І. Чыгіроў падаў у канцылярыю мінскага губернатара. Той зрабіў запыт наконт І. Чыгірова мінскаму паліцмайстару, які

---

[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей — НГАБ). Ф. 295. Воп. 1. Спр. 8194. Арк. 1.

сабраў і 10 красавіка 1913 г. перадаў у канцылярыю губернатара асноўныя біяграфічныя звесткі прасіцеля дазволу. Тут мы прыводзім даволі вялікую цытату, каб было зразумела, што за людзі маглі займацца расійскім выдавецтвам у Беларусі: «Іван Дзмітрыевіч Чыгіроў, які падаў заяву пра свой намер выдаваць у горадзе Мінску газету пад назвай “Минская Русская Жизнь”, мае 47 год, паходзіць з сялян Вызненскай воласці Слуцкага павета; выхоўваўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, адкуль звольнены з 1-га класа, але за што менавіта невядома; ён жа, хаваючы гэта, заяўляе, што выхоўваўся ў Рыбінскай класічнай гімназіі, адкуль нібыта выбыў па прашэнню з 6 класа, але доказаў гэтага ніякіх не мае. У г. Мінску Чыгіроў жыве з 1893 г., а да гэтага часу з 1889 г. жыў у Мінскім павеце, служыў валасным пісарам Астрашыцка-Гарадзецкай воласці. У 1893 г. быў прызначаны памочнікам прыстава Мінскай гарадской паліцыі, з гэтай пасады звольнены 29 сакавіка 1895 г., як відаць са справы, па прашэнню. Пасля гэтага ён служыў пісарам у Кантролі Лібава-Роменскай чыгункі і, у той жа час трапіўшы на службу ў кантору Мінскага архірэйскага дома, быццам бы атрымаў у свае рукі прывядзенне ў парадак маёмасных спраў, пасля трохгадовага выканання гэтага абавязку займеў капітал у некалькі тысяч рублёў. Пазней пры падтрымцы нябожчыка Праасвяшчэннага Міхаіла атрымаў пасведчанне на званне прыватнага паверанага пры Мінскім акруговым судзе і ў гэтым званні застаецца да гэтага часу»[1]. Відавочна, што чалавек, які прэтэндаваў на ролю заснавальніка газеты, меў ужо не вельмі чыстую, прынамсі ў фінансавым плане, рэпутацыю. Выданне, як відаць, не адбылося. Увогуле ж, практычна ўсе выданні расійскага шавіністычнага накірунку, якія выдаваліся ў Беларусі, выходзілі з казённай падтрымкай.

## Беларуская ідэя і «польскае пытанне»

У 1880-я гг. у асяроддзі беларускіх народнікаў, якія ў большасці сваёй гуртаваліся вакол выдання пад назвай «Гомон» і хіба што ўпершыню пачалі распрацоўваць беларускую нацыянальную ідэалогію ў сучасным выглядзе, пачынае зараджацца і выяўляцца адметны погляд на «польскае пытанне». Зазначым, што народнікі прэтэндавалі на тое каб гаварыць ад імя «ўсяго» беларускага народа. У сваіх «Письмах о Белорусии» аўтар-народнік пад псеўданімам *Даніла Баравік* напісаў: «Вышэйшы клас беларускага народа, які не паспеў дастаткова развіць сваю самабытнасць (пачынаючы з XV ст. — *А. У.*), без асаблівых цяжкасцяў прыняў заманлівую польскую культуру як мацнейшую і гістарычна больш развітую» [24, с. 26].

Такім чынам, аўтар «Писем о Белоруссии» выразна канстатаваў добраахвотны працэс самапаланізацыі, калі так можна сказаць, беларускага «культурнага класа». Цікава, што ён выразна сцвярджаў, што «просты народ» не мог

---

[1] НГАБ. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 8194. Арк. 23.

ўспрыняць польскую культуру з-за прыгоннага права, і адначасова ўжываў тэрмін «Западная Россия» ў дачыненні да беларускіх земляў [24, с. 26]. Пры апісанні вынікаў падзелаў Рэчы Паспалітай Даніла Баравік выказваецца так: «беларускі народ **перайшоў** (выдзелена мной. — *А. У.*) пад уладу Расіі» [24, с. 26]. Пасля ж паўстання 1863 г., паводле яго, у Беларусі распачалася ўзмоцненая гвалтоўная русіфікацыя, якую праводзілі «деятели-чиновники», але «справа іх нікольки не рухаецца наперад, нават церпіць фіяска» [24, с. 28].

Беларускія народнікі, ці, як яны самі сябе называлі, «беларуская група “Народнай Волі”», былі выхадцамі з каталіцкага асяроддзя Усходняй Беларусі, але пісалі свае творы па-руску, тлумачачы гэта тым, што беларуская мова пакуль не такая развітая, каб на ёй пісаць палітычныя тэксты. Аднак нават яны, самі дастаткова зрусіфікаваныя, пісалі, што русіфікацыя ў Беларусі не мае шанцаў, паколькі ёсць уласнабеларуская самабытнасць і ёсць польскасць. Гэтыя дзве тоеснасці, адна — атрыбут «ніжэйных класаў», другая — «вышэйшых», — надзейны шчыт супраць «обрусительной» палітыкі.

Разам з тым народнікі прытрымліваліся ідэі аўтаноміі Беларусі ў складзе будучай дэмакратычнай, чытай — сацыялістычнай, Расіі: «прынцып абласной самастойнасці, як аснова для будучага свабоднага федэральна-палітычнага ладу, які павінны заняць месца сучаснага абсалютызму» [24, с. 60]. Адначасова народнікі выступалі за «свабоду мовы», паколькі: «свабоды мовы пазбаўлены палякі, маларусы, беларусы, літоўцы і інш.» [24, с. 73]. Барацьбу расійскай адміністрацыі супраць «паланізму» «гоманаўцы» назвалі барацьбой супраць усёй мясцовай інтэлігенцыі, якая «амаль пагалоўна складалася з палякаў-католікаў» [24, с. 75]. Галоўную ж перашкоду для развіцця Беларусі «гоманаўцы» бачылі ў антыпольскай палітыцы ўрада і сцвярджалі: «Пакінь вялікарускі ўрад беларускіх палякаў у супакоі, і яны, напэўна, у хуткім часе самі бы пакінулі свой выключна польскі пункт погляду» [24, с. 77]. Увогуле ж «польскаму пытанню» і расійскай нацыянальнай палітыцы было адведзена вельмі значанае месца ў абодвух нумарах «Гомона» (1884 г.).

Што тычыцца адмовы «польскай інтэлігенцыі» ў Беларусі ад «выключна польскага пункту погляду», то адзін з выдатных дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, адзін з айцоў-заснавальнікаў беларускай дыпламатыі і адначасова буйны даследчык нацыятворчых працэсаў у Беларусі Аляксандр Цвікевіч лічыў, што «літоўская партыя» ў сярэдзіне 1860-х гг. «брала гару над чыстай польскасьцю» [35, с. 106]. Інакш кажучы, на яго думку, калі б «аляксандраўская» ці «севастопальская» адліга працягнулася, то цалкам магчыма было нараджэнне ўжо ў тыя гады беларускай нацыянальнай эліты ў сучасным разуменні гэтага слова. Варта нагадаць, што А. Цвікевіч пісаў у той час, калі яшчэ былі жывыя сведкі той эпохі.

На пачатку XX ст., калі фармавалася ідэалогія беларускага руху, пра паўстанне 1863 г. у асноўным пісалі як пра «польскае», што тады было даволі

натуральным. Можна прывесці прыклад з 1913 г., калі шырока адзначаліся 50-я ўгодкі паўстання і ананімны аўтар адпаведнага артыкула з віленскай рускамоўнай «Вечерней газеты», якую рэдагаваў Антон Луцкевіч, напісаў зацемку менавіта пра «польскае» паўстанне [7], але польскае ў палітычным, не этнічным сэнсе гэтага слова.

Але ўжо напярэдадні Першай сусветнай вайны Антон Луцкевіч (1884–1942), апісваючы тагачаснае становішча рэчаў, сцвярджаў, што «Мы ўжо адзначалі своеасаблівую грамадскую структуру краю, у аснове якой ляжыць супадзенне амаль у поўным аб'ёме дзялення саслоўна-класавага і нацыянальнага. Мы адзначалі, што, напрыклад, карэннае літоўскае і беларускае насельніцтва краю — гэта амаль выключна сялянства, рабочая маса, дробнае мяшчанства, палякі ж у абсалютнай большасці складаюць прывілеяваныя класы, якія адыгрывалі да апошняга часу кіроўную ролю ў краёвым жыцці» [23]. Такім чынам, з аднаго боку, замацоўвалася трывалая традыцыя, якую пачалі яшчэ пецярбургскія народнікі ў апошняй чвэрці XIX ст., — традыцыя запісваць беларусаў выключна да плебейскіх мас, якія знаходзіліся ў падпарадкаваным становішчы ў дачыненні да палякаў і расійцаў; а з другога — надаваць слову *паляк* этнічнае значэнне, чаго самі «літоўскія палякі» з такой упэўненасцю не рабілі.

Таму з ідэалогіі беларускага руху вынікала патрэба вызвалення беларусаў, у тым ліку і з-пад польскага прыгнёту. На думку кіраўнікоў беларускага руху пачатку XX ст., палякі стаялі на дарозе адраджэння беларускай дзяржаўнасці і мусілі сысці. У гэтым сэнсе ідэалогія беларускага руху ў нечым сапраўды была падобна да ідэй расійскага царызму і ідэалогіі літоўскага руху. Падобная ў наданні гістарычнаму палітоніму *паляк* этнічнага зместу. Гэта ж імкнуліся рабіць і польскія нацыянал-дэмакраты.

Але карціна не будзе аб'ектыўнай, калі не ўлічыць існавання прарасійскай думкі на беларускіх землях, якую яшчэ называюць «заходнярускай». На пачатку XX ст., пасля паўстагоддзя ўзмоцненай русіфікацыі некаторыя ідэолагі «заходнярусы» пісалі, што ў Беларусі «“рускімі” засталіся толькі “поп ды хлоп”… Тут не засталося “тутэйшага” ні дваранства, ні дробнай шляхты, ні купецтва, якія не былі акаталічаны і апалячаны» [27, с. 4]. Канстатуючы паразу русіфікацыйнай палітыкі, прарасійскі друк спасылаўся на паспяховыя паланізацыйныя працэсы, якія звычайна звязваліся з каталіцкім касцёлам: «Мяркуйце самі — дваццацімільённы рускі народ — беларусы пачынаюць у многіх месцах пераходзіць у каталіцтва, размаўляць па-польску і называць сябе палякамі» [27, с. 8], да таго ж гэткія «палякі» не прымаюць і не могуць прыняць нічога «рускага».

Таму «заходнярусы» білі ў набат. Асабліва востра паўстала «польскае пытанне» ў сувязі з размовамі пра ўвядзенне земстваў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях у 1910–1911 гг. «Як бы ні ўяўляліся неістотнымі намаганні адарваць гэты край ад Расіі з боку людзей, якія не маюць ні арганізаванай

узброенай сілы, ні нават палітычнай самастойнасці, але з імі нельга не лічыцца, паколькі на працягу мінулага стагоддзя край паспеў ужо два разы зрабіцца тэатрам узброеных паўстанняў, якія пакінулі цяжкія сляды ў ім» [36, с. 1]. Безумоўна, пад «людзьмі, якія не маюць ні арганізаванай узброенай сілы, ні нават палітычнай самастойнасці» разумеліся мясцовыя «палякі». Такім чынам, вырашэння «польскага пытання» прагнулі ўсе значныя сілы краю. Праблема была толькі ў тым, на чый бок стануць самі мясцовыя «палякі», якія лічылі сябе грамадзянамі краю, спадкаемцамі ВКЛ. З нашага гледзішча, трагедыя была ў тым, што яны выбралі этнічную польскасць, пахаваўшы гэтым самым спадчыну Рэчы Паспалітай.

## Лацінка і кірыліца

Адным з асноўных пытанняў русіфікацыі пасля паўстання 1863 г. было навязванне расійскай адміністрацыяй кірылічнага алфавіта — «рускай грażданкі» — народам былой Рэчы Паспалітай. Гэта тычылася літоўцаў, беларусаў і нават палякаў. Але толькі ў беларускім выпадку кірыліца стала базавым алфавітам нацыянальнай мовы. Паспрабуем адказаць на пытанне «чаму?».

У газеце «Минское Слово» за ліпень 1909 г. была змешчана зацемка, даволі характэрная для таго часу і «заходнярускага» асяроддзя: «Першыя спробы стварыць беларускі сепаратызм адносяцца да 60-х гадоў мінулага стагоддзя, калі было надрукавана некалькі зборнікаў і брашураў на перакручанай беларускай гаворцы лацінскім шрыфтам… у Пецярбургу было заснавана палякамі выдавецкае таварыства “Загляне сонцэ и у наше ваконцэ”, з’явіліся беларускія кнігі, напісаныя полькамі Янкай Неслухоўскай і Францішкай Багушэвіч» [5, с. 10]. Відавочна, што аўтар зацемкі або не ведаў пра беларускіх паэтаў Янку Лучыну (1851–1897) і Францішка Багушэвіча (1840–1900), або наўмысна скажаў праўду. Але для нас цікава іншае: тое, што ўвесь беларускі рух — і газета «Наша Ніва», і выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» — абвяшчаліся польскімі інтрыгамі па старой традыцыі мураўёўскай эпохі. Галоўным маркёрам у гэтай справе быў лацінскі шрыфт.

Для беларускага руху пачатку XX ст. у справе мовы было некалькі выклікаў — ад напісання граматыкі да ўпарадкавання тэрміналогіі. Але падставовай праблемай была, безумоўна, праблема шрыфту — адказу на пытанне, кірыліца ці лацінка стане асноўным алфавітам беларускай літаратурнай мовы.

Напрыканцы 1911 г., калі беларускі рух меў ужо значныя культурныя здабыткі, сур’ёзныя поспехі ў кнігавыдавецтве, рэдакцыя «Нашай Нівы» паставіла сваім чытачам пытанне, якое выглядала як прыватная справа чытачоў і рэдакцыі, але насамрэч тычылася праблемы нацыянальнага маштабу. Пытанне фармальна, ці фармальна і фактычна, вынікала з матэрыяльнага становішча «Нашай Нівы» (адзінай на той момант беларускамоўнай газеты), рэдакцыя якой заявіла, што з-за матэрыяльных прычын газета не можа больш выходзіць

абодвума шрыфтамі і мусіць выбраць адзін. Зважаючы на надзвычайную важнасць пытання, рэдакцыя звярнулася да сваіх «чытачоў і падпішчыкоў» па параду, які шрыфт выбраць [25].

На пачатку новага 1912 г. «Наша Ніва» пачынае новую рубрыку «Гутарка з чытачамі». Гэтая рубрыка была своеасаблівай пляцоўкай, дзе маглі дыскутавацца найважнейшыя для беларускага руху пытанні. Першым такім пытаннем, якое газета задала сваім чытачам, было пытанне «Які шрыфт?» [41]. У першым жа абмеркаванні «Наша Ніва» канстатавала, што з канца снежня 1911 г. да канца студзеня 1912 г. у рэдакцыю прыйшло надзвычай шмат лістоў, якія можна падзяліць на 4 групы: 1) тыя, хто выступаў за лацінку, 2) за лацінку і кірыліцу, 3) за кірыліцу «рускі шрыфт» і «такіх найболей», 4) за «новы шрыфт», які павінен быў аб'яднаць кірыліцу і лацінку. Таксама, паводле тыднёвіка, усе чытачы пагадзіліся, што, у рэшце рэшт, «раней ці пазней трэба будзе усё друкаваць **адным** шрыфтам (выдзелена «Нашай Нівай». — *А. У.*)» [41]. Ужо ў другім нумары ў рубрыцы «Гутарка з чытачамі» на тэму шрыфту выказаўся Янка Купала (1882–1942). Ён адразу адкінуў думкі пра «вышэйшасьць заходняй культуры перэд усходняй» і выказаўся за шрыфт, якім была надрукавана «першая беларуская сьвецкая кніжыца — Статут Літоўскі» [19], г. зн. за кірыліцу. Тут цікава тое, што значная частка чытачоў «Нашай Нівы» выступала адназначна за заходнюю арыентацыю беларускай культуры, апелюючы, такім чынам, да традыцыі XIX ст. і часткова да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Увогуле пры палеміцы вакол пытання шрыфту асноўная барацьба вялася вакол, умоўна кажучы, гістарычнага аргумента. Так, вядомы публіцыст Мечыслаў Бабровіч (Лявон Гмырак) пісаў: «дзіўна мне і вельмі, вельмі сумна робіцца, што ёсьць ешчэ людзі, каторыя маюць такую арыгінальную любоў да лацінскага шрыфту. Гэта ж яны, відаць, адрэкаюцца ад традыцій мінуўшчыны сваей бацькоўшчыны, ад таго шрыфту, якім пісалі нашы слаўныя князі часоў національнай незалежнасьці, якой ужываў урад Вялікага Княства Літоўска-Беларускага, якой карысталіся даўней усе не адрокшыеся ад свайго народу» [19]. Далей ён сцвярджаў, што традыцыі лацінскага шрыфту ў беларускай гісторыі — гэта традыцыі «національнай здрады». Пры канцы свайго допісу М. Бабровіч яшчэ больш узмацніў эмацыйны акцэнт, кажучы, што ягоная маці полька і гадаваўся ён у польскім духу, але зрабіў выбар на карысць беларушчыны і таму «як кожны сьведамы беларус» выступае за «рускія літары» [19].

Рэдакцыя «Нашай Нівы» публікавала таксама і допісы тых, хто выступаў за лацінку. Так, у канцы лютага 1912 г. у тыднёвіку з'явіўся допіс «шляхціца з-пад Ашмяны», які пісаў, што каб «Наша Ніва» працягвала друкавацца лацінкай «даў бы 3 руб. замест 2 руб. 50 кап. — а калі і гэтаго мала, падпішуся адразу на 10 год» [20]. Цікава, што гэты шляхціц абгрунтоўваў сваю прыхільнасць да лацінкі наступнай акалічнасцю: «што забаронена, тое і бліжэй сэрцу і смачней» [20]. Хаця ўвогуле яму не было розніцы, якім шрыфтам чытаць газету.

Паводле «Нашай Нівы», нехта *Б. Поч-ко*, хутчэй за ўсё будучы рэдактар «Bieiarusa» Б. Пачобка, выказаўся за тое, што шрыфт не галоўнае, а «самае глаўнае — родные, беларускія думкі» [20].

Яшчэ адзін істотны момант у дыскусіі вакол шрыфту — тое, што «нашаніўскія» аўтары даволі часта падзялялі чытачоў газеты на «сьведомых» і «несьведомых». Першыя — тыя, для каго пытанне шрыфту не прынцыповае, для іх галоўнае, каб беларуская свядомасць пашыралася, і большасць з іх выказвалася за кірыліцу; другія — гэта тыя, хто, паводле рэдакцыі, заявіў, што не будзе чытаць «Нашу Ніву», калі газета пяройдзе на нейкі адзін шрыфт, большасць з іх, мяркуючы па ўсім, выступала за лацінку. І калі на пачатку «Наша Ніва» карысталася тэрміналогіяй «лацінскіе літары» і «рускіе літары», то падсумоўваючы дыскусію, узніклі паняцці «лацінка» і «гражданка».

Прыкладна праз паўгода галоўная беларуская газета падагульніла вынікі дыскусіі [21]. Аргументы, пададзеныя за лацінку, былі наступнымі: 1) лацінскі шрыфт выкарыстоўвае пераважная большасць «культурных народаў», і нават тыя народы, якія маюць уласны шрыфт, імкнуцца перайсці на лацінку; 2) лацінкай лепш і чысцей можна перадаць асаблівасці беларускай мовы. За кірыліцу такія: 1) «мы **бела-русы**, а не **бела-ляхі**, і наш шрыфт родны — рускі» (выдзелена ў аўтара. — *А. У.*); 2) кірыліцай пісалі ў часы Вялікага Княства Літоўскага, часы найвялікшага нацыянальнага ўздыму; 3) пры цяперашняй школьнай адукацыі кірыліцай валодае значна большая колькасць людзей чым лацінкай, газета кірыліцай мае ў два разы больш наклад; 4) лацінскія літары самі па сабе не наблізяць беларусаў да заходняй культуры, бо культуру пашырае не шрыфт, а ідэя. Такім чынам, падагульніўшы думкі чытачоў і прааналізаваўшы сітуацыю, было вырашана, што «Наша Ніва» будзе выходзіць толькі кірыліцай.

Лацінка захоўвалася яшчэ ў шэрагу выданняў, што выпускаліся «нашаніўскім» колам, а пры выданні зборніка «Маладая Беларусь» выдавецкім таварыствам «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», увогуле сцвярджалася, што «палавіна кожнага сшытка будзе друкавацца аднымі літэрамі, другая палавіна другімі. Гэтым мы думаем ясна паказаць, што справа літэр — справа толькі формы, гэта справа малаважная» [9].

Хоць справа і была названа «малаважнай», але ў канцы 1912 г. у «Kurjery Krajowym», які выдаваўся «нашаніўцамі»[1], лідары беларускага руху зноў тлумачылі сваім чытачам, што, па-першае, для беларускай мовы існуе неабходнасць выкарыстання аднаго, агульнапрызнанага шрыфту, а па-другое, што толькі кірыліца здольная задаволіць большасць беларускага грамадства [38]. Паводле рэдакцыі «Kurjera Krajowego», прыняцце адзінага шрыфту для беларускай мовы здольнае само па сабе спрыяць рэалізацыі «краёвай ідэі» праз

---

[1] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі акадэміі навук Літвы. Ф. 138. Спр. 2229. Арк. 449.

тое, што ні праваслаўныя, ні каталіцкія колы не будуць мець магчымасці ў поўнай меры спекуляваць на пытанні існавання адзінага беларускага народа.

Здавалася б, пытанне было вырашана, ці, прынамсі, «знятае» для «нашаніўцаў», але, выходзячы трохі за храналагічныя межы нашага артыкула, адзначым, што з пачаткам Першай сусветнай вайны і заняццем часткі беларускіх земляў кайзераўскім войскам гэтае пытанне зноў усплыло на паверхню. Так, 30 чэрвеня 1916 г. яго ўзняў на старонках «Homana» Антон Луцкевіч, які пісаў, што хоць «Наша Ніва» і перайшла на кірыліцу, «але гэта яшчэ зусім не разьвязала пытаньня, і ўсялякія кніжкі — як да чытаньня, так і да навукі — друкаваліся найбольш і такімі, і сякімі літэрамі» [37]. Далей ён пісаў, што ва ўмовах забароны «гражданкі» на занятых немцамі землях абвастрылася спрэчка паміж прыхільнікамі чэшскага і польскага варыянту лацінкі для беларускага правапісу. Але гэта адбываецца ва ўмовах, калі асноўнае пытанне —лацінка ці кірыліца — да канца не вырашана і яно таму «не разьвязваецца так лёгка» [37], і «трэба думаць, што забарона друку рускімі літарамі скончыцца разам з вайной, і тады пытаньне аб шрыфце прыйдзецца так ці гэтак разьвязваць. Але нават і тады яшчэ ня будзе пэўнасьці, што зроблены выбар будзе пацьверджан жыцьцём» [37]. У канцы ён прывёў прыклад Румыніі, які сведчыў, што ў плане шрыфту ўсё можа змяняцца.

Гэта паказвае, што пытанне адзінага шрыфту для беларускай мовы не было простым, больш за тое, яно было больш складаным, чым гэта бачылася напачатку. Прычына, з нашага гледзішча, палягала ў тым, што ў Беларусі рэальна існавалі дзве традыцыі. Да таго ж кірылічная традыцыя ў большай ступені тычылася старабеларускай мовы, а лацінічная — новай беларускамоўнай літаратуры XIX ст. Што ж датычыць стаўлення беларускай эліты пачатку XX ст. да гэтых традыцыяў, то тут шырэйшае вытлумачэнне даецца ў артыкуле Антона Луцкевіча, напісаным у 1925 г. [16]. Там ён пісаў, што кірыліца — спрадвечны беларускі шрыфт, а лацінка сталася «*быццам сімвалам сьмерці беларушчыны* (курсіў Антона Луцкевіча. — *А. У.*)», гэта наступствы паланізацыі беларускай эліты ў XVII—XVIII стст. Тое, што «Баршчэўскі, Рыпінскі, Чачот, а пасьля Дунін-Марцінкевіч ды Мацей Бурачок», пісалі лацінкай, тлумачылася іх “спольшчанасьцю”». Нават больш за тое — «калі ўжо ня польская шляхта, а беларускае сялянства, збудзіўшыся ад векавога сну, **пачало тварыць беларускае пісьменства**, дык, бадай, цалком у ім **запанавала кірыліца** (выдзелена Антонам Луцкевічам. — *А. У.*)» [16, с. 168]. Тамсама змешчана інфармацыя, што калі ў 1912 г. «Наша Ніва» праводзіла анкетаванне ў справе шрыфту, то «блізу аднагалосна» чытачы выказаліся за кірыліцу.

Крытыкуючы ўлады міжваеннай Польшчы за «лацінізацыю беларусаў», А. Луцкевіч зрабіў вельмі красамоўныя высновы: «*веданьне аднэй лацінкі, без кірыліцы, пазбаўляючы нас магчымасьці карыстацца літаратурай больш блізкіх нам украінцаў і расейцаў, адчыняе доступ, дый то вельмі цяжкі —*

*толькі да больш далёкай ад нас польскай літаратуры* (курсіў Антона Луцкевіча. — *А. У.*)» [16, с. 169]. Такую ж прымусовую «лацінізацыю», паводле Антона Луцкевіча, праводзілі нямецкія ўлады ў Заходняй Беларусі ў часе Першай сусветнай вайны. Урэшце, адзін з заснавальнікаў беларускага руху сцвярджаў, што ён прынцыпова не супраць існавання двух шрыфтоў, але ён супраць, калі адзін з іх навязваецца гвалтам.

З гэтага відаць, што выбар на карысць кірыліцы, зроблены ў часы «Нашай Нівы», быў глыбока асэнсаваны і з'яўляўся для кіраўнікоў беларускага руху, паводле тых звестак, што мы маем, прынцыповым. Тут важна адзначыць два моманты: па-першае, гэта арыентацыя на беларускае сялянства, якое, на думку «нашаніўцаў», на пачатку XX ст. у масе сваёй акцэптавала кірыліцу (у сярэдзіне XIX ст., паводле В. Дуніна-Марцінкевіча, сітуацыя была адваротная) [13, с. 134]; па-другое, умоўна кажучы, расійская мова і, адпаведна, літаратура, лічылася бліжэйшай беларускаму сялянству ці нават «усёй працавітай беднаце», чым польская (зноў жа ў адрозненне ад сярэдзіны XIX ст.) [13, с. 134]. У 1916 г. у артыкуле «Белорусское возрождение» Максім Багдановіч сцвярджаў, што беларуская культура «адслаілася» ад расійскай, так, як славацкая ад чэшскай, кашубская ад польскай [3, с. 324].

Калі звярнуцца да творчасці аднаго з асноўных пачынальнікаў мадэрнай беларускай ідэі Францішка Багушэвіча, то ў знакамітай «Прадмове» да «Dudki Biełaruskaj» літаратар пісаў — «спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, як і з Польшчай з'ядналася дабравольна, дык усе яе "Б я л а р у с я й» (разрадка Ф. Багушэвіча. — *А. У.*) звалі» [4, с. 22]. Такім чынам, Ф. Багушэвіч, удзельнік паўстання 1863 г., падкрэсліваў дабраахвотнасць уніі Беларусі з Польшчай.

Але не мінула і 30 гадоў, і ўжо ў Другой Устаўной Грамаце да народаў Беларусі, выдадзенай выканкамам Рады Першага Усебеларускага з'езда 9 сакавіка 1918 г., у якой было абвешчана пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі, айцы-заснавальнікі БНР сцвярджалі: «Пасьля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць» [12]. Калі ад 1918 г. адмінусаваць 350 год, то атрымаецца 1568 г. Відавочна, што калі казаць пра 350 год «няволі» ў 1918 г., то пачынаць летапіс гэтай з'явы трэба менавіта ад часу Люблінскага сойму і заснавання Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Такім чынам, можна сказаць, што Рэч Паспалітая ў Другой Устаўной Грамаце БНР фактычна прыраўноўваецца, гаворачы словамі Кастуся Каліноўскага, да «няволі маскоўскай» [14, с. 32]. Дысананс паміж пасланнем «Dudki Biełaruskaj» Францішка Багушэвіча (1891) і Другой Устаўной Граматай БНР (1918) відавочны.

Таму прычыны выбару кірыліцы ў якасці базавай графікі найноўшай беларускай літаратуры трэба шукаць у тых трох дзесяцігоддзях, якія папярэднічалі аднаўленню беларускай дзяржаўнасці. Гэта тэма ўжо іншага артыкула, адзначым толькі, што тут трэба ўлічыць і сацыялізм, які ішоў у

Беларусь пераважна з Расіі, і польскі нацыяналізм, які не даў максімальна эфектыўна выкарыстаць спадчыну Рэчы Паспалітай у ХХ ст. як палякам, так і беларусам і літоўцам.

## Высновы

Ад самага паўстання 1863 г., а можа і раней, было ясна, што лёс расійскай нацыянальнай палітыкі ў краі, а пазней і лёс беларускага руху, будзе залежаць ад вырашэння «польскага пытання». Іншымі словамі, удасца захаваць «цывілізацыю Вялікага Княства Літоўскага» ці яна будзе зліквідавана Расійскай імперыяй. Што тычыцца задач расійскай палітыкі ў дачыненні да беларускіх земляў увогуле і беларусаў у прыватнасці, то яны былі ясныя — максімальна аслабіць каталіцкі касцёл і абмежаваць выкарыстанне беларускай мовы. Фактычна ні першую, ні другую задачу імперыя выканаць не здолела.

Беларускі рух, які паводле сваёй ідэалогіі імкнуўся атаясамлівацца з гісторыяй ВКЛ, прарасійская прэса называла «польскай інтрыгай». З іншага боку, ідэолагі беларускага руху, пачынаючы ад народнікаў, бачылі беларусаў народам без эліты, што імкнуліся давесці і расійскія ўлады.

Найважнейшай справай для беларускага руху пачатку ХХ ст. з'яўляецца замацаванне кірыліцы ў якасці асноўнага шрыфту беларускай мовы. Выбар «Нашай Нівы» ў 1912 г. паўплываў на ўсю далейшую беларускую гісторыю. У ходзе дыскусіі адносна шрыфту былі агучаныя гістарычна чужародныя беларускім каталіцкім элітам ідэі пра бліжэйшасць расійскай культуры для беларусаў у параўнанні з польскай: «мы бела-русы, а не бела-ляхі». Відавочна, што напружаныя польска-беларускія стасункі таго часу пахавалі рэчпаспалітаўскую традыцыю, зрабіўшы яе няздольнай прынесці нейкую карысць ні беларусам, ні палякам.

Беларуская літаратурная крытыка і нацыянальная гістарыяграфія, якая брала свой пачатак у апісаным перыядзе, таксама не спрыяла беларуска-польскаму збліжэнню. Нягледзячы на прызнанне і беларусамі, і палякамі таго, што сучасную беларускую літаратуру пачыналі тыя, каго «Наша Ніва» называла «спольшчанай шляхтай», іх ніяк не ўдавалася ўпісаць у нацыянальны пантэон.

## Літаратура

1. А. С. Белоруссы / А. С. // Энциклопедический словарь / Изд. Ф. Брокгауза и И. Ефрона. — Т. 5. — Санкт-Петербург, 1891. — С. 232.
2. Аксаков, И. Сочинения: в VII т. / И. Аксаков. — Т. III. Польский вопрос и западнорусское дело. Еврейский вопрос. 1860–1886. Статьи из «Дня», «Москвы», «Москвича» и «Руси». — Москва, 1886.
3. Багдановіч, М. Белорусское возрождение / М. Багдановіч // Выбраныя творы. — Мінск, 1996.
4. Багушэвіч, Ф. Творы / Ф. Багушэвіч. — Мінск, 1998.

5. Белорусы. Обзор русской периодической печати. — Вып. XVII (с 1 января 1909 г. по 1 января 1912 г.). — Санкт-Петербург, 1914.
6. Бендин, А. Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи (1863–1914 гг.) / А. Бендин. — Минск, 2010.
7. В Польше. 1863 года // Вечерняя газета. — 21 января 1913 г.
8. Горизонтов, Л. Парадоксы имперской политики: Поляки в России и русские в Польше / А. Горизонтов. — Москва, 1999.
9. Да чытачоу // Маладая Беларусь. — 1912. — Сшыт. 1. — С. 8.
10. Долбилов, М. Культурная идиома возрождения России как фактор имперской политики в Северо-Западном крае в 1863–1865 гг. / М. Долбилов // Ab imperio. — 2001. — № 1–2. — С. 227–268.
11. Долбилов, М. Русский край, чужая вера: этноконфессиональная политика империи в Литве и Белоруссии при Александре II / М. Долбилов. — Москва, 2010.
12. Другая Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі / archive.is [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.radabnr.org/be/archive/2hramata.htm. — Дата доступу: 30.11.2016.
13. Забарона перакладу «Пана Тадэвуша» // Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / уклад. Г. В. Кісялёў. — 2-е выд. — Мінск, 2003.
14. Каліноўскі, К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы / К. Каліноўскі. — Мінск, 1999.
15. Кулаковский, П. Польский вопрос в прошлом и настоящем. С приложением библиографического указателя / П. Кулаковский. — Санкт-Петербург, 1907.
16. Луцкевіч, А. Справа беларускага шрыфту / А. Луцкевіч // Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва. — Мінск, 2006. — С. 167–169.
17. Матвейчык, Д. Выгнаныя з роднага краю. Паслялістападаўская эміграцыя з Беларусі і Літвы (1830–1870-я гады) / Д. Матвейчык. — Мінск, 2011.
18. Миллер, А. Русификация: классифицировать и понять / А. Миллер // Ab imperio. — 2002. — № 2. — С. 133–148.
19. М-скі, І. Які шрыфт? / І. М-скі // Наша Ніва. — 1912. — 2(15) лютага.
20. М-скі, І. Які шрыфт? / І. М-скі // Наша Ніва. — 1912. — 23(7) лютага.
21. М-скі, І. Які шрыфт? / І. М-скі // Наша Ніва. — 1912. — 10(23) траўня.
22. На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы. — Мінск, 2011.
23. Непримиримый конфликт // Вечерняя газета. — 1913 г. — 10 декабря.
24. Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников. — Минск, 1983.
25. Рэдакція. Да усіх нашых чытачоу і падпішчыкоу // Наша Ніва. — 1911. — 15(28) сьнежня.
26. Сборник статей разъясняющих польское дело по отношению к Западной России. — Выпуск I. — Вильна, 1885.
27. Скрынченко, Д. Трагедия белорусского народа / Д. Скрынченко. — Минск, 1908.
28. Смалянчук, А. «Польскае пытанне» ў беларускай гісторыі канца 18 — пачатку 20 ст. / А. Смалянчук // Гістарычны Альманах. — 2002. — Т. 7. — С. 181–186.
29. Смалянчук, А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 — люты 1917 г. / А. Смалянчук. — Санкт-Пецярбург, 2004.

30. Токць, С. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: Другая палова XIX — першая траціна XX ст. / С. Токць. — Менск, 2007.
31. Токць, С. Праблемы даследавання працэсаў фармавання сучаснай беларускай нацыі / С. Токць // Гістарычны Альманах. — 2001. — Т. 4. — С. 131–135.
32. Токць, С. Праблемы тэрміналогіі ў гістарычных даследаваннях нацыятворчых працэсаў у Беларусі / С. Токць // Гістарычны Альманах. — 2003. — Т. 9. — С. 108–112.
33. Тумаш, В. Выбраныя працы / В. Тумаш. — Менск, 2002.
34. Филевич, И. Польша и польский вопрос (Посвящается Николаю Николаевичу Страхову) / М. Филевич. — Москва, 1894.
35. Цьвікевіч, А. «Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. / А. Цьвікевіч. — Менск, 1993.
36. Щегловитов, С. Русско-польские отношения в Западном крае (В связи с вопросом о введении земства) / С. Щегловитов. — Вильно, 1910.
37. A. N. Hutarka i szryft / A. N. // Homan. — 1916. — 30 czerwienia.
38. B. N. Życie krajowe / B. N. // Kurjer Krajowy. — 1912. — 8(21) listopada.
39. Głębocki, H. Fatalna sprawa. Kwestia polska w rosyjskiej mysli politycznej (1856–1866) / H. Głębocki. — Kraków, 2000.
40. Lietuviu Klausimas Rusijos imperijoje. — Vilnius, 2001.
41. M-ski, J. Jaki šryft / J. M-ski // Naša Niwa. — 1912. — 26(8) studnia.
42. Rodkiewicz, W. Russian Nationality Policy in the Western Provinces of the Empire (1863–1905) / W. Rodkiewicz. — Lublin, 1998.
43. Romanowski, A. Pozytywizm na Litwie / A. Romanowski. — Kraków, 2003.
44. Romanowski, A. Prawdziwy koniec Rzeczypospolitej / A. Romanowski. — Kraków, 2007.
45. Staliūnas, D. Making Russians. Meaning and practice of Russification in Lithuania and Belarus after 1863 / D. Staliūnas. — New-York; Amsterdam, 2007.

# ВЯЛІКІЯ РАМАНТЫКІ РАДЗІМЫ

## ДА 220-ГОДДЗЯ ЯНА ЧАЧОТА І ТАМАША ЗАНА

**Адам Мальдзіс** *(Мінск, Беларусь)*

## ЯН ЧАЧОТ ЯК АДРАСАТ БЕЛАРУСКАГА ВЕРША АДАМА МІЦКЕВІЧА

### Беларуская фантазія

Год таму актывіст Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага Аляксей Кухта ў лісце ў рэдакцыю газеты «Голас Радзімы» папрасіў дапамогі ў пошуку кніжкі 1902 года нейкага Духіньскага, дзе павінны быць верш, напісаны, на думку А. Кухты, Янам Чачотам. Пасля праведзенага даследавання аказалася, што Францішак Генрык Духіньскі (1816–1893) — украінскі літаратар і палітычны дзеяч, які пісьмова выступаў у розных краінах Заходняй Еўропы супраць царскага самадзяржаўя, за самастойнасць «Малой Расіі». Падрыхтаваў да друку «Творы» ў некалькіх тамах. Іх другі том выйшаў ужо пасля смерці аўтара, сапраўды ў 1902 годзе, у выдавецтве Польскага нацыянальнага музея ў Раперсвілі (Швейцарыя). На старонцы 78 там сапраўды знаходзіцца «фантазія беларуская» «Калі б гэта я быў каралём». Ёй папярэднічае кароткае ўступленне: «Паколькі маларасійская мова распаўсюджана ў Польшчы (на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. — *А. М.*) больш, чым беларуская, таму публікуем фантазію, напісаную і на гэтай мове. З’яўляецца яна творам Чачота і, відавочна, друкуецца ўпершыню». І далей на той жа 78-й старонцы ёсць тэкст, які ўпершыню прыводжу тут у кірылічнай транслітарацыі:

Мусіў то я сягоння рана устаць,
Штоб табе што-нібуць сказаць;
А штоб сказаць складній і к рэчы,
Сеў я сабе каля печы.
Сеў, нагу за нагу залажыў,
Дабыў ражка й табакі зажыў;
А як мой мальчык крычаць пірастаў,
Так я сабе такую думку здумаў:
Штоб-то я на сьвеце быў каралём!

І меў бы пітнаццаць рублей грошы!
То б я табе што нядзелю вячаром
Справіў бы банкет харошый.
Ты б у мяне заліўся гарэлкай,
Ад мяса трэснуў бы табе пуп,
Масла піў бы поўнай тарэлкай
І кашу еў бы з тонкіх грэцкіх круп.
А як прышлі б твае імяніны,
Купіў бы табе мёду дзьве тарэлкі;
Купіў бы парася з скаціны
І поўную пляшку гарэлкі.
К гарэлцэ купіў бы перцу за грош,
І за тры грошы ў краме ляку;
Ад ляку быў бы там калор харош,
А перэц быў бы дзеле смаку.
І так, як наелі б ці й напілі,
Ляглі б на печы пад кажухом;
Там бы то весяло запелі,
І ты пры мне быў бы каралём!

## Прывітанне ці адказ на яго?

Пасля прачытання працытаванага вышэй твора ў мяне адразу ж зарадзіўся сумнеў: а пры чым тут беларускі і польскі паэт і фалькларыст Ян Чачот? Хутчэй за ўсё, мы бачым нейкі адказ на прывітанне.

Бяру ў рукі зборнік беларускіх твораў Яна Чачота «Наваградскі замак», складзены вядомым паэтам і перакладчыкам Кастусём Цвіркам. Пачынаецца ён вершаваным прывітаннем, адрасаваным аўтарам, які называе сябе «цівуном» і «ліцвінам» (але не жмудзінам!), Юзафу Яжоўскому, па нараджэнні «ўкраінцу», «старшыні Таварыства філаматаў», у сувязі з яго імянінамі, што адзначаюцца 7 сакавіка 1819 года. Значыць, зарадзілася думка, дзеля канспірацыі старшыню нелегальнага студэнцкага аб’яднання абіралі ў дзень яго тэзаімянінаў... Бо гэтым жа можна было б у выпадку чаго растлумачыць і збор абранай студэнцкай моладзі ў патайным месцы.

Далей у тэксце верша ёсць драматычная сцэнка. Спяваюць дзяўчаты і хлопцы. Выступаюць з дэкламацыямі «войт», «Мікіта» і «дзясятнік». Апошні тлумачыць прычыны сходу (запомнім!): «Будзем піць, скакаць, співаць і дрвіць», г. зн. высмейваць, робячы «з бяды свята».

А следам ідзе верш-прывітанне «На прыезд Адама Міцкевіча». Рэальныя прычыны прыезду госця і гасціннай сустрэчы з ім не тлумачацца. Але фармальна мэта тая ж — звычайнае застолле, а не далучэнне да нелегальнага таварыства, папярэдніка супольнасці дзекабрыстаў:

Будзем есці каўбасы,
Смачну гарылачку піць,

Песнь вазьмём на галасы
І будзем весела жыць…

Канспіратыўных сэнс паэтычных радкоў Яна Чачота адразу ж улавіў Адам Міцкевіч. І наўрад ці ён пісаў адказ на прывітанне загадзя, больш за тое: наўрад ці ён ведаў загадзя, што яно будзе гучаць менавіта на беларускай мове. Значыць, перад намі — імправізацыя, у якой Міцкевіч быў непераўзыдзеным майстрам. І наўрад ці аўтар стаў бы ўзмацняць на хаду «канспіратыўнасць» сустрэч, мэта якіх не застолле, а, як бы мы сказалі сёння, паглыбленне ведаў па народазнанню, перш за ўсё беларускаму. Больш за тое: паэтычна, вобразна мэта сустрэчы гіпербалізаваная, даведзеная амаль да абсурду — ну як можна на ўлонні прыроды, дзе звычайна праходзілі імянінныя сняты «філаматаў», улегчыся «на печы пад кажухом»!

## Развейваю сумнівы

Тэкст паслання Аляксея Кухты і копію публікацыі 1902 года Францішка Духіньскага я паказаў Кастусю Цвірку. І на сваё пытанне: «Дык гэта ўсё ж Чачот?» пачуў: «Не, амаль стапрацэнтна Міцкевіч!» Дадатковым аргументам спецыяліста з'явілася розніца ў спосабе выкладання, мастацкім стылі: Чачот больш актыўна абапіраўся на фальклор, лепш ведаў беларускую мову, у аўтару ж «Фантазіі» больш адчуваецца прафесіянал, рэаліст, ды і беларускай мовай ён, магчыма, скарыстаўся для вершаскладання ўпершыню — адсюль столькі паланізмаў і нават русізмаў (той жа «мальчык», за якім хаваецца нехта з уладаў, або «скаціна»).

Важным этапам у вызначэнні аўтарства лічу нядаўні эксперымент, калі я раздаў копіі «Фантазіі» нашым акадэмічным спецыялістам па вершаскладанні. І ўсе яны прыйшлі да высновы: гэта не Чачот. Праўда, тут жа было выказана пажаданне: добра б зірнуць на арыгінал, чый там почырк — Чачота ці Міцкевіча. І тут падумалася: хутчэй за ўсё Чачота, бо ён быў зацікаўлены ў тым, каб па гарачых слядах зафіксаваць імправізацыю свайго сябра.

Але можа быць яшчэ почырк «філаматаў» Леанарда Ходзькі, які старанна фарміраваў, перапісваючы арыгіналы, «культуралагічны» архіў беларускалітоўскіх земляў, а потым вывез яго прыкладна ў 150 папках ў Заходнюю Еўропу — спачатку ў Італію, а потым у Францыю. У Парыжы супрацоўнічаў з Міцкевічам. А пасля яго смерці, у пачатку 1860-х гадоў, перадаў свае зборы якраз у музей польскай эміграцыі ў Раперсвілі — туды ж, дзе працаваў Духіньскі. У Раперсвілі, у фондзе Леанарда Ходзькі і ў іншых зборах, можа адшукацца шмат беларускіх матэрыялаў. Але я не чуў, каб там займаўся пошукамі хто-небудзь з беларускіх даследчыкаў. Сам жа я не змагу паехаць туды па стане здароўя. Дык хто ж пяройме эстафету? А можа, шукальнікі знойдуцца ў самой Швейцарыі? Адрасую гэтую прапанову перш за ўсё Аляк-

сандру Сапегу, які ўзначальвае аб’яднанне беларусаў Швейцарыі, і актыўнай беларусістцы Моніцы Банкоўскі-Цюліг, якая працавала раней у Цюрыхскай гарадской бібліятэцы.

---

**Ірына Багдановіч** *(Мінск, Беларусь)*

## ТВОРЧАСЦЬ ТАМАША ЗАНА Ў ЛІТАРАТУРНЫМ ПРАЦЭСЕ БЕЛАРУСІ XIX СТ. І ЯЕ АКТУАЛІЗАЦЫЯ Ў СУЧАСНАСЦІ

**220-г**оддзе з дня нараджэння аднаго з самых актыўных удзельнікаў філамацкага руху «архіпрамяністага» Тамаша Зана (21.12.1796–7.07.1855), якое ўсведамляецца як урачыстая дата ў гісторыі і культуры нашай краіны, скіроўвае да паглыблення ў яго творчую спадчыну, да роздуму над ёй, ацэнкі з пазіцый сённяшняга часу. Такая ж, між іншым, урачыстая дата звязана і з імем яшчэ аднаго слыннага філамата, паэта і фальклярыста Яна Чачота (24.06.1796–23.08.1947). Разам з на два гады маладзейшым Адамам Міцкевічам яны складаюць хрэстаматыйную філамацкую пісьменніцкую «трыяду» і служаць узорам бескарыслівага высокага сяброўства, таварыскасці, сумленнасці, годнасці. Сваёй мэтаю яны зрабілі служэнне высокім ідэалам свабоды і вызваленню Айчыны. Іх творчасць супала з рамантызмам і стала рэгіянальнай формай яго выяўлення. Іх змаганне за свабоду, іх пакліканне на пошук шляхоў вызвалення роднага краю з-пад тыраніі чужынцаў зрабіла іх вязнямі і выгнанцамі, але яны засталіся вернымі свайму пакліканню да канца. Яны былі пакаленнем — першым пакаленнем, народжаным у няволі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795), першым пакаленнем змагароў, удзельнікаў тайных моладзевых таварыстваў, жорстка рэпрэсаваных царскім рэжымам, першым пакаленнем паэтаў-рамантыкаў, носьбітамі «краёвага літвінскага» патрыятызму і «культуровай» польскасці. Калі гаворка ідзе пра філаматаў як пісьменнікаў, то Тамаша Зана называюць трэцім у славутай «трыядзе». Але яго постаць не губляецца ні сярод сяброў-філаматаў, ні ў літаратурных і грамадска-культурных колах 1840–1850-х гг., прываблівае яна моцай духу, маральнай вышынёй учынкаў, яркім пісьменніцкім талентам і сучасных неабыякавых да нацыянальнай культуры людзей.

Трэба, аднак, з жалем адзначыць, што толькі невялікая частка творчай спадчыны Тамаша Зана перакладзена на беларускую мову, а таму досыць абмежаванае ўвядзенне яе ў шырокі літаратуразнаўчы кантэкст. Такое аб-

межаванне абумоўлена і адсутнасцю ў літаратурнай спадчыне Т. Зана беларускамоўных твораў, што прыводзіць толькі да эпізадычных згадак пра яго, напрыклад, на старонках сучаснага фундаментальнага выдання акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (Т. 2. Мінск, 2007). Яну Чачоту там заслужана адведзены асобны раздзел, напісаны даследчыкам літаратурнага працэсу XIX ст. Уладзімірам Мархелем. Яго ж аўтарства ў гэтым выданні і фундаментальны аглядны раздзел «Прадвеснікі Адраджэння», дзе належнае месца адведзена глыбокаму аналізу творчасці Адама Міцкевіча і іншых прадстаўнікоў філамацкага руху.

Што ж можна даведацца са старонак гэтага выдання пра Тамаша Зана? Адзначым сярод іншага важную згадку пра музычнасць Т. Зана: ён прыстасаваў да харавога спеву і паклаў на музыку два беларускамоўныя вершы Я. Чачота «Што ж мы вашэці скажам» і «Да пакіньце ж горла драць», стылізаваныя пад народную песенную абраднасць і напісаныя з нагоды імянінаў сяброў Юзафа Яжоўскага і Дыяніза Хлявінскага [2, с. 181].

Найгалоўнейшым жанравым складнікам, які ўплываў на фарміраванне рамантычнага кірунку, была, як вядома, баладная творчасць філаматаў. Балады Т. Зана мелі сваю адметнасць. Так, яго балада «Цыганка» (1822), заснаваная на некалькіх народна-песенных матывах (чаканне дзяўчынай-сіратой свайго нарачонага з вайны, плач па забітым на вайне, пахаванне закаханых у адной магіле), была нязвыклай на той момант, паколькі філаматаў як баладыстаў больш прываблівалі казачна-фантастычныя і легендарна-гістарычныя сюжэты. Гэтая балада «пашырала выяўленчыя магчымасці жанру дзякуючы творчаму выкарыстанню мастацкіх здабыткаў народнай песні» [2, с. 96]. Новым тут было адкрыццё Занам «баладнасці» ліра-эпічных народных песень, што, як піша У. Мархель, нейкі час у XIX ст. не ўсведамлялася яшчэ ні паэтамі, ні фальклярыстамі.

У кантэксце баладнай творчасці згадваюцца на старонках акадэмічнага выдання таксама балады Тамаша Зана «Бекеш» і «Свіцязь-возера». Як вядома, свае адметныя творы на гэтыя сюжэты напісалі і Ян Чачот і Адам Міцкевіч. У. Мархель акцэнтуе ўвагу на адрознасці падыходаў паэтаў-філаматаў да рамантычнай інтэрпрэтацыі адпаведных легендарных матываў, скарыстаных у гэтых баладах, падкрэслівае апавядальнасць вершаванай мовы і міфалагізацыю сюжэта ў баладзе «Бекеш» Зана [2, с. 183]; адносна балады Зана, прысвечанай апрацоўцы падання пра возера Свіцязь, даследчык адзначае «больш сціслую і дынамічную, але менш насычаную дэталямі суправаджэння падзеяў» занаўскую распрацоўку ў параўнанні з баладай Я. Чачота [2, с. 187]. Чачотаўская балада была напісана, як вядома, раней за аналагічныя творы сяброў, і варта адзначыць, што Зан услед за Чачотам распрацоўваў той самы сюжэт, Міцкевіч жа стварыў баладу «Свіцязь» з зусім іншай сюжэтнай асновай.

Яшчэ адзін архіважны момант, на якім бадай упершыню акцэнтуецца ўвага ў акадэмічным выданні, — гэта ўплыў «прамяністых» на Францішка Багушэвіча, на яго ранняе станаўленне як патрыёта. Аўтар раздзела, прысвечанага Ф. Багушэвічу, Язэп Янушкевіч піша: «Гэта ўжо тады, у гімназічныя гады, Францішак прасякнуўся духам “прамяністых”, атмасферай філаматаў-філарэтаў, што панавала ў Вільні напачатку XIX ст. і якая не знікла дашчэнту ў старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, каб і напрыканцы жыцця застацца палымяным прыхільнікам і паслядоўнікам Яна Чачота, Тамаша Зана» [2, с. 375]. Далей даследчык цытуе дзве першыя страфы польскамоўнага верша Багушэвіча «Прэч бутэлькі, люлькі, карты!..» у перакладзе К. Паўтаржыцкага:

Прэч бутэлькі, люлькі, карты!
Марна траціць час не варта.
Хай жывыя рушаць з кіем
У святы паход!

Нас не край далёкі кліча
Вывучаць чужы нам звычай,
Нас чакае ў нашым краі
Родны наш народ.

Верш быў створаны Ф. Багушэвічам напрыканцы жыцця, ён меў дакладную дату напісання: 20 ліпеня 1897 г., акалічнасці ж яго ўзнікнення былі знамянальныя. Так, у каментарах да гэтага верша ў выданні Ф. Багушэвіча «Творы» (Мінск, 1991) укладальнік Я. Янушкевіч, спасылаючыся на Антона Луцкевіча, які ўпершыню апублікаваў у свой час гэты верш, піша наступнае: «Дзеля таго, што віленская дэмакратычная моладзь, ладзячы часта экскурсіі на ўлонне прыроды, ня мела што пяяць…», быў абвешчаны «конкурс на песню, словы каторае адпавядалі бы тагачасным настроям моладзі». Багушэвіч браў удзел у конкурсе і выйшаў пераможцам — журы конкурсу выбрала менавіта ягоны верш, які гучаў «антытэзай ведамае песні з часоў Міцкевіча: “Precz, precz smutek wszelki, zapal fajki, staw butelki!..”» [1, с. 257].

Варта прывесці ў нашым артыкуле і наступныя радкі з гэтай верша-песні Багушэвіча, дзе ён менавіта піша пра працяг традыцый філаматаў у жыцці сучаснай яму моладзі, прэзентуе іх дзейнасць як узор для пераймання:

Знаць Чачота ўсе павінны,
І пра Зана дабрачыннасць,
Пра Касцюшку і Манюшку
І пра песняроў.

Рукі ім падаўшы, знаю,
Зробім болей мы для краю,

Чымся ў бойках разам стойка
Праліваўшы кроў [1, с, 107].

Падрабязна разгледзеў жыццёвы і творчы шлях Тамаша Зана яшчэ адзін руплівы даследчык літаратурнага працэсу XIX ст. і перакладчык Кастусь Цвірка. Выдадзены ім зборнік «Філаматы і філарэты» (Мінск, 1998) у серыі «Беларускі кнігазбор» стаўся ўнікальнай кнігай-помнікам дзеячам гэтых таварыстваў, адзінай на сёння грунтоўнай анталогіяй (хоць далёка не поўнай) найлепшых іх твораў у беларускіх перакладах самога ўкладальніка, дапоўненых грунтоўнымі крытыка-біяграфічнымі нарысамі. Апрача творчых постацяў А. Міцкевіча, Я. Чачота і Т. Зана ў кнізе даюцца жыццяпісы і творы Ануфрыя Петрашкевіча, Францішка Малеўскага, Міхала Рукевіча, Ігната Дамейкі, Юзафа Кавалеўскага, Аляксандра Ходзькі, Антонія Эдварда Адынца. Творчасць Тамаша Зана мае ў кнізе найбольш поўны на сёння корпус тэкстаў паэта-філамата: фрагменты паэмы «Табакерка» і дзённіка 1824–1832 гг. «З выгнання»; балады «Свіцязь-возера» і «Цыганка»; вершы «Прамова на першай маёўцы прамяністых», «Песня з турмы ў Вільні», «Трыялет», «У альбом Стафана Дамброўскага», «Выгнанец», «Мінчук»; чатыры лісты — да Адама Міцкевіча, да Ануфрыя Петрашкевіча, да калегаў, да Зосі Малеўскай. Ва ўсіх наступных хрэстаматыйных выданнях твораў XIX ст. укладання як самога К.Цвіркі, так і іншых [гл.: 3; 4; 5] творчасць Т. Зана прадстаўляюць гэтыя ж тэксты, толькі ў значна меншай іх колькасці (не перавыдаваліся лісты, балада «Цыганка», не ва ўсіх выданнях змяшчаліся ўрыўкі з дзённіка і некаторыя вершы).

К. Цвірку належыць таксама краязнаўчае эсэ «Дарогамі Тамаша Зана», дзе пісьменнік маляўніча і з глыбокім веданнем лёсу свайго героя апісвае ўласныя вандроўкі па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю Зана: ад Мясаты — месца нараджэння, да Смалянаў — месца пахавання [8]. Як стваральнік жыццяпісу філамата К. Цвірка засяроджваецца на ключавых момантах біяграфіі. Так, філамацкі перыяд быў поўны надзеямі, узнёслай творчасцю, сяброўствам і салідарным рухам моладзі, накіраваным на служэнне і адраджэнне сваёй радзімы. Тайныя таварыствы моладзі, як вядома, былі прызнаныя царскім рэжымам небяспечнымі, іх удзельнікі былі арыштаваныя і жорстка пакараныя. Справа была сенатарам Навасільцавым «раздзьмутая да бунту, змовы», як пісаў А. Міцкевіч у паэме «Дзяды». Найбольш суровы прысуд атрымаў менавіта Тамаш Зан — «“як стваральнік і кіраўнік усяго таварыства”: цэлы год крэпасці ў Арэнбургу і пасяленне там без права вяртання на радзіму» [8, с. 84]. Цвірка падкрэслівае мужнасць і высакародства Зана, якія ён праявіў на працэсе, узяўшы на сябе фактычна ўсю віну за дзейнасць таварыства, каб палегчыць становішча сваіх сяброў. Гэты эпізод знайшоў мастацкае адлюстраванне ў трэцяй частцы паэмы «Дзяды» Адама Міцкевіча, калі Тамаш Зан, адзін з яе рэальных персанажаў, агучвае свой намер перад сябрамі ў вязніцы:

Для паратунку застаецца шлях адзіны:
З нас некаторыя павінны стаць ахвярай,
Узяць адчайна на сябе усіх правіны.
Я старшынём лічыўся ў нашым згуртаваньні
І абавязаны цярпець за вас, дазваньня [6, с. 39].

*(Пераклад С. Мінскевіча)*

Аб духоўным лідарстве Тамаша Зана сярод віленскай моладзі гаворыць і яго натхнёны ліст «Да калегаў», напісаны падчас турэмнага зняволення (1823–1824). Ён падтрымлівае дух сяброў, падбадзёрвае іх у выпрабаванні, якое яны мусілі несці за ахвяру сяброўства і патрыятызму: «З самай шчырай душэўнай радасцю благаслаўляю я тыя дні, калі ўсіх нас звязала нябесным вузлом, запаліла святым агнём, асвяціла боскім духам вялікая наша дружба. У ёй, у гэтай дружбе, выхавалі мы такі характар, які ў любых, нават самых кепскіх умовах паможа нам быць задаволенымі і шчаслівымі. Мы ўсе імкнёмся служыць сваёй зямлі, але калі ў нас не будзе магчымасці прыносіць ёй карысць, мы ўсё роўна не перастанем дабівацца гэтага праз усё сваё жыццё. Гэтая дружба, якая заўсёды падахвочвала нас да ўласнага ўдасканалення, якая рабіла і робіць дасюль усіх нас па-сапраўднаму шчаслівымі, будзе і павінна і далей натхняць нас на высакародныя дзеі, мацаваць нашы сілы, памагаць нам здзяйсняць свае задумы. Такі павінен быць настрой душ і сэрцаў усіх нас, звязаных шчырай любоўю сяброў, якія сёння ў самоце, якіх адарвалі ад вольнага жыцця. Ніякі час не згасіць нашы высокія пачуцці, нашы шчырыя думы, няма такіх прастораў, якія б змаглі раздзяліць нас адзін ад аднаго, няма такой буры, якая раскідала б нашу дружбу…» [7, с. 229]. Гэты гімн сяброўству не быў пустой дэкларацыяй, ён насамрэч мацаваў дух і салідарнасць, не даваў ім зламацца ў выпрабаваннях. Гэты дух сяброўства філаматы пранеслі праз усё сваё жыццё, не здрадзіўшы ідэалам сваёй маладосці.

Са спасылкай на гісторыка Анатоля Грышкевіча згадвае аўтар эсэ і такі «ўральскі» эпізод, як удзел у змове ссыльных у 1833 г., якія рыхтавалі ўзброены напад на мясцовую ўладу з мэтаю ўцёкаў, але акцыя не ўдалася. Гэта яшчэ больш затрымала вяртанне Зана на радзіму, куды ён атрымаў дазвол вярнуцца толькі ў 1842 г. Шлюб з патрыятычна настроенай дзяўчынай, спакойнае сямейнае жыццё, клопат пра дзяцей, якіх нарадзілася трое, прынеслі суцяшэнне на апошняе дзесяцігоддзе жыцця, раней пазначанага цярпеннямі, пакутамі і ахвярай за бліжняга.

Біяграфічныя рэаліі, дзе столькі месца адведзена змаганню, грамадскай дзейнасці, не засланяюць у асобе Т. Зана пісьменніка з яркай творчай індывідуальнасцю. Зан быў сярод тых польскамоўных аўтараў, хто сваёй творчасцю пракладваў шлях літаратуры беларускай. Слушнае меркаванне выказвае К. Цвірка, што «якраз з польскамоўнымі пісьменнікамі Беларусі першай паловы

XIX ст. трэба звязваць нараджэнне новай беларускай літаратуры. Асноўная іх заслуга ў тым, што яны падрыхтавалі для яе глебу, пасеялі першае зерне нашага нацыянальнага адраджэння. Іх творчасць — гэта першапачатковы этап у гісторыі новай беларускай літаратуры, этап, без якога зусім немагчыма растлумачыць увесь працэс яе развіцця» [8, с. 86].

Невыпадкова Ф. Багушэвіч напісаў песню накшталт філаматцкага моладзевага гімна: амаль усе філаматы-паэты стварылі свае ўзоры падобных песень-маніфестаў, што пакліканы былі аб'ядноўваць моладзь, вызначаць задачы руху і духоўныя прыярытэты, на якія ён абапіраецца. Гэтыя творы падхопліваліся моладдзю, дэкламаваліся і спяваліся на маёўках, станавіліся квінтэсэнцыяй рамантычнага культу сяброўства як арганізаванай ствральнай сілы. Найвядомымі шэдэўрамі гэтага жанру былі вершы А. Міцкевіча «Песня» («Хай радасць з вачэй нашых блісне») і «Песня філарэтаў». Апошняя, як вядома, фігуравала на працэсе філаматаў як небяспечны твор, што заклікае да бунту супраць уладаў, але змест яе быў зусім іншы — гэта яднанне душаў у чыстых памкненнях усіх тых, хто кшталціць сябе ў розных навуках і гартуе сілы для будучага служэння айчыне: *«Mierz siłę na zamiary, / Nie zamiar podług sił»*. Гучаў тут і рамантычны зварот да народных каштоўнасцяў як крыніц натхнення («*Polski pijemy miod / Lepszy śpiew narodowy / I lepszy bratni ród»*). Нават у гэтым убачыўся царызму бунт моладзі, патэнцыйны бунт, бо служэнне айчыне і служэнне ўладзе маюць неаднолькавы маральна-этычны вектар.

Тамаш Зан стварыў свой праграмны маніфест падобнага кшталту. Гэта яго паэтычная «Прамова на першай маёўца прамяністых» (1820). Аўтар шырока выкарыстоўвае біблейскія алюзіі, каб надаць сапраўды высокую духоўную аснову тым праграмным палажэнням, якія ён фармулюе ў «Прамове…». Ён ставіць пытанне, што шукае моладзь, да чаго яна імкнецца ў сваім таварыстве, у сваім такім шматлікім згуртаванні на ўлонні прыроды:

Брацця, сыны, аднаверцы! Якая ж вас сіла
З цёплай пасцелі ўзняла, уначы пабудзіла?
Што за прамень залаты вас паклікаў у поле?
Што вы шукаеце тут, як сляпыя без долі?
Што, адкажыце? Але — хто шукае, той знойдзе.
Стукай — адчыняць, а той, хто ідзе, той і дойдзе! [7, с. 216]

*(Пераклад К. Цвіркі)*

Паэт вызначае тры рэчы, якіх «шукаюць» прамяністыя, — гэта «забавы, навукі і цноты». Пошук «забавы» звязваецца аўтарам са станам унутранай духоўнай радасці, распагоджанасці настрою, бо чалавеку, які не рады самому сабе, цяжка радавацца іншаму. У гэтай духоўнай радасці, якой можна з кімсьці падзяліцца, ёсць таксама сіла ўнутранага духоўнага супрацьстаяння выклікам «неласкавага часу»:

Хто весялосці ні зерня ў душы не пасее,
Хто ані ў кога з нас светлага ўбачыць не ўмее…
Не разумее, як быць у наш час неласкавы.
Што ж за карысць нам усім во ад гэткай забавы? [7, с. 217]

Далей аўтар разважае пра «навуку», пра тое, як можна *«пазнаць чалавека, яго прызначэнне, / Долю яго, думак лёт, да высотаў памкненне, / Ну, а яшчэ — як народы жылі ў сваім часе…»*. Найпершай задачай тут ён лічыць пазнанне таго, як жылі продкі: якія былі ў іх турботы, якія яны насілі «вусы і боты», «шаблі і шапкі», ён пералічае прозвішчы герояў і дзеячаў мінулага, якія вызначыліся сваім служэннем айчыне і ўславілі родны край (Чарнецкі, Карпінскі, Трамбецкі ды іншыя). *«Гэта ўсё скарбы, ад продкаў набытак выдатны, / Што для забаў прамяністых аж надта прыдатны»*, — падводзіць рысу сваіх разважанняў аб вартасці «навукі» аўтар. Духоўнае станаўленне моладзі немагчыма таксама без «цноты» — маральнай чысціні ў паводзінах і адносінах, шчырасці ў пачуццях: «Без дабрадзейнасці, цноты — няма пашаноты!».

Т. Зан стварае калектыўны партрэт — вобраз моладзі свайго краю, аб'яднанай высокімі памкненнямі духу, «прамяністасцю» сэрцаў; гэтая моладзь выйдзе на ахвярны шлях служэння айчыне і бліжняму, а не стане на шлях выгады, пыхлівасці і пагарды, ляноты і хцівасці, на шлях тых, хто «бачыць заслугу ў хлусні, ашуканстве». Зан малюе вобраз моладзі, якой будзе даручана адрадзіць родны край, а яна, выхаваная ў «прамяністым» духу, здольная будзе да такой звышзадачы, да самаахвярнасці на гэтым шляху. Таму ў сваім вершы аўтар суадносіць еднасць у сяброўстве з велічным дарам Нябёсаў, што робіць чалавека «прыгожым, шчаслівым». У гэтым яму бачыцца сутнасць «прамяністасці» прамяністых:

Еднасць тут сэрцаў сяброўскіх. Нас чуюць нябёсы!
Ясны прамень! Ты, што кінуты ў сэрца звысоку,
Што цэлы свет наш злучаеш, адкрыты для зроку.
Што ўсю зямлю ажыўляеш, каханне тут родзіш,
Гоніш распусту і хцівасць, жыццё нам салодзіш,
Што, азараючы душы святлом зіхатлівым,
Робіш няўзнак чалавека прыгожым, шчаслівым,
Будзь блаславёны!.. Літоўскага хлопца да сонца
Ты падымаеш, яго, свайго краю ўлюбёнца,
Клічаш вучыцца… [7, с. 217–218]

Такім чынам, «уся сутнасць прамення», «усе яго ясноты» бачацца аўтару гэтай палымянай «Прамовы…» ў трох вызначальных рэчах: «забавы, навукі і цноты». Што ж трэба для таго, каб пазнаць «светлую мэту»? Для гэтага ёсць не толькі вочы і вушы, але сэрца і душа, а таму дзейсная праграма, якую прапануе напрыканцы Т. Зан, гучыць наступным чынам:

Дайце спачыць языку, думцы ж — вольную волю,
Лоб і рука — для айчыны: хай вернуць ёй долю.
Потым прыязна далоні падасць хай брат брату…
Мець балдахін яшчэ трэба — для цела, для спрату…
Менш балбатаць, больш рабіць — вам парада такая [7, с. 218].

Падобная творчасць Т. Зана знаходзіла шчыры водклік у душах сяброў: за ім ішлі, да яго прыслухоўваліся, яго паважалі і бралі за ўзор для пераймання. Паэтычным водгукам на «Прамову…» Зана можна лічыць верш аднаго з сяброў-філаматаў Міхала Рукевіча «Хай звіняць аб чашу чашы…», прачытаны ім 29 мая 1821 г. на ўрачыстасці, прысвечанай Тамашу Зану. Па форме гэта таксама была нібыта «застольная песенька», жартаўлівая, напоўненая весялосцю. Але ж наколькі больш глыбокім быў яе змест! Усім гэтым зместам М. Рукевіч нібыта паказваў, як рэалізуюцца на практыцы задачы, пастаўленыя перад моладдзю Занам год таму назад, — «забавы, навукі і цноты». Так, трэба тут, пры чары, гуртам весяліцца, паколькі *«не хадзіў наш продак хмуры, / шчырасць скрозь была ў цане»*, — піша аўтар, згадваючы пры гэтым імёны Жыгімонта і Баторыя. Апісваючы гульні-забавы філарэтаў, выказваючы пачуццё роднасці з усімі сябрамі «ў радасці», аўтар заклікае «братоў» спыніцца і ўспомніць «між весялосці», хто гэтую радасць ім даў:

Стой, браты! Між весялосці
Помні, хто яе нам даў,
Хто ўсіх нас — згадай і ў тосце —
У адну сям’ю з’яднаў.

Братніх сэрцаў нашых слова
Разам выкажам услых:
Хай жа імя Тамашова
Будзе прыкладам для ўсіх! <…>

А тыран, што злосцю п’яны
(На яго жах паглядзець),
Што гняце свой люд падданы,
Хіба ж будзе шчасце мець? <…>

А спазнае шчасце гэта
Той, хто ў працы і ў гульбе
Возьме прыклад з філарэта
Назаўсёды для сябе! <…>

Дык калі паклічуць трубы
Нас у сонечны прасцяг,
Дружна ўздымем вальналюбы
Мы з Пагоняю наш сцяг! [7, с. 276–277]

*(Пераклад К. Цвіркі)*

Амаль дваццаць гадоў доўжылася выгнанніцтва Тамаша Зана, пазбаўленага магчымасці вярнуцца на радзіму нават пасля адбыцця афіцыйнага тэрміну высылкі. І ўсё ж ён вярнуўся, пасуровелы, але не зламаны, авеяны легендамі і славай між даўніх сяброў і новага пакалення, што паспела вырасці на радзіме за час яго выгнання. У ім бачылі героя і носьбіта тых нястрачаных ідэалаў, якія ён накрэсліў яшчэ ў часы філамацкай маладосці. Адно з найцікавейшых сведчанняў таго, як сустракалі Зана, прымалі яго з гасціннасцю і пашанай у сваіх дамах, захавалася ва ўспамінах выбітнай літаратаркі нашага краю сярэдзіны XIX ст. Габрыэлі з Гюнтэраў Пузыні «У Вільні і літоўскіх дварах», для пакалення якой Зан і філаматы ўжо былі прыгожай легендай, але ўсё яшчэ жывой і дзейснай. Яе запісы з 1842 г. сведчаць: «Тамаш Зан застаўся ў нас на рэшту зімы, на ўвесь пост. Ягоныя апавяданні аб жыцці на выгнанні запаўнялі нам усе вечары, дні ж ён праводзіў у полі, паколькі яму, прывыкшаму да прастораў на працягу многіх гадоў, душна было пад дахам, душна навах у садзе, і толькі ў адкрытым полі свабодна дыхаў…» [9, s. 316]. Габрыэля ў гонар Т. Зана напісала таксама 18 студзеня 1842 г. прывітальны верш-кантату, які быў пакладзены на музыку і выкананы для госця ў Дабраўлянах. Верш быў напісаны ў форме пытанняў і адказаў, у ходзе якіх высвятляліся ўсе дабрачыннасці і заслугі адрасата, а таксама прасочваўся ягоны лёс: кіраўніцтва філамацкім рухам, выгнанне як пакаранне за гэтую дзейнасць, вяртанне на радзіму, узнёслыя адносіны да жанчын, вернасць свайму пакліканню да хрысціянскага служэння бліжняму. У пяці куплетах-строфах паслядоўна раскрываецца аблічча Зана і гучыць яму заслужаная хвала:

Хто бесклапотнасць пары дзіцячай
Мог учыніць для іншых узорам?
Хто маладыя сэрцы гарачыя
Вёў за сабой да вышынь, да зорак?

Хор: Прыкладны Містру! Славім цябе!

Хто за парывы чыстыя сэрца
Не ўзнагароду меў — пакаранне,
Мусіў паехаць, як паняверца,
У край далёкі на занядбанне?!

Хор: Бедны выгнанец! Славім цябе!

Хто прад судом не меўшы правіны,
Зноў вярнуўся да родных парогаў?
Літва сустрэла шчаслівa сына,
Вучоны свет — брата дарагога!

Хор: О, светы Мужу! Славім цябе!

Хто ж ідэал жанчыны стварае
Спеўнае ліры чароўным граннем,
А тых, хто чуе, спеў навучае
Любіць высока і жыць каханнем?

Хор: Чулы Паэце! Славім цябе!

Хто, пераж<br>ыўшы зманы ды страты,
Сэрца сваё збярог ад здранцвення?
Хто ў непрыяцелю бачыць брата
І за Хрыстом ідзе да збаўлення?

Хор: Чыстае Сэрца! Славім цябе!

*(Пераклад Ірыны Багдановіч)*

Гэтым вершам можна было б і падвесці рысу пад нашымі разважаннямі вакол творчай постаці Тамаша Зана, паколькі ў ім дакладна сфармуляваны найважнейшыя характарыстыкі яго асобы, вызначана яго роля ў грамадска-культурным кантэксце таго часу. Зробім, аднак, яшчэ адну заўвагу: верш Г. Пузыні быў выкраслены цэнзурай з падрыхтаванага ёй да друку ў 1858 г. найбольш поўнага збору сваіх вершаў. Зборнік выйшаў у 1859 г. без гэтага і некаторых іншых твораў. Постаць Зана, якога ўжо на той час не было сярод жывых, нават у прысвечаным яму вершы здавалася небяспечнай для царскага рэжыму.

Значэнне асобы Тамаша Зана і яго творчасці ў сённяшнім дні набывае ўсё большае значэнне. Ён быў змагаром супраць тыраніі, будзіцелем грамадскага духу, верным да канца пастаўленым мэтам і ідэалам; быў паэтам, адзначаным Боскім дарам натхнення, стварыўшым заснаваныя на народных традыцыях арыгінальныя сваім майстэрствам узоры высокай літаратуры. Ён і яго пакаленне былі першымі, хто абвясціў змаганне і ў жыцці і ў творчасці супраць любога гвалту і прымусу, змаганне за свабоду, незалежнасць і правы свайго народа на самастойны гістарычны шлях. У падобным рыцарстве духу — веліч нашых продкаў, іх маральны і эстэтычны запавет.

## Літаратура


1. Багушэвіч Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч; уклад., прадм. Я. Янушкевіча; камент. У. Содаля, Я. Янушкевіча. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. — 309 с.
2. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. У 2 т. Т. 2. Новая літаратура: другая палова XVIII — XIX стагоддзе. — Мінск: Беларуская навука, 2007. — 582 с.
3. Літаратура Беларусі: Першая палова XIX стагоддзя: хрэстаматыя / уклад., аўт. прадм., біягр. даведак і камент. К. А. Цвірка. — Мінск: Беларуская навука, 2000. — 572 с.

4. Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: анталогія / уклад.: К.А.Цвірка, І. С. Шпакоўскі, К. У. Антановіч, навук. рэд. А. В. Мальдзіс. — Мінск: Беларус. навука, 2013. — 862 с.
5. Літаратура першай паловы XIX стагоддзя / уклад. і камент. М. В. Хаўстовіча; навук. рэд. С. Л. Гаранін. — Мінск: Маст. літ., 2012. — 1086 с. — (Залатая калекцыя беларускай літаратуры; т. 3).
6. Міцкевіч А. Дзяды: у 2-х т. / А. Міцкевіч. — Мінск: Медысонт, 1999. Т. 2 /агул. рэд. І. Кур'ян; пер. на бел. мову С. Мінскевіч; камент З. Стэфаноўска, С. Мінскевіч. — 480 с.
7. Філаматы і філарэты: зборнік / уклад., пер. польскамоўных твораў, прадм., біягр. даведкі пра аўтараў і камент. К. Цвіркі. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. — 400 с.
8. Цвірка К. Дарогамі Тамаша Зана / К. Цвірка // Камяні тых сядзібаў / К. Цвірка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2004. — С. 82–125.
9. Puzynina G. W Wilnie i w dworach litewskich: Pamiętnik z lat 1815–1843 / G. Puzynina. — Wilno: Nakładem i drukiem Józefa Zawadskiego, 1828. — 390 s.

# ЗМЕСТ

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА, ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ



## ВЯЛІКІЯ РАМАНТЫКІ РАДЗІМЫ

**Беларуска-польскія** моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі :
Б43 У гонар прафесара Эльжбеты Смулковай : зб. арт. / пад рэд. І. Э. Багдановіч, М. І. Свістуновай. — Мінск : БДУ, 2016. — 336 с. : [8] с. іл. — (Беларусіка = Albaruthenica; Кн. 37).

ISBN 978-985-7119-17-2.??

Зборнік прысвечаны актуальным праблемам польска-беларускага ўзаемадзеяння ў галіне моўных, літаратурных, гістарычных і культурных сувязей. Яго складаюць артыкулы і матэрыялы круглага стала, заслуханыя ў якасці навуковых дакладаў і выступленняў на Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі», праведзенай Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў у гонар прафесара Эльжбеты Смулковай 23–24 чэрвеня 2016 г. у Мінску.

Зборнік разлічаны на беларускіх і польскіх навукоўцаў-гуманітарыяў, беларусістаў і славістаў іншых замежных краін, усіх зацікаўленых праблемамі культурнага пагранічча і культурнага дыялогу паміж беларускім і польскім народамі ў гісторыі і сучаснасці.

**УДК 008(476+438)(082)**
**ББК 74(4Беи)**

*Навукова-папулярнае выданне*

**Беларусіка = Albaruthenica**
**Кніга 37**

**БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ МОЎНЫЯ, ЛІТАРАТУРНЫЯ, ГІСТАРЫЧНЫЯ І КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ**

**У гонар прафесара Эльжбеты Смулковай**

*Зборнік артыкулаў*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактары *Ірына Багдановіч, Марына Свістунова*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 24.11.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 19,6 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 20,27.
Наклад 150 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.